АКАДЭМІЯ НАВУК БССР
ІНСТЫТУТ МОВАЗНАЎСТВА ІМЯ ЯКУБА КОЛАСА

# НАРОДНАЕ СЛОВА



*Пад рэдакцыяй*
*кандыдата філалагічных навук*
*А. Я. Баханькова*

МІНСК
ВЫДАВЕЦТВА «НАВУКА І ТЭХНІКА»
1976

## АД РЭДАКТАРА

З пашырэннем функцый літаратурнай мовы ў перыяд развітога сацыялістычнага грамадства няспынна звужаецца сфера бытавання народных гаворак, нівеліруюцца іх мясцовыя моўныя асаблівасці. Выходзіць з актыўнага ўжытку і аддаецца забыццю дыялектная лексіка — гэта неацэнная крыніца навуковага пазнання, якая адлюстравала ў сабе векавыя самабытныя асаблівасці матэрыяльнай і духоўнай культуры народа. Зусім натуральна, што збор і апісанне гэтай лексікі ўспрымаюцца зараз як адна з самых важных і неадкладных задач мовазнаўства, выкананне якой нельга ўявіць без удзелу шырокіх колаў лінгвістычнай грамадскасці. Для беларускага мовазнаўства гэта работа мае асаблівы сэнс, паколькі лексічныя багацці беларускай народнай мовы да цяперашняга часу па розных прычынах вывучаны і зафіксаваны ў слоўніках яшчэ далёка не поўна.

Кніжка «Народнае слова» з'явілася вынікам збіральніцкай дзейнасці беларускіх моваведаў за апошнія гады. У ёй змешчаны лексікаграфічныя артыкулы, напісаныя пераважна на новым, раней не публікаваным лексічным матэрыяле, сабраным аўтарамі ў розных кутках рэспублікі.

Разглядаецца матэрыял у трох аспектах. Адпаведна гэтаму ў зборніку выдзяляюцца тры раздзелы. Асноўнае месца займаюць артыкулы, у якіх дадзены падборкі мясцовых слоў, цікавых у адносінах семантыкі, формаўтварэння, лексічнай спалучальнасці і характэрных толькі для дадзенай гаворкі. Некалькі артыкулаў прысвечана апісанню канкрэтных прадметна-тэматычных груп лексікі — мясцовых назваў адзення і абутку, ежы і прадуктаў харчавання, а таксама тэрміналогіі такіх тра-

дыцыйных заняткаў і промыслаў, як ткацтва, пчалярства, сплаў лесу і будаўніцтва. Два артыкулы прысвечаны практыцы складання дыялектных слоўнікаў.

Кожны артыкул, як правіла, заключае ў сабе неабходныя звесткі пра гаворку, у якой рабіліся запісы, каментарый аб прынцыпе адбору матэрыялу і падборку слоў, афармленую ў выглядзе слоўнічка, дзе даецца граматычная, акцэнталагічная і семантычная характарыстыка кожнага слова, ілюструюцца ў неабходных выпадках асаблівасці яго ўжывання ў звязнай мове.

Рэестравыя словы і ілюстрацыі да іх пададзены (за выключэннем асобных спецыфічных артыкулаў) у фанетычным запісе графічнымі сродкамі сучаснага беларускага пісьма. Для абазначэння рэдукаванага галоснага няпэўнай якасці дадаткова ўведзен знак *ъ*; знак *ь* абазначае мяккасць папярэдняга зычнага і раздзельнае вымаўленне зычнага з наступным ётавым галосным. Выбухны зычны *г* абазначаецца знакам **г**. Не атрымалі спецыяльнага графічнага абазначэння закрытыя галосныя *о*, *е*, якія адзначаюцца пад націскам у дыялектнай мове на поўдні Беларусі. Яны перадаюцца літарамі *о, ё, е, э,* як і звычайныя галосныя *о, е.*

Рэестравыя словы ў артыкулах размешчаны ў алфавітным парадку, аднак відавыя пары дзеяслова і аднакарэнныя словаўтваральныя дублеты, як правіла, змяшчаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле. У некаторых падборках не выносяцца ў самастойны артыкул, а даюцца пад апорным, граматычна галоўным словам і складаныя тэрміналагічныя назвы, напрыклад «бульбіная каша» — пад «каша», «атаграваная малако» — пад «малако» і інш. Таму для зручнасці адшукання любога патрэбнага слова ў канцы кнігі змешчан агульны індэкс.

Пры характарыстыцы слоў аўтары карысталіся цэлай сістэмай граматычных, стылістычных і іншых памет. Агульнапрынятыя ў кнізе скарачэнні гэтых памет пададзены алфавітным спісам. Дадатковыя ж спецыяльныя скарачэнні ў матэрыялах розных аўтараў раскрываюцца асобна ў кожным артыкуле.

Хочацца думаць, што новыя лексічныя матэрыялы, змешчаныя ў кнізе, будуць мець пэўнае навуковае і практычнае значэнне. Яны дапамогуць не толькі выявіць новыя народныя словы і ўвесці іх у шырокі ўжытак, але

і «пераатэставаць» ужо зарэгістраваныя ў слоўніках. Пры гэтым адны з дыялектных слоў як сведкі даўніны глыбокай несумненна прыцягнуць увагу гісторыкаў і этнографаў, другія будуць выкарыстаны пісьменнікамі ў літаратурных палотнах пры стварэнні мастацкіх вобразаў, каларыту мясцовасці або эпохі, трэція стануць аб'ектам этымалагічных, словаўтваральных і іншых даследаванняў для лінгвістаў, а ўсе разам узятыя яны з'явяцца састаўной часткай поўнага агульнабеларускага дыялектнага слоўніка, выданне якога плануецца на не вельмі аддаленую будучыню.

## СПІС СКАРАЧЭННЯЎ

*абразл.*— абразлівае
*адз.*— адзіночны лік
*асудж.*— асуджальнае
*безас.*— безасабовы дзеяслоў
*в.*— вёска
*выкл.*— выклічнік
*груб.*— грубае
*грэбл.*— грэблівае
*дзеепрым.*— дзеепрыметнік
*дыял.*— дыялектнае
*ж.*— жаночы род
*жарт.*— жартоўнае
*займ.*— займеннік
*зак.*— закончанае трыванне
*зборн.*— зборны
*звыч.*— звычайна
*злуч.*— злучнік
*зневаж.*— зневажальнае
*зніж.*— зніжанае
*іран.*— іранічнае
*ласк.*— ласкальнае
*лаянк.*— лаянкавае
*ліч.*— лічэбнік
*м.*— мужчынскі род
*м.* і *ж.*— агульны род
*мн.*— множны лік
*н.*— ніякі род
*неадабр.*— неадабральнае
*незак.*— незакончанае трыванне
*пабочн.*— пабочнае слова
*пагардл.*— пагардлівае
*памянш.*— памяншальнае
*перан.*— пераноснае значэнне
*прым.*— прыметнік
*прыназ.*— прыназоўнік
*прысл.*— прыслоўе
*Р.*— родны склон
*рэдк.*— рэдкаўжывальнае
*у знач.*— у значэнні
*уніж.*— уніжальнае
*часц.*— часціца

# ДЫФЕРЭНЦЫЯЛЬНАЯ ЛЕКСІКА

*Г. М. Аляксейчык*

## З ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКІ ВЁСКІ МАЛЫЯ ВЕРАБ'ЕВІЧЫ НАВАГРУДСКАГА РАЁНА

Вёска Малыя Вераб'евічы (мясцовыя жыхары вымаўляюць Гараб'евічы, Гарабевічы) размешчана за 15 км ад Навагрудка каля шашы на Любчу. Побач, за нешырокім каналам, — Вялікія Вераб'евічы. Старыя людзі кажуць, што іх вёска заснавана ў XVIII ст. і ўпамінаецца ў даўнейшых кнігах пад назвай Малыя Верабейкі. Навакол вёскі няма ні лясоў, ні рэк, ні азёр, адны палі, таму жыхары вёскі называюць сябе палянамі. Яны спрадвеку займаліся земляробствам і не ведалі амаль ніякіх рамёстваў. З гэтай прычыны ў мясцовай гаворцы пераважае сельскагаспадарчая і прадметна-бытавая лексіка.

АБАДНЯ', АБВАДНЯ' *ж.* Тонкая вяроўка, якой прыціскаюць сена на возе. *Абадня — гэта танчэйшая вяроўка, якой абводзяць вос, каб не растрасáласё сéно.*

АБЁРДНІЦЫ *мн.* Дошчачкі для замацавання трысцінак у бёрдзе.

АБЛАВУ'ХА *ж.* Мехавая круглая мужчынская шапка. *Трэба аблавуху добрую купіць, а то галава баліць.*

АБЛЕ'ІЦЬ *зак.* Палажыць леі на штаны. *Дóбро п было аблеіць штанэ, а то зусім падраліся.*

АДЫ'МАЧ *м.* Ануча, якой бяруць гаршкі, чыгуны з печы. *Адымачы брудныя і ў дзірках, выкіну і ўсё.*

АПАТНЕ'ЦЬ *зак.* Запацець. *Вокны зусім апатнелі.*

АШУ'РАК *м.* Падгарэлы хлеб. *Распанеў ты, браток, ашурка не з'еў.*

БА'ЙДАЛО *м.* і *ж. асудж.* Балбатун, выдумшчык. *Як ехздзіў я ў Асташын, такі байдало папáўсё — усім надакучыў.*

БАРЭ'ЛКО *м. пагардл.* Таўстун. *На яе мужыка кажуць барэлко, бо ён вельмі тоўсты, аж брытко глядзець.*

БЕЗЗАБО'ТНІЦА *ж. асудж.* Гультайка. *Беззаботніца ты, усё Васіль робіць у хаце, а ты дзе?*

БЕЛЯКЕ' *мн.* Шампіньёны. *Не люблю я нешта белякоў; на іх яшчэ кажуць падбе́льнікі.*

БЕРАЖА'НКА *ж.* Берагавая ластаўка. *Не бачыла я ніколі беражанкі.*

БІРУ'ЛЬКА *ж.* Прадаўгаваты драўляны гузік. *Даўней бірулькі мы самі рабілі, а зараз у мага́зіне купляем.*

БРО'ІЦЬ *незак.* Трызніць, губляць памяць. *Калі бацька хварэў, цэлу ноч броіў.*

БРЫ'НДА *ж. асудж.* 1. Жанчына, якая ходзіць па вёсцы без патрэбы. *Во, пайшла гэта брында зноў.* 2. Усякая неахайная жанчына. *У гэтай брынды ў хаце павуцінё вісіць.*

БУБНА'Ч *м.* Бурклівы, сярдзіты чалавек. *Дзе гэ́то падзе́ўсё мой бубнач? Хоць і бубніць мно́го, але не хапая яго.*

БУРМАКЕ' *мн.* Вілкі з густымі, на канцах тупымі зубамі для насыпання бульбы. *На канцох бурмакоў булавачкі, каб не праткнуць бульбу.*

БУТАЛЬКО'ВЫ *прым.* Цёмна-зялёны (пра колер). *Купіла сукенку бутальковага колеру.*

БУ'ТКА *ж.* Падняты каўнер у паліто. *Зрабі бутку, а то вецяр шыю скруціць.*

БУ'ХТА *ж.* Вір, падводная яма. *На Нёмне лёхко ўтапіцца, там столькі бухтаў.*

БЫКЕ' *мн.* Чорныя парэчкі. *Пакінула я быке на варэ́нё.*

БЯЗЬЛЮ'ДНІК *м. асудж.* Ваўкаваты чалавек, які пазбягае людзей. *Усё жыццё ён быў бязьлюднікам.*

ВАЙДАВА'ЦЬ *незак.* Выдумляць, нагаворваць на чалавека абы-што. *Любіць ён вайдаваць, такога нагаворыць на чалавека, што потым і не разьбярэш.*

ВАШАВА'ТКА *ж.* Тое, што і *аблавуха. Раней вашаваткі насілі, самая мода была.*

ВЕЧАРКАВА'ЦЬ *незак.* Не свяціць (пра месяц). *Калі месяц вечаркуя, значыць, цёмно, месяц з вечара не сьвеціць, а з ночы сьвеціць.*

ВО'ДЛІШ *м.* Адліга. *Што гэ́то зіма якая — водліш і водліш.*

ВУГНА'Ч *м.* Тое, што і *бубнач. Ну і вугнач у цябе стары. — Но ле, вельмі вугнівы.*

ВУГНІ'ВЫ *прым.* Бурклівы. *Ён змалку ў мяне вугнівы.*

ВУСЭ' *мн.* Прыстасаванне з трох жэрдак у выглядзе трохвугольніка, якое кладзецца на воз. *У вусэ больш сена лезя.*

ВЫДЗІРА'ЦЬ *незак.* Абзываць каго-небудзь непрыстойна. *Чаму ён на мяне выдзірая?*

ВЫ'МАКЛІНА *ж.* Мокрая лапіна на лузе, на полі, у лесе. *Не хадзі далей, абыйдзі вымакліну.*

ВЫ'НАСАК *м.* Ахапак сухога лёну, вынесены з сушні за адзін раз. *Тут ільну на сем вынаскаў хопіць.*

ВЫЧЫНЯ'ЦЬ *незак.* Плакаць, прыгаворваючы. *Не люблю вельмі, калі яна вычыняя.*

ВЯРТО'К *м.* Вяроўка ці скручаны дубец, якім прымацоўваецца аглобля да саней; заварацень. *Скрўцімо з дубінкі вярток?*

ВЯРЧА'НКА *ж.* Коўдра, вытканая з рыззя. *Усе трапкі пазьбірала і вярчанку зрабіла — дужа сусеццы падабалася.*

ГАЛЯШО'ЎКІ *мн.* Нізкія гумовыя туфлі. *Раней галяшоўкі часьцей насілі, такія прыгожанькія туфялькі-галяшовачкі.*

ГАНЧА'РКА *ж.* Гліняная міска. *Пайду ў магáзін новую ганчарку купляць.*

ГАРУ'ДА *м.* і *ж.* Гаротнік, гаротніца. *Мая мацi — такая гаруда, пяцёро нас адна выгадавала.*

ГНЁНІКІ *мн.* Гнутыя палазы.

ГО'ПА *ж. асудж.* Тоўстая непаваротлівая жанчына нізкага росту. *Што гэта за баба: і тоўстая і малая, адным словам гопа.*

ГРАДАВІ'К *м.* Серада велікоднага тыдня. *У градавік нічога нельга рабіць, толькі грады, інакш грэх будзя.*

ГРУМАДА' *ж.* Чарада птушак. *Бач, грумада паляцела, восені ўжо канец.*

ГРЭ'БЯНЬ *м.* Пасма травы, прапушчаная пры касьбе. *Грэбянёў пакідалі — касцэ́ називаюцца.*

ДАЖДЖАВІ'К *м.* Дажджавы чарвяк. *Глядзіцё, колькі дажджавікоў накапаў. Вунь, яшчэ адзін дажджавік лезя.*

ДАЖДЖАВІКЕ' *мн.* Высокія боты, якія адзяюцца на туфлі. *Ад гэтых дажджавікоў нават ногі сапрэлі.*

ДАКУ'ЧНІК *м. пагардл.* Чалавек, які надакучае. *Ізноў гэты дакучнік прыйшоў.*

ДАЛІКА'ТАР *м.* Вельмі далікатны чалавек. *Вы ш такі далікатар, з Мінску прыехалі.*

ДАМАТКА'Н *м.* Даматканы пінжак ці халат. *Даматканы цяпер не носяць, гэто ўсё даўнішае.*

ДАРАЖЫНЯ' *ж.* Дарагоўля. *Якая ў Гродне на базары даражыня!*

ДАЯ'ДЛЫ *прым.* Назойлівы, надакучлівы. *Да самай ночы сядзеў гэты даядлы Паўлюк.*

ДВАРЫ'СКО *н.* Дварышча. *Ідзі індыкаў прагані, усё дварыско заляпалі.*

ДЗЯЛЯ'НКА *ж.* Костка з мясам або кавалак свінога мяса. *Кінь дзялянку якую ў гаршчок — хай варыцца.*

ДУБА'С *м. пагард.* Тупы чалавек. *Які ш ты дубас!*

ДУ'НДА *ж.* Самаробная соска. *У лапінку заварочваюць хлеп с сахарам, вось і дунда. На дунду, сасі!*

ДУША' *ж.* Унутраны паветраны мяшок у рыбы. *А як жа рыба без душы? Яна падымацца не зможа.*

ДЫХАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Прыемна пахнуць. *Як кветкі мае дыхацяць, га?* 2. Цяжка дыхаць (пра каня). *Конь дыхаціць, нагнâў дыхаўку.*

ДЫХЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Падымацца (пра балота). *Трасўха дыхціць.* 2. Падымацца (пра дошкі ў падлозе). *Амаль усе дошкі дыхцяць — трэба падлогу перакладаць.*

ЖВІНДА *м.* і *ж. асудж.* Чалавек, які бурчыць і ные. *Жвінда ты, а не чалавек!*

ЖВЫРО'ЎНЯ *ж.* Месца, дзе бяруць жвір ці жарству. *У нас жвыроўня недалёко ад вёскі, мы аттуль жвыр вазілі.*

ЗАБРЫНДО'ХА *ж. асудж.* Неахайная жанчына. *Вунь забрындоха пайшла, ніколі ў лазьню не сходзіць.*

ЗАВАЛЮ'ГА, ЗАВАЛЯ'КА *м.* і *ж. асудж.* Гультай, лодыр. *Завалюга ты, толькі п спаць табе! Такі заваляка мне папáўсё — трэба ўсё самой рабіць.*

ЗАВЯРЭ'ДЗІЦЬ, УВЯРЭ'ДЗІЦЬ *зак.* Пашкодзіць, натрудзіць руку. *Калі цяшко робіш якую работу і ўвярэдзіў руку, баліць, так і гавораць у нас: завярэдзіў, увярэдзіў руку.*

ЗА'ГА *ж.* Пякотка. *Натта пячэ зага.*

ЗАГНЁТ *м.* Скарынка на хлебе, калі ён толькі падрумяніцца. *Калі ў печ садзяць хлеп, на ім хўтко робіцца скарынка, кажуць: заняўсё загнёт ці добры на хлебе загнёт.*

ЗАЖА'ЦЬ *зак.* Пашкодзіць, натрудзіць руку ў час жніва. *Учора руку зажала, сярпом жнучы.*

ЗАКУ'ТНІК *м. асудж.* Чалавек, які мала выходзіць з хаты; сугней. *Ён у нас гот жыве, гэты закутнік, ніколі на вуліцу не выйдзя.*

ЗАЛЕ'ГЛІЦА *ж.* Аблога.

ЗБРО'ЙНАЯ *прым.* Бадлівая (пра карову). *Наша Вішня вельмі збройная карова, прыдзецца прадаваць.*

ЗБЭ'РСАЦЦА *зак.* Пераблытацца, паблытацца (пра ніткі). *Ніткі збэрсаліся, нічога не зробіш з іх цяпер.*

ЗВАР'Я'ЛЫ *прым.* Дурны, тупы. *Калі бабы сварацца, яны кажуць адна на адну — звар'ялая.*

ЗЬБЯГЛЕ'Ц *м.* Уцякач. *Дзе падзеўсё мой зьбяглец? Ужо пара сьнедаць.*

КАЗЛЭ' *мн.* Перакрыжаваныя асноўныя кроквы, якія падтрымліваюць страху ў гаспадарчым будынку. *Колькі бэляк, столькі казлоў.*

КАПУ'СНІК *м.* Поле, дзе расла капуста. *Пабеглі дзеці на капусьнік за качарышкамі.*

КАПЫШ'КА *ж.* Прылада, якой размешваюць ежу жывёле. *Капышкай пойло мяшаюць, а кажуць на яе яшчэ і калатоўка.*

КАРА'ФКА *ж.* Графін. *Даўней гэто быў графін, куды лілі гарэлку, квас ці газу, карафка казалі.*

КАРА'Ч *м. пагардл.* Неахайны чалавек. *Заўсёды ён граскі хадзіць, гэты карач, і баба ў хаце есьць.*

КАРАШО'К *м.* Корак, затычка ад бутэлькі. *Карашок ад бутэлькі недзе згубіла.*

КАРБЭ' *мн.* Кругі на рагах каровы, па якіх вызначаюць узрост. *Колькі цялят, столькі будзя карбоў.*

КАСМУ'ША *ж.* Недагарэўшае палена дроў: галавешка. *Не зачыняй засланку, касмушы яшчэ не пагарэлі.*

КАСЯ'К *м.* Касавокі чалавек. *Касяком ён і нарадзіўсё.*

КАЧА'НКА *ж.* Калыска на паўкруглых падстаўках. *Гэтую прыгожую качанку мой хадзяін зрабіў.*

КЛЫ'НДА *м.* і *ж. пагардл.* Кульгавы чалавек. *Клындай часьцей называюць жанчыну.*

КЛЫ'ПША *м.* і *ж. пагардл.* Чалавек, у якога доўгія нязграбныя ногі. *У нас даўганогага чалавека дражняць клыпшай.*

КЛЭ′ *мн.* Бакавыя вялікія зубы ў свіней. *Клэ — велькія, тоўстыя зубы, па бакох тырчаць у сьвіней, а ваўчаке — тонкія, чорныя, вострыя зубы.*

КНЫШ *м.* і *ж.* Нізкарослы чалавек. *Сусетка мая велькая, высокая, а муж яе ніскі, у нас гаворваць кныш.*

КРЫВУ′ЛЬКА *ж.* Палка для ўмацоўвання кола задняга навоя.

КРЫЖАВА′НКА *ж.* Скрыжаванне дарог. *Пойдзям, бабы, на крыжаванку, хуччэй машына падвязе.*

КУДЗЕ′ЛЬНІК *м.* Жаночы пінжак з саматканага сукна. *Зарас кудзельнікі толькі старыя жанчыны носяць.*

КУ′КСА *ж.* Бязрогая карова. *У Вераб'евічах карову без рог называюць куксай.*

КУ′ПЯЛО *н.* Гняздо хатніх курэй. *Мая чарнушка ніколі на купяло не сядзя, усё ў хлеў.*

КУРЭ′ЛЬ *м.* Дымар. *Можа, паказаць вам курэль, як там трэскі гараць?*

ЛАБА′С *м.* Стажар'е з пад'ёмнай стрэшкай на чатырох слупках.

ЛАНТУ′Х *м. асудж.* Тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Наша Марыля — такі лантух, як павернецца, што-небудзь ськівя.*

ЛО′ГМА *прысл.* У выразе: *логма ляжаць* — лежма ляжаць. *У нас летам пойдзяш на пляжу, усе логма ляжаць, места нідзе німа.*

ЛЮБЯ′К *м.* Поснае мяса. *Любяка ўрэш.*

ЛЯХАТ *м.* Рэха. *Стукну — ляхат ідзе.*

МАКЛЯК *м.* 1. Намоклае пад дажджом адзенне. *Зьнімай хуччэй гэты макляк.* 2. Чалавек у мокрым адзенні. *Во, прыйшоў наш макляк, усюды лужыны ад яго.*

МАЛО′ЧНІЦА *ж.* Мастыт. *Толькі нарадзіла і ўжо ў яе малочніца.*

МАЧУ′ЛО *н.* Неглыбокі равок з вадой на сенажаці. *Вада ў мачулі стаіць неглыбоко, на паверхні.*

МАШЫ′НКА *ж.* Кнопка. *У тваёй сукенцы машынка адляцела.*

МЫШКАВА′ЦЬ *незак.* Ціха што-н. выведваць. *Пайшла мая залувіца мышкаваць, зарас што-небудзь прынясе.*

НАДВО′РСАК *м.* Дварышча. *Бяры драпкач і замяці надворсак.*

НА′ЛАП *прысл.* Набгом. *Піць налап.*

НА′МАКЛІНА *ж.* Дрэва, якое доўга ляжала ў вадзе. *Чаго ты прывалок намакліну, яна ш гарэць не будзя.*

НАШУ′ЛКА *ж.* Ахапак чаго-н. (акрамя сена), які бяруць пад паху. *Нашулку часьцей бяруць пат паху, але можна класьці яе і на плечы.*

НЕХЛЯМЯ′ЖЫ *прым.* Брудны, запэцканы. *Аёй, і нехлямяжы ты, калі пасьпеў упэцкацца?*

ПАБІ′ТЫ *прым.* Вельмі стары. *Пабіты ён зусім чалавек — доўгаё жыццё пражыў.*

ПАДБЕ′ЛЬНІКІ *мн.* Шампіньёны. *У нас падбельнікі рэтко калі знаходзяць.*

ПАДБО′Й *м.* Месца на падэшве, якое пракалоў ці набіў; нарыў. *Такі падбой набіў, што хадзіць цяшко.*

ПАЛАЗЭ′ *мн.* Рыбалоўная снасць, крыга. *Пойдзям рыбу лавіць палазамі.*

ПАМЕ′ТНІК *м.* Падсцілка пад стогам. *Відаць, капа стаяла, паметнік пакінулі.*

ПАМІРЫ′ЦЦА *зак.* Падзяліцца чым-н. з іншымі. *Памірымся адным куском?*

ПАПРЫ′ШЧЫЦЦА *зак.* Пра стан, у якім боб, гарох лічацца гатовымі, калі іх пражаць. *Мой гарох ужо папрышчыўсё.*

ПАПУ′ТНІК *м.* Спадарожнік. *Сёднячы ў Люпчу ехздзіў, Міхась папутнікам быў.*

ПАРАЖАНІ′ЦА *ж.* Парадзіха. *Трэ паражаніцу даведаць.*

ПА′РАСЬЛІ *мн.* Водарасці. *На нашым раўчакў адны парасьлі.*

ПАЎДЗЁНКА *ж.* Палавіна працоўнага дня. *Запішы мне, брыгадзір, паўдзёнку.*

ПАЧАПЕ′Й *м.* Почапка ў адзенні, *Пачапей — у нас кажуць толькі старыя.*

ПЕ′ЛЮСЬЦЬ *ж.* Жарало (у печы). *Наш пячнік пелюсьць ніско зрабіў.*

ПІ′ГАЎКА *ж.* Кнігаўка. *Злавіў недзе мой малы пігаўку.*

ПО′ЎРАС *м.* 1. Прывязка, раменчык. 2. Матузок у фартусе. *Трэба поўрас прышыць у фартусе.*

ПРАВІ′ЦА *ж.* Салома, якую выбіраюць на кулі. *Ох, і добрую правіцу прывезьлі вам.*

ПРАЖО'РА *м.* і *ж. асудж.* Абжора. *Казік такі пражора, увесь час нешта есьць.*

ПРАЗУБІ'ЦЦА *зак.* Прарасці (пра бульбу). *Калі ў картоплі з'яўляюцца маленькія росьлікі, гаворацъ, што яна празубілася.*

ПРАЛО'МКА *ж.* Проламка. *У прошлым годзе мой стары ледзьве на Нёмне ў праломку не ўваліўсё.*

ПРА'ТАЦЬ *незак.* Рабіць уборку ў хаце перад сьвятам або ў нядзелю. *Буду ў нядзелю пратаць хату, даўно ўжо не прыбірала.*

ПРЫ'ЛІПКІ *мн.* Бакавыя вырасты ў печаным хлебе. *Ой, дзяўчатке, хватайце прыліпкі, кап хлопцы ліплі!*

ПРЫМА'ЧКА *ж.* Жанчына, якая ўзяла мужа да сябе дамоў. *Яна ў нас прымачка.*

ПУХЛЯЦІ'НА *ж.* Пухліна. *Глядзі, пухляціна ў яго на назе.*

ПУ'ЦКІ *мн.* Ружовыя плямы на твары. *Якія пуцкі ў цябе ружовенькія!*

РАДНЯ'НКА *ж.* Саматканая посцілка з грубых нітак. *Раней я такія раднянкі прыгожыя ткала, што і ў магáзіне цяпер не купіш.*

РАЗЛУ'ЧНІК *м.* Мужчына, які развёўся з жонкай. *У нас па сусецтву разлучнік жыве.*

РАЗЛУ'ЧНІЦА *ж.* Жанчына, якая развялася з мужам. *Яна ўжо каторы гот разлучніца, і замуш болей не хоча выходзіць.*

РУДА' *ж.* Рудая вада на балоце. *Пайшлі бабы па руду — маткé красіць.*

РУ'ПЯСЬЛІВЫ *прым.* Клапатлівы, руплівы. *Вельмі ён у мяне рупясьлівы, усё клапоціцца аб гаспадарцы.*

РЫЖУХА' *ж.* Тое, што і *руда. Стаіць на балоце рыжуха.*

САРАМЯ'ЖЫЦЬ *незак.* Сароміць. *Чаго ты яго сарамяжыў?*

СЕ'ЎКІ *прым.* Рэдкі (пра матэрыю). *Вельмі палатно тваё сеўкаё.*

СКРА'ВАК *м.* Малы кусочак хлеба. *Пакінь мне гэты скравак.*

СКУДЗ'ЕЛЬНІЦА *ж.* Папрадуха. *Скудзельніцы пайшлі прасьці ў Мікіткаву хату.*

СКУНДЗЯ'БЛЕНЫ *прым. пагардл.* Сагнуты, згорблены. *Усё жыццё ён ходзіць скундзяблены.*

СО'ЛЯНКА *ж.* Вараная чышчаная бульба з соллю. *На вячэру солянку зварымо?*

СПУСКА'ЦЬ *незак.* Мяняць (зубы), пра карову. *Карова зубы спуская.*

СТАРА'ТЛІВЫ *прым.* Старанны, клапатлівы, руплівы. *Старатлівы ён чалавек!*

СТРЫ'ШКА *ж.* Страказа. *Стрышкі болей бываюць каля рэчак.*

СУ'ТАЧКІ *мн.* Невялікая загарадка з жэрдак ці з лазы паміж будынкамі, якія стаяць блізка адзін ад другога. *Сутачкі трэба перасыпаць, бо сьвіні ў прахот лазяць.*

СЫ'ПКА *ж.* Насыпка на падушку. *Сыпкі трэба шыць, а часу німа — гародніна ляжыць.*

СЫРО'МЛІНА *ж.* Тое, што і *сыромля.*

СЫРО'МЛЯ *ж.* 1. *іран.* Сырыя дровы, трэскі. *Якія гэта дровы, адна сыромля.* 2. Сырая зямля. *Узышлі гуркé на сыромлі і палівапь ні патрэ́бно.* 3. *іран.* Недаспелая гародніна, садавіна. *Чаго ты ясі гэту сыромлю?*

СЬВЯЦІ'ЛЬНІК, СЬВЯЦЕ'ЛЬНІК *м.* 1. Стаячае прыстасаванне для асвятлення хаты лучынай. *Калісьці ў сьвяцільнік утыкалі лучыну і пры ёй пралі.* 2. *пагардл.* Чалавек, у якога тоўстыя губы. *Чалавека с тоўстымі губамі ў нас дражняць сьвяцільнікам.*

СЬНЯГО'ЎКІ *мн.* Высокія гумовыя ці суконныя жаночыя боты на зіму. *Купіла я новыя сьнягоўкі, будзя цяпер маім нагам цёпло.*

СЬЦІНА'ЦЦА *незак.* Біцца (пра кароў). *Глядзі, каровы сьцінаюцца рогі ў рогі.*

ТРАПЯСЬЛІ'ВЫ *прым.* Хуткі ў працы. *Вельмі трапясьлівая мая гаспадыня, хýценько ўсё робіць.*

ТРАСУ'ХА *ж.* Топкае балота, дрыгва. *На трасуху не хадзі — зацягня.*

ТРАЯ'НКА *ж.* Мука з сумесі ячменю, грэчкі і пшаніцы. *Пазыч, сусетка, мяшочак траянкі.*

ТРУПЦЕ'ЦЬ *незак.* Бразджаць (пра гук надбітай пасудзіны). *Ганчарка мая трупціць: Пятрусь ціхама стукнуў і маўчыць.*

УДУ'ХА *ж.* Удушша. *У старога Губарэвіча такая ўдуха ўжо некалькі гадоў.*

ХАЛЮ'К *м.* Ілгун. *Халюк гэто есьць лыгун. Твой Петрык — самы сапраўдны халюк.*

ХЛЯ'БІНА *ж.* Бакавая ўпадзіна паміж апошнім рабром і клубам у жывёлы.

ХРАБУСТА'ЦЬ *незак.* Біць, ламаць. *Ну і хлапчанё, усё б яму храбустаць!*

ЦІХАВО'Т *м.* Нізкае глыбокае месца з вадой на сенажаці. *Вада ў ціхаводзе стаіць глыбей, як на мачулі.*

ЦІХАМА' *прысл.* Цішком. *Ціхама ўсё робіць і не пачуяш яго.*

ЦЯГАВІ'ТЫ *прым.* Валачашчы (пра ката). *Кот у нас цягавіты, ніколі не ўбачыш, недзе ўсё цягаяцца.*

ЧАПЛАВУ'ХІ *прым.* З вялікімі адтапыранымі вушамі. *І чаплавухі ён у цябе!*

ЧВЭ'РЫЦЬ *незак.* Жартаваць, прыдумваць смешныя гісторыі. *Пачакайцё, прыедзя мой Антось, як пачне чвэрыць, поўна хата сьмеху.*

ЧМАР *м.* Чад з печы. *Вой, чмару нарабіла!*

ЧУ'ЧАНКІ *мн.* Суставы пальцаў на руках. *Баляць мае чучанкі.*

ЧЫРВО'НКА *ж.* Рожа ў свінней. *Нагдове дохтур рожу ў сьвіні прызнаў.*

ШАЛАСТУНЭ' *мн.* Жалезныя ці медныя званочкі, якія чаплялі каню на шыю. *Раней былі шаластунэ — званочкі такія, іх чаплялі на шыю каню, калі ехалі ў сватэ́, на вясе́лё, у царкву.*

ШЧЫ'КАЎКА *ж.* Ікаўка ў дзяцей. *Нешта ў майго малога шчыкаўка ўсю раніцу, можа захварэя? А ў дарослых гікаўка.*

ШЧЫ'КАЦЬ *незак.* Ікаць. *Калі дзіця, то гавораць шчыкая.*

ШЫ'ЛЬНІК *м.* Хваёвыя іголкі. *Трэба шыльніку пайсьці назьбіраць на потсціл.*

ШЫП *м.* 1. Гронка арэхаў. *На гарэшыне ўсё шыпэ́ паабдзіралі, адзін шып аста́ўсё.* 2. Корч цыбулі. *Ужо час шыпэ́ выбіраць. Во, здаровы які шып.*

ЯРУ'ЖЫНА *ж.* Невялікі вадаём, у якім летам не высыхае вада. *Ізноў дзеці гуляюць каля яружыны.*

*Г. У. Арашонкава*

## У СЛОЎНІК НАРОДНАЙ МОВЫ

У падборку ўключаны дыялектныя словы розных семантычных груп, запісаныя ў час дыялекталагічнай экспедыцыі 1973 г. у вёсцы Пасека Старадарожскага раёна.

АВА'Д *м.* Авадзень. *Авад укусіў.*

АГАЛАДА'ЦЬ *зак.* Згаладацца. *Чаго плачаш? Агаладаў, дак, мо, жывот баліць?*

АДЗЕ'РЖЫНАВЫ *прым.* Зрэбны. *Нашыла рубашак з адзержынавай поттычкай.*

АДЗЕ'РЖЫНЫ *мн.* Зрэбнае палатно.

АПА'ЛІНЫ *мн.* Палова, мякіна.

АСТАДО'ЛІЦЦА *зак.* Падужэць, папраўіцца, паздаравець. *Дала яму парашка і астадоліўса.*

АСТРО'Ў *м.* Прыстасаванне, пры дапамозе якога лазяць на дрэва. *Ёлку сьсякуць с суччамі, ачэшуць адну сторану, дзе менш сукоў, а другую, дзе больш, аставяць — ёто гаворадь у нас астроў. Лазяць па ім пчол глядзець на дзераве.*

АСЬПІЦАВА'ЦЬ *зак.* Уставіць рэбры ў кош. *Асьпіцаваў кашэль, цяпер буду заплётаць.*

АСЬЦЁН *м.* Ражон. *На полудзень пяклі пастушкі сáло на асьні.*

АСЯНІ'НА *ж.* Авечая воўна, якую стрыглі ўвосень.

АТО'РАК *м.* Папярочныя барозны ў канцы загона. *Дзе конь не даходзіць, тады ўпоперак аралі, гэто аторак.*

БЛУ'ЗЬНІЦЬ *незак.* Гаварыць абы-што.

БРЫЖ *м.* Выступ на коміне, куды кладуць запалкі, мыла.

БРЫЗГО'ЛЬ *м.* Цвёрды снег у выглядзе круп. *Бальшы брызголь пайшоў.*

ВЕРАБЕ'ЙКА *м.* Усякая дробная птушка. *Гілікі гэто такія краснапўзенькія верабейкі.*

ВІДЗЁЛКІ *мн.* Відэлец. *Асталоса толькі чэцьвяро відзёлак.*

ВО′БМАЛАДЗЬ *ж.* Маладняк. *Зрэзалі дзялянку — пашла вобмаладзь.*

ВО′ГНІК *м.* Нарывы, болькі на губах. *Вогнік на губах у дзяцей. Кагуць, хто на агонь плюе, у таго вогнік.*

ВО′ТКІДАК *м.* Напрадзенае верацяно нітак. *Напрала за два вечары воткідак.*

ВУ′ЖАР *м.* Акно ў балоце. *Уюны ў вужарох вяліса.*

ВЫ′ДАБА *ж.* Сукупнасць хатніх рэчаў, патрэбных гаспадыні.

ВЫ′ШЫКАЦЬ *зак.* Высмаркаць. *Вышыкай носа, а то цяжко дыхаць.*

ВЯРСТА′ *ж.* Доўгая града дроў. *Багáто верстаў наклала.*

ГАЛАШЧО′К *м.* Гразь, замёрзлая без снегу. *Дарога галашчокам умёрзла.*

ГАЛУБО′ЎКА *ж.* Блакітная фарба.

ГАЛУ′ЗА *ж.* 1. Галавешка. *Галуза асталаса ў печы, дрова ні дагарэлі.* 2. Спарыння. *У жыце мнóго галуз, і на просе галуза.*

ГАЎЯ′ДО *н. зборн.* Каровы. *Угэ гаўядо гоняць з поля.*

ГЕ′СТКА *ж.* Блузка. *Сашыла* гестку *з доўгім рукавом.*

ГРУЗЕ′НЬ *ж.* Грузкае балота. *На заставе була грузень, ні прайсці, ні праехаць.*

ГУ′ДЗІЦЬ *незак.* Судзіць. абгаворваць. *Ты сам сябе глядзі, а каго ні гудзь.*

ГУ′ШЧА *ж.* Пярловыя крупы. *Гушчу таўклі к калядам таўкачом. Цяпер кауць пярлоўка, а даўно таўклі гушчу.*

ДАЛІ′НКА *ж.* Упадзіна пад грудзямі, лыжачка.

ДЖЫГУ′ЛЬКА *ж.* Малая чырвоная мурашка.

ДНІ′ШЧА *н.* Ніжняя частка прасніцы, на якую садзіцца папрадуха.

ЁЛАП *м.* Неўрадлівая пясчаная глеба. *Ёлап — пяшчаная зямля, дзе плóхо расьце. Жнуць, буеáло, і кауць: табе ляхчэй жаць, ёлап папаўса.*

ЖМАЦЬ *незак.* Мыць (бялізну). *Некалі нагамі жмалі плацьце ў карыце.*

ЗАБА′ВІЦЬ *зак.* Затрымаць, адняць час. *Хоць я вас забаўлю, але нічóго. Паслухайце, што раскажу.*

ЗАЗО'Р *м.* Прамежак паміж печчу і сцяной. *Зазор робяць для цяпла.*

ЗАМ'ЁТ *м.* Агароджа з лёгкага бярвення, запушчанага ў шулы.

ЗАПЛЮСКА'ЦЦА *незак.* Заплюшчвацца. *Вочы заплюска́юцца на цябе глядзець, як ты гэто робіш.*

ЗАЦАНІ'ЦЦА *зак.* Запрасіць высокую цану. *Па́йло зацаніўса, хацеў картоплю па два с палавінай рублі продаць, ніхто ні бярэ.*

ЗАЦІРУ'ХА *ж.* Зацірка.

ЗАЦЯКЦІ'СА *зак.* Зайсціся. *Зацякласа ад плачу.*

ЗДРОК *м.* Авадзень. *Наранні ганілі кароў, а то мно́го здракоў днём, ве́льмо нападаюць пасярод дня, у пагоду.*

ЗЫ'РКО *прысл.* Горача, добра напалена (у печы). *Ні зы́рко ў печы, ні запйокса хлеб.*

КАДУ'К *м.* Чорт. *А кадук яго ведае. Вот кадукё прынесьлі.*

КАЛАТУ'ШКА *ж.* Зацірка. *Цяпер кауць заціруха, а даўно казалі калатушка.*

КАМАКІ' *мн.* Тоўчаная вараная бульба, запраўленая скварaным салам, тлушчам.

КАМЕ'ШНІК *м.* Качарэжнік.

КАМЯНЯ' *ж.* Качарга.

КАПО'ТА *ж.* Сукенка для дзяўчынкі.

КАРАМЗА'ТЫ *прым.* Каржакаваты, сукаваты (пра дрэва). *Карамзаты граб.*

КАРА'ЎКА *ж.* Ануча. *Колісь куплялі за караўкі серніцы.*

КАЎНЕ'РЫК *м.* Манжэта. *Ушываюць рукавы з каўнерыкамі на пугавічках.*

КВАТАРА'НЕЦ *м.* Кватарант. *У Трахіма було пйаць кватаранцы.*

КРАМ *м.* Крамная матэрыя. *Красны крам.*

КРЫ'ШКІ *мн.* Бульбяны суп. *Скрышым картоплю, цыбулькі, жыру, зальлём вадой, зварыцца — вот і крышкі.*

КУЛІ'ДА *ж.* Буханка. *Шэсь кулід сьпякла хлеба.*

КУПА'ЙЛО *н.* Месца, яма для купання. *Яшчэ пакапай ямку, налей вады і купа́йло зробіш сьвінням.*

КУ'РАВО *н.* Пыл. *Ой, курава наберацеса, яг будзеце месьці двор.*

ЛА'ЗЬБЕНЬ *м.* Драўляная бочачка на мёд. *Даўно рабілі лазьбень з ліпы, з лазьбенем хадзілі па мйод у лес, у каго булі ў лесе пчолы.*

ЛАНО' *н.* Ахапак (дроў). *Лано дроў набрала да нясу. Дзве лане дроў прынесла.*

ЛЕ'ТАЎНІК *м.* Дровы, назапашаныя летам на наступны год.

ЛОЎЖ *м.* Куча. *Цэлы лоўж наскідала плацьця, буду жмаць.*

ЛЯГА'К *м.* Вялікі камень. *Лягакі трэ̇бо ссоўваць, лягак ні мо̇жно падняць.*

МІШКАВА'ЦЬ *незак.* Тайком выведваць. *Ні пытаўса, а ціишком мішкуе.*

НАБЛІСКА'ЦЬ *зак.* Напырскаць, нападаць. *Цягні скавараду, бо наблíская попелу на бліны.*

НАВА'ЛЬНЫ *прым.* Аблажны, зацяжны (пра дождж). *Навальны дож пачаўса.*

НА'ВІСЬ *ж.* Іней.

НАРА'НКІ *прысл.* На раннюю пасьбу. *Наранкі ганілі кароў.*

НАШЧАМА'ЦЬ *зак.* Нашчапаць. *Ён секчы дрова ня ўмге, толькі нашчамаў шчэмак.*

НІЧО'ГІ *прым.* Слабы здароўем, хваравіты. *Мой Па̇ўло ўжо нічогі.*

НІ'ШЧАЧКОМ *прысл.* Крадучыся. *Ён ходзіць нішчачком.*

НЯБО'ГА *ж.* Пляменніца.

НЯБО'Ж *м.* 1. Пляменнік. 2. Ужываецца пры звароце да дзяцей. *Ой, мой нябож, які ты харошы!*

О'БНАЖ *ж.* Узятак на лапках пчалы. *З обнажжу ідзе пчала.*

ПАДЗІ'ВЕЦ *м.* Сурокі, урокі. *У Грышавай дзевачкі, мусіць, падзівец, усё плача.*

ПАЖУ'ПІЦЬ *зак.* Пагутарыць. *Паеду ў Красны Вугал да сьвякрухі, пажупім з ёю.*

ПАКО'ПІШЧА *н.* Месца, дзе стаяла капа. *Падграбі пакопішча.*

ПАЛАВЫ' *прым.* Цёмна-шэры (пра хмару). *З палавой хмары дож вялікі.*

ПАЛУ'КАШ *м.* Плецены з лазы вялікі кош, які ўстаўляўся ў воз, сані. *Палукаш буў у нас, з ракіціны плялі. Яг едзям на кірмаш, то ставілі на воз.*

ПАПРЫ́ШЧЫЦЦА *зак.* Усохнуць, паморшчыцца. *Пасеяў, а дажджа німа, мажэ папрышчыцца насеньне, пасохне, ні дае храсткоў.*

ПА́СЫН *м.* Адростак, атожылак. *Вот пасыноў кругом пня нарасло.*

ПАСЫ́НЬНЕ *н. зборн.* Адросткі, атожылкі. *На дзялянках парасьля, а есьлі пабóльшало, метры два — пасы́ньне, а патом зарасьля, заглуш, ні пралезьці.*

ПАЧЫ́НАК *м.* Ніткі, зматаныя з двух-трох верацён на адно верацяно. *Два-тры воткідкі на адно верацяно скруціць — то пачынак.*

ПАШНЯ́ *ж.* 1. Вымалачанае зерне. *Усякае пашні ў мяне хватае.* 2. Гатунак збожжа. *Кожду пашню паклаў аддзельна.*

ПЕ́ЛЯНА *ж.* Падол у сарочцы, сукенцы. *На пеляну пасадзіла дзіця.*

ПЕРАСО́Ў *м.* Жэрдка, падвешаная ўверсе перад печчу або ад печы да процілеглай сцяны. *Мы гушкаліся на перасове, адзежу вешалі.*

ПЕЧАЯ́ *ж.* Пякотка. *Печая пячэ угэ другі дзень.*

ПЛЁСА *н.* Яма на лузе, запоўненая вадой.

ПО́ПЛІСКА *ж.* Дошка, якой падганяюць, раўняюць стагі.

ПО́СУШ *ж.* Агульная назва сухога корму.

ПО́ТТЫЧКА *ж.* Прышытая ў нізе кашулі палаcа са зрэбнага палатна. *Нашыла рубашак з адзержынавай поттычкай.*

ПРА́ВЫ *прым.* Прамы, не мяты (пра салому). *Права салома вязалася ў кулі.*

ПРЫКІДНЫ́ *прым.* Ласкавы, прыхільны (пра чалавека).

ПЯРЭ́БІР *м.* Пласт сена. *Вялікі перабраў пярэбір, растрасеш.*

ПЯРЭ́ГАДАМ *прысл.* З перапынкамі. *Пярэгадам ідзе дож.*

РАЗМУЦІ́ЦЬ *зак.* Размяшаць, разбоўтаць. *Наліў у вядро краскі, дóбро размуціў. Размучу попел у вадзе і пальлю яблыні.*

РУБІ́НА *ж.* Адна штука адзення. *Адну рубіну згубіла і ні знаю што. Пасьля вайны ні адной рубіначкі ні асталоса, перамянухі ні было.*

РУНЕ́ЦЬ *незак.* Цвісці (пра дрэва). *Ліпа яг рунея, пчолы збіраюць мйод.*

РЫ′ЖЫ *прым.* Худы (пра мяса).

РЫЖО′ВІНА *ж.* Мясная праслойка ў сале. *Са́ло з рыжовінамі сма́чно.*

САЛО′МЕНІК *м.* Сяннік.

СЕ′РНІЦА *ж.* Запалка. *Колісь куплялі за караўкі серніцы.*

СКАЛЬ *ж.* Пчаліная разведка.

СКАЛЯВА′ЦЬ *незак.* Лётаць у разведку (пра пчол).

СКАПЕ′Ц *м.* 1. Бурт, капец. *У скапец картоплю засыпаюць навярху, бо так вада.* 2. Межавы курган. *Па казьне стаяць слупкі і скапцэ, слупок сагніў, а скапец есь.*

СКРОЗЬ *прысл.* Увесь час, заўсёды. *Мы скрозь до́бро жывом.*

СПА′СЬЦІ *зак.* Перайсці ў спадчыну. *Патом ён памйор, усе спа́ло той даццэ; памйор і брат, і братава кніжка спала ім.*

СПАТЫ′ЧКА *ж.* Сутычка, бой. *Спатычка була кала нашага сяла, як була вайна.*

СПІЦА′К *м.* Завостраная палачка, якой падплятаді лапці.

СТАРАПО′ЛЬ *ж.* Даўно разробленая зямля.

СТАЎПЕ′Ц *м.* Частка грабель, у якую насаджваюць зубы.

СТРУГА′ *ж.* Грузкае балота. *Струга — то яма ў балоце, заплытая то́рфом, вулезьці нельга. У стругу загнаў карову.*

СТУЖАВА′НКА *ж.* Коўдра, вытканая в рыззя.

СУКРА′К *м.* Смольны кавалак хваёвага карча з пакручастымі слаямі.

СУХАВЕ′ТРЫЦА *ж.* Сухі вецер без дажджу. *Ну сягоні і вецяр, сухаветрыца, яг дажджу німа, сухаветрыца дуя і дуя.*

СХАРАШЫ′ЦЦА *зак.* Ачысціцца пасля родаў (пра жывёлу). *Карова схарашылаcа.*

СЫ′ТКА *ж.* Пліска. *Сыткі ў старым вульлі за хлявом жывуць.*

СЬНЁТ *м.* Вузкая прадаўгаватая дошка, якой закрываюць бакавы ўваход у калодачны вулей.

СЬПІ′ЦА *ж.* Рабро ў кашы.

СЬЦІЛЬБІШЧА *н.* Месца, дзе сцелюць лён. *Для сьцільбішча выбіраюць ме́сцо на ялавінах, на сынагацях.*

СЯЛЕ́НЕЦ *м.* Селядзец. *Сяленцаў купіла.*

ТАЎКАНІ́ЦА *ж.* Клопаты па гаспадарцы, беганіна, мітусяніна. *Мне і так хватая таўканіцы каля печы.*

ТО́ПЕНЬ *м.* Таптуха, рыбалоўная снасць. *Хлопец топень усодзіць у воду, нагой патопае, і рыба ў топень.*

УВЯРО́Д *м.* Пашкоджанне, вывіх. *Уверадзіў руку, баба палечыць увярод.*

УЛАВІ́ЦЬ *зак.* Злавіць. *У хаця ўлавілі ката. Тоцькіна сабака ўлавіла верабейку.*

ХАЙЛУ́К *м.* Жабіна сховішча, «гняздо». *Жаба зрабіла хайлук з траву.*

ХАРО́ШЫЦЬ *незак.* Ачышчаць. *Капусту ссякаюць, потым харошаць.*

ХВАШЧА́НКА *ж.* Вехаць з хвашчу або саломы для мыцця посуду. *Павышаровая чарэп'я хвашчанкай. Пучок з саломы — усё раўно хвашчанка.*

ХВО́РАСЬНІК *м.* Зараснік. *Хворасьнік усякі есць— алешнік, лаза.*

ХЛУ́ПА *прысл.* Пахіла. *Хлупа паставілі стрэху.*

ХЛУ́ПЫ *прым.* Пахілы (пра страху).

ХЛЯ́БА *ж.* Сырая пагода з мокрым снегам.

ЦУБІ́НКА *ж.* Бадыль. *Цубінка расьце, а на ёй лісьцё вяліко.*

ЦЯЛІ́ЦА *ж.* Цялушка. *Каровы німа, цяліца толькі, але пабегана.*

ЧАРЭ́П'Я *н. зборн.* Дрэнны посуд. *Чарэп'я павумывала, а вы палажэця на стол, яны і пасхнуць.*

ЧА́ШКА *ж.* Пасма нітак на клубку. *Навіла вяліку чашку, то спусьціцца.*

ШАРО́Н *м.* Цвёрды верхні пласт снегу, шарпак.

ШВЕ́РКАЦЬ *незак. асудж.* Гаварыць абы-што.

ШКУРА́ПКА *ж.* Зарумянены вяршок малака пры кіпячэнні ў печы.

ШУ́МАЦЬ *ж.* Пазаддзе, каласавіны.

ШЧО́ДЗЕР *м.* Шчадрэц, шчодры вечар.

ШЧЫТ *м.* Верхавіна дрэва. *Шчыты пасхлі на яблынях.*

ШЧЭ́МКА *ж.* Шчэпка.

Я́ТРАЗЬ *ж.* Пачырваненне вакол раны, прышча.

Я́ТРЫЦЦА *незак.* Чырванець (вакол раны, прышча). *Загоіцца скула і зноў усхопіцца, ятрыцца.*

*М. В. Бірыла*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ СКВАРЦЫ ДЗЯРЖЫНСКАГА РАЁНА

Запісы прадстаўленай тут лексікі зроблены ў розны час, калі аўтару даводзілася бываць у сваёй роднай вёсцы. Не ставячы мэты сістэматычна даследаваць лексічную сістэму гаворкі, аўтар запісваў толькі тое, што адрознівае яе ад літаратурнай мовы. Большая частка матэрыялу запісана непасрэдна на месцы ў момант маўлення, гэта значыць з'яўляецца вынікам «палявых» назіранняў. Але частка слоў, уключаных у гэту падборку, падказана літаратурнай крыніцай — творамі пісьменніка Лукаша Калюгі, які ў дзіцячыя і школьныя гады жыў у вёсцы Скварцы.

Лукаш Калюга (Канстанцін Пятровіч Вашына) нарадзіўся 27 верасня 1909 г. Закончыў Станькаўскую сямігодку, а ў 1931 г. — Мінскі педтэхнікум. Працаваў стыльрэдактарам і некаторы час на Беларускім радыё. Першыя апавяданні надрукаваны ў 1927 г. Важнейшыя яго творы — аповесці «Ні госць ні гаспадар» (1928), «Нядоля Заблоцкіх» (1929) і апавяданні «Трахім — штучны чалавек», «Іллюк-даследчык», «Тахвілін швагер» (1929), «Цеснаватая куртачка» (1932). Галоўная тэма пісьменніка — беларуская вёска напярэдадні і ў гады калектывізацыі.

Агульны стан беларускай літаратурнай мовы к канцу 20 — пачатку 30-х гадоў, калі пісаў Лукаш Калюга, можна ахарактарызаваць як перыяд шырокага выкарыстання побач з агульнанароднымі элементамі мовы securityрознадыялектных дублетных варыянтаў. Кожны пісьменнік у пэўнай меры карыстаўся элементамі свайго роднага дыялекту, уключаючы іх у тканіну твора свядома са стылістычнымі мэтамі ці ў выніку адсутнасці агульна-

прынятых норм. Лукаш Калюга шырока выкарыстоўваў рэгіяналізмы і ў адным і ў другім плане.

У падборцы ў якасці ілюстрацый прыводзяцца тэксты, запісаныя аўтарам у вёсцы Скварцы (яны не пашпартызуюцца), і ўрыўкі з твораў Лукаша Калюгі, якія даюцца па зборніку «Ні госць ні гаспадар» (Мінск, 1974) і пашпартызуюцца назвай твора.

АБАБЭ′НІЦЬ *зак. безас.* Апушыць (звычайна пра карову). *Карову абабэніла, мусіць, у маладую канюшыну ўлезла. Куды, рабая, кап цібе ababэніла!*

АБВАЛІ′ЦЦА *зак.* Паваліцца, зваліцца з ног. *Палядзі, ці ні Федзік гэта абваліўся.*

АБЗУРЫ′ЦЦА *зак.* Тое, што і *абваліцца. Абзурыўся сярод вуліцы і ўстаць ні можа.*

АГЛЯДА′ЦЦА *незак.,* АГЛЕ′ДЗІЦЦА *зак.* Уходжвацца, спраўляцца з работай па гаспадарцы. *Трэба іці: пара ўжо аглядацца. Адной агледзіцца — колькі часу трэба.*

АГУ′РАЦЬ *зак.* Апрыкраць, надаесці, абрыдзець. *Агурала жыць аднаму. Гэтак агурай, што ні глядзела п, здаецца.*

АГУ′РЫЦЦА *зак.* Звыкнуцца, абвыкнуцца, прывыкнуць. *Ведама, жыве сам сабою, агурыўся — і нікога яму ні трэба.*

АДНА′КІ *прым.* Аднолькавы. *Удвух яны з Пархімам спалі, але не аднакі быў іх сон* (Нядоля Заблоцкіх, 253).

АЗЫ′РАЦЬ *зак.* Тое, што і *агураць. Хлопяц мне ўжо азырай — купі і купі лісафет. Яго доўгія апавяданні пра сябе паспелі ўжо азыраць Хвядосу* (Ні госць ні гаспадар, 86).

АКУРА′Т *прысл.* 1. У гэты самы час, якраз тады. *Я акурат дома была і добра бачыла гэта.* 2. Якраз такі, падобны. *Акурат бацячка: і ходзіць гэтак, і глядзіць — усё да капялькі пaбpoў.*

АПАРО′ЦЬ *зак.* Знайсці што-н. схаванае. *І як ён апароў гэтыя грошы? Нечакана іх* [кніжкі] *апарола і там Пётрава маці* (Ні госць ні гаспадар, 141).

АПІВО′Ш *м.* П'яніца, выпівака. *Зноў прываложся гэты апівош — ні выкурыш с хаты да вечара.*

АПО′ЎЗЛЫ *прым.* Нясkладны, нізкарослы (пра чалавека).

АПРО′ГЛІЦА *ж.* 1. Ненаеднасць, ненасытнасць. *Апрогліца нейкая на яго напала — ні накорміш, ні на-*

*поіш.* 2. Скон, здыхата. *Німа на цібе апрогліцы, кап ты выдах* [пра сабаку].

АПРЭ'ХЧЫСЯ *зак.* Сканаць, здохнуць. *Куды цібе нясе* [пра карову], *кап ты апрэглася!*

АПУ'ХА *ж.* Дэталь саламянай страхі — дошка, прыбітая да канцоў лат, над кожным франтонам, каб не спаўзала салома. *Вецяр апуху адарвоў і зьнёс усю страху.*

АПЯЛЮ'ХА *ж.* Вялікая луста хлеба, вялікі кусок сала. *Такую апялюху сала ўтрубіў.*

АРЦА'БНІЦА *ж.* Саматканая посцілка з узорамі ў выглядзе квадратаў. *Прынясі арцабніцу, трэба зьверху накрыць.*

АРЦАБО'ВЫ *прым.* У выразе: *арцабовая посьцялка* — тое, што і арцабніца. *Шэсьць губак арцабовых посьцялак выткала.*

АСЦА' *ж.* У выразе: *асцу гоніць* — пра хваравітае адчуванне, якое суправаджаецца ўзмоцненым выдзяленнем сліны. *Рады німа: і парашкі піла, і соду, а ўсё роўна асцу гоніць.*

АСЫКА'ЦЦА *незак.,* АСЫКНУ'ЦЦА *зак.* Са злосцю рэзка адказваць каму-н. на заўвагі, папрокі. *Ах ты, жаба, ішчэ асыкаясься, слухала п, калі старшыя гавораць. Бладзік памаўчыць, памаўчыць ды і асыкнецца, ды ўсё Корабачу напроціў* (Ні госць ні гаспадар, 206).

АТКАВЯЛІ'ЦЬ *зак.* Адрэзаць вялікі кусок хлеба, сала. *Аткавяліў лусту як рэшата і панёс.*

АТКАРХНУ'ЦЬ *зак.* Крыху аддыхнуць, перавесці дух. *Аткархнуў троха і на балота касіць пашоў.*

АТХА'ЯЦЬ *зак.* Выхадзіць, вылечыць ад цяжкай ці працяглай хваробы. *Добрыя дактары — атхаялі чалавека.*

АТШВА'БІЦЬ *зак.* Адрэзаць вялікі кусок чаго-н. *Атшвабіў сала колькі хацеў. Яму атшвабілі палавіну сотак.*

АХА'ЯЦЬ *зак.* Ачысціць, прывесці ў нармальны выгляд. *Тры дні дома ні была, дык чуць ахаяла хату.*

БАБА'К *м.* Дурань, недацёпа, размазня. *Нічога ні зробіць гэты бабак. Ходзіць абарваны, як бабак.* (Ні госць ні гаспадар, 174).

БАДЗЮ'ЛЬКА *ж.* Крыха, драбінка; што-н. маленькае. *Дала бадзюльку солі. Дзевачка іх — такая бадзюлька, але быстрая.*

БАЗА'РЫЦЬ *незак.* Лаяць каго-н., сарамаціць, выгаворваць. *Старшыня брыгадзіра базарыць, што сена ні зьвезлі.*

БАЛАБО'СТ *м.* Балбатун. *Эт, балабост гэты, што ён добрая скажа.*

БАЎДЫ'Р *м.* Маўклівы замкнуты чалавек. *Што ты ат таго баўдыра хочаш, надзьмецца, як мыш на крупы, і маўчыць.*

БІ'ЛКА *ж.* Аглабільна ў калёсах. *У білку дзьве лёсткі ўставіў.*

БІ'ЛКІ толькі *мн.* У выразе: *у білкі* — да верхняга аглабільна. *У білкі ўкінуў снапоў колькі — і гэта ўжо ён вос вязе.*

БЛАГАТА' *м.* і *ж.* Благі чалавек; пераборлівы чалавек. *Благату гэту і на парох пускаць ні трэба. Вот благата нейкая — ніяк ні ўгодзіш яму.*

БРАТА'НІЧ *м.* Пляменнік, сын брата. *Мой братаніч у Мінску вучыцца.*

БУНАВА'ЦЬ *незак.* Бубніць сабе пад нос, выказваючы нездавальненне чым-н. *Старая ўжо цэлы час нешта бунуя сабе пад нос.*

ВАЙЦЯ'ЦЬ *незак.,* ЗВАЙЦЯ'ЦЬ *зак.* Выгаворваць каму-н., папракаць за зробленае ці сказанае. *Вайцяць я ёй ні буду, але хай зная, што я ўсё ведаю. Праз гот, два, а я ёй звайцяю.*

ВАЛАНЦА'Й *м.* Валацуга, бадзяга. *І калі гэта наш валанцай нагуляяцца, ніколі дома ні стыкаяцца. От удаўся валанцай! Ніколі лішняй хвіліны не забавіцца дома* (Нядоля Заблоцкіх, 252).

ВАЛА'ЦЬ *незак.* Выклікаць да сябе; клікаць, зваць, падзываць. *Валая ўсіх нас да сібе і кажа ехаць у лес. Цібе матка дадому валая.*

ВАЛЕ'НТА *м.* і *ж.* Неўраўнаважаны, нервовы чалавек. *К валеньця гэтай і потступу німа. Што гэта за чалавек — валента нейкая ды ўсё.*

ВАЛІ'ЗА *м.* і *ж.* Мажны, непаваротлівы чалавек. *Пакуль тая валіза прыдзя, то і ні пара будзя.*

ВАНЦА'ТЫ *прым.* Няўстрыманы, нервовы. *Такі ванцаты — дык лепш і ні бачыць.*

ВАНЦА'Ч *м.* Звычайна ў праклёне: *кап цібе ванцач задушыў.*

ВІДА *прысл.* 1. У адзін момант, у адзін міг. *Ушчарэпіўся за борт машыны і віда ўскочыў наверх.* 2. На

вачах; заметна для ўсіх. *Пагода віда порціцца — будзя дошч.*

ВО'БАК, ВО'БАЧ *прысл.* Побач. *А вобак сядзела Лёдзя і кажа: «Хай бы Пецька сходзіў».*

ВО'БМЯГАМ *прысл.* Звычайна ў выразе: *вобмягам табе выйдзя (вылязя)* — выйдзе табе праз бок, бокам. *Вобмягам табе выйдзя мая дабрата. Вобмегам табе вылезе гэтыя трыццаць чатыры працэнты, — пачуў Адась з сянец, як ішоў у хату* (Цеснаватая куртачка, 11).

ВО'ГЛЯТКА *ж.* Работа па гаспадарцы, догляду жывёлы і інш. *Ужо воглятка пачалася, а яго шчэ німа. А якая там воглядка мужчыну ўлетку! Каня вывеў на пашу, паснедаў і хоць на край свету да вечара сыходзь* (Ні госць ні гаспадар, 139).

ВО'ДАЛЯЙ *прысл.* Воддаль. *Я водаляй была — добра бачыла, але ні чула. Трохі водалей ад іх на куп'і сядзела тры малыя дзяўчынкі* (Ні госць ні гаспадар, 97).

ВО'ЙДЗЯ *прысл.* Тут, вось тут. *Войдзя ляжыць, а ты круцісься па ўсёй хаця. Войдзя ён стаёў, а ні там.*

ВО'МПІЦЬ *незак.* Жаліцца на што-н. *Яна на брата вомпіць — ні памох ёй.*

ВО'ПРАМЯЦЬ *ж.* Толькі ў праклёне: *кап цібе вопрамяць кінула.*

ВО'ПСАС *прысл.* Нечакана, рэзка, стрымгалоў. *Ён да яе як кінуўся вопсас — думалі, канец будзя.*

ВУ'ЗЛАЎЯ *н.* Передок у павозцы. *Новая вузлаўя зламалася.*

ВУ'НЬДЗЯ *прысл.* Там, вось там, вунь там. *Вуньдзя стаіць, а ты ні бачыш.*

ВУРВА'ЛАК *м.* Цурбалак. *Хапіў нейкі вурвалак і пошпаркам у сабаку.*

ВУРВІ'НЯЦ *м.* Вісус, жэўжык. *Вурвіняц гэты куды хочаш залезя.*

ВЫ'БЫЦЬ *зак.* звычайна з адмоўем. Прабыць дзе-н. да пэўнага часу... *Не шанцуе яму з жонкамі: надта ж не даўгавечныя траплялі шляхцянкі: адна і года не выбыла, другая крыху мацавалася, ды і тая от далася* (Нядоля Заблоцкіх, 236).

ВЫ'ДАБІЦЬ *зак.* Выштукаваць, вымеркаваць. *Ён выдабіць такую асатку, што ні ў кога німа. Выдабіла Прузына, што рукаўцы і калошкі, як дудачкі, павыходзілі* (Нядоля Заблоцкіх, 259).

ВЫЖВАРА'ЦЬ *незак.* Вытвараць. *Не выжварай ён лішняе з адзежаю* (Нядоля Заблоцкіх, 225).

ВЫ'ЛУПАК *м.* Звычайна пра дзіця, падростка — лупаты, вірлавокі. *Дзе ён дзеўся, вылупак той?*

ВЫ'МКНУЦЦА *зак.* Нечакана сказаць што-н., вылучыцца. *Усё штукуе Трахім. А раз вымкнуўся ды і ўляцеў са сваімі жартамі* (Трахім — штучны чалавек, 31). *Лішняга слова баяўся да жонкі прагаварыць. А гэты раз пад злосць узяў і вымкнуўся: «Чорт жа цябе і бяры...»* (Там жа, 32).

ВЫ'ПРАТАЦЬ *зак.* Вычысціць, ачысціць. *Мы летась выпраталі студню. К сьвяту чуць выпратала хату.*

ВЫСКРЫ'ПАВАЦЬ *незак.,* ВЫ'СКРЫПАЦЬ *зак.* Толькі ў выразе: *выскрыпваць хату* — выстуджваць хату, часта ходзячы то на двор, то са двара. *Ні шлыгайся ты, ні выскрыпавай хаты. За дзень выскрыпалі хату, што хоць ваўкоў ганяй — халадна спаць будзя.*

ВЫСТАРЧА'ЦЬ *незак.* Выконваць усе жаданні, усё дастаўляць. *Я ш ні магу ім* [дзецям] *усяго так выстарчаць.*

ВЫШКІ' *мн.* У выразе: *на вышкі* — ростам, вышынёю. *Не было на іх* [Заблоцкіх] *росту: усе да аднаго аршын з шапкаю ўдаліся на вышкі* (Нядоля Заблоцкіх, 220).

ВЫ'ШУШКАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Вышушкаўся за дзень за каровамы ходзячы.*

ВЯРТАХЛА' *ж.* Неўраўнаважаная, легкадумная жанчына. *Эт вяртахла гэта — сёння адно, а зоўтра другоя.*

ВЯРШНІ'К *м.* Планка ў санях, насаджаная на капылы паверх вязоў. *Вяршнік трэба новы, зламаўся на сярэднім капыле.*

ГАВЭ'НДА *ж.* Клопаты, турботы. *Ні трэба лішняй гавэнды, другі раз зайду. Вялікая гавэнда — добра сустрэць гасьцей.*

ГАЛАМЕ'ШКА *ж.* Галавешка. *Выкінь галамешку сь печы, хай ні дыміць.*

ГА'ЛЫ *мн.* Ногі; доўгія ногі. *Распусьціў галы ды як пашоў, дык рады німа — атстоў. І папрабаваў Клемка перш крыху шырэй распусціць свае доўгія галы* (Нядоля Заблоцкіх, 244).

ГАЛЬДАНУ'ЦЬ *зак.* Скокнуць цераз што-н., ускочыць на што-н. *Гальдануў ціраc плот — толькі яго і ба-*

*чылі. Хвядос моўчкі неўзапаметку ўзяў на аброць Каштанку, хвацка прымайстраваўся з добрай купіны гальдануць ёй на спіну і ехаў у сярэдзіне табуна* (Ні госць ні гаспадар, 99).

ГАЛЯПАВА'ЦЬ *незак.* Крычаць. *Чаго ён там галяпуя?*

ГА'ПАШЫЦЬ *незак.* Гучна біць па чым-н. *Гапашыць так, што аш тут чуваць. Гапашыць палкай па дзьвярах.*

ГЛАМЯНУ'ЦЬ *зак.* Адкусіць вялікі кусок. *Гламянуў рас — і па яблыку. На, гламяні, калі хочаш.*

ГЛУШМЕ'ЛЬ *м.* Глухі чалавек, глушак. *Глушмель ні дачуе, дык прылжэ. Што ты хочаш, глушмель гэты ні чуў, можа.*

ГНУ'ШКА *ж.* Накрыўка на гаршчок. *Выцягнуў самы большы гліняны гаршчок. Зняў з яго гнушку* (Трахім — штучны чалавек, 35).

ГРАМЯТА'ЦЬ *незак.* Моцна біць у спіну ці па галаве. *Як стоў грамятаць у плечы, як стоў біць яго.*

ГУ'ДЖАНКА *ж.* Земляная запруда на рацэ ці ручаі. *Хлопцы ўчора гуджанку зрабілі, дык глядзі колька вады сабралася.*

ГУДЗІ'ЦЬ *незак.*, ЗАГУДЗІ'ЦЬ *зак.* Запруджваць раку ці ручай, рабіць земляную запруду. *Пашлі гудзіць гуджанку на выган. Загудзілі роў, дык цэлая возяра вады сабралася.*

ГУТАТА'ЦЬ *незак.* Гушкаць. *Гутатай, покуль не ў калысца, пакіняш — дык у плач. На качэлях вісока гутатаюцца.*

ГУТАТА'ЦЬ *незак.* Гушкаць. *Гутатай, покуль не засьне.*

ДАСЦІПНЫ' *прым.* Дапытлівы, цікаўны, які хоча ўсё ведаць, да ўсяго дайсці. *Такі дасьціпны, ды кап ні ведаў.*

ДАХО'ДНЫ *прым.* Тое, што і дасціпны. *Гэта ш трэба — такі даходны, а ні ведае. І заўважылі баркаўскія даходныя людзі, што ўсё то сіняваты, то чырвоны агеньчык з неба сыплецца за шчыт у Юстапавым таку* (Ні госць ні гаспадар, 221).

ДАЦІКАВА'ЦЬ *зак.* Падгледзець, дасачыць. *Хвядос дацікаваў, дзе Ганька дзелася* (Ні госць ні гаспадар, 241).

ДА'ЦЦА *зак.* Памерці (пра чалавека); здохнуць (пра жывёліну); зламацца (пра прадмет); парвацца

(пра адзенне, мяшок і інш.). *Не шанцуе яму з жонкамі: надта ж недаўгавечныя траплялі шляхцянкі: адна і года не выбыла, другая крыху мацавалася, ды і тая от далася* (Нядоля Заблоцкіх, 236).

ДЖУБА'СІЦЬ *незак.* Дубасіць. *За што ён жонку джубасіць?*

ДЖУПЛЁЎКА *ж.* Лупцоўка. *Пакінула дома* [дзяцей], *а прышла — німа, дык добрую джуплёўку дала.*

ДЖУПЛЯВА'ЦЬ *незак.* Лупцаваць. *Мала яго* [сына] *джупляваць за гэта, забіць трэба.*

ДЖЭ'ГАЦЦА *незак.* 1. Гушкацца. *Палажылі дошку на плот і джэгаюцца.* 2. Зыбацца. *Сталі на клатку і джэгаюцца. Падпяражацца* [калі ўвязвае воз] *па грудзях вужышчам, упрэцца нагамі ў снапы, джэгаючыся, спускаецца аж да зямлі плячыма* (Ні госць ні гаспадар, 180).

ДЖЭ'ГАЦЬ *незак.* Калыхаць, гушкаць. *Джэгай калыску, а то дзіця прачнецца.*

ДЗЕ'ДАВАЦЬ *незак.* Частавацца, ласавацца ядой. *Я прышла, а яны дзедуюць: поўны стол яды, гарэлка.*

ДЗЫ'БАЦЦА *незак.* Зыбацца. *Клатка гэтак дзыбаяцца, што ні пірайці. Чаго гэта калыска дзыбаяцца?*

ДЗЫ'БКІ *прым.* Зыбкі.

ДЛЯ'КАЦЦА *незак.*, ЗАДЛЯ'КАЦЦА *зак.*, ПРАДЛЯ'КАЦЦА *зак.* 1. Заседжвацца ў каго-н., затрымлівацца. *Пашоў папытаць, калі паедзям, а длякаяцца ўжо час. Задлякаўся я ў вас, трэба іці аглядацца.* 2. *толькі незак.* Павольна рабіць што-н. *Колькі той работы, а ён усё длякаяцца.*

ДРАМА' *ж.* Паднябенне. *Гарачы чай піла, апяклася — уся драма баліць.*

ДРЫТАВА'НКА *ж.* Пуга, туга звітая з трох вяровачак. *У яго дрытаванка, як дрот.*

ДРЫТАВА'НЫ *прым.* У выразе: *дрытаваная пуга* — тое, што і *дрытаванка.*

ДРЫТАВА'ЦЬ *незак.* Віць *дрытаваную пугу. Я ні ўмею добра дрытаваць, папрасі каго-нібудзь.*

ДРЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Трывожыць, выклікаць неспакой. *І што яго так дрэнчыць, што ні можа заснуць?*

ДУРАЎНЫ' *прым.* Які любіць дурэць, дураслівы. *Такі хлопяц дураўны, пакіняш аднаго — што-нібудзь зробіць. Цікава было настаўніку, у малога распытаў-*

*шыся, успамянуць свае семінарскія, дураўныя гады* (Нядоля Заблоцкіх, 256).

ДЫ'БАЧКІ *мн.* У выразах: *на дыбачках (падысці, прайсці, прабегчы)* — на пальцах ног; *на дыбачкі (стаць, узняцца)* — на пальцы ног. *Стаў на дыбачкі, дык роўны з бацькам. Ціхенька на дыбачках, прыслухоўваючыся, каб хто не найшоў, падышоў ён к насценнаму шкапчыку...* (Трахім — штучны чалавек, 35), *Борздзенька на дыбачках, каб у хаце не пачулі, пабег у гумно* (Ні госць ні гаспадар, 141).

ДЫ'ГАЛІ *мн.* Хадулі, дыбы. *Зрабіў дыгалі з двух калоў, становіцца на іх і ходзіць, аш пат страху дастаг.*

ЖЫ'МРЫЦЬ *незак.* Есці што-н. сухама. *Сядзіць на прызьбя і жымрыць нешта.*

ЗА'ВАЛКА *ж.* Засаўка, якой запіраюць дзверы ў хаце. *Запры на завалку сенцы, як будзяш куды іці. Чувяць толькі было, як бразнула завалка ў сенцах і скрыпнулі хатнія дзверы* (Ні госць ні гаспадар, 103).

ЗА'ЛАП *прысл.* За чуб, за валасы (узяць, схапіць). *Схваціў яго залап і ні пусьціў.*

ЗАМАРО'КА *ж.* Замарачэнне. *Замарока нейкая на міне найшла, нічога ні помню.*

ЗАПАМЕ'ТНЫ *прым.* Заметны, які добра вылучаецца, заўважаецца. *У міне такі запаметны грэбянь быў. То падымаў, то назад клаў ёй на плечы тую белую, здалёк запаметную, завязаную пад бараду хустку* (Цеснаватая куртачка, 17).

ЗАПАМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Заўважыць. *Даўно ўжо я запамеціў, што яна ні здаровая. Прыгнуўся Іллюк у варотах. Паглядзеў — знаць сляды. І на ганку гэта самае запамеціў* (Іллюк-даследчык, 42).

ЗАСТАЛУ'ЧВАЦЬ *незак.*, ЗАСТАЛУ'ЧЫЦЬ *зак.* Заступаць каму-н. свет, закрываць, засланяць ад каго-н. тое, што можна бачыць. *Пайдзі ты куды, ні засталучвай ты мне сьвету. Атступіся, усё акно засталучыў ... Каб свету не засталучыла тая мяцеліца...* (Цеснаватая куртачка, 28—29).

ЗАСТАРО'НАК *м.* 1. Месца ў таку злева і справа ад варот, адгароджанае ад сярэдняй часткі. *У адзін застаронак зложылі сена, а другі гуляя.* 2. Загародка з тоўстых дошак ці плашчакоў у таку, якою адгароджаны левая і правая частка ад сярэдняй. *Адчыніў ток. Распа-*

*сцёр рэзгіны ля застаронка... Сеў на застаронку* (Іллюк-даследчык, 41).

ЗА'ЎГАДЗЯ *прысл.* Загадзя. *Заўгадзя ён ведае, што лапцявата ў яго выйдзе гэта прапанова* (Ні госць ні гаспадар, 216).

ЗАЎНІМА'ЦЦА *незак.*, ЗАЎНЯ'ЦЦА *зак.* Спыняцца. *Заўняўся на мінуту і пашоў. Падыдзе туды і Пётра. Заўнімецца збоку дзе* (Ні госць ні гаспадар, 142).

ЗБРО'ДАВАЦЬ *незак.* Шукаць лепшай травы, лезці ў канюшыну, пасевы (пра карову, каня), лазіць па хаце, шукаючы яды (пра чалавека, ката). *Ні хоча, як усе каровы, скупці на балоця, а збродуя, шукая, кап улесьці куды. Збродуя па хаця, як той кот.*

ЗВАГ *м.* 1. У выразе: *у адзін звагу* — разам, у адзін голас, адначасова. *Сядай, Ігналя! — у адзін звагу папрасілі абое гаспадары* (Ні госць ні гаспадар, 153). *Малыя бягуць у вуліцу. «Так не пусціць», — у адзін звагу пішчаць* (Там жа, 169). 2. У выразе: *адным звáгам* — аднастайна, манатонна, невыразна. *Адным звагам дзяўбе, бы чытае па-славянску* (Ні госць ні гаспадар, 163).

ЗВЫЦЕ'НЖЫЦЬ *зак.* Асіліць, перамагчы; узяць верх над кім-н. *Ён чуць звыцэнжыў, хоць многа старшы. Звыценжылі яго, дык ціпер праходу хлопцу німа.*

ЗГАРА'СТАЦЬ *зак.* З цяжкасцю набыць, агораць. *Згарастаў сабе хатку, як хлеўчык, і жыве.*

ЗГЛЭ'БАЦЬ *зак.* 1. Абхапіць ці ўзяць абедзьвюма рукамі. *Зглэбаў капу сена і панёс.* 2. Прыбраць к рукам, прысвоіць. *Зглэбаў усё маё дабро і ні аддае.*

ЗДО'ХЛІЦА *м.* і *ж.* 1. Худы хваравіты чалавек. *Ні есьць нічога здохліца гэта.* 2. Гібель, смерць. *Здохліцы на цібе німа, ні здохняш ты.*

ЗДУ'МАЦЬ *зак.* 1. Выдумаць, пусціць пагалоску. *Здумаў, што я ўчора ў сат лазіў. Здумалі на міне, а я ведаць ні ведаю.* 2. Прыдумаць. *Нічога Хвядос не мог здумаць, як бы абысціся пры такім здарэнні* (Ні госць ні гаспадар, 216). *І дзіва тут няма, што далікатнейшае яму здумалі людзі імя.* (Нядоля Заблоцкіх, 230).

ЗЗА'МАЛАДУ *прысл.* У маладыя гады. *Ззамаладу ніхто зжацца са мной ні мох. Яшчэ ззамаладу пра Тахвілю благая слава па людзях пайшла* (Тахвілін швагер, 58).

ЗЛА'ГАДНА *прысл.* Згодна, мірна, дружна, у злагадзе. *Гэтак злагадна жылі, а ціпер ні на парох. Сва-*

*рыліся, ды і ці раз, а назаўтрае забываліся і злагадна жылі* (Ні госць ні гаспадар, 132).

ЗЛЫ′ХТАЦЦА *зак.* Злыгацца, знюхацца. *Злыхтаўся з гэтай хеўраю — ціпер дома мала бывая.*

ЗМАЛІ′ЦЦА *зак.* Сабрацца сказаць ці зрабіць што-н., адказаць на пытанне. *Пакуль ты змолісься, дык я дома буду. Яшчэ не змоліцца Клемка адказаць, куды ён: у першазімцы ці ў першае гэты год сесці думае, а ўжо настаўнік вітацца ў яго просіць: «Дай сюды праву́ю!»* (Нядоля Заблоцкіх, 243).

ЗМЫ′СЛЫ *прым.* Кемлівы, разважлівы. *І не будзе на іх маракаваць змыслы чалавек* (Нядоля Заблоцкіх, 226).

ЗНАКАМІ′ТЫ *прым.* Добра дасведчаны, знаток. *Старшыня знакаміты па гэтай частцы чалавек* (Ні госць ні гаспадар, 171).

ЗО′ЎШЫЦА *ж.* 1. Напасць, недамаганне, хвароба. *Назаўтра нейкая заўшыца як убілася ў кацяняты, як узяло іх гнуць, курчыць — як на жывот...* (Тахвілін швагер, 57). 2. Жартаўлівае пажаданне з няпэўным значэннем. *Хай цібе зоўшыца, хай цібе — насьмяшый. «Каб на вас зоўшыца з вашаю работаю!» — бубніў ён, у хату прыйшоўшы* (Нядоля Заблоцкіх, 275).

ЗЬДЗЮ′ЖЫЦЬ *зак.* Моцна выцяць чым-н. цяжкім. *Як зьдзюжыў чаранком лапаткі, дык* [свіння] *і села на заднія ногі.*

ЗЬНІЛЮБІ′ЦЬ *зак.* Перастаць любіць, зненавідзець. *Зьнілюбіла яна яго — ні на вочы. Зьнілюбіў ён і гаспадарку, і сям'ю, і ўсіх на сьвеце.*

КАЛАШНЯ′ *ж.* Вузкі закутак у гумне, адгароджаны ўздоўж падоўжнай сцяны. *Мякіну ў калашню піранесьлі. Да часу падаткнуў кніжкі пад страху ў калашню* (Ні госць ні гаспадар, 141).

КАПО′ТА *ж.* Дзіцячае ці жаночае верхняе адзенне накшталт паліто. *Пашыла хлопцам капоты с корту на ваця. На капоту і на штаны набрала чортавай кожы. Палажыў пад лаваю лапаць на лапці, як падушку. А пры іх разаслаў сваю шарачковую капоту. На капоце лёг* (Іллюк-даследчык, 45).

КАРАФІ′НКА *ж.* Графін. *Карафінку пабілі, як госьці былі. Біс карафінкі як біз рук. Так мы пamaленьку і асушылі з карафінкі кварты паўтары на двух* (Ні госць ні гаспадар, 134).

ҚАШАРЫ′ЦЦА *незак.* 1. Доўга, з ахвотай купацца. *Бачыш, як кашарыцца, з вады ні выцягняш.* 2. Брысці па глыбокай гразі. *Глядзі, як нехта кашарыцца каля Валеньціка.*

ҚАШЧАРЫ′ *мн.* 1. Рэшткі каласоў у мякіне ці збожжы. *Аграбі кашчары з жыта.* 2. Абадраныя дудкі пер'я. *Цэлая рэшата кашчароў с пер'я, што ўчора паскублі.*

ҚВІТА′РУСЬНІҚ *м.* Қніжачка бланкаў квітанцый, квітоў. *Қвітарусьнік кончыўся, зоўтра квітанцыю дасьць. Узяў Бладзік ад сакратара самаробны квітарусьнік, увесь злеплены сельсавецкаю пячаткаю, дзе трэба і дзе не трэба* (Ні госць ні гаспадар, 168).

ҚО′ЛАТ *м.* Доўгі кій з перакладзінай на адным канцы, якім заганяюць рыбу ў сетку ці нерат. *Вазьмі колатам пагані с асакі рыбу. Қолатам пат карчом пабі — выйдзя, калі што ест.*

ҚО′МІНҚА *ж.* Лямпавае шкло. *Вытры комінку троха: сусім чорная стала. Қомінка вышчарбілася.*

ҚО′ТВА *ж.* Месца, дзе на вялікдзень качалі яйца. *Там на ўзгорку ўжо было крыху стужала зямля. Зрабілі котву* (Нядоля Заблоцкіх, 264). *Самы апошні прыйшоў на котву Савоста Заблоччык* (Там жа, 264).

ҚРАМА′Ч *м.* Стары нож з адламаным канцом. *З моху, з спрадвечнай глушы памагаў ён ім* [баравікам] *крамачом, крыху знізу падважыўшы, вылезці, убачыць большы, дальшы свет* (Нядоля Заблоцкіх, 231).

ҚУ′ДЗЯРҚА *ж.* Невялікі лясок сярод поля, лугу ці балота. *Қаля Шыкатавіч была нівялікая кудзярка лесу — Астравок звалі... Па берагах канаў стаялі кудзеркі алешніку* (Ні госць ні гаспадар, 97).

ҚУЛЬША′Қ *м.* Сцягно, кульша. *Қуды ты свой кульшак суняш, німа ўжо месца, я сам адным кульшаком сяджу.*

ҚУ′МІЛЬГАМ *прысл.* Қулём, стрымгалоў. *І кот кумільгам шмыгнуў са стала* (Ні госць ні гаспадар, 93).

ҚУ′ПЛІВА *н.* 1. Пакупка, купля, купленае. *Усё купліва ў мяшок злажыла.* 2. Қуплянне. *Адлажыў купліва на другі раз* (Цеснаватая куртачка, 21).

ҚУРДАВА′ЛАҚ *м.* Цурбан, цурбалак. *Пазалетась былі клён за паграбцом спусцілі. Знайшоў ад яго некалькі курдавалкаў* (Ні госць ні гаспадар, 152).

ҚУ′ЦАЦЬ *незак.*, ПАҚУ′ЦАЦЬ *зак.* Пэцкаць. *Ні куцай рукі — зарас есьці будзям. Дзе ты чаравікі паку-*

*цаў? Знарок з хаты вынесла Шамручыха чыстую анучу пад калені падаслаць, каб не пакуцаў Савоста сваіх вучнёўскіх адметных штаноў* (Нядоля Заблоцкіх, 264).

ЛАГАНІ'ЦЬ *незак.* Многа гаварыць попусту, абышто. *Лагоніць па ўсім сяле — пакуль усе хаты пройдзя, то і вечар. Усё лаганіў, па сяле ходзячы* (Трахім—штучны чалавек, 30). *Толькі слухаць не люблю, што многа лагоніш і, што ні слова, дык салжэш* (Іллюк-даследчык, 39).

ЛАГО'ДЗІЦЬ *незак.*, ЗЛАГО'ДЗІЦЬ *зак.* Майстраваць што-н. *Лагодзіць сабе лыжы з доўгіх шчакецін. Злагодзіў добрыя сані.*

ЛАГО'ШЫ *мн.* Лагожы, развалкі. *Лагошы скінь с саней, па дрова паедзям.*

ЛАДЭ'ДЗІЦЬ *незак.* Доўга няспешна расказваць, весці працяглую размову. *Ладэдзіць цэлы час, а чаго хоча — нівядома.*

ЛАМА'Ш *м.* Стары нож; тупы малапрыгодны прадмет. *Выкінь гэты ламаш, вазьмі добры нош. Знойдзе ламаш які, у каторым жалязка год пяць як не точана* (Ні госць ні гаспадар, 157).

ЛАПУШЫ'ЦЬ *незак.*, НАЛАПУШЫ'ЦЬ *зак.* 1. Ірваць паспешліва, без разбору. *Глядзі, як рэпу лапушыць. Налапушыў гароху поўную шапку.* 2. Біць каго чым-н. *Калом лапушыць, а ён ні слова.*

ЛІЖЭ'ЦЬ *незак.*, ПАЛІЖЭ'ЦЬ *зак.* Слабець, станавіцца меншым (пра мароз). *Сёньня стала ліжэць — відаць, на адлігу. На вуліцы паліжэла троха; марос паменшаў.*

ЛО'КІШ *м.* Локаць. *Патпёрся на локіш і сядзіць. Локішам яго атпіхнуў.*

ЛУ'ЧЫЦЬ *зак.* Трапіць, трапіцца, надарыцца. *Не такі б быў Заблоцкім жаль, каб ціхія каты пападаліся, а то самыя крыклівыя ўсякі раз лучаць да іх* (Тахвілін швагер, 54).

ЛЫ'БАЗІЦЬ *незак.* Есці павольна, не адчуваючы смаку, перабіраючы. *Што гэта за яда — лыбазіць, есьць як ні сваім ротам.*

ЛЫ'ГІ *мн.* Ногі; доўгія ногі. *Распусьціў свае лыгі, дык ні сойдзясься — бехчы трэба.*

ЛЫ'ХТА *ж.* Пляткарка, балбатуха. *Лыхта гэта зноў нешта панесла па хатах, абрэхуя каго.*

ЛЫ'ХТАЦЬ *незак.* Пляткарыць, нагаворваць. *Дачка як матка — лыхтаць любіць.*

ЛЯЙЦА'ЦЬ *незак.*, ЗАЛЯЙЦА'ЦЬ *зак.* У выразе *ляйцаць, (заляйцаць) каня* — запрагаючы каня, прымацаваць лейцы да аброці. *Заляйцай каня ды садзіся скарэй.*

ЛЯКАТА'ЦЬ *незак.* Ляскатаць.

ЛЯКО'ТКА *ж.* 1. Ляскотка. *Лякотак ціпер німа, некалі былі, стораш яе трасе, а яна такім малаточкам па досцацца стукая, лякоча.* 2. Балбатлівая жанчына. *Зноў пачала гэта лякотка.*

ЛЯЎША'К *м.* Ляўша, ляўшун. *Ляўшак ужо ні піраложыцца — усё леваю робіць.*

ЛЯ'ХА *ж.* Рэха, пошчак. *Крычоў, крычоў, толькі ляха ідзе, а вас нікога німа.*

МАДЫГАВА'ЦЦА *незак.*, ПРЫМАДЫГАВА'ЦЦА *зак.* Прыладжвацца, прыстройвацца, прымошчвацца. *Хваціць мадыгавацца, еш. Прымадыгавайся неяк і ўзьлес аш на верх.*

МАЛЕ'НЯЧАЧКІ *прым. памянш.* Маленькі, надта маленькі. *Такі маленячачкі быў, я і кажу: «Ён, мусіць, ні вырасьця».*

МАЛЁГАЦЬ *незак.*, УМАЛЁГАЦЬ *зак.* Угаворваць, упрошваць. *Колькі яго ні малёгалі, німа рады — ні захацеў прыці. Валька Пецьку ўмалёгала, кап ышоў дадому. Прызнайся, Андрук! Тут жа нікога чужога няма — усе свае людзі,— малёгаюць яго мужчыны. — Без чорта ў гэтай справе не абышлося?* (Тахвілін швагер, 74).

МАНІ'СТКА *ж.* Маніста, нізка (тытуню, кляновага лісту і інш.). *Цэлую маністку кляновага лісту назьбірала — хлеп пячы.*

МАНКЕ'ТЫ *мн.* Манжэты рукавоў. *Схавай манкеты, вылезьлі сь пінжака.*

МАРСЬКАНУ'ЦЬ *зак.* Адскочыць; хутка пабегчы. *Марськануў — толькі яго і бачылі.*

МУТА' *ж.* Муць. *Вылязь з вады, мута с-пад нох ыдзе, нічога ні відаць.*

МЫРЭ'Ц *м.* Нырэц, нырок. *Як доў мырца — думалі ні вылязя, доўга ні відаць было.*

МЭ'ДЗІЦЦА *незак.* Прымервацца да справы, меціцца яе зрабіць, доўга збірацца зрабіць. *Як ні мэдзіўся ён з хлебам, але такі, пакуль жонка ў хату, з'еў усю лусту* (Трахім — штучны чалавек, 37).

МЯТУШЫ'ЦЦА *незак.* Мітусіцца. *У горадзя мятушацца людзі, як птушкі. Мятушыўся, чуваць было, бусел над крыніцамі на сваім гняздзе* (Нядоля Заблоцкіх, 284).

НА'ВЯСКА *ж.* Загавораная шаптухай ніцяная перавязка на балючым месцы. *Рабілі і навяску і лячылі — нішто ні памагала, а потым само прайшло.*

НАГНО'М *прысл.* Нагбом. *Выцягнуў са студні вады, напіўся нагном зь вядра. Нагном цэлы збанок млека выпіў.*

НАДАЛО'НЧАНАЯ *прым.* З нашытай «далонню», падшытая якім-н. матэрыялам (пра рукавіцу). *У шырокіх надалончаных рукавіцах ягоныя рукі здаваліся мядзвежымі лапамі* (Цеснаватая куртачка, 27).

НАДАЛО'НЧЫЦЬ *зак.* Нашыць «далоні» на рукавіцы. *Надалончыла новым сукном рукавіцы.*

НА'ЗІР *прысл.* Назіркам. *Назір за ёю, крыху пачакаўшы, пайшоў і ён туды* (Ні госць ні гаспадар, 214).

НАКПІВА'ЦЬ *незак.* Кпіць, падсмейвацца. *Накпіваюць з нашага брата колькі хочаш гэтыя бабы, а мы здачы ні можам даць. Смяяцца, накпіваць будуць: «Разумнік знайшоўся»* (Ні госць ні гаспадар, 142).

НАКШ *прысл.* Інакш. *Я накш і ні думала. Усё роўна накш зробіць.*

НА'КШЫ *займ.* Іншы, інакшы. *Накшым разам скажу, можа. Але нешта накшае думаў Юстап Заблоцкі* (Нядоля Заблоцкіх, 252).

НА'ЛАПАМ *прысл.* Нечакана. *Наляцелі немцы налапам — на машынах і мацыклетах. Налапам папытоў міне, дзе была, а я кажу: «У леся, у грыбы хадзіла».*

НА'МАРЗЬНЯ *ж.* Вяровачная пятля на капыле саней, якою прымацоўваецца аглобля. *Намарзьня парвалася, дык з дупцоў зрабіў і прыехаў.*

НАПАШЭ'ВЯ *прысл.* Пад рукою, на відавоку. *Здэцца, палажыла напашэвя, ціпер ні найду. Ды няма матэрыялаў напашэве* (Ні госць ні гаспадар, 152).

НАЎЗА'ВАДЫ *прысл.* Наўскач. *Пайшлі хлопцы наўзавады, а ён с каня скінуўся.*

НАЎЛЕ'ЧКА *ж.* Навалочка, навалачка. *Памыла ўсе наўлечкі, дык падушкі так ляжаць. Трэба чаго на наўлечкі купіць.*

НЕ'БАЛАЗЯ *прысл.* У выразе: *будзе небалазя* — будзе нядобра.

НЕ′МАЧ *ж.* 1. Слабасць, хворасць. *Немач нейкая напала — іці ні магу.* 2. Перашкода. *Ён мне ні помач, а немач.* 3. У выразе: *немач яго ведае* — хто яго ведае.

НІДАВЯ′РАК *м.* Злыдзень, прайдзісвет. *Нідаварак гэты гэтулькі натварыў, што страх падумаць. Такі нідаварак, што сьвет ні бачыў.*

НІДАТКЛІ′ВЫ *прым.* і *наз.* Недаткнёны. *Такі нідаткліўы, чуць што сказоў — ужо плача.*

НІДАТКНЕ′НТЫ *прым.* і *наз.* Тое, што і *недаткліўы. Будзяш такі нідаткненты, усе сьміяцца будуць. От ужо нідаткненты — і воспы, і ўколу баіцца.*

НІДО′ШЛЫ *прым.* Слабы, слабасільны. *Кракталі жабы ля мастка ў завоіне, што зрабілі малыя, загацiўшы баркаўскі нядошлы ручай* (Нядоля Заблоцкіх, 284).

НІДЭ′ШЛЫ *прым.* Слабы ад хваробы ці старасці. *Ён сусім ужо нідэшлы — усё дома сядзіць. Нідэшлы, а лезя туды, куды і хлопцы. Што там трэба нядэшламу чалавеку: пад'еў, калі даюць, ды ў запечак тэпай* (Ні госць ні гаспадар, 199).

НІЗЛА′ГАДА *ж.* Неспакой, сварка, нязгода. *Нізлагада ў іх — адзін адно, другі другоя. Нізлагада хату да дабра ні давядзе.*

НІЗЛА′ГАДНА *прысл.* Нязгодна. *Нізлагадна яны ўжо даўно жывуць.*

ПАВІВА′НКА *ж.* Пуга, звітая з дзвюх столак і абвітая тонкай вяровачкай. *Павіванкай такія пісагі на бакох карове нарабіў. Зьві і мне павіванку.*

ПАВІВА′НЫ *прым.* У выразе: *павіваная пуга* — тое ж, што і *павіванка.*

ПАВІВА′ЦЬ *незак.* Абвіваць тонкай вяровачкай пугу ці іншую вяроўку. *Німа часу мне павіваць, а то добрая пушка вышла п.*

ПАВЯНДЛІ′ЦА *ж.* Кумпяк, шынка. *Павяндліцы павесілі на закот патсушыць на сонцы.*

ПАГО′НКА *ж.* Агароджаны прагон для жывёлы з вёскі да месца пашы. *Прагані да пагонкі авечкі, а там самі на балота пойдуць. Толькі з вуліцы ў пагонку выехаў Хвядос, перавалок путам Каштанку па рэбрах і патрухаўся* (Ні госць ні гаспадар, 124).

ПАДАВА′ЦЦА *незак.,* ПАДА′ЦЦА *зак.* Здавацца, паказвацца. *Падаецца, як бы страціў нешта ды і забыўся, што і дзе* (Ні госць ні гаспадар, 81). *Мне падалося,*

*што Пецька ідзе. Падалося Вольцы, што нешта супярэчыць хоча Адась* (Цеснаватая куртачка, 17).

ПА'КАЛАК *м.* Калок, невялікая палка. *Чуць абаранілася* [ад гусака], *добра, што нейкі пакалак папоўся.*

ПАТПА'САВІЧ *м.* Падпасак. *Сягоньня — наш патпасавіч, а зоўтра вы давайця. «На вакантнае месца — пастуху за патпасавіча? Так?..» — папытаўся ён у настаўніка* (Нядоля Заблоцкіх, 266).

ПАТСМА'КАВАЦЬ *незак.* Выказваць шкадаванне аб чым-н., суправаджаючы цмоканнем. *Патсмакуй ні патсмакуй, усё роўна ні верняш. Аж патсмакаваў ён потым, што прапусціў такую важнецкую гаворку* (Іллюк-даследчык, 53).

ПАТШЫВА'ЛЯЦ *м.* Падшыванец. *Патшывальцы ўсе грады стапталі. Які-нібуць патшываляц вучыць цібе будзя. Пры конях яны засталі гурт мужчын з хлопцамі-падшывальцамі* (Ні госць ні гаспадар, 97).

ПАЎЗДУ'ЖАЦЬ *зак.* Асіліць, здолець, здужаць. *Я чуць паўздужаў паваліць яго. Ты паўздужаяш усё зрабіць. Праз паганы свой талент, праз дурную натуру ўрабіць зямлю не паўздужае* (Нядоля Заблоцкіх, 234).

ПАЎМЕ'ЖАК *м.* Шырокая мяжа, парослая травой. *Усё зямлі людзям мала. Паўздзіралі межы, паўмежкі* (Ні госць ні гаспадар, 150).

ПАЎШО'РЫ *мн.* Шоры. *Паўшоры — гэта кап каню хамут на галаву ні лес.*

ПАЧЫ'НАК *м.* Клубок нітак, наматаны з адной вітушкі.

ПАШАНО'ТА *ж.* Пашана, догляд. *Ніколі мне такой пашаноты ўжо ні будзя. Нашто мне такая пашанота, калі трэба рабіць. А дадому прынясуць, дык колькі таму кацяняці пашаноты* (Тахвілін швагер, 54).

ПАШАНО'ТНЫ *прым.* Шаноўны; прыстойны. *Сыры куплялі ад яго, бо бачылі, што чысты, пашанотны чалавек* (Тахвілін швагер, 73).

ПАШПА'РЫЦЬ *зак.* Кінуць, шпурнуць. *Пашпарыў кніжку на падлогу і ў сьлёзы. Я цібе пашпару другі рас, будзяш ведаць, як хлеп кідаць.*

ПАЯДА'ЦЬ *зак.* З'есці, паесці. *Сынок, паядай троха ды бяжы травы парасятам зьбяры. Пайшоў у агарод шукаць мацеры, каб паядаць дала* (Ні госць ні гаспадар, 93).

ПАЯ'ЗД *м.* Павозка. *Любіць Пракоп сытага каня і добры паязд, каб і ехаць шпарка, і выкіравацца спрытна* (Тахвілін швагер, 70). *От ён тады ў стальмашні і налажыўся гэблік у руках трымаць, з пілкаю ды з долатам як абыходзіцца, сёе-тое ў паяздзе паправіць мог* (Нядоля Заблоцкіх, 273).

ПЕ'ЛЮСЬЦІ *мн.* Пелюшцы, папярочныя краі ночваў. *У вялікіх ночвах пелюсьці раскалоліся.*

ПЕ'РША *прысл.* Раней, перад гэтым. *Стаіць у яго таку тая самая, што перша, як адыходзіў у лес у грыбы, бачыў каля сваіх варот, сівая кабыла* (Нядоля Заблоцкіх, 232).

ПІРАКА'З, *м.* Вестка ці запрашэнне, перададзенае праз каго-н. *Пераказу чакаў ухвалёны музыка; чакаў, калі прыйдуць з дому весткі* (Нядоля Заблоцкіх, 231).

ПІРАКО'РНЫ *прым.* 1. Які робіць наперакор. *Яська такі піракорны, ніколі ні ўгадаяш, што зробіць.* 2. Зробленае ці сказанае наперакор. *З чапялою ў руках распачала яна перакорную гаворку* (Нядоля Заблоцкіх, 253).

ПІРАКО'РЫЦЬ *незак.* Рабіць ці гаварыць наперакор. *Другі, здаецца, і не задзіра, а як нападзе яму горасць на язык, дык і давай прычапкі шукаць, каб сабе і другому кроў з носа спусціць, каб сварыцца, перакорыць* (Ні госць ні гаспадар, 155).

ПІРАЛАЖЫ'ЦЦА *зак.* Набыць новыя прывычкі, навучыцца інакш рабіць, інакш весці сябе. *Я дык ніяк ні магу піралажыцца: як у нас дома рабілі — гэтак і я.*

ПІРАТКАВА'ЦЬ *незак.* Старацца быць наперадзе, паказаць сябе. *З яго сяброў перадкаваў у гурце Платон Ліняўскі* (Ні госць ні гаспадар, 101).

ПІРАТТО'Ч'Я *н.* Выбітая глінай пляцоўка ў гумне насупраць варот, ток. *Абярнулі вос на піратточ'і, ціпер складаць будзям. Некалі на піратточ'і малацілі снапы цапамы.*

ПЛЯНТАВА'ЦЬ *незак.* 1. Раўнаваць няроўнасці на сенажаці ці пашы. *Трэба Шэдзяўку і Лукі плянтаваць — куп'я многа, краты нарылі.* 2. Вытоптваць, збіваць пасевы. *Размінаюцца цяпер, на чыю ніву з'ехаўшы. Плянтуюць ад краю ячмяні, гарохі, градкі з картопляю* (Ні госць ні гаспадар, 150).

ПО'ВАЛАЧ *м.* Паблытаны на сцелішчы лён. *Так многа повалачы, мусіць, коні пахадзілі.*

ПО'ЙКА *ж.* Соска. *Надзень пойку і дай дзіцяці, хай сьсе.*

ПО'РАЎНЯ *прысл.* Пораўні, побач, поплеч. *Доўга пораўня ішлі, гаворым, а потым кінуў і пашоў. Ціпер, на прызбе пораўне седзячы, ёй было многа гэта зручней* (Цеснаватая куртачка, 18). *Ідзе за ім пораўне і Савоста, як там і што ў школе распытваецца* (Нядоля Заблоцкіх, 244).

ПО'СІК *м.* Мачавы пузыр. *Некалі посік авечы ці сьвіны надзьмуць, высушаць, а потым дзіразу ссыпаюць.*

ПО'СЫП *м.* Адтуліна, шчыліна, праз якую засыпаюць зерне ў млыне для памолу ці ў ачышчальную машыну (арфу, трыер і інш.). *Зрабі большы посып, лепш арфавацца будзя. У млыня, як вялікі посып, буйна меля.*

ПО'СЯЛКА *ж.* Ручка вядра. *Вазьмеця за посялку ўдваіх, ляхчэй несьці будзя. Посялка рэжа руку, як поўная вядро.*

ПО'ШПАРКАМ *прысл.* Параўн. *Пашпарыць.* Кінуўшы які-н. прадмет (стукнуць, ударыць). *Хапіў нейкі вурвалак і пошпаркам у сабаку.*

ПРАПАСЬНЯ' *ж.* Вялікая колькасць, многа, без ліку. *Прапасьня людзей тут піравярнулася за гэты час.*

ПРО'МЕШКА *ж.* Мука для запраўкі корму жывёле, вобмешка. *Ні набярэсься гэтай промяшкі, хай яно гарыць. «Гарнец хачу зрабіць мамцы на промешку»,—нясмела прызнаецца Ігналя* (Ні госць ні гаспадар, 156).

ПРЫ'ГАЛАВІЧЫ *мн.* Два палены, на якія кладуць дровы ў печы. *Выбяры добрыя прыгалавічы, кап сухія былі.*

ПРЫЖА'ЛЯЦЬ *зак.* Крыху падгарэць на гарачай печы, ляжанцы (пра адзенне, тканіну). *Прыжаляла хустачка, на чарэні лежачы.*

ПРЫКА'ЗАВАЦЬ *незак.* Галасіць па пакойніку. *Хваліся* [уласнае імя] *перад людзьмі ўсяго разоў два бралася прыказваць* (Ні госць ні гаспадар, 141). *«Гад ты!.. Цераз цябе прападзем!» — доўга-доўзазна прыказвала, лепш, як па мерцвяку* (Там жа, 141).

ПРЫ'КЛЯП, ПРЫКЛЁП *м.* Удзел у якой-н. справе толькі для бачнасці. *Зробіць толькі прыкляп, а ты маліся на яго. Прыкляпам у нас ні адбудзяш — пасядзі, выпі, пагавары. Хто зойдзе выпадкам, дык старайся знайсці які-колечы прыклеп, каб уцячы хутчэй, чужога ў хаце пакінуўшы* (Ні госць ні гаспадар, 182). *«Ну, Савоста? Як ты*

*на гэта? Пойдзеш вучыцца?» — зрабіўшы прыклёп, папытаўся Юстап у малога* (Нядоля Заблоцкіх, 240).

ПРЫРАДЗІ'НКІ *мн.* Першае наведванне парадзіхі. *Учора з Марыляю на прырадзінкі хадзіла.*

ПРЫСКІ'ЧЫЦЬ *зак.* 1. Прыціснуць, заставіць сілай. *Як добра прыскічыў, толькі тады грошы аддоў. Усе гэтыя панкі і палупанкі скарынку цвілую прасілі даць... калі то голад прыскічыў* (Ні госць ні гаспадар, 90). 2. Захацець чаго-н. *Калі так ужо прыскічыла, дык купі, грошай ні шкода.*

ПРЫ'СЬВЯТАК *м.* Дзень напярэдадні свята; невялікае свята. *Ні сьвята, ні прысьвятак ні згуляла, сьвету ні бачыла за работай. Сёння не свята і не прысвятак, а будні дзень — субота* (Іллюк-даследчык, 46).

ПРЫШЧЫКНУ'ЦЬ *зак.* Прышчаміць чым-н. (палец, скуру). *Троха паляц апцугамі прышчыкнуў.*

ПСЮ'РЫЦЬ *незак.*, ВЫ'ПСЮРЫЦЬ *зак.*, ЗАПСЮ'РЫЦЬ *зак.*, НАПСЮ'РЫЦЬ *зак.*, ПРАПСЮ'РЫЦЬ *зак.*, ПРЫПСЮ'РЫЦЬ *зак.* Гнаць. *Псюрыць усіх ат сібе, ні хоча слухаць. Усіх дзяцей выпсюрыў на вуліцу. Сабака запсюрыў яго аш у сенцы. Прыхоць ка мне, калі цібе прапсюрацць з дому. Пакуль той іх прапсюрыць, дык можна было б з ім пасправачацца ў ахвоту гадзін са тры* (Ні госць ні гаспадар, 84). *На што ты парасята сюды прыпсюрыў?*

ПУ'ГАЦЬ *незак.* Многа піць; піць вялікімі глыткамі. *Млека нагном са збанка пугая.*

ПУ'РЫЦЬ *незак.*, ВЫ'ПУРЫЦЬ *зак.*, ЗАПУ'РЫЦЬ *зак.*, НАПУ'РЫЦЬ *зак.* Гнаць. *Слонца шчэ вісока, а ён ужо авечкі пурыць дадому. Запурыў у кусты каровы, дык чуць нашлі. Напурыў гэтай гары* [самагонкі] *з буракоў, сахару і п'юць.*

ПУСКА'ЛКА *ж.* Дзіцячая забаўка — расшчэплены з аднаго канца кіёк, якім кідаюць («пускаюць») каменчыкі. *У яго добрая пускалка — далёка камянь ляціць, як пусьціш.*

ПЭ'НКНУЦЬ *зак.* Лопнуць, трэснуць, парвацца. *Мяшок скінула з воза, дык і пэнкнуў. Са смеху пэнкнуў бы* (Ні госць ні гаспадар, 159).

ПЯЛЯСКА'ЦЦА *незак.* Плюхацца, паласкацца. *Любіць у вадзе пяляскацца. Пялешчацца, як качка ў вадзе.*

РАЗГАРНЕ'НЬНЕ *н.* Занятак; цікавы занятак. *Разгарненьня ніяк сабе ні нойдзя. Німа ім тут у вёсца разгарненьня.*

РАЗГІРЭ′КА *м.* Раскірака. *Разгірэка гэты і сюды ўжо дапёў.*

РАЗГІРЭ′ЧАВАЦЦА *незак.,* РАЗГІРЭ′ЧЫЦЦА *зак.* Раскірачвацца; стаяць ці сядзець, шырока расставіўшы ногі. *Сей, разгірэчыўся, сядзіць і сядзіць, а ты сядзі пры ім.*

РАЗГІРЭ′ЧАВАВАЦЬ *незак.,* РАЗГІРЭ′ЧЫЦЬ *зак.* Раскірачваць (ногі). *Ні разгірэчавай так ногі косячы.*

РАЗЛАДЭ′ДЖВАЦЬ *незак.* Доўга, няспешна расказваць, весці працяглую размову. *Разладэджвая цэлы час, а тут работы сьвет. Слухай ты, што ён будзя разладэджваць.*

РАЗЛАДЭ′ДЗІЦЦА *зак.* Разгаварыцца. *Так разладэдзіліся, што ні чулі, як малоя прачнулася. Ціха, мужчыны! Паслухаем, што тут за рада,— супыніў крыху чаляднік свайго муляра, што разладэдзіўся быў са школьным вартаўнікам* (Нядоля Заблоцкіх, 264).

РАЗЫДАВА′ЦЬ *незак.* Выкідваць штукі. *Чаму на вечарынцы ці на вяселлі, як стануць абрусы паласкаць, жанкі ў штаны прыбяруцца ды калі ўсходзяцца разыдаваць* (Ні госць ні гаспадар, 162).

РАСКЕ′ПА *м.* і *ж.* Расцяпа. *Толькі сам сябе злаяў: «Раскепа».* (Ні госць ні гаспадар, 216).

РАСКО′Л *м.* Вісус, неслух. *Раскол нейкі, а ні хлопяц. Раскол гэны, што хоча, тое і робіць.*

РУ′ПІЦЬ *незак.* 1. Трывожыць, выклікаць неспакой. *Нешта рупіць дзіцяці, калі плача. Мне нешта рупіць, а што — ні ведаю.* 2. Цягнуць, прыцягваць. *Рупіць яму хоць рас за дзень зьбегаць да яе.*

РУ′ПЯСЬЦЬ *ж.* Руплівасць. *Рупясць таго гаспадара возьме* (Ні госць ні гаспадар, 211).

РУЧЫ′ЦЦА *незак.* Весціся (пра дамашнюю жывёлу). *Што ні кýпіць, то ў яго ручыцца, а ў нас як калі. От каб гэтак, як каты, авечкі ручыліся* (Тахвілін швагер, 55).

РЫДВА′Н *м.* Пра мажнога, дужага чалавека. *Хлопяц як рыдван — вялікі, дужы, а рабіць ні хоча.*

РЫМЕ′ЦЬ *незак.,* ЗАРЫМЕ′ЦЬ *зак.* Злаваць, злавацца на каго-н., выгаворваючы яму ці гаворачы гэта сабе. *Сьвякроў усю раніцу рыміць каля печы, а чаго — ні ведаю. Рыміць* [бацька]: *«Ніхто па тваёй старасці спагады не мае. Ніхто не сустрэне, не выправіць»* (Ні госць ні гаспадар, 151). *Язуп рыміць. Нешта ў скрыні перакідае* (Там жа, 157). *Сакратар зарымеў: «Ты, Андрэй, свае*

*жарты пакінь»* (Там жа, 111). *Злосцю бывае Вольга зарыміць, а зараз і ўсміхнецца, як бы нічога і не было* (Там жа, 190).

РЫ′ХТАЧКІ *прысл.* Як дзве каплі вады, якраз, дакладна. *Рыхтачкі бацячка — і сам, і хада, і нават глядзіць, як бацька. «Сапраўдная паненка, і ўхваткі ўсе дзявочыя, і голас. Ну — рахтачкі!»* (Ні госць ні гаспадар, 171).

РЭ′КНУЦЬ *зак.* Падаць голас, уставіць слова, сказаць. *За ўвесь вечар і ні рэкнуў. Сам ён ніяк патрэбнага слова не дабярэ. Хоча, бывае, нешта рэкнуць, ды рот расчыніць не адважыцца...* (Ні госць ні гаспадар, 215).

САЛАПА′Н *м.* Салапяка. *Эт, салапан нейкі, усё ротам глядзіць.*

САМАХЦО′М *прысл.* Сілаю, сілком.

САШЧАРЭ′ПІЦЬ *зак.* Сашчапіць. *Сашчарэпіў зубы, злуе і ні слова. Сашчарэпіў рукі.*

СКРЫ′ПАЦЦА *незак.* Часта хадзіць у хату і з хаты, часта адчыняць дзверы. *Ні скрыпайся ты, холаду ў хату напусьціш. Скрыпаяцца ўвесь дзень, а які толк.*

СКУДЗЕ′ЛЬНІЦЫ *мн.* Жанчыны, якія збіраюцца на попрадкі. *З хаты, дзе была зборня, адчыніліся дзверы. Загаманілі скудзельніцы* (Ні госць ні гаспадар, 215).

СЛАБІ′ЦЬ *незак.* Звычайна ў спалучэнні з займеннікам *табе, яму, вам, ім.* Заахвочвальнае слова, якім выклікаюць субяседніка нешта зрабіць,— не здолееш, не хопіць сілы, рашучасці. *Слабіць табе камянь дакінуць да таго берага.*

СЛАБО′ *прысл.* Тое, што і *слабіць. А табе слабо ні раззуўшыся рэчку пірайці. Слабо табе гэты мех падняць.*

СПАНА′ТРЫЦЬ *зак.* Зрабіць прывычкай, правілам; увесці ў звычай; унадзіцца. *Спанатрылі ў нядзелю ў карты ў нас гуляць, дык хоць махалам махай — ідуць і ідуць. Спанатрыла хадзіць у пазыкі — пазыч хлеба, пазыч солі.*

СПО′ЗДРЫЦЬ *зак.* Уцяміць, зразумець. *Хутка спаздрыў Адась, якое яму шчасце само ў рукі прыйшло* (Караткаватая куртачка, 20).

СПЭ′ЙКАЦЬ *зак.* Сапсаваць, дабіць; згубіць, страціць. *Спэйкаў часы — круціў, круціў, пакуль ні скруціў. Спэйкалі такога добрага каня. Ну, ножык мой, мусіць, ужо спэйкаў, ні відаць нідзе!*

СТАРАНА′ *ж.* Тое, што і *застаронак. Усю старану залажыў сенам і канюшынай, а другую калгас займая.*

СТРЭ'НЧЫЦЬ *незак.* Дагаджаць, наравіць. *Яму стрэнчаць, як ліхой скуле.*

СТЫКА'ЦЦА *незак.* Толькі ў выразе: *дома ні стыкаяцца* — ніколі не бывае дома.

СУ'ДАР *м.* Сударга, сутарга. *Яму судар нагу пацьцягнуў.*

СУМО'ДАЦЬ *зак.* Сумець, змагчы. *Як гэта ты сумодаў так скора вярнуцца? Сумодаў зрабіць сам, біз настоўніка.*

СУТО'НІЦЦА *зак.* Змеркнуцца. *Як толькі сутоніцца, ужо зьбіраюцца на лавацца.*

СЫ'НЬНІ *прым.* Сынаў. *Сыньні хлопчык усё лета быў у нас.*

СЬЦІ'БІЦЬ, СЬЦІ'БРЫЦЬ *зак.* Украсці, сцягнуць. *Так спрытна сьцібіў кнішку, што ніхто і ні бачыў. «На»,— падаў той рог «Беларускай вёскі», што заўчасне з сельсавету сцібіў* (Ні госць ні гаспадар, 102).*Нехта вядро каля студні сьцібрыў.*

СЬЦІХАТО'Ю *прысл.* У выразе: *маўчыць сьціхатою* — маўчыць прыціхшы. *Маўчыць сьціхатою, нікому ні слова ні сказоў. Потым, калі чужы ўвайшоў, маўчаць сціхатою, а як свой — вінаватага нанава пачынаюць шукаць* (Ні госць ні гаспадар, 132). *Маўчыць Пётра сціхатою, усё роўна як і не ведае нічога* (Там жа, 141).

СЬЦІШКА' *прысл.* 1. Паціху, ледзь чутна. *Сьцішка пазваў міне, давай прасіць, кап маўчоў. Сцішка на язык вытылінгуе сам сабе пад нос нейкую гульню* (Ні госць ні гаспадар, 124). *Людзі на двары павыходзілі — сьцішка пасьмейваюцца* (Там жа, 166). 2. Непрыкметна для іншых, скрытна. *Перш шэпты былі. Потым сцішка памацаў адзін, другі* (Там жа, 137).

ТАБАЛА' *ж.* Натоўп; гурт. *Пайшлі яны туды цэлаю табалаю* (Тахвілін швагер, 56).

ТРАПЕ'ЦЬ *незак.* Шалець ад страху, баяцца. *Калі пісне мне каторая* [пчала] *над вухам, дык трапею: і рукамі і нагамі цераблюся* (Ні госць ні гаспадар, 154).

ТУРБА'ЦЫЯ *ж.* Турботы. *Турбацыя тут невялікая, але працы шкода* (Тахвілін швагер, 55).

ТУРКА'Ч, ТУРЧА'К *м.* Цвыркун. *У нас туркач завёўся. Турчакі ўжо пірасталі турчаць.*

ТЭ'ЎСЬЦЬ *ж.* Паўната, таўшчыня; таўстун, таўстуха. *Цяўлоўская гадоў на пяць старэй за свайго мужыка.*

*Тэўсьць тая, тэўсьць! Што калода асінавая, збуцвеўшая ў полі* (Ні госць ні гаспадар, 195).

УБАЁДАЦЬ *зак.* Здабыць; уходаць. *Недзя ўбаёдаў зайца.*

УВАВУ'ЛІЦЬ *зак.* 1. Многа чаго-н. даць. *Уававуліў мне цэлая вядро яблыкаў.* 2. Даць чаго-н. крыху. *Ну і ўвавуліў грошай — цэлы рубель.*

УВАЗНА'ЦЬ *зак.* Уведаць, даведацца. *Мір народу праз гэта* [сватаўство] *ён уваснаў* (Цеснаватая куртачка, 16).

УВЫШКІ' *прысл.* Увысь. *Воз не так ушыркі, як увышкі накладзен, за што і злаяў быў бацька Хвядоса* (Ні госць ні гаспадар, 150).

УГЛЭ'БАЦЬ *зак.* Ухапіць, узяць у свае рукі. *Углэбаў усё дабро. Як углэбаў міне, чуць вырваўся.*

УЗАПЕ'РЦІСЯ *зак.* Абаперціся. *Адзін-адным узапёрся Адась на вароты* (Цеснаватая куртачка, 11). *Стаяла яна пры самай хаце, узапёршыся на плот* (Там жа, 16).

УЗВАРО'Т *м.* Толькі ў выразе: *другім узваротам* — другім заходам, другі раз.

УЗДУ'ХАВІНА *ж.* Месца пад грудзьмі, пад лыжачкай. *Як доў пад уздухавіну, дык і ногі задроў — уздухі заняло.*

УЗДУ'ХІ *мн.* 1. Тое, што і *ўздухавіна. Ні бі толькі пад уздухі.* 2. Дыханне. *Яму і ўздухі заняло, як добра прабех.*

УЗЛО'КАТКІ *мн.* У выразах: *на ўзлокаткі, на ўзлокатках* — на локці, на локцях. *Па сняданні прылеглі касцы на ўзлокатках адпачыць, выбраўшы сабе сухі грудок* (Ні госць ні гаспадар, 126). *Прачнуўся Савоста. Падняў галаву, на ўзлокаткі ўзапёрся* (Нядоля Заблоцкіх, 263).

УЗРЭ'З *м.* Вісус, неслух. *Узрэзы гэтыя ўсю хату за дзень піравернуць.*

УЗЬВЕ'С *м.* Тое, што і *ўзрэз. Выгадавала ўзьвеса гэтага на сваю галаву.*

УЗЬДЗЯБУ'РЫЦЬ *зак.* 1. Абы-як надзець, усцягнуць адзенне. *Устаў ды пайшоў пад студню мыцца з цэбра, сёе-тое ўздзябурыўшы на сябе* (Ні госць ні гаспадар, 93). *З лавы ўзяў картовы свой фрэнч, уздзябурыў на плечы* (Там жа, 99). 2. Надзець што-н. завялікае ці цяжкое. *Узьдзябурыў дзяцькаў кажух і ходзіць.*

УКВО'ЛІЦЬ *зак.* 1. Прычыніць боль. *Укволіў руку хлопцу.* 2. Пакрыўдзіць, зачапіць. *Гэта добра, што на польскага бога нарваўся ты. А, крый божа, каб ты рус-*

*кага ўкволіў — турмаў бы на цябе не набраліся* (Нядоля Заблоцкіх, 281).

УПРА′ЎНЫ *прым.* Які любіць умяшацца ва ўсё. *Не трэба было ўпраўным быць, нарывацца на трапёнага чалавека* (Нядоля Заблоцкіх, 281).

УПЭ′ЙКАЦЬ *зак.* 1. Згубіць, страціць; марна пусціць. *Гэтулькі грошай упэйкаў, а якая там карова.* 2. Забіць. *Яго, кажуць, парцізаны ўпэйкалі.*

УСПАМО′ГА *ж.* Дапамога, карысць; падтрымка. *Нівялікая ўспамога тыя грошы, але лепш як нічога. Ні чакай ад іх успамогі.*

УХВА′Т *м.* Хват, разбітны хлопец. *О, такі ўхват ні прападзе.*

УХО′ДЫ *мн.* Парадкі, звычаі. *Даміцэля ведае дома ўсе ўходы* (Трахім — штучны чалавек, 37).

УШЧАРЭПІЦЦА *зак.* Учапіцца, ухапіцца за што-н. абедзвюма рукамі. *Ушчарэпіўся за борт машыны і віда ўскочыў наверх.*

УШШУРМАВА′ЦЦА *зак.* Усхадзіцца, раскрычацца. *Агледзела сынаву бібліятэку — і ўсхадзілася...усшурмавалася* (Ні госць ні гаспадар, 141).

УШЫРКІ′ *прысл.* Ушыр, ушырыню. *Воз не так ушыркі, як увышкі накладзен, за што і злаяў быў бацька Хвядоса* (Ні госць ні гаспадар, 150).

ХАЛЭ′МУС *м.* 1. Смерць, пагібель. *Недзе ў дарозе і халэмус яму зрабілі.* 2. Канец, баста. *Халэмус, я зь ім больш ні пайду.*

ХА′ЎКАЦЬ *незак.* 1. Дыхаць, хапаючы ротам паветра. *Хаўкая, як сабака той, ні здыхаяцца.* 2. Пазяхаць з уздыхам.

ХРО′ПНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Як хропнуў яму кулаком, дык і кроўю заліўся.*

ЦІЦЮЛЯ′ЦЬ *незак.* Туляцца, хадзіць без справы, ухіляцца ад работы. *Ціцюляя ўвесь дзень па завуголлю. Гультай, што толькі каля вуглоў ціцюляе* (Трахім — штучны чалавек, 30).

ЦУ′БІЦЬ *незак.* Моцна ісці, ліць (пра дождж). *Дзень пры дні бесперасціханку цубіў бы дождж* (Тахвілін швагер, 65).

ЦЬМЯ′КАЦЬ *незак.* Чмякаць. *Ні цьмякай, як ясі, праціўна слухаць.*

ЦЮКАВА′ЦЬ *незак.*, НАЦЮКАВА′ЦЬ *зак.* Пакаваць, ладаваць, поўна, шчыльна накладваць. *Цюкуй ні*

*цюкуй усё роўна ўсё ні ўлезя. Нацюкавоў чумадан як панесьці. Такі вов* [сена] *нацюкавоў, што чуць коні прывезьлі.*

ЦЯЦЕ′ЎНІК *м.* Націна, цяўе. *Ужо цяцеўнік пасох — нішто ні расьце. Наламі сьвіням цяцеўніку, ні забудзься.*

ЦЯЦЕ′ЎЯ *н.* Тое, што і *цяцеўнік. Сьсячэш цяцеўя, а тады картофлі накапай. Цэлую кучу цяцеўя нацярабіла з буракоў, рэцькі і брушкі.*

ЧМА′РЫЦЬ *незак.* Шукаць, лазіць, пароцца. *Чмарыць па ўсіх будынках, покуль ні найдзя. Дзіва, што забавіліся: па садох чмарылі* (Ні госць ні гаспадар, 138).

ЧУ′ЧАРЫЦЬ *незак.*, ПАЧУ′ЧАРЫЦЬ *зак.* Грызці, абгрызаць што-н. (пра мышэй, зайцоў, трусоў). *Мышы картофлю пачучарылі.*

ЧЭ′ЎРАЦЬ *незак.*, ВЫ′ЧАЎРАЦЬ *зак.* Худнець, сохнуць ад хваробы. *Чэўрая дзеўка, мусіць, хворая. Столькі то хварэў — вычаўраў, як дзіця стоў.*

ШАМУ′ЛЬ-ШАМУ′ЛЬ *выкл.* Туп-туп. *Я толькі ёй слова, а яна шамуль-шамуль і за дзьверы. А Тахвіля — няма дуру, што з іх хаты бацька на сходзе — шамуль-шамуль, ды зараз і яна там ёсць* (Тахвілін швагер, 59).

ШАРА′К *м.* Шарачак, шарачок. *Некалі толькі ш шараку капоты шылі, а ціпер ні абы-якоя пальто надзеня.*

ШЛЕ′ЙНУЦЬ *зак.* Стукнуць, выцяць, заляпіць каму-н. *Ні лесь, а то ён табе як шлейня, дык капытамі і накрыясься. Міхалку Донькаваму калі шлейнуў поўху, дык і звіўся хлапчына* (Ні госць ні гаспадар, 102).

ШЛЁГНУЦЬ *зак.* Сцебануць, выцяць. *Ведама, атпілі розум — адарваў шчакеціну ды як шлёгнуў па сьпіня. А за паваротkаю памацаў стары пугаю ў кабылы рэбры з абодвух бакоў, шлёгнуў па спіне* (Ні госць ні гаспадар, 149).

ШЛУ′НКІ *мн.* Суставы. *Што ты ломіш, кап табе шлункі паламала ды павыкручвала.*

ШЛЫ′ГАЦЦА *незак.* Шлындаць, хадзіць без справы. *Шлыгаяцца то ў хату, то на двор. Яна ўсё жыццё шлыгаяцца па хатах.*

ШНЫР *м.* У выразе: *каб і шныру не было* — каб і духу не было.

ШТОВО′СЕНІ *прысл.* Кожную восень. *Штовосені перад пакровамі рабіў яму сталяр новае гэта начынне* (Нядоля Заблоцкіх, 242).

ШТОГО'ДУ *прысл.* Штогод, кожны год. *Штогоду зношвалася ў Зубрыцкага на гэтай рабоце моцная дубовая лінейка* (Нядоля Заблоцкіх, 242).

ШТЫ'РЫЦЬ *незак.,* ВЫ'ШТЫРЫЦЬ *зак.,* ПАШТЫ'РЫЦЬ *зак.,* ПРАШТЫ'РЫЦЬ *зак.* Гнаць; выганяць, выправоджваць сілай. *Куды гэта ён гусі штырыць? Цыганку з хаты выштырыла. Пакуль ні паштырыш з вуліцы — ні зьбярэш* [дзяцей] *дадому. Як праштырылі з брыгадзіра, дык і ціпер шчэ біз работы. Самога, мусіць, з дому праштырылі?* (Ні госць ні гаспадар, 179).

ШУМА' *ж.* Пенка, пена. *На гарачым бліне ад яго* [масла] *толькі шума белая становіцца і дзе-нідзе жаўтаватыя скалкі* (Ні госць ні гаспадар, 214).

ШУРМАВА'ЦЬ *незак.,* ПАШУРМАВА'ЦЬ *зак.* Выказваць нездавальненне; лаяцца. *І чаго яна шурмуя, чалавек як чалавек, а ёй і тоя ні добра і гэта ні так. Пашурмуюць ды ўтаймуюцца* (Нядоля Заблоцкіх, 283).

ШЭ'ПШАЛА *н.* Стары чалавек. *І чаго гэта шэпшала іщчэ хоча?*

4. Зак. 867

Н. Т. Вайтовіч

# З НАРОДНЫХ КРЫНІЦ

Вёска Цяхцін Бялыніцкага раёна, дзе намі праводзіліся запісы дыялектнай лексікі, знаходзіцца ў зоне сярэднебеларускіх гаворак. Па большасці моўных асаблівасцей гаворка гэтай вёскі адносіцца да паўночна-ўсходняй групы беларускіх дыялектаў, прычым у моўнай сістэме прадстаўлены і некаторыя рысы паўднёва-заходніх і сярэднебеларускіх гаворак.

Вакалізм характарызуецца дысімілятыўным аканнем і яканнем, але побач з *ъ*—*ы* на месцы ненаціскных *о* і *а* часам вымаўляецца *ă* або *а*: *вăдá, пашня́, бăрадá* (у слоўніку пішам *а*); побач з *і* на месцы *е, я* сустракаецца *е*: *зімля́, сірадá, верая́.* Наглядаецца моцная рэдукцыя ненаціскных галосных: *барвік, смакіша*; пашырана асіміляцыя ненаціскных галосных з пераходам *а, о, е* ў *у*: *гурувала, у Мугулёві*; даволі частыя змены *ы* ў *а*: *нажава́ць, пата́лася.* У гаворцы назіраецца цвёрдае вымаўленне *р,* падаўжэнне зычных, няпоўнае аглушэнне звонкіх зычных у канцы слова і перад глухімі. Форма 3-й асобы дзеясловаў таксама ўказвае на пераходны, сярэднебеларускі характар гаворкі: дзеясловы I спражэння маюць націскны канчатак *-ець* і *е: нясе́ць — нясе́,* дзеясловы II спражэння ўжываюцца з канчаткам *-а, -я: ку́ра, но́ся.*

Лексіка гаворкі ў асноўным з'яўляецца паўночна-ўсходняй: *вутка, курыца, сілязе́нь, пырасёнык, мост* (падлога), *крыша, арэлі, гутатацца, пруд* (млын), *абіда, хадзяін* і інш., але сустракаюцца лексемы і паўднёва-заходніх дыялектаў: *певінь, пацук, страха* і інш. Магчыма і паралельнае ўжыванне лексем, уласцівых абедзвюм групам дыялектаў: *бусіл — буцян, нада — трэба, польза — карысць.* У гаворцы захаваўся рад спецыфічных лексем, якія ўяўляюць значную цікавасць для мовазнаўства.

У прапанаваным намі слоўнічку змешчаны лексічныя, семантычныя і словаўтваральныя дыялектызмы, не адзначаныя ў слоўніках літаратурнай мовы.

АГУ'САК, АГУСЫК *м.* Ніжняя частка снапа.

АПІХА'ЦЬ *незак.* Аддзяляць ячмень ад асця. *Апіхаць — гэта аддзяляць ячмень ад вусоў.*

АШЧАЛЁПЫ *мн.* Сківаіцы ў чалавека і жывёлы. *У нас кажуць ашчалёпы і санкі.*

БАРАДА' *ж.* Пасма травы на скошанай сенажаці. *Ідзі бароды паскашай.*

БАРА'НАЧКІ *мн.* Чабор. *Старая назва чабору — бараначкі. Завару бараначкі на чай.*

БРЫЛЬ *м.* Выступ на коміне. *Спічкі на брылю.*

БЯЗЬЛЮ'ДНІК *м.* Нелюдзімы чалавек. *Бязьлюднік— тэй, хто пазбягае людзей. Жыў у нас адзін бязьлюднік: к яму ніхто не хадзіў.*

ВАЛЁНКА *ж.* Валеная шапка. *Валёнка — валіная, уродзі мішка, даўняя шапка, лёхкая і цёплая, барты закасваліся, насілі і летам.*

ВЕРАЯ' *ж.* Шула ў варотах, у гумне. *Веръя — вялікая шула ў варот. Віраю ўстаўлялі ў гумне.*

ВІСАЖА'Р *м.* Сузор'е Плеяды. *Раней на вісажару хадзілі малаціць: калі на поўдні — пъра йсьці.*

ВІТАШО'К *ж.* 1. Апошняя квадра месяца. 2. Першая квадра месяца. *Віташок ужо ўзышоў.*

ВО'БЛАК *м.* Вялікі кош з шырокіх лык, які раней устанаўлівалі на калёсы. *У воблаку вазілі бульбу, вазілі і журавіны.*

ВО'СПА *ж., зборн.* Восы. *Воспа высыпала. На адну кажуць аса. Мяне ўкусіла аса.*

ВО'СЬПІН ПУЗЫР. Асінае гняздо.

ВУЛЬ *м.* Вулей. *Раней къзалі вуль, зараз — вулей, а домік — па-новаму. У дзеда быў калодны вуль.*

ВЫ'ВАРАЦЬ *ж.* Вываранень, вывернутае бурай дрэва.

ГАЛАШЧО'К *м.* 1. Голая, грудамі замёрзлая зямля без снегу. 2. Надвор'е з марозам і ветрам, калі зямля застаецца без снегу. *Сільны галашчок быў. Галашчокам суша.*

ГАЛУ'ЗА *м.* і *ж.* Бесталковы, непаслухмяны чалавек. *Галуза — ніразвіты, ніталковы чалавек, абы-што кажа, ніпаслушны.*

ГАРБУЗО'ВА МЯСА. Мякаць гарбуза. *З гарбузовага мяса варым кашу.*

ГАРБЯ'К *м.* Гурба снегу. *На дварэ гарбякі сьнегу.*

ГРУНЁМ *прысл.* Бягом. *Бегчы грунём.*

ГРЫБА'ТЫ *прым.* Губаты, з тоўстымі губамі. *Хлопіц у нас ёсь грыбаты.*

ГУ'СКА *ж.* Белакапытнік. *Гускі цвітуць белым, жоўтая шышка ў сярэдзіні. У гускі хадзіла. Гускі даюць свіням.*

ГУТА'ЦЦА, ГУТАТА'ЦЦА, ГУТУТА'ЦЦА *незак.* Гушкацца. *Дзеці сталі гутатацца на арэлях.*

ГУТА'ЦЬ, ГУТАТА'ЦЬ *незак.* Гушкаць.

ДРА'БЫЧ *м.* Дзяркач (сцёрты венік). *Хърашо шаруваць драбычам мост.*

ДРАЖНІ'К *м.* Сметнік. *Нясі смецця на дражнік.*

ДРЫ'ЗНІЦЬ *незак.* Трызніць; гаварыць праз сон. *Аж дрызніць з гарачкі.*

ДУ'ЙКА *ж.* Вялікая мяцеліца. *Дуйка — калі дзьмецць снех, нічога ня відаць.*

ДУ'ТКА *ж.* Сцябло сланечніку. *Зламаў дутку сланешніка. Вырасла вялікая дутка.*

ДУПЛІНА'ТЫ *прым.* З дуплом. *Бручка дуплінатая. Дрэва дуплінатая.*

ЖЫВУ'ШЧЫ *прым.* Жывучы. *Кот жывушчы.*

ЗА'СТАВІНЬ, ЗАСТА'ВА *ж.* Гаць на рэчцы.

ЗАШЭ'РХНУЦЬ *зак.* Пакрыцца тонкім лёдам. *Сажылка зашэрхла.*

ЗАЯ'ДА *м.* і *ж.* Зайздросны чалавек. *Во заяда! Усё яму мала.*

ЗАЯ'ДНЫ *прым.* Зайздросны.

ЗАЯРЭ'ЦЬ, З'ЯРЭ'ЦЬ *зак.* Перастаць расці, састарыцца. *З'ярэла клубніка — ні расьцецць, састарылася. З'ярэла зімля — састарылася, грыбы ні растуць. Заярэла зімля.*

ЗЛІ'ЎКІ *мн.* Тое, што і *скалоціны.*

ЗНА'ЙДА *м.* і *ж.* Быстры чалавек. *Знайда — тудасюда, тут ёсь, тут німа.*

ЗНЕ'ЦІЛКІ *прысл.* Знянацку, раптоўна. *Ча ты крыкнуў знецілкі? Разбіла талерку знецілкі.*

ЗЫ'КАЎКА *ж.* Куслівая муха, якой баяцца коні і каровы. *Зыкаўка гніды торкае каровам і коням. Гэта мълая муха, йіна кладзе гніды на спіне і нъгах каровам.*

ЗЯМЕ'Ц *м.* Пчалавод. *Даўней къзалі зямец, а цяпер пчыляр і пчылавод.*

КАНУ'НА *ж.* Пітво на памінках. *Кануну робяць: халодная въда з мёдъм і крышаць булку. На памінках п'юць кануну.*

КАРО'ЎКІ *мн.* Аер. *Късалі явір, у яго душысты корынь; кажуць і кароўкі.*

КА'РЫ *мн.* Падсанкі. *Маленькія санкі, якія падладжваюць да саней пры перавозцы бярвення.*

КІЁЎКА *ж.* Тое, што і *пухоўка.*

КІ'ТЛІК *м.* Даўняя жаночая куртка з даматканага сукна са зборкамі ў таліі («с клёпкамі»).

КЛІ'НЬНЯ, КЛІНЦЫ' *мн.* Жамерыны з ільнянога семя пасля выціскання алею. *Зараз называюць не клінь-ня, клінцы, так скажуць старыя, а жмыха, жмуха, жмъха.*

КЛУ'МБЫ *мн.* Туфлі на драўлянай падэшве. *Мъладымі мы яшчэ насілі клумбы.*

КРЫВУ'ЛІ *мн.* Задок калёс з дзвюма выгнутымі аглоблямі (для перавозкі бярвення). *Пры перавозцы бярвеньня дабаўлялі яшчэ да калёсаў крывулі. Крывулі — два каткі і дзве крывыя аглаблі.*

КРЫ'ПЛЫ *прым.* Нятлусты (пра мяса). *Крыплае — калі адно мяса.*

КРЫСА' *ж.* Крысо. *Накрыла крысой. Цяпер часцей кажуць пъла.*

КУЛЁК *м.* Даўняя верхняя жаночая вопратка з даматканага сукна тыпу курткі.

КУРА'ШКА *ж.* 1. Скручаная ануча, якой што-н. падпальваюць. 2. Сухія гнілушкі, якімі дымяць пчол.

КУСА'ТЫ *прым.* Куслівы. *Кусаты сабака.*

КУЦЬЦЯ' *ж.* 1. Ячменная ці прасяная каша, якая варыцца толькі на каляды. 2. Пярловы суп на кожны дзень. *Цяпер на суп кажуць: куцця і пярловы суп.*

ЛАЙНО' *н.* Адна рэч бялізны, адзежына. *Лайно — адна адзежына. Пылашчы пы аднаму лайну.*

ЛАТУ'ШКА *ж.* Гліняная міска. *Накладзі бліноў у латушку.*

ЛІ'ХА *н.* Тое, што і *падучае ліха.*

ЛЯДНІ'К *м.* Падбярозавік. *Старыя яшчэ кажуць ліднікі, а мы — падабабкі. Падабабка і ляднік ні адрозьніваіцца.*

МАТО'Н *м.* і *ж.* Манюка, хлуслівы чалавек. *Матон — о, наманя! Матон — абманшчык, балбатун, усім наманя.*

МІТРЭ'НКА *ж.* Трывога, неспакой. *У суседа нейкая мітрэнка.*

МОСТ *м.* Падлога. *Хърашо шаруваць драбычам мост.*

МЪКЛЯ'К *м.* Дрэва, якое доўга ляжала ў вадзе. *Выцягнулі з вады мъкляк.*

МЫКРАЦЬЦЁ *н.* Намокшае пад дажджом адзенне. *Пасушы мае мыкрацьцё.*

МЫШАКІ' *мн.* Агульная назва неядомых грыбоў. *Мышакі — гэта ніядомыя грыбы. Мышакі — белыя грыбы, растуць на навозі, у падвалі.*

МЫШЫ'НЫЯ ГРЫБЫ. Тое, што і *мышакі.*

МЯ'ЦІЎЯ *н. зборн.* Націнне агародніны. *Ідзі ў гарот, набяры мяціўя. Буракоўнік, гуркоўнік — гэта ўсё мяціўя.*

НА'БРЫДЗЬ *ж.* Чужыя людзі, непрыемныя для мясцовых жыхароў перасяленцы. *На ўрэдных прыежжых къзалі набрыдзь.*

НАДДА'ТКІ, НАНДАТКІ *мн.* Кароткія загоны, метраў на дзесяць.

ПАДАКО'НКА *ж.* Падаконнік. *Пыстаў цьвет на падаконку.*

ПАДЗЕ'ЛЬЧЫВЫ *прым.* Шчодры, які дзеліцца апошнім куском. *Йіна баба падзельчывая: заўсёды падзеліцца.*

ПАДСТАНО'ЎКІ *мн.* Тое, што і *кары.*

ПАДУ'ЧАЕ ЛІ'ХА. Прыпадкі, эпілепсія. *Падучая ліха кідая; прыпадак кідая, б'е.*

ПАНІ'ЦІЦЦА *зак.* Зрабіцца тонкай, кволай (пра расліну). *Паніцілісь буракі.*

ПАТАЙНІ'К *м.* Тое, што і *падучае ліха. Даўней гъварылі патайнік, а цяпер — падучая ліха і прыпадкі.*

ПАТПУ'ЗЬЗЯ *н.* Сала з ніжняй часткі свіной тушы. *Дала йіна мне троху патпузьзя.*

ПАШНЯ' *ж.* 1. Збожжа, вымалачанае зерне. 2. Від збожжавых культур. *Паклаў у гумне пашню жыта, пашню ячменю, аўса.*

ПІРАКАВЕ'Ц *м.* Палена. *Піракавец — палка дроў, расколатая, кладуць у печ.*

ПІРАКАВЫ'Я *мн.* Кароткія папярочныя барозны, засаджаныя бульбай.

ПІРАХЛЯ'БІСТЫ *прым.* З апаўшымі бакамі. *Пірахлябістая наша карова.*

ПРАХРАСЦІ'ЦЦА *зак.* Прарасці. *Капуста прахрасцілася.*

ПРЫ′ТАЧКАМІ *прысл.* Урыўкамі. *Во, прытачкамі і даглідаю клубніку.*

ПУЗЫ′Р, ПУЗУРО′К *м.* Белая кучавая або дажджавая хмарка. *Сабраліся на небі пузыры. Пузурок выліўся.*

ПУСТАША′ *ж.* Пустэча. *Раней быў лес, а цяпер пусташа.*

ПУХО′ЎКА *ж.* Катах шыракалістага рагозу. *Раней з пуховак рабілі падушкі.*

ПУ′ЦІКІ *мн.* Пацёкі на запацелым акне. *Пуцікі — калі плачуць вокны.*

ПЯЧКУ′Р *м.* Пячнік. *Даўней печкуры клалі печы зь дзіравянай асновай, потым абкладалі глінай.*

РАСА′ *ж.* Раска. *На вадзе зялёныя ръса. У расу ўплыў і ўпутаўся.*

РУЧЭ′ЙКА *ж.* Пража на адно верацяно. *Напрала ручэйку талькі.*

РЫШТ *м.* Месца, дзе цячэ невялікая рэчка. *Цераз рышт ні пірайці: там топка.*

САМАДУ′МКА *ж.* Тканая пасцілка з узорам, які «сама думала» ткачыха.

СВЕ′ТАЧ *м.* Падстаўка для запаленай лучыны. *Даўней ставілі светач на калодачку і ўтыкалі лучыну.*

СВЕ′ЧКА *ж.* Скалка. *Свечкі ў супі плаваюць.*

СКАЛО′ЦІНЫ *мн.* Маслёнка. *Аднясі свіням скалоціны.*

СКІПА′ЦЦА *незак.*, ПАСКІПАЦЦА *зак.* Шчапацца.

СКІПА′ЦЬ *незак.*, ПАСКІПАЦЬ *зак.* Шчапаць. *Скіпаць лучыну. Паскіпаць дровы.*

СКІРТА′ *ж.* Укладка дроў у адзін рад каля сценкі. *Дзве скірты дроў наклалі.*

СМАКІ′ША *ж.* Сыракваша. *Даўней къзалі смакіша, а цяпер — прастакваша (з самакіша, съмакіша* — сама ўкісла).

СМЕ′ТНІШЧА *н.* Сметнік. *Раней къзалі дражнік, цяпер больш кажуць сметнішча.*

СНЫ′ТКА *ж.* Шнітка, дзягіль.

СО′ХІ *мн.* Даўнейшы ткацкі станок, прасцейшы за кросны. *Я яшчэ бачыла сохі.*

СТАВІНА′ *ж.* Бок ткацкага станка.

СТА′ДА *н.* Статак. *Стада курэй, вутак, ваўкоў, кароў.*

СТРУ′ГА *ж.* Топкае месца, твань.

СТРЫВІ′ЦЬ *зак.* Азярэдзіць.

СТРЫЎЁ *н.* Старадаўні від азяроду, у якім папярочныя жэрдкі клаліся на елкі з часткова абрубленымі сукамі.

СУ'БАР *м.* Сумесь з мукі ад рознага віду збожжа, якую давалі свінням.

СУЛІ'ЦЬ *незак.*, ПАСУЛІЦЬ *зак.* 1. Абяцаць. *Пасуліў — абясьціў даць, ды не даў.* 2. Прапаноўваць; даць. *Ці суліла ты есьці?*

СЯРДЗЕ'ШНІК *м.* Галоўны корань дрэва.

СЯЎБІ'ТКА *ж.* Сявалка з лубу для сяўбы ўручную. *Раней хадзілі зь сяўбіткай па полю і сеілі.*

ТАБУ'Н *м.* Табун; статак. *Табун коней, кароў, свіней, ваўкоў, курэй, авечак.*

ТРАСКО'ЎНІК *м.* Месца на двары, дзе сякуць дровы. *Назьбірай на траскоўніку трэсак.*

УГРУ'НЬ *прысл.* Бегчы грунём, угрунь.

УКРА'ДМА *прысл.* Крадком, крадучыся.

ХВІ'ЛЯ *ж.* 1. Бура, вялікая мяцеліца. *Хвіля — бура вялікая, нінасная пагода, снег ідзе і круця. Што за хвіля!* 2. *лаянк.* Ужываецца як праклён. *Каб цябе хвіля ўзіла! Хвіля яго ведая.*

ХІ'ЖЫ *прым.* Сярдзіты, злы. *Хіжы звер. О, йікая ты хіжая!*

ХЛЫСТ *м.* Ачышчаны ад сукоў ствол паваленага дрэва. *Прывязьлі вялікі хлыст.*

ХРАСТО'К *м.* Расток у прарошчаным насенні. *Храсткі пусціла капуста.*

ЦАЛІ'К *м.* 1. Нераз'езджаная дарога, цаліна (зімой і летам). *Паехаў па цаліку.* 2. Неўзараная палоска; агрэх. *Аставіў цалік нявораны.*

ЦАЛКАВА'Я ЯЕШНЯ. Тое, што і *цалкавушка.*

ЦАЛКАВУ'ШКА *ж.* Яешня з неразбоўтаных яец. *Спячы мне цалкавушку.*

ЦАРЫ'К *м.* Вільчык. *Узлез на царык.*

ЦІМА'ЛКА *прысл.* Нямала, многа. *Я цімалка з'ела, а ты сколечкі?*

ЦЫ'БАЧКІ *мн.* Кортачкі. *Сесці на цыбачкі.*

ЧА *займ.* Чаго. *Ну ча ты лезіш? Ча ты крычыш?*

ЧА'ША *ж.* Сузор'е Вялікая Мядзведзіца.

ЧВЭРЫЦЬ *незак.* Глядзець у вочы, калі ядуць, напрошвацца на яду. *Завідуя, чвэра, каб далі. Ня чвэр, ні дам!*

ША'ПАШНІК *м.* Чарот азёрны. *Са сцяблоў дзеці плятуць шапкі, таму называюць шапашнік.*

ШКУЦЯ'НКА *ж.* Коўдра, вытканая з рыззя. *Раней шкуцянкамі накрываліся.*

ШУ'ПЧЫНКА *ж.* Шыпшына.

ШЭ'РАШЫНЬ *м.* Цвёрды верхні пласт снегу пасля адлігі, шарпак. *Ісці добра, пакуль дзяржыць шэрашынь.*

Я'ГАДКІ *мн.* Ружовыя месцы на твары; румянец. *Ягадкі гараць на твары.*

Я'ШЧЫК *м.* Цэбар з дзвюма ручкамі. *Кажуць яшчык і цэбар. Яшчык на сала. Яшчык паіць карову.*

*Г. Ф. Вештарт*

## МАТЭРЫЯЛЫ ДЛЯ ДЫЯЛЕКТНАГА СЛОЎНІКА

Запісаны на хутары Ходасы Мядзельскага раёна.

АБРАЗА'ЦЬ *незак.* Чысціць нажом (бульбу). *Дровы ўгарэліся, бульбу абразаць нада і бліны мяшаць нада.*

АВУ'ЛЬКІ *мн.* Слова, якім падзываюць авечак.

АГЫ'ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць гусей. *Агыля, куды!*

АДРУБІ'ЦЦА *зак.* Адпароцца (пра зарубленае, падшытае). *Плацце адрубілася, падрубі.*

АНДАРА'К *м.* Жаночая кароткая жакетка з даматканага сукна.

АПША'ТАЦЦА *зак.* Управіцца па гаспадарцы. *Назаўтра як апшатаюся, думаю, не буду болей іграць. Апшаталася ўжо, усё парабіла.*

АСЯНЧЫ'НА *ж.* Неядомае балотнае сена; асака. *Асянчыну, як не зьядуць каровы, дык яе на потсьцель выкідаюць зь ясель.*

АТАРЭ'ШЧЫЦЬ *зак.* Вытарашчыць. *Ня сьпіць, ляжыць, вочы атарэшчыўшы.*

АЦЯ'ШКІ *мн.* Кастрывая кудзеля, якая збіраецца пад мяліцай, калі мнуць лён. *Як тыдзень лёну мнецца, то ацяжак назьбіраецца як падняць. З гэтых ацяжак вяроўкі ўюць, путы коней путаць.*

БА'РМА *ж.* Кажух з буркай. *А барму ці ш узяў на начлех?*

БАРУ'-БАРУ'-БАРУ' *выкл.* Словы, якімі падзываюць авечак. *Бару-бару-бару, баруські мае!*

БАРУ'СЬКІ *мн.* Слова, якім падзываюць авечак.

БІКЕ'ШКА *ж.* Адразная і прызбораная ў таліі сукенка. *Як тонкія, то бікешкі сабе шыюць.*

БІЦЬ *незак.*, ПАБІ'ЦЬ, НАБІЦЬ *зак.* Калоць (дро-

вы). *Вос дроў насек, а дома папілаваў, пабіў. Набіў дроў, што на нядзелю хваціць.*

БІЧО'ЎКА *ж.* Біла ў цэпе. *Адарвалася бічоўка.*

БУ'РКА *ж.* Доўгая суконная адзежына, род армяка. *Бурку на марос надзяваюць, у дош, у завею. Бурка з распоркай ззаду.*

БУ'ХАВІНЫ *мн.* Тое, што і *пагалоўшчына. Сусетка паклікала на бухавіны, дык нада схадзіць.*

ВЕ'ДАМКА *ж.* Павестка, позва. *Ведамку ў сут прыслалі.*

ВУЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ *выкл.* Словы, якімі падзываюць авечак. *Вуль-вуль, авулькі мае!*

ВЫ'ЛАЖЫЦЬ *зак.* Кастрыраваць. *Вылажыць быка нада.*

ВЯТРО'ЎКІ *мн.* Басаножкі. *Вазьмі надзень вятроўкі, у куфры ляжаць.*

ВЯЦІ'СТЫ *прым.* Галінасты, раскідзісты. *Такая грушка добрая была, крэпкая, карэнне вяцістая.*

ГАРО'ХАВІНЫ *мн.* Гарохавая салома. *Як гарох змалоцяць, гарохавіны палучаюцца.*

ГАРШЧА'Н *м.* Ганчар. *Бывала, даўней гаршчан у вёску прыедзець, развалы вялікія, з гаршкамі.*

ГЛІНЯ'НІК *м.* Гліняны гаршчок.

ГРА'ЗІЦЬ *незак.* Брудзіць. *Ня лётай так, панчох ні грась.*

ГУЛЬГАТА'ЦЬ *незак.* Абзывацца, крычаць (пра індыка). *Індык гульгочаць і гульгочаць.*

ДЗЬВЮХЗІ'МКА *ж.* Кабыла, конь, якія перазімавалі дзве зімы. *Ужо дзьвюхзімку запрох у барану і барануець.*

ДРАЎЛЯ'НІКІ *мн.* Боты на драўлянай падэшве. *Са старых ботаў зрабіў драўлянікі і сам у школу хадзіў.*

ДРАЎЛЯ'НКА *ж.* Шчотка з драўлянымі зубамі для часання лёну. *Чарнюгі на драўлянку вычашам.*

ДРЫБЕ'ЦЬ *незак.* Дрыжэць, трэсціся ад страху. *Дрыбела вечна, а цяпер ніхто мяне не страшыць.*

ДУПЛЯНА'ТЫ *прым.* Пусты ў сярэдзіне. *Дуплянатая бульба.*

ЖАЛЕ'ЗЬНІЦА *ж.* Шчотка з металічнымі зубамі для часання лёну. *Ад жалезьніцы кудзеля называецца, ад шчэткі-шарсьцянкі — пачасься.*

ЖУЧКІ' *мн.* Сухія, невялікія скваркі. *Жучкоў наеўся і харош.*

ЗАВО′НЬ *ж.* Затока. *Рака ідзець гэдак, а потым гэдак, то завонь. Плавы пазарастаюць, завонь астаецца.*

ЗАРЫВА′ЦЬ *незак.* Пераставаць даіцца (пра карову). *Малако гарчэець у астатняе ўрэмя, як зарываць станець.*

ЗАХЛУДЗІ′ЦЬ *зак.* Застраміць, пракалоць. *Захлудзіў руку чартапалогам.*

ЗЫГАВА′ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Каровы сёня зыгавалі, на дош авадні кусаліся. Зыгуяць каровы.*

ЗЫ′ГАРАДА *ж.* Адгароджанае месца для жывёлы (у хляве або ў лесе). *Запры авечак у зыгараду! Зыгарада ёсь у лесе для коней.*

ЗЬДЗІВІ′ЦЬ *зак.* Сурочыць. *Пойдзець хлопец тоўсты такі, уражайны, дык яго зьдзіваць.*

ЗЮ-ЗЮ-ЗЮ *выкл.* Словы, якімі падзываюць гусей.

КАЗІ′ЦЦА *незак.*, АКАЗІ′ЦЦА *зак.* Нараджаць казлянят. *Каза саўсём нядаўна аказілася, а малака ніяк няма.*

КАЛАПНІ′ *мн.* Каноплі. *У калапнях ёсь выбіранкі.*

КАЛТАЯ′ *ж.* Дошчачка з дзіркай у жорнах, дзе памяшчаецца верхні канец млёна. *Калтая адарвалася.*

КВІЧЭ′ЦЬ *незак.* Пішчаць, крычаць (пра свінню). *Сьвінні квічаць, есьці хочуць.*

КЛАТ *м.* Складзеныя паколатыя дровы. *Парэзаныя і пабітыя дровы ў клат кладуць або ў стажок. Толькі два клады дроў.*

КЛУНДЗЮ′К *м.* Сляпая кішка ў кабана.

КЛЯ′ТБА *ж.* Кляцьба. *І кап ты прапаў, кап ты правалійся — і зачала садзіць клятбы.*

КРАЛІ′ЦЦА *незак.*, АКРАЛІ′ЦЦА *зак.* Нараджаць трусянят. *Адгарадзілі катух, бо скора краліцца будзе труска.*

КРУ′ХАЦЬ *незак.* Рохкаць. *Сьвіня да парасят рохаець, крухаець.*

КРУ′ЧКА *ж.* Бручка. *Дзе ты ёсь?! Каровы ў кручку залезьлі.*

КРЫЖО′ЎКА *ж.* Скрыжаванне дарог; ростані. *Дойдзеш да крыжоўкі, там нейкая машына падбярэць.*

КУСЬЦЯРНЯ′ *ж.* Кусты. *Там заросшы кусьцярнёй. Схаваўся у кусьцярні і ня відаць.*

КУЦУ′-КУЦУ′-КУЦУ′ *выкл.* Словы, якімі падзываюць авечак.

КУЦЬ-КУЦЬ-КУЦЬ *выкл.* Словы, якімі падзываюць свінней.

КЯРНО'С *м.* Кныр.

КЯТУ'РКА *ж.* Прарэх у штанах. *Кятурку зашпілі.*

ЛАБА'ТКА *ж.* Пра бязрогую карову. *Лабатка як бяз рох саўсём.*

ЛАЗО'ВЫ ЖУК. Хрушч.

ЛАМІ'ШЧА *н.* 1. Месца, дзе гарэў касцёр; вогнішча. *Як вялікая ламішча, то за лета толькі нейкі мох займецца, а потым трава такая буйная расьцець.* 2. Куча галля. *Хворост паскладаны ў ламішча.*

ЛАНТУ'Х *м.* Вяровачны дарожны мяшок на сена (для каня). *Лантух вазьмі с сабой, ні забудзь.*

ЛАПА'ТКА *ж.* Зялёны стручок гароху. *Гарох яшчэ цвіціць, зялёны, у лапатках.*

ЛА'ТКА *ж.* Тое, што і *цёрліца.*

ЛОМ *м.* Касцёр, агонь. *Пайшлі і лом палілі. Корч вялікі ўскацілі на лом, дык два дні палілі.*

МАЦЁРА *ж.* Свіння, у якой ужо былі парасяты.

МАЦЮ'К *м.* Род зэльцу з барановых унутранасцей.

МІ'ЛТА *ж.* Талакно. *Замішай мілты ў місцы.*

МІЧА'ЦЬ *незак.* Абзывацца слабым голасам (пра карову). *Равець карова, хоць ты што, а як што зробіца, то мічыць.*

МУ'ЛІЦА *ж.* Тое, што і *палюх.*

МУНДЭ'РЫ *мн.* Сорт вінных ружова-чырвоных яблык. *Так добра ўрадзілі мундэры, дрэва скрозь усыпана.*

НА'ЙНІЦА *ж.* Левы бок адзення. *Як ты штаны надзеў? На найніцу.*

НЕ'КАСЬ *ж.* Позняя, асенняя трава. *Як ужо ніхто ня косіць, то некась. Накасі некасі.*

ПАВЫКЛАДА'ЦЬ *зак.* Пакастрыраваць. *Ці павыкладалі вы бараноў?*

ПАГАЛО'ЎШЧЫНА *ж.* Частаванне свежынай тых, хто дапамагаў забіць, разабраць і спарадкаваць кабана. *Хадзіла на пагалоўшчыну да суседа.*

ПАДНАДО'ЛАК *м.* Падол. *Падрубі паднадолак, плацце адрубілася.*

ПА'КУЛА *ж.* Тое, што і *ацяшкі. Як мнецца лён, то адвальваецца пакула. Пакулу ў шчэлку пхнуць.*

ПАЛЮ'Х *м.* Ручка на касе (для правай рукі). *Палюх ужо саўсём злізаўся.*

ПАМА́ЧКА *ж.* Прыправа, звычайна тварог са смятанай, у якую мачаюць бліны. *Зрабі памачку да бліноў.*

ПАРПЛІ́ЦА *ж.* Металічны шпень у жорнах, на якім круціцца верхні камень. *На парпліцы камень стаіць.*

ПАСЬПЕ́ШКА *ж.* Скараспелая бульба. *Пасадзілі загон пасьпешкі.*

ПАТАЎЧЫ́СЯ *зак.* Пакрыцца (пра кабылу). *Кабыла дайна ўжо патаўклася.*

ПА́ТРАП'Е *н.* Кудзеля, якая выбіваецца траплом пры трапанні лёну. *Патрап'е прадуць на мяхі.*

ПАЎЛЯКА́НКА *ж.* Кажух, пацягнуты шарачком. *Ужо самая бедната шыла паўляканку. Паверху паўлакуць кажух шарачкам. Ён тоўсты, як мяшок.*

ПАЎСУКЕ́НАК *м.* Паўшарсцяная самаробная тканіна. *Нітка шарсцяная ды нітка палатняная — і ткуць паўсукенак.*

ПАЎСУКЯНКО́ВЫ *прым.* Зроблены, пашыты з паўсукенку. *Паўсукянковы дыван. Паўсукянковая спадніца.*

ПІ́ШЧЫК *м.* Рагавы стрыжань птушынага пяра. *Перыну аскубі, а пішчык астанецца. Тонкія пальцы, як пішчыкі.*

ПЛАЦЕ́НАК *м.* Ільняная тканіна для сукенак, спадніц. *Плаценак з лепшых нітак ткалі, нават с кужалю. У роўныя шкляначкі паткала на сукенку і сама пашыла, гэдакая ўжо складная сукеначка была.*

ПЛАЦЯНКО́ВЫ *прым.* Пашыты з плаценку. *Плацянковую спадніцу пашыла сабе.*

ПО́ЛАСК *м.* Бляск. *Мілка пафарбавала падлогу, дык такі поласк — глядзецца можна. Чыстае, аж поласк ходзіць.*

ПРА́ЙНІК *м.* Пранік. *Прайнікамі адзежу на клаццы білі.*

ПРАЛЫ́СІЦЦА *зак.* Праясніцца месцамі, участкамі (пра неба). *Учора пралысілася троха, а к вечару дош сыпануў.*

ПРЫВА́ЛАК *м.* Высокі бераг. *Разаслаў адзежу на прывалку і сушыць.*

П'ЯНІ́ЦЫ *мн.* Буякі, дурніцы. *П'яняць яны самі па сабе. Як паўядала іх, то такая трудната; трудніць, ад малін было так зрабіўшыся і ат п'яніц.*

РАГА́ТКА *ж.* Карова з вострымі рагамі. *Рагатка, рогі, як штыхі.*

РАЗВАХТАВА′ЦЦА *зак.* Разгайдацца, раскалыхацца для скачка. *На бэльку залезеш, развахтуесься і скік у тарпу. Развахтавайся і скікнуў.*

РО′ХАЦЬ *незак.* Рохкаць (пра свінню). *Сьвіня рохаець, гаспадыню пачула.*

РЫМЕ′ЦЬ *незак.* Вішчаць (пра свінней). *Сьвіня рыміць, бо галодная.*

СА′ЧЫК *м.* Лёгкі жаночы жакет, сачок. *Касьцюм — сачык і спадніца.*

СЛАНЦЫ′ *мн.* Тое, што і *чарнюгі.*

СТАЦЬЦЯВЫ′ *прым.* Адвесны, круты. *Там такая стацьцявая гара, што і пакаціўся разам з канём.*

СТРУЧЫ′СТЫ *прым.* 1. Струковы, у струках. *Гарох стручысты, а як змалоцяць — гарохавіны.* 2. З вялікай колькасцю струкоў. *Такі ўжо стручысты гарох.*

СУГРО′ПКІ *мн.* Дробная, перабітая у малацьбе салома.

СУНІ′С *м.* Тое, што і *барма.*

СУХАМО′М *прысл.* Сухама. *Чаго ясі сухамом, вазьмі малака!*

СУХАПЁРАМ *прысл.* Пры дапамозе праніка (мыць бялізну). *Сухапёрам пёрла адзежу на клацца.*

СЬВІНА′РКА *ж.* Сівец (трава). *Сьвінарка натта цяшка косіцца.*

СЯЛЁТАК *м.* Цялё, жарабя і да т. п., якое нарадзілася мінулай вясной. *Сялётакважыў пэўна кіль дваццаць.*

СЯЎБЯ′НКА *ж.* Адабраная для сяўбы бульба. *Сяўбянкі пакідаюць прыблізна пут на сотку.*

ТАПТА′НІК *м.*, ТАПТА′НІЦА *ж.* Той (тая), хто топча воз пры звозцы сена. *Добры таптанік у нас, ніхто так не ўмее таптаць ваза. Таптаніцы ехалі на возе.*

ТПРСЮ′ХА-ТПРСЮ′ХА-ТПРСЮ′ХА *выкл.* Словы, якімі падзываюць карову. *Маліноўка, тпрсюха-тпрсюха, хадзі-хадзі!*

ТРУДНАТА′ *ж.* Млоснасць. *Такая трудната была, яшчэ раз ад малін было так зрабіўшыся.*

ТРУДНІ′ЦЬ *незак. безас.* Мучыць, цягнуць на ваніты. *Зьела нешта не тое, трудніць і ўсё.*

ТРУСІ′ЦЦА *незак.*, АТРУСІ′ЦЦА *зак.* Нараджаць трусянят. *Труска атрусілася і з'ела трусянят.*

ТРУСІ′ЦЬ *незак.*, АТРУСІ′ЦЬ *зак.* Прыводзіць (трусянят). *Колькі яна іх трусіла, столькі і ела.*

ТРУ′СНАЯ *прым.* Цяжарная (пра труску).

УЗНО'Ў *прысл.* Зноў, яшчэ раз. *А назаўтра ўзноў хадзіла лён падымаць.*

УЗНЯ'ЦЦА *зак.* У выразе: *узнялася на пароснае* — патрабуе злучкі (пра свінню).

УРАЖА'ЙНЫ *прым.* Харошы, рослы (пра чалавека). *Дзеўка добрая, уражайная.*

УРО'К *м., Р.* уро́цу, *мн.* уро́цы. Сурокі. *Урочнік натта добра памагае ад уроцу.*

УРО'ЧНІК *м.* Балотная расліна з белай кветкай на доўгай ножцы. *Урочнік расьцець на высокай дудаццы, цьвяток точна як язьмен.*

ФУ'КТАЛЬ *м.* Машына для ачысткі зерня пасля арфы. *Пасьля арфы ачышчаюць фукталям. Пасьля фукталя вязуць на млын.*

ХЛУД *м.* Стрэмка. *Хлуд дастаў с пальца.*

ЦЁРЛІЦА *ж.* Гліняная глыбокая міска; макацёр. *Запячы кашу ў цёрліцы.*

ЧАРНЮГІ' *мн.* Маніцы. *У калапнях ёсь выбіранкі, чарнюгі. Прысьцілаюць іх як лён, яны чорненькія, мнуць іх, чэшуць.*

ЧЫ'ШКА-ЧЫ'ШКА-ЧЫ'ШКА *выкл.* Словы, якімі падзываюць вялікіх, кормных свінней.

ШВЭ'ДАР *м.* Вязаная кофта з засцёжкай. *Швэдар згразіў.*

ШКІЛО'НДЗЯ *ж.* Тое, што і *клундзюк.*

ШКУРЛА'Т *м.* Кавалак скуры, скурат. *Боты сарваў на шкурлаты. Сала як шкурлат.*

ШКУРНІ' *мн.* Дрэнны, абы-які абутак; атопкі. *Шкурні якія надзенець і ходзіць у шкурнёх.*

ШЧАПА'НІК *м.* Палена колатых дроў. *Клат шчапанікаў пат паветкай. Шчапанікі ў клат кладзі. Шчапанікі і круглякі.*

ШЧАПА'ЦЬ *незак.* Калоць, сячы (дровы). *Хто іх шчапаець?! Так, круглякі паляць.*

Ю'ДЗІЦЬ *незак.* Вучыць на словах, падказваць, павучаць. *Корбы не знаў як рабіць, дык я ўжо юдзіла-юдзіла.*

ЯРМЯ'К *м.* Тое, што і *бурка.*

*І. М. Гайдукевіч*

# НЕКАЛЬКІ СЛОЎ З МЯСЦОВАЙ ГАВОРКІ

Тут змешчаны лексічныя, семантычныя і словаўтваральныя дыялектызмы, запісаныя ў вёсцы Любонічы Кіраўскага раёна.

АБАРСА'ЦЬ *зак.* Працягнуць абору праз усе вушкі лапця. *Абарсаць лапяць.*

АГЛАШО'НЫ *прым.* Апантаны. *Крычыць, як аглашоны.*

АЗГРЫ'ВЫ *прым.* Смаркаты, саплівы. *Вечна ў яго азгрывы нос, такоя ніакуратная дзіця.*

АНЯМЕ'РАЯ *м.* і *ж.* Надта дураслівае дзіця. *Ах ты анямерая, ні пасядзіць ні мінуты!*

АПО'ЎЗЛЫ *прым. зневаж.* Мізэрны з выгляду, плюгавы. *Нейкі ён апоўзлы еты твой жаніх.*

АСТЫВА'ЦЬ *незак. неадабр.* Доўга затрымлівацца дзе-н. *Пашоў к Сяргею да й астывая там.*

АСТЫ'ЦЬ *зак. лаянк.* Выцягнуць ногі, памерці. *А кап ты астыў ты!*

АТТАТУ'РЫЦЬ *зак.* Адставіць, выпнуць якую-н. частку цела. *Аттатурыла губы.*

БАКЛА'ШКА *ж.* Біклага. *Даўней ваду бралі на поля ў дзеравянных баклашках — ні так грэлася на сонцы.*

БАЛА'БУШКА, БУЛА'БУШКА *ж.* Невялікая пшанічная аладка, крыху прадаўгаватая. *Бувала, у свята напякуць балабушак, памачаюць у тук, пасыплюць сахарам да ў печ, у дух.*

БАЛЮ'КА *ж.* Болька. *Што ў цябе за балюка такая на назе?*

БА'НЬКА *ж.* 1. Металічны хамуцік для прымацавання касы да кассяя. *Ета банька зялезная.* 2. Бэлька. *Банька бывая ў хаці, у хлеві і ў другіх пастройках.*

БЗЫКАВА'ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Як стануць каровы бзыкаваць, тады іх ні ўдзержыш на пашы.*

БРЫЛЬ *м.* 1. Выступ зверху на пярэдняй частцы печы. *Спічкі пакладзі на брыль.* 2. Палі капелюша. *Брыль дзелаюць у капялюшы, кап сонца ні біла ў вочы.*

ВАЛБУ'КА *ж.* Нарасць, шышка на целе або на дрэве. *Валбука на галаве. Бяроза з валбукай.*

ВАЛІВА'ХА *ж.* Чапля. *Валіваха — серая, з доўгай шыяй, чалавека бліска ні патпуская.*

ВАЛЬ *ж.* Шлюбны галаўны ўбор нявесты, фата. *Валь надзявалі перат тым, як ехаць у цэркву вянчацца.*

ВО'ГНІК *м.* Прастудныя болькі на губах. *Вогнік — ета балюка на губі, як прастудзісься.*

ВО'ЛЯ *ж.* Валлё. *Гусі панабівалі волі калосьсям.*

ВЫ'ЛУПАК *м. зневаж.* Нахабны бессаромны падлетак. *Ета такі вылупак, што ні дай божа!*

ВЫ'ПРУДЗІЦЦА *зак.* Сканаць, памерці. *Як дам табе палкай, дак ты і выпрудзісься!*

ВЫ'СКІЦЬ *ж.* Вывернутае бурай дрэва. *Схаваліся ад дажжу пад выскіць.*

ВЫ'СМАЛ *м. зневаж.* Настырлівы гарэзлівы падлетак. *Ну й высмал, ніўдзе нічога ні прапусьсіць, усюдых пралезя!*

ВЫ'СЬНЯКАЦЬ *зак.* Высмаркаць. *Высьнякаць нос.*

ВЫ'ЦЫБАЦЦА *зак.* Падрасці, стаць вышэй ростам (пра дзяцей). *Ого, як твой хлопяц выцыбаўся!*

ВЫ'ШКУРЫЦЬ *зак.* Выдаліць, выгнаць адкуль-н. *Вышкурыць курэй с хаты.*

ВЫ'ШШЫКНУЦЬ *зак.* Сарваць шчыпком. *Вышшыкні каліва цыбулі.*

ВЭН *займ.* Вунь. *Мы ішлі вэн тудой.*

ВЭ'НАКА 1. *займ.* Тое, што і *вэн. Вэнака за рэчкай хата — бачыш?* 2. *пабочн. Ён гаворыць, вэнака, што нічога ні бачыў.*

ВЯЛІ'КАНЬНЯ *н.* Вялікдзень. *Вялікання шшэ ні скора.*

ГАРЦА'ЦЬ *незак.* Гарцаваць. *Гарцая на кані ўзатупярот па вуліцы.*

ГЛАДУ'Н *м.* Гладкі, сыты чалавек (часцей пра дзіця, падлетка). *Ах ты, гладун ты етакі!*

ГЛАДУ'ХА *ж.* Гладкая, сытая жанчына. *Што ёй... такая гладуха.*

ГРАҚАВА′ТЫ *прым.* Прастакаваты, дурнаваты. *Гракаваты нейкі еты хлопяц, глядзіць рот разявіўшы.*

ГУЖБА′ *ж.* Кручаная лаза, якой звязваюць бярвенне ў плыт. *Гужбой вяжуць паленьня ў плытэ.*

ГУ′МНІШША *н.* Пляцоўка каля гумна для розных патрэб, звязаных з сушкай і абмалотам збожжа. *На гумнішшы быў азярот.*

ГУ′РА *ж.* Гурба. *Панамятала гуры сьнегу — ні прайці.*

ДАБА′ВІЦЦА *зак.* Дайсці, дабрацца да якога-н. месца. *Қап як дабавіцца да горада.*

ДАБА′ВІЦЬ *зак.* З цяжкасцю даставіць куды-н. *Қап йак ішшэ ету капу на той грудок дабавіць.*

ДАЎГАМУ′ДЫ *прым.* З доўгай ніжняй часткай твару. *Даўгамуды чалавек.*

ДЗЯ′ТЛІНА *ж.* Дзяцеліна. *Дзятліна бывая белая і красная.*

ДОР *м.* Тонкія дошчачкі, надраныя ўручную для пакрыцця дахаў, драніца. *Надраў дору на хату.*

ДРА′БЫ *мн.* 1. Лесвіца. *Узьлес па драбах на крышу.* 2. Қалёсы з бакавымі сценкамі ў выглядзе драбін (лесвіцы). *За ракой езьзяць на драбах.*

ДРАПЦЭ′ *мн.* Спецыяльная каса пад грэчку. *Грэчку драпцамі й касілі.*

ДРА′ЧҚА *ж.* Тарка. *На драццы дзяруць бульбу.*

ДУПЛЁ *н.* Дупло. *У етам дубі дуплё, у ім шпаке вядуцца.*

ДУПЛЯНА′ТЫ *прым.* З дуплом, дуплаваты. *Дуплянатая асіна.*

ДЫ′ХВІНЫ *мн.* У выразе: *даць пад дыхвіны* —ударыць у жывот, пад грудзі. *Як даў пад дыхвіны, дак яму аж дух заняло.*

Е′ТҚІ *прым.* Пажыўны, сытны. *На полі трава больш еткая, чым у лузі.*

ЁМҚА *ж.* Чапяла. *Вазьмі ёмкай скараваду.*

ЖМЫ′НДАЛА *м.* і *ж.* *зневаж.* Той, хто плявузгае, «жмындае». *Сьціхні ты, жмындала!*

ЖМЫ′НДАЦЬ *незак.* *зневаж.* Гаварыць абы-што, плявузгаць. *Што ты там жмындаяш?*

ЗАГАВА′ЙЛА *м.* і *ж.* *зневаж.* Недалёкі, прастакаваты падлетак. *Вот загавайла — прэцца, галаву задраўшы.*

ЗАҚАЖАНЕ′ЦЬ *зак.* Змарнець, стаць паршывым, шалудзівым. *Нешта маё парася закажанела.*

ЗАПЕ'Р *м.* Франтон. *У заперы дзелаюць вакенца, калі ў хаці, а ў хлеві не.*

ЗАСКА'БІЦЬ *зак.* Увагнаць стрэмку («скабку»). *Заскабій руку.*

ЗАЎРУ'ГАВАЦЬ *зак.* Заўпарціцца, занатурыцца. *Заўругавала: слова зь яе ні выб'яш.*

ЗАЧЫ'НАК *м.* Выступ на бакавой сценцы печы крыху вышэй фундамента. *Дзет сядзей на зачынку.*

ЗУСЛО'Н *м.* Услон, заслон. *У нас тожа быў у хаці зуслон.*

КА'ДАЎБЯНЬ *м. зневаж.* Нездагадлівы, някемлівы падлетак. *Кадаўбянь ты, я ш табе ўжэ ні рас паказувала, як дзелаць.*

КАЛЮБЕ'ЛЬ *ж.* Калыска для малога дзіцяці ў выглядзе прадаўгаватай каробкі, падвешанай да чаго-н. *Цяпер ужэ калюбеляў ні ўбачыш.*

КАПАНІ'ЦА *ж.* Матыка. *Бульбу абганялі сахой, а дзе ні было як, апкопувалі капаніцай.*

КАПАНІ'ЧЫЦЬ *незак.* Апрацоўваць капаніцай. *Пайду капанічыць бульбу, а то травой зарасла.*

КАРА'ВАШНІК *м.* Анучнік. *Даўней, як прыедзя каравашнік, то дзецям ужэ канхветы.*

КАРАСІ'НА *ж.* Газа. *Газа ў нас рэтка гаворацЬ, больш карасіна.*

КАРАХВА'ШКА *ж.* Кузаў у калёсах. *Прывёс карахвашку бульбы.*

КАРЗІ'НА *ж.* Кош з лазы. *Накапала карзіну бульбы.*

КАРО'ПКА *ж.* Авальны кош з луба (носяць за плячамі). *Набрала каропку грыбоў.*

КА'РЫ *мн.* Сані без развалак, на якія кладуць пярэднія канцы доўгага бярвення, жэрдзя. *Біс кар таўстоя палена ні прывязеш.*

КАСТРУ'П *м.* Струп. *Каструпэ — ета тоя самая, што струпэ.*

КА'ЦЬВІНА *ж.* Невялікае лугавое возера з нізкімі берагамі. *У Данілкавай кацьвіні шшукі прыгаюць цярас крыгу, як сабакі.*

КІ'ЖЛА *м.* і *ж.*, КІЖЛУ'Н *м.* Той, хто марудна і няўмела што-н. робіць. *Кіжла ета пакуль што зьзелая, дак надаесь ждаць.*

КІЙКЕ' *мн.* Кукуруза. *Кійке, як пасьпеюць, пáрылі і грызьлі.*

КЛЕ'ЙНЯ *ж.* Плыт. *Клейня — тоя самая, што плыт. Лес вязалі ў клейню, а патом сплаўлялі па рацэ.*

КЛЫГА'ЦЬ *незак.* Прыпадаць на адну нагу, кульгаць. *Нешта карова мая клыгая.*

КНІ'ГІ *мн.* Аддзел страўніка ў каровы, кніжка. *Кнігі тожа нікаторыя варацъ, але іх пагана чысьсіць.*

КО'ЎБЫК *м.* Страўнік, трыбух. *Як кабана ўб'юць, то коўбык тожа ў дзела ідзе: нікаторыя варацъ яго, а другія начыняюць.*

КО'ШЛА *ж. зневаж.* Жанчына з недагледжанымі, калматымі валасамі. *Такая кошла, хоць ба прычасалася трохі.*

КРУ'ПЕНЬ *м.* Крупяны суп, крупнік. *Наварылі грэцкага крупню.*

КУЛІ'ТКА, КУЛІ'ДА *ж.* Буханка хлеба хатняй выпечкі. *Пазычыла кулітку хлеба.*

КУРДА' *ж.* 1. Невысокая, маларослая жанчына. 2. У выразе: *загнуць курду* — прыгнуць ногі да грудзей каму-н., хто ляжыць на спіне.

КУРДУ'ПЯЛЬ *м. зневаж.* Невысокі маларослы чалавек. *Які ета мушшына — курдупяль нейкі.*

КУ'ТАЦЬ *незак.* 1. Ставіць, рабіць (плот). *Кутаць плот.* 2. Абносіць, абгароджваць плотам. *Кутаць гарот.*

КУЦАЛІ'М *м.* Надта бедны гаспадар. *Які зь яго хадзяін — куцалім вечны.*

КУ'ШТАЦЬ *незак.* Прабаваць моц яйца, стукаючы ім аб зубы. *Бусял куштая яечкі* [пра клёкат бусла].

ЛАГО'ШЫ *мн.* Спецыяльнае прыстасаванне пад заднія канцы бярвення ці жэрдзя пры перавозцы (вось на двух колах, да канцоў якой прымацаваны дзве скрыжаваныя аглоблі). *Летам — лагошы, зімой — патсанькі.*

ЛАЗЬБЕ'НЬ *м. зневаж.* Няўклюда, тупіца (пра падлетка). *Лазьбень ты дурны, хіба так робяць?*

ЛАПАНО'СЫ *прым.* З плоскім носам. *Лапаносы чалавек. Лапаносая ліцо.*

ЛАПЕ'КА *ж.* Латка. *Прышыў лапеку. Старая ўжэ сарочка — анны лапекі.*

ЛА'ПЛЕНЫ *прым.* Залатаны. *Лапляныя штанэ.*

ЛЕ'ЖАНЬ *м.* Ляляк. *Лежань гнязда ні дзелая, кладзе яечкі дзе-небудзь каля лаўжа.*

ЛЕ'ЯЦЬ *незак.* Ліць. *Дош леяў усю ноч.*

ЛУЗА'Н *м.* Здаровае, тоўстае дзіця. *Лузан ты етакі!*

ЛЯСКО′ЎКА *ж.* 1. Дзікая лясная яблыня. 2. Плод гэтай яблыні. *Нарваў лясковак — кіслыя, аж рот дзярэ.*

МАНІ′СТЫ *мн.* 1. Нізка з пацерак. 2. Самі пацеркі. *Рассыпала маністы.*

МАРА′ *ж.* Чарцяня (пра надта дураслівае дзіця). *Аччапіся ты, мара!*

МАРО′ЗАВЫ *прым.* Мёрзлы. *Марозавы хлеп. Марозавая яблыка.*

МАЎМЫ′РА *м.* і *ж. зневаж.* Насуплены, надзьмуты чалавек. *Што ета за маўмыра сядзіць?*

МАЦА′К *м.* Дужа моцнае яйцо. *Як у каго быў добры мацак, дак багата яечак мог выбіць* (на вялікдзень).

МЕ′РКА *ж.* Круглая пасудзіна з клёпак для сыпкіх цел. *Насыпаў мерку аўса.*

МЭ′ША 1. *м.* Нячысцік, пачвара. *А вэн мэша ідзе, забярэ цябе, як будзяш плакаць* (да дзіцяці). 2. *ж.* Неахайна адзетая жанчына. *Марыну звалі мэша і сястру яе Ганну.*

МЯ′ЧА *ж.* Адліга пасля толькі што выпаўшага невялікага снегу. *У мячу добра хадзіць на ахвоту: у лесі багата сьлядоў.*

НА′БІРКА *ж.* Невялікі кошык з лубу для ягад, грыбоў. *Набрала набірку суніц.*

НАКАРА′СКАЦЦА *зак.* Навязацца. *Накараскаўся на маю галаву еты Хведар.*

НАЛУЗА′ЦЦА *зак.* Добра, на поўны жывот наесціся. *Налузаўся дранікаў.*

НАПАСТЫРА′ЦЦА *незак.* Частымі дробязнымі сваркамі выклікаць непрыязныя да сябе адносіны, апастыляцца. *Чаго ты зь ім напастыраясься?*

НАПУ′ГАЦЦА *зак.* Празмерна напіцца або насёрбацца чаго-н. *Напугаліся вады, аж жыватэ трашшаць.*

НАПЯРАРУ′ГУ *прысл.* На злосць, насуперак, наперакор. *Ён усё дзелая напяраругу.*

НАПЯРАХАПЭ′, НАПЯРАХО′П *прысл.* Абганяючы адзін аднаго, каб зрабіць, ухапіць што-н. раней за іншых. *Кінуліся ўсе касіць атаву напярахапэ.*

НАРЭ′ТНІКІ *мн.* Частка вупражы, шляя. *Надзеў хамут, нарэтнікі і павёў каня ў аглоблі.*

НАСЯКА′НКА *ж. зневаж.* Настырная, з вострым языком дзяўчына. *Вот насяканка ета Дзяркачова дзеўка.*

НІЛЁХКАЯ *ж.* Нячыстая сіла. *Куды цябе нілёхкая нясе? Прыперла вас нілёхкая сюды!*

ПАГА'ДЗІЦЬ *зак.* 1. Выпацкаць. *Пагадзіў рукі ап цеста.* 2. Апаскудзіць (пра ежу). *Кот пагадзіў мой хлеп.*

ПАЛА'НТ *м.* Гульня ў мяч, лапта. *Будам гуляць у паланта.*

ПАЛЯ'РУШ *м.* У выразе: *кап цябе паляруш узяў* — радзімец.

ПАМА'К *м.* Намоклае палена. *Цяшкі, як памак.*

ПАРА'НКІ *мн.* Частка вясельнага абраду ў доме нявесты перад ад'ездам маладых у царкву для вянчання.

ПАРВА'ЦЬ *зак.* Пакусаць (пра сабаку). *Яго парваў сабака.*

ПАТСА'НЬКІ *мн.* Кароткія моцныя сані, на якія кладуць заднія канцы доўгага бярвення пры перавозцы. *Лес вазіць трэба добрыя кары і патсанькі.*

ПАТЦІКАВА'ЦЬ *зак.* Падпільнаваць. *Патцікаваў яго, як той ішоў дамоў, да й пяраняў на дарозі.*

ПАЎПРЫ'ЦА *ж.* Маленькая сытая дзяўчынка. *Ах ты, паўпрыца!*

ПАЎРАЗЭ' *мн.* Матузы, якімі замацоўваецца спадніца або фартух на паясніцы. *Кароткія паўразэ сталі.*

ПА'ША *ж.* Соты. *Пчолы палажылі пашу.*

ПЕ'ЧЫВА *н.* Адна выпечка хлеба. *Мукі асталося толькі на печыва.*

ПЛАН *м.* Незабудаваны ўчастак зямлі ў межах вёскі, які належаў пэўнаму гаспадару. *На плану ўжэ бульба паўсходзіла.*

ПЛІ'ТА *ж.* Чатырохвугольная ўкладка сена, саломы, снапоў, тарпа. *Узьлесь на пліту, ськінь трохі сена.*

ПЛУ'ТАЦЬ *незак.* 1. Блытаць. *Плутаць ніткі.* 2. Блукаць. *Плутаць пó лясу.*

ПЛЯ'ХІ *мн.* 1. Страўнік у каровы. 2. Надта мокрая адзежа. *Дош так леяў, што як ськінулі дома свае пляхі, дак вада раўчаком цякла.*

ПЛЯЦ *м.* Тое, што і *план. На пляцу нічога ні вырасла.*

ПОЛ *м.* Нары для спання паміж печчу і супрацьлеглай сцяной на вышыні каля 70 см.

ПО'ЛКА *ж.* Дзіцячая пялёнка. *Ні набярэсься етаму дзіцяці полак.*

ПО'СІК *м.* Мачавы пузыр (у свінней). *Надуць посік да высушыць, дак ён лятая, як шар.*

ПО'ХМАРАК *м.* Невялікая хмарка. *На небе анны похмаркі.*

ПРАНЦАВА'ТЫ *прым.* 1. Непаслухмяны, крыклівы. *Пранцаватая дзіця.* 2. Нядобры да людзей. *Пранцаваты чалавек.*

ПРА'НЦЫ *мн.* У выразе: *кап цябе пранцы зьелі (елі)* — чэрві.

ПРО'ТАР *м.* Кавалак хлеба ці мяса з іголкай усярэдзіне (даецца сабаку, каб загубіць яго). *Калі хочаш зьвесьці са свету сабаку — дай протар.*

ПРО'ЦА *ж.* Прашча. *Процу як раскруціш да анну віровачку пусьсіш, дак камянь далёка ляціць.*

ПРУ'ДЗІЦЬ *незак.* У выразе: *прудзіць вошы* — знішчаць, выпякаючы з вопраткі агнём.

ПРЫКЛЕ'ТНІК *м.* Трысцень пры стопцы. *Летам спалі ў прыклетніку.*

ПУ'ГАЦЬ *незак.* Прагна і часта піць. *Наеўся салонага, дак і пугаяш ваду біс канца.*

ПУСЬЦІ'ЦЬ *зак.* (звычайна ў загадным ладзе). Тое ж, што і *ўцячы. Пусьці, я тут лягу! Пусьціця, хай людзі пройдуць!*

ПЯРАКУ'ТАЦЬ *зак.* 1. Перагарадзіць плотам. *Пяракутаў дарогу.* 2. Перарабіць плот. *Пяракутаў плот.*

ПЯРАСАБА'ЧЫЦЬ *зак. груб.* Перабіць або цяжка параніць нагу палкай. *Пярасабачыў яму нагу.*

ПЯРАХЛЯ'БІЦЦА *зак.* Падцягнуць жывот з голаду. *Свіньня пярахлябілася.*

ПЯРАШШУ'КНУЦЬ *зак.* Спыніцца, перастаць ісці (пра дождж). *Дош як быццам пярашшук.*

РАГАВЕ'ШКА *ж. зневаж.* Дурніца, няўклюда. *Дурная ты рагавешка, хіба я цябе туды пасылала?*

РА'НКІ *мн.* Ранішні выган кароў на пашу. *Пагнаў кароў на ранкі. Прыгнаў з ранак.*

РАСТВА'НІЦЦА *зак.* Ператварыцца ў гразь, твань. *Дош і дош, усё растванілася кругом, ні прайці.*

РО'ЎБА *ж.* Дзяўчынка-плакса. *Якая ш ты роўба!*

РЫ'СКАЎНЯ *ж.* Зграя сабак у пару спароўвання. *Як натрапіш на рыскаўню, дак сабакі могуць пакусаць.*

РЫ'ХТАЧКІ *мн.* У выразе: *і рыхтачкі сабраў* — вельмі падобны да каго-н. *Ён—увесь бацька, і рыхтачкі сабраў.*

РЭ'СКА *ж.* Дробна нарэзаная салома, сечка. *Нарэж рэскі карові.*

САМЯШЫ'НА *ж.* Перхаць. *Багата самяшыны ў галаве.*

СІНЮ'ХА *ж. зборн.* Тонкія вузкія дошчачкі з абалоны для абрашэчвання сцен пры тынкоўцы і інш. *Надраў сінюхі.*

СКА'ЛЬЛІ *мн.* Пчолы-разведчыцы, якія адшукваюць месца (вулей, дупло) для новай сям'і. *Есь скальлі на вульлях.*

СКА'ПКА *ж.* Стрэмка. *Загнаў скапку ў нагу.*

СКАРАВО'ДНІК *м.* Скавароднік. *Сьпякла скараводнік.*

СКЛЕЦЬ *незак.* Стыць, мерзнуць. *Чаго ён склея на марозі!*

СКРЫ'НЯ *ж.* Шуфляда ў стале. *Пашукай ножніцы ў скрыні.*

СКРЫ'ПКА *ж.* Рыбалоўная прылада з *сінюхі* ў выглядзе конуса для зімняй лоўлі. *Налезла ў скрыпку ўюноў.*

СМА'ЛЬНЯ *ж.* Настырлівая, гарэзлівая дзяўчынка. *Ну й смальня ш ета твая дзеўка!*

СПУ'ДЗІЦЦА *зак.* Нечакана спалохаўшыся, паімчацца, панесціся (пра каня). *Конь спудзіўся, чуць калёсы ні паламаў.*

СТАЛДЫ'Р *м. зневаж.* Тое, што і *суглоп.*

СТАН *м.* Месца, дзе каровы пастаянна адпачываюць днём у час пашы. *Каровы былі на стану.*

СТАРАЖАВА'ЦЬ *незак.* Вартаваць. *Старажаваць сат.*

СТАРЫ'К *м.* Старое нявысахшае рэчышча, старыца. *Старык зацягнула цінай.*

СТРОК *м.* Разнавіднасць авадня. *Строк як пякане каню пат шшэляпі, дак той аш места ні находзіць, матая галавой.*

СТРОП *м.* Месца, дзе стыкаюцца два бакі страхі, звычайна ў хлеве, у гумне. *Наклаў сена пат самы строп.*

СУ'БАЛАТАК *м.* Нізкае месца, лужок каля балота. *Трохі назьбіраліся каровы па субалатках, ні галодныя.*

СУГЛО'БІНА *ж. зневаж.* Тое, што і *суглоп. Етакая суглобіна, а сланяяцца бізь дзела.*

СУГЛО'П *м. зневаж.* Высокі няўклюдны падлетак. *Такі суглоп, а нічога ні ўмея.*

СУ'ЗДАЛЬ *м. зневаж.* Тое, што і *суглоп. Суздаль еты, ні за што ні бярэцца, яму п толькі гуляць.*

СЫРЫ'ЦА *ж.* Рэмень з сырой нядубленай скуры. *Будзя добрая сырыца на цярасьсядзельнік.*

СЬКІ′РДА *ж.* Спецыяльная ўкладка сена, саломы, дроў, сціртa. *Пат павецьцю цэлая ськірда дроў.*

СЬЛЕ′ПЯТА *ж.* Дзікія, лясныя пчолы. *Сьлепята бывая ў дуплях, а ў вульле ні садзіцца.*

СЬНЯКА′ЦЬ *незак.* Смаркаць. *Сьнякаць нос.*

СЬЦЕ′ЖАР *м.* Жардзіна, уваткнутая ў зямлю пасярэдзіне стога для ўстойлівасці. *Біс сьцежара стаге ні дзелалі.*

ТА′МАКА *прысл.* Там. *Тамака ніхто ніколі ні быў.*

ТАНА′ЦЬ *незак.* Тануць. *Дуп таная ў вадзе.*

ТАРО′К *м.* Адзін рад змацаваных бярвенняў у плыце. *Тарке зьвязуюць у плыт.*

ТРУІ′ЦЬ *незак.* Труціць. *Труяць рыбу.*

ТУ′ТАКА *прысл.* Тут. *Пабуду тутака, а ты схадзі ў гумно.*

УКІ′ЖЛАЦЦА *зак.* Няўмела, як папала абуцца, адзецца. *Укіжлаўся неяк у лапці.*

УКІ′ЖЛАЦЬ *зак.* Няўмела, як папала адзець, абуць. *Так-сяк укіжлала дзіця ў пасьцілку і панесла.*

УКЛА′СЬЦІСЯ *зак. жарт.* Памерці. *Звоняць — нехта ўклаўся.*

У ПАРО′ЗІ. Каля парогу. *Чаго ты стаіш у парозі? Прахоць, садзіся.*

УРУ′НЯЦЬ *зак.* Увабрацца ў сілу. *Жыта ўруняла. Хлопяц уруняў.*

УСЮ′ДЫХ *прысл.* Усюды. *Усюдых трэба паспець.*

УЦЯЧЫ′ *зак.*, УЦЯКАЦЬ *незак.* (звычайна ў загадным ладзе). Даць, вызваліць месца, праход, дарогу. *Уцячы, я тут сяду! Уцякайця, хай машына праедзя!*

УШУ′МКАЦЦА *зак. жарт.* Цёпла ўхутацца. *Ушумкайся добра, ба ехаць будзя халонна.*

УШШУ′КНУЦЬ *зак.* Суняцца, суцішыцца, сціхнуць. *Дожжык трохі ўшшук.*

ХАЛЕ′РАЯ *ж. лаянк.* Непаслухмянае дзіця (часам скажуць і пра дарослага). *Вот я табе дам, халерая ты!*

ХАЛЕ′РНЫ *прым.* 1. Непаслухмяны, крыклівы (пра дзяцей). *Такая халерная дзеўка, нікога ні хоча слухаць.* 2. Нядобры да людзей, шкодны. *Халерны ён чалавек, ат яго дабра ні жжы.*

ХЛЯ′БА *ж.* Пагода з мокрым снегам, слота. *На дварэ хляба.*

ЦАПКЕ′ *мн.* 1. Трыножка для падвешвання калыскі ў полі. *Даўней як у каго дзіця, то ў поля бралі калюбель*

*і цапке.* 2. Тонкія жэрдачкі, на якія ставілі снапы ў ёўні для сушкі.

ЦА'ХЛІЦЬ *незак.* Па-асобаму цяўкаць, гонячы зайца (пра сабаку). *Сабака цахліць па зайцу.*

ЦЭ'ЛКА *ж.* Шпулька для намотвання нітак, цэўка.

ЦЯРАСЬСЯДЗЕ'ЛЬНІК *м.* Церассядзёлак, пасак. *Пацьцягні цярасьсядзельнік, а то каню цяжка.*

ШАБУНЯ'ЦЬ *незак.* Прыхільна, паціху размаўляць (пра старых людзей). *Баба з дзедам шабуняюць, нічога ні бачаць.*

ША'НЬКА *ж.* Торба. *Паклала хлеп і сала ў шаньку.*

ШВА'ЙКА *ж.* 1. Доўгае плоскае шыла, якім карыстаюцца пры вырабе чаго-н. з лубу. *Швайкай шыюць каропкі.* 2. Страказа. *Швайку гарацкія завуць страказа.*

ШШЭ'ЛЯПІ *мн.* Сківіцы. *Схапіў каня за шшэляпі.*

Ю'РБАЛ *м. зневаж.* Тое, што і *суглоп. Юрбал еты тольні пра гульню і думая.*

Ю'ШКА *ж.* Вадкая частка якой-н. стравы. *Юшку высярбалі, а мяса на ньне асталося. Бульба* [зь] *юшкай* — бульбяны суп.

Я'РАЙ *м.* Аер. *Нарвалі каля рэчкі яраю, ён добра пахне і корань салоткі.*

*Ф. Д. Клімчук, І. Я. Яшкін*

# З ЛЕКСІКІ ВЫГАНАЎСКАГА ПАЛЕССЯ
## (вёска Горталь Івацэвіцкага раёна)

Выганаўскае Палессе — невялікі раён у міжрэччы Шчары і Ясельды, дзе размешчана Выганаўскае возера. Гаворкі гэтай тэрыторыі адносяцца да паўночнабрэсцкіх, яны аддзяляюцца пучкамі ізаглос ад дыялектаў брэсцка-пінскіх і гродзенска-баранавіцкіх[1]. Некаторыя моўныя асаблівасці адмяжоўваюць гаворкі Выганаўскага Палесся ад суседніх заходніх і ўсходніх гаворак[2].

Матэрыялы збіраліся ў 1971 г. пры абследаванні гаворкі вёскі Горталь Івацэвіцкага раёна для Лексічнага атласа беларускай мовы. Вёска Горталь з'яўляецца адным з старадаўніх населеных пунктаў Выганаўскага Палесся. Яна размешчана ў 6 км на паўднёвы ўсход ад Целяхан. Адзначым некаторыя рэгіянальныя асаблівасці гаворкі гэтай вёскі.

1. Паслядоўнае оканне. Часам у ненаціскных складах на месцы этымалагічнага *о* вымаўляецца гук, сярэдні паміж *о* і *а* (*гасьці́нец — гоcьці́нец, шкворэ́ц — шкварэ́ц*). Этымалагічны *а* ў гэтай пазіцыі спарадычна пераходзіць у *о* (*сопо́жкі*).

2. На месцы *е, ѣ* вымаўляецца *е*. Вельмі рэдка на месцы этымалагічнага ненаціскнога *'е* вымаўляецца гук, сярэдні паміж *а* і *е*. На месцы націскнога *ѣ* звычайна вымаўляецца *е,* часам факультатыўна *е* «закрытае» або (вельмі рэдка) *ⁱе*. Часам на месцы ненаціскнога *'а* вымаўляецца *'е*.

---

[1] Н. Т. Вайтовіч. Ненаціскны вакалізм народных гаворак Беларусі. Мінск, 1968, стар. 81—82 і інш.; Ф. Д. Климчук. К лингвогеографии Западного Полесья (фонетика четырех полесских говоров). Автореферат канд. дис. Минск, 1973, стар. 4—5, 20.

[2] Дыялекталагічны атлас беларускай мовы. Мінск, 1963, карты № 73, 116, 159, 178, 189, 207, 217, 223, 229, 271, 290, 296, 304, 334.

3. Пасля губных зычных нярэдка вымаўляецца галосны *а* як факультатыўны варыянт пераднаціскнога *е* (*пэтна́цьцэць* і *патна́цьцэць, пэро́* і *паро́, вэно́к* і *вано́к*).

4. На месцы націскнога *о* ў новых закрытых складах выступае «закрыты» *е*, які мае артыкуляцыйныя адзнакі галосных *е* і *і* (*ы*). Гэты гук часта вымаўляецца амаль як *ы*, зрэдку амаль як *э*. У дадзенай пазіцыі ў мове адной і той асобы, у адных і тых словах можа вымаўляцца *ы* і *э* (*кынь* і *кэнь*). У прыстаўцы-прыназоўніку *под-* на месцы *о* вымаўляецца *і* (*під столом, підняла*).

5. Галосны *і* часта ўжываецца пасля губных, спарадычна пасля шыпячых, *ц*, *р*, не памякчаючы іх. Галосны *і* ў такіх выпадках абазначаецца намі праз *ы*.

6. Гаворцы характэрна цеканне-дзеканне (мяккія *ц'*, *дз'* бліжэй да палаталізаваных, чым да палатальных). У мове старэйшых жыхароў спарадычна сустракаецца вымаўленне *д'* і *т'*.

7. Зычны *в* у пазіцыі перад галоснымі пераважна губна-губны. Губна-губны *в* спарадычна вымаўляецца на месцы нескладовага *ў*.

8. У назоўніках назоўнага склону множнага ліку ў адных і тых словах, у мове адных і тых асоб паралельна ўжываюцца канчаткі *-ы, -і* і «закрытыя» *-э, -е* (*колюкі́* і *колюке́, бараны́* і *баранэ́*).

9. Назоўнікі жаночага роду ў родным склоне множнага ліку маюць канчатак *-ей* пад націскам і не пад націскам: *пе́сьней, ку́зьней, вішне́й, ду́шэй, мэ́жэй, но́чэй, пчо́лэй, го́ловэй.*

10. У 3-й асобе адзіночнага і множнага ліку ў канчатках дзеясловаў выступае *-т* (*вісіт, вісят, уды́рыт, уды́рат*).

АБЫ', АБІ' *злучн.* Як, як бы, нібы, бы. *Ку́лем лёг спаць, абы снэп. От прычэпіласа, абы не́ка слота́.*

БАЙСІ'ЦЬ *незак.* Гаварыць лішняе; выдумляць.

БЛІШЧА'ВЫ *прым.* Бліскучы. *Блішча́вых лысых го́ловэй не хочу.*

БУНОВА'ЦЬ *незак.* Спадцішка помсціць, празмерна нагаворваць; бузяніць. *Буновацъ на чоловека стала. Буну́е споцішка́, рэ́пчэ на его, мсьціць тайно.*

БУ'ЧНЫ *прым.* Высокі, тонкі, непрыгодны на будаўнічы матэрыял (пра лес). *Там бучны лес.*

БЭ'РВА *ж.* 1. Кладка. 2. Бервяно ў насціле. *Поло́жэны бэ́рвы.* 3. *зборн.* Бярвенне. *Бэрва клаласа і по болоту, і ў лесе, і на дорозе.*

БЭ'РВІНА *ж.* Тое, што і *бэрва 1, 2.*

ВЕ'ХЭЦЬ *м.* Сцёрты венік, дзяркач.

ВЕ'ШАЛО *н.* Нізка (пра пацеркі, каралі). *Вешало пацерóк.*

ВЕШНЯ'НЫ, ВІШНЯ'НЫ *прым.* Вясенні, яравы. *Ярыца вешняна. Вішняны посéў.*

ВОДЗЯ'НКА *ж.* Маленькая мурашка, чырвоная (Formicidae sanguinea Latr.) або жоўтая ці светла-карычневая (F. Lasius flavus Degeer). *Водзянкі* (*водзенкí*) *на кýпі воны́.*

ВОШ *ж.* 1. Земляны клешч, маленькая крывава-чырвоная і мяккацелая казяўка (Trombidium holosericeum). 2. Вадзяная блыха, або дафнія (крывава-чырвоная дробная, мяккацелая казяўка). *Вóшы ў водзé.* 3. Снежная блыха Desoria glacialis з родаў Podura і Achorutes. *На сьнег напалі вошы.*

ВОШЧА'ВІНА *ж.* Драўлянае прыстасаванне ў выглядзе ціскоў для прасавання воску. *Вошчавіна, вэск выдáўваеш.*

ВЫБО'ЙНІК *м.* Макуха (з канапель, ільну).

ВЫ'НОРЫЦЬ *зак.* Выпараць, знайсці. *Вы́норыла кулёк мукі ў сьцёпцы.*

ВЫРО'СТОК *м.* Падлетак.

ВЫШЭ'Й *м.* Пасохлая, звычайна буйная неядомая трава, якая косіцца ўвосень па лёдзе на подсціл. *Выш'ю накосім.*

ГАЙДА'Р *м.* Той, хто паганяў валоў.

ГЛУ'ВЭНЬ *м.* Перакладзіна над вушакамі дзвярэй.

ГНЕТУ'ХА *ж.* Малярыя. *Гнетýха гнеце.*

ГОДО'ВАНІК *м.* Выхаванец, прыёмны сын.

ГОЛОВА'ВЫ *прым.* Галаваты, з вялікай галавой.

ГО'ЛЫ *прым.* Аднародны, без прымесі, з аднаго, аднастайнага рэчыва. *З голой мукі не пóмню, колі пэклá.*

ГОНОЗА' *ж.* Заедзь, агульная назва маленькіх мушак.

ГУЗДЗЕ'Р *м.* 1. Ніжняя частка снапа, гузыр. 2. Верхняя частка ў веніку, за якую трымаюць рукою; камель.

ГУЗДЗІ'Р *м.* Тое ж, што і *гуздзер 1.*

ДЗЕРТЫ'ШКА *ж.* Выкапаны з коранем пень, корч. *Ходзём накопаем дзертышóк.*

ДЗЮ'ГНАСТЫ *прым.* У палоску, паласаты. *Як дам я ёмý дзю́гнастого пóяса запаразáці, то будзе вэн усёй паніч.*

ДУПНЯ'ТЫ *прым.* Дуплаваты. *Дуб дупняты.*

ДЫ'ХЛО *н.* Бакавая частка жывата.

ЖУРА'ЎКІ *мн.* Верхнія прадольныя перакладзіны ў ткацкім станку.

ЗАЗРО'НЫ *прым.* Зайздросны. *Зазро́ны, коб ему ўсе было́.*

ЗАКАБА'Й *м.* Хвалістая складка, завіліна (на паверхні шапкі ў смаржкоў). *Сморшчо́к з закаба́емі.*

ЗАПАЛЯ'НЕЦ *м.* Самастрэл. *Робілі запаля́нцы і стрэлялі, як стрэліло, то чэ́рэпа знесло́.*

ЗАПЭКНУ'ЦЦА *зак.* Заікнуцца, намякнуць, паведаміць; наказаць. *Хоць бы кому запэкну́ласа — загне́сса?!*

ЗНАЙДЗЁНЫ *м. прым.* у знач. наз. Пазашлюбнае дзіця. *Карпе́й, Міцёр, Юзё і Яну́к, сходзіце-тко до знайдзёного.*

ЗОМЛЕ'ЦІ *зак.* Сатлець.

КАЛА'НДЫШ *м.* Целяпень, тоўсты, непаваротлівы чалавек. *Куды ты церэ́біссa, каландыш?!*

КАРАЧУ'Н *м.* Нізкарослы чалавек. У беларускай міфалогіі Сіціўра́т, або Карачу́н, Зю́зя — падземны цар, казачны бог марозаў, які нёс смерць. Гл.: Живописная Россия, ч. 2. СПб — М., 1882, стар. 252.

КАЦА' *ж.* Тупы канец яйца.

КНЯ'ЖЫЧ *м.* Месяц, нябеснае свяціла.

КОКОШЫ'ЦЫ *мн.* Верхнія часткі ткацкага станка.

КРУГА'ЛЬ *м.* Палянка ў лесе.

КУ'ПА *ж.* Куча, стажок. *Мурове́й — купа такая.*

ЛЕСО'К *м.* Зараснікі арэшніку. *Лесок — там, дзе росьцё горэ́шнік.*

ЛЕЧЭ'Я *ж.* Адтуліна ў верхнім жорнавым камені.

ЛІ'ЧНІК *м. зборн.* Апаўшыя калючкі з хвоі або елкі. *Опада́е лічнік. Колюкі с хво́і, зь е́лкі, а як высохне, то лічнік.*

ЛУНО' *н.* Бяльмо на зрэнцы вока, катар зрэнкі. *Луно не на ўсе око зацягне; ек луно на здрачку́, то ужэ катара́хта.*

ЛУ'НУЦІ *зак.* Памерці, здохнуць. *Ты* [цётка] *ў мэне́* [у маёй хаце] *лу́неж.*

МЛЕ'ЧАВО *прысл.* Хмурна. *Цепэ́рако бы млечаво, бі туманно.*

МУ'ХАРАНКА *ж.* Мухамор.

МУ'ЦЯ І *м.* і *ж.* Ілгун, манюка. *Муця муціт, а брэхун брэшэ брэхню.*

МУ'ЦЯ II *ж.* Кашэль з вечкам, плецены з бяросты. *Муця з бэро́сты, зачыняецца, з ею ў сваты́ ходзілі.*

НА'КРЫЖКА *ж.* Калатоўка з перакрыжаванымі планачкамі на канцы, якой збіваюць масла ў бойцы. *Накрыжка ў бэйцы, як масло ро́біш.*

НАЛІ'ЦЬ *зак.* Напоўніць. *На Льлю* [Ілью] *поўную піч нового хлеба нальлю* (прымаўка).

НАСЕ'ДАЛО *н.* Седала. *Пошлі куры на наседало.*

НОРЫ'ЦА *м.* і *ж.* Праныра. *Норыца, ўсе вы́парыш?!*

НУГРЫ'ЦІ *незак.* Назойліва прасіць. *Нугры́т, коб і ей пошылі.*

ОБОРО'НІЧ *м.* Дужка ў драўлянай баране. *Оборо-ніч — дзерэўля́ная дуга загнёна.*

ОДМЭ'РШЧЫНА *ж.* Спадчына пасля смерці маці. *Гэто ў мэне одмэршчына мацерына.*

ОСТРО'Г *м.* Лесвіца з сукаватай елкі ці іншага дрэва.

О'ТКІДКА *ж.* Напрадзенае верацяно. *Откідка мала́я, дзьве о́ткідкі звіваем — і руча́йка.*

ОТЫ'Р *м.* Вузенькі загончык.

ПАЎРО'ЗЫ *мн.* Махры ў хустцы.

ПЕ'РНАЧ *м.* Пуховая коўдра, пухавік. *Пернач цёплы, охў́таціса було своё.*

ПІДСУ'КАНЫ *прым.* Падцягнуты, хударлявы (пра жывёлу).

ПІ'КАЎКІ *мн.* Аер.

ПЛОШЧА'К *м.* Брус. *Сцена з плошчакоў. Дзерэвіну сточылі мі, то плошчак сто́чэны.*

ПО'ДЛУГ *прыназ.* Каля. *Подлуг гэтого вока.*

ПОКА'Й *прысл.* Каля, уздоўж. *Беглі покай клў́ней.*

ПОКО'ПІСКО *н.* Рэшткі сена ад пластаванага абярэмка, ад капы сена, саломы. *Покопіско загрэбі за мною.*

ПО'ПЫРСКА *ж.* Аскепак, пырскі (тое, што адскоквае пры ўдары). *Попырска — шо одлётае, як сечэш, кускі дзёрэва, і по водзе ўдараеш, то попырскі лецят.*

ПОРОСЛЯ' *ж.* Невялічкая палянка ў лесе.

ПОСТА'ЦЬ *ж.* Здань, прывід.

ПОСЬЦЯГА'ЦІСА *зак.* Зніціцца, зрабіцца кволым, тонкім (ад пустазелля). *Цыбуля посьцяга́ласа, бі під підлогою росла.*

ПО'ЦЕЗЬ *ж.* Станок для вырабу верацёнаў.

ПО'ЦЯСЬ *ж.* Прасніца. *На по́цясях пралі.*

ПОШАРУ'НОК *м.* У выразе: *у пошару́нок* — у адзін рад (пра будынкі).

ПОШЫВА'ЦІ *незак.* Крыць страху пластападобнымі звязачкамі гатунковай саломы (са жменек, звязаных адным перавяслам).

ПРАВІ'ЦА *ж.* Найлепшы гатунак саломы, кулявая салома. *Правіца — гэ са́ма найле́пша солома.*

ПРАДЗЕ'ЛЬНІЦА *ж.* Жанчына, якая прадзе на калаўроце.

ПРА'ЛЬЛЯ *ж.* Жанчына, якая прала на верацяно, папрадуха. *Пральля — хто прала рукамі.*

ПРЫ'ПЛЮХ *м.* Пахілая страха.

ПРЫ'ЎШЭНЬ *м.* Вушак (у дзвярах).

ПРЫ'ХА *ж.* Непакрытая шэрсцю частка пысы (у жывёлы).

ПРЭНТ *м.* Жалезны шпень, які падтрымлівае каптур над камінкам.

ПЭЛЮГА' *ж.* Пясчанае, адкрытае месца. *Пэлюга — дзе вецер відува́е. Там одна пэлюга. На пэлюзе́ нічого не росьце.*

ПЭРЭ'ХМАРОК *м.* Воблака; хмарка. *Цепэр много пэрэ́хмаркоў. З гы́нчого пэрэ́хмарка шчы бы́льшы дождж, як із хмары.*

РА'ПОЦІНА *ж.* Прамежнасць між капытоў у жывёл.

РЭМЕ'ННІК *м.* Кажан, лятучая мыш.

СВІНЕ'Ц *м.* Сівец (трава).

СІНІ'НА *ж.* Сяніна (травіна з сена). *Хто вісуне на ко́ляду найдоўжэ́йшую сініну, то тому засеваць, то лён будзе родзіціса, і жыто, пшэніца, усе.*

СІПУ'ГА *ж.* Мяцеліца, завіруха. *Як снег бі мэце і бі сыпле, то сіпуга, сыпучы снег.*

СЛОКІ'ТА *ж.* Непагадзь, слата.

СНІЦЕ'Й *м.* Галаўня.

СОПЭ'ЛЬ *м.* Лядзяш. *Як на ко́ляду вэлікі сопле́, то вэлікі лён наросьце.*

СПАХО'ВЫ *прым.* Пакаты, спадзісты. *Спаховы бэ́рог.*

СТО'КОН *м.* Клопат, турботы, цяганіна. *От, кы́лько я сто́кону маў.*

СТОКОНІ'ЦІСА *незак.* Клапаціцца, турбавацца. *Кылько вона стоконіласа, дай напра́сно.*

СТРЭ'ЛКА *ж.* Кветканоснае сцябло цыбулі.

СТРЭ'ПАЧ *м.* Мера льновалакна (тры жмені). *Будзем церці лён, натрэм жмэне́й, по тры жмэні — стрэпач, дваццэць стрэпачо́ў — пове́смо.*

СТУ'БЛО *н.* Невялікая ўпадзіна на балоце, дзе летам не высыхае вада. *Стубло е й доўгэ, е й круглэ, е й глубо́кэе.*

СУДОСІ'ЦЬ *зак.* Сустрэць.

СУХОВІ'ЛА *мн.* Драўляныя вілкі з акаванымі зубцамі для гною. *У кого суховіла свое́, на вэз садзімо́са!*

СЬЛЕ'ПОТНІ *мн.* Дзікія пчолы, якія жывуць у дуплаватых дрэвах у лесе. *Сьлепотні у дубах, осінах у дупле жывуць.*

СЬЦЕ'ЛЬНІК *м.* Сяннік, набіты саломай ці сенам. *Сьце́льнікі панапіха́ем.*

ТА'ЛЬКА *ж.* Стоненая частка ніткі. *От, напрала с та́лькамі ніто́к.*

ТРЭПА'ЧКА *ж.* Прыстасаванне для трапання лёну ў выглядзе калодачкі з прымацаванай да яе вертыкальнай дошкай, праз якую па звешанай жмені лёну б'е траплом трапанніца.

ТРЭПКА'Ч *м.* Ручнік з датыкальных канцоў палатна для нашэння на спіне лёгкага грузу, для выцірання рук. *Одрэжэмо конц*э́ *да сплецем у плеце́нку, як не одрэзваем, то зробім трэпкача. Трэпкач — найлепшая оч*э́*пка до вар*э́*нькі. Трэпкач шчы* [яшчэ] *рукі выціраці.*

ТУШО'НІК *м.* Той, хто тушыць пажар. *Тушонікі м*э́*цно перэжа́рыліса.*

УДУ'ХЛЕВІНА, УЗДУ'ХЛЕВІНА *ж.* Цвёрдая верхняя скарынка зямлі пасля дажджу ў час засухі; верхні цвёрды слой на грузкім балоце.

ХРУСЬЦЬ *ж.* Дробнае ламачча.

ЦЕЛЕ'Ш *м.* Адрэзак калоды (каля 2 м).

ЦЫБА'Х *м.* Ліст цыбулі. *Цыбах*э́*ў нашчыпала.*

ЦЯ'ЦІ *зак.* Забіць, нанесці смяртэльны ўдар. *Цяў вэпрука́ на ко́ляды.*

ЧОРНЕ'Ц *м.* Апошні дзень апошняй фазы месяца.

ЧЭРЭПІ'ЦЫ *мн.* Шампіньёны. *Чэрэпіцы по гное́ ростут.*

ШЧЫНЯ'ЦІ *незак.* Ачышчаць ад каласоў зерне граблямі (пасля малацьбы). *Я ў́жэ шчыніў́ жыто.*

ШЧЭ'ЛКА *ж.* Столка. *Болхва́* [мулінэ] *ў одну шчэлку.*

ЯГЛІ'ЦІ *незак.* Прагна хацець, назойліва прасіць.

*І. І. Крамко*

# МЯСЦОВЫЯ СЛОВЫ АДНОЙ ПРЫНЁМАНСКАЙ ГАВОРКІ

## (дзеяслоўная лексіка)

Словы, якія падаюцца ў гэтым артыкуле, сабраны пераважна ў вёсцы Бе́ражна (мясцовая назва Бе́ражан і Бе́ражно), што знаходзіцца за семнаццаць кіламетраў ніжэй ад Стоўбцаў на Нёмане, а таксама ў іншых недалёкіх ад Бе́ражна вёсках. Часткова гэта вузкія дыялектызмы, часткова — словы, уласцівыя і іншым раёнам Беларусі. Некаторыя з іх не лішне было б нават уключыць у слоўнікі літаратурнай мовы, такія, як *збыткава́ць, капі́ць, скапі́ць* (сена), *намагчы́ся, паталя́ць, ха́яць* і іншыя. Акрамя дзеясловаў у артыкул уключана некалькі выклічнікаў, якія маюць блізкую да дзеяслова семантыку. Не падаюцца тут гукапераймальныя дзеясловы тыпу *бо́жкаць, гыгы́каць,* а таксама рэгіяналізмы, якія ўвайшлі ў мову жыхароў гэтай мясцовасці ў міжваенны час, такія, як *вы́мальдавацца, замальдава́цца* і падобныя позні́я паланізмы.

АБАБУ′ШЫЦЬ *зак.* Тое, што і *абабэнчыць.*

АБАБЭ′НЧЫЦЬ *зак.* Апушыць. *Не́што карову абабэнчыло — мусіць, павука з'ела, а можа, ад роснай канюшыны.*

АБІНЬДЗЁЖЫЦЬ *зак.* Абабраць. *Калі ні ўмееш гуляць у карты, то на грошы ні бярыся гуляць, бо так абіньдзёжаць, што і гроша ў кішэні ні астанецца.*

АБІРЫ′ЧЫЦЬ *зак.* Абстрыгчы. *Цябе абірычылі, як авечку, мусіць, маці ножніцамі стрыгла.*

АБЛЕ′ІЦЬ *зак.* Абшыць порткі скурай па пэўнай мадэлі.

АБРАБІ′ЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Асьцярожно ідзі каля дзвярэй, а то абробісься ў краску — яшчэ ні высахла!*

АБРАБІ′ЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Ні замеціў, што вось у каламазі, і абрабіў порткі.*

АВЭ′К *выкл.* Вон. *Усе авэк адгэтуль, німа чаго вам тут рабіць, толькі мяшаяця!*

АПСМЫ′КАЦЦА *зак.* Падзерціся, пашкуматацца. *Трэба завязаць на вужышчы вузял, бо ўжо канец далёко апсмыкаўсё.*

АПШУ′СТАЦЬ *зак.* Абабраць, абкрасці. *Ты там ні зявай, бо скоро апшустаюць,— там жулікаў хватая!*

АСЫКА′ЦЦА *незак.*, ПААСЫКАЦЦА *зак.* Агрызацца. *Ты менш асыкайся, а ідзі і рабі, бо ніхто за цябе ні зробіць! Ты мне тут паасыкайся больш, то палучыш!*

АТЛЕ′ЦІЦЦА *зак.* Падагрэцца, пацяплець. *Малако яшчэ ні закіпая — толькі чуць атлёцілася.*

АТПІРА′ЦЦА *незак.* Адпіхацца. *Мацней атпірайся, бо чайка стукняцца ў берах!*

АТХЛЯ′ШЧЫЦЬ *зак.* Шырока адчыніць. *Дзеці атхляшчылі і пакінулі дзьверы, дак много мух наляцело.*

АТЧЫБУ′ЧЫЦЬ *зак.* Адпаліць, выкінуць штуку. *Ну і штуку ты атчыбучыў!*

АЦАПЯНЕ′ЦЬ *зак.* Аслупянець. *Ці гэто тарапачэ ў вачах пасталі, ці праўды нешто было за кустам, але я ўвесь ацапянеў.*

АЦЯГА′ЦЦА *незак.*, ПААЦЯГА′ЦЦА *зак.* Марудзіць. *Дагэтуль ты ацягаўсё, а цяпер ні ўсьпеяш зрабіць. Пааыцягайся яшчэ трохі, можа, параннея!*

АШУ′ШКАЦЦА *зак.* Многа на сябе адзець. *Ты так ашушкаўсё, што і павярнуцца ні можаш.*

БА′БІЦЬ *незак.* Склікаць, вабіць ваўкоў. *У пиліпаўку апасно бабіць ваўкоў, бо як наляціць гайня, дак ні ўсьпеяш і на дзераво залесьці.*

БРЭ′НГАЦЬ *незак.* Брынкаць. *Які зь яго музыкант — вот трохі навучыўсё брэнгаць на мандаліні!*

БУ′ТНЯЦЬ *незак.*, ЗБУ′ТНЯЦЬ *зак.* Буцвець. *Нек трэба пярасушыць сено, бо ўжо пачало бутняць. Пракосы доўго паляжалі ніразьбітыя, ды яшчэ дожч уліў, дак збутняло сено.*

БЭНЦ *выкл.* Стук. *Я ні ўсьпеў аглянуцца, а ён мне бэнц лошкаю па лбе.*

БЭ′НЦНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Ні лезь, бо як бэнцну па носі, дак ні захочаш!*

БЭ′ХАЦЬ *незак.* Многа піць, есці. *Ні трэба много бэхаць гэтаі вады, бо толькі пацець будзяш.*

ВАШАВА'ЦЬ *незак.*, ПАВАШАВА'ЦЬ *зак.* 1. Выцягваць дрэва з рэчкі на бераг. *Нашо дзело толькі загнаць плытэ́, а вашаваць другія будуць.* 2. Выконваць работу грузчыка. *Павашуй цэлы дзень мяшке́, дак пад вечар і рук ні чуваць.*

ВЫ'БРЫЗЬГАЦЦА *зак.* Пашкуматацца (пра край тканіны). *У тваём фрэнчы ўжо рукавэ́ выбрызьгаліся, трэба падлажыць.*

ВЫВАШО'ЎВАЦЬ *незак.*, ВЫ'ВАШАВАЦЬ *зак.* Тое, што і *вашаваць.*

ВЫГІНДЫ'РВАЦЦА *незак.* Крыўляцца. *Чаго ты тут выгіндырваясься, як на прыстаўле́нні!*

ВЫДРЫГАЦЬ *незак.* Тое, што і *выгіндырвацца.*

ВЫ'СКРЫПАЦЬ *зак.* Астудзіць. *Зранку цёпло было ў хаці, але дзеці за дзень выскрыпалі.*

ВЫСЬЦІГА'ЦЬ *незак.*, ВЫ'СЬЦІГНУЦЬ *зак.* Тое, што і *перасьцігаць.*

ВЫ'ТРУХАЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Ні трэба насільно застаўляць яго есьці, хай трохі вытрухаяцца, дак сам папросіць.*

ВЫЦІНА'ЦЬ *незак.* Вырэзваць узоры на паперы.

ВЫ'ЦЫГАНІЦЬ *зак.* Выпрасіць. *Ты яму ні хваліся нічым, бо выцыганіць!*

ВЫ'ЯНЧЫЦЬ *зак.* Выпрасіць. *Ён такая прося, што ў любо́го выянчыць, як яму што панравіцца.*

ГАЛДЗЕ'ЦЬ *незак.* Шумець, крычаць. *Пярастáньця вы тут галдзець, а то аж галава пачала балець!*

ГАЛУШЫ'ЦЬ *незак.*, ПАГАЛУШЫ'ЦЬ *зак.* Біць. *Як надаело яму пасьвіць куранята, дак пачаў галушыць па адном. Анеля ні толькі нашы куры пагалушыла, яна і Юрыніны дзьве прыбіла.*

ГАНДУ'РЫЦЬ *незак.*, ПАГАНДУ'РЫЦЬ *зак.* Балакаць, гаварыць. *Доўго ішлі маўчком, а потым патрохі пачалі гандурыць. Трохі пагандурылі — і пара за работу брацца!*

ДАБА'ВІЦЬ *зак.* Даставіць. *Гэто вельмі добрая дзеравяка, але як яе зь лесу дабавіць дадому бяз добраі дарогі?*

ДАРАЗУМЕ'ЦЦА *зак.* Дадумацца. *Гэто ні лёхкаё дзело, як ты да гэтаго й даразуме́ўсё?*

ДАРЭ'СЬЦІЦЬ *зак.* Дакончыць. *Пака я была на агародзі, дак кот выцягнуў з варывенькі і дарэсьціў той кусок каўбасы.*

ДАСТРЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Справіцца; дагадзіць. *Сам чорт табе ні дастрэнчыць — у мяне ш ні дзесяць рук!*

ДАСЬПЕ'ЦЬ *зак.* Паспець, не спазніцца. *Ён ні празявáя ўсюды дасьпéя.*

ДЗВЭ'НГАЦЬ *незак.* Звягаць. *Адыдзіся ты і ні дзвэнгай пад вухам!*

ДЗЯРБАНУ'ЦЬ *зак.* Драпануць, драпнуць. *Кот яго так дзярбануў за руку, што кроў пашла.*

ЖАЛАБА'ЦІЦЦА *незак.*, ВЫ'ЖАЛАБАЦІЦЦА *зак.* Выгінацца, карабаціцца (пра дошкі). *Кадушка гэдак намокла, што дно пачало жалабаціцца. Вельмі мóцно сьціскаць падлогу ні трэба, бо можа выжалабаціцца.*

ЖАЛАПА'ЦЦА *незак.* Гарлапаніць, крычаць. *Чаго ты жалапáясья на ўсё горло? Адзéўсё п ціхо і пайшоў!*

ЖУ'ЛЯЦЬ *незак.*, ПАЖУ'ЛЯЦЬ *зак.* Тлець. *Мусіць, некі лахман на печы жýляя, бо запахло портам. Забыліся зьняць сь печы жыкет, дак у некалькіх местах пажуляў.*

ЗАБУЗАВА'ЦЦА *зак.* Забрудзіцца. *Вазьмі другі напільнік, бо гэты ўжо забузавáўсё і кепско бярэ — ім разака ні наточыш.*

ЗАГАДЗІ'ЦЬ *зак.* Падкупіць, задобрыць, падмазаць. *Ён пастарáўсё бацькоў добро загадзіць.*

ЗАЛЫ'ГАЦЦА *зак.* Заехаць, зайсці. *Пакуль ты на гэ́дакум кані залы́гаясься ў Стоўпцы, дак і сьцямнея.*

ЗАЦУ'ХЛЯЦЦА *зак.* Запэцкацца. *Цэлую восянь ні скідаў фуфайкі, дак зацухлялася каля машыны.*

ЗАЦУ'ХЛЯЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Яна яшчэ ні ўмея сама есьці — вунь як зацухляла грудзіну ў сукенцы.*

ЗАЦЯЛЕ'СКАЦЦА *зак.* Вымазацца, запэцкацца. *Ты ясі, як сьвіня,— і сам зацялéскаўсё, і стол зацялескаў.*

ЗАЦЯЛЕ'СКАЦЬ *зак.* Вымазаць, запэцкаць. *Зацялескаў увесь настольнік, як я вымыю яго!?*

ЗБЫТКАВА'ЦЬ *незак.* Грэбаваць. *Калі гэдакаю ядою збыткýяш, то ты ні галодны.*

ЗЗЫБНУ'ЦЦА *зак.* Пахіснуцца. *Нашто ты пасадзіў яе на край чайкі — ззыбнецца і паляціць у воду!*

ЗЬБІЁ'ДАВАЦЬ *зак.* Украсці. *Дзе ты ўзяў гэты ножык? Мусіць, зьбіёдаваў недзя, бо ў цябе яго ні было?*

ЗЬМЕ'ЦІЦЬ *зак.* Заўважыць. *Мы як зьмецілі, што самалёты сюды ляцяць, дак пазашываліся пад кустэ.*

ЗЬНЯБО'ЖЫЦЦА *зак.* Прыбедніцца. *Чаго ты гэдак зьнябóжыўсё, як бутто табе горш за другіх?*

КАВЭ'НЧЫЦЦА *незак.*, ПАКАВЭ'НЧЫЦЦА *зак.* Мучыцца. *З гэтаю страмякаю жартачкі кепскія, бо як станя нарываць, дак доўго будзяш кавэнчыцца. У мяне было гэдак — вот пакавэнчыўсё, можа, зь месяц.*

КАПІ'ЦЬ *незак.*, СКАПІ'ЦЬ *зак.* Складваць у копы. *Трэба ўжо пачынаць капіць сено, бо скоро дошч пойдзя. Яшчэ ні усьпелі ўсіх валкоў скапіць, як лінуў велькі дошч.*

КЕ'ПАЦЦА *незак.* Кешкацца. *Чаго ты там доўго кёпаясься? Даўно ўжо можно было ўсё парабіць.*

КУ'ЦАЦЬ *незак.*, ПАКУ'ЦАЦЬ *зак.* Камячыць. *Дзе ты гэдак пакуцала сукенку? Трэба будзя гладзіць.*

ЛАЗІКАВА'ЦЬ *незак.* Ленавацца, ухіляцца ад работы. *Мало зь яго карысьці, бо ўсё лазікуя, глядзіць, кап хто зрабіў.*

ЛАПАНУ'ЦЬ *зак.* Пабегчы, ірвануць, паспяшацца. *Дзік як зьмеціў нас, дак адразу лапануў у кустэ́. Есьця, госьці, есьця, а вы, дзеці, лапане́ця!*

ЛЫ'ГАЦЦА *незак.* Часта хадзіць або ездзіць тудысюды. *Што вы ўсё лы́гаяцеся? Хату выскрыпалі!*

МАРСЬКАНУ'ЦЬ *зак.* Сцебануць. *Добро марськані пушкаю, дак і мялісты конь пабяжыць.*

МАРЦАВА'ЦЬ *незак.*, ПАМАРЦАВА'ЦЬ *зак.* Палявацъ (пра катоў). *Катэ́ як марцуюць, дак умеюць крычаць як дзеці, часто аж прачнесься ад іх крыку.*

МА'ЦАЦЦА *незак.* Марудзіць. *Доўго ты нешто ма́цаясься, пара ўжо ўсё парабіць!*

МІРКІТАВА'ЦЬ *незак.*, ПАМІРКІТАВА'ЦЬ *зак.* Паляваць (пра авечак). *Здаецца, і ўсе авечкі восянью міркітавалі, а акаціліся ні ўсе — можа, каторая зьвергла, а можа, ні памíркітава́ла.*

НАМАХЧЫ'СЯ *зак.* Намерыцца, зрабіць спробу. *Ён як наможацца што зрабіць, дак ні адгаворыш яго ні за што.*

НАПУ'ГАЦЦА *зак.* Многа напіцца або наесціся рэдкага. *Во напу́гаўсё крупніку — аш ссапціся ні можа.*

НАШАТЫ'РЫЦЦА *зак.* Натапырыцца. *Як убачыў воўка, дак аш валасэ́ на галаве нашатырыліся.*

НАШАТЫ'РЫЦЬ *зак.* Натапырыць. *Дзік спачатку спыніўсё, нашатырыў хіп, а потым як су́няцца да сабакі*

НІВА'ДЗІЦЬ *выкл.* У выразе: *нівадзіць табе* — так табе і трэба! *Нівадзіць табе! Кап слухаў мяне, то гэтаго ні было п.*

НІДАЛЯГА'ЦЬ *незак.* Не хапаць, неставаць. *Некал яна сёння ні вясёлая — нечаго ёй нідалягая.*

НЫ'ГАЦЬ *незак.* Заглядаць, соваць нос. *Чаго ты, як сабака, ўсюды ныгаяш?*

ПАВАРО'ЎВАЦЦА *незак.* Пабойвацца. *Ён бацька яшчэ трохі паварoўваяцца, а мацяры саўсім ні слухая.*

ПАД'ІЛДЫ'КВАЦЬ *незак.* Жартаваць. *Глядзець збоку і пад'ілдыкваць лёхко, а няхай бы сам папробаваў зрабіць!*

ПАПАРУЗІ'ЦЬ *зак.* Развeрадзіць. *Ты асьцярожно, а то папарўзіш балячку!*

ПАРТО'ЛІЦЬ *незак.*, СПАРТО'ЛІЦЬ *зак.* Псаваць. *Які зь яго сапожнік — толькі мацяр'ял партоліць! Да яго я ні панясу, бо спартоліць.*

ПАТАЛЯ'ЦЬ *незак.* Патураць. *Што ты яму ўсё паталяяш? Скоро й на голаву сядзя!*

ПАТПАЛА'ЦЬ *зак.* Аддзяліць зерне ад мякіны, падкідаючы сумесь у начоўках. *Калі ты свабодная, то падзі патпалай сём'ё, бо мяшая на таку!*

ПАЦУ'РЫЦЬ *зак.* Прагнаць. *Я яго так пацурыў адгэтуль, што больш ні падыдзя і пат хату.*

ПІДНАВА'ЦЬ *незак.*, ПРЫПІДНАВА'ЦЬ *зак.* Пільнаваць. *Добро піднуй, каб авечкі ў шкоду ні лезьлі! Вот прыпідную, як будзяш ісьці дадому,— і надаю.*

ПІЦАВА'ЦЬ *незак.*, НАПІЦАВА'ЦЬ *зак.* Многа накладваць, набіваць біткoм. *Нашто ты ўсё піцўяш на вос, ці пацягня конь? Ён такі вос напіцаваў, што наледзьвя конь выцягнуў зь Нёмну.*

ПЛЮ'ШЧЫЦЦА *незак.*, ВЫ'ПЛЮШЧЫЦЦА *зак.* Лезці. *Куды ты плюшчысься, тут жо ш і стаць німа дзе! Гэтаё парася, як ні загароджвай, дак выплюшчыцца цяразь любую шчыліну.*

ПРАГА'ПІЦЬ *зак.* Празяваць. *Гэто лёхко можно было зрабіць, але я прагапіў мамент.*

ПРА'ТАЦЬ *незак.*, ВЫ'ПРАТАЦЬ *зак.* Ачышчаць ад хмызняку і карчоў. *Сягоння я пайду Ганісеўшчыну пратаць. Я сваю дзялку зь вясны вылратаў, так што і касіць будзя лепш і сена боляй.*

ПРАТРАСЬЦІ'СЯ *зак.* Прагаладацца. *Нашто ты яго застаўляяш есьці? Няхай пойдзя пагуляя. Як пратрасецца, сам папросіць.*

ПРАТУ'РЫЦЬ *зак.* Тое, што і *пацурыць. Нашто ён унадзіўсё сюды хадзіць, трэба будзя пратурыць.*

ПРЫКАКО'ШЫЦЬ *зак.* Прыбіць. *Яна ўжо ні адну маю курыцу прыкакошыла.*

ПРЫПА'СВАЦЬ *незак.* ПРЫПАСЬВІЦЬ *зак.* Дадаткова пасвіць на лепшай траве. *Кепская там трава, каб ні прыпасвай на полі, дак ні было п малака.*

ПРЫТРУ'ШВАЦЬ *незак.,* ПРЫТРУСІ'ЦЬ *зак.* Прыцярушваць. *Я паставіў сільё на сьметніку і мякінаю прытрусіў, каб ні відаць было.*

ПРЫ'ШЧЫЦЬ *незак.,* СПРЫ'ШЧЫЦЬ *зак.* Пражыць. *Пярат тым як прышчыць, гарох трэба намачыць. Трэба спрышчыць скаварод дзьве гароху, с сабою ў кішэні вóзьмям.*

ПРЫШЫ'ЦЬ *зак.* У выразе: *прышый кабылі хвост* — недарэчы (лішні, непатрэбны). *Нашто ты там патрэ́бян? Прышый кабылі хвост!*

ПУ'ГАЦЬ *незак.* Многа піць вады або есці рэдкай стравы. *Нашто ты гарачынёю пугаяш гэдак много сыроі вады?*

ПЭ'НКАЦЦА *незак.,* ПАПЭ'НКАЦЦА *зак.* Расколвацца, лопацца. *Лёт на Нёмні пачаў пэнкацца — скоро саўсім сыдзя. Гэдак моцно нешто ўгары стрэльнуло, штэ аш шыбы папэнкаліся.*

ПЭ'НКНУЦЬ *зак.* Лопнуць. *Сьцякло ў лямпі ад вéлькаго агню пэнкнуло і лямпа пачала капцець. Ён як пачне расказваць, як у сватэ езьдзіў, дак са сьмеху можно пэнкнуць.*

ПЭ'НЬДЗІЦЬ *незак.,* ПАПЭ'НЬДЗІЦЬ *зак.* Гнаць. *Я яго так папэньдзіў адгэтуль, што больш ні пóйдзя.*

ПЯРАПАРЭ'ЦЬ *зак.* Даўно прыйсці (пра пару, тэрмін). *Ці пара авёс жаць? А чаму ш не, ужо і пара пярапарэ́ла.*

ПЯРАСЬЦІГА'ЦЬ *незак.,* ПЕРАСЬЦІ'ГНУЦЬ *зак.* Пераймаць. *Да тóго воўка ні далёко было, але пярасьцігаць было позно. Я, як убачыў, што ліс павярнуў на астравок, пабех наўскасяк, але ні пярасьцігнуў.*

РАСПАРЦЫЛЁ'ЎВАЦЬ *незак.,* РАСПАРЦЫЛЯВА'ЦЬ *зак.* Размяркоўваць. *Чаму ты ўзяўсё ні сваё распарцылёўваць? Пакуль я прышла дадому, дак ён сабраў дзяцей і ўсе мае сухарэ́ распарцыляваў.*

РАСХЛЯ'ШЧЫЦЬ *зак.* Шырока адчыніць; расшпіліць. *Гэто Лёня расхляшчыў дзьверы і пакінуў. Ён заўсюды расхляшчыць грудзіну і бегая па дварэ.*

САʼДЗЯЦЬ *незак.* Шчымець. *Глядзі, кап соль ні папала на балячку, бо будзя моцно садзяць.*

САТЛІʼЖЫЦЬ *зак.* Пацяплець. *На дварэ пахмурно стало — мусіць, сатліжыць.*

СКАЛОʼЦЦА *зак.* Скалечыцца. *Ні чапляйся ты на плот, бо сколясься!*

СКАЛОʼЦЬ *зак.* Скалечыць. *Як сколяш нос, то больш ні будзяш чапляцца!*

СКРЫʼПАЦЦА *незак.* Часта хадзіць у хату і з хаты. *Чаго ты ўсё скрыпаясься — выстудзіш хату!*

СКУПОʼЎВАЦЬ *незак.* Скупліваць. *Ён і раней ні хацеў на гаспадарцы рабіць — езьдзіў па вёсках і скупоўваў сьвіня.*

СПАНАʼТРЫЦЬ *зак.* Унадзіцца, узяць у прывычку. *Ён як спанатрыў бегаць на канюшню, каб далі на кані пад'ехаць, дак ні аднаго дня ні прапусьціць.*

СПАЦЫРАВАʼЦЬ *незак.* Прагульвацца, паходжваць. *Як німа работы, дак дзяўчата спацыруюць па сяле, пяюць песьні.*

СПЛЯНДРАВАʼЦЬ *зак.* Знішчыць. *Пастух ні глядзіць авечак — увесь канец жыта сплядраваў.*

СПРАТОʼРЫЦЬ *зак.* Схаваць, запхнуць. *Дзе ты спраторыла маю кнішку — ніяк ні магу знайсьці?*

ССАПЦІʼСЯ *зак.* Здыхацца. *Во наеўсё, што і ссапціся ні можа. Куды яму бехчы — ён і шагам ідучы ссапціся ні можа.*

СЬЛІМАЗАʼРЫЦЬ *незак.* Доўга і надаедліва гаварыць адно і тое ж. *Коратко і ясно сказаў бы, што ты хочаш, а то нешто сьлімазарыш.*

СЬЦІʼБРЫЦЬ *зак.* Украсці. *Ты ні лажы гэтаі кнішкі на віднóм месьці, бо яе могуць сьцібрыць!*

СЯНАВАʼЦЬ *незак.* Убіраць сена. *Яшчэ ні кончылі сянаваць, а ўжо і жнівó настало.*

ТАРНЭʼПІЦЬ *незак.*, ПРЫТАРНЭʼПІЦЬ *зак.* Валачы, несці, везці. *Глядзі, сам малы, а вунь які велькі мяшок картоплі тарнэпіць! Во якую вяску саломы прытарнэпіў!*

ТРОʼПНУЦЬ *зак.* Стукнуць. *Ні балуйся за сталом, бо тропну лошкаю па лбе!*

ТРУПЦЕʼЦЬ *незак.* Брынкаць, бразгатаць. *Гэты гаршчок ужо трупціць — мусіць, лопнуў.*

ТРУСІʼЦЬ *незак.*, НАТРУСІʼЦЬ *зак.* Церушыць. *Трэба асьцярóжняй салому насіць, а то много трусіш пад ногі. Апскубай добро пярэбіркі, а то натрусіш каля воза!*

УЗЬДЗЯБУ'РЫЦЬ *зак.* Адзець. *Нашто ты ўзьдзябурыла на сябе гэту дранду, як бутто німа чаго лепшага адзець?*

УКАКО'ШЫЦЬ *зак.* Забіць. *Сёння яму пашанцавало — аж двух зайцоў укакошыў.*

УКЛЯ'ПАЦЦА *зак.* Улюбіцца, спадабаць. *Ён па вушы ў яе ўкляпаўсё.*

УСАРЫ'ЧЫЦЬ *зак.* Даць непатрэбнае, уперці. *Тоё, што яму ні выгадно, ён стараяцца другому ўсарычыць.*

УСТРЭ'НЧЫЦЬ *зак.* Паспець, справіцца. *Ён гэдак скоро кладзе стох, што адзін ні ўстрэнчыш падаваць.*

ХА'ЯЦЬ *незак.*, ЗАХА'ЯЦЬ *зак.* Ганіць. *Сваю работу дак ты хваліш, а чужую заўсюды хаяш. Я стараўсё, як мох, а ты захаяў усю маю работу.*

ЦАБАНІ'ЦЬ *незак.* Ліць руччом (пра дождж). *Такі дошч цабаніць, што с хаты вылясьці німа як.*

ЦІ'ТАВАЦЦА *незак.* Раіцца; вагацца. *Чаго там доўго цітавацца? Давай зробім гэдак, як ты кажаш.*

ЦУ'РЫЦЬ *незак.*, ЗАЦУ'РЫЦЬ *зак.* Гнаць. *Ні трэба кажды рас гэдак далёко цурыць каровы, сёння дзе-небуць бліжай папасі! Нашто ты гэдак далёко зацурыў? Пакуль назат прыгоніш, дак выгаладаюцца.*

ЦУЦУЛЯ'ЦЬ *незак.*, ПРАЦУЦУЛЯ'ЦЬ *зак.* Ухіляцца ад работы, гультаяваць. *Хваціць цуцуляць, бярыся ўжо за ўрокі! Працуцуляў ты цэлы дзень і нічого добраго ні зрабіў.*

ЦЫГА'ЦЬ *незак.*, ПАЦЫГА'ЦЬ *зак.* Нізаць. *Пярат тым як цыгаць на вешало, табак трэба злажыць у кучу, каб зьвяў. Пацыгай усе нічарвівыя грыбэ і павесь нат печ'ю!*

ЦЬВІ'ЧЫЦЬ *незак.*, ВЫ'ЦЬВІЧЫЦЬ *зак.* Муштраваць (пра чалавека). *Доўго яго трэба цьвічыць, кап толку дабіцца. Я свайго як выцьвічыла добро, дак бяс спросу нікуды ні пойдзя.*

ЦЭ'ГАЦЬ *незак.* Ліпець, ледзь жыць. *Гэтаё кураня чуць-чуць цэгая, мусіць, скоро здохня.*

ЧЫ'ЧАРЫЦЬ *незак.* Хрумсцець, жаваць, есці. *Яна, як трус, увесь час нешто чычарыць, увесь час губою варушыць.*

ШАЛЫГНУ'ЦЬ *зак.* Боўтнуцца, уваліцца. *Цяраз гэтую клатку трэба асьцярожно пераходзіць, бо можаш так шалыгнуць у балото, што прыдзяцца выцягваць цябе.*

*А. А. Крывіцкі*

# З ЛЕКСІЧНЫХ РЭГІЯНАЛІЗМАЎ ВІЦЕБШЧЫНЫ

На працягу некалькіх тыдняў у 1970 і 1973 гг. у вёсцы Узрэчча і ў суседняй з ёй вёсцы Дворышча Заручэўскага сельсавета Бешанковіцкага раёна Віцебскай вобласці давялося выконваць работу па выяўленню асаблівасцей *тутэшняй* (г. зн. мясцовай) гаворкі. Даследавалася яна паводле апытальнікаў Агульнаславянскага лінгвістычнага атласа і Лексічнага атласа беларускай мовы. Але адначасова з рэгістрацыяй звестак у адпаведнасці з апытальнікамі было зарэгістравана таксама досыць многа розных «пазапраграмных» рэгіяналізмаў, і ў першую чаргу лексічных, якія выяўляліся ў час гутарак з мясцовымі людзьмі.

Лексіка віцебскіх гаворак, у тым ліку і гаворак Бешанковіцкага раёна, у значным аб'ёме адлюстравана ў «Віцебскім краёвым слоўніку» М. Каспяровіча (Віцебск, 1927). Засведчана ў ім і дакладна раскрыта, як паказала параўнанне, і большая частка мясцовых слоў, зарэгістраваных зараз у адзначанай гаворцы.

З выяўленых у гаворцы лексічных рэгіяналізмаў у гэту падборку трапіла толькі лексіка, якой у слоўніку М. Каспяровіча няма. Выключэннем з'яўляюцца некалькі слоў, якія адлюстраваны ў адзначаным слоўніку крыху інакш з марфанематычнага боку (параўн. *вǒръжна, швет* і інш.).

АБРЫ'ЦЦА, АБРЫ'НУЦЦА *зак.* Абваліцца, абсунуцца. *Абрылъсь наша крыніца і зъръсла. Калодзіш абрынуўся.*

АПАХА'ЦЬ *незак.* Апухаць. *Апахаіць у каровы віма.*

АРАЛЕ'ЙНЫЙ *прым.* Прызначаны для ворыва, баранавання (пра хамут).

АРБА' *ж.* Ворыва (як працэс). *Нешта ні па-ейнъму яго арба нъ трактъры.*

АТВАРО'ТНІК *м.* Анучка, праз якую сцэджваюць ваду з чыгуноў.

АТРАЗЬНІ' *мн.* Боты з адрэзанымі халяўкамі, апоркі.

АХО'ЦІЦЦА *незак.* Мець ахвоту. *Ахоціцца іці з імі, а чаго?*

АЧУ'ЧЫЦЦА *зак.* Спахапіцца; зразумець. *Тады ачучыліся і сталі жалезнымі гвъздамі боты пъдбіваць.*

БАДЗЮ'ЛІЦЬ *незак.* Тармазіць плыт пры беразе, утыкаючы ў зямлю востры кол, прывязаны канатам да задняй часткі плыта.

БАЛАНА' *ж.* Абалона ў драўніне.

БА'ЛЬКА *ж.* Калода, прызначаная для распілоўвання на дошкі.

БІТУ'ХА *ж.* Пастка з дзвюх плашак для лоўлі мышэй.

БІЦЬ *незак.* Мучыць (пра ікаўку). *Нехта успъмінаіць, ікуўка б'ець.*

БРЪЗГАВО'ЛІЦЬ *незак. асудж.* Плявузгаць, балбатаць. *Бръзгаволіш ты пустоя!*

БРЫ'ГАЦЬ *незак.* Пырскаць; скакаць. *Брыгъіць дошч. Блохі брыгъюць.*

БРЫ'ГВА *ж.* Густыя зараснікі дробнага лазняку, алешніку.

БУТЛЕ'ЦЬ *незак.* Трухлець. *Път карой бяроза скора бутлеіць.*

БЯЛІ'ЦЬ *незак.* Лупіць. *Белюць авечък і цілят, што лёхка, то белюць.*

ВАЛ *м.* Хвалі. *Вал нъ Дзьвіне бальшый, ні піраедзіш.*

ВАЎНЕ'НКІ *мн.* Ваўнянкі.

ВО'РЪЖНА *прысл.* Жудасна. *Прама воръжна стала, так цёмна!*

ВУДЫ'Р *м.* Пухір.

ГА'ЙМА *ж.* Маса, мноства. *Гайма ганкоў нъ Дзьвіне.*

ГЛЫ'БКА *прысл.* Глыбока.

ГРАЗДО', ГРУЗНО' *н.* Гронка. *Граздо арэхуў, штук пяць ці большы, комъм такім. Цыбуля расьцець грузном, штук пяць ці шэсьць цыбўлін умесьці.*

ГРЪМА'ДА *ж.* Укладка на смалакурні нарыхтаваных карчоў і паленняў у выглядзе конуса.

ГУЗЛА'К *м.* Гузак.

ГУЛЫ' *мн.* Рэха, адгалоскі. *Гулы пашлі па лесі ат крыку.*

ГУСЬЦЕ'Ш *ж.* Гушча, густая частка стравы. *Дыбаў гусьцежы, а то адзін шчолък у місцы.*

ГЪЛАГУ'ШКА *ж.* Гузачок. *Гълагушкі нейкіі на шыі.*

ГЪРСЬЦЯ' *ж.* Вязанка ачышчанага лёну з 20 жмень.

ДРО'ЧЫЦЬ *незак.* Далікатна і ласкава называць па імю. *Дрочуць яго Васінька, а пішуць Васіль.*

ДРЪВАСЬНЕ'К *м.* Дрывотня.

ДРЫЕЎКА *ж.* Бяроза з роўнай слаістай драўнінай.

ДУПКО'М *прысл.* Старчаком. *Дупком вушы ў зайца.*

ДУР *ж.* Гной. *Стъкан дуры нъкъчалі ж жъвъта. Пацісьні скулку, ніхай дур выйдзіць.*

ЖА'ЎНЪРКА *ж.* Жаўранак. *Жаўнърка пяець, як стануць пръталкі.*

ЖУЛЁМЪК *м.* Некалькі жменек трапанага лёну.

ЗАКУ'ЛЬЧЪВАНЬНЯ *н.* Снапочкі для застрэшвання.

ЗАЛЕ'ЦЬ *незак.* Стыць, калець. *Пасеім, а які толк? Залеіць зярно ў холъдзі.*

ЗАМЕ'ТЪК *м.* Прыкмета, адзнака. *І заметку німа, што браў.*

ЗА'МІЦІЛЬ *ж.* Завея. *Заміціль нъ дварэ, сьнех.*

ЗАТВО'Р *м.* Грудабрушная перагародка ў жывёлы.

ЗАТО'Р *м.* Адна выганка брагі.

ЗГО'НШЧЫК *м.* Плытнік, сплаўшчык.

ЗІЛЯЗЕ'НЬ *м.* Качар.

ЗНЪВЯ' *прысл.* Спачатку (пакуль свежае, новае). *Знъвя зьем, а посьлі нет ахоты* [пра цыбулю].

ЗЪБЪРСА'ЦЬ *зак.* Сцягнуць зашморгнутай у дзіркі вяровачкай, шнурком (мяшок, кісет). *Зъбърсаіць цябе дзяцька ў рукзаку. Зъбърсаў кісет і зъвізаў.*

ЗЪЛАКО'М *прысл.* На золку, на світанні.

ЗЬДЗІВІ'ЦЦА *зак.* У выразе: *ні зьдзівіцца* — не надзівіцца. *Ні зьдзівіцца, які харошы лён! Ні зьдзівіліся людзі, якія харошыя дзеці ў мяне былі!*

ІЛ *м.* Крухмал. *З ілу нъпікла бліноў. Ну і бульба, адзін іл!*

КАВЭ'НЧЫЦЦА *незак.* Мучыцца, пакутаваць (ад раны, ад болю). *Кавэнчыцца даўно, пабілі добра.*

КАЖЫ'ННЫЙ *займ.* Кожны. *У кажыннъга свае думы.*

КАПНУ'ЦЬ *зак.* Кракуць, шавяльнуць. *Кот лапкъй яе* (мыш) *капнець і глядзіць.*

КАСЬЦЁР *м.* Сціртa колатых дроў. *Дровы у късьцяру път сьцяной.*

КЛІКУ'Н *м.* Загоншчык на паляванні. *Ідуць клікуны пъ лясу, а там стъяць стральцы.*

КНІГІ'КУЎКА *ж.* Кнігаўка. *Ужо й кнігікъўкі кнігікъюць.*

КО'МШЫЦЦА *незак.* Камячыцца. *Комшыцца снех у атлігу.*

КОРНІК *м.* Галоўны плытнік, які знаходзіцца ў канцы плыта.

КРУЖНІ'К *м.* Скручанае абаранкам лыка.

КУРАШЭ'ЛЬ *ж.* Курасадня. *Пъра, Ваня, і табе нъ курашэль.*

КУ'РКІ *мн.* Шампіньёны.

КЪНІВА'Я *прым. ж.* Вільчык, верх страхі.

ЛАТО'КА *ж.* Нізіна, лужок сярод поля.

ЛЯСНУ'ШКА *ж.* Яблык з дзікай яблыні.

МАЛО'ЖЪВІК *м.* Абабак.

МАЛЬЧУ'К *м.* Хлапчук. *Чый етът мальчук?*

МО'ЛЪТ *м., Р. молъта.* Асадак з вадкасці.

МОЧ *ж.* Макрата. *Рызіна ні баіцца мочы.*

МЪЛАДЗЕ'Ц *м.* Рабочы на плыце, падначалены ў галоўнага сплаўшчыка.

МЪСКАЛІ' *мн.* Нейкія ядомыя грыбы.

МЪШАРНІКІ' *мн.* Махавікі (грыбы).

МЯТУ'ШКА *ж.* Нізка (рыбы, грыбоў).

НАГРЭ'ЗІЦЬ *зак.* Накрэмзаць. *Нагрэзіў пісьмо троху.*

НА'СМЪРГА *ж.* Насмарк.

НЕКА *часц.* Не; ніяк.

НЕЎПРЫЦЯ'МКУ *прысл.* Не ў памяці. *Неўпрыцямку мне ета нешта.*

НІЯ'КІЙ *прым.* Дрэнны, нягодны. *Ніякъя наша карова, ужо ста́ръя.*

НО'НІЧЫ *прысл.* 1. Сёлета. *Нонічы вісна позьнія.* 2. Сягоння, цяпер.

НЪДУМА'ЦЬ *незак.* Надуваць, навейваць. *Вецір толькі сугробы нъдумаіць.*

НЯЎРУ'ЧНЫЙ *прым.* Нязручны. *Няўручнъя абування было калоткі.*

ПАДВІ'Р, ПАДВЫ'Р *м.* Падплёт у лапцях.

ПА'ДЗІЖЫНА, ПА'ДЗІЗІНА, ПА'ДЗІСЬ, ПАДЛІ'НА *ж.* Труп жывёліны. *Крукі аступілі падзіжыну.*

ПАДЛЁТЫШ *м.* Падлётак. *Вуткі нъ зяре* [на возеры] *ужо падлётышы.*

ПАЁНІШ *м.* Цяля, якое выпойваюць малаком. *Паёніша ня сосюць, а яго поюць.*

ПА'ЙМА *ж.* Жменя. *Вазьмі саломкі пайму.*

ПАРЫ'СЬЦІКІ *мн.* Двайняты (у жывёл).

ПАЦІ'ХНУЦЬ *зак.* Суняцца, суцішыцца. *Веціp паціх неік.*

ПІСКУ'Н *м.* Уюн (рыба).

ПЛАЙМО', ПЛЯЙМО' *н.* Пляма. *Пляймы нейкіі ў яго на лёхкіх.*

ПЛОЦЬ *ж.* Перхаць, луска са скуры.

ПО'ЛЪНЬ, ПОЛЪДНЯ *ж.* Полымя. *Полынь даець іскры.*

ПО'СТЪНЬ *ж.* Паласа. *Постънь зъніла і жжала.*

ПРА'НКІ *мн.* У выразе: *нъ пра́нкі* — на раннюю пасьбу. *Кароў гънялі нъ пранкі ў жару.*

ПРУСЯ'НКІ *мн.* Від зялёнак.

ПРЫБІРА'ЦЬ *незак.* Даглядаць. *Пайду скот прыбіраць.*

ПРЫЦЕ'МІЦЬ *зак.* Прыкмеціць, заўважыць. *Усё чыста прыцемюць етыя людзі!*

ПРЪСТАВО'ЛЯ *ж.* Адкрытае свабоднае поле, шырокі далягляд.

ПУ'ТРЫЦЬ *незак.* Біць, даваць наганяй. *Я ні путру къта, ня б'ю, ні гъняю.*

ПУЦА'К *м.* Пацук. *Пуцак бо́льшый зъ мышэй.*

ПЪДАЛЕ'ХУЎКІ *мн.* Сінюхі (грыбы).

ПЪДБАРО'ДЫШ *м.* Падбародак.

ПЪЛЪСЯ'СТЪЙ *прым.* Паласаты.

ПЪХА'ЦЬ *незак.* Сеяць, вырошчваць. *Мы грэчкі ні пъхалі.*

ПЯЛЕ'ГЪВЪЦЬ *незак.* Вельмі пеставаць, даглядаць. *Кап ты мой быў, я п цібе так ні пялегъвъла.*

ПЯРЭ'ЖНІЙ *прым.* Пярэдні. *Пярэжній вос.*

РА'БЪЙ *прым.* У выразе: *ра́бъя паго́да*—пагода, калі то свеціць сонца, то ідзе дождж.

РАСЬЦІ' *незак.* Паднімацца, павышацца. *Въда расьцець у Дзьвіне.*

РУСЬНЯ' *ж.* Сноп ільну.

РЪГА'ТКА *ж.* Умоўная застава на шляху вясельнага поезда, дзе ад маладога патрабуюць выкуп.

РЪГА'Ч *м.* Ніжняя ручка ў прадольнай піле.

РЪСПУСКІ' *мн.* Спецыяльны воз для возкі бярвення, дошак.

САХІ′Р *м.* Саха ў будане.

СВО′ЙСКЛІВЪЙ *прым.* Свойскі, ручны, рахманы. *Свойсклівъі куры.*

СМА′ЛІНЬ *ж.* Пах гарэлага, паленага. *Пахніць смалінью.*

СО′ЙКА *мн.,* СО′СЬЛІ *ж.* Лядзяш, што звісае са страхі.

СО′СЬЛІВЪЙ *прым.* У выразе: *сóсьлівъя пагóда* — пагода, калі нарастаюць ледзяшы на стрэхах.

СПРАХВО′ЛЬНА *прысл.* Павольна, не спяшаючыся, без задору. *Спрахвольна мы работъім, няшыпка.*

СТЪРНА′ТКА *ж.* Пліска.

СУГІ′БІНА *ж.* Сустаў у пальцах. *У сугібінъх пальцы гбаюцца.*

СЪСЬНЯ′НКІ *мн.* Лісічкі (грыбы).

СЬЛЮГА′ *ж.* Адна з дзвюх падкладак, па якіх качаюць бярвенне.

СЬЦІНЯЦІ′ЦЦА *зак.* Пакрыцца тонкім лядком. *Крыніца ужо сьціняцілъсь.*

СЯК *м.* Плытнік. *Я і сам хадзіў у сякі.*

ТРАПЕ′Ц *м.* Наёмны трапальнік ільну (у мінулым).

ТРУ′БІЦА *ж.* Калодка ў коле.

ТРУ′ПКА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з калоды.

УЖА′ЛІЦЦА *зак.* Упрэць без вады. *Ужалілъся зельля ў печы.*

УКУ′ПІЦЦА *зак.* Трапіць унутр (пра агонь). *Іскрынка ўкупіцца ў кнот і гарыць.*

УПО′ПЛІЧ *прысл.* Поплеч. *Двъйняты — ета два гаршкі уполліч.*

УРО′ДА *ж.* Ураджай. *Нъ грыбы ўрода сёліта.*

УСКО′ЛЪК, АСКО′ЛЪК *м.* Кавалак хлеба ў выглядзе клінка.

ХЛЁМЪЦЪ *незак.* Шкробаць. *Хлёмъіць у валінкъх.*

ЦУПУ′РКІ *мн.* У выразах: *нъ цупýркі, нъ цупýркъх* — на пальцы ног, на пальцах ног.

ЦЯЦЕ′РЫ *мн.* Нейкія ядомыя грыбы.

ЧАЧУ′ГА *м.* Чачотка (бярэзіна).

ЧЪСНА′К *м.* Часнок. *Чыснак у вінках, а цыбуля у пляцёнкъх.*

ЧЪШЧА′ *ж.* Яловыя і сасновыя іголкі, апаўшыя на зямлю.

ШАРЭ′НЬНЕ *н.,* ШАРЫ′ЗНА *ж.* Рабацінне.

ШВЕТ *ж.* Караед. *Швяты пътачылі хату.*

ШЛЯПА *ж.* Мокрая мяцеліца.

ШТО *прысл.* Ледзь. *Я съма што паўзу, утамілъсь.*

ШУМІ'ЦЬ *незак.* Засмечваць. *Ні шумі тут мне, тольkі ш выміла.*

ШЧО'ЛЪК *м.* Вадкая частка стравы, саленняў, настояў. *Шчолък і гусьцеш у булёні. Шчолък з лугу. Шчолък з гуркой.*

ШЫ'ПЪТЪМ *прысл.* Рыхла, не шчыльна. *Сена шыпътъм ляжыць.*

ЯК ШТО *злучн.* Калі. *Як што старъя къра, дык ён* [бабёр] *ету ні грызецъ.*

Я'ЧЪНЬ *ж.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў.

Варта адзначыць таксама паасобныя рэгіянальныя дэрывацыйныя, граматычныя і фанетычныя асаблівасці некаторых груп слоў, якія не ўключаны ў алфавітную падборку.

Досыць папулярнымі ў гаворцы з'яўляюцца назоўнікі мужчынскага роду з суфіксам *-ень*. Націск у гэтых словах знаходзіцца, як правіла, на суфіксальным складзе. Вось некаторыя зарэгістраваныя мясцовыя словы, асаблівыя або па наяўнасці адзначанага суфікса, або па акцэнтуацыі: *аблівéнь* — абліваха, *акравéнь* — акравак, *бірасьцéнь* — апавіты бяростай надбіты гаршчок, *брадзéнь* — браднік (рыбалоўная сетка), *зълівéнь* — лівень, *кавярзéнь* — лапаць, *каржэ́нь* — корж, *лъпацéнь*—дэталь у жорнах і млыне, *пруцéнь* — рыбалоўная лавушка з дубцоў, *пъсьцялéнь* — сяннік, *пъчапéнь* — каромысел, *сашэ́нь* — праснак, *ступéнь* — ступня, *сьлямéнь* — слівень (паўзун), *упадзéнь* — напасць, *шарсьцéнь* — шэршань, *шарэ́нь* — іней.

Своеасаблівую словаўтваральную будову маюць назвы традыцыйных свят (ці, дакладней, звычаяў) у сувязі з заканчэннем некаторых відаў сельскагаспадарчых работ: *абжы́нкі* — дажынкі, *ако́пкі* — дакопкі, *ако́скі* — дакоскі, *абмало́ткі* — дамалоткі. Гэтыя назвы з'яўляюцца вытворнымі ад аналагічных па прыстаўцы рэгіянальных дзеясловаў *абжáцца, акапáцца, акасíцца* і г. д. (гл. таксама *абры́цца*). Дарэчы, зусім натуральнай з'яўляецца ў сувязі з дзеясловам *акапáцца* — дакапаць і структура паўночнабеларускага рэгіяналізма *акóп* — капец, бурт.

У слоўніку М. Касяровіча сярод назваў чалавека па яго занятку ёсць некалькі слоў з суфіксам *-іт: аральбíт,*

*сяўбіт, варажбіт*. Зарэгістраваны ў дадатак да іх яшчэ словы *гърадзьбіт* — той, што робіць плот, *скърадзьбіт* — баранавальнік.

Адзначана *бáгън* — багун. Гэта акцэнтны варыянт паўночна-ўсходняга *багýн*. Тут гук *ъ* (або нават *а*) з'яўляецца рэфлексам галоснага *у* ў паслянаціскным становішчы. Такая якасная нейтралізацыя галоснага гука *у* не пад націскам — з'ява ў гаворцы нярэдкая: *кълъпáць* — калупаць, *сырóцы* — урокі, *сцідзёна* — студзёна, *кінъў, ціснъў, кіснъў, пáкъльля* — пакулле і інш.

Адзначана *сéмішкі* — семкі. Словаўтваральная форма гэтага слова з'яўляецца, напэўна, вынікам сутыкнення і «скрыжавання» ў гэтым дыялектным рэгіёне традыцыйнага паўночна-ўсходняга варыянта *сéмечкі* (фанетычна *сéмічкі*) і другога варыянта *сéмышкі* (падобнага да мясцовага *зёрнышкі* — зярняткі). Фанетычны пераход *чк* у *шк* неверагодны (паслядоўна ў гаворцы *авéчка, нóчка, пéчка, шáпъчка* і г. д.).

У гаворцы адзначана слова *згóньнік* — пастаянны пастух, які меў падпаскаў ад кожнага вясковага двара. Хоць у гаворцы і не назіраецца асіміляцыя *дн* у *нн* як фанетычная з'ява (звычайна *хъладнíк, аднá, лáднъй, мóднік* і нават у старэйшых *Сяднó*, г. зн. горад Сянно Віцебскай вобласці), але *згóньнік* — гэта хутчэй за ўсё фанетычны варыянт слова *згóднік* як матываваная назва пастуха, дамоўленага ў выніку двухбаковага пагаднення, «згоды». Адзначаны таксама *сяньня і мълъньня́*, дзе таксама мае месца аналагічная з'ява.

Зарэгістравана *ацтáцца* — астацца, дзе чуецца выразны гук *ц*, крыху, на першы погляд, нечаканы і незразумелы (у гаворцы паслядоўна *стáць, ръстарóп, нъстáўніца* і г. д.). Аднак у слоўніку М. Касяровіча знаходзім *ацтупнóе (бярнó)*, дзе гук *ц*, як гэта зусім відавочна, адпавядае спалучэнню *тс (атступнóя)*. Таму такі ж, напэўна, гук *ц* і ў слове *ацтáцца*. Ускрываюцца, такім чынам, цікавыя словаўтваральныя і семантычныя сувязі гэтага слова са словам *адстаць*.

З дробных марфалагічных асаблівасцей мясцовай гаворкі цікавай з'яўляецца акцэнтуацыя асновы аднаскладовых дзеясловаў *браць, драць, праць* і пад. у формах цяперашняга часу: *бéру, дзéру, пéру; бéрыш, дзéрыш, пéрыш; бéрыць, дзéрыць, пéрыць* і г. д.

Зарэгістраваны дзеяслоў *ура́ць* (вешаць на жэрдкі для сушкі гарох, траву; падплятаць лапці) і прэфіксальныя да яго *наўра́ць, падаўра́ць* закончанага трывання. Альтэрнатыўнымі да апошніх па трыванню з'яўляюцца *навіра́ць* і *падвіра́ць*.

І нарэшце, адзначана *ху́шчый*—хужэйшы. Гэту форму трэба суадносіць па аснове не з *худ-шы,* а з *хуж-шы.* Мясцовы ж варыянт *ху́шчы* атрымаўся з *хушшы* фанетычна ў выніку дысіміляцыі спалучэння аднолькавых зубных працяглых *шш* у *шч* (*сс* у *сц*), што ў некаторых блізкіх гаворках пад Віцебскам назіраецца як рэгулярнае фанетычнае змяненне.

*М. Н. Крыўко*

## ТАК ГАВОРАЦЬ НА ДЗІСЕНШЧЫНЕ

Матэрыялы з вёскі Манякова Міёрскага раёна.

А *злучн.* Ужываецца для сувязі слоў, якія паўтараюцца, адпавядае па значэнню злучніку *і*. *Дзе ш ты хочыш, кап суха було: дошч ліў а ліў кажды дзень, як із лубá.*

АБАЧХНУ'ЦЦА *зак.* Прачнуцца. *Я абачхнулъся часоў у двънаццыць, а гълъва балідзь-баліць.*

АБЖЪРГА'ЦЬ *зак.* Асядлаць нагамі, падабраць пад ногі. *Малый абжъргаў жърдзінку і езьдзіць, як нъ кані.*

АБЖЪРГНУЦЬ *зак.* Пераступіць нагой. *Кажуць, як абжъргнеш каго, пірастýпіж, дък расьці ня будзіць.*

АБЖЫ'РГЪВЪЦЬ *незак.* 1. Пераступаць. *Абжыргъвый палкі, а ні чъпляйся за іх нъгамі.* 2. Сядлаць нагамі, падбіраць пад ногі. *Абжыргъвый, маліц, казёл і сядзі так, алі глядзі ні зваліся.*

АБІРА'НКА *ж.* Бульба, звараная неачышчанай, абабраная і гатовая да стала; пюрэ з такой бульбы. *Сягоньня сваім я абіранкі нъварыла, ніхай ядуць — яе ў нас усе дужа любюць.*

АБІЧО'ЎКА *ж.* Біч, частка цэпа, якой б'юць па зерню. *У нас хто бідж завець, а хто іначы: абічойка.*

АБЛЕ'ТЪВЪЦЬ *зак.* Застацца дзе-н. на лета; пералетаваць. *Аблетъвълі твае дровы, цяпер, як карты, сухусінькіі.*

АБЛО'ЖНІЦЫ *мн.* У выразах: *каб (хай) на яго аб-ложніцы; каб яго абложніцы аблажылі* — ужываецца як лаянка. *Кап яго абложніцы аблажылі, як ён нікога ня слухъіць. Хай на іх абложніцы нъ такіх курэй — увесь ячмень злажылі.*

АБЛЯБЁДЪЦЬ *зак.* Абакрасці. *Ізь імі ні зьвязъвыйся, аблябёдъюдзь да ніткі.*

АБМЫЛЪК *м.* Змылены кавалачак мыла. *Вазьмі, калі пойдзіш у баню, кусок мыла, а то тамъка астаўся толькі абмылък.*

АБМЯ'ЛІНЬНЯ *н.,* АБМЯ'ЛКІ *мн.* Рэшткі льну з кастрыцай пасля мяння яго. *Гэта абмяліньня на потсьціль добра, кап толькі біс кастры. Абмялкъмі бульбу пръкрылі.*

АБНІ'КЪЦЬ *зак.* Абшукаць, абгледзець. *Абнікуў усюдъх і нідзе ні знашоў.*

АБНО'ДЪЦЬ *зак.* Запэцкаць. *Глядзі, як ты свой свэтър у нейкъя цеста абнодъла.*

АБНЪЧЪВА'ЦЬ *зак.* Застацца дзе-н. нанач. *Абнъчъвала я ў сваціцы сваей у Дзісьне.*

АБРО'К *м.* Авёс, які бралі каню ў дарогу. *Даўней къзалі: «Аброку нада ўзяць каню».*

АБЫ'ЛЬ, АБЫ'ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць цялят.

АБЫ'ЦЦА *зак.* Асвоіцца, прывыкнуць. *Абудзіцца пърасёнък, сам станіць есьці.*

АБЮ'ДЗЬВІ *ліч. зборн.* Абедзве. *Абюдзьві пашлі грабіць на поплъва.*

АБЯРЦЕ'НЬ *м.* Вялікі кусок (звычайна хлеба). *Уго, гэткі абярцень атрэзуў.*

АВА'Т *м. зборн.* Авадні. *Сягоньня тъкая жъра і ават так сячэць кароў.*

АВУ'ЛЬ-ВУЛЬ-ВУЛЬ *выкл.* Словы, якімі падзываюць авечак.

АВУ'ЛЬКА *ж. ласк.* Авечка. *Авулька мъя, так ты зьмёрзла, хадзі ў хлеў.*

АВУ'ЦЬ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць качак.

АВЫ'Ц *выкл.* Вокрык, якім адганяюць парасят.

АВЯ'ЧЧА *прым.* Авечы. *Гэта авячча ланцух.*

АГАТУ' *выкл.* Вокрык, якім адганяюць, палохаюць ваўка.

АГЛАШО'НЫ[Й] *прым.* Звар'яцелы. *Што ты носісься, як аглашоный.*

АГЪЛАВЕ'ЦЬ *зак.* Звар'яцець. *Што ты — агълавеў, так яблъкі кълаціць.*

АГЫ'ЛЬ, АГЫ'ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць гусей.

АДАРО'ПКА *ж.* 1. Вітушка, на якую перамотваюць пражу. *Цяперъка ўжо, як ня ччом кросны, як кі прадзём, дък пъзакідъвълі адаропкі нъ гару.* 2. Мухалоў-

ка — бакавіна старога рэшата, да якой прывязваецца мяшок (бакавіна змазваецца прыманкай, часцей тварагом). Мухі садзяцца, іх зверху чым-н. закрываюць. Яны валяцца ў мяшок. Потым іх выпускаюць на двор ці б'юць па мяшку, а тады выкідваюць мёртвых. *Пръстройці адаропку, нада мух пълавіць, нъспарыла поўна хата.* 3. Адкіды, непатрэбныя астаткі чаго-н., ламачына. *Нашто, каб гэна адаропка ліжала мне тут* [пра табурэтку]. *Аб'елі кунпяк, адна вун адаропка вісіць.*

АДБО'ЙКА *ж.* Перагародка ў хаце. *На 'дбойку павешый пальто.*

АДБРЪДА'ЦЬ *незак.,* АДБРЪСЬЦІ' *зак.* 1. Размяжоўваць слядамі пасевы, сенажаць; адыходзіць мяжу. *Адбрьдай, Пітрачок, прама і віткі стуўляй. Адбръла сабе постъць, а іна залезла мне нъўпярот і рвець сабе, бяссовісьніца.* 2. Праходзіць вялікі шлях. *Я ўжо, дзеткі мае, ні магу столькі ў дзень адбръдаць, сколькі вы адбръдаіці сваімі мъладымі ношкъмі. Адбрыў такоя ръстъяньня, страшна падумъць.*

АДБУКСІ'ЦЬ, АДБУКСУВА'ЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Табе адбуксіць мала пъ скабъх. Січас калі адбуксую гэтъм акамёлкъм неслуху.*

АДГРЭ'ЦЬ, АТАГРЭ'ЦЬ *зак.* Ударыць, адлупцаваць. *Січас адгрэю гэтъм вілъчнікъм.*

АДДЖГА'ЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Дрэнна бацька зробюў, што ні адджгаў вам вяроўкый зъ такую работу.*

АЖАВІ'НЫ *мн.* Ажыны. *Ажавін нъзьбіралі многа, ужо сьпелъі.*

АЖАМЕ'РКІ *мн.* Асадак, які застаецца на дне пасудзіны. *Пъглядзі, якіі на дне місы ажамеркі.*

АЗА'ДЗЬДЗЯ *н.* Больш лёгкае зерне пры веянні. *Азадзьдзя ў гарчък събрала.*

АЗІЛЯЗЕ'ЦЬ *зак.* Змерзнуць, акалець. *Рукі ўміх азілязелі нъ такім скълюку.*

АЗЮ'ЛЬ, АЗЮ'ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць гусянят.

АКАМЁЛЪК *м.* Сцёрты, змецены венік, дзяркач. *Такій ужо пол стаў карэлый, хоць ты акамёлкъм шаруй.*

АКІ'НЪЦЬ *зак.* Пакінуць, перастаць наведваць, глядзець за кім- або чым-н. *Акінълі матку глатка, адна, як паліц, астълася, а самі ў гърады пъзыіжджалі і воч ніхто ні пъкажыць.*

АКРУТНІ′ *мн.* Вяроўкі ці лазіны для мацавання аглабель да саней. *Дайней акрутнямі пръчэпліваліс аглоблі дъ саней, а цяпер другі абъчай: крукі прьдумълі.*

АКРЭ′ЙБІЦЬ *зак.* Паздаравець, акрыяць. *Мой стары трошку акрэйбюў, я ўжо й рада, ходзь будзіць іськім у хаці пъдудукъць.*

АКСЫ′ЛЬ, АКСЫ′ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць цялят.

АКСЮ′ЛЬ, АКСЮ′ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць жарабят.

АКЪЛІВА′ЦЬ *незак.* 1. Здыхаць. *Акълівай, здъхай — і ні пъдыйду бліска!* 2. Доўга і часта дзе-н. бываць, прападаць. *І акъліваіць тамъка ў іх кажън дзень, а дамоў і ня рупіцца.*

АЛЬВА′С *м.* Альяс. *Альвасъм пръкладзі дъ ранкі.*

АЛЭ′БЪР *м.*, АЛЯ′РМА *ж.* Гармідар, крык. *Што там зъ алэбър у іх у хаці стаіць? Нашто мне, кап аляриу ў хаці справілі.*

АМАЛЕ′ЦЬ *зак.* Здзяцінець. *Што ты амалеў, такоя робідзь будзіш.*

АНАДО′ІНЬ, АНЪДА′СЬ, АНЭ′ГДЪСЬ *прысл.* Надоечы.

АППО′ТЪРЪЦЬ *зак.* Зразумець. *Яго дужа цяшка аппотъръць, усё нешта атрэчнъя ў яго.*

АПСКУМА′ЦІЦЬ *зак.* Аскубці, абарваць. *Апскумацілі кунпяк, адна костка вісіць.*

АПСТРУ′ШКЪЦЬ *зак.* Абстругаць. *Ну, апструшкый ты яму гэтът кіёчък.*

АПСТРЪКА′ЦЬ *зак.* Апячы крапівой. *Нагу апстръкала жъгучкый, пячэць, ні магу.*

АПСТРЫ′КЪЦЬ *зак.* Абрэзаць, абстрыгчы (нажніцамі). *Апстрыкый гэтъі ніткі вазьмі.*

АПСЬМІ′ШЛІВЫ[Й], АПСЬМІ′ШНЫ[Й] *прым.* Які смяецца з іншых, абсмейвае іншых. *Ай, я яе дужа ні люблю — апсьмішлівъя тъкая. Апсьмішны такі, усіх апсьмяець.*

АПХА′ІЦЬ *зак.* Прывесці ў парадак, абчысціць. *Хату во нада апхаіць — і гола, і гразна.*

АПХАХУ′ЛІЦЬ *зак.* Прывесці ў парадак, давесці да толку. *Ты ходзь ба вокны апхахуліла свае.*

АПХУ′ХТЪВЪЦЦА *незак.*, АПХУ′ХТЪЦЦА *зак.* Ухутвацца. *Во дзядуля апхухтуўся, выйлакі ўсьпялюў, яму й цёпла. Пръстудзілъся, дък во апхухтъвъюся, ап-*

*шушкъвъюся — баюся так въхадзіць у лёгънькый адзежы.*

АПХУ'ХТЪВЪЦЬ *незак.*, АПХУ'ХТЪЦЬ *зак.* Ухутваць. *Апхухтъвый добра яблънкі, кап ні заіц, ні марос ні дъстаў. Апхухтый старую нъ вазе, кап цёпла ей там було.*

АПЦО'П *м.* Наганяй. *Я свайму ўчора тожа дъла апцоб зъ гарэлку.*

АПЧАРСТВЕ'ЦЬ *зак.* Абсохнуць; увабраць у сябе вільгаць (пра глебу). *Апчарствеіць нъ дварэ, тады пойдзіш у чъравічкъх, а цяпер сядзі ў хаці.*

АПША'СТЫЦЬ *зак.* 1. Абабегаць. *За дзень ръбяты пайсьвету апшастъюць.* 2. Абшукаць. *Апшастуў і нідзе ні нашоў гэнъг ботуў.*

АПШУ'ШКЪВЪЦЦА *незак.*, АПШУ'ШКЪЦЦА *зак.* Ухутвацца. *Куды ты так апшушкъвъісься, ні халоднъ ш нъ дварэ. Ты так апшушкуўся, што табе ніякі скалюк ні страшна.*

АПШУ'ШКЪВЪЦЬ *незак.*, АПШУ'ШКЪЦЬ *зак.* Ухутваць. *Толькі апшушкъвый цябе ды апкручъвый, а съма і пъвярнуцца ня можыш. Апшушкый гэту дзяўчынку, хай ей цёпла будзіць.*

АПШЧЪКЯТУ'РЫЦЬ *зак.* Абтынкаваць. *Хадзі апшчъкятур мне, Сьціпан, пліту.*

АПШЧЭ'ПЛІВЪЦЦА *незак.*, АПШЧАПІ'ЦЦА *зак.* Абнімацца. *Глядзіці, яг браты п'янъі апшчэплівъюцца. Во пъідналісі — апшчапілісі й ходзюць так.*

АПШЧЭ'ПЛІВЪЦЬ *незак.*, АПШЧАПІ'ЦЬ *зак.* Абнімаць, абхопліваць. *Апшчэплівый мяне крэпінька за шыю, пънясу цябе дзяды́-бады́. Апшчапіў малый мамку за шыю і жалеіць так.*

АСТА'Ш *м.* 1. Вялікі нязграбны бот. *Уссунь гэнъі асташы́ ды хадзі къля ўглоў.* 2. Рухавы, хуткі чалавек. *Іна носіцца ішчэ добра, астаж гэтът, і салома ей нада, і ўсё ей нада.*

АСТАШО'НЫ[Й] *прым.* Звар'яцелы. *Чаго ты лётъіш, як асташоны.*

АТВАДНЕ'ЛЫ[Й] *прым.* Вадзяністы. *Як ты пішыш, тваё чарніла сусём атваднелъя нейкъя, я ім ні магу пісаць.*

АТВАДНЕ'ЦЬ *зак.* Адвадзянець. *Чарніла було замёршшы, а цяпер атваднела.*

АТВЕ'ТКІ *мн.* Адведзіны. *Куды, у ватветкі дъ радзіхі събралісі ісьці, так?*

АТВЕ'ЧЪРКА *прысл.* Пад вечар, адвячоркам. *Ікрас атвечърка ўчора і мае пръехълі с Полъцку, дък хлеба бягу ў мъгазін.*

АТВЕ'ЧЪРЪК *м.* Час пад вечар, адвячорак. *Ужо й атвечърък нъ дварэ, а ты ўсё шлепъісься з работый.*

АТВУРЫ'ЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Кап атвурыла яму хърашэнька хоць калі, тады п слухуў і ня лес усюдъх.*

АТКРЪПА'ЦЬ *зак.* Адблытаць, разблытаць, адвязаць. *Аткръпай провълку, хай заедуць с коньмі нъ дзядзініц.*

АТКСЬЦІ'ЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Во конь зáвълінь, як атксьціш пушкый, трошку пъдбяжыць, а ня нушкый, дък і засьнець ідучы.*

АТКЪМЯ'ЧЪЦЬ *зак.* Адлупцаваць. *Як аткъмя́чу пъ бъках, будзіж знаць, яг з дому зьлітаць нівядома куды на дзень.*

АТЛІ'Ў *м.* Сцёкавая паліца пад франтонам. *Ні було такой даскі пътхъдзяшчый, дък і съ шчапы атліў зробюў — ні ад дарогі ж гэтът шчыт.*

АТПУ'ХЛІ'ЦЬ *зак.* Моцна набіць кулакамі; надаваць аплявух. *Мішку ў вясельлі нейкіі п'яніцы атпухлілі.*

АТПУ'ЦЪВЪЦЬ, АТПУ'ЦЪЦЬ *зак.* Набіць па твары. *Ну што, хочыш, кап і табе атпуцълі тамъка.*

АТРО'ДЗЬДЗЯ *н.* Род, радня. *Я ні вашъга атродзьдзя, што ўсе злыі ходзіці, мне нечъга злувацца.*

АТРЭ'ЧНЫ[Й] *прым.* Не такі, як іншыя людзі, асаблівы; недарэчны. *Такій атрэчный чълавек, у міры такіх ня відзіла, век ні пъ-ягонъму, век ні ўладзіць.*

АХАМО'ЛЪК *м.* Жмут, касмык сена, ваты і г. д. *Карова хвътаіць віку па цэлъм ахамолку сразу.*

АЧВУ'РЪК *м.* Кавалак мокрай зямлі. *Грась ачвуркъмі ляцела іс пад нох, як мы мършъръвалі пад яго къманду.*

АШКІ'Р, АШКІ'РА *выкл.* Вокрык, якім адганяюць авечак.

БА'ЛМЪЧЧУ *прысл.* Без справы, дарэмна. *Сьціню гаіцца балмъччу днямі, хъця п робюў што люцкъя.*

БЕ'ЛА *выкл.* Пажаданне таму, хто мые бялізну. *Бела, бапкі мае! Плацьця ўзяліся мыць?*

БЕ'ЛЪЯ ДАРО'ГА. Бойкая, бітая дарога. *Нехта паехуў па белый дарэзі нъ кані.*

БІЗБА'ЦЬҚЪВІЧ *м.* Дзіця, якое гадуецца без бацькі. *І яму було трудна, вядомъ ж, бізбацькъвіч.*

БІЛАШЫ'ВЫ[Й] *прым.* Белаваты (пра масць катоў, сабак). *Я па нейчъм білашывъм кату так хлёстка късмлюшком пъпъла, у дзяжу гълаву ўжо тачыў.*

БІРНУШҚО' *н.* Бярвенца. *Тут нада тонінькъя бірнушко дъвадзіць, а ты прънёс такую тъўсьціню.*

БІРЪВО' *н.* Назоўнік ад дзеяслова браць. *Якоя гэта бірњво ў цябе — навотмъш, хто так мяшкі бярэць.*

БЛІҚЪТА'ЦЬ *незак.* Ванітаваць. *Бацька блякочыць у къчарэжніку.*

БЛІС *м., Р. блізў.* Блізкае месца, блізкая адлегласць. *Қълі блізў будзь, далёка ні атхадзіся ат хаты.*

БЛОТ *м.* Знішчэнне, псаванне. *Болі блоту наробілі, яг зробілі.*

БЛО'ЦІШЬ *незак.* Нішчыць, псаваць. *Қонь як пъпадзець на ўзьмежъг, дъг дужа блоціць атаву.*

БЛУ'ЗЬНІЦЬ *незак.* Трызніць. *Ты сягоньня блузьнюў спрасоньня.*

БЛЮ'ТҚА *н.* Невялікае блюда. *Блютка маё разьбілъся.*

БО'ГЪЎҚА *ж.* Пліска (птушка).

БО'НДА *ж.* Қапілка; запас грошай. *Қап што хоць люцкъя купіў калі, а то грошы толькі і знаіць, што кладзець у бонду.*

БРУСЬНЕ'ЦЬ *незак.* Запаляцца (пра малако ў вымені). *Мълако яг брусьнеіць, во нядобра.*

БРЪТА'ЦЬ *незак.* Брацъ на повад. *Қароў пъра брътаць, хваціць тутъка гъньдзюрыць.*

БУЗА' *ж.* Гразь; твань, балота. *Қуды вы пръцё карой у бузу, хочыці, каб пъўвізалі ў балота.*

БУЗЯ'НЫ'[Й] *прым.* Гразкі, тваністы. *Балота бузяноя, дзе ты тут пройдзіш.*

БУРТУ'ЛЬ *м.* Вялікі, тоўсты чарвяк. *У тваім мясі скора буртулі зъвядуцца, што ты яго дзяржыш у такой ціплаце.*

БУЧНЫ'[Й] *прым.* Поўны (пра чалавека). *Малідз бучны стаў, чъръвнашчокі.*

БЪЛЬШЪНА' *ж.* Большая частка чаго-н. *Бъльшъну ўжо выкъсюў, троху асталося.*

БЪСТРА'Қ *м.* Быстрыня, хуткае цячэнне ракі. *Дъ таго места ні дъплъвайці, там самый бъстрак.*

БЪЯ́РКА *ж.* Шаферка. *Адна бъярка во красівінькъя ў Любъчкі.*

БЫ́ЗЪЎКА *ж.* 1. Вялікая муха, якая кусае жывёлу. *Бызъўкі карой кусаюць, ні стъядзь, б'юцца беднъі.* 2. *перан.* Хуткая, утрапёная жанчына. *Бызъўка, ні насіся, пъсядзі.*

БЯЗГО́Р'Я *н.* Крайні выпадак. *Нъ бязгор'я і гэта пальто ішчэ мог бъ п насіць.*

БЯЗДУ́ШНЫ[Й] *прым.* Кволы, хваравіты, слабаваты. *Гэтъд бяздушны ўжо, ня жыхър ён на сьвеці.*

БЯЛЁНЫ[Й] *прым.* Забелены малаком. *Булёну бялёнъга зварым вечърък нъ пліце.*

БЯРНО́ *н.* Бервяно. *Ніжніі бёрны ў хаці згнілі саўсём, нада дзе ръсстърацца подрубу.*

ВАЖЭ́НЬНІК *м.* Вазак. *Ён будзіць вазіць, ты ні важэньнік.*

ВАЛО́ЧЧА *н.* Вялікі шлях. *Ръбяты валочча за дзень аблётъюць, і ногі ім нісколічкі ні бъляць.*

ВАНДЗЭ́ЛЪК *м.* Звязак, клунак. *Учора матка ізь лесу бъла прънёшшы вандзэлъг бървікоў, ды ўсе адзін къд адзін.*

ВЕ́ТРЪНІЦА *ж.* Дошка на канцы страхі збоку, якая прыбіваецца да лат. *Ветръніца дъ лат пръбіваіцца.*

ВІДА́К *м.* Віднае, бойкае месца. *Што ты сена тут ськінуў нъ самъм відаку.*

ВІРЛУ́Н *м.* Вірлавокі чалавек. *Чаго, вірлун, лезіш абы-куды. Гэтът вірлун век усё дагледзіць і найдзіць.*

ВІ́РЛЫ *мн. груб.* Вочы. *Халера цябе знаіць, як тваe вірлы нічога ня хочуць відзіць, водзя ш ляжыць.*

ВО́ЛЬНІЦЬ *незак.* Прабіраць, гнаць (пра панос). *Цябе вольніла, можа, ад гэнъга булёну пракішшъга.*

ВО́НПІЦЬ *незак. безас.* Рупіць. *Мне й вонпіла тады схадзіць на двор ды пъглядзець, алі стърая адгъварыла.*

ВО́ЧЧЪМ *м.* Айчым. *У яго ня родны бацька быў, а воччъм.*

ВУГА́ЛЬЛЯ *н. зборн.* Вуголле. *Вугальля нада ліць, як аляксей гоніць.*

ВУДАЎЁ *н.* Вудзільна. *Я ляшчыньніну ўчора, яг быў нъ пасьці, нъ вудаўё зрэзуў.*

ВУДУ́Р, ВУДЫ́Р *м.* Пухір. *Вудур зь нешчъга ўскочуў нъ руцэ, можа, къмары так нъкусалі.*

ВУЛЬ *м.* Вулей. *Гэнън вуль пустый у мяне стаіць.*

ВУЦЯ́К *м.* Качар. *Вуцяк іграіць нъ вадзе.*

ВУШЛА′ТЫ[Й] *прым.* Аблавухі. *Некътръі болі гонюцца зъ вушлатъмі сьвіньнямі.*

ВЪДАВЫ′[Й] *прым.* Які служыць для вады. *У мяне бъла сьпіціяльнъя въдъвая кънава, там мы лён мачылі.*

ВЪДУМЛЁНІК, ВЪДУМЛЁНШЧЪК *м.* Выдумшчык. *Въдумлёнік, кажън рас нешта въдумляіш — еш, што нъ сталe стаіць. Въдумлёншчъку таму папробъвъй улаць.*

ВЪЗА′Н *м.* Воз. *Кап хоць възан було сена.*

ВЪЛЕ′ВЪК, ВЪЛІ′ВЪК *м.* Неданошанае яйцо без шкарлупіны. *Нехта курыцу ўдаруў, вълейкі кладзець. Курыца вълівък выліла нъ пънадворку.*

ВЪРЪВА′ЦЦА *незак.* Вельмі эканомна жыць, старацца не растраціць нічога лішняга. *Тут варуісься, кап нідзе лішнію капейчъну ня выкінъць, а ён вуньдзя як шъкуіць.*

ВЪРЪЦА′КІ *мн.* Наванітаванае. *Што я твае върыцакі буду ўбірадзь зъ табой.*

ВЪРЪЦА′ЦЬ *незак.* Ванітаваць. *Ня думый жъ върыцаць нъ пасьцель.*

ВЪША′Н *м.* Маленькая вош. *Можа, въшан залез зъ кайнер, што ты ўсё цярэбісься.*

ВЫЙЛА′К *м.* Валёнак. *Адзін выйлак ніўдачны ўдаўся, воўна скачъвъіцца кузлукамі.*

ВЫ′МЪНТЪЧЪЦЬ *зак.* Выманіць, выцягнуць; украсці. *У яго ўсе грошы ісь кішъня́ вымънтъчълі.*

ВЯ′ГЪЛА *м.* і *ж.*, ВЯГЛО′ *н. асудж.* Чалавек, які гаворыць не да месца, плявузгае. *Ён жъ такі вягъла, што болі такіх мы ні зналі. Кап ты бъла ні такоя вягло, дъг ба і яны лепшъі п с табой бълі.*

ВЯ′ГЪЦЬ *незак.*, НЪВЯ′ГЪЦЬ *зак.* Гаварыць не да месца, плявузгаць. *Гэта табе ўжо нехта нечъга нъвягуў — вягъюдзь жа, а ты вот усім верыш.*

ВЯ′ДЗГЪЦЬ, ВЯДЗГУ′ЛІЦЬ *незак. асудж.* Тое, што і *вягъць. Ні вядзгый пустога. Я толькі табе ръскъзала, а ты ўжо вядзгуліш усім.*

ВЯ′ТКА *ж.* 1. Гурт, натоўп (пра людзей). *Людзі вяткъмі пъ ягъдъх ходзюдзь, дзе там тыі ягъды таг будуць.* 2. Плойма, мноства (пра насякомых). *Мухі вяткъмі лётъюць.*

ГА′ВІДА *ж. зневаж.* 1. Жывёла, статак. *Што ш тут травы ім, гэтъ ж гавіда, пяройдзіць, піратопчыць і німа травы. Цэлую гавіду аведз дзяржыць — нада ш корму*

*ім у зіму многа нъбраццa.* 2. Шумны натоўп, зборышча людзей. *Успакойцісі, гавіда, зъ вамі ні слова ні скъзаць, ні пачуць нічога. Людзей цэлъя гавіда на ржыньні стаіць, муся, дзялідзь будудзь зъчънаць.*

**ГАВЭ′НДА** *ж.* Пустая размова, гаворка. *Вот ні люблю такую гавэнду тваю.*

ГАЛ, ГА′ЛЪС, ГЪЛА′С *м.* Крык, шум. *У хаці ў іг гал нейкій быў, як я ішла. Чаго гáлъс справілі ў хаці! Твайго гълáсу ні хвътала тутъка ішчэ.*

**ГА′ЛКІ** *мн.* Дамашняе квадратнае пячэнне. *Уперът мы любілі дужа галкі, іх і пяклі часьценька.*

ГАЛО′С *м.* Галашэнне. *Памёрла стърая, будзіць галосу: радні многа, ёсь каму пъплакъць.*

ГАЛУ′ТА *ж.* Асенні мароз без снегу. *Ужо, помню, галута стъяла, як мы жанілісі.*

ГАЛУ′ТЛІВА *прысл.* Пра стан надвор'я восенню, калі няма яшчэ снегу, але ўжо марозна. *Було галутліва, і іна, бідняшка, аб груду тады здоръва ўдарълъся.*

ГАМЭ′РНЯ *ж.* 1. Шумнае зборышча людзей. *Я зайшоў у хату, а ў іх цэлъя гамэрня зъ сталом сядзіць.* 2. Вялікая сям'я. *У сястры маей тъкая гамэрня: восім душ, нада ш кажън дзень есьці столькі нъварыць.*

ГА′НА *ж.* Ганьба, загана. *Нейкъя гана бъла тады ў къня, што ён яго таг быстра збыў.*

ГАНЕ′Ц *м.* Плытагон. *Дзедушка тожа ганцом быў, гъняў ганкі пъ Дзьвіне.*

ГАНО′К *м.* Плыт. *Мы с Аркадзім у свой час ганкі гънялі, пъ нядзеліх, а то й па месіцъг дома ні бувалі.*

**ГА′РА, ГЪРГА′РА, ГЪРГА′РЪНА** *ж.* Вельмі худая жывёліна (часцей карова). *Чаго яны ня збудудзь гэну гáру старую? У гъргары такой, мусіць, і зубá ні аднаго німа? Ні карова, гъргаръна нейкъя.*

ГЕ′ЛІЦЬ *незак.* Моцна хацець, імкнуцца да чаго-н. *Геліць маліц ляцець на лёт, а я ні пускаю.*

**ГРА′ЦКА** *ж.* Матыка. *Бабы пъбралі грацкі ды на грыжу пашлі.*

ГРЪБІВО′ *н.* Грабенне. *Гэта ўжо тваё гръбіво такоя.*

**ГРЫ′ЖА** *ж.* Бручка. *Грыжу ўсю я ўжо выпълъла.*

ГУЛЕ′Ц *м.* Ігрок. *Гульцоў у карты пънъсъбіралъся, нъкурылі поўна хату, аж дым стаўбом стаіць.*

**ГУРЗО′ЛЪК** *м.* Цвёрды кусок бульбіны, бручкі і пад. у страве. *Бульбу сьцёр нядобра, ці ні зварылъся добра: гурзолкі ёсьць.*

ГУСТУ'Ш, ГУСТЫ'Ш *м.* Густая частка стравы. *Густужу нъвярнула поўна місу, а юшкі й нет. Мае густыш любюдзь болі, ёзь дзе лошкый пъвярнуць.*

ГЪЛАГУ'ШКА *ж.* Што-н. у форме маленькіх шарыкаў ці квадрацікаў. *Цукеркі — гълагушкі такіі.*

ГЪРКЪЯ'ЦЬ *ж.* Гаркота. *Аччъні дзьверы, хай ходзь гъркъяць выйдзіць.*

ДВЪРАСЕ'К *м.* Месца, дзе сякуць дровы. *Нъ двърасеку забыўся іспоткі.*

ДЖВІ'ГНЪЦЬ *зак.* Шмыгнуць, прашмыгнуць. *Нехта джвігнуў кълі 'кна, я й ня ўвідзіла, хто.*

ДЖГНУЦЬ *зак.* Ужаліць; ударыць. *Ні къчайся пъ траве, бы пчъліна скора джгнець. Джгні маломy дупцом, кап ні въръбляўся.*

ДЗЁ-ДЗЁ-ДЗЁ *выкл.* Словы, якімі падзываюць свінней.

ДЗЯДУ'ЛЬНІК *м.* Дом для састарэлых. *Зъ Дзьвіной дзядульнік ёсь.*

ДРУҐАВЕ'Й *м.* Другі ўкос канюшыны. *Другавей лепшый у мяне сёліта, як піршак.*

ДРУЗА' *ж.* Тоўсты атлусцелы чалавек. *Гэта ні чълавек, а друза нейкъя, расплыўшъсі ў салі ўвесь чыста.*

ДРУ'КІ *мн.* Прыстасаванне для прасушкі канюшыны, бульбоўніку і інш. *Клевір скасіў; кап ні атпіваўся нъ зямлі, нада злажыць у друкі.*

ДУ'КРЪЦЬ *незак.* Разумець, разбірацца. *Ён ішчэ саўсім малый, кап што дукръць.*

ДУКУВА'ЦЬ *незак.* Павучаць, падгаворваць, направляць па-свойму. *Ці ты дукуй яго, ці не, дъ яго гэта як ап сьцяну гарох.*

ДУМАЎЁ *н.* Дамавіна, труна. *Думоўі ў стълярцы робюць.*

ДЪБУРА', ДЪБУРО'М, ДЪБУСА', ДЪБУСО'М *прысл.* Дагары нагамі, перавярнуўшы (паставіць што-н.), перавярнуўшыся (стаяць). *Як пъхъзяівъіць мне, дък пъставіць у хаці ўсё дъбура. Сягоньня як съма ні пръбрала пасьцель, дък цэлый дзень дъбуром пръстъяла. Нъ табе неіг гэта пальто дъбусом стаіць. Дъбусом ніколі ні нада ставіць, так можыць пабіцца. Чаго ты стульля піръвярнуў дъбуса?*

ДЪЛЪВА'Х *прысл.* На зямлі, на доле. *Дълъвах пъшукаў ба п, што ты па паліцъх нікъіш.*

ДЪНДЪВА'ЦЬ, ДЫ'НДЪЦЬ *незак.* Таптаць; хадзіць узад-уперад. *Куры дъндуюдзь гародніну. Чаго ты дындъіш узат-уперът?*

ДЭ'НЬНЯ, ДО'НЬНЯ *н.* Нутро. *Пръклялі ўсё дэньня мъладзіцы, а іна бъла саўсім ні вінъватъя.*

Е'ШЧЫ[Й] *прым.* Які есць многа і са смакам. *Гэта сшчъя сьвіньня, добръя.*

ЖАРЛІ'ВЫ[Й] *прым.* Абжорлівы. *Мъя жарлівъя карова: на зіму вялікую пуню сена нада нъпратъць.*

ЖМА'ЧКА *ж.* Змятая, сцёртая жменя сена, саломы. *Во якіі жмачкі ў каровы астаюцца, мусідзь, зубоў німа, што так ні зь'ідаіць.*

ЖЪВАЦЕ'ЦЬ *незак.* 1. Дурэць, сваволіць. *Ні жъвацейці, ръбяты, у хаці, ідзіці на двор въръбляцца.* 2. Трымацца, берагчыся. *Ну, жъвацей, мальчык, яг дъбяруся січаз, дъг будуць костъчкі беднъі твае.*

ЖЪГА'Л *м.*, ЖЪГА'ЛА *н.* Джала. *Шчамель усадзіў у нагу жъгал, а балючый жъ які. Късчайся маліц пъ руччы, а пчъліна — кусь і жъгала ўсадзіла.*

ЗАБО'ІЦ *м.* Запатылак. *Забоіц выліцюў і неік касіць.*

ЗА'ВІРЪТКА *ж.* Вяроўка для мацавання аглоблі да саней.

ЗАІ'КЛІВЪТЫ[Й] *прым.* Заіклівы. *Тъкая заіклівъ-тъя дзяўчына.*

ЗАЛЁТЪВЪЦЬ *незак.* Пачынаць лётаць, кружыць (пра сняжынкі). *Сьнех пъчаў залётъвъць, а ў мяне ішчэ капуста на пні стаіць.*

ЗАМЁТ *м.* Плот з бярвення. *Скажуць: нада замёд закінъць.*

ЗАПО'РЦІЦЦА *зак.* Пачаць псавацца. *Гэна тваё мяса ўжо, муся, запорцілъся.*

ЗАСТРЭ'ШНІЦА *ж.* Тое, што і *вётръніца. Пъдышчы чатыры дашчуркі добръх нъ застрэшніцы дъ бані.*

ЗА'ЎНІВІЧ *прысл.* За вочы, завочна. *Заўнівіч абгукалі чълавека, абгукалі.*

ЗАЎРО'ЧЪЦЦА *зак.* Захварэць ад урокаў. *Бык яг заўрочуўся чаго, ні стаў ні есьці ні піць.*

ЗВА'ЖЪЦЬ *зак.* Уважыць, уступіць. *Ён жа зъ цябе намнога старэйшы, кап хоць ты яму зважуў.*

ЗРА'НІЦЬ *зак.* Дачасна выкінуць плод, нарадзіць нежывое дзіця. *Быў ба сын ужо, алі неік ніўдачна там, зраніла біс пары, месіц ні дънасіўшы.*

ЗЪВІВА'НІК *м.* Варэнік. *Заўтра бліноў-зъвіванікуў нароблю.*

ЗЪГАГУ'ЛІНА *ж.* Нязграбная рэч, прадмет, які з'яўляецца непатрэбным, замінае. *Дъвай уськінім нъ гару гэну зъгагуліну — толькі места лішнія будзіць зънімаць у хаці.*

ЗЪЛЪЧА'ЦЬ *незак. безас.* Світаць, днець. *Ужо зълъчала, як мае пръшлі зь вічарынкі.*

ЗЪПРА'ЎДЪШНІ[Й] *прым.* Сапраўдны. *Павешъім на ёлку і зъпраўдъшніх цукерък і троху зробім з ваты ў бумашкъх.*

ЗЪПРА'ЎДЫ *прысл.* Сапраўды. *Яно зъпраўды було так.*

ЗЪРА'НЬНЯ *прысл.* Не дачакаўшыся патрэбнай пары, раней патрэбнага часу. *Дужъ зъраньня ня йдзіці зъ каровъмі, чаго гэта ляцець у такую рань.*

ЗЪСІРАНЕ'ЦЬ *зак. безас.* і *ас.* Замёрзнуць, пакрыцца тонкай ледзяной скарынкай. *Чуць троху зъсіранела, ён ужо на лёт прэцца.*

ЗЪТРАВЕ'ЦЬ *зак.* Парасці травой. *Зътравеў дзірваном кусог за гот, чуць узьдзёр плугом.*

ЗЪХА'КЪЦЦА *зак.* Задыхацца. *Зъхакълъся я сусём, пакуль пръшла.*

ЗЪХЪЛЪДА'ЦЬ *зак.* 1. *безас.* Пахаладнець. *Нешта нъ дварэ таг зъхълъдала.* 2. Застудзіць, прастудзіць. *Зъхълъдаіш ногі, так сідзя, а тады толькі пірхекъць пъ нъчаг будзіш.*

ЗЪШУМІ'ЦЬ *зак.* Засмеціць. *Зъшуміў бумагый усю хату.*

ЗЭ *выкл.* Выражае здзіўленне. *Зэ! І ты тут ёсь?*

ІМЕ'НЬНЯ *н.* Імя. *Скажы, дачушка, як тваё іменьня.*

ІСПО'ТКА *ж.* Рукавіца. *Іспотку адну недзіка зъкруціла, ні магу цяперъка знайсьці.*

КАЛЕ'СЦЫ *мн.* Блок для падвешвання нітоў у кроснах. *Вун въшэй гэта калесцы.*

КАМЛЮ'К, КЪМЛЮШО'К *м.* Тонкае паленца дроў. *Пръднясі къмлюкоў у хату дъ пліты. Къмлюшкоў патсек трошку зъ пайдзён.*

КАПТУ'Р *м.* Пярэдняя частка печы, якая ўзвышаецца над ляжанкай. *Шкарпэткі павешуў сушыць нът къптуром.*

КАРТЫ'ЖНІК *м.* Карцёжнік. *Дзед быў во зъядлы картыжнік.*

КА'СЛЪЎКА *ж.* Жменька, пасма, зусім мала (пра сена). *Сёліта ані каслъўкі ня 'ткасіў.*

КА'СЬЦІЦЦА *незак.* Мучыцца, існаваць, абмяжоўваючы сябе ва ўсім, перабіваючыся. *Ікая мъя жызьня — ну вот кашчуся так.*

КІ'ТА *ж.* Сноп бобу. *Тры кіты бобу зъ паўдзён аблушчълі ръбяты.*

КНЕ'ХЦІЦЦА *незак.* Капрызнічаць, плакаць. *Гэнън малёнък усё кнехціцца і кнехціцца і ўгамунку яму німа.*

КНУР *м.* Кнораз. *Купілі пърсючка, алі кнурá.*

КНЫ'РЪЦЬ *незак.* Выглядаць, вышукваць. *Чаго ты кнырыш пъ заўгольлю?*

КНЯ'ГЪЦЬ *незак.* Канькаць, выпрошваць. *Ні князый, ні прасі, ты ўжо сваё пълучыла.*

КРАПІ'ЎНІК *м.* 1. Кураня, што вывелася недагледжаным, без ведама гаспадароў. *І ні зналі, і ня ведълі, дзе чорнъя курыца пръпала, як у ваду канъла, а тады глядзім — въводзіць із ячменю крапіўнікуў.* 2. Байструк. *Нечъга было робіць і нъ крапіўнікуў пашоў жыць.* 3. Вялікага памеру мяшок. *Крапіўнікі дужа цяшкіі мяхі — вот насып такій, дък адзін і ні падніміш на вос.*

КУЛО'ГЪЦЦА *незак.* Боўтацца ў вадзе; мыцца. *Ні кулогъйцісі, ръбяты, у кулдобіні, ідзіці лепі ў хату.*

КУРМЕ'ЛЬ *м.* Пячкур. *Курмялёў нескукі злавіў і ўсё.*

КУРУ'-КУРУ'-КУРУ' *выкл.* Словы, якімі падзываюць індыкоў.

КУСА'НІК *м.* Недаедзены маленькі кавалачак чаго-н., што-н. укушанае і кінутае. *Еў, еў і кусанік кінуў — што гэта зъ пръвычка. Ці ён яблъкі будзіць есьці, ці ён бліны, вег дъ кънца ні пъзь'ідаіць — кусанікі бъдзяюцца.*

КЪЛАНТЫРЪЦЦА *незак.* Валаводзіцца. *Чаго ты будзіж доўга кълантыръцца з гэтъмі дръўмі — паедзім.*

КЪМАНІ'ЦЬ *незак.* Падгаворваць. *Сусетка късманіла маіх у ягъды схадзіць, алі нашъм ня вышла, усё ш пръчына зъ пръчыный.*

КЪПЯ'ШКА *ж.* Капа. *Тры къпяшкі сена нъграбілі.*

КЪСАВІ'ЛНА *н.* Кассё. *Дъвядзі ты мне новъя късавілна дъ касы, тоя вун храпнуўшы ўжо.*

КЪШАРЫ'ЦЦА *незак.* Мыцца, чысціцца. *Куды ты так къшарысься?*

КЪШАРЫ'ЦЬ *незак.* Мыць, чысціць. *Уцікайці на двор, буду къшарыць пол, кап ні мішалі тутъка.*

КЯТУ'РКА *ж.* Прарэх у штанах. *Нада гузікі мне ў кятурку пъўшъваць, а то пъвъръвалісі.*

ЛАЙНО' *н.* Адзежына. *Лайно якоя-небуць усьцягну на плечы і пайду пъ мъкраце.*

ЛАЦНО', ЛА'ЦЬВЯ *прысл.* Добра. *Лацно, калі ў горъдзі ў яго хто-небуць ёсьць, зъўсягды ўсяго дъстаніць і пръвязсдзь дажа. Лацьвя ей, калі ў яе мушчына ў хаці ёсьць: ён і скосіць, і ўзарэць, а як мне, адзінокый бабі,— адна робіш усё чыста.*

ЛЕ'ЖЪЦЦА *незак.* Даспяваць сарванымі, лежачы (пра плады). *Ігруш път сяньнік нълажыла лежъцца.*

ЛОП *м.* Тое, што і *лъбяк 1, 2. У лоп хлеву іржыньня склалі. Лоб да ўрэмя дашчуркъмі забіў.*

ЛЪБЪЗА' *ж.*, ЛЪБАЗЬЗЁ *н. зборн.* Грубая, тоўстая трава, якую не вельмі хоча есці жывёла. *Такую лъбазу ня будзіць есьці карова, пъ гатові таго авечкі. Лъбъзьзя нейкъга нъкасіў, а ня сена.*

ЛЪБЯ'К *м.* 1. Падфрантонная сцяна ў будынку. *У лъбяг дровы пъсклъдайці акуратнінька.* 2. Франтон. *Два лъбякі ў хаці за дзень зашылі — ну што ж, доскі гатовъі бълі, усё пръстроіна.* 3. Зямельны ўчастак на высокім, адкрытым месцы, на якім дрэнна родзіць. *Нъ лъбяку тым калі што радзіла?*

ЛЪКТА'ЦЬ *незак.* Піць. *Ні лакчы дужа халодный вады, іна ш, як лёт.*

ЛЮБАВІ'ЗНА *ж.* Мясная праслойка ў сале. *Въбірай жаръдзъ, дзе болі любавізны.*

ЛЮБО'ВЫ[Й] *прым.* Посны, без праслоек сала. *Атрэшці сабе, ръбяты, любовый скваркі.*

ЛЯСЬСЁ *н.* Нелюдзімае, дзікае месца, звычайна лес. *Конь буланы ні даецца — проміцьцю ляціць нъ лясьсё.*

МАНІ'ЦЦА *незак.* Збірацца, хацець што-н. зрабіць. *Манілъся-манілъся сходзіць і ніяк ні дъманілъся.*

МАТЫ'РКА *ж.* Шнурок з драўлянай палачкай на адным канцы і драцяным стрыжнем на другім для нанізвання рыбы. *Матырку ш сваю ні забуцься ў рыбу ўзяць.*

МЕ'НІЦЬ *незак.* Меншаць, убаўляцца. *Мълъка с каждъм днём стала меніць і меніць.*

МІРАВЫ[Й] *прым.* Выдатны, добры. *Міравога сена нъкасіў.*

МЪНЬДЗЮРЫ' *мн.* Вочкі на бульбе. *Мъньдзюры ня ўсе выскръбла.*

МЪСКА′ЛЬ *м.* Старавер. *У нас мъскалёў тутъка нідзе німа, алі я іх у бежъпцъх відзіла — такіі бърьдатъі, гаворуць неік атрэчна, ні пъ-нашъму, і, кажуць, у іх іконъмі ўся хата пъабвешъвънъя.*

МЪСЯТО′ *н.* Вялікі жывот. *Што ён іс такім мъсятом ходзіць, яг баба туўстая, можа, сэрцъм хворый.*

МЪШАРНІ′К *м.* Махавік. *Мъшърнікоў повін падол у зъдах нъсъбірала.*

МЯЖДЖУ′ЛІЦЬ *незак.* 1. Уціскваць, умяшчаць ушчыльную. *Куды ты мяжджуліж болі, туды болі ня ўлезіць.* 2. Расціскваць, раздушваць. *Ні мяжджуль ягъды, дънясі ходзь жъвыі.*

НАЛО′Х, НАЛО′М *м.* Прывычка. *Што ў цябе зъ налог гълавой трасьці? Я сь цябе такі налом выгъню.*

НА′НІЦ *прысл.* Навыварат. *Пъглядзі, ты наніц рубашку надзеў.*

НАРО′ШЧ *м.* Раз, спосаб. *Двумя нарошчъмі пръхадзіў, а чаго — нівядома.*

НАСО′Ў *м.* Адзежына. *Стока нъсавоў нъ сябе ўзьдзеў, а ўсё, кажыць, халодна яму.*

НА′СЬКІ[Й] *прым.* Наш, свой. *Тамъка і наськіг було поўна.*

НІПРЪЛЮ′ДНЫ[Й] *прым.* Нелюдзімы. *Ай, ікая баба ніпрълюднъя, яг гэта кажыцца: ні да бога ні дъ людзей.*

НУ′ШКЪЦЬ *незак.* Панукаць, падганяць. *Гэтъгл ўбоіну толькі нушкый і нушкый, сам жа ні дъгъдаіцца ісьці ды зробіць.*

НЪДЪРА′ЖЪВЪЦЦА *незак.* Дражніцца з кім-н., злаваць каго-н. *Чаго ты яму нъдъражъвуўся?*

НЪКАЛПЫ′К *прысл.* Пра манеру завязваць хустку (ражкі звязваюцца на патыліцы). *Ірка любіць хустку зъвязъвъць нъкалпык.*

НЪРАТО′К *м.* Прыстасаванне, у якое бяруць сена каню ў дарогу. *Вот нъраток сена й пашоў зъ пуўдня.*

НЪРУГА′ЦЦА *незак.*, НЪРУГНУ′ЦЦА *зак.* Дражніцца, насміхацца. *Што ты чълавеку нъругаісься, можа, ён гэтъга ня любіць. Я нъругнулъся яму, у шутку скъзала, а ён і падумуў, што зъпраўды.*

НЪСПАРЫ′ЦЬ *зак. безас.* Назбірацца. *У цябе ўжо кніжък нъспарыла цэлъя паліца.*

НЯЎЕ′ЖНА *прысл.* У выразе: *няўежна, дык улёжна* — есці няма чаго, але можна спакойна паляжаць.

НЯЧЫ′ВІЛЬ *ж.* Напасць; стан раздражнення. *Ікая нъ вас нячывіль нъпала, што носіцісі, як аглашонъі?*

ПАЛЮ′К *м.* Ручка на кассі для правай рукі. *Палюк нізъжатый, къса съма шътаіцца, якоя гэта, у чорта, късіво.*

ПАПЕ′РВЪСЬЦІ *прысл.* Спачатку, уперад. *Папервъсьці ж добръя бъла, увъжала ўсіх, а тады нъ яе нейкій чорт усьсеў — і пъшла хълялём хадзіць.*

ПАХНЮ′ЧЫ[Й] *прым.* Пахучы. *Які бэс пахнючый, паспробъвый панюхый.*

ПІРЪХАЛО′ПІЦЬ *зак.* Перастарацца, перабольшаць. *Халеръя, трошку пірьхалопюў: многа солі ўсыпуў у булён.*

ПО′ЛЫНЬ *ж.* Полымя. *Полынь яг дъла ў чалесьнік.*

ПРА′ЖЪЦЬ *незак. безас.* Вельмі хацецца, рупіць. *Пражъла табе смольлю ляцець туды.*

ПРО′ЛУПКА *ж.* Палонка. *Сягоньня цяплей, можна будзіць плацьця і ля пролупкі выбіць пранікъм.*

ПРО′МІЦЬЦЮ *прысл.* Стрымгалоў. *Конь буланы ні даецца — проміцьцю ляціць нъ лясьсё.*

ПЪЛАТУ′НЪК *м.* Ласунак. *Гэта табе ні які-нібуць пълатунък, а ежа як ежа.*

ПЪЛЯНДРЫ′ЦА *ж.* Паляндвіца. *Што, пъляндрыцы зъхацеў?*

ПЪРХЛЯ′ВЫ[Й], ПЪРШЛЯ′ВЫ[Й] *прым.* Пульхны. *Сьнех такій стаў пърхлявый. Хто пърхля́вый сьнех такій завець, а хто — пършля́вый.*

ПЪЎЦАГЕ′ЛЪК *м.* Кавалак цагліны. *Піръстань так сварыцца, а то калі-небуць, вады халодный напіўшъсі, усе вокны пуўцагелкъм ръзмълачу.*

• ПЯРЭ′ПЛЪТЫ *мн.* Тое, што і *дрўкі. Пярэплъты нада зьбіць.*

РАДЗІ′ХА *ж.* Парадзіха. *Радзіху ўжо пръвязьлі з бальніцы з мальчъкъм.*

РА′НІЦЦА *незак.* Выходзіць ці прыходзіць куды-небудзь раней звычайнага. *Во ты стаў пасьледнія ўрэмя як раніцца, упярод дък век пазьніўся.*

РА′СКА *ж.* Столка. *У дзьве раскі складзі вяроўку, дък сьмела ўдзержыцъ усе тваe дровы.*

РАЎГЕ′НЯ *ж.* Заквашаная саладуха. *Дайней раўгені нъясіся і добра було.*

РУ′ЧКІ *мн.* Драбіны ў возе. *Урайні з ручкъмі вос къладжыў, эт хъзяін.*

РЪБРА'К *м.* Кант, вугал у плоскай рэчы. *Ні стаў так нъ ръбрак: піракуліцца.*

РЪГА'ТКА *ж.* Услон, якім перагароджваюць вуліцу у час вяселля, калі малады са сватамі адпраўляецца да маладой. На ўслон кладзэцца хлеб-соль. Малады павінен пачаставаць сустрэўшых гарэлкай і закускай (з гэтай мэтай сватамі заўсёды бярэцца ў дарогу пітво і закуска). *Мъладый едзіць — скарэй ръгатку, мальцы, стаў!*

РЪГАЦЬЦЁ *н. зборн.* 1. Сукаватыя палкі, сукаватыя дрэвы. *Ръгъцьця нейкъга насек, а ня хворъсту.* 2. Усякія нязграбныя, нясkладныя рэчы, прадметы. *Ня крэслы, а ръгацьцё нейкъя, усю хату зънялі.*

РЪДАБО'СЬ *ж.* Што-н. рэдкага пляцення з нітак; недабраякасная работа з нітак. *Я пълядзеў-пълядзеў на тую ръдабось і так ні пъняў, што гэна було зъ такоя.*

РЪЖЖАГЕ'РЪВЪЦЦА *незак.*, РЪЖЖАГЕ'РЪЦЦА *зак.* Раскірачвацца. *Ні ръжжагеръвыйся пъсярод дарогі. Што ръжжагеруўся тут?*

РЪЗДАБРУ'ХЪЦЦА *зак.* Раздобрыцца, стаць добрым. *Зэ! І ён так ръздабрухуўся, дажа цукерък купіў.*

РЪСКАПУ'ШЧЪВЪЦЦА *незак.*, РЪСКАПУ'СЬЦІЦЦА *зак.* Шырока рассядацца. *Ні ръскапушчъвыйся на ўсю лаву, ты ш тут ні адна. Ръскапусьцюўся адзін і места болі лі цябе німа.*

РЪСПЪСА'ЖЪВЪЦЬ *незак.*, РЪСПЪСА'ЖЪЦЬ *зак.* 1. Раздаваць, растрачваць. *Як ёзь, дык ён усё ръспъсажъвъіць і ні ап што ня думъіць. Ръспъсажъла ўсе мае ніткі і мне німа.* 2. Разганяць. *Я буду скора ръспъсажъвъць гэтъх кулегуў, ні нада мне, кап у цябе бъла тъкая дружба. Січас ръспъсажу куды каторъга, калі будзіці і далі бабі старой нъдъражъвъцца тут стъя.*

РЪССАСУ'ЛІВЪЦЬ *незак.* Разважаць, размаўляць беззмястоўна, бязмэтна. *Тая як станіць ръссасулівъць, што і кънца німа яе ръссасулім.*

РЪХАПЕ'ЦЬЦЯ *н. зборн.* Дробныя рэчы; манаткі. *Събраў ръхапецьця і ўмёўся некуды.*

РЪШШЪБУНЯ'ЦЦА *зак.* Выйсці з інертнага становішча; развесяліцца. *Старый як ръшшъбуняўся, аш паўлітра гарэлкі на стол выстъвюў.*

РЫ'ТЪВІНА *ж.* Калдобіна. *У рытъвіну кола глубока пусьціў, яно й храпнъла.*

РЫ'ХЛІК *м.* Акучнік. *Ідзі пъпрасі ў каго рыхліка, бульбу пъгъняім.*

САЛЁНКА *ж.* Сальніца. *Нъбяры ў салёнку солі.*

СА'ЛЬНІК *м.* Кормны вяпрук. *Сальніг добрый сёліта ўдайся.*

СЕ'МІНКА *ж.* Бульба для пасадкі. *Семінку ў яму схъвалі дъ вясны, а сабе пат пол насыпълі, път кръваці, за печ.*

СЕ'МІНЬНІК *м.* Агурок, памідор і інш. на насенне. *Семіньнікі, як луты, ліжаць у бъразьне.*

СЕ'РЪНЬ *м.* Тонкая лёдавая корка на снезе пасля адлігі. *Пъ такім серъні ісьці, дък во скръпіць так, зъ вярсту чувацца.*

СЛАВЕ'ЧНА *прысл.* Вусна, на словах. *Ты мне славечна скажы, я яму пірълам, а запісъвъць ні нада.*

СМО'ЛЬЛЮ *прысл.* Вельмі напорліва, неадступна. *Каровы смольлю лезуць у клевір. Малы смольлю лезіць, нъпінаіцца каропку с паліцы дъстаць.*

СПУ'ЛІЦЬ *зак.* Украсці, сперці. *Пръзнъвайцісі, хто спулюў маточъг зялёнъх нітък, што ліжаў у століку.*

СПУ'ЛКА *ж.* Супольная, калектыўная праца, мерапрыемства. *Ні хачу такой спулкі, адзін лепі буду робіць.*

СПЪХНУ'ЦЬ *зак.* Перадыхнуць, спачыць. *Падзі, я трошку спъхну, а то нъ гару ні пъдъмусю.*

СТАРЛЫ'БІНА *м.* і *ж.* *зневаж.* Пра старога чалавека. *Старлыбіна старый жаніцца задумуў.*

СТАЎБУ'Н *м.* Збан. *Стаўбун сьмітаны събрала, нада будзідзь бойку пръстроідзь ды масла зьбіць.*

СТА'ЎКА *ж.* 1. Вулей, які ўстанаўліваецца на дрэве ў лесе для прываблівання раёў пчол. *Стаўку нъ сасьне пръстроілі.* 2. Рыбалоўная прылада з густымі вочкамі, меншая, чым жак, для лоўлі малой рыбы. *Стаўкі ўпярод зъстуўлялі, мелкъя рыба й пъпъдала ў такую стаўку.*

СТВО'ЛКА *ж.* Столка. *У тры стволкі пашыла, крапчэй будзіць.*

СТРО'ЧЧА-ВАЛО'ЧЧА *н.* *экспр.* Вялікі шлях. *Віналод гэткій строчча-валочча за дзень вылітъіць, нідзе нічога ня ўпусьціць.*

СТРЪХАЦЬЦЁ *н.* Страхоцце. *Стръхацьцё глядзець нъ такую мурзу — ідзі мыцца січаж жа.*

СТЪБУНО'К *м.* Збанок. *Бяры сьмітану ў меншъм стъбунку.*

СТЪЖА′РНЯ *ж.* Сціртa пад стрэшкай. *Сягоньня лі стайні за дзень дзьве стъжарні сена злажылі.*

СУ′БЪРНІЦА *ж. зневаж.* Людское зборышча. *Ні нада, кап бъла ўся тая субърніца.*

СУДАВІ′К *м.* Чыгун на два вядры. *Дaўней, як сем'і бълі бальшыі, бувала, варылі пъ судъвіку бульбы, атразу і зьідалі.*

СУ′ДЫ *мн.* Два вядры на каромысле. *Вазьмі на плечы суды ды схадзі зъ вадой дъ Ръмана.*

СУЛО′ЦІЦЬ *незак.* Шмальцаваць. *Ні сулоць сарвэтку гразнъмі рукамі.*

СЪМЪДЗЯЛКО′ВЫ[Й] *прым.* Самаробны. *Гэтът съмъдзялковы нош.*

СЫ′РНІЦА *ж.* Парэзаны на кавалкі і заліты маслам сыр. *Зробіла сырніцу, у гърачый печы стаіць.*

СЬЛЯДНІ′К *м.* Пратаптаная нагамі сцежка ці наезджаны санямі след на снезе. *Ты мне къзаў, што бацька ў санёх пръіжджаў, алі ш нешта ні відацца, каб быў, і сьлідніка нідзе німа.*

СЬЦІДЗЁНКА *ж.* Халодная вада ў лазні. *Налі сьцідзёнкі абдацца.*

СЬЦІНЮГА′ЦЦА *незак.* Бадзяцца, хадзіць без справы. *Будзіш сьцінюгацца къля ўглоў, хоць нъ курэй пъглідай, кап ячмень ні търсъвалі.*

СЬЦЮЦЮ′РЪЦЦА *зак.* Скурчыцца. *Тъкая хъладзіца, толькі сьцюцюръцца ды й сядзець на печы.*

ТАЛЫ′ХЪЦЬ, ТЪЛАЛЫ′ХЪЦЬ *незак.* Ісці кульгаючы. *Талыхый і ты за імі. Куды й ты тълалыхъіш?*

ТА′МЪШНІК *м.* Тамашні чалавек. *Іна тамъшніка прълабуніла і замуж зыйшла, ня 'дгэтуль ён.*

ТАРГІ′КЪЦЬ *незак.* Тое, што і *талыхъць.* *І Вольга таргікъіць у вясельля.*

ТАРО′КЪЦЦА, ТАРО′КЪЦЬ *незак.* Марудзіць, затрымліваццa. *Чаго ты тамъка таг доўга тарокуўся? Кап ты таг доўга ні тарокуў, то ікрас усьпеў ба.*

ТАРЧЭ′ЦЬ *незак.* Тарчаць. *Чаго ты там тарчэў піръд вачмі?*

ТА′РЫ-БА′РЫ *мн.* Пустыя размовы. *Тары-бары разводзюць бабы сідзя і нъ работу сваю забылісі.*

ТАРЭ′ШЧЪЦЬ *незак.* Вылупліваць. *Нашто ты вочы так тарэшчыш, так ні красіва.*

ТКА′НЬНІЦА *ж.* Ткалля. *Ты мълая ішчэ ткаиьніца.*

ТО′НЪК. Кароткая форма прым. *тонкі. Гэтът къчу-*

*рок тонък сюды, сюды нада таўсьцейшы. Што, кішка тонка, што й булён ня зь'еў?*

ТПРО-ТПРО-ТПРО', ТПРУСЁК-ТПРУСЁК-ТПРУСЁК, ТПРУСЬ-ТПРУСЬ-ТПРУСЬ, ТПРУСЮ'К-ТПРУСЮ'К-ТПРУСЮ'К *выкл.* Словы, якімі падзываюць кароў.

ТПРУЛЮ'СЬ-ТПРУЛЮ'СЬ-ТПРУЛЮ'СЬ *выкл.* Словы, якімі падзываюць жарабят.

ТРАВЕ'ЦЬ *незак.* Зарастаць травой, травянець. *Бульба травеіць, лехі травеюць.*

ТРА'НЬЦІНА *ж.* Адзежына. *Калі якую траньціну куплю, дък ты ўжо кръчыш.*

ТРАХ-ЧЪБУРА'Х *выкл.* Выражае рэзкае змяненне рашэння ці хуткае рашэнне. *Трах-чъбурах! Зь нічога зь ніякъга, ні пъгукаўшы, пъляцеў касіць.*

ТРО'ПЪЦЦА, ТРО'ПЪЦЬ *незак.* Дрыгаць, удараць нагамі (пра жывёлу). *Карова ні стаіць, тропъіцца. Стаі, чаго ты тропъіш къпътамі.*

ТРО'ХЪЦЬ *незак.*, ТРО'ХНЪЦЬ *зак.* 1. Тузаць, трэсці. *Стърая й тая трохъла мяне зъ руку, пъздруўляла. Трохні яго зъ руку, хай пръчъхаіцца.* 2. Круціць, ківаць, махаць. *Ты ш ня толькі задъм трохый, алі й нъгамі пірьбірай, танцэр. Што ты трохнуў гълавой, ня хочыш ісьці са мной?*

ТРУ'НКІ *мн.* Ласункі. *Што зъ въмъшлёнік, кап яму толькі трункі пъдъвай на стол, дзе іх нъбрацца толькі.*

ТРУПЕ'ХЛЫ[Й] *прым.* Трухлявы. *Што гэта хата? Гэтъ ш трупехлъя куча.*

ТРЪЛУ'ЗІ'ЦЬ *незак.* Выдумляць, несці лухту. *Вод будзіць трълузіць і трълузіць усё ўрэмя.*

ТРЪПАТЫ'Н *м.* Тарпатына. *Дзе твой тръпатын, будзім шчапіць яблъны.*

ТУ'ЗГ'ЪЦЬ *незак.*, ТУЗГ'АНУ'ЦЬ *зак.* Тузаць. *Ня тузгый ты гэту карову, хай іна ходзіць спакойна. Тузг'ані хърашэнька зъ паднём, яны й пълятуць.*

ТУЗНУ'ЦЬ, ТУ'ЗНЪЦЬ *зак.* Тузануць. *Тузну́ла мяне карова, аш рука луснъла. Нада було ту́знъдзь болі, жърдзіна і храпнълъ п.*

ТУЗО'КЪЦЬ *незак.* Тузаць.

ТУ'КАЦЬ *незак.*, ТУ'КНЪЦЬ *зак.* Пакрыкваць, прыкрыкваць. *Што ты ўсё нъ мяне тукъіш, што я табе служанка! Як тукніш нъ яе, атойдзіцца ат стъла, атойдзісься сам, іна ўзнова на стол.*

ТУРАВІ'ЦЦА *незак.* Спяшацца, шавяліцца. *Туравіся-туравіся, бы ў школу спозьнієься.*

ТУРАВІ'ЦЬ *незак.* Прыспяшаць, падганяць. *Вот ня будзіш яго туравідзь, гдыръдзь, дък сам нікъда ні кранецца.*

ТУРКІ'-БАРКІ' *мн.* Вялікі шлях. *Туркі-баркі за дзень аблётъіць тъкая дъхадовъя.*

ТУРО'ЛЯ *ж.* Мянушка каровы.

ТУРЧО'К *м.* Цвыркун. *О, турчок зътурчэў нъ балоці.*

ТУРЧЭ'ЦЬ *незак.* Цвыркаць. *Турчок турчыдзь бісь пірарыву ў руччы, вясну пачуў.*

ТУ'ТЪШНІ[Й] *прым.* Тутэйшы. *Што, ты ня тутъшні?*

ТУЎСТА'Я *прым.* Цяжарная. *Зінка туўстая ходзіць, узнова рабёнъг будзіць.*

ТУ'ХЛЯ *ж.* Тухліна. *Дзешка тухлій сьмярдзіць.*

ТУХЛЯ'К I *м.* Кухталь. *Піръстань, а то тухлякоў у плечы заробіш.*

ТУХЛЯ'К II *м.* Штс-н. тухлае, гнілое. *Лепшъі агуркі паелі, а тухлякі пъаствалісі.*

ТЪБАЛІ'ЦЬ *незак.* Несці лухту, гаварыць абы-што, *Ні тъбалі ты, ужо нъдаела.*

ТЪНІНА' *ж.* Кіёк з тыну. *Што, тъніной зъхацелі, ръбяты, пълучыць?*

ТЪНО'К *м.* 1. *зборн.* Тоненькія кіёчкі для агароджы. *Нъсячы тънку ў алешніку, зъгародзім троху.* 2. Плот з такіх кіёчкаў, тын. *Стъбункі нъ тънок павешъла сушыць.*

ТЪНЯ'НКА *ж.* Пуня або павець з тонкіх дошак ці плеценая з хворасту. *Сена ў тънянку склъдаім.*

ТЪРЪБА'НІЦЬ *незак.* 1. Тараторыць, гучна і без толку гаварыць. *Ні търъбань лішніга там хоць ізъком.* 2. Насіць (несці), цягаць (цягнуць) што-н. вельмі цяжкае. *Мы мяшкі зъ ячменім търъбанілі.*

ТЪРЪСЪВА'ЦЦА *незак.* Таптацца. *Нашто търъсъвацца пъ пасьцелі.*

ТЪРЪСЪВА'ЦЬ *незак.* Таптаць. *Зъгърадзі, а то ўзнова каровы будуць търъсъвадзь бульбу.*

ТЫ'ХЪЦЬ *незак.* Вельмі часта біцца (пра сэрца). *Замылъся ў бані дужа, дък сэрца тыхъіць, як ня вырвіцца,— тых і тых.*

УБАСЬЦІ' *зак.* 1. Баднуць, ударыць. *Мяне карова ўбъла.* 2. *груб.* Упэцкаць, усадзіць. *Куды ты ўбоў гэну муку!*

УБАСЬЦІ'СЯ *зак. груб.* Упэцкацца, улезці, трапіць. *Дзе ты так убоўся ў грась па вушы?*

УБЫ'ЦЬ *зак.* Пабыць, прабыць. *У цябе, маліц, такій касьцюмчък чыстый доўга ня ўбудзіць.*

УВА'ЖЪЦЦА *зак.* Устрымацца, утрымацца. *Шчасьця теаё, што я ўважуўся тады, а таг ба табе ні пъздаровілъся тады.*

УВЪЖА'ЦЦА *незак.* Старацца не зрабіць чаго-н. *Увъжайся ні ръзіваць рот пад веціp.*

УГАМУ'НЪК *м.* Супакаенне, утаймаванне. *Піръстаньці насіцца, угамунку нъ вас нет.*

УГО' *выкл.* Выражае здзіўленне. *Уго, сколькі ты гръбоў пръпёс!*

УГО'РЪЧ *м.* Вугор. *Угоръч — рыба тъкая, пахожа нъ мінтуза.*

УДА'ЎНІВЪЦЦА *незак.*, УДА'ЎНІЦЦА *зак.* Зацягвацца. *Нядобра, як і ўдаўнівъіцца тъкая зъраза, тады зь ей спасу німа. Хвароба як удаўніцца, дък, пэўні ш, яе ціжалей будзіць лечъць.*

УДЗЮБНУ'ЦЬ, УДЗЮ'БНЪЦЬ *зак.* Усадзіць, уткнуць. *Удзюбні тапор у бярно і пойдзім абедъць.*

УДЗЮДЗЮ'ЛІЦЬ *зак.* Усучыць, уперці. *Я й ні прасіў гэтъга, а ён усё роўна мне ўдзюдзюлюў.*

УДЛІ'Н *прысл.* Удаўжкі. *Бърануй пакуль удлін.*

УЖЖА'ЛЪВЪЦЦА, УЖЖА'ЛІЦЦА *зак.* Злітавацца. *Уго, як іна нът табой ужжалъвълъся. Бабы ръсказъвълі, што Іван над імі ужжалюўся і атпусьціў ішчэ па соццы.*

УЗВА'ЛЬЛЯ *н. зборн.* Земляныя насыпы. *Трактър раўнуіць узвальля на лысцы.*

УЗДО'ЛІЦЬ *зак.* Змагчы. *Што ты ня ўздолііш мяшог гэткій пъдняць?*

УЗДУ'ЖЪЦЬ *зак.* Змагчы (падняць, панесці). *Ня ўздужъіш ты гэтъга мальца, цяшкі ўжо стаў, падрос, хай сам ідзець.*

УЗДЪВА'ЦЬ *незак.*, УЗДА'ЦЬ *зак.* *Прыбаўляць пары ў лазні, паліваючы распаленую печку вадой. Уздъвайці духу болі, ня бойцісі. Уздай ішчэ, бы дух въходзіць нешта. Добра ўздай духу, што ты хвошчысься ў цёплінькый.*

УЗЁЛ *м.* Вузел. *Зъвяжы ўзёл мне на ніццы, ішчэ шчъпаю з маточък яблъкуў.*

УЗНО'ВА *прысл.* Зноў. *Гэта лыхъўка ўзнова сюды йдзець.*

УЗРЫ'ЖЖУ *прысл.* Наўзрыд. *Узрыжжу дурная па ім гъласіла.*

УЗЬЛІ'ТЪВЪЦЦА, УЗЬЛІТЪВА'ЦЦА *зак.* Зліта-ваццa. *Узьлітъвълъся нейкъя мъладзіца, праўда, нъда мной.*

УЗЬМЕ'ІШЪВЪЦЬ *незак.*, УЗЬМІША'ЦЬ *зак.* 1. Араць другі раз. *Ты ўжо бульбянішча сваё узьмешъвъіш? Нада ўзьмешъвъць пъд ячмень. Пад жыта я ўжо ўзьмішаў.* 2. Вымешваць, мяшаць. *Як узьмешъвъць начнеш, аш сіпіць у вядрэ. Нашто ты ўзьмішаў, кап кълamуту болі було?*

УЗЬМІ'ЛЪВЪЦЦА *зак.* Злітавацца. *Узьмілъвыйся, пъдай мне крошку солі.*

УКВЕ'КЪЦЦА, УКВЯ'КЪЦЦА *зак.* Уквэцацца. *У што ты так уквекълъся па вушы? Хоць і ў ботъг быў, алі ўсё роўна уквякуўся пъ калена ў грась.*

УКВЕ'КЪЦЬ, УКВЯ'КЪЦЬ *зак.* Умазаць. *Нашто вы сьціpку маю ўквекълі ў грась? Уквякъць у грась ні цяшка, цяшка вымъць тады.*

УКРЪВУ'ЛЬКІ *прысл.* Туды-сюды, зігзагам. *Што ты — п'яный, што ўкръвулькі ходзіш?*

УЛЕ'ЖНА *прысл.* Гл. *няўёжна.*

УЛО'ГЪМ *прысл.* Не паднімаючыся (ляжаць). *Улогъм ляжыць хворый і ні ўстаець.*

УЛУ'ЧЪЦЬ *зак.* Уцэліць, патрапіць. *Я добра ўлучъла, ікрас пръшла.*

УМЕ'СНЫ[Й] *прым.* Сумесны. *У наз баня ўмеснъя.*

УМЛЕ'ЦЬ *зак.* Упрэць, уварыцца. *Мяса добра ўмлела, можна ні бъяся есьці, пъцсалі толькі.*

УНА'НЪЧКІ *прысл.* Нанач, начаваць. *Було гэта ў суботу — прасіўся нейкій нінаські ўнанъчкі, къзаў, што пъ-пъгарэлъму ходзіць.*

УПАМІ'Н *м.* Упамінанне. *Пръ яго і ўпаміну німа.*

УПЛІ'ХЪВЪЦЬ *незак.*, УПЛІХНУ'ЦЬ, УПЛІ'ХНЪЦЬ *зак.* Крышку ўліваць. *Патрошку ўпліхъвый вады ў начоўкі. Уплíхні мне с пару кварт вады сюды.*

УПЛЮ'ТЪВЪЦЦА *незак.*, УПЛЮ'ТЪЦЦА *зак.* Учэпліваццa, упівацца. *Моль, халера, стала ўплютъвъцца ў адзежу і што робіць. Уплютъісься таг, дък і зьясі ўсё мяса зърас.*

УПО′ПЛІЧ *прысл.* Упаравень. *Як стаў упоплідж з бацькъм, дък ужо і ўраўні.*

УПУ′Т *м.* Спалох. *Гэтъі зёлкі нада ат упуду піць.*

УПЯ′КЪЦЦА *зак.* Улезці. *Я ўпякълъся ў той лён, дък і ні рада — адзін пъліжак.*

УПЯ′КЪЦЬ *зак.* Выдаткаваць, угаціць. *Ён як у ваду глядзеў, калі къзаў, што ўпякъю грошы і фігу пълучу, так і було.*

УРО′ІЦЦА *зак.* Прымроіцца. *Ім вот нешта ўроілъся ў гълаву і ўсё, што я скасіў тую пожыньку.*

УРЫ′НЪЦЦА *зак.* Уваліцца. *Глядзі ня ўрынься ў кънaзу дзе пъ пацёмкъх.*

УРЭ′ДА, УРЭ′ДЗІНА *м.* і *ж.* Шкоднік (шкодніца). *Во ўрэда, у сьвеці такіх ня відзіла. Ні прасі ты ў такой урэдзіны — ні дась.*

УСКО′РЪСЬЦІ *прысл.* Неўзабаве, скора. *Ускоръсьці посьлі мяне і матка пръшла.*

УСЛУГУВА′ЦЬ *зак.* Услужыць. *Спасіба, што ты мне ўслугуваў.*

УСПА′ЦЬ *зак.* Утрываць лежачы, паспаць. *Дзе ты ўсьпіш път такой лёгънькый коўдрый.*

УСТА′РКЪВЪЦЬ *незак.*, УСТО′РКНЪЦЬ *зак.* Устыкаць, абуваць наспех або на босую нагу. *Устаркъвый мае выйлакі. Усторкні боты якіі, так і бяжы, дзетка, пъд мъгазін.*

УСТУ′РЪВЪЦЬ *незак.*, УСТУРЫ′ЦЬ *зак.* Узбуджваць. *Я сваіх рана ўстуръвъю — у школу далёка хадзіць. Устуры дзеўку, хай паможыць, хваціць тухнъдзь дъ пуўдня.*

УСТЪІКА′, УСТО′ІЧКІ *прысл.* Стоячы. *Устъіка ўсё ўрэмя робіла. Устоічкі атстояў цэлый дзень і ні пръсеў даже.*

У́СХО′ЛЫ[Й] *прым.* Усходжы. *Фасоль усхолъя каб бъла, дъг бъ п абыйшла, а так і не.*

УСХЪМЯНУ′ЦЦА *зак.* Схамянуцца. *Усхъмянуўся, ды позна — ужо мае паехълі.*

УСЫ′ПКА *ж.* 1. Высыпка (зямля). *Усыпкі ў хату нъвязьлі.* 2. Сыпка (на целе). *Ты кажы, усыпка пъшла па целі.*

УСЬВЕ′ЖА *прысл.* Па некранутаму, па нечапанаму (рабіць што-н.). *Ні кънай усьвежа, можнъ ш тут ішчэ многа къпаць. Чаго ты лезіш у сьнех усьвежа ды ўсьвежа.*

УСЬПЯ'ЛІВЪЦЬ *незак.*, УСЬПЯ'ЛІЦЬ *зак.* Уссоўваць, уздзяваць. *Усьплівый ішчэ бурку наверх — ты ні нъвярху паедзіш. Усьпялюў у сягонішні дзень цёплъя пальто, ну што ты зь ім скажыш. Куды ты ўсьпяліла сьцякло, хочыш, кап пъръзьбівалъся?*

УСЯДНО' *прысл.* Усё роўна. *Усядно ён ня пойдзіць, ці ты яго заві, ці ты не.*

УТО'ПЪЦЬ *зак.* Уладзіць, управіцца. *Пакуль утопъіш усе дзялы, дъг гълъва пъсівеіць.*

УТО'ЎПІЦЦА *зак.* Умясціцца. *Ня ўтоўпюцца ўсе агуркі ў такой дзежъццы.*

УТО'ЎПІЦЬ *зак.* Умясціць. *Як ты ўтоўпюў стокі сена сюды?*

УХАДЗІ'ЦЦА, УХО'ДЪЦЦА *зак.* Стаміцца, знемагчыся, ходзячы, працуючы. *Ухадзілъся за дзень да сьмерці. Уходуўся за дзень, чуць лыткі цігаю.*

УХЛЁПЪВЪЦЦА *незак.*, УХЛЁПЪЦЦА *зак.* Умазвацца. *Ня ўхлёпъвыйся толькі ў грась. Дзе ты так ухлёпуўся, страг глядзець.*

УЦЭ'ЛА *прысл.* Цалікам. *Уцэла лезіць у сьнех, а па сьцешцы што — ісьці ня можна?*

УЦЮ'ПЪЦЬ *зак.* Убіць, умяшаць. *Куды ты гэну бульбу ўцюпуў?*

УШТУ'РЪВЪЦЬ *незак.*, УІШТУ'РНЪЦЪ *зак.* Укідаць. *Уштуръвый гэну бульбу ў склеп. Уштурні кажух у пуню на сена, ніхай ня мокніць нъ даждажы.*

УШУ'ШКЪВЪЦЦА *незак.*, УШУ'ШКЪЦЦА *зак.* *Ухутвацца. Куды ты так ушушкъвъісься? Ушушкълъся, кажух надзела, дък і цёпла.*

УШУ'ШКЪВЪЦЬ *незак.*, УШУ'ШКЪЦЬ *зак.* Ухутваць. *Ушушкъвый малога добра, калі нъ санъчкъх пъвязеш. Што ты яго таг зьбіраісься нъ санкъх весьці, ушушкый добра.*

ФЛЯ'НІЦ *м.* Флянс. *Быў такій фляніц слаўный, а тады ўзяў і ссох.*

ФО'РМІННА, ФО'РМЛІНА *прысл.* Якраз, нібы. *Карова формліна, як наша тая рыжъя бъла. Ты формліна дурная: табе адно кажы, а ты другоя кажыш. Ты формінна абізь'яна, вод бъ п робюў толькі тоя, што п ня ўвідзюў у другіх.*

ФУРА'ЦЬ *незак.*, ФУРАНУ'ЦЬ, ФУРНУ'ЦЬ, ФУ'РНЪЦЬ *зак.* Кідаць, шыбаць. *Куды ты каменьня фура-*

*іш?! Фурані палкый у курэй. Ён цъгліной сюды фўрнуў. Січас як фурнў камом.*

ХАДЗЁБЫ[Й] *прым.* Ходкі. *Гэтът тъвар ні хадзёбы сягоньня.*

ХАДУ'Н *м.*, ХАДЫ'КА, ХАДЫ'ЛА *м.* і *ж.*, ХАДУ'ХА *ж.* Хадок. *Гэткі ты хадун. Хадыка ты, усе пълъвікі мне скръпаў. Го, іна тъкая хадыла — як шагнедзь, дък мушчыну абгоніць. Хадуха тъкая пакуль зайдзіць туды, дък і атвечъръг будзіць.*

ХА'КЪЦЬ *незак.* Цяжка дыхаць. *Дзе старой зайсьці туды, вун як іна хакъіць.*

ХАЛЕ'РЪЯ *ж.* Халера. *Халеръя цябе ні бярэдзь, жъвеж добра.*

ХАМЫ'ЛІЦЬ *незак.* Ісці ківаючыся, прысядаючы то на адну, то на другую нагу. *І ты туды хамыліш?*

ХАТО'МКА *ж.* Клунак. *І дзет с хатомкый пашоў да ўнукуў.*

ХАТУ'ЛЬ *м.* Вялікі клунак. *Пръшла зь Дзісны, хътулямі апчъпаўшъсі.*

ХВАСЬЦЕ'ЛЬ *м.* Хвалько. *Хвасьцель ужо такі — ужо ў яго дък сьвіньні лепшъі за ўсіх.*

ХЛІ'ПЪЦЬ *незак.* 1. Цяжка дыхаць, хапаць паветра. *Стъраяя ня дыхъіць, а хліпъідзь, дзе ей туды зайсьці.* 2. Плакаць, хныкаць. *Чаго ш хліпъіш, нечъга мне сваіх слёс пъказъвъць.* 3. Мігаць. *Нешта сьвет хліпъць стаў, ходзь ба ні затух сусём.*

ХЛІХАТУ'Н *м.* Рагатун. *Во ўжо дзе хліхатун якій.*

ХЛІХЪТА'ЦЬ *незак.* 1. Булькаць (пра кіпень). *Въда хляхочыць, можна мъкарон зъсъпаць.* 2. Залівіста смяяцца. *Чаго ты хляхочыж біс пръчыны?*

ХЛЯ'ПЪЦЦА *незак.* Стукацца. *Чаго ты хляпъісься, зъхадзі.*

ХЛЯ'ПЪЦЬ *незак.* Стукаць. *Ні хляпый таг дзьвярмі, нъдаела ўжо хляпъньня тваё.*

ХМЫ'ЗЬНІК *м.* 1. Хмызняк. *Я ў хмызьніку і то дроў такіх-сякіх насек.* 2. *зборн.* Галінкі хмызняку. *Хмызьнікъм пліту таплю.*

ХО'ТКА *ж.* Хаджэнне, хада. *Зъмътала наз гэта хотка днямі дъ крайнъсьці.*

ХУХ ТЫ *выкл.* Выгук, якім выражаюць вялікую стому. *Хух ты, яг зъмарылъся.*

ХУ'ХЦЯ МНЕ *выкл.* Тое, што і *хух ты.* *Ой, хухця мне! Нох ні магу цягнуць.*

ХЪДУРО'М, ХЪДУРА', ХО'ДЪРЪМ, ХЪДУНО'М, ХЪНЯНЁМ *прысл.* Хутка, у стане ўзрушанасці (бегаць, хадзіць, мігцець). *Эх, хъдуром зъхадзіў, занодуў! Чаго хъдура ходзіш, асьціпяніся, кажу. Вецір ходърьм гуляіць пъ хаці. Выжла гэта хъдуном ходзіць пъ сяле. Чаго ты носісься хънянём па полі?!*

ХЪДЪЛА' *прысл.* Ходу, наўцёкі. *Ръбяты — хъдъла ат мяне, толькі й відзюў.*

ХЪЛАДЗІ'НА *ж.* Халадэча. *Нъ дварэ нівънасімъя хъладзіна.*

ХЪЛЪДА'ЦЦА *незак.* Прахалоджвацца, асвяжацца. *Пайдзём хълъдацца на двор, туд душна нівънасіма.*

ХЪЛЪДА'ЦЬ *незак.* Ахалоджваць. *Ні хълъдай нох, тут сідзя.*

ХЪМЛА'К *м.* Тое, што і *ахамо́лък. Вата скацілъся ў коўдры хъмлъкамі.*

ХЭНЬЦЬ *ж.* Ахвота. *Німа ні хэньці, ні стъраньня ў гэтъга чълавека.*

ЦА'ХНА *ж. груб.* Здаровая, мажная жанчына. *Ні насіся, як цахна, узат-упярот.*

ЦЕ'ПЛІЦЦА *незак.* Паліцца (у печы, лазні). *Печ там цепліцца, а я туд з вамі зъдудукълъся.*

ЦЕ'ПЛІЦЬ *незак.* Паліць (у печы, у лазні). *Буду баню цепліць.*

ЦЕ'СІН. Кароткая форма прым. *це́сны. Цесін касьціом табе гэтът ужо.*

ЦЁЛНЫ[Й] *прым.* Цельны. *Мой пацьцёлък цёлный, ужо знатъг добра.*

ЦО'ГЪЦЦА *незак.* Шмальцавацца. *Чахол быстра цогъіцца.*

ЦО'ГЪЦЬ *незак.* Шмальцаваць. *Ня цогъйці вы жырнъмі рукамі гэту сарвэтку.*

ЦУБЭ'СІЦЬ *незак.* 1 Біць, лупцаваць. *Нада брацца цубэсіць цябе, жулік.* 2. Ліць, ісці (пра дождж). *Дош цубэсіць, што сьвету за ім ні відаць.*

ЦЫ'МУС *м.* Спечаныя і працёртыя з цукрам яблыкі. *Нъпікла яблъкуў, січас цымусу зраблю.*

ЦЫ'РКЪЦЦА *незак.* Рабіць што-н. вельмі марудна. *Досыць табе цыркъцца там.*

ЦЫ'ЎКЪЦЬ *незак.*, ЦЫ'ЎКНЪЦЬ *зак.* Лоўка цапаць; красці. *Ні тваё, дък і ня цыўкый. Ужо цыўкнуў цукеркі і скора ж даглядзюў.*

ЦЫ'ЦЪЛІ *мн.* Атрэп'е. *Сядзіць, есьць і цыцълі ў міску вісяць.*

ЦЬВІРДЗІНЯ' *ж.* Цвёрдасць. *Тъкая цьвірдзіня, лъпатый ні ўкъпаць.*

ЦЮ'КЪЦЬ *незак.*, ЦЮ'КНЪЦЬ *зак.* Сячы. *Цюкъдзь дровы нада пумаленьку. Цюкні пъ хвъръсьціне, пъгля-дзі, ці добра я гапор найстрыў.*

ЦЮЦЮ'РЪЦЦА *незак.* Курчыцца. *Ні цюцюрся нъ ганку, калі халодна, ідзі ў хату.*

ЦЯЛЁЗНЫ *мн.* Агрэхі. *Тваё араньня — адны цялёзны.*

ЦЯЛО'Х-ЦЯЛО'Х-ЦЯЛО'Х, ЦЯЛУ'Х-ЦЯЛУ'Х-ЦЯЛУ'Х *выкл.* Словы, якімі падзываюць цялят.

ЧО'ХЪЦЬ I *незак.*, ЧО'ХНЪЦЬ *зак.* Чхаць. *Налётуўся, а цяпер чохъіш. Во нанюхуўся, аш чохнуў.*

ЧО'ХЪЦЬ II *незак.*, ЧО'ХНЪЦЬ *зак.* Ліць. *Нашто ты вады стокі чохъіш на печку — троху ўзьліў і хваціць. Здаецца п, чохнуў такой дурнёсі зь вядро вады на вочы.*

ЧЪБУРЭ'ХНЪЦЬ *зак.* Лінуць. *Чъбурэхнуў тры крушкі вады сюды.*

ЧЪСЬЦЯ'К *м.* Чыстае, бесхмызняковае, бязлеснае месца. *Як нъ чъсьцяк каровы выйдуць, тады будзіш лічыць, а што ты іх тут паміш кустоў лічыш.*

ЧЭ'РНЯ *ж.* Адзенне чорнага колеру. *Я ні ўзнала, хто гэна ў чэрні сядзеў нъ кані.*

ЧЭ'РЪНЬ *ж.* Чарвяточына. *Пъглядзі, ікая чэрънь нъ шкапе, пръпадзець шкап ат чървякоў.*

ШАЛУ'ПКА, ШАРЛУ'ПКА, ШКАРЛУ'ПКА, ШАЛУ'ШКА *ж.* Шалупіна; шалупайка. *Шалупкі буду паръць карові. Як ты скобліш таг бульбу, што гэткіі таўстыі шарлупкі ў цябе йдуць. Шкарлупкі ат яік курам пасып, хай жъруюць. Яйкі паелі, адны шалушкі ў ямцы ліжаць.*

ШАПО'РТЪЦЦА, ШАПО'РТЪЦЬ *незак.* Скрэбціся. *Мышы зъ бумагый шапортъюцца. Хто там у кладоўцы шапортъіць?*

ША'РНЪЦЬ *зак.* Ударыць рагамі. *Гэта рыжъя карова як шарнъла маю цялушку, дък я думъла, што й бок прапорыць,— што ш, рогі, як шылы.*

ШАРЭ'ЦЦА *незак. безас.* Світаць, шарэць. *Ужо шарэіцца, устъвайці.*

ШАШЧЭ'ЦЬ *незак.* Шапацець. *Фасоль высъхла, аш шашчыць.*

ШВА′РНЪЦЬ *зак.* Шпурнуць. *Січас як шварну цацкі, дък наръзна ръзьліцяцца.*

ШВУРА′ЦЦА *незак.* Кідацца. *Ні швурайся къмкамі.*

ШВУРА′ЦЬ *незак.*, ШВУРАНУ′ЦЬ, ШВУ′РНЪЦЬ, ШВУРНУ′ЦЬ *зак.* Шпурляць. *Швурай мяшкі з машыны. Дзяцька са злосьці швурануў маю шапку з лавы ў къчарэжнік. Швурні ў віраб′ёў чым-небуць, ужо нъ ячмені вісяць.*

ШКАРНІ′ *мн.* Зношаны скураны абутак. *Абувай свае шкарні даіць.*

ШКО′ЛІЦЬ *незак.* Крыўдзіць; караць, біць за якую-н. правіннасць. *Ня школь ты мальца дужа, ён жъ ні вінъватый.*

ШУ′МА *ж.* Смецце. *Вынісь ходзь, дзеўка, с къчарэжніка шуму на двор.*

ШУМЕ′ТНІК *м.* Сметнік. *Можа, куды ў шуметнік вымюў, а ты тутъка ішчыш.*

ШУ′ШКЪЦЦА *незак.* Хутацца. *Куды так шушкъцца табе: нъ дварэ ш цёпла.*

ШУ′ШКЪЦЬ *незак.* Хутаць. *Ня шушкый ты рабёнка так, вун ікая душнута нъ дварэ.*

ШЧАЛЫ′КЪЦЬ *незак.* Шчыпаць; разрываць. *Ні шчалыкый ты гэта мяса. Гусі шчалыкъюць і шчалыкъюць атаўку.*

ШЧАМЕ′ЛЬ *м.* Чмель. *Што, цябе шчамель укусіў?*

ШЪЛТА′ЦЦА *незак.* 1.Ківацца. *Къса шълтаіцца, як ей гэта касіць.* 2. Бадзяцца, хадзіць без занятку. *Шълтаіцца старый балмъччу лі хаты сягоньня.*

ШЪЛУШЫ′НЬНЯ *н. зборн.* Шалупінне; смецце. *Пъзьмітай, баба, з лавы гэна шълушыньня, хай чълавек садзіцца.*

ШЪРША′К *м.* Снежная скарынка пасля адлігі. *Пъ шъpшаку пъхадзіў і галошы глатка парэзуў.*

ЮРГІ′НЯ *ж.* Вяргіня. *Жоўтый юргіні пъсадзіла.*

ЯДЛЕ′НІЦ *м.* Ядловец. *Ядленцъм кілбасы копцім.*

ЯЛУ′ШКА *ж.* Ялінка. *Нашто ш ты ялушку такую сьсек?*

ЯЧМЕ′НІШЧА *н.* Ячнішча. *Вазьмі къня ды абары гэна ячменішча.*

ЯЧМЕ′НКА *ж.* Ячменная салома. *Вядомъ ш, і ячменка як с травой, дък каровы будуць есьці.*

*В. П. Лемцюгова*

# ДЫЯЛЕКТЫЗМЫ ВЁСАК ДУЖАЎКА І ЗАГОРАНКА ЧАВУСКАГА РАЁНА

АБЫ'ЙМЫ *мн.* Абнімкі. *Абы выпіў, дык і ў абыймы. Старэй лезіць цылывацца, глядзець гітка.*

АГАЛЦЕ'ЛЫ *прым.* Ашалелы. *Як агалцелы носіцца пы хаці.*

АЗЫ'ЗНУЦЬ *зак.* Азябнуць. *Азыз на холыдзі чылавек.*

АПАСТЫ'ЛІЦЬ *зак.* Абрыдаць, апрыкраць. *Апастыліла мне етыму пану служыць, я й кажу сыну: «Пойдзім, сынок, у сьвет як у капейку».*

АШМЁТЫК *м.* Атопак. *Ашмёткі нада выкінуць, кап ні зыміналі.*

БЫЛАЧЫ'НКА *ж.* Воблачка. *Неба чыстыя, толькі ыдна былачынка ныйшла і стаіць — ні зь места.*

БЯЛЁСЫ *прым.* Мутна-белы. *Бялёсыя хмары. У таты пыт старысьць вочы сталі бялёсыя.*

БЯСЕ'ДЫВАЦЬ *незак.* Мірна, спакойна размаўляць. *Сідзяць зы сталом сваты выпівайуць, бяседыюць.*

ВЕ'ЦЬЦЯ *зборн.* Галлё. *Бярёза вецьця зьвесіла.*

ГА'НКІ *мн.* Ганак. *Зьдзелый ты ганкі, а то ны парох ня ўзьлезьць.*

ГРУДЗІ'ЦЦА *незак.* Нагрувашчвацца, насоўвацца адно на другое. *Крыгі грудзяцца ыдна ны адну.*

ГРУ'ДЫМ *прысл.* Гуртам.

ГУДЗЁШНІЦА *ж.* Прамая кішка.

ГЫЛЫТВА' *ж. зборн.* Галота.

ДАЎМІ'ЦЦА *зак.* Дадумацца. *Мылая, а даўмілася ж зычыніць печ. Я тут даўмілыся, што ета воўк залес у пуню.*

ДРЫН *м.* Прут; палка. *Вазьмі дрын ды пыцягні па сьпіных, дык атстануць.*

ЁМКА *прысл.* Хутка, лёгка. *І ў Чавусы і ш Чавус сяння звярнуўся Грішка. Ёмка ходзіць.*

ЖУ'ЖМА *ж.* Вялікая колькасць дробных істот. *Цэлыя жужма кымароў.*

ЗА'РЫЦЦА *незак.* Галіцца, кваліцца. *Завідушчыя вока зарыцца на ўсё.*

ЗЫМА'НКА *ж.* Прынада.

ЗЫ'РКІЙ *прым.* Пільны, праніклівы. *Зыркія вочы ўсё ўбачуць.*

ЗЫ'РЫЦЦА *незак. неадабр.* Пільна ўглядацца. *Што ты ны мяне зырышся?*

ЗЫ'РЫЦЬ *незак. неадабр.* Шнарыць вачамі (па чым). *Раскраснеўся, зырыць пы хаці.*

ЗЫХЛІСНУ'ЦЦА *зак.* Захліпнуцца, захлынуцца. *Конь так атчайна піў ваду, што чуць ні захліснуўся.*

ЗЬМІ'РНЫЙ *прым.* Спакойны. *Зьмірныя хлопцы растуць у Каці. Ну і конік быў — быстрый, зьмірный.*

ЗЬНІБЕ'ЦЬ *незак.* Ныць. *Ні дзіцёнык, а горя — зьнібіць і зьнібіць, ніяк ні ўладзіць яму.*

ЗЮЗЮ'КЫЦЬ *незак.* Весці лагодную размову. *Старэя сідзяць у запічку, зюзюкуюць.*

ЗЯЛЕ'ПУХ *м.*, часцей ЗЯЛЕ'ПУХІ *мн.* Няспелы плод. *Думыла, што ўжо чарніцы паспелі, а пыглядзела, дык шчэ саўсім зялепухі. Ня еш зялепухуў — жывот будзя балець.*

КАЛАТНЕ'ЧА *ж.* Бойка, сварка, сямейныя непаладкі.

КАРЫ'ЦІНА *ж.* Нізіна, лагчына. *Выкысіў добрую карыціну.*

КАТО'К *м.* Кола. *Толькі ўехылі ў сярэдзіну лужы, каток — борьсь! — і зваліўся. Во ліха!*

КАЎЗЕ'ЛЬ *м.* Каток. *Хлопцы зы канькі і ны каўзель.*

КЛОК *м.* Жмут сена, валосоў. *Во дык пычысалыся дзеўка, пы ўсёй хаці клакі выласоў выляюцца. Падкінь каню пару клакоў сена.*

КО'ТЫМ *прысл.* Покатам. *Мы тады котым, котым ды ў жыта.*

КУ'МІЛЬГЫМ *прысл.* Стрымгалоў, імкліва, без агляд кі. *Немцы кумільгым выскычылі с хаты, як іх ветрым здула.*

КУРДУЕ'ЧЫЦЬ *незак.* Незразумела гаварыць (пра дзяцей). *Нешта ж ужо маленькій курдуеча.*

КУСТО'ЎЯ *н. зборн.* Хмызняк. *Ны лугу кустоўя цярэбюць. Няможна з-за яго касіць.*

КЫЛІ'П *часц.* Каб. *Кыліп цябе ваўкі зыдушылі.*

КЫЛТУЯ′ *ж.* Пабітыя жывёлай пасевы. *Зьбілі коні авёс, ыдна кылтуя.*

ЛАЙНІ′НА *ж.* Адзежына. *Брат паткінуў пару лайнін длі дзяцей.*

МАХІ′НА *ж.* Што-н. вялікае, высокае. *Стаіць хата махіна, махінай.*

МО′РЫСЬ *ж.* Дробны дождж, імгла. *Морысь нейкыя ідзець цэлы дзень.*

НАЛЕ′ЦЬЦЯ *н.* Наступны год. *К налецьцю кінім пару авечык і хваця з нас.*

НЕ′МЫЧ *ж.* Хвароба, бяссілле, ліха. *Немыч ныпала ны чылавека, ня есьць ня п'ець.*

НЫКУЛУПА′ЦЬ *зак.* Назбіраць чаго-н. дробнага або таго, што маецца ў невялікай колькасці. *Ягыды сёліта дрыбіза, як слёзы. А Вольга штодня пойдзя й ныкулупайа трохі. Малюсенькіх бырвічкоў ныкулупаў.*

НЫ′КЫЦЬ *незак.* Заглядываць ва ўсе куткі, шукаючы каго- або чаго-н. *Сыбак пыспускаюць, дык яны ныкыюць пы двырах.*

НЫХЛАБУ′ЧЫЦЬ *зак.* Надзець як папала. *Што ты ныхлабучыў ета старьё?*

НЫШЫБУНЯ′ЦЬ *зак.* Хутка што-н. зрабіць. *За мінутычку нышубуняў дроў цэлы воз.*

ПА′ВЫДКІ *мн.* Вясновая паводка. *Сёліта былі бальшэя павыдкі. Увесь лух зытапілі.*

ПАДУ′ЗА *ж.* Рамні, якімі замацоўваецца падсядзёлак.

ПАКО′С *м.* Пракос. *У нас ны пыласе ўсяго трі пакосы.*

ПА′НІЎКА *ж.* Палонка. *У паніўцы бабы зімой бяльлё палошчуць.*

ПАСЬЦІ′ ШТО *часц.* Амаль што, чуць не. *Пасьці што дыпалолі калхозны лён.*

ПА′ХЫНЬ *ж.* Ворыва. *Нада сьцешку прытаріць, пы пахыні кружка хадзіць далёка.*

ПА′ХЫЦЬ *ж.* Тое, што і *пахынь.*

ПІРЯГО′ННЫЙ *прым.* З перапынкамі. *Увесь дзень пірягонный дождж ідзець.*

ПІРЯКСЬЦІ′ЦЦА *зак.* Перахрысціцца. *Ён у бога ня веріць, піряксьціцца ня ўмея.*

ПО′ЖНЯ *ж.* Загон, дзялянка збажыны, разлічаная на адну жняю. *Зыніла сабе пожню ячменю. Сажну ды к дацца паеду.*

ПО'ШЛЫЙ *прым. рэдк.* Нягодны. *Пошлыя яны людзі, етыя Сідарёнкі.*

ПРАГАМЗІ'ЦЬ *зак.* Сказаць незразумела праз нос. *Мыкар, сколькі жыў на сьвеці, «здраствуй» людзім ні скызаў. Нешта прыгамзіць сабе пад нос і пашоў.*

ПРІСЛАНІ'ЦЦА *зак.* Прыхіліцца да чаго-н. *Бідняшка прісланіўся к дзьвірям і стаіць ціхінька.*

ПРІ'ТЫЛКА *ж.* Вертыкальная дэталь аконнай каробкі. *Ня тріся ап прітылку — сарочку вымыжыш.*

ПРІСТО'ІЦЬ *зак.* Прыпыніцца на кароткі час, трошкі пастаяць. *Пышла зы вадой і прістоіла з бабымі.*

ПЫДАПЛЁКА *ж.* Подбіўка, падкладка. *Пыдаплёка ў юпцы тырвалася.*

ПЫЗА'РЫЦЦА *зак.* Пагаліцца, пакваліцца. *Пызаріўся ны сіроцкыя дабро.*

ПЫЛА' *ж.* Крысо. *Узіла ў палу дзіцёнка.*

ПЫХА'ЦЬ *незак.* Араць. *Нада ўжо пычынаць пыхаць, а то вот-вот зімля высыхніць.*

ПЫХЛАПНІ' *мн.* Від лапцей з аборак.

ПЫХЦЕ'ЦЬ *незак.* Дыміць цыгаркай.

ПЫХЫДЖА'ЛЫ *прым.* Рэдкі (пра збожжавыя пасевы). *Жыта сёліта пыхыджалыя, лёхка жаць будзя.*

РО'ІЛА *н.* Беспарадак. *Сідзяць дзьве нявесты, а ў хаці ныстыяшчыя роіла.*

РЫШШЫБУНЯ'ЦЬ *зак.* Раскідаць. *Рышшыбуняў усю пасьцелю.*

СКУЁЎДЗІЦЬ *зак.* Моцна памяць. *Ета ж нада так скуёўдзіць адзежу.*

СТРУ'ШЫНКА *ж.* Трасянка. *Салому сь сеным умесьці струсіюць — вот і струшынка завецца.*

СУЛІ'ЦЬ *незак.* Прапаноўваць; даваць. *Ні сулі бох, як ёй было трудна.*

СУ'ПРІТКІ *мн. рэдк.* Вячоркі. *Раней зьбяруцца дзіўчаты на супріткі, пяюць і прядуць усю ноч.*

СУПУРА'Т *м.* Вельмі ўпарты чалавек; грубіян. *Супурата етыга ні піряспоріш.*

СЧО'МСЫЦЬ *зак. зняваж.* Моцна памяць. *Зьёрзыла, счомсыла крываць.*

ТЫРГЕ'НЬ *выкл.* Шморг. *Знячэўку тыргень мяне зы палу.*

УПІ'РА *м.* і *ж.* Капрыза.

УСПЫЛАШЫ'ЦЬ *зак.* Узбударажыць, перапалохаць. *Тхорь залес ны курусодня, успылашыў усіх курей.*

ХА'ЛІПА *ж.* Мяцеліца з мокрым снегам.

ХЛЯ'БА *ж.* Снежная завіруха. *Пайшоў жа дурань ў такую хлябу.*

ХЛЯ'БЫ *мн.* Упалыя бакі ў каровы. *Карова выхудыла зы зіму, німа на што глядзець — адны хлябы.*

ХРАПУСЬЦЕ'ЦЬ *незак.* Есці што-н. сухое.

ХУДУШЧА'ВЫ *прым.* Хударлявы. *Худушчавы Пецька з Арміі прішоў.*

ХЫЛАМІ'ДА *ж.* Балахон. *Надзеў нейкую хыламіду і пайшоў пы двырах.*

ЦЕ'МІНЬ *ж.* Цемра. *Тыкая цемінь ны дваре стаіць, хоць вока выкыль.*

ЦЫ'БЫ *мн.* Доўгія ногі. *Юпку кароткую надзела, выстывіла сваг цыбы.*

ЧАРЭ'ПЫЦЬ *незак.* Чэрпаць. *С калодзіжа няёмка чарэпыць ваду.*

ШКЫНДЫБА'ІЦЬ *незак.* Ісці кульгаючы. *Думую, хто ета там шкындыбайа, аж ета Цімох.*

ШЛЫ'НДЫЦЬ *незак. неадабр.* Валачыцца, цягацца. *Дзянёчык шлындыіць пы двырах як ніпрікаінный.*

ШПО'КНУЦЬ *зак.* 1. Ударыць чым-н. з адлегласці (часцей з рагаткі). *Шпокнуў з рыгаткі віраб'ю пряма ў вока.* 2. Застрэліць. *Пывялі ў лес і абаіх там і шпокнулі.*

ШУБУНЯ'ЦЬ *незак.* Шумна раскідваць што-н. *Кыбан нейкі ніспакойны стаў, як нешта яго точыць,— рыіць, шубуняя зямлю.*

ШЧАПО'ТКА *ж.* Невялікая «шчэпаць». *Сыпні шчапотку солі ў варыва.*

ШЧУБО'ЎКНУЦЬ *зак.* Упасці ў ваду. *Шчука выскыльзнула з рук і шчубоўкнула ў ваду. Камінь шчубоўкнуў у ваду.*

ШЧЫ'ТНА *прысл.* Шчыльна. *Плахей масьцір, нящчытна дошкі ў бані пылажыў.*

ШЧЭ'ПЫЦЬ *м.* Колькасць сыпучага рэчыва, якую можна ўзяць у тры сціснутыя пальцы. *Нада купіць мукі — ні шчэпця німа. Шчэпыць солі.*

ШЫПАРНУ'ЦЬ *зак.* Сказаць каму-н. шэптам, каб не пачулі іншыя. *Дзядзька нешта шыпарнуў таму на вуха, тады ён задым, задым ды ўдвору.*

ЯРЬ *ж.* Ярына.

*Н. М. Лявончык*

## ЖМЕНЬКА МАТЧЫНЫХ СЛОЎ

Лексіка запісана ў вёсцы Заазер'е Вілейскага раёна.

АБДЗІРА'НТУС *м.* 1. Грабежнік. *Вот жа абдзірантус! Чуць ня дзьве сотні за цялё худоя.* 2. Абадранец. *Ці ш век хадзіць абдзірантусам? Ёсь ш чаго, дык купляй.*

АБІТЫ'ЛЯЦ *м.* Разбойнік. *Усе людзі жаліліся на гэтых абітыльцаў. Каменьнямі закідалі, ні давалі прайсьці вуліцай.*

АБЛАТАШЫ'ЦЬ *зак.* Абабраць. *Хоць і паставілі стоража, усі роўна на масавых аблаташылі хлопцы яблыкі.*

АБУ'Х *м.* У выразе: *абўх бізь лязá* — дурань. *Эх ты, абух бізь ляза! Трэба ш ведаць, што да чаго.*

АДВЯЧА'ЦЬ *незак.*, АДВЕ'ЦІЦЬ *зак.* 1. Адказваць на пытанні, просьбы. *У ваенкамаця мне адвецілі ня тоя, чаго я дабівайся.* 2. Несці адказнасць. *Забіў двух чалавек, а цяпер адвячаць будзя.*

АЗЯ'ЦЬ *зак.* Узяць. *Як азяла ў нас Хвядора вілкі, дык і прапалі.*

АНДУЛЯ'ЦЫЯ *ж.* Прычоска з накручанымі валасамі.

АПУШЧО'НІК *м.* Неахайны, нядбалы мужчына. *І ня думала я, што ты такі апушчонік, лянуісься сам за сабой прыняць снапы. Ну і апушчонік! Да такой пары яшчо ні купіў хлеба.*

АПУШЧО'НІЦА *ж.* Неахайная, нядбалая жанчына.

АПУШЧО'НЫ *прым.* Неахайны, нядбалы. *Хай бох бароня, якая апушчоная наша дзяўчына, за сабой ня можа добра ўсё зрабіць. Страх, які наш сусет апушчоны: цэлую восінь мокня дрэва на хату.*

АСВА' *ж.* Аса. *Летась асва ўкусіла ўнучыка ля самага вочка.*

АТПРАСІ'ЦЦА *зак.* Папрасіўшы ў каго-н. прабачэння, зняць з сябе віну. *Пётра ў Юліся ні атпросіцца, бо робя такоя дзела ня першы рас. Цяшка атпрасіцца ў Федзі: натта многа коні дабра папсавалі.*

АТЫ'МАЛКА, АТЫМА'ХА *ж.* Ануча, якой вымаюць гарачыя гаршкі з печы. *Атымалак тых у мяне, як сабак, а папробуй найдзі, кап аццадзіць бульбу.*

АХАЛАДА'ЦЬ *зак.* Астыць, зрабіцца халодным. *Малако ўжо ахаладала, ціцепярся стаіць у сянёх.*

АЦЯМНЕ'ЦЬ *зак.* Прабыць дзе-н. да наступлення цемнаты. *Цяпер насьпела бульбу выбіраць. Як пойдзім раніцай, дык і ацямнеім. Як стану жаць, тады снапы насіць, дык і ацямнею.*

АШЧО'ДНЫ *прым.* Ашчадны. *Яна ў нас ашчодная: лішняга нідзе ня пусьця.*

БА'НКА *ж.* Тое, што і *бляшанка.*

БАТРАСАВА'НКА *ж.* Калатня. *Кажды дзень у суседа батрасаванка. Кажа, што зарабляюць дзеці.*

БЛЯША'НКА *ж.* Адстойнік для малака. *Давайця па жэрабю пагадаім, каму бляшанку апусьціць у ваду.*

БРА'МКА *ж.* Веснічкі. *Я ш помню, як ні было ў нас брамкі, дык, малыя, мы ні маглі аччыніць гэтыя вароты.*

БРЫ'ЗЫ *мн.* Рванае адзенне. *Німа чаго брызы насіць. Маіш капейчыну, дык і купі сабе што люцкая.*

БЭ'ЙЛЯ *ж.* Тое, што і *апушчоніца. Настаяшчая бэйля: ні пра што ні дбая, разрабілася як удоўшкі, так і ўшыркі. У хату ні зайсьці да гэтай бэйлі: як сто гадоў ні мяла, як у балоця.*

ВА'ДЗІЦЦА *незак.* Сварыцца. *Як што ні ладзіцца, дык ён лезя вадзіцца.*

ВА'ЖГАЦЦА *незак.* Вагацца, не асмельваючыся зрабіць што-н. *Доўга важгалася, пакуль усю праўду ў вочы сыпанула.*

ВАЖДЖО'ЛІЦЬ *незак.*, НАВАЖДЖО'ЛІЦЬ *зак. асудж.* Мазаць што-н. больш, чым трэба. *Купя нейкую мазуту і так наважджоля вочы, што страх глянуць. Нашто ты так важджоліш блін, знаю, што есьці ня будзіш.*

ВАРАЦА'КІ *мн.* Ваніты.

ВАРАЦА'ЦЬ *незак.* Ванітаваць.

ВА'ТНІКІ *мн.* Тое, што і *ватовікі.*

ВАТОВІКІ *мн.* Ватовыя штаны. *Цяперака і ватовікі ня трэба натта, бо зімы німашчыка.*

ВАШАВА'ЦЬ *незак*. Вельмі цяжка і многа працаваць. *Ты ш глядзі ні вашуй там натта, бо будзіш пуп надрываць.*

ВІДУЧЫ *прысл*. Хутка, на вачах. *Расьцець у Мішы зруп відучы.*

ВІ'СУС *м. неадабр*. Дзіця, падлетак, які любіць высока лазіць. *Мой жа сын такі вісус, што спасеньня німа. Гляджу рас, а ўнучык сядзіць на самым вяршэчку яблыны. Вот жа вісус!*

ВО'ЧАРАЦЬ *ж*. Чарга. *У лаўца нашай вечарам усягды вочарацъ за хлебам: усе з работы ідуць.*

ВЫ'МУЦІЦЬ *зак. экспр*. З'есці. *За дзень мушчыны на балоця згаладаюцца, дык дома вымуцяць усё, што ні дай.*

ВЫ'ЦЫГАЦЬ *зак*. Паправіцца, стаць на ногі. *Выцыгаць ні магла посьля Вялейкі. А казалі ш адзявацца цяплей.*

ВЭ'ДЛУХ *прыназ*. У параўнанні. *Вэдлух Мішавай цялушкі мая куды гаднейшая.*

ВЯСНА' ВО'ЧЫ КРАДЗЕ'. Пра вясенняе сонца, якое слепіць вочы.

ГІЛЯВА'ЦЬ *незак*. Гізаваць.

ГЛЫ'ТАЎКА *ж. зневаж*. Горла. *Сам сь сініцу, а глытаўка з рукавіцу.*

ГЛЮ'ГА *ж*. Вялікі нос (у чалавека). *А гэты Галяц усягды усуня сваю глюгу куды ня трэба.*

ГРА'ГАЦЬ *незак. неадабр*. Звягаць. *На нарадзя сядзіцкія грагалі, што брыгадзір многа корму доў даяркам.*

ГРЭ'ЧЧЫНА *ж*. Грэчка. *Як зацвыце грэччына ля хутарой, дык поля што малаком аблітая.*

ДАЧЭ'СНЫ *прым*. Часовы. *Гляджу я на яго выхілкі і думаю, што дачэсны ён у цябе.*

ДЖУПЛЯВА'ЦЬ *незак*. Рваць. *На папары сьвірэпкі да заламаньня: джуплюй, хоць расьпіражыся.*

ДЗЁРНУЦЬ *зак*. Выпіць спіртнога. *Дзёрнім с табой па анной і разойдзімся.*

ДЗЯ'ЛКА *ж*. Дзялянка. *Брыгадзір ужо доўна падзяліў кукурузу на дзялкі. Пры Польшчы я меў тую дзялку леса, што паміж Трахімавым хутарам і пасаткай.*

ДОСЬ ТАГО' *злучн*. Так што. *Дось таго я сагласіўся стаць брыгадзірам на месяц.*

ДРАЧ *м.* і *ж. зневаж.* Задзірлівы чалавек. *Абінна мне, што бацька заве драчом. Ну за што ш?*

ДРО'МНЫ *прым.* Дробны. *Сёліта бульба ў нас, як журавіны, дромная. Ня буду я гэтыя дромныя чарніцы зьбірацъ.*

ЖАЛУБА'ЦЬ *незак.* Многа піць *Ні жалубай ты столька сывараткі. Апражэсься.*

ЖМУТ *м.* і *ж.* Скнара. *Такога жмута, як Марына, німа на ўсім сьвеця. Што за жмут Пеця, я проста ні знаю, даець, а рука трасецца.*

ЗАЛАМА'НЬНЯ *н.* У выразе: *да заламáньня* — вельмі многа. *Або, дочка, ты прыецъ у Лазайцы, і я табе набаю старыны да заламаньня.*

ЗАПЕ'КА *м.* і *ж.* Скупы чалавек. *Запека — такі чалавек, які сам сабе ні дась удавольства ў жызьні і другіх тармазіць.*

ЗДУБЭ'ЧЫЦЦА *зак.* Заўпарціцца. *Бывая, як здубэчыцца бацька, дык і слухаць ня хоча, што я кажу.*

ЗРЭ'ПІЦЬ *зак.* Схапіць. *Купіла летась у Самалях хустку, дык Аня зрэпіла.*

ЗЬВЯЗА'ЦЬ *зак.* У выразе: *духі зьвязáць* — трохі паесці. *Хоць бы што было ў хаця духі зьвязаць, а то калі той вячэры дажджэсься.*

ЗЬНІСТАЖА'ЦЬ *незак.*, ЗЬНІСТО'ЖЫЦЬ *зак.* Знішчаць. *Я і сам ня ведаю, чым зьністажаць гэтых жукоў. Дачушка, зьністош ты гэтыя пісьмы.*

КАМІНА'РНІК *м. зневаж.* і *зніж.* Мужчына, які сам даглядае сябе і кухарыць. *Рас жонку да печы ні дапуская, то камінарнік. Сьмешна глядзець: жонка сядзіць рукі злажыўшы, а гэты камінарнік у печы гаршкі перастаўляя.*

КАСЬНІ'К *м.* Невялічкая палічка для кніг, прыбітая ў куце. *Усягды на касьніку ляжалі кнігі ўнуччыны.*

КО'КНУЦЬ *зак.* Тое, што і *нэбнуць. Як кокну, дык і капцы табе.*

КРЫЖАВЫЯ *мн.* Скрыжаванне дарог. *Іду дайней у цэркайку, а ў крыжавых мяне паджыдая Трыпаніха.*

КУПІ'ЛА *н.* Грошы, сродкі, за якія можна купіць што-н. *Што ты ўсё просіш: купі ды купі. А дзе тоя купіла брацъ?*

МАДЫРАВА'ЦЦА *незак.* Дурэць. *Мы ш ба скора дамоў прышлі, кап ні мадыраваліся па дарозя.*

МАЛІМО′НКА *ж.* Пястуха. *У іх Соня — малімонка, нічога па дому ня робя. Сядзіць і загарая.*

МАРЫКА′НКА *ж.* Амерыканка (ранні сорт бульбы). *Пайду ўкапаю марыканкі на вячэру.*

МА′САВЫЯ *мн.* Летняе свята працы саўгаснікаў. *На масавых усягды дзірэктар дае падаркі лепшым рабочым. На масавыя прыяжджая маладзёш адусюль.*

МАСЬКІРА′НТ *м.* Той, хто ўмее замятаць свае сляды. *Я маськірант такі: пень так схаваю, што на зоўтра і сам ні адразу найду.*

МЫШАПО′Р *м.* і *ж.* Той, хто ўмее знаходзіць добра схаванае. *Ад гэтага мышапора нічога ні схаваіш.*

МЫШКАВА′ЦЬ *незак.*, ПАМЫШКАВА′ЦЬ *зак.* Шукаць. *Як німа яды на сталє, тады прыходзіцца мышкаваць у кладоўца. Я ш кажу: памышкуй па шапца, дык знойдзіш, чым духі зьвязаць.*

МЭ′НЧЫЦЦА *незак.*, ПАМЭ′НЧЫЦЦА *зак.* Мучыцца. *Вучыся, дзеткі, можа, ляхчэй будзя жыць, ня будзіш мэнчыцца, як мы. Памэнчыліся мы са старым, пакуль пасадзілі бульбу.*

МЯККІ′ *прым.* У выразе: *мякка́я ка́ша* — пра чалавека з мяккім, падатлівым характарам. *Кап хто, ото скуру зь яго лупіў ба, а то на мяккую кашу напароўся. Трэба ведаць, так лёхка даравау.*

НАРЫЖАВА′ЦЦА *зак.* Сабрацца пайсці, паехаць куды-н. *Яна ш ужо нарыжавалася ў Лазаўцы.*

НАРЫЖАВА′ЦЬ *зак.* Накласці чаго-н. у вялікай колькасці. *Нарыжавалі мы зь Нінай вос дроў і едзім сабе пячочы.*

НЁШ *прысл.* Няўжо ж. *Ці была ш ты на рабоця? — А нёш не!*

НЫ′ГАЦЬ *незак.*, ПАНЫ′ГАЦЬ *зак.* *неадабр.* Шукаць. *Я ні пазволю гэтаму шмырдаку ныгаць па кутках. Будзя мне жук і жаба поўзаць тут. Хай паныгая па дрывотні, трасцу ён нойдзя хвойку!*

НЭ′БНУЦЬ *зак.* Ударыць, стукнуць. *Нэбну зарас табе пад бакаціну, дык і пакоцісься.*

ПАГРАБА′ШКА *м.* і *ж.* Чалавек, які ўсё возьме сабе, ні ад чаго не адмовіцца. *Ня слухай, ні міняй ей пальчаткі, гэта паграбашка ўсё возьмя.*

ПАДБАМБІ′ЦЬ *зак.* *экспр.* Набыць. *І йдзе ты падбамбіла такоя пальто?*

ПАЛЮДЗЯ'ЦЬ *зак.* Пабыць сярод паважаных і разумных людзей. *Прыгласілі ш і мяне ў вясельля. Хоць палюдзяю там. У такія людзі пайду.*

ПАРО'ЦЬКА *м. і ж.* Маруда. *Такога пароцькі, як наш бацька, ня сышчыш. Ён жа выбіраіцца куды часы са тры.*

ПАРЫ'ВІСТЫ *прым.* Руплівы, ахвочы да работы. *Парывісты ён да работы, прыдзя с саўхоза і адразу за сваё бярэцца: то капая яму на склеп, то нешта на дрывотні порыцца.*

ПАТАЕ'МНІК *м.* і *ж.* Скрытны чалавек. *Наша Галя такі патаемнік, што проста ні знаю: ніколі нічога ні скажа.*

ПАТАЕ'МНЫ *прым.* Скрытны.

ПАЦА'ПАЦЦА *зак.* Схапіцца ў спрэчцы; пасварыцца. *Ні было таго дня, кап у хаця ні пацапаліся.*

ПЕРАШАРСЬЦІ'ЦЦА *зак.* Перайначыцца, стаць іншым, не такім, якім быў раней. *Калі думаіш, дзяўчына, зь ім жыць, дык перашарсьціся, а не — то як хочыш, мы мішацца ня будзім.*

ПЕ'ЧКА *ж.* Прадуха ў прызбе. *Як залезя кацянё ў печку, дык ні дастаніш, бо рукі ні хватая.*

ПРА'ВІЦЬ *незак.* Гаварыць, расказваць, апавядаць. *Коля мне правіў: канбай* [камбайн] *с Краснага прышоў, па пяць рублей далі і абмалаціў жыта ў Вірадовя.*

ПУ'НКТАМІ *прысл.* Перыядычна, час ад часу. *Ці баліць жывот? — Цяпер не. Ён вот нияк пунктамі.*

ПЯ'РНУЦЬ *зак.* Рэзка ўдарыць. *Бывая, у злосьці пярну дзіцяці, а тады на самую жаль находзя.*

ПЯТЭШКАМ *прысл.* Пехатой. *Я аш з Латыгла пятэшкам прышла, ні анна машына ня ехала.*

ПЯЧУРНІК *м.* 1. Той, хто любіць ляжаць на печы. *Ён у нас пячурнік: як находзя зіма, дык стараіцца скарэй заняць. печ.* 2. Гультай. *Ужо людзі доўна на балоця, а наш пячурнік яшчэ ня мыўся.*

РАДЗІВО'Н *м.* Радыё, радыёла. *Як уключа радзівон, дык на ўсю вёску чуваць.*

РАЗВЫДРЭ'ЦЬ *зак.* Стаць распусным; распусціцца. *Да таго развыдрэла, што усё ей ні па чом.*

РАСКАЛУ'ЖЫЦЦА *зак.* Разварушыцца. *Пакуль ён раскалужыцца с хворай нагой, дык я буду ўжо аш на балоця.*

РАСПАСО'ЖЫЦЬ *зак.* Дарэмна растраціць. *Туды рубельчык, сюды рубельчык — усе грошы распасожыла. А што купіла — ня ведаю.*

РАШШЫШЭ'ЦЬ *зак.* Тое, што і развыдрэць.

РУБЕ'Ц *м.* Спінка ложка. *Ні навешавайця адзежы на рубец. Ці ш мейсца німа?*

РЫШТА'НТ *м. жарт.* Свавольнік (звычайна пра дзяцей). *Пастой жа, рыштант, я ш табе пакажу!*

САЛЯВЫ' *прым.* У выразе: *салявы мех* — пра цяжкага на пад'ём чалавека. *Пакуль гэты салявы мех зьбярэцца на нарат, дык брыгадзіра там ня будзя.*

САМАТУ'ШКА *ж.* Самагонка.

СКАПАВА'ЦЬ *зак.* Скеміць *Распытайся ў свацьці і скапавай, што да чаго.*

СКЛЮТ *м.* і *ж.* Худы, нязграбны чалавек. *Што ён у ей нашоў? Склют і толька.*

СКРАГАКІ' *мн.* Скураныя боты без падэшвы.

СПАСЮ'ТКАВАЦЬ *зак.* Страціць, згубіць. *Мой мяшэчык яна спасюткавала. Кап ведала, ні дала п.*

СТАРЭ'ННЫ *прым.* Старанны. *Ну і старэнная ў цябе кошка, цэлы дзень сядзіць у качарэжніку, мышэй пілнуя.*

СТО'ЙКА *ж.* Начное дзяжурства ў сельсавеце. *На стойку выходзя радзей, чым рас у гот.*

СТО'ЛІК *м.* Шуфляда ў стале, у шафе. *Лошкі і вілкі кладзі ў столік.*

СЫ'ВАРАТКА *ж.* Сыроватка.

СЬВЕНЦІЯ'Н *м.* Святаянскае зелле.

СЬПІРА'ЦЦА *незак.*, ПАСЬПІРА'ЦЦА *зак.* Спрачацца. *Няможна, дзеткі, сьпірацца са старэйшымі. Хвядора любя пасьпірацца, кап пазлавацьУлянку.*

СЬЦЕ'НКА *ж.* Дарога, якая праходзіць паўз агароды.

СЬЦЮ'ДЗІНА I *ж.* Халадзец. *Нясі, старая, сцюдзіну да бульбачкі! — От жа выдумая, сцюдзіна!*

СЬЦЮ'ДЗІНА II *прысл.* Холадна. *Сягоння сьцюдзіна на дварэ, золь такая.*

ТРУДЗЯ'ШЧЫ *прым.* Працавіты.

ТУ'МАР *м.* і *ж.*, ТУ'МАРНІК *м.* Ваўкаваты, упарты чалавек. *Ня йдзі ты да гэтага тумара. Ён жа калі і гавора, дык ні глядзіць на чалавека. Гэты тумарнік ніколі ні саглашаіцца, хоць і відзя, што ні яго праўда.*

ТЭ'ХКАЦЦА *незак.* Марудна рабіць што-н. *Трэба ш было ня тэхкацца ў хаця да паўдня, цяпер, пэўна ш, познаісьці ў пушчу.*

УВАРЫ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць каго-н. *Як увару зараз табе, дык тры дні ні дакранесься.*

УДО'ЎНІЦЬ *зак.* Зацягнуць (пра справу, хваробу і да т. п.). *Адразу ідзі да доктара, а то ўдоўніш хваробу і нічога ні паможа.*

УЗЬДЗЯБУ'РЫЦЬ *зак. асудж.* і *жарт.* Надзець. *Узьдзябурыла мой свэтар і думая добра. А што мне трэба: узьдзябуру куфайку і пашоў, ні на гулі ш, а на работу.*

УКРОЙ *м.* У выразе: *укрой — ня ўдой* — калі адрэжаш, то не нарасце (гаворыцца пра сала, мяса).

УРО'ЧНІК *м.* Відомец (у народнай медыцыне адвар кветак прымяняюць ад урокаў).

УХО'ДАЦЬ *зак.* 1. З'есці. *Уходай гэту кашу і кунпяк, дык да вечара будзіш пад'еўшы.* 2. Закончыць. *Што ш тут ёсь касіць? Дзялка як добрай бабя сесьці. Уходаю да цямна.*

ХАВА'ЦЬ *незак.* Гадаваць (пра жывёлу і птушак). *Летась цялічку хавалі, а сёліта сена ні накасілі. Курэй маці хавая штук пятнаццаць.*

ХА'ПТУС *м.* Хапуга.

ЦЁНГЛЯ *прысл.* Пастаянна, кожны раз. *Гэты Стэльмахаў Алех цёнгля прыходзя гуляць да нас.*

ЦІЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Ціцепярся пашла па ваду, а ўсё німа.*

ЦЮ'ЦЬКІ *мн.* Палявыя рамонкі.

ШАПКА *ж.* Тумбачка. *У бабушкі анна шапка стаяла ў сенцах, а другая — у хаця.*

ШАРГУНЫ' *мн.* Шамкі. *Што ш за вясельля біс шаргуноў?*

ШЛЯГА'ЦЬ *незак.*, ПРАШЛЯГА'ЦЬ *зак.* Шлындаць. *Чаго ш шлягаць па гэтым леся, калі грыбоў німа? Прашлягала цэлы дзень па Маладэшня, а мукі ні купіла, на аўтобус спазьнілася.*

ШМЫРДА'К *м.* Тое, што і *мышапор.*

ШТЫЛІЦЬ *незак.* Ушчуваць. *Ня штыль моцна гэта дзіцятка, і так анно, як вока ў лбе.*

ЮРГІ'НЯ *ж.* Вяргіня.

Я'ГІНЯ *ж.* Злосная жанчына.

ЯЎЛЯ'ЦЦА *незак.* З'яўляцца, паяўляцца. *Яўляюся я на стойку, а мне там кажуць, што трэба дзьве начы дзяжурыць.*

*Ю. Ф. Мацкевіч*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ЛІСНА ВЕРХНЯДЗВІНСКАГА РАЁНА

АБЛО'Й *м.* Абліваха. *Прайшоў аблой, прымаразіла сьнех і можна па серану ісьці.*

АЖАМЕ'РКІ *мн.* Адходы. *Есьлі стаўчы канаплю ды працадзіць — астаюцца ажамеркі.*

АКРО'МАЧАК *м.* Акрайчык. *Акромачак нады атрэзаць хлеба.*

АПРЫ'Ч *прысл.* Асобна. *Як веялі — зернеты апрыч і каласы апрыч.*

АРА'ЦЬ *незак.*, ЗААРА'ЦЬ *зак.* Затрымліваць плыт пры дапамозе завостранага кала (сахі). *Дзелалі саху. Выскакаваіць с сахой на берах і арэць у зямлю і заарэць ганок.*

АСО'Т *м.* Разак (расліна). *Асоту націгаіш з ракі. Асот рыбай пахніць.*

АСТРАЎЁ *н.* Прыстасаванне для сушкі збожжа. *На астраўё гарох вешалі. Калы с сукамі забівалі ў зямлю, а поперак ложацца жэрдачкі.*

АТМАЛІ', ЗМАЛІ' *прысл.* З маленства. *Атмалі з мамай не жыла. Змалі работала, цілят пасьціла.*

АХВАРАСТА'ЦЦА *зак.* Абабіцца (пра адзенне). *Падол увесь ахварастаўся.*

АХВАЦІ'ЦЦА *зак.* Абжыцца. *Ціпер людзі ахвацілісі, а даўней с торбамі ішлі.*

БАЛАБА'ШКА *ж.* Балабон, бразготка. *Балабашка была, прычэплівалі коням.*

БІЧАВА' *ж.* Вяроўка. *Бічава прывязавалася да сахі, якой задзержывалі ганок.*

БО'ЛДАЎКА *ж.* Шост з булдавой на канцы. *Болдаўкай заганяюць рыбу ў секі, бохаюць болдаўкай. Пары рыбу боўткай!*

БО′НДА *ж.* Запас, багацце. *Хто накапіў сабе грошы, адзежы, кажуць: «У бонду наклаў грошы, адзежы». Грошы у бонду складаіць, пакуль мышы не зьядуць.*

БО′ЎТКА *ж.* Тое, што *болдайка.*

БРАЖДЖЭ′ЛЬ *м.* Бружмель. *Такое дзерава расьцецць, красныя на ім ягаткі, яго на цэўкі рэзалі.*

БРУСЯ′НКА *ж.* Зялёнка, падзялёнка (грыб). *Брусянкі растуць зялёныі і сінінькіі.*

БУБНЫ′ *мн.* Званочкі, бразготкі. *Бубны прычэплівалі да сядзёлкі.*

ВЕ′СЬЛІЦА *ж.* Драбіны, лесвіца. *Пашоў як па весьліцы.*

ВЕХ *м.* Цыкута. *Вех — трава такая. Ад яе каровы падыхаюць.*

ВО′ЛАЦЬ *ж.*, ВО′ЛАЦЦЯ *н. зборн.* 1. Асцюк. *Волаць папала ў глас. У жыту волаць і ў ячменю волаць. Даставалі волацця языком. Нады ячмень прапойсаваць, а то будзіць многа волацця.* 2. Асцістыя костачкі ў рыбы. *Волаць ёсь у язя, у плоткі ў крупнай, у мелкай нізаметна. У падлешчыка волацця ёсь, волацця да чарта ў шчукі. У ліна і карася нет волацця.*

ВЫ′ПАЎЗІНЫ *мн.* Скура, якую скідае змяя ў час лінькі. *Вужака выпаўзець са сваей кожы, астаюцца выпаўзіны.*

ГАРУ′Н *м.* Губа. *Гупку з гаруна вырабляюць. Гарун на бярозе і на альхе расьцець.*

ГЛЫШ *м.* 1. Камяк ссохлай зямлі. 2. Снежка. *Са снега дзелаюць глыжы. Узяў глыш і шпульнуў у хрыбеціну.*

ДЗЯХ *м.* У выразах: *браць (узяць) дзягу* — папраўляцца, набіраць сілы пасля хваробы. *А дзях — гэта папраўка, чалавек папраавіўся і пашоў работаць. Перахварэла, а ціпер дзягу не бяру, ні сабяру сілы. Іна перахварэла і пасьля хваробы узіла дзягу. Я пасьля хваробы ніяк дзягу не вазьму.*

ЖМА′ХАЦЬ *незак.* Мыць бялізну. *У міне плацця намочана. Нады яго жмахаць. Даўней усе жмахалі плацця, а ціпер мыць.*

ЗАВА′ЛЫ *мн.* Запруды. *Бабры завалы дзелаюць на раке, кап вада не меньшала.*

ЗАХА′БАВІНА *ж.* Затока. *Захабавіна ад возіра, не прамая, а заходзіць у сторану.*

10. Зак. 867

ЗМУ'ЗДАКАВАЦЦА *незак.* Звязвацца *муздаком. Лавачкі змуздакаваюцца ў ганок бярозавымі віткамі.*

ІЛА'ГА *ж.* Яловы лес, ельнік. *Дзе ілага, там грыбы растуць.*

КАМЫ' *мн.* Клёцкі. *Мучаныі камы варуць. Камы месюцца з бульбы цёртай і мукі туды, крапаюць і ў кіпяток.*

КАРКАЛІ'НА *ж.* Крывое, кусцістае дрэва.

КАРКАЛІ'СТЫ *прым.* Крывы, кусцісты (пра дрэва). *Кажуць каркалістая дзерава, калі с аднаго корня расьцець два, тры ствалы, яны няроўныі, крывыі, нягодныі нікуда.*

КРАПА'ЦЬ *незак.*, НАКРАПА'ЦЬ *зак.* Начыняць. *Печань, лёхкая і почкі крышылі і крапалі трыбух. Мы грыбы сушым і камы крапаім. Атварыш і атцэдзіш крупы, сала, цыбулі жжарыш і кішкі накрапаеш.*

ЛУНЫ' *мн.* Глянец, бляск. *Палатно выкачаюць, ажны луны ходзюць па палатне. Даўней выкачаюць бяльё, ажны луны ходзюць.*

ЛЯЖНЁЎКА *ж.* Дарога, вымашчаная бярвеннем. *Па балоці, па пяску дзелаюць ляжнёўку, масьцяць не ўсю дарогу, а кладуць броўны наўдоль, толькі пат калёсы, кап машына магла прайці.*

МАШАРНІ'К *м.* Махавік. *Машарнікі — рыжанькіі грыбы, а як сухіі — чорныі, пад нізом гладзенька.*

МУЗДА'К *м.* Канат з вітых дубцоў. *Лавачкі ставяцца адна да аднэй і звязаваюцца муздаком.*

МУРЦО'ЎКА *ж.* Цура. *Хлеп накрышуць, цыбулі, солі і халодная вада — гэта мурцоўка, калі ёсь — дабаўлялі поснага масла.*

НАБУБНІ'ЦЦА *зак.* Набрыняць (пра пупышкі). *Ужо набубніўся бярэзнік, скора будзіць распускацца.*

НАДЗЕ'І *мн.* Дажджавыя чэрві. *У нас надзеямі завуць красных чарвей.*

ПАТТУРА'ЎЛІВАЦЦА *незак.* Спяшацца. *Нады паттураўліваціа ў поля гнаць, а то апаздаім.*

ПІРАПЁЛКА *ж.* Абрадавы хлеб на дажынках. *Як дажыналі жыта, паложуць скрутак, у ім кусок хлеба, памазаны маслам, — гэта пірапёлка. Як дажнуць, возьмуць пірапёлку, садзяцца і ядуць.*

ПЛАЎ *м.* Зыбучы травяны дзірван на зарослым возеры. *На азярэ плавы, дзе плаў, там зыбаесся. Накосіш сена на плавах і бярэмам выносіш, і выкупаесся.*

ПО'КАТ *м.* Кола. *Нады покаты ўзьдзець на вось.*

ПРО'ЎШАВАЦЬ *незак.*, СПРОЎШАВАЦЬ *зак.* Змацоўваць бярвенне ў плыце. *Броўны спроўшавалі: прабівалі елку, прадзівалі і прывязавалі да жэрдзіны.*

ПУЦА'К *м.* Пацук. *Бегаюць у хляве пуцакі сівыі.*

РАСКІДЛЭ'ЖЫЦЦА *зак.* *Разварыцца.* Не люблю *есьці, як раскідлэжыцца макарон на цюпку.*

САТАНІ'ЦЬ *незак.*, ПАТСАТАНІЦЬ *зак.* Зводзіць, падбухторваць. *Тут людзі сатанілі яму, а там ня будуць сатаніць. Патсатаняць людзі, а ён тады біў мяне.*

САХА' *ж.* Завостраны кол. *Дзелалі саху, кап заарацъ ганок.*

СЕК *м.* Даўнейшая мера вагі. *Сек весіў 30 фунтаў, такая мера была, даўней было такоя судно.*

СІЧАВО' *н.* Крэсіва. *Січаво было, агонь высікалі.*

СУКО'ЛЫ *мн.* Парныя калы. *Суколы піравязываюць піравіткай.*

СЬВЯЖУ'Н *м.* Баўтун. *Відна, каторая сьвяжун, зь яго не вывідзіцца цяплёнак.*

ТО'НЯ *ж.* 1. Адзін заход з сеткай (закідванне і выцягванне сеткі). *Дзьве тоні шлі і мала налавілі. Пяць тонь забросіў і пяць рыбін улавіў. Буваіць і так.* 2. Найбольш глыбокі ўчастак возера, дзе водзіцца рыба. *Быцінская тоня, Імшынская тоня, Ламавая тоня на возяры Лісна.*

УГРУ'Д *м.* Куча галля. *Угруды палюць лісьнікі.*

УСЁНАК *м.* Вузкі ўваход, горла ў бучы. *У бучу дзелаіцца ўсёнак, рак заходзіць і ходзіць па бучу.*

ЧАЦЬВЯРЫ'К *м.* Даўнейшая мера вагі. *Чацьвярык быў, пуд весіў.*

ША'НІКІ *мн.* Піражкі. *У голат пяклі шанікі з гугялей* [хвашча] *і дабаўлялі мякіны.*

ШАХА' *ж.* Паветка. *Шаха на стаўбах. Чатыры сьцяны саломай забівалі і крышу саломай крылі.*

*А. М. Прышчэпчык*

# РЭГІЯНАЛІЗМЫ ВЁСКІ СТАРЫ СВЕРЖАНЬ СТАЎБЦОЎСКАГА РАЁНА

АБЕ'ЧКО *н.* Абечак. *Абечко йшчэ добраё, толькі сіто працерласё. Старое абечко ні выкідай, добро будзя курыцу пасадзіць.*

АБЛАТАШЫ'ЦЬ *зак.* Абарваць. *Учоро ўлезьлі хлопцы ў сат і аблаташылі ўсе яблыкі. Наш малы ішчэ зялёныя вішні аблаташыў.*

АБША'РЫЦЬ *зак.* Абшукаць. *Гэтак схавала цукеркі, што дзеці абшарылі ўсё на сьвеце і ні найшлі.*

АДКРАСНУ'ЦЦА *зак.* Адчапіцца. *Адкрасьніся ты ад міне. Ён гэдыкі надаедлівы, што ад яго трудно адкраснуцца.*

АДЧУБУ'ЧЫЦЬ *зак.* Сказаць або зрабіць што-н. нечаканае, недарэчнае і пад. *Наш хлопяц зноў нешта адчубучыў у школі, бо настаўніца вызвала бацьку.*

АКАЛПА'ЧЫЦЬ *зак.* Падмануць, абдурыць. *Лоўко ён міне тагды акалпачыў з гэтым канём. Чуць я яго збыў.*

АНІ'ГАДКІ *прысл.* Хоць бы што. *Даўней Янко дзьве міскі супу зьесьць і анігадкі.*

АТХЛА'НЬ *ж.* Прорва. *Гэта ж ні хата, а атхлань некая. Прэш, прэш сюды і ўсё мало, нічого ні відаць.*

БЕ'ЖКІ *прысл.* Бягом. *Як пусьціўся бежкі, дык і малады ні дагоніць. Хто скажа, што яму такве ля год.*

БЗУ'МКАЦЬ *незак.* Бзыкаць. *Рано выдзяш, бывало, сат белы, цішыня, толькі пчолы бзумкаюць.*

БРА'ТАВА *ж.* Жонка брата, братавая. *Братава нешто захварэла, трэ було б даведацца пайці.*

БРУ'ШКА *ж.* Бручка.

БРУШКАВЕ'НЬЁ *н.* Лісце і сцяблы бручкі. *Рацькоўя каровы ні любяць, а брушкавеньё ды капусьнік вунь як ядуць.*

БРЫ'НДА *ж.* Жанчына, якая ходзіць брудная, абрынданая. *Гэта брында спадніцы сабе памыць лянуяцца.*

ВАНЗЭ'ЛАК *м.* Вузел, клунак. *Што ў цібе ў гэтум ванзэлку, пакажы, мо, што смашнаё?*

ВАРША'ЎКА *ж.* Гатунак бульбы. *Варшаўка і гэмка ціпер мало ў каго асталася, усё аганёк ды тэмп.*

ВІЖ *м.* Шпіён. *Усё ходзіць, як той віж. Нідзе ад яго нічого ні схаваяш.*

ВІКО'НА *ж.* Ікона. *Даўней у Гаранавічаў было стольку вікон, да самаго парогу ад покуці.*

ВІРО'К *м.* Прыстасаванне ў выглядзе палачкі з дзірачкамі, у якія працягваюць нітку, калі ўюць клубок. *Зь вірком добро віць, а бязь вірка рукі парэжаш ніткаю і пастрэміш кастрыцаю, калі ніткі зрэбныя.*

ВУ'НЬДЗЕКА *прысл.* Вунь. *Вуньдзека яна, бачыш?*

ВЫСТРЭ'НЧВАЦЬ *незак.*, ВЫ'СТРАНЧЫЦЬ *зак.* Дагаджаць; паспяваць. *Яму ні выстранчыш. Хіба я магу выстранчыць і на работу і дома.*

ВЫ'СЬЦІБІЦЦА *зак.* Вызверыцца, вытрашчыцца. *Чаго ты высьцібіўсё? Што яна табе зрабіла?*

ГАЛАШЫ'ЙКА *ж.* Парода курэй без пер'я на шыі. *Ціпер усе інкубатаркі белыя, а галашыйку ці зялянаношку рэдка дзе ўбачыш.*

ГАРАХВЯ'НІШЧО *н.* Поле, з якога сабралі гарох. *На гарахвянішчы пасадзілі картофлі, дык ні вельмі й параслі.*

ГАРАХВЯ'НЬЁ *н.* Гарохвіны, гарохавая салома. *Гарахвяньям рэдко падсьцілаюць скаціну. Зь яго сечка добрая.*

ГАРШЧЭ'ШНІК *м.* Вілкі, якімі ставяць у печ і дастаюць з печы гаршкі. *Гаршчэшнік стары, абгарэў, трэба асьцярожно браць, кап ні перакуліць гаршчок.*

ГРАЦКО'ЎЁ *н.* Поле, з якога сабралі грэчку. *На грацкоўі ні прыдумаяш, што і пасеяць. Кромі грэчкі, нічого ні расьце.*

ДАБІТНЫ' *прым.* Прабіўны. *Ого, ён дабітны, з касьцёла галку зьнімя.*

ДРЫНГА'ЛЬ *м.* Высокі даўганогі чалавек.

ДУ'НДА *ж.* Соска. *Выкінь ты гэту дунду.*

ДУ'НДЗІЦЬ *незак.* Ссаць. *Дзень і ноч ён гэту соску дундзіць. Прывыкняш і тагды трудно будзя адвыкнуць. Скоро ж у школу пойдзяш.*

ДУРБА′Н *м.* Дурань. *Гэты стары дурбан нічого разумнаго ні навучыць.*

ЖАВА′ЧКА *ж.* Жвачка. *Нешто карова жавачкі ні жуе і скучная. Ці ні аб'елася чаго?*

ЖМІ′НДЗІЦЬ *незак.* Надаедліва паўтараць адно і тое ж. *Перастань жміндзіць, а то ўжо слухаць надаело.*

ЖЫГА′ЛА *ж.* Джала. *Пчала жыгалу дала.*

ЗАЛУВІ′ЦА *ж.* Залвіца, мужава сястра. *Сям'я ў нас велькая была: сьвёкар са сьвякроўю, дзевер, нявестка, зяць ды дзьве залувіцы.*

ЗДАРАВЕ′Ц, ЗДАРАВІ′ЛО *м.* Здаравяка. *Ну й здаравец жа быў. Расказвалі, што залазіў каню пад жывот і паднімаў яго. Гэты здаравіло бочку выпья і ні пазнаяш.*

ЗНЭ′ХАЦЦА *зак.* Пазнацца, знюхацца. *З малых год як знэхалася з гэтым гультаём, дык, як ні прасілі ні малілі: кінь ты яго,— нічого ні памагло.*

ЗЬВЯГАВА′ЦЬ *незак.* Звягаць. *Чаго ты зьвягуяш, як сабака. Цібе ж ніхто ні слухая.*

ҚАЛАШМА′НЫ *прым.* Қалашматы, з махнатымі нагамі. *Певянь калашманы.*

ҚАНАПЛЯ′НҚА *ж.* Хустка з грубай тканіны. *Даўней усе ў канаплянках хадзілі, а ціпер падавай пуховыя.*

ҚАНДЗІБО′БЕР *м.* У выразе: *хадзіць кандзібоберам* — празмерна ганарыцца чым-н., задавацца.

ҚАНЧЫЛЯ′НЬЯ *мн.* Жыхары з канца вёскі.

ҚАПАВА′ЦЬ *незак.* Цяміць, кумекаць. *Ці ты што-небудзь капуяш у гэтай справе?*

ҚАПАНІ′ЧЫЦЬ *незак.* Матычыць. *Трэба картофлі капанічыць, бурачке палоць. Работы хоць заваліся.*

ҚАПО′ЦЬҚА *м* і *ж.* Непаваротлівы, марудны чалавек. *Гэдыкая пара сабралася. Ён капоцько, а яна йшчэ горшая.*

ҚАРШЭ′ЛЬ *м.* У выразе: *даць у каршэль* — даць па шыі.

ҚАЦАЛА′ПЫ *прым.* Якому заўсёды вязе ў якой-н. гульні. *Ён кацалапы, зь ім усі роўно ні выйграяш.*

ҚАЦЭ′ЛАП *м.* Той, хто ўмее добра гуляць у што-н., якому шанцуе ў гульні. *З гэтым кацэлапам ніхто ні хоча гуляць у лапту.*

ҚЕ′ПАЛО *н.* Прыдуркаваты, нерастаропны чалавек.

ҚО′ЛЕНҚІ *мн.* У выразе: *на ко́ленках* — на каленях.

ҚРУГЛАВІ′ДЫ *прым.* Круглатвары. *Харошы хлопяц, здаровы, высокі, круглавіды.*

КУРАНЯ'ТНІЦА *ж.* Квактуха. *Куранятніца гэты год гэдыкая злосная, толькі вазьмі кураня, дык у вочы кідаяцца.*

КУРА'Ч *м.* Гермафрадыт.

КУШМА'Р *м.* Той, хто любіць *кушмарыцца. Гэты кушмар ужо ізноў ад агню ні адходзіцца, усё кушмарыцца.*

КУШМА'РЫЦЦА *незак.* 1. Балавацца з агнём. *Зачыні стаяк і ні давай дзецям кушмарыцца, а то хату спаляць.* 2. Важдацца. *Ты ўсё кушмарышся з гэтымі сырымі дрывамі.*

ЛАХУ'ДРА *м.* і *ж.* Неахайны, апушчаны чалавек. *Гані ты гэтаго лахудру з хаты. А ты чаго, лахудра, прышла?*

ЛЕ'ЙКА *ж.* Вылівак. *З гэтаі курыцы карысьці ні будзя, яна ўжо даўно лейкі льe.*

ЛЮБІ'ВЫ *прым.* Посны (пра мяса). *Яна худая, бо есьць толькі любіваё мясо, жырнаго і ў рот ні бярэ.*

МАГАЗІ'НШЧЫК *м.* Прадавец. *Магазіншчык захварэў, магазін закрыты.*

МАЛЕ'СІНЬКІ *прым.* Маленькі, малюсенькі. *Харошы хлопчык, але ж вельмі малесінькі.*

МАРСЬКА'ЦЬ *незак.* Сцёбаць зрэдку. *Ты ні марськай пугаю, а паганяй каня.*

МЭ'НКА *ж.* Мука, пакута. *Мэнка мне з гэтым дзіцям. Ні ўдзень ні ўночы спакою німа. Скарэй бы маці прыехала ды забрала.*

МЯНТУ'ШКА *ж.* Мянташка. *Як каса добро ні адкляпана, дык і мянтушка ні паможа, скольні ні мянці.*

НА'БАДРЫКІ *мн.* Шоры. *Набадрыкі парваліся, трэба будзя ў вечар паправіць, можа, ішчэ зіму адслужаць.*

НАБАСАНО'С *прысл.* Набасанож. *Не абувай набасанос боты, а то зноў ногі сатрэш.*

НАІ'ГРАНЫ *прым.* Пра яйцо з зародкам. *Наігранаё яйцо відаць, калі яго палядзець на сонцо.*

НАМЁТКА *ж.* Фастрыга. *Ужо гот скоро як пашыла спадніцу, а йшчэ намёткі ні выцягнула.*

НАПАШЭ'ЎКУ *прысл.* Пад рукамі. *Далёко ні хавай ключа, а то посьлі ні найдзяш. Палажы дзе-небудзь напашэўку.*

НАПІЦАВА'ЦЬ *зак.* Напхаць, набіць. *Во напіцаваў сумку кнігамі, ні падняць.*

НАРА'ІЦЬ *зак.* Наваражыць, *Як хто нараіў гэтаму дзіцяці, крычыці і крычыці, ні дня ні ночы яму німа.*

НАСЛАНО'Ё *н.* Насланнё. *Некаё насланоё, усю восянь кашаль дзярэ, нічога ні памагая.*

НАЎЗНА'К *прысл.* На спіну, дагары. *Тут такая сьлізгота, ішчэ ў вайну падпіўшы немяц як ляснуўсё наўзнак на гэтум месьці, дык і ні ўстаў.*

НІДАЛЯГА'ЦЬ *безас.* Нездаровіцца. *Нешта ж яму нідалягая. Што табе нідалягая? Чаго ты плачаш?*

НІЎКЛЮ'ЖЫ *прым.* Няўклюдны. *Ён і добры чалавек, але ш вельмі некі ніўклюжы.*

НЯЎЕ'ЖНО *прысл.* У выразе: *хоць няўежно, але ўлежно* — хоць есці нечага, але і рабіць нічога не трэба.

ПАДБАРО'ДАВІЧ *м.* Падбародак. *Глядзі ты, як паправілася Алеся, падбародавіч які.*

ПАДПІ'ЛАК *м.* Напільнік. *Падпілак зламаўсё, чым я буду пілу тачыць? Вельмі ш добрыя падпілкі прывязьлі ў магазін.*

ПАКА'МІСЬ *прысл.* Покуль што. *Ты зьбегай купі хлеба, а я пакаміcь начышчу картофяль.*

ПАТАЛЯ'ЦЬ *незак.* Патураць. *Дзецям ні трэба паталяць, а то потым рады ні дасі.*

ПАТЫРЧА'КА *ж.* Палка, якая тырчыць адкуль-н. *Прымі ты гэту патырчаку з дарогі.*

ПАЎСКУ'РАЦЬ *зак.* Памагчы, парадзіць. *Нічога ты ні паўскураяш, як ён захоча, так і будзя.*

ПАХВАТНЫ' *прым.* Невялікі, лёгкі і зручны ў карыстанні (пра рэч, прыладу). *Калі пойдзяш варочаць сено, дык вазьмі гэтыя грабялькі, яны ж вельмі пахватныя.*

ПАЦЕ'ПАЦЦА *незак.* Варушыць плячамі. *Чаго ты пацепаешся? Мо, табе холадно?*

ПАЦУРБА'ЛАК *м.* Тое, што і *цурубалак.* *Прынясі якіх пацурбалкаў, каб заўтро было чым прапаліць стаяк.*

ПАЯСЭ' *часцей мн.* Перакладзіна ў кроквах. *Трэба цыбулю на паясэ павесіць, хай трохі зьветрая.*

ПЕРАТЫКА'НКА *ж.* Спадніца з ператыканага палатна, ператыканая коўдра і пад. *Ціпер ні ў кого ператыканак німа, хіба, мо, у клубе, калі арцісты ў іх выступаюць.*

ПЕРАТЫКА'НЫ *прым.* Саматканы (пра паўсуконны матэрыял). *Як у цібе гэта ператыканая спадніца сахранілася?*

ПІЛЬЧА'К *м.* Пінжак з саматканага сукна. *Ціпер пільчакоў ніхто ні носіць, нават старыя ні хочуць насіць.*

ПЛО′СКУНІ *мн.* Маніцы (у каноплях).

ПРАЎЦО′М *прысл.* У выразе: *стаяць праўцом* — стаяць прама, не згінаючыся. *Хочаш пасадзіць* [малую], *а яна праўцом стаіць, ногі ні сагнеш.*

ПРАШКА′ПІЦЦА *зак.* Правініцца. *Учоро трохі прашкапіўсё, дык сёні як шолкавы. Калі раз прашкапіўсё, то ўжо ні скоро паверацъ.*

ПРЫВАРЫ′ЦЬ *зак.* Забяліць малаком і пракіпяціць. *Прывары панцак, а то пракісьня. Я дык люблю сырым малаком суп забяліць, а дзеці любяць, калі прывáрыш.*

ПРЫГАЛО′ВІЧЫ *мн.* Два палены, якія кладуцца ў печы ўдоўж паралельна, як падкладка пад дровы. *Адкладзі гэтыя два паленцы на прыгаловічы, яны роўнінькія.*

ПРЫ′КАРАЦЬ *прысл.* Караткавата. *Касьцюм харошы, але рукава трошкі прыкарацъ. Спадніца гэта табе прыкарацъ, але ж ціпер гэдак носяць.*

ПРЫ′ПІРАК *м.* Прыстанішча. *Калі свая хата есьць, дык некі прыпірак на старасьць будзя, а на дзяцей ні спадзявайся.*

ПРЫСКРЫ′НАК *м.* Скрыначка збоку ў куфры, скрыні. *Палажы грошы ў прыскрынак і замкні куфар, кап дзеці ні выцягнулі.*

ПУСТАМО′Л *м.* Пустамеля. *Ад яго нічого путнаго ні пачуяш, гэта такі пустамол.*

ПУСТАСМЕ′Х *м.* Чалавек, які часта і без прычыны смяецца.

ПУ′ТНЫ *прым.* Талковы, разумны. *Зіна ш са сваім развялася, узяла новаго прымака, такі талковы, путны чалавек.*

РАДАБО′ЎДЗІНА *ж.* Грубая рэдкая тканіна. *Гэта ж ні мацерыя, а радабоўдзіна некая, што ты зь яе хочаш шыць?*

РЭ′ПТА *ж. зневаж.* Непаваротлівая, тоўстая жанчына. *Зноў ідзе гэта рэпта, як яна мне надаела.*

СА′ЧАК *м.* Жакет. *У Гэлькі новы сачак. Ці бачыла? Вазьмі ў сачку ў кішэньцы грошы і падзі купі, унучка, хлеба.*

СЕЙМІКАВА′ЦЦА, САЙМІКАВА′ЦЦА *незак.* Раіцца; дагаворвацца аб чым-н. *Аб нечым жа яны саймікуюцца цэлы вечар.*

СЕЛЯДО′РШЫ *прым.* Сярэдні па ўзросту( сын, дачка) у сям'і. *Гэта ш Надзін селядоршы ўжо ажаніўсё.*

СКІ'ДАЦЬ *зак.* Зрабіць, змайстраваць што-н. збольшага абы-як, на скорую руку. *Як скідалі гэту хату посьлі вайны, дык і ціпер стаіць. За вечар скідала збольшаго малой плаціцо.*

СЛЫГА'ЦЬ *незак.* Нізаць на нітку. *Слыгаць пацеркі.*

СМУ'ШАК *м.* Душагрэйка з аўчыны. *Адзень гэты смушак, ён цёплінькі.*

СО'ТКІ *мн.* Прысядзібны ўчастак. *Сває соткі мы засеялі яшчэ ў маі.*

СПАТАЙКА' *прысл.* Знянацку. *Ты ні крычы спатайка, дзіця спалохаеш.*

СПЛАЦІ'ЦЬ *зак.* Заплаціць, выплаціць. *Ішчэ да вайны ён сплаціў за землю, а ціпер зямля бясплатная.*

СТАЎБУ'Н *м.* Высокі і вузкі чыгунок з ручкай. *Ціпер стаўбуна нідзе й ні купіш, а даўнейшыя рэдко ў каго асталіся.*

СТРАМЯ'КА *ж.* Стрэмка. *Астраміла паляц і страмякі ні дастала, а ціпер нарывая.*

СТРЫХА'РКА *ж.* Стрыхоўка. *Ціпер хаты крыюць шыферам, саломаю ніхто ні крыя, таму і стрыхаркі нідзе ні ўбачыш.*

СЬВІНЧО' *н.* Парася. *Неко сьвінчо і мы купілі, толькі сала ад яго німаведама калі дачакаямсё.*

СЬЛІЗГА'НКА *ж.* Коўзанка, каток. *Сьлізганку пад акном зрабілі, дык дзяцей да ночы ў хату ні загоніш.* Якія ціпер сьлізганкі, калі сьнегу німа.

СЬЛІ'ШЧА *н.* Месца, дзе сцелюць лён. *Як падбяруць лён, на сьлішчы можно будзя скаціну папасьвіць, там вельмі велькая трава.*

СЬЦІ'БРЫЦЬ *зак.* Украсці. *Быў у міне такі харошы ножык, дык нехто сьцібрыў.*

СЬЦЯ'ЦЦА *зак.* Схапіцца, счапіцца (у сварцы). *Як сьцяліся, дык чуць ні пабіліся, ледзьвя разьвялі.*

СЯДА'К *м.* Пасажыр (звычайна на гужавым транспарце).

ТАКВЕ'ЛЯ *прысл.* Столькі. *Яна йшчэ крэпкая старая, але такведя хадзіць, як даўней, ужо ні можа.*

ТАНКА'ЛЬ *м.* Танканогі высокі чалавек. *Во танкаль вырас, а, здаецца, нідаўно быў маленькі.*

ТАРНАТО'ЎКА *ж.* Тонкая шарсцяная хустка чорнага або белага колеру ў чырвоныя кветкі. *Недзя Каця купіла тарнатоўку, а я ш думала, што іх ціпер німа.*

ТРУПЦЕ'ЦЬ *незак.* Утвараць нязвонкі гук (пра надбітую пасуду). *Гаршчок трупціць, мусіць, недзя стукнула я яго. Трэба будзя аплясьці альбо зьвязаць провалачкай у венцах.*

УМАЛЁКАЦЬ *зак. Угаварыць, упрасіць. Чуць умалёкала, кап адзеў шапку.*

ФЛЮ'НДРА *ж. зневаж.* Лёгкадумная жанчына. *Што яна можа гэта флюндра, толькі бегаць па хатах. Зноў гэта флюндра дзяцей галодных пакінула і пабегла.*

ФРЭ'НЗЬЛІ *мн.* Махры. *Купі мне хустачку, але з фрэнзьлямі.*

ХАДУ'Н *м.* Прыстасаванне, у якое ставяць малых дзяцей, каб яны вучыліся хадзіць. *Ніяк ні хоча ў хадуне малая хадзіць, павісьне на руках і вісіць.*

ХАЛЭ'МУС *м.* Пагібель, канцы. *Як дам, дык тут табе й халэмус будзя.*

ЦАРАБА'НІЦЬ *незак.* Стукаць, барабаніць (пра дождж). *Дождж царабаніць, як увосень. Вецер на двара, дождж у вокна царабаніць, як кажуць, ні пі ні еш і з хаты ні лезь.*

ЦЕ'ПЯРСЯ *прысл.* Даўно. *Стары ўжо цепярся як пашоў у магазін і йшчэ німа.*

ЦЁНГЛЯ *прысл.* Заўсёды. *Цібе цёнгля трэба прасіць цёпло адзявацца. Сам ты ні помніш.*

ЦУРУ'БАЛАК *м.* Цурбалак. *Пайду прынясу з дрывотні цуруба.ікаў у печ.*

ЦЫ'ТРА *ж.* Абразлівая назва жанчыны. *Гэта цытра нікого ні можа цярпець, усе ёй кепскія.*

ЧАРАВА'ТЫ *прым.* З вялікім жыватом, пузаты. *Петрык паправаўсё, чараваты стаў, а то ўсё балеў. Цётка была здаровая, чырвоная, чараватая ды бах — і памерла.*

ШАЛПАТА'ЦЦА *незак.* Шавяліцца. *Чаго ты там шалпочашся, як мыш?*

ША'РЫЦЬ *незак.* Шукаць, абшукваць. *Што ты шарыш, чаго ты тут шукаеш?*

ШВЭ'НДАЦЦА *незак.* Хадзіць без справы, без патрэбы. *Чаго ты швэндаяшся? Толькі холад у хату пускаяш.*

ШВЭ'РГАЛО *н.* Чалавек, які гаворыць незразумела, неразборліва. *Што ты там гаворыш, швэргало?*

ШВЭ'РГАЦЬ *незак.* Незразумела, неразборліва гаварыць. *Ні швэргай, а гавары добро.*

ШЛІ'ХТА *ж.* Сцірта. *Шліхта дроў.*

ШЫДЭ'ЛКО *н.* Кручок для вязання. *Шыдэлкам вельмі ж марудно вязаць, лепш пруткамі. Ціпер гэдыкія харошыя касьцяныя шыдэлкі прадаюцца, а даўней усё самадзельнымі вязалі.*

ЯДА'К *м.* Ядок. Ядакоў у хаці много, а рабіць німа каму.

Я'СЕК *м.* Маленькая падушачка. *Ясек добро і пад бок палажыць, і ўдзень прылегчы дзе-небудзь на ём.*

*Я. М. Рамановіч, А. І. Чабярук*

# У СЛОЎНІК ГОМЕЛЬШЧЫНЫ

Гаворкі Рэчыцкага раёна адносяцца да мазырскай групы паўднёва-заходняга дыялекту. Прапануецца слоўнічак дзвюх вёсак гэтага раёна — Холмеч і Дуброва.

Гаворкі вёсак неаднолькавыя як па фанетыка-граматычных, так і па лексічных асаблівасцях. У вёсцы Дуброва — акаючая гаворка. Гаворка вёскі Холмеч адносіцца да окаюча-акаючага тыпу, г. зн. ненаціскное *о* захоўваецца ў становішчы перад націскным *о: колхóз, болóта, когó, сорóка.* У становішчы перад *о* можа вымаўляцца *о* і на месцы *а*: *болóн, робóта.*

Адной з характэрных рыс гаворкі вёскі Холмеч з'яўляецца доўгае вымаўленне галосных перад складам з галосным верхняга пад'ёму: *спа̄сіба, та̄кія, са̄дзіць, уга̄дзіла, за̄снéце, да̄іць, за̄зімак, сьцяклі, ка̄струля, ка̄лісь.* Наяўнасць доўгіх галосных у пераднаціскным складзе ў гаворцы вёскі Холмеч пашырае вядомую да гэтага часу геаграфію распаўсюджання гэтай з'явы ў гаворках Беларусі [1].

Для гаворак абедзвюх вёсак характэрна лабіялізацыя галосных перад губнымі (*вýпаліць* — выпаліць, *вýмесьці* — вымесці, *вупівáць* — выпіваць), адрозненне глухіх-звонкіх зычных у канцы слоў і перад глухімі зычнымі: *колхóз, дзед, марóз, абкусáны, агарóд, стог, луг, адхóды.*

АБА'І *ліч. зборн.* Абодва. *Абáіх мужоў перажыла.* Дуброва.

АБЛЕ'ГНУЦЬ *зак.* Апасці (паменшыцца ў аб'ёме). *Учора рукі апухлі ад работы, за ноч аблеглі.* Холмеч.

---

[1] А. А. Крывіцкі. Фанетычныя асаблівасці адной з гаворак поўдня Беларусі.— Працы Інстытута мовазнаўства АН БССР, вып. VI. Мінск, 1959, стар. 102; Н. Т. Вайтовіч. Доўгія галосныя ў беларускіх гаворках.— «Беларуская лінгвістыка», вып. 4, 1973.

АБУ'РЫНЫ *мн.* Калоссе, якое адбіваецца пры малацьбе. *Адбіваюцца калосся, ілі абурыны, пры малацьбе.* Холмеч.

АДГНЕ'ЦЕНЫ *дзеепрым.* Адціснуты. *Адгнецены тварог.* Холмеч.

АДКУ'ТАЦЬ *зак.* Адгарадзіць. *Адкутаю* [у хляве] *карове места.* Дуброва.

АДСЮ'ЛЯКА *прысл.* Адсюль. *Адсюляка яны выехалі.* Дуброва.

АЛЁС *м.* Забалочанае месца. *Мокрая места, у альсе расьце вольха.* Дуброва.

АПАТРЭ'ПКІ *мн.* Мяккія адходы пры апрацоўцы льну. *Пад лёнам апатрэпкі.* Холмеч.

АЧА'ХЛІЦЬ *зак.* Стаць менш гарачым. *Выцягну чуганы, пакуль ачахлююць.* Дуброва.

БІ'ЛЫ *мн.* Спінкі ложка. Холмеч.

БІЧКАВА'ЦЦА *незак.* Працаваць безупынна. *Бічкуюцца* [даяркі] *цэлы дзень.* Дуброва.

БО'ЙНЫ *прым.* Буйны. *Цвяточкі бойныя.* Холмеч.

БОЛО'Н *м.* Шкляная банка. Холмеч.

БРЫДЗІ'ЦЬ *незак.* Шчыпаць, пячы. *Брыдзіць, бы чым нацёртая, як мурашкі намочуць.* Дуброва.

БУЗА' *ж.* Шалупінне. *Як змываеш крупу, зверху буза.* Дуброва.

БУ'КСА *ж.* Бязрогая карова. Дуброва.

БУ'ЛЬБА Ю'ШКАЮ. Бульбяны суп, булён. *Будзем есьці бульбу юшкаю.* Дуброва.

ВАЛО'ЙКІ *мн.* Валуі. *Валойкі пада дном кашлатыя.* Дуброва.

ВАРЭ'ЙКА *ж.* Гліняны гаршчок. *У варэйку хаваіш грошы?* Дуброва.

ВЕРАБЕ'ЙКА *м. памянш.-ласк.* Усякая дробная птушачка. *Есьць такі верабейка-ціліваз. Пяе так: цілі-воз, кідай сані, бяры воз.* Холмеч.

ВЕРАБ'І' *мн.* Агульная назва дробных птушак. *Паляцелі вераб'і: гэта паляцелі шпакі, канаплянікі, ластаўкі — стада вераб'ёў.* Дуброва, Холмеч.

ВЕ'ТАШ *ж.* 1. Старызна. *Сабрала усякую веташ і пашла на рэчку мыць.* Холмеч. 2. Палка з пучком травы, якая ставіцца на рэчцы, каб паказаць глыбокае месца. *На рэчкі веташ ставіцца, дзе глыб вымяраецца.* Холмеч.

ВО'ЧЧЫЧ *м.* Пчаляр. *Калі-та, хто сматрэў за пчаламі, называлі воччыч.* Холмеч.

ВЫ'ДЗЮЖЫЦЬ *зак.* Моцна вымачыць. *Сёння нашага пастуха дожч выдзюжыць.* Дуброва.

ГАЛАВІ'СТЫ *прым.* З вялікай галоўкай (пра капусту, цыбулю). Дуброва, Холмеч.

ГАЛЯВІ'СТЫ *прым.* Галінасты. *Дзерава галявістая, гольля многа.* Дуброва.

ГАРМО'НЯ *ж.* Гармонік. *Ціха, толькі далёка заіграла гармоня.* Дуброва.

**ГАРТ** *м.* У выразе: *даць гарту* — зрабіць вымову, выгаварыць. *Мама дасьць гарту.* Холмеч.

**ГІ'ГА** *ж.* Нарасць. ***Гіга** — круглая нарасьць якая-небудзь. **Гіга** як кукуруза.* Холмеч.

ГЛЁЎКІ *прым.* АцесліВы. *Нісмашны хлеб, глёўкі, такі прывезьлі.* Дуброва.

ГЛУХІ' ВАСІЛЁК. Смаржок. Дуброва.

ГНЕ'СЬЦІСЯ *незак.* Тоўпіцца, ціснуцца. *А ў мяне двое цялят гняцецца у адным станку.* Дуброва.

ГНІ'ЛІК *м.* Гніляк. *Усю кардоплю перабрала, тут толькі гнілікі.* Дуброва.

ГО'ЛЬКА *ж.* Галінка. *Гольку адламіла, а сучок астаўся.* Дуброва.

ГО'РА *ж.* У выразе: *а гора яго бяры* — ужываецца як праклён. Холмеч.

**ГРА'СЫ** *мн.* Доўгія ногі. *Як доўгія ногі, кажуць: во грасы!* Холмеч.

ГРУБА'Я *прым.* Цяжарная (пра жанчыну). *Наша Рая грубая, ужо тры месяцы.* Холмеч.

ГУ'БІНА *ж. зборн.* Агульная назва ўсіх грыбоў, акрамя баравікоў. *Баравікоў німа, набраў усякай губіны.* Дуброва.

ГУЛЬБЕ'С *м.* Гультай. *Гетым гульбесам хлеба не даваць.* Дуброва.

ДАЛЯГА'ЦЬ *незак.* Даходзіць (да сэрца). *Усё ей далягае.* Дуброва.

ДАРЭ'М *прысл.* Дарэмна. *Яна каа, што я пайду дарэм работаць.* Дуброва. *Ніхто дарэм ні вязе.* Холмеч.

ДАШЧА'ТКА *ж.* Дранка. *Прывезьлі дашчатку на крышу.* Дуброва.

ДЗЮ'ЖЫЦЬ *незак.* Моцна ісці (пра дождж).

ДО'ЙКА *ж.* Сасок (у каровы). *У каровы дойкі.* Дуброва.

ДО'СЮЛЬ *прысл.* Дасюль, да гэтага месца. *Ад Рудака і досюль.* Холмеч.

ДУБІНА′ *ж.* Дубняк. *Ходзіш па дубіне і збіраеш жалуды.* Дуброва.

ЁМКА *ж.* Чапяла. Холмеч.

ЖА′РЫ *прым.* Руды. *У балоці жарая вада, а пілі ж яе, забалявалі.* Дуброва, Холмеч.

ЖЫ′ЧКА *ж.* Стужачка для медальёна. Холмеч.

ЗА′БАРСКІ *мн.* Вушкі ў лапцях, праз якія прадзяваюцца аборы. Холмеч.

ЗАЗІ′МКАВАТЫ *прым.* Які баіцца холаду. *Такі зазімкаваты хлопец, усё мерзьне.* Холмеч.

ЗАКУ′ТАЦЬ *зак.* Зачыніць. *Закуталі* [*немцы*] *людзей у барак, як прывезьлі, так іх крысы чуць ні з'елі.* Холмеч.

ЗАНУЗДА′ЦЬ *зак.* Закілзаць. Дуброва.

ЗАТАКАВА′ЦЦА *зак.* Загаварыцца. *Затакавалася і забылася ключ аставіць.* Дуброва.

ЗАЧАРЭ′ЦЬ *зак.* Запоўніцца лічынкамі пчол. *Усе зачарэла, стаўлю другі магазін.* Дуброва.

ЗГРЭ′БІЧ *м.* Крук, якім скідаюць гной з калёс. Холмеч.

ЗДРЫК *м.* Авадзень. Холмеч.

ЗНАЦЬ *незак.* У выразе: *німа знаць* — невядома. *Лез німа знаць сколькі.* Холмеч.

ІНДРЫ′ЧАК *м.* Імбрычак, чайнік для заваркі. Холмеч.

КАЗА′Н *м.* Маленькі чыгунок. Холмеч.

КАМЕ′ШНІК *м.* Кут каля печы, дзе стаяць качарга, вілы, чапяла. Дуброва.

КАПАНІ′ЦА *ж.* Матыка. Дуброва.

КА′ПІЦА *ж.* Прывязка ў цэпе. *З рэменя робяць капіцу, з сырыцы.* Дуброва.

КАСІНО′Ю *прысл.* Коса (зрэзана што-н.). *Рэзала і пашло касіною.* Холмеч.

КАТО′К *м.* Кола. *Чаго калёсы без катка?* Дуброва.

КЕ′ЛЬБУХ *м.* Трыбух. *Кельбух і ў каровы і ў свіньні.* Дуброва.

КЕЛЬБУХАВА′ТЫ *прым.* Трыбухаты. Дуброва.

КОЦ *м.* 1. Тканая з воўны коўдра, якая сшывалася ў дзве столкі. 2. Паласатая тоўстая посцілка з суканых нітак. 3. Палавікі з ануч. Холмеч.

КРАСА′ЛЦО *н. памянш.-ласк.* Красала. *Сьпічак ні зналі, красалі агонь залезным красалцам.* Дуброва.

КУ′ЗКА *ж.* Посуд з кары для ягад. Дуброва.

КУЛІ'ТКА *ж.* Буханка. *У горадзе кажуць буханка, а ў нас — кулітка: кулітка хлеба.* Дуброва.

КУЛЬМЕ'НЬ *м.* Сярэдняя частка брадніка, дзе затрымліваецца рыба, куль. *Як ловім рыбу у брэдні, ззадзі будзя мяшок, кульмень, куды рыба пападая.* Холмеч.

ЛАВА'ЦЬ *незак.*, ЗЛАВА'ЦЬ *зак.* Лавіць. *Набегалася я, цялят лавалі. Кот мыш цікуя і лавая.* Дуброва, Холмеч.

ЛАЙНО' *н.* Адзежына, адна посцілка, коўдра. *Дай якоя лайно, я прыкрыю. Лайны ткалі.* Холмеч.

ЛАНЕ'ШЧЫ *мн.* У выразе: *на ланешчы* — на руках. *Яна яго на ланешчы насіла.* Дуброва.

ЛЕ'ПНІ *мн.* Перапечкі з таўчонай бульбы. *Лепні рабіліся з таўчонай картошкі: картошку варылі нячышчаную, у ступе таўклі, тады туды мукі, кускамі раскáтуя, у муцэ паваляя, на бляшку і ў печ.* Холмеч.

ЛЁМ *м.* Ільма. *Лём падобны на вяз.* Холмеч.

ЛУ'ЦЬЦЯ *н. зборн.* Лыка. *Накруціш луцьця ў абаранак і нясеш.* Дуброва.

ЛЯГЕРА' *мн.* Два бервяны, прыстасаваныя для падняцця цяжару. Холмеч.

ЛЯЧА'Й *м.* Асака. *Лячай расце ранняй вясною, мяканькі, ядуць каровы.* Дуброва.

МАДЗЕ'ЦЬ *незак.* Дрэнна жыць. *Нічога ў іх німа, мадзеюць во так.* Холмеч.

МАЛАЧА'К *м.* Малачай. Дуброва.

МАРО'ШЧЫК *м.* Марозік. *Быў марошчык, сьнех, ідом поўз той ручай і бачым — немцы; мы ў кусты.* Дуброва.

МІГАЦЕ'ЦЬ *незак.* Імжыць. *Дошч мігаціць меляанькі.* Холмеч.

МУРАХАЎЁ *н. зборн.* Мурашкі. *Мурахаўя набралі тры каробкі.* Дуброва.

МЫДЛІ'НЫ *мн.* Мыльная вада, у якой ужо мылі бялізну. Холмеч.

НАБРО'ДНЫ *прым.* Прыблудны. *Так і жыве у нас гэты набродны сабака.* Холмеч.

НАКЕ'ЛЗАЦЬ *зак.* Намазаць. *Тут было накелзана.* Холмеч.

НАЛІТО'К *м.* Сакавітая, спелая садавіна. *Харошая дзеўка, як наліток.* Холмеч.

НАПЕ'РНІК *м.* Насыпка. *У мяне напернік дрэнны — пяро прапускае.* Холмеч.

НАРЫ'ТНІКІ *мн.* Паўшоры. Дуброва.

НАРЫ'ЦА *ж.* Падскурны нарыў у каня. *Нарыца на раны б'е.* Дуброва.

НАЎПРАМІ'К *прысл.* Прама. *Наўпрамік ворона лятая ды ніколі дома ні бывая.* Холмеч.

НЕ'ГАДЗЬ *ж.* Непагадзь. *А як спусьціць месяц рогі, дык будзе негадзь.* Дуброва.

НІГО'ДНЫ *прым.* Непагодлівы. *Саўсім сёння дзень нігодны.* Дуброва.

НІГО'ЖЫ *прым.* Непрыгодны. *Як нігожа, дык выкінуць.* Холмеч.

НІ'ЗЬБІНА *ж.* Нізіна. *Асака ў нізьбінах расьце.* Дуброва.

НО'СЦАК *м.* У выразе: *ударыць носцакам*—ударыць нагой ззаду. *Як ударыў немяц носцакам.* Холмеч.

ПАВЕ'СЬМА *ж.* Дзесяць жмень лёну пасля трапання (як мера ўліку). Холмеч.

ПАДЖЭ'РСЬЦІЦЬ *зак.* Падгаварыць. *Паджэрсьціў хлопца з'ехаць.* Холмеч.

ПАДЗЕ'ЛЬЧАВЫ *прым.* Шчодры, які дзеліцца з іншымі. Холмеч.

ПАДЗО'РНІК *м.* Карункі, якія прышываюцца да прасціны. *Падзорнік у простынь на кравацъ.* Холмеч.

ПАДПЛЯТА'НКА *м.* Кручок для падплятання лапцей. *Падпляташка — сьпіцы такія доўгія. Падпляташка вострая.* Холмеч.

ПАЗАЛІ'ЦЬ *зак.* Заліць вадой з попелам (лугам). *Пазаліла плаццяя, пайду мыць.* Холмеч.

ПАЗЬМІРА'ЦЬ *зак.* Павымірадь. *Пазьміралі старыя, гадоў па 70—80 — мала такіх.* Дуброва.

ПАЛАНЬНЯ' *ж.* Месца на рэчцы, якое не замярзае. Холмеч.

ПАЛЗУ'ХА *ж.* Спарыш (трава). Холмеч.

ПАЛІ'ЗЫ *мн.* Ласункі. *За палізамі ён* [хлопчык] *ганяяцца.* Дуброва.

ПАЛО'ВА *ж.* Жытняя ці ячменная мякіна. *Палова пры малацьбе адлятая блізка.* Холмеч.

ПАЛО'ЙКА *ж.* Качан квашанай капусты. Холмеч.

ПАТУЖНЕ'ЙШЫ *прым.* Цяжэйшы. *А мушчыны, каторыя патужнейшую работу робяць, больш палучаюць.* Дуброва.

ПАЎГАЛО'ДВАЦЦА *зак.* Выгаладацца. *Ні было чым карміць, во каровы паўгалодваліся.* Дуброва.

ПАЎПУСКА'ЦЬ *зак.* Павыпускаць. *Карову паўпускала, пастух крычаў.* Дуброва.

ПАЦЫРКА'ЦЬ *зак.* Падаіць. *Карову пацыркаць нада, скора ў поля.* Холмеч.

ПАЦЯГА'НКА *ж.* Кажух, пацягнуты матэрыяй. Холмеч.

ПЕ'ЛЬКА *ж.* Палонка, праломка. Холмеч.

ПІГА'РКІ *мн.* Падгарэўшая вараная бульба. *Варыш бульбу ў печы і з'ясі пігаркі, на пліце так бульбу не зварыш.* Дуброва.

ПЛА'ЦЬЦЯ *н.* Бялізна. *Пазаліла плацьця. Пайду мыць.* Холмеч.

ПЛУ'ЖЫЦЬ *незак.* У выразе: *год на год не плужыць* — год на год не прыпадае. Дуброва.

ПЛЯСЬНІ'ВЫ *прым.* Плямісты. *Карова плясьніва: уся чорна, а па ёй белыя пятна.* Дуброва.

ПО'ЛКА *ж.* Пасцілка, пялёнка. Холмеч.

ПО'ПРАДНІЦА *ж.* Папрадуха. Дуброва.

ПО'ШЛЫ *прым.* Дрэнны. *Пошлы — такі плахі.* Холмеч.

ПРАНУ'ЗЬЛІВЫ *прым.* Шкадлівы. *Пранузьлівая карова — шкадлівая, каторая блудзіць, збродная.* Холмеч.

ПРАСЦІРА'ДЛА *н.* Прасціна. Холмеч.

ПРЫДЗЮ'ЖЫЦЬ *зак.* Моцна пайсці (пра дождж). *Вот прыдзюжыў дождж.* Холмеч.

ПРЫКВІТА'ЦЬ *зак.* Прывітаць. Холмеч.

ПРЫПО'РАВАЦЦА *незак.* Спраўляцца па гаспадарцы. *Прыпораюсь — у мяне ж і куры і каровы.* Холмеч.

ПУ'ШКА *ж.* Порхаўка. Дуброва.

ПЫЛЁНАК *ж.* Кураня. Дуброва.

ПЫЛЯ'КА *ж.* Пыл. *А пылякі колькі!* Дуброва.

ПЯРВУ'ШЧАНКА *ж.* Карова з першым целем. Дуброва.

ПЯРЭ'ЎНАМ *прысл.* З перапынкам (пра дождж). *Дождж пярэўнам ідзе.* Холмеч.

РАЗНІХА'ІЦЬ *зак.* Адгаварыць. *Мы яе разніхаілі, ні паехала.* Холмеч.

РАСТАРГНУ'ЦЦА *зак.* Развесціся (пра мужа і жонку). *Чаго яна з ім растаргнулася?* Холмеч.

РАСЦЁГЛЫ *прым.* Расцягнуты.

РО'ЛКІ *мн.* Палкі для сушкі снапоў. Дуброва.

РЫБА'ЛІЦЬ *незак.* Рыбачыць. Холмеч.

РЫ'НКА *ж.* Драўляная міска. Дуброва.

САЛІТЫ'РКА *ж.* Міска. *Баба на міску гаварыла салітырка.* Холмеч.

СІБЕ'ЛЬ *ж.* Плотка. *Сібель ходзіць стаямі.* Холмеч.

СІГ *м.* Шаг. Холмеч.

СІГА'ЦЬ *незак.* Шагаць. *Сігай, ні бойся.* Холмеч.

СІПЕ'ЦЬ *незак.* Шыпець. *Чаго сіпіш, як гадзюка?* Дуброва.

СІ'ТАВЫ *прым.* Вынашаны да празрыстасці (пра адзежу). *Спадніца выцерлася, прама сітавая стала.* Дуброва, Холмеч.

СПА'ДКІ *мн.* Спадчына. *Асталіся нейкія спадкі і тыя забралі, ні аставілі хлопцу.* Дуброва.

СПЛЕ'ТАЦЬ *незак.* Сплятаць. *Із шарсьцей у пасьмі сплетаяш пазьней.* Дуброва.

СПРАКУВЕ'КУ. *прысл.* Спрадвеку. *Спракувеку мы тут ні пасом.* Дуброва.

ССЫ'САЦЬ *незак.* Ссысаць. *Малака мала, цяля карову ссысая.* Дуброва.

СТРА'ДНІЦА *ж.* Пакутніца. Дуброва.

СУ'БАР *м.* Дробнае зерне з розных відаў зернявых. *Субар — адходы з пшаніцы, з ячменя — усё мелкае зярно.* Холмеч.

СУЗДРО'МНЫ *прым.* У выразе: *суздромнае валакно* — лён, абчасаны на грэбень. Холмеч.

СЫРАВЫ' *прым.* У выразе: *сыравое палатно* — неадбеленае палатно. Холмеч.

СЬЛЮТА' *ж.* Слота. Холмеч.

СЬЦІХЕ'Я *ж.* Стыхія. *Такая была бура: вувярнула дрэвы, пашкодзіла людзей, скот пагіб — сьціхея.* Дуброва.

СЬЦЯКА'ЦЬ *незак.,* ПАСЬЦЯКА'ЦЬ *зак.* Рабіцца кволым ад недахопу святла (пра расліны). *Гуркі травой зараслі і сьцяклі.* Дуброва, Холмеч.

СЯ'ДРАВЫ *прым.* 1. Ядраны. *Расьценне бывая вялая, а з ночы такоя сядрава.* 2. Сакавіты. *Самая сядравая яблыка, аш сок цячэ.* Дуброва.

СЯРО'Н *м.* Шарпак. *Сярон: на сьнягу слой тонкага лядку, ідзеш і трашчыць.* Дуброва.

ТЫРСА' *ж.* Пілавінне. Холмеч.

УВАГНА'ЦЬ *зак.* Выгнаць. *Наш скот увагналі з дзярэўні.* Дуброва.

УЗДУ'МАЦЬ *зак.* Успомніць. Дуброва.

УЛО′НЬНЯ *н.* У выразе: *на улоньні* — на каленях. *Дзіця сядзіць на улоньні.* Холмеч.

УМЕ′РЦІ *зак.* Памерці. *Яна даўно ўмерла, я была малая.* Дуброва.

УМО′ЎЧЫЦЬ *зак.* Змаўчаць. *Мы ні ўмоўчым.* Дуброва.

УЧКУ′Р *м.* Тканая тасьма, якая ўцягваецца ў пояс штаноў. Холмеч.

ХАЛО′СТЫ *прым.* Халасты. *Маладзіца — маладая жэншчына жаната, а если халоста — дзеўка.* Дуброва.

ХА′ЛЯПА *ж.* Хлюпота. *Халяпа — сьнег мокры, мокра, ніхароша пагода.* Дуброва.

ХВІ′ЛЯ *ж.* Мяцеліца. *Хвіля ўсхадзілася — кажуць тады, як сьнег мяце з ветрам. Чуць прышла, такая хвіля!* Холмеч.

ХІ′ЖЫНА *ж.* Невялікая хата. *Хіжыну няшчасную пастроіш, бывала.* Холмеч.

ХІТА′ЦЦА *незак.* Ківацца, хістацца. Дуброва, Холмеч.

ХІТА′ЦЬ *незак.* Ківаць, хістаць. Дуброва, Холмеч.

ЦУРБА′ЛАЧКА *ж.* Кавалачак дрэва, які выкарыстоўвалі для зашпільвання адзежы. *На цурбалачку штаны зашпільвалі.* Холмеч.

ЦЯЛЬБУ′Х *м.* Страўнік у каровы. Холмеч.

ЧУГА′Н *м.* Чыгун. *Выцягну чуганы, пакуль ачахлююць!* Дуброва.

ЧЭКМЕ′НЬ *м.* Армяк з саматканага палатна. Холмеч.

ШАМПІВО′Н *м.* Шампіньён. Холмеч.

ШПО′РЫЦЬ *незак.* Апарваць. *Трэба мякіну шпорыць.* Холмеч.

ШЧЫК *м.* Верхавіна дрэва. *Урэш той шчык.* Дуброва.

Ю′ХТА *ж.* Юхт. *Юхта — вырабленая скура.* Холмеч.

Я′КСЬЦІ *прысл.* Нейк. *Яшчэ кажуць яксьці на гэту траву.* Холмеч.

Я′КСЯ *прысл.* Нейк. Дуброва.

*У. М. Свяжынскі*

# З ЛЕКСІКІ ВЁСКІ ТУРАСПОЛЛЕ УШАЦКАГА РАЁНА

Змешчаны тут лексічны матэрыял размяркоўваецца па асноўных лексіка-граматычных разрадах знамянальнай лексікі — назоўнікі, прыметнікі, дзеясловы, прыслоўі. У семантычных адносінах гэта ў асноўным бытавая лексіка, якая аб'ядноўвае назвы прадметаў хатняга ўжытку, страў, адзення, дзеянняў, звязаных з выкананнем работ па хатняй гаспадарцы. Нязначную па колькасці ўключаемых слоў групу ўтварае ў нашай падборцы лексіка сельскагаспадарчая, а таксама промыславая (рыбалоўная), будаўнічая, рамесніцкая, назвы жывых істот і раслін.

У стылістычных адносінах найбольш шырока тут прадстаўлена лексіка экспрэсіўная, якая ў жывых народных гаворках утварае, як правіла, адзін з самых значных па аб'ёму пластоў. У нашай падборцы — гэта словы, якія служаць для выражэння негатыўных адносін да людзей, іх дзеянняў, а таксама прадметаў. Словы гэтага характару забяспечаны адпаведнымі стылістычнымі паметамі.

Этымалагічная няяснасць асноў некаторых слоў, страта гэтымі асновамі сваіх самастойных значэнняў, непрадуктыўнасць словаўтваральных мадэлей такіх лексем сведчыць аб іх старажытнасці. Гэта пацвярджаецца таксама і тым, што некаторыя з гэтых слоў адзначаюцца ў помніках старажытнарускай пісьменнасці.

Згодна з прынцыпамі зборніка, дадзеная падборка ўключае словы, якія не адзначаюцца ў вядомых у сучасны момант слоўніках дыялектнай лексікі. Акрамя лексічных рэгіяналізмаў тут змяшчаюцца таксама словаўтваральныя і фанетычныя.

Агульнай для ўсіх прыведзеных слоў з'яўляецца іх прыналежнасць да актыўнага слоўнікавага запасу гаворкі.

АБДЗЁРЪШНЪЙ *прым.* Шатраваны (пра муку). *С абдзёръшнъй мукі хлеп добръй.*

АЗА′ДЗЬДЗЯ *н.* Пазадкі. *Каровъм азадзьдзя ціпер даюць, дък і мълъка пабóліла.*

АПА′ДЪШ *м.* Яблык ці груша, што ўпалі з дрэва. *Апáдъшы нъ канпóт.*

АПЛІТА′НІК *м.* Шкляны ці гліняны збан, аплецены лазой ці ліпавым лыкам. *Гарэлка ў аплітаніку бъла ў сені схъвана.*

АПСА′ДА *ж.* Аконная шуфляда. *Нада найці добръга лесу нъ апсаду.*

АПШАСЬЦІ′ЦЦА *зак.* Ідучы па кладцы, страціць раўнавагу. *Апшасьціўся і — бух у ваду!*

АПШЪЛЮВА′ЦЬ *зак.* Абшыць сцены хаты дошкамі. *Нада хату апшълювáць, а то зімой халонна.*

АСЪКЪВА′ТЪЙ *прым.* Які змяшчае ў сабе асаку (пра сена). *Сена троху асъкъвáтъя, дък карова ня хочъць есьці.*

АСЭ′СЪР *м.* і *ж.* Чалавек, які любіць камандаваць. *Тожа мне асэсър, ідзі съма ды зроп.*

АСЯНЧЫ′НА *ж.* Нізкаякаснае сена. *Аткасіў асянчыны зь вяску.*

АТРЪЗА′НІКІ *мн.* Старыя боты з адрэзанымі халявамі. *Надзень атръзанікі, кароў пасьціць добра.*

АХМУРЭ′ЦЬ *зак.* Захірэць, набыць дрэнны выгляд. *Нешта ты, браток, ахмурэў.*

БАДЗЮ′ЛЬКА *ж.* Матавіла для наматвання і захоўвання льняной пражы. *Вазьмі атмътай нітък з бадзю́лькі, калі тъбе нада.*

БАЛО′ТНІНА *ж.* Балотняе сена. *А нъ маім шнуры троху ёсь балотніны, алі нічога, сена нядрэннъя.*

БІЗБА′ЦЬКЪВІЧ *м.* Непаслухмяны сын, неслух. *Бізбацькъвіч: ня слухъіш нікога.*

БІРУ′ЛЬКА *ж.* 1. Глінянае грузіла ў рыбалоўнай снасці. *Бірулькі ў сеццы йшчэ цэлъі.* 2. Пястун. *Расьцець бірулькъй, робіць ня хочъць.*

БЛЭ′НДЪЦЬ *незак.* Блукаць без справы. *Ні работы, ні пуўработы: так блэндълі.*

БУРВА′ЛЪК *м.* Кавалак бервяна, калода. *Вазьмі, пъдлажы якій бурвалък пъд угол.*

ВАЎНЕ′НКА *ж.* Ваўнянка, від грыба. *Кашэль ваўненък нъзьбірай.*

ВІ′ТКА *ж.* Скручаны лазовы дубец, якім прывязваецца паплеціна пры крыцці страхі саломай. *Вот нарэзъў вітък, думъю крышу піръкрървацъ.*

ВО′ТВІТКІ *мн.* Адведзіны. *У Галі ш дъчка радзілъся, дък я ў нядзелю ў вотвіткъх бъла.*

ВУДАЎЁ *н.* Вудзільна. *Як цягнуў* [рыбіну], *дък аш вудаўё сагнулъся.*

ВУ′ЗА *ж.* Пчаліныя соты з мёдам. *Вузы нъклалі поўнъй мідагон.*

ВЫ′ГЛЪДЗІЦЦА *зак. іран.* Патлусцець. *Кот выглъдзіўся, аш луны* [па поўсці] *ідуць.*

ВЫ′ЗЪБЪЦЦА *зак.* Вырасці высокім. *Во вызъбъўся, ужо въшэй зъ бацьку!*

ВЫ′ЛУПІЦЦА *зак. іран.* Прыфранціцца. *Гетъ ш бъгатъй: нъ работу й то вылупіцца.*

ВЫ′ЛУПЪК *м.* і *ж. іран.* Франт. *І гена вылупък пънісласся ў клуп.*

ВЫ′МІРГЪВЪЦЬ *зак.* Вымеркаваць. *З гэтъй мацеръі можна йшчэ курту выміргъвъць.*

ВЫ′ПЛІНТЪВЪЦЬ *зак.* Гладка выкасіць. *Сарока вун ужо котлъвіну выплінтъвъў.*

ВЫ′СЬПІТЪК *м.* Удар нагой. *Як дъла ей высьпіткъм, дък тая аш пувалілъся.*

ВЫ′ХЪРТЪВЪЦЦА *зак.* Прагаладацца. *Як выхъртъвъісься, дък усячъна з′ясі.*

ВЯЗЁНКА *ж.* Вязаная кофта. *Надзень вязёнку, а то халонна!*

ГА′БЪЛЬЛЯ *н.* Сухая, камякаватая зямля. *Так цяшка йці па гетъму габъльлю!*

ГА′ВІДА *ж.* Натоўп; вялікая колькасць дзяцей у сям′і. *Такую гавіду нада пръкарміць!*

ГАМЭ′РНЯ *ж.* У выразе: *як у гамэрні* — пра шумнае зборышча. *Як саберъцісі ўсе, дък у хаці, як у гамэрні!*

ГА′РНІЦ *м.* Сплеценая з саломы і ліпавага лубу пасудзіна ў форме вялікай міскі (служыць мерай сыпучых цел). *Жыта гарцы два змалола.*

ГАРНУ′ШЪК *м.* Маленькі гаршчок з гліны, кубак. *Малако ў гарнушку вазьмі.*

ГАРЧЪК *м. памянш.* Маленькі *гарніц. Мукі гарчък усыпъла.*

ГЛЫШ *м.* Сухі камяк зямлі. *Глъжамі ў карову кідаў.*

ГРАМЕ′КНУЦЦА *зак.* З шумам упасці. *Ноччы с кръваці як грамекнуўся!*

ГРУЗО'ЛЪК *м.* Неразвараны кавалак гародніны ў страве. *Буракі сягоньні — анны грузолкі!*

ДЗЯ'ЧЪЦЬ *незак.* Шчыра гаварыць, паведамляць *А іна мне дзячъць: бацька гарэлку піў.*

ДУБІ'ЦА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з тоўстага дрэва. *Віцька Ягоръў нъ дубіцы рыбу вудзіць.*

ДУКРЫ'ЦЬ *незак.* Настойліва ўтлумачваць што-н. *Я ш свайму дукрў біс кънца: учыся, калі хочъш чълавекъм стаць.*

Е'ШЧЪЙ *прым.* Які добра есць (аб жывёле). *Мой пърасёнък такій ешчъй: што ні дасі—як зъ сябе закініць!*

ЗАЛО'БЪК, УЗЛО'БЪК *м.* Франтон. *Залобък нада зашыць, а то вецір крышу сарвець. Пъд узлопкъм гълубы жъвуць.*

ЗАСЬМЕ'ЦІНЫ *мн.* Адходы смятаны пры біцці масла. *Там у бойцы засьмеціны.*

ЗАЎСТРЭ'ЦЬ *зак.* Затрымацца, замарудзіць. *Што ты там заўстрэла, хадзі скарэй!*

ЗГРЫ'МСЬЦІЦЬ *зак. груб.* Украсці. *Мусіць, ты ў міне аброць згрымсьціў?*

ЗНАЦЬЦЁ *н.* Веданне, дасведчанасць. *Къб знацьцё, дъг зек ба ні пъшла: саўсім гръбоў німа!*

ЗЪКАМЫ'РДЗІЦЬ *зак. груб.* Задраць (нос). *Ні люблю я йіе: ідзець — нос зъкамырдзіць!*

ЗЪКЪБА'ІНА *ж.* Закутак, завадзь. *У гетъй зъкъбаіні, мусіць, рыбы многа.*

ЗЫ'ГЪРЪТКА *ж.* Загон. *Карова зыгърътку ръзламіла і вылізла.*

ЗЬВЯРЫ'ЦА *ж.* Злосная жанчына. *Зьвярыца, нашто ты рабёнка б'еш?*

КАВУ'Р *м.* Від качкі, нырэц. *Вун кавур нъд вадой лётъіць.*

КА'НЬКЪЦЬ *незак. груб.* Настойліва выпрошваць што-небудзь. *Дажы ні канькъй: усі раўно ні дам.*

КАРКУ'ШКІ *мн.* У выразе: *несьці нъ каркушкъх* — несці за плячамі. *Я цібе пънясу нъ каркушкъх.*

КАРО'МІСІЛ *м.* Карамысла для пераноскі вёдзер з вадой. *Бяры вёдры, каромісіл, схадзі на рэчку вады.*

КАРШЭ'НЬ *м. груб.* Карак. *Як дам у каршэнь — і ўсё тъбе будзіць.*

КІНЬДЗЮ'К *м.* Свіны страўнік, набіты дробна нашынкаваным мясам са спецыямі. *Узьлéсь нъ гару, дъстань кіньдзюкá.*

КЛЯ′МЪР *м.* Металічная скаба, за якую засоўваецца засаўка дзвярэй. *Зълажы палкъй зъ клямър, а то карова вылізіць.*

КО′ТЛЪВІНА *ж.* Катлавіна. *Генька ўсю котлъвіну выкъсіў.*

КРУЦІ′ЦЦА *незак. груб.* Распуснічаць (пра жанчыну). *Йіна ш із генъм электръкъм круцілъся.*

КРЪСА′ЎКА *ж.* Чырванапёрка. *У Мъстах добра кръсаўкі бяруцца.*

КУ′КА *ж.* Вялікі драўляны молат для разбівання сухіх камякоў зямлі на агародзе. *Вазьмі куку, пабі глъжы.*

КУ′МІЛЬЛЮ *прысл.* Стрымгалоў. *Коні як нъпужалісі вуўка, дък кумільлю аттуль!*

КУСА′НЪК *м.* Адкусаны кавалак. *Нада мне мой кусанък даесьці.*

КЪЛАТО′ЎКА *ж.* Мяшалка ў выглядзе палачкі з неабрэзанымі на адным канцы сучкамі. *Вазьмі кълатоўкъй ръзьмішай.*

КЪРЧАЎЁ *мн. пагардл.* Старыя. *А тыі кърчаўё дажы вады събе ні прънясўць.*

КЪТЛА′ЖЪНА *ж.* Невялікая катлавіна. *Нада апкасіць гету кътла́жъну.*

ЛАВЭ′Р *м.* Вялікі непарадак. *У хаці лавэр — пръбраць некълі.*

ЛАГОЖЫ *мн.* Старыя паламаныя сані. *На гетъх лагожъх дроў ні пръвязёш.*

ЛА′ЙБА *ж.* 1. Вялікая лодка. *Ръбакі нъ лайбі невът вязуць.* 2. Карова з вялікім жыватом. *Гена лайба ўжо ў клёвір палезла.*

ЛАЙНО′ *н.* Адзежына. *Пъсьцялі лі парогу якоя лайно, а то мост затопчуць, дък і знаку ня будзіць.*

ЛАТО′КА *ж.* Лагчына, катлавіна. *Мікола ўсе латокі пувъка́шъвъў.*

ЛА′ЦІНА *ж.* Лата. *Я ўжо нескулькі лацін апчъсаў.*

ЛЪБЪЗА′ *ж. пагардл.* Нізкаякаснае грубае сена. *Аткасіў лъбазы хоць, можа, зімой* [карова] *і з'есь.*

ЛЪПА′ТНІК *м.* Пірог, які са́дзіцца ў печ на драўлянай лапаце. *Хлеба нет, дък я сьпікла лъпатнік ка ньню.*

ЛЪЧБА′Н *м. груб.* Галава. *Атхіні свой лъчбан, а то ні відаць нічога.*

ЛЫ′ТКА *ж.* Вузкая палоска зямлі. *Нада ўзъраць тую лытку, хай ні астаецца нъ заўтра.*

ЛЯНУ′ХА *ж.* 1. Малочны суп з капустай. *Сягонні лянухі зварыла.* 2. Прыступка каля ляжанкі печы. *Ты лесь на печ, а я нъ лянусі пъсяджу.*

МАГРЭ′ТА *ж. іран.* Праставатая кабета. *Во, магрэта, хоць бы стол сьцёрла, а то так і ставіць міску.*

МЪЛІЗЫ′НКА *м.* і *ж. груб.* Ласы, пераборлівы ў ядзе чалавек. *Мълізынка ты, усё тъбе ні ў лат.*

МЪНТРАМО′ЗЬЗЯ *н. пагардл.* Рыззё, транты. *Выкінь гета мънтрамозьзя, у хаці яму ня места.*

МЯРЛІ′НА *м.* і *ж. груб.* Соня. *Мярліна, ці до тъбе спаць?*

МЯСЬЦЕ′РЪЦЦА *незак.* Прыстройвацца, прыладжвацца. *Што ты тут мясьцеръсься? Пъра спаць ужо.*

МЯЧЭ′ЎНІК *м.* Рагоз. *Мячэўнік у рацэ расьцець.*

НАГДО′ВІНЬ *прысл.* Нядаўна, надоечы. *Я нагдовінь йіе відзіла.*

НА′ЛЬЛЯ *н. грэбл.* Навала, напасць. *Ну й нальля ці геты куры: ніяк іх ні ўкарміць.*

НА′ТЪРЧЪНЬ *м.* Патарчака. *Ідзі сяць, ні стаі, як натърчънь.*

НЪВЯ′ЛІЦЦА *зак.* Накінуцца на каго-н. з лаянкай, папрокамі. *Што ты нъвяліўся нъ рабёнка.*

НЪПАДО′ЙМІШЧА *прысл.* Цяжкі. *Кот ръстаўсьцеў — нъпадоймішча!*

НЯВЫ′ВЪЛЪКА *м.* і *ж.* Маруда. *Ідзеш, як нявывълъка.*

ПАДЛЁ′ТЪК *м.* Птушаня, якое яшчэ не навучылася як след лятаць. *Злавіў вірьб'я-падлётка.*

ПАЙСТКО′М *прысл.* Шчыра. *А йіна, што чула, усё пайстком ръскъзала.*

ПАКУ′ЛА *ж.* Пакулле. *Нада шчэлкі пакулъй апторкъць, а то дуіць.*

ПА′КЪЛЪК *м. груб.* Тоўстае палена. *Пакълкъм пад ногі як судлыжъць.*

ПАЛЁГЛІЦА *ж.* Палёгшае збожжа. *Стъячъя жжаць, а палёгліцу — касой.*

ПАСЕ′ЙКІ *мн.* Высеўкі. *Пасеік курам пасып.*

ПАСЬЦІ′ЛКА *ж.* Ільняная тканая коўдра. *Накрыйся пасьцілкъй, а то ночны халонна будзіць.*

ПА′ТРЪПНЪЙ *прым.* Зроблены з «патрап'я». *Даўней спадніцы патрьпнъі насілі.*

ПА′ТРЪП′Я *н.* Адходы льну пры трапанні. *Патръп'я събяры ў кучу.*

ПАТСТРУ'НЪВЪСТЪЙ *прым.* Даўганогі. *Конь красівъй, патструнъвъстъй.*

ПІРАВУ'ЗЬЗЯ *н.* Вузкае месца. *Пойдзім нъ піравузьзя, можа, там пярэйдзім.*

ПІЧАНЁЎКА *ж.* Пячонкавая каўбаса. *Люблю капусту іс пічанёўкъй.*

ПЛАСКО'НЬНЯ *н. зборн.* Маніцы. *Нада пласконьня ў сені ўнесьці, яно ўжо высъхла.*

ПЛЯНІ'ЦА *ж.* Пастка. *Пляніцу длі віраб'ёў зробіў.*

ПО'КЪЦЬЦЮ *прысл.* Упокат. *Жарка, дък каровы ўсе покъцьцю ліжаць.*

ПО'ТСЬЦІЛЬ *ж.* Подсціл. *Пайду вяску потсьцілі пръняcу.*

ПУБАЕ'ШКА *ж.* Даўбня. *Бі пъ абуху пубаешкъй.*

ПУПІХА'ШКА *м.* і *ж.* Чалавек, якім кожны камандуе. *Ні хачу быць пупіхашкъй.*

ПУ'ТРА *ж.* Хлебны квас. *Вун путра ў дзежцы, вазьмі напіся.*

ПРАЖО'НКА *ж.* Мачанка. *Пражонкі к сьвяту нъварыла.*

ПРА'ТЪЦЬ *незак.* Праць. *Пълъвікі пратъла нъ рацэ.*

ПЪЛА'НКІ *мн.* Начоўкі для веяння зерня. *Жыта высъп у пъланкі.*

ПЪ НА'КЪЛІСЬСЮ *прысл.* Абы-дзе. *Ходзіш пъ накълісьсю, а дома матка робіць.*

ПЪТКУСІ'ЦЬ *зак. груб.* Упікнуць, папракнуць. *Йіна міне пъткусіла, што мой сын із нявесткъй дрэнна жъвець.*

ПЯКО'ЛЪК *м.* Тое, што і *ляпуха* 2. *Анучы палош нъ пяколък, хай сохнуць.*

РО'ЗЬВІНЫ *мн.* Рэзгіны. *Вазьмі розьвіны, сена пръняcі карові.*

РЪГАЗЬЗЁ *н. груб.* Вельмі сукаватае («рагатае») галлё. *За гетъм ръгазьзём прайці неік.*

РЪГЪЧА' *прысл.* На карачках. *Так напіўся, што ішоў дамоў ръгъча.*

СІЛЯДО'ЎКА *ж.* 1. Вялікая бочка для засолкі селядцоў. *Сілядоўку нада на возіра занесьці, а то рассохлъся.* 2. *абразл.* Абжора. *Сілядоўка: есь, як ні ў сібе.*

СКРУЦІ'ЦЦА *зак.* Сысці куды-н., змыцца. *І тая некуды скруцілъся, а тут анна хуць пупарвіся.*

СКЪБЛЯ'ЦІНА *ж.* Поснае мяса. *Скъбляціна: сусім жыру німа.*

СПУ'ЛІЦЬ *зак. груб.* Украсці. *Нехта мае аграблі спуліў.*

ССО'ВЪЛЪКА *ж.* Палка з набітай на канец дошкай для ссоўвання ў кучу зерня, смецця. *Ссовълъкъй вазьмі ссунь у кучу.*

СТАМЖЫ'ЦЬ *зак. груб.* Украсці; згубіць; страціць; сапсаваць чужую рэч. *І тапор ужо стамжылі, нечъм дроў расьсеч.*

СТУСІ'НА *м.* і *ж.* Чалавек высокага росту. *Выръс стусіна, касьцюма ні пъдъбраць.*

СТЪКА'ЦЦА *незак.* У выразе: *ні стъкацца* — не бываць, не затрымлівацца. *Дзе ён маццы паможъць што, калі ён дома ні стъкаіцца.*

СТЪЎБУНО'К *м. памянш.* Высокі гліняны збан. *Стъўбунок мълъка нъцадзіла.*

СУДЛЫ'ЖЪЦЬ *зак.* Ударыць. *Матка міне ні дагоніць, дък пакълкъм пад ногі як судлыжъць!*

СЪШЧАЎГНУ'ЦЦА *зак.* Саслізнуць. *Ідзі пацíху, а то съшчаўгнесься — ў ваду ўляціш.*

СЬЛІМЪЗА' *м.* і *ж. груб.* Плакса. *Ніколі твае вочы ні пръсъхаюць, сьлімъза.*

СЯРНІ'ЧКА *ж.* Запалка. *Вун сярнічкі ліжáць на коміні.*

ТО'НЯ *ж.* 1. Месца, дзе водзіцца рыба, затон. *Тут тоня добръя, можна рыбы нълавіць.* 2. Адзін запуск невада ў ваду. *Ръбакі ўжо анну тоню выцігнълі.*

ТО'ЎЛА *ж. абразл.* Мажная, непаваротлівая жанчына. *Тая тоўла пакуль паверніцца, дък каровы будуць у бульбі.*

ТРЪПА'ЧКА *ж.* 1. Самаробны брусок для вастрэння касы. *Тръпачку на пожні, мусіць, забыўся.* 2. *м.* і *ж. абразл.* Балбатлівы чалавек. *Гета тръпачка ўсё пірърдась.*

УБІ'ЦЦА *зак. груб.* Пралезці, уладкавацца. *Дурак дураком, а вот сумеў убіцца.*

УБУ'ХЪЦЦА *зак.* Упасці (у ваду, гразь). *Ноччы йшоў, як убухъўся ў кънаву — прышоў увесь мокръй.*

УГРУНЁМ *прысл.* Стрымгалоў. *Събака ш як увідзіць къта, дък угрунём за ім!*

УГЪМУВА'ЦЦА *зак.* Супакоіцца. *Што ніяк ні ўгамуісься?*

УЗВА'ЛЬЛЯ *н.*, УЗВА'ЛЪК *м.* Высокі бераг возера. *Іван ды Мар'я каціліся с узвальля. Я пъд узвалък ні падлезу.*

УЗНАСІ'ЦЦА *зак. абразл.* Забегаць, задурэць (аб дзецях). *Узнасіўся, аш хата хъдуном ходзіць.*

УЗЬБІ'ЦЦА *зак.* З цяжкасцю набыць нешта вялікае і важнае. *Вот і нъ карову ўзьбіўся.*

УКЛІПА'ЦЦА *зак.* Абазнацца. *Гляджу: ён ці ня ён і баюсю ўкліпацца.*

УСКРУЦІ'ЦЦА *зак. экспр.* Рана ўстаць. *Чаго ты ўскруціўся, йшчэ сонца ні ўзъйшло.*

УСЬЦІ'НІЦ *м.* Нага. *Січас як дам усьцінцъм.*

УХНА'ЛЬ *м.* Цвік, якім падбіваюць коням падковы. *У кузьні ціпер ухналёў німа.*

ХЛЕ'БНІЦА *ж.* Дзяжа, у якой расчыняюць хлеб. *У хлебніцы цеста пъдъмаіцца.*

ХЛЯ'ПА *ж.* Снег з дажджом. *Нъ дварэ хляпа — сьвету ні відаць!*

ХЪЛАДЗЁНКА *ж.* Халодная вада. *Пръянясі хъладзёнкі — разьвесьці гърачъю.*

ЦЁРЛА *н.* Гліняны збан з шырокім горлам. *Масла ў цёрлі ў сянёх стаіць.*

ЦІЦЕ'ПІРСЯ *прысл.* Даўно. *Ціцепірся сонца ўзъшло, а ты ўсё сьпіш.*

ЦЯЦІ'ЎЯ *н. зборн.* Шнуры, на якія нацягваецца рыбацкая сецъ. *Нехта цяціўя ў сецы парэзъў.*

ЧАЛЕ'СЬНІК *м.* Чалеснікі. *Анучы павесь нът чалесьнікъм — хай высъхнуць.*

ШУМА *ж.* Смецце. *Нада шуму вон выкінъць.*

*Л. Ф. Шаталава*

## У ДЫЯЛЕКТНЫ СЛОЎНІК

Матэрыял запісан у вёсцы Ламское Крупскага раёна.

АБРЫ′СЬ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць ката. *Абрысь, кап ты здох!*

АГАТУ′КАЦЬ *незак.* Крычаць а-га-ту (звычайна на ваўка). *Глядзім, бяжыць воўк прама к авечкам, мы тады дывай на яго агатукаць.*

АДНАТРО′СНЫ *прым.* Рэдкі (пра палатно). *Даўней мы кідалі па адной ніткі ў бёрда і ткалі аднатроснаё палатно, рэткоё.*

АПІНА′ТКА *ж.* Посцілка, якой завязвалі калыску. *Апінаткай апінула люльку, кап дзяцёнку было цёпла.*

АПІНА′ЦЬ *незак.* Завешваць. *Апінаткай даўней апіналі люльку.*

АПРА′ДАЧАК *м.* Недапрадзены астатак кудзеліны. *Кудзельку, дзякуй богу, спрала, а маленькі апрадачак астаўсі.*

АПСАДЗІ′ЦЬ *зак.* Асадзіць (вокны, дзверы). *Апсаду я прыгатовіў, нада апсадзіць акно.*

АСУКЪВА′ТЫ *прым.* Падобны на асаку (пра траву); з асакой (пра сена). *Балотноё сена асукъватоё, каровы ня хочуць есьці.*

АТНІ′МКА *ж.* Ануча, якой бяруць гаршкі. *Цугунок гърачы, вазьмі атнімку, кап ні спікла рукі.*

АТХЛУ′ДЗІЦЬ *зак.* Адсцябаць, адлупцаваць. *Узяў палку і дужа яго атхлудзіў.*

АТЫХО′ДЫ *мн.* Лішак асновы ў шырыню пры накідванні ў ніты і бёрда, які з'яўляецца рэзультатам памылкі пры снаванні. *Лішніё ныснъвала і ідуць атыходы нъзат у кръснах.*

АШКЫ′РА *выкл.* Вокрык, якім адганяюць авечак. *Ашкыра, куды!*

АЮ'СЬ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць свінней.

АЯ'Й *выкл.* Выкрык, якім выражаюць здзіўленне. *Аяй, што яно тут надзелала, усе цугункі паразлівала!*

БАЛЬНА' *ж.* Абалонь. *У сасонцы мелкая бальна, харошая будзіць лучына.*

БІЦУ'К *м.* Біч. *Добры дубовы зьдзелаў біцук к цэпу.*

БІШЧА'НКА *ж.* Пасудзіна, у якую налівалі ваду, сыпалі пясок, лажылі брусок для вастрэння касы ў час кашэння. *Наліў у бішчанку вады, насыпаў пяску, палажыў брусок — гэта ўсё бралі для вастрэньня касы, кап яна добра касіла.*

БЛІЗНА' *ж.* Брак пры тканні палатна. *Калі кабылка парвецца ніжнія, тады падлепа ідзець павярху, а ў палатне ідзець блізна.*

БРАСКУ'ШКІ *мн.* Шамкі. *Зачапі каню браскушкі, паедзім на свадзьбу.*

БРУЧКО'ЎНІК *м. зборн.* Лісце і сцяблы бручкі. *Пъчаў сохнуць наш бручкоўнік.*

БРЭ'ТКІ *мн.* Вытканая з грубай пражы посцілка, у якой насілі з поля траву. *Із таўстых, грубых нітак даўней ткалі брэткі насіць траву із балота. Брэткі неабхадзімая вешч у хъзяйстве.*

БУ'ЛДАЎКА *ж.* Зялёны яблычак на бульбоўніку. *На бульбоўніку растуць булдаўкі зялёныя.*

БЪДЗЯ'ЎКА *ж.* Распусніца. *Бъдзяўка ты і ў хаці ніколі німа.*

БЪЛГА'Н *м.* Полаг. *Пашыла бългаи і павесіла нат кръваццю, кап мухі ні кусалі і цёпла было.*

БЪРА'Н *м.* Дэталь у калаўроце, на якую надзяюць шпульку. *На бъран надзяецца шпуля, а патом рэпкаю закручваіцца.*

ВА'РЫВА *н.* Бацвінне. *Нылъмала варыва, будзім варыць халаднік.*

ВІКО'НА *ж.* Абраз. *Вышыла набожнік і павесіла на віконы.*

ВІРО'К *м.* Невялікая палачка з засечкамі па канцах, пры дапамозе якой наматваюць ніткі на клубок. *Вазьмі вірок і мътай ніткі на клубок.*

ВО'ТРЫНЫ *мн.* Буйная мякіна. *Вазьмі мятлу і згані із гранкі вотрыны. Вотрыны сыпім у засетнік. Вотрыны мятлой съгнала, а цяпер буду грыблямі варочаць гранку.*

ВУ'РЗГАЦЬ *незак.* Сёрбаць. *Што ты вурзгаіш, як кот крупеню.*

ВУЦЬ-ВУЦЬ-ВУЦЬ *выкл.* Словы, якімі падзываюць качак. *Вуць-вуць-вуць, вутачкі!*

ВУЦЯ'К *м.* Качар. *Наш вуцяк сыты, будзім рэзаць к сьвяту.*

ВЫ'ПУУЎЗІНЬ *м.* Скура вужакі, скінутая ў час ліньксі. *У берагу ляжыць вужачы выпуўзінь.*

ГАЛО'ЎКА *ж.* Верхняя частка бурака, на якой расце бацвінне. *Прыхваціў мароз і буракі падмерзьлі, а галоўкі сталі зыгнівацца.*

ГАМЗА'ЦЬ *незак.* Гаварыць у нос. *Што ты гамзаіш? Ні гамзай.*

ГАМЗУ'Н *м.* Гугнявы чалавек. *Гамзун, што ты гамзаіш?*

ГО'РЛАШКА *н.* Дзірка ў верхнім камені жорнаў, куды насыпаецца зерне. *У жорнах сыпім зярно ў горлашка і мелім.*

ГРА'НКА *ж.* Абмалочанае збожжа, ссунутае для зганяння каласкоў і саломкі. *Змалаціў ячмень, ссунуў у гранку і буду мятлой шчышчаць калосься і саломку. Перавярну гръблямі гранку намалочанага ячменю і знова згъняю калосься.*

ГРУТ *м.* Куча. *Націрабіла і насыпала цэлы грут бурачкоў. Ачышчаную гранку ячменю згарнулі ў грут. Бульба добрая, насыпалі цэлы грут.*

ГРЭ'БІНЬ *м.* Шчотка для часання лёну. *На грэбіні абдзіраім лён.*

ГУ'ПКА *ж.* Адзінка вымярэння палатна. *Пяць губак аснувала нечысі.*

ГЫ'ЛЯ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць гусей. *Гыля, куды пашлі!*

ДЗІВЯ'ТНІК *м.* Дзевяты чацвер пасля вялікадня. *Дзівятнік заўтра, нада будзіць ехаць на кірмаш.*

ДЗІЧ *м.* Бародаўка. *У ее многа дзічоў на руках.*

ДЗЮ-ДЗЮ-ДЗЮ *выкл.* Словы, якімі падзываюць свіней.

ДЗЯ'ЖЫЦЬ *незак.* Біць рэменем. *Пірыстаньці дурэць, а то я буду дзяжыць.*

ДО'ШЧАЧКІ *мн.* Дзве тонкія дошчачкі, звязаныя ніткай, якія служаць для таго, каб не блыталіся ніткі асновы. *Засунь дошчачкі ў чыны і будзім нывівацъ кросны.*

ДРА'ЧКА *ж.* Тарка. *Нада нъдрацъ бульбы на драчку.*

ДРАЧО'НІК *м.* Дранік. *Нъ драчку нъдрала бульбы і сьпікла драчонік.*

ДУ'ШКА *ж.* Грабелькі на касе, якія прымацоўваюцца да касы для кашэння збожжавых культур. *Нада прывізаць к касе душку, бо нада іці касіць грэчку і авёс.*

ЖЫ'ЦЬВІЦА *ж.* Гірса. *Пасеіў жыта, ніўражайны гот, урадзіла адна жыцьвіца.*

ЗА'ВЕРТ *м.* Вяровачная ці скручаная з лазы пятля, пры дапамозе якой прымацоўваецца аглобля да пярэдніх капылоў. *У сънях ёсь заверты, якімі аглоблі прывязвалі к капылам.*

ЗАГНЕ'ТАК *м.* Прыпечак. *Цугун стаіць на загнетку.*

ЗАЛЪЧА'ЦЬ *незак.* Развідніваецца. *Залъчаіць, скора развіднеіць.*

ЗАЛО'ЖНІК *м.* Прыбітая да сцяны маленькая шафа для пасуды. *Вазьмі ў заложніку латушку і налі сабе крупені.*

ЗАСЕ'ТНІК *м.* Месца для мякіны, адгароджанае ў таку каля ёўні. *Каля ёўні ёсь засетнік, у засетнік сыпім мякіну і вотрыны.*

ЗАТЫКА'ЛЬНІК *м.* Невялікі драўляны пруток з кавалкамі палатна ці нацягнутымі вяроўкамі ў ткацкім станку для пачатку ткання. *Прынясі затыкальнік кросны затыкаць.*

ЗАЧЫ'НАК *м.* Цагляны карніз (выступ) на бакавой сцяне печы, па якому залазяць на печ. *Пайду паляжу трошку на зачынку, пагрэюся.*

ЗЫК *м.* Перыяд, калі сляпні пачынаюць кусаць кароў. *Нъстаў зык, каровы пъчалі зыкаць, зъдралі хвасты і пабеглі дамоў.*

ЗЫ'КАЦЬ *незак.* Гізаваць. *Пат пайдзён каровы пъчалі зыкаць.*

ІГЛІ'ЦА *ж.* Адна з дзвюх планак, якімі змацоўваюць дошкі ў дзвярах. *Зьдзелаў дзьверы і зъгнаў ігліцы.*

КАЗІ'-КАЗІ'-КАЗІ' *выкл.* Словы, якімі падзываюць казу.

КАЛЮ'ЧКІ *мн.* Ігліца. *Пат сасонкаю многа калючак насыпалася.*

КАРУ'ЗЬЛІК *м.* Недаростак. *Гэты карузьлік сусім ні расьцець, які быў, такі і ёсь.*

КАРХАВІ'НЬНЕ *н.* 1. Макрота. *Къшляіць чалавек, а кархавіньне ні атходзіць.* 2. *зборн.* Жабурынне. *У сажалцы многа ляжыць лягушкінага кархавіньня.*

КА'РЫ *мн.* Маленькія саначкі. *Маленькія кары, каторыя пазаду едуць, калі возім броўны.*

ҚАРЫ'ЦЦА *н.* Дэталь у калаўроце, пры дапамозе якой рэгулююць шнуры. *Паткруці карыцца, кап тужэй былі шнуры ў пралкі.*

ҚАСЬЦЮ'ЛЬҚА *м.* Асцюк. *Ячменная мякіна самая плъхая, адны касьцюлькі. Биваіць касьцюлька жыта.*

ҚАТЛЯ'Қ *м.* Палена дроў. *Парэзаў дровы на кароткія катлякі, а тады буду біць еты катлякі.*

ҚАЦЕ'ЛҚІ *мн.* Блокі, на якіх вісяць ніты. *Ніты падвешвалі на кацелкі.*

ҚІ'ТҚА *ж.* Вязка бобу, гароху. *Даўней боп візалі ў кіткі. Як харошый гарох, мы яго жалі і візалі ў кіткі.*

ҚЛА'ДЗІ *мн.* Папярочныя бярвенні, на якія кладзецца падлога. *Палажыў кладзі, а цяпер буду масьціць мост.*

ҚЛЯЦ *м.* Зуб у баране, граблях. *У жалезнай баране жалезныя кляцы, а ў дзіръвяннай дзіръвянныя.*

ҚОЎП *м.* Страўнік (у жывёл, птушак). *Калі брухатая карова, тады ў ее бальшы коўп і бальшыя кнігі.*

ҚРАМСАНУ'ЦЬ *зак.* Моцна ўдарыць. *Я цябе так крамсану, што із цябе будзіць кроў сьвістаць.*

ҚРАПІ'ЎНІҚ *м.* Пазашлюбнае дзіця. *Каторая родзіць у дзяўкох, дзеўка гэта, тады гэта называўся крапіўнік.*

ҚРУЖНІ'Қ *м.* Скрутак лазовага лыка. *Нъдрала лык і павярцела ў кружнікі.*

ҚРУҚ *м.* Драўляная прылада, якой скубуць сена са стога. *Зрабіў дубовы крук скубсьці сена са стараны.*

ҚРУЦЁЛҚА *ж.* Закрутка для запірання дзвярэй знадворку. *Закруці дзьверы круцёлкай.*

ҚРУЧО'Қ *м.* Прылада, якой кідаюць ніткі ў бёрда. *Зрабіла кручок у бёрда кідаць.*

ҚРЫШАНО'Қ *м.* Кусочак рэзанай бульбы ў булёне. *Памыла бульбу і накрышыла крышанкоў у суп.*

ҚУ'ҚЛА *ж.* Звязка пачэсанага лёну. *Пасморгала на грэбінь лён і нечысь зьвізала ў куклу.*

ҚУЛЁҚ *м.* Пінжак. *С свайго самадзельнага сукна пашыла армяк і кулёк сыну на сьвята.*

ҚУРАҚІ' *мн.* Вушкі ў лапцях. *Пляці лапці і дзелай, кап былі ўсе роўныя куракі.*

ҚУРО'САНЬНЕ *н.* Седала, курасадня. *Куры паселі на куросаньня ў куратніку.*

ҚУ'РЧЫНА *ж.* Тонкая жэрдка, якой прыціскалі снапы, калі сушылі ў ёўні. *Насадзіў на цапок лёну сушыць,*

*а курчынай прыжаў. Цяпер буду другі цапок садзіць і прыжымаць курчынай.*

КУСА′НАК *м.* Агрызак. *Ты нашто аставіла кусанак?*

КЪЗА′ *ж.* Дошчачка з выразам на ножках для знімання ботаў. *Пъдай, сынок, казу, нада боты зьдзець.*

КЪЧА′ЛАЧКА *ж.* Круглы кавалачак дрэва, які падкладаецца пад вілкі, каб лягчэй было выцягнуць або ўставіць у печ чыгун. *Дзе ета къчалачка пъдлажыць пад вілкі, нада цугун уставіць у печ.*

ЛАБАТРО′С *м.* Гультай. *Лабатрос еты сядзіць дома і нічога ня хочыць дзелаць.*

ЛАПУ′Н *м.* Тоўсты блін. *Ныпікла лапуноў на сьніданьня і будзім мъкаць у сьмітану.*

ЛАТУ′ШКА *ж.* Гліняная міска. *Налі мне ў латушку супу.*

ЛЕШЧ *м.* Удар далонню. *Ныдъваў яму добрых ляшчоў, што чуць жыў астаўсі.*

ЛІ′ПАВАЧКА *ж.* Бочачка, выдзеўбаная з ліпы. *Атрэзаў ліпавы къtляк і выдзіўбаў ліпавачку і насыпаў круп.*

ЛЯМО′ЎКА *ж.* Надстаўлены ў нізе сукенкі кавалак матэрыі. *Кароткаё плацьця, я патшыла лямоўку.*

ЛЯСУ′ШКІ *мн.* Дзічкі. *Нырвала яблыкаў-лясушак.*

ЛЯШЧЫ′ЦЬ *незак.* Біць далонню, даваць «ляшча». *Ён дъгнаў яго і ляшчыць.*

МА′ЖЫ *мн.* Калёсы з драбінамі вазіць сена, снапы. *Запрох къня ў мажы і паехаў за сенам.*

МАЗГІ′ *мн.* Мяккая частка дрэва паміж карой і драўнінай. *Абъдраў кару із асіны, нажом нашкроп мазгоў есьці.*

МАЙ *м.* Бярозавае галлё, якое падсцілаюць пад стог. *Пайду пакладу май і будзім класьці сена. Палажыў май пат стох і будзім стыгъваць сена.*

МАТО′К *м.* Вязка *кружнікоў. Нъдраў лык і павярцеў у кружнікі. Кружнікі пачапілі ў маток.*

МЯЧЭ′ЎНІК *м.* Касач. *У балоці многа мячэўніку.*

НАБО′ЖНІК *м.* Вышыты рушнік, які вешаюць на абразы. *Вышыла набожнік і павешую на віконы.*

НАДЗЕ′ЖНІК *м.* Кавалак палатна, якім пакрываюць хлебную дзяжу. *Адрэзала късалак пылътна і пашыла на дзяжу надзежнік, тэй стары първаўсі.*

НА′НАЧКІ *прысл.* Нанач. Вячоркі, на якіх астаюцца начаваць. *Даўней бывала бралі кудзелю і ішлі territory наначкі, там пралі і нычъвалі.*

НАРУБЕ′Ц *прысл.* Навыварат. *Вот Хайроня, надзела спадніцу нарубец і пъшла гъйсаць сабе па дзярэўні, а з ее ўсі сьмяюцца.*

НЕДАСЕ′КІ *мн.* Уток, слаба прыбіты бёрдам. *Прыбівай бёрдам крапчэй, а то пълучаюцца ў палатне недасекі.*

НЕ′ЦІЛЬ *ж.* Карова, якая яшчэ не цялілася. *Мылъка німа, карова неціль.*

НЕ′ЧЫСЬ *ж.* 1. Абадраны лён. *Вярхоўе асморгала на грэбінь, а ў руках астълася нечысь. Нечысь спрала і выткала пяць губак нечысі на кашулі.* 2. Палатно з абадранага льну. *Выткала пяць губак нечысі на кашулі і скруціла ў трубачку.*

НІ′КАЦЬ *незак.* Шукаючы чаго-н., заглядваць усюды. *Што ты тут нікаіш, тут нічога німа.*

НО′СІК *м.* Адтуліна, праз якую сыплецца мука з жорнаў. *Калі мы ў жорнах мелім, сыпім зярно ў горлашка, а мука выходзіць у носік.*

НЯБО′ЙНЫ *прым.* У выразе: *нябойная дарога* — дарога, па якой ездзяць толькі летам. *Ета нябойная дарога, па ей ездзяць толькі летам.*

НЯЎЛО′МАК *м.* Чалавек, які можа што-н. зрабіць, але не хоча. *Пятрок, ты ж і сам мог зьдзелаць усё гэта, а ты, няўломак, не хочаш зьдзелаць.*

ПАДБАРО′ДАВІЧ *м.* Раменьчык вуздэчкі пад ніжняй губою каня. *Вазьмі къня за падбародавіч і вядзі.*

ПАДЖО′ГА *ж.* Падпалка. *Паджога ляжыць за комінам. Вазьмі паджогу і падпалі ў печы.*

ПАДЗО′РНІК *м.* Карункі, якімі абшываецца ніжні край прасціны. *К прасьцілкі прышыла падзорнік.*

ПАДЛАБУ′НІЦЦА *зак.* Падлашчыцца, падлізацца. *Ты глянь, як ён к ей падлабуніўся. І калі гэта ён пасьпеў падлабуніцца.*

ПАДЛЕ′ПА *ж.* Нітка асновы, якая ідзе зверху ці знізу палатна безператыкання. *Калі парвецца верхнія кабылка ў нітах, тады падлепа ідзець пат палатном, а калі кабылка парвецца ніжнія, тады падлепа ідзець павярху, а ў палатне ідзець блізна.*

ПАСЬЦЕ′ЛЬ *ж.* Пасад. *Перавярні снапоў пасьцель на другую старану і будзім малаціць.*

ПАТРУ′ХА *ж.* Пацяруха. *Пацёртоё сена ў нас завецца патрухай. Патрухай красілі яйцы.*

ПАТЧАПУ'РЫЦЦА *зак.* Падхарашыцца, прыбрацца. *Вой, вой! Глянь ты, куды ета так патчапурылася?*

ПІРАМО'ТА *ж.* Памылка пры снаванні красён. *Забыласі і палажыла пірамоту пры снъваньні.*

ПІСКЛЁНАК *м.* Куранё. *Пазаўчора вывіліся пісклят-кі.*

ПЛАСЬЦІ'ЦЬ *незак.* Пластаваць. *Я буду пласьціць сена, а ты кладзі на вос.*

ПНІ *мн.* Зародкавае пер'е на целе птушак. *Апскубла курыцу, а пні асталісі.*

ПО'ІС *м.* Спавівач. *Рабёначка спавівалі поісам.*

ПРАСЬЦІ'ЛКА *ж.* Прасціна. *Выткала нечысі тры гупкі і пашыла дзьве прасьцілкі, а к прасьцілкам прышыла падзорнікі.*

ПРУТ *м.* Паз. *У ліпавачцы зьдзелаў прут і ўпусьціў дно.*

ПРУТО'К *м.* Кіёк. *Дзе тэй пруток, што нада ніты надзіваць.*

ПРЫЛЁПКА *ж.* Прыпрадзеная нітка. *Първалася нітка, я прыпрала прылёпку, а калі ў нітцы многа прылёпак, тады дужа ірвуцца ніткі асновы і плоха ткаць.*

ПУПЛЫ' *мн.* Адходы пры прадзенні кудзелі. *Плъхая кудзеля, многа пуплоў, і ў воўні бываіць многа пуплоў.*

ПУПО'К *м.* Ручка на касе. *Зьдзелаў пупок і прывізаў к касьсю.*

ПУПУ'ШКА *ж.* Кончык пальца. *Апстрыгла нохці дъ самых пупушак.*

ПУ'СЦЫ *мн.* Лыткі. *У ее некрасівыя ногі, дужа тоўстыя пусцы.*

ПЪДМА'ТАШ *м.* Невялікі прадмет, на які навіваюць ніткі, пачынаючы клубок. *Чаго п тут найці на пъдматаш пат клубок.*

ПЪЛА'НАЧКІ *мн.* Апалушкі. *Ідзі вазьмі пъланачкі і спълай кмін.*

ПЪТКА'ЛАЎКА *ж.* Падколка. *У куракі уторкнула дзьве спіцы і бяру пъткалаўку і патплітаю ў два лыкі лапаць.*

ПЪТХЛЯ'ПІНА *ж.* Бакавая ўпадзіна між рэбрамі і клубам (у жывёлы). *Мъя карова сягоньня ідзець с поля галодная, бакі пътхляпіна.*

ПЯКО'ЛАК *м.* Пячурка. *На загнеце ёсь пяколак, куды згарнуім жар.*

РУКЪВЯ'ТКА *ж.* Ручайка. *Нъпрала тры рукъвяткі нечысі і змътала на пачынак.*

РУМУШО'К *м.* Прывязка, якой прымацоўваюць біч да цапільна. *Вазьмі румушок і прывяжы біцук у цапілну.*

РУ'ХНУЦЬ *зак.* Прапасці (пра зімовую дарогу). *Ръстаў сьнех, рухнула дарога, няможна ехаць, конь пръваліваіцца.*

РЭ'ЗЬВІНЫ *мн.* Вяровачная сетка з драўлянымі дужкамі для нашэння сена, саломы. *Вазьму рэзьвіны і прынясу сена с пуні.*

РЭ'ПКА *ж.* Драўляны блок, кольца, які прыводзіць у рух шпульку ў калаўроце. *На бъран надзяецца шпуля, а патом рэпкаю закручваіцца.*

САДЗІ'ЦЬ *незак.* Ставіць снапы на жэрдкі для сушкі ў ёўні. *Пайду на ёўню садзіць авёс і сушыць.*

САРАМАЛО'ТНЫ *прым.* Сыры (пра збожжа, жыта). *Пайду абіваць сарамалотноё жыта на насеньня.*

СКАЦІ'ЦЬ *зак.* Скруціць. *Нечысныя ўрэскі скаціла ў трупку.*

СМО'РГАЦЬ *незак.* Часаць лён. *Лён сморгаюць на грэбінь.*

СПО'ТКІ *мн.* Вязаныя рукавіцы. *Нада зьвізаць спокі, а то скора марос будзіць.*

СПЪЛА'ЦЬ *зак.* Апалоць. *Узіла пъланачкі і спълала ячмень.*

СТАВЫ' *мн.* Ткацкі станок. *Пойдзім унасіць ставы, будзім навіваць кросны.*

СТРЪХА' *ж.* Закрыты нос лапця. *Спліла лапаць, пъставіла стрэхі і зъклала пяту.*

СУКАЛЕ'НКІ I *мн.* Калены сцябла. *У саломінцы бываіць два ці тры сукаленкі.*

СУКАЛЕ'НКІ II *мн.* Нарасці на ніжняй частцы нагі ў пеўня. *Пятух длінаногі, бальшые сукаленкі къля лап.*

СУ'ПРАТКІ *мн.* Попрадкі. *Хадзіла сягоньня на супраткі і нъпрала пойную шпулю пражы.*

СУРО'ВЫ *прым.* Нябелены (пра палатно). *Суровоё палатно ў трупкі не круцім.*

СЮСЁЛКА *ж.* Соска. *Дайней дъвалі маленькаму рабёначку сюсёлку ссаць.*

СЯДЗЕ'ЛЬНІК *м.* Церассядзёлак. *Падвяжы тужэй сядзельнік, кап лехчый было каню.*

СЯДЛО′ *н.* Частка прасніцы, на якой сядзіць папрадуха. *У прасьніцы ёсь сядло, дзе мы сядзім, як прадзем.*

ТРЪПА′ШКА *ж.* Мянташка. *Касец бярэць бішчанку, тръпашку, малаток і бапку накліпаць касу.*

ТРЫСЬЦІЦЬ *незак.* Злучаць дзве ніткі разам. *Вазьмі вірок і трысьці ніткі на клубок, будзім сучыць на споткі.*

ТУ-ГА′, ТУ-ГА′ *выкл.* Вокрык, якім адганяюць ваўка.

УРЭ′ЗАК *м.* Адрэз. *Выткала тры гупкі нечысі і адрэзала урэзак, буду бяліць.*

ЦАГІ′ЛКА *ж.* Трыножка, на якую вешаюць калыску ў полі. *Выразала тры кійкі і зьдзелала цагілкі, а на цагілкі павесіла люльку.*

ЦАПО′К *м.* Жэрдка ў ёўні, на якую ставяць снапы для сушкі. *Цапок насадзіў і прыцісную курчынай, кап стыялі снапы.*

ЧЫ′СЬЛІНА *ж.* Тры ніткі з пасма. *Дзесяць чысьлін будзіць пасма.*

ША′ПКА *ж.* Верхняя частка асадкі акна. *Асадзіў акно, пъставіў вушакі і налажыў шапку.*

ШКУ′ТНІК *м.* Коўдра, вытканая з рыззя. *Нъдрала палоскамі старых трапак і выткала шкутнік, цёпла будзіць нъкрывацца.*

ШМЯЦЬЦЁ *н. зборн.* Адыходы кмену. *Ай, які плахі кмін, адно зялёное шмяцьцё.*

ШПУ′НЬЦІК *м.* Шруба. *Паткруці шпуньцікам карыцца, кап было вышэй і тужэй былі шнуры.*

ШЧО′ТКА *ж.* Стрыхоўка. *Страху пакрыў пат шчотку.*

ШЫ′ШКА *ж.* 1. Корч (цыбулі і да т. п.). *Вырвала цыбулі цэлую шышку.* 2. Гронка. *Арэхі вісяць бальшымі шышкамі.*

# ТЭМАТЫЧНЫЯ ГРУПЫ ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКІ

*А. С. Аксамітаў*

## ДЫЯЛЕКТЫЗМЫ І АРХАІЗМЫ Ў БЕЛАРУСКІМ СІРОЧЫМ ВЯСЕЛЛІ

Мова фальклору — гэта мова яго стваральнікаў і носьбітаў, апрацаваная ў адпаведнасці з народнымі эстэтычнымі патрабаваннямі. У гэтым сэнсе яна нагадвае мову мастацкай літаратуры. Аднак з прычыны неаднолькавага паходжання і ўмоў бытавання гэтыя адзінкі знаходзяцца на розных лексіка-стылістычных узроўнях. Для вырашэння пытання аб спецыфіцы мовы фальклору важна параўнаць яе з дыялектнай і нацыянальнай літаратурнай мовай у лінгвістычным і сацыяльна-гістарычным аспектах.

Пры аналізе мовы фальклору не менш важным з'яўляецца і ўлік яе жанравых асаблівасцей. У казках, напрыклад, мы знаходзім больш лексічных адзінак са складу мясцовых гаворак, у той час як у песнях іх заўважаецца значна менш. На думку А. М. Весялоўскага, «народ спявае не на сваіх дыялектах, а на літаратурнай мове або на мове ўзвышанай, блізкай да літаратурнай»[1].

Паколькі з якога-небудзь аднаго фальклорнага жанру немагчыма вылучыць характэрныя для ўсяго беларускага фальклору лексемы і фраземы, патрэбен скразны агляд лексікі і фразеалогіі па ўсіх жанрах, які дазволіць рэканструяваць нейкі агульнажанравы лексіка-фразеалагічны фонд. Тут мы разглядаем толькі лексіку і фразеалогію беларускіх песень сірочага вяселля, зафіксаваных на ўсёй тэрыторыі іх распаўсюджання на працягу XIX—XX стст. Яны ўвойдуць у том «Вясельныя песні», які рыхтуецца да друку сектарам фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР.

[1] А. Н. Веселовский. Историческая поэтика. Л., 1940, стар. 358.

Выбар выпаў на гэты жанр таму, што вясельныя песні найбольш поўна захаваліся ў вуснай паэтычнай творчасці беларускага народа да нашых дзён і адлюстроўваюць яго жыццёвы ўклад на розных гістарычных этапах, а сірочыя, акрамя таго, адлюстроўваюць амаль усе этапы вяселля.

У выніку поўнай распіскі гэтага матэрыялу (600 песень) намі зафіксавана каля 6000 лексем і фразем, праведзены некаторыя статыстычныя падлікі. Асноўную масу склалі ўласна фальклорныя лексемы і фраземы, г. зн. адзінкі мовы, характэрныя толькі для фальклорных твораў. Іх налічваецца каля 2900 (47% з агульнай колькасці зафіксаваных адзінак). Словы і фразеаспалучэнні, агульныя для мовы фальклору і беларускай літаратурнай мовы, складаюць каля 45% ад усёй колькасці (2800 адзінак). Самую нязначную колькасць складаюць дыялектызмы і архаізмы (8%, 480 адзінак). Гэтыя даныя даюць падставу сцвярджаць, што мова фальклору адрозніваецца як ад літаратурнай мовы, так і ад дыялектнай мовы, на аснове якой, на думку большасці даследчыкаў, яна і ўтварылася [2].

Мова фальклору ўяўляе сабой падказаную эстэтычнымі патрабаваннямі наўмысную дэфармацыю абедзвюх — дыялектнай і літаратурнай. Складанасць пытання аб суадносінах мовы фальклору з мясцовымі гаворкамі, дзе фальклор бытуе, зводзіцца да неабходнасці ўлічваць «не толькі гістарычна абумоўленую актуальнасць гэтых суадносін у сучаснасці або ў нядаўнім мінулым, але таксама гісторыю гэтых суадносін, якая не абмяжоўваецца перыядам складвання тэрытарыяльна-лінгвістычных адзінак ва ўмовах феадальнага ладу, але ўзыходзіць да лінгвістычных адзінстваў больш аддаленага часу» [3]. Дыялектызмы і архаізмы, вылучаныя з мовы фальклору, прынясуць карысць пры вывучэнні гісторыі мовы, дыялекталогіі, з'явяцца матэрыялам пры складанні рознага тыпу слоўнікаў (гістарычнага, этымалагічнага, дыялектнага).

---

[2] А. П. Евгеньева. Очерки по языку русской устной поэзии в записях XVII—XX вв. М.—Л., 1963, стар. 339; И. А. Оссовецкий. Язык фольклора и диалект.— Основные проблемы эпоса восточных славян. М., 1958.

[3] А. В. Десницкая. Наддиалектные формы устной речи и их роль в истории языка. Л., 1970, стар. 42.

Пытанне аб выкарыстанні фальклорных твораў у якасці крыніцы абласнога слоўніка канчаткова не вырашана. Некаторыя даследчыкі (А. В. Дзясніцкая, В. Г. Арлова, А. І. Салагуб і інш.) лічаць, што мова твораў вуснай паэзіі носіць наддыялектны характар, што творы фальклору не звязаны з пэўнымі гаворкамі, а таму многія лексемы і фраземы, якія сустракаем у іх складзе, не замацаваны за той тэрыторыяй, дзе яны выконваюцца, не ўваходзяць у жывую гаворку носьбіта дыялекта. Аднак правесці мяжу паміж архаізмамі ў дыялектнай лексіцы фальклору і звычайнай дыялектнай гутарковай мове, як адзначае Ф. П. Філін, немагчыма, выключаючы хіба асобныя канкрэтныя выпадкі. Наогул жа ён лічыць, што «дыялектная лексіка, якая ўжываецца ў творах вуснай народнай творчасці, мае вялікую навуковую каштоўнасць, і было б пажадана так ці інакш прыцягнуць яе ў абласны слоўнік»[4]. Да таго ж архаічная дыялектная лексіка захавала ў фальклорных рыфмаваных творах дзякуючы іх паэтычнай пабудове і спецыфічнаму лексічнаму акружэнню сваё першаснае значэнне. Больш дакладнаму вызначэнню семантычнага значэння слова ў фальклорным творы спрыяе і сам абрад вяселля. Ніжэй змяшчаюцца дыялектызмы і архаізмы з разгледжаных намі песень у кантэксце, які памячаецца месцам запісу. Апошняе ў пэўнай ступені дапаможа ўстанавіць, адносіцца дадзеная лексема да пэўнага дыялекту або да групы дыялектаў. Непашпартызаваныя цытаты выбраны з матэрыялаў, якія сабраны ў час фальклорных экспедыцый сектара фальклору Інстытута мастацтвазнаўства, этнаграфіі і фальклору АН БССР і захоўваюцца ў архіве ІМЭФ АН БССР.

## КРЫНІЦЫ І СКАРАЧЭННІ

Бык.— Быковский В. Свадебные обряды и песни в Пинском уезде Минской губернии.— Памятная книжка Виленского генерал-губернаторства на 1868 г. СПб, 1869; Bykowski P. Pieśni obrzędowe ludu ruskiego z okolic Pińska.—Zbiór wiadomości do antropologii krajowej, t. 2. Kraków, 1878.

Кліх—Klich Edw. Teksty białoruskie powiatu Nowogródzkiego.— Materiały i prace komisyi językowej, t. 2, b. 1. Kraków, 1903.

---

[4] Ф. П. Филин. Об областном словаре русского языка.— Лексикографический сборник, вып. 2. М., 1957, стар. 13.

Маш.— Moszyński K. Kultura ludowa słowian, t. 1—2. Warszawa, 1968.

«Мин. губ. вед.» — Свадебный обряд и обычай простолюдинов в Борисовском уезде. «Минские губернские ведомости», 1865, № 23—29, 35—37, 42.

Радч.— Радченко З. Гомельские народные песни. СПб, 1888.

Рам.— Романов Е. П. Белорусский сборник, вып. 8—9 (II. Свадебный обряд). Вильня, 1912; Материалы по этнографии Гродненской губ. (Свадебный обряд). Вильня, 1911—1912.

РГО — Записки Русского Географического Общества по Отделению этнографии, т. I. СПб, 1873.

«Рубон» — Reut W. Piosenki gminne białoruskie. «Rubcn», t. 1. Wilno, 1843.

Сах.— Сахараў С. П. Народная творчасць латгальскіх і ілукстэнскіх беларусаў, т. I, вып. II (Рукапіс). ФБ АН БССР, ф. 3, воп. 1, сш. 1.

Тышк. — Tyszkiewicz E. Opisanie powiatu Borysowskiego. Wilno, 1846.

Фед.— Federowski M. Lud białoruski, t. V. Warszawa, 1958; t. VI. Warszawa, 1959.

Шлюб.— Шлюбскі А. Матэрыялы да вывучэння фальклору і мовы Віцебшчыны, ч. II. Мінск, 1928.

Шырма — Шырма Р. Беларускія народныя песні, вып. 1. Вільня, 1929.

Шэйн — Шейн П. Белорусские народные песни. СПб, 1873. Материалы для изучения быта и языка русского населения Северо-Западного края, т. I, ч. 1. СПб, 1887; т. I, вып. II. СПб, 1890.

АБАСЛА'ЦЬ *зак.* Абдарыць, надзяліць. *Дробным дождж ыкам абальюць, шчасцем-долейкай абашлюць.* Паланечка, Баранавіцкі р-н.

АБЧАРАДЗІ'ЦЬ *зак.* Не абысці, надзяліць чым-н. *Ой, паглядзі, абчарадзі сіротку.* Сураўкі, Сіроцінскі р-н.

АДВО'ДНЫ *прым.* Адожылкавы. *Што ў цябе дуб'я многа, зялёнага — ніводнага, ані атростачка ні адводнага.* Стараселле, Шклоўскі р-н.

АДПІ'СЫВАЦЬ *незак.* Адлучваць. *Дай адпісываюць Хадосечку ад таткі, дай прыпісываюць к маладому Івану.* Радч., Гомельскі п.

АШЫ'БНУЦЬ *зак.* Праняць, прабраць. *А ўпадзі маценцы на белыя ножкі, ашыбнуць цябе дробныя слёзкі.* Фед., Пружаны.

БАЛО'НА *ж.* Шыба. *Тыды ж ба йшла, красна Манечка, да бога і глянула ў шкляну балону.* Прыяміна, Барысаўскі р-н.

БОНДА'РЫК *м. ласк.* Цясляр. *Збудавалі мне бондарыкі новы дом.* Рудка, Пінскі р-н.

БЯСЕ'ДАЧКА *ж. ласк.* Госці. *Да ўстань, пастань, бяседачка, ўся ў рад.* Далёкі, Браслаўскі р-н.

ВАЛА'ЦІ *незак.* Клікаць. *Яна к сабе сваю мимачку валала.* Альсевічы, Мядзельскі р-н.

ВЯРХО'ЧАК *м. ласк.* Верх. *Не прасеклі на вярхочку аконца.* Блізнікі, Мядзельскі р-н.

ГАРУ'ШАЧКА *ж. ласк.* Гаротніца. *Адстань, адстань, мая дачушачка, адстань, мая гарушачка.* Шэйн, Дрысенскі п.

ГУ'ДАК *прым.* Гучны. *Скрыпкі не гудкі, бубны нз звонкі.* Галёнкі, Горацкі р-н.

ДО'БРУ ПА'РУ ДАЦЬ. Падабраць да пары. *Чы харошанька ўбрана, чы добра пара дана.* Дзеткавічы, Драгічынскі р-н.

ДУБ'Ё *н. зборн.* Дубы. *Зялёная дубрpremeванька! Што ў цябе дуб'я многа, зялёнага ніводнага.* «Рубон», Наддзвінне.

ДУБОЎКА *ж.* Дубовы лес. *Да некаму пашумець, дубоўкі весяліць!* «Рубон», Наддзвінне.

ДЗЕСНІ'ЧКІ *прым.* Рабочы. *У нас сягоння і дзень не дзесьнічкі — васкрасенне.* Зубава, Аршанскі р-н.

ЗАЛЕ'ГЧЫ *зак.* Заваліць, засыпаць сабой. *Сырал зямля дзверы залягла, аконачкі засланіла.* «Мин. губ. вед.», Мінская губ.

ЗАСТО'ЛЕЙКА *н. ласк.* Месца вакол стала, за сталом. *Да пайшоў Іванка да па застолейку.* Дабраслаўка, Ляхавіцкі р-н.

ЗАСТРЫГА'ННЕ *н.* Падстрыганне касы ў час пасаду (вясельны абрад падстрыгання). *Прынясу свечачку на застрыганне, буду благаславіць — ты не будзеш бачыць.* Налібокі, Стаўбцоўскі р-н.

ЗАТО'НЕЙКА *н. ласк.* Забалоцце. *Пайшло сонейка да па затонейку.* Дабраслаўка, Ляхавіцкі р-н.

ЗГО'РНЕНЫ *дзеепрым.* Згорнуты. *Згорняны ручкі к шчыраму сэрцу — не зніму.* Фед., Слонімскі п.

ЗДЗЯРЖА'ЦЬ *зак.* Утрымаць. *Да калі ж бо я да галаванькі не здыму, да белых ручак не здзяржу.* Фед., Слонімскі п.

ЗДЫМА'ЦЬ *незак.* Падымаць. Слонімскі п.

ІСЦІ' НА ПАСА'Д. Садзіцца на дзяжу, накрытую кажухом. *Будзе ісці дзевачка на пасад, нізка клоны клонячы, дробныя слёзкі ронячы.* Свінкі, Капыльскі р-н.

КАБЕ'РАЦ *м.* Дыванок, на якім вянчаюць маладых. *Ці не застанеш, хоць на каберцы стоячы?* Альсевічы, Мядзельскі р-н.

КАМО'Р'Е *н.* Камора. *З-пад камор'я вада б'е, з-пад цёмнага лесу тучка ідзе.* Аганніца, Шаркаўшчынскі р-н.

КВЕ'ЦЕНЬ *ж. зборн.* Кветкі. *Што мая галоўка ў квецені, няма маёй мамачкі на свеце.* Купленка, Крупскі р-н.

КЛОН *м.* Паклон. *Будзе ісці дзевачка на пасад, нізка клоны клонячы, дробныя слёзкі ронячы.* Свінкі, Капыльскі р-н.

КРА'ЙКІ *мн.* Кускі, абломкі. *Паламайце грабавыя дошкі на крайкі.* Зубава, Аршанскі р-н.

КУКУ'ЛЕЧКА *ж. ласк.* Зязюля. *А кукулечка на магілачцы з мамкай размаўляе.* Шырма, Гродзенская губ.

ЛЯЛЁТАЧКА *ж. ласк.* Лялька. *Нараджана, як лялётачка, пасаджана, як сіротачка.* Радч., Гомельскі п.

ЛЯТА'НЕЙКА *н. ласк.* Палёт. *Знаці сокала па лятанейку, што ён нізка лятае.* Маш., Мазырскі п.

МАРВО'ВЫ *прым.* Мармуровы. *Стаіць гадзінку, стаіць другую, пакуль адчынілі марвовыя дзверы.* «Мин. губ. вед.», Мінская губ.

МІГЛІ'ЦА *ж.* Імгла. *Пусці мяне ды, божа, з неба, і з неба ды мігліцаю, а на землю ды расіцаю.* Фед., Ляхавічы, Клецк.

МІР *м.* Народ, людзі. *А я ў хатку не пайду, а ў сенячках пастаю, на сіротачку пагляджу, цераз мір долю перашлю.* Блужа, Пухавіцкі р-н.

НАДЗЯЛЕ'НЬНЕ *н.* Дарэнне. *Принясити ў белых ручках надзяленьня, у скорых ножках багаславеньня!* Рам., Невельскі п.

НАДО'БА *ж.* Убранне. *Знаць па вяселлі, знаць па надобі, што Анечка сірацінка.* Налібокі, Стаўбцоўскі р-н.

НАДО'ЛЛЕ *н.* Дол, зямля. *Ой, божа-збавіцелю, адпусці мяне з неба, ды з неба на надолле.* Дубавое, Вілейскі р-н.

НАЛЫ'НУЦЬ *зак.* Нахлынуць, наляцець. *Налынулі анголы з раю і ўзялі баценьку з сабою.* Рам., Беластоцкі п.

НА ПАСА'Д ПАСАДЗІ'ЦЬ. Пасадзіць на дзяжу (кут, лаву), накрытую кажухом (падушкай, посцілкай). Вясельны абрад саджэння на дзяжу. *Да свайго дзіцяці паглядзеці: ці хараша ды нараджана, на пасадзе ці пасаджана?* Радч., Гомельскі п.

НАРА'ДА *ж.* Рада. *Прашу цябе, мамачка, к сабе на вяселле, тату на нараду.* Белакорцы, Валожынскі р-н.

НІГО′ДНЫ *займ.* Ніводзін. *Чаму ў цябе бацькоў многа, а роднага нігоднага?* Фед., Навагрудскі п.

НІЗВО′ДНЫ *займ.* Ніводзін. *Зялёная дуброванька, што ў цябе дуб'я многа, зялёнага да ніводнага, адростачка нізводнага?* Тышк., Быхаўскі п.

НІЗГО′ДНЫ *займ.* Ніводзін. *Зялёная дуброванька, чаму ў цябе явараў многа, зялёнага ды нягоднага, лісточка нізгоднага?* Фед., Ляхавічы, Клецк.

ПАДВО′РЕЙКА *н. ласк.* Панадворак. *Няхай не едуць, не ўязджаюць — не маё падворейка.* Рабунь, Вілейскі р-н.

ПАНЮ′ТКА *м. ласк.* Панскае дзіця. *Прыбярона, як панютка, пасаджона, як сіротка.* Лужок, Маларыцкі р-н.

ПАНЯ′ТКА *н. ласк.* Панскае дзіця. *Прибярёна, як панятка, пасажона, як сіротка.* Рам., Гарадоцкі п.

ПАПІ′ЦІСЯ *зак.* Напіцца. *Ёсць каму і папіціся, да некаму пажурыціся.* Вялікія Гарадзячыцы, Любанскі р-н.

ПАСТАНАВІ′ЦЬ *зак.* Паставіць, узняць. *Падуй, падуй, буйны ветрычак, з даліны дай разгані жоўты пясочак з магілы, дай пакалі цісовыя дошкі на крошкі, пастанаві майго татачку на ножкі.* Талька, Пухавіцкі р-н.

ПАСЫ′М'Е *н. зборн.* Пук адросткаў. *Зялёнага ніводнага, пасым'я нізгоднага.* Фед., Пружаны, Бяроза, Шарашова, Сялец, Малеча, Белавежа.

ПЕРАСТА′НАК *м.* Перапынак. *Ай, пелі, пелі дай перасталі. Адной жа пташачцы перастанку няма.* Паляны, Барысаўскі р-н.

ПЛЯЧКІ′ *мн. ласк.* Плечы. *Жалезны цвічкі збілі мне плячкі — не дыхнуць.* Сах., Латгалія.

ПРАМАЎЛЯ′ЦЬ *незак.* Гаварыць, прыгаварваць. *Баціенька прамаўляе: рад бы я ўстаці к свайму дзіцяці.* Бык., Пінскі п.

ПРЫПІ′СЫВАЦЬ *незак.* Аддаваць у дом жаніха (мужа). *Да й прыпісываць к маладому Івану.* Радч., Гомельскі п.

ПРЫСА′ДЗІК *м.* Агародчык, палісаднік. *Спазнаць садзіку па прысадзіку: няма яму даглядзіку.* Аршанскі р-н.

ПРЫСТУПІ′ЦЦА *зак.* Падысці, прыблізіцца. *Бог з высокага неба прыступіцца, добрыя людзі прыхіляцца.* Фед., Ваўкавыскі п.

ПРЫХІ′ЛЛЕ *н.* Прытулак, прыстанішча. *Што ў цябе бацькоў многа. Роднага ніводнага, прыхілля ніякога?* Рам., Кобрынскі п.

ПУСЦІ'ЦЬ *зак.* Зрабіць, прарэзаць, пакінуць. *Да не пусціла ніводнага акенца, каб не свяціў ні месяц, ні сонца.* Лужок, Маладзечанскі р-н.

РАДЗІ'ЦА *ж.* Радня. *Ці ўся пры табе твая радзіца?* Шэйн, Веліжскі п.

РАЎНЮ'СЬ *прым.* Роўны, раўнюсенькі. *У нядзелю раненька разлягай, раўнюсь дарожанька.* Кліх, Навагрудскі п.

РУ'ЧКУ ЗВЯЗА'ЦЬ. Павянчаць, абручыць. *Там табе ручку звяжуць, чорную квяцістую, чорную квяцістую, на ўвесь век вячыстую.* Баранаўшчына, Браслаўскі р-н.

САБО'Р *м. зборн.* Набор. *Хоць вялікі прыбор, ды не ўвесь сабор.* Заборцы, Глыбоцкі р-н.

СВІЦЁЛКА *ж.* Святліца. *Ой, і зрубілі да сталярыкі свіцёлку: не пакінулі ні акеначка, ні дзверца.* Фядоры, Столінскі р-н.

СКАМІ'ЦА *ж. ласк.* Лаўка. *Плакала Кастуська ў святліцы, прылажыўшы галоўку к скаміцы.* Барысаў.

СКРАСЕ'ННЕ *н.* Нядзеля. *А ў нас сёння ў нядзелечку скрасенне.* Зубава, Аршанскі р-н.

СЛУГАВА'ЦЬ *незак.* Служыць. *Не век будзеш ты са мной векаваць, да памажы ты гэту ночку слугаваць.* РГО, Дзісенскі п.

СПАМАГА'ЦЬ *незак.* Дапамагаць матэрыяльна або парадай. *Матуля спамагае, яшчэ да таго, яшчэ да таго радзіна прыбывае.* Ямава, Пружанскі р-н.

СУБО'Р *м.* Натоўп, зборышча. *Сабраў субор поўны двор, насадзіла падружак поўны двор.* Зарудаўе, Мастоўскі р-н.

СУРАЖА'ЦЬ *незак.* Падрыхтоўваць, сабіраць. *Ні так бы Гануля слёзкі плакала, ні так бы свадзьба, як суражана была.* Шлюб., Мінск.

СУХВАЛЯ'ЦЬ *незак.* Ухваляць, хваліць. *З-пад неба ды пазірае, яна бога сухваляя: пусці мяне ды, божа, з неба.* Фед., Ляхавічы, Клецк.

ТАНО'К *м.* Карагод, танец. *Няма яе матынькі ў танку.* Шэйн, Чашнікі.

УЗЫВА'ЦЬ *незак.* Запрашаць, клікаць. *На вяселле ўзываць.* Налібокі, Стаўбцоўскі р-н.

УКО'ЛА *прысл.* Вакол. *Абыйдзі, дзевачка, да ўкола стала.* «Мин. губ. вед.», Беластоцкі п.

УПА'СЦІ КРЫ'ЖЭ. Распластацца. *Упала Галюхна крыжэ да зямлі.* Тонеж, Лельчыцкі р-н.

УСЕ′НЬКІ *займ.* Усе. *Пастаньце, баяры, усенькі ў рад.* Кліх, Навагрудскі п.

ЦЯСНІ′К *м.* Сталяр. *Было не збіраць з трох сёл цяснікоў.* Асавец, Любанскі р-н.

ЧО′РНАНЬ-СЦЕ′ЖКА. Выбітая, моцна пратоптаная сцежка. *Малада Гануся ўсю ноч не спала, цераз магілу чорнань-сцежку таптала,* Селяткі, Мядзельскі р-н.

ЯЛТЫ′ЧЫНКА *ж. памянш.-ласк.* Яловая тычынка. *У чыстым полі ялтычынка стаяла, а па магілцы сірацінка хадзіла.* Сах., Латгалія.

*А. Я. Баханькоў*

## ПРА *ВАРЫВА*, *ПРАЖОНКУ* І РОЗНЫ *ТРУНАК*

Змешчаная тут лексіка запісана ў в. Саламір'е Полацкага раёна. Уся яна адносіцца да тэматычнай групы «ежа і пітво». Гэта словы і словазлучэнні, што абазначаюць традыцыйныя назвы страў і напіткаў, мясцовыя назвы мясных, малочных, раслінных прадуктаў і вырабаў з іх, назвы працэсаў прыгатавання і спосабаў прыёму ежы, смакавых і пажыўных якасцей страў, назвы яды ў розныя перыяды сутак і інш.

У адносінах да літаратурных адпаведнікаў амаль усе гэтыя словы — дыялектызмы розных відаў: а) лексічныя (*раўге́ня, пражо́нка, пу́тра*); б) семантычныя (*душа́, клёцкі, хлеб*); в) словаўтваральныя (*акраюшка, мака́ли, шча́вель*), г) фанетыка-акцэнталагічныя (*сырава́тка*).

Не ўключаны ў падборку словы, якія трапілі ў народныя гаворкі з літаратурнай мовы ў сувязі са з'яўленнем у апошні час новых рэалій. Гэта назвы такіх агульнавядомых цяпер прадуктаў і страў, як *катлеты, галубцы, рагу, фарш, пельмені, кансервы, маргарын, кампот* і інш. З традыцыйных назваў ежы і пітва не адзначаліся тыя, што ў гаворцы і ў літаратурнай мове абазначаюцца аднолькавымі (як па гучанню, так і па значэнню) словамі: *мёд, вада, самагонка* і інш.

АБДЗЁРКА *ж.* Мука з ачышчанага (абадранага) зерня. *Мой паехаў у мельніцу, абдзёркі надзелаіць.*

АБ'Е́ДДЗЯ *н.* Аб'едкі, недаедкі. *Выкінь аб'еддзя ў памыі.*

АБЕ́Т *м.* Прыём ежы ў 9—10 гадзін раніцы, а таксама сама ежа. *Сягоньня абет хоць позны, алі смашнъй. На абет зварыла поліўкі і клёцак з душамі.*

АБ'ЯДЗЕ́НЬНЯ *н.* Пра што-н. дужа смачнае. *Тушыла гражанку зь мясам, дък аб'ядзеньня.*

АБЯЁДАВАЦЬ *незак.* Есці, паядаць што-н. са смакам. *Прагаладайся, дък цяперака абяёдаваіць курыцу.*

АВЯ'ЧЫНА *ж.* Авечае мяса як прадукт харчавання; бараніна. *Ні люблю авячыны, цяшкае мяса.*

АГАМЁЛАК *м., Р.*-лка. Вялікі бясформенны кусок хлеба або сыру, звычайна адламаны. *Атламіў агамёлак хлеба, агурок у руку і давай піракусъваць.*

АГЛО'ДАК *м., Р.*-дка. Абкусаны з усіх бакоў яблык ці іншы плод; агрызак. *Укусі майго яблъчка. — Ня буду я твайго аглотка есьці.*

АГУРКІ' *мн.* Закуска, салата са свежых агуркоў, нарэзаных і запраўленых. *Зьдзелай к абеду агуркоў са сьмітанай. Агуркі добра і с алеім.*

АЖАМЕ'РЫ *мн.* Жамерыны.

АКРАЮ'ШКА *ж.* Акраец. *Вазьмі ў дарогу гэту акраюшку, то ня будзіш галадаць.*

АЛА'ДАК *м., Р.*-дка. Аладка.

АПАДО'НКІ *мн.* Асадак якой-н. жыдкай стравы на дне пасудзіны; густыш.

АППІ'ЦЦА *зак.* Выпіць цераз меру, напіцца да болю ў жываце. *Аппіўся сыраваткі, аж жывот трашчыць.*

АСМАКАВА'ЦЦА *зак.* Пачаўшы есці, адчуць смак у тым, што спачатку здавалася нясмачным. *Ні хацеў і пробаваць, а цяпер асмакаваўся — за вушы ні аццягніш.*

АТСЫЧЭ'ЦЬ *зак.* Доўга прастаяўшы, выдзеліць з сябе ваду (часцей пра страву).

АЦЕ'СЬЛІВЫ *прым.* Клейкі, як цеста (пра хлеб, хлебны мякіш). *Ні задаўся хлеп: ці ні падыйшоў, ці ня сьпёкся — нейкі ацесьлівы.*

АШАКІ' *мн.* Аўсяныя жамерыны. *Жур сцадзіла праз рэшата, толькі ашакі асталіся на дне.*

БА'ПКА *ж.* Здобная велікодная булка, якая пячэцца ў місе.

БАРЛЯ'ЦЦА *незак.* Пераброўтваць, перамешваць лыжкай страву, выбіраючы лепшыя кавалкі. *Ні барляйся ў місцы, еш заедна.*

БАЦЬВІ'НЬНЯ *н.* Жыдкая страва з маладога бурачнага лісця, зваранага на сыроватцы або рашчыне. *Як заправіш бацьвіньня сьмітанай, дык смашна, алі і зь мясам ня хужы.*

БЛІНЫ' *мн.* Бліны; відавыя назвы залежаць ад цеста і прыправы. *Дранъі бліны. Бліны с салам. Крапанъі бліны* — бліны з начынкай.

БУЛЁН *м.* Булён; відавыя назвы залежаць ад прыправы. *Булён с салам. Булён з грыбамі. Бялёнъй булён* — бульбяны малочны суп.

БУ'ЛКА *ж.* 1. Буханка хлеба. 2. Белы, пшанічны хлеб. *Есь булку з маслам.*

БУ'ЛЬБА *ж.* Страва з караняплодаў аднайменнай расліны; відавыя назвы залежаць ад способу прыгатавання. *Бульба с сольлю* — чышчаная бульба, якая соліцца пры варцы. *Пячоная бульба* — нячышчаная бульба, якая пячэцца ў прысаку, або чышчаная цэлая, спечаная на скавярадзе. *Таўчоная бульба* — тое, што і *бульбіная каша. Бульба ў мундзірах* — нячышчаная бульба, звараная без солі.

БУРАКІ' *мн.* Жыдкая страва з дробна нарэзаных свежых ці заквашаных караняплодаў аднайменнай расліны. *Зварыла буракоў на сыраваццы, дък усе добра елі.*

ВАДНЕ'ЦЬ *незак.*, АТВАДНЕЦЬ *зак.* Доўга прастаяўшы, пачаць выдзяляць з сябе ваду (пра страву). *Учарашнія каша пачалаваднець.*

ВАРО'НКА *ж.* Колькасць ежы, стравы, якая зварваецца за адзін раз. *Круп засталося, можа, на адну варонку.*

ВА'РЫВА *н.* Тое, што і *бацьвіньня. Вясной і варыва са здорам смашна.*

ВАРЫ'ШКА *ж.* Тое, што і *варонка. Грыбоў варышкі на дзьве назьбіраў і хваціць.*

ВІЧА'НІК *м.* Блін або пірог з вікавай мукі. *У вайну як ні было чаго есьці, дък віку ў жорнах малолі і пяклі вічанікі.*

ВУРЫ'ЦЬ *незак.* Апетытна есці, гучна сёрбаючы. *Як толькі прысеў за стол, так і пачаў вурыць капусту.*

ВЫ'ГЛАКТАЦЬ *зак.* Прагна выпіць усё да дна. *Прышоў з лазьні, дък выглактаў цэлы стаўбун сыраваткі.*

ВЫ'ЛАКАЦЬ *зак.* Тое, што і *выглактаць.*

ВЫТА'ХНУЦЦА *зак.* Перастаць пахнуць, страціць вастрыню свайго смаку і паху. *Хрэн за нядзелю саўсім вытахся. Гарчыца вытахлася.*

ВЫ'ЧХАЦЦА *зак.* Тое, што і *вытахнуцца. Гарчыца вычхалася.*

ВЭ'ДЗГАЦЦА *незак.* Неахвотна есці, перабіраючы, перамешваючы лыжкай страву. *Еш, ня вэдзгайся.*

ВЯРШЫ'НКІ *мн.* Смятанка. *Сьмітаны ні было, дък заправіла агуркі вяршынкамі.*

ВЯЧЭ′РА *ж.* Вячэра. *У дзярэўні летам вячэра бъваіць позна, ужо як сьцямнеіцца.*

ГАЛАБО′НІ *мн.* Дурніцы. *Кісель з галабоняў ішчо смашнейшы, чым ш чарніц.*

ГАМЁЛКА *ж.* Тое, што і *агамёлак. Схапіў гамёлку хлеба й есь.*

ГАРБУ′С *м.* 1. Негустая гарбузовая каша, звычайна на малацэ. *Цёплъй гарбус усе с ахвотай елі.* 2. Гарбузы *мн.* Гарбузовыя семечкі. *Увесь вечар лушчылі гарбузы, панасоравалі скрось.*

ГАРО′ХАВІК *м.* Гарохавы блін, пірог.

ГАРО′ХАЎКА *ж.* Гарохавы суп.

ГЛАКТА′ЦЬ *незак.* Прагна і многа піць.

ГЛА′МАЦЬ, ГЛО′МАЦЬ *незак.* Абкусваць, кусаць што-н. неглыбока, але па ўсёй паверхні. *Гламаіць, гламаіць той яблък, як бяззубъй, а знаку нет.*

ГЛАМЯНУ′ЦЬ *зак.* Кусануць, укусіць. *Гламянуў агурок раз-другі і кінуў.*

ГЛЫК. 1. *м.* Глыток. *Засталося ў стакані на адзін глык.* 2. Ужываецца гукапераймальна па значэнню дзеяслова *глыкаць. Ён глык-глык і выпіў усё.*

ГЛЫ′КАЦЬ *незак.* Піць прагна, вялікімі глыткамі.

ГЛЫЦЕ′НЬ *м.* Глыток. *Зьдзелаў адзін глыцень.*

ГРАЖА′НКА *ж.* Бручка. *Тушыла гражанку зь мясам, дък аб'ядзеньня.*

ГРУ′ЦА *ж.* Каша з буйных ячменных круп.

ГРЫБЫ′ *мн.* Страва або прыправа з грыбоў, відавыя назвы якой залежаць ад спосабу прыгатавання. *Сушоныя грыбы. Салёныя грыбы. Марынаваныя грыбы. Мачоныя грыбы. Юшка з грыбамі.*

ГУСТЫ′Ш *м.* Густая частка стравы; гушча. *Жышку схлібаў, адзін густыш застаўся.*

ДРАНЬНЁ *н.* 1. Цеста з дранай бульбы. 2. Страва, вырабы з гэтага цеста. *Учора дранъі клёцкі, сягоння дранъі бліны — надаела ўжо гэта драньнё.*

ДУША′ *ж.* Начынка ў клёццы з крышанага мяса або сушаных грыбоў, тоўчаных канапель і розных прыпраў: цыбулі, часнаку, лаўровага лісту. *Дранъі клёцкі з душамі.*

Е′МІНКА *ж.* Бульба, прызначаная для ежы (на *емя*), у адрозненне ад семінкі — насеннай бульбы. *Пірабілі бульбу — семінку асобна, емінку асобна.*

Е'МЯ *н.* Ежа, яда, спажыванне. *Разьдзялілі — што на семя, што на емя.*

Е'СТАЧКІ, Е'СТКІ, Е'СЦІКІ *незак. ласк.* Есці. *А мой ты сынок! Січас дам естачкі. Есткі захацеў.*

Е'ШЧЫ *прым.* Які многа з'ядае, мае добры апетыт. *А мой чалавек саўсім ня ешчы, трошку лізьнець — і ўжо пад'еў.*

ЖВАЦЬ *незак.* Жаваць. *Жвець, як бяззубый.*

ЖАМЯРА' *ж.* Тое, што і *ажамеры.*

ЖУР *м.* Негусты аўсяны кісель. *Жур засквартваюць салам і ядуць гарачъй з бульбай і хлебам.*

ЖЫ'ТКАЕ *н.* Жыдкая страва або вада, сыроватка, малако, на якіх яна гатуецца. *С холаду хочацца жыткага і гарачага.*

ЖЫ'ТКАЯ СТРА'ВА. Страва, звараная на вадзе, сыроватцы або малацэ (бялёны булён, бацвінне, капуста і пад.). *Як жыткай стравы ня зьем, то саўсім галодная.*

ЖЫ'ШКА *ж.* Жыдкая частка стравы. *Выхлібаў жышку, а густыш застаўся.*

ЗАЕ'ДНА *прысл.* У выразе: *есці заедна* — есці ўсё па парадку, не выбіраючы лепшага, смачнейшага. *Еш заедна, ні барляйся па місцы.*

ЗАСІВІ'ЦЬ *зак.* Трохі заправіць (забяліць) малаком. *Малака ні хапала, дък толькі троху засівіла булён.*

ЗАХЛІ'БЪВАЦЬ *незак.,* ЗАХЛІБНУЦЬ *зак.* Запіваць чым-н. жыдкім. *Сухій хлеп пірасеў у горлі, дай малака захлібнуць.*

ЗАЦІ'РКА *ж.* Страва з пшанічнай мукі, заваранай дробнымі камячкамі ў вадзе або малацэ.

ЗБЕ'ГЧЫСЯ *зак.* Ссесціся, створожыцца (пра малако). *Забяліла булён, дък малако зьбеглася, мусіць, кіслая было.*

ЗЁЛКІ *мн., Р.*-лак. 1. Лекавыя травы. 2. Адвар з гэтых траў як пітво. *Наварыла зёлак жбанок, на цэлъй дзень хваціць піць.*

ЗІЛІНЧА' *ж. зборн.* Недаспелая садавіна, агародніна. *Ня еш усякай зілянчы, а то жывот забаліць.*

ІЛ *м.* Крухмал.

ІЛУ'ХА *ж.* Зацірка на малацэ з крухмалу і яец.

КАЛАПНІ' *мн.* Семя канапель, падсмажанае і стоўчанае для прыправы. *Хачу скачу, хачу — не, бутылачка ў кармане, пірох за пазухай калапнямі намазанъй* (жарт. песня).

КАЛАТУ'ХА *ж.* Негустая мучная каша, звычайна са скварaным салам.

КАМЫ' *мн.* Густая бульбяная каша з бобам або гарохам. *Камы с кіслъм малаком елі.*

КАПУ'СТА *ж.* 1. Капуста. *Шаткаваная капуста. Квашаная капуста.* 2. Жыдкая страва з квашанай капусты. *На абет зварыла капусты с сьвінной рабрынкой.*

КАПЧО'НКА *ж.* Вэнджанае свіное мяса, звычайна кумпяк.

КАРО'ВІНА *ж.* Ялавічына. *Каровіну лепі люблю, чым авячыну.*

КАРО'ЎЯ *прым.* Каровіна. *Кароўя малако. Кароўя масла. Кароўя мяса.*

КАЧАРЫ'ШКА *ж.* Храпка. *Мая дзяўчына качарышкі дужа любіць; як шыткую, дък хрупаіць і хрупаіць.*

КА'ША *ж.* Густая страва з круп, бульбы або мукі. *Аўсяная каша. Ячная каша. Бульбіная каша* — страва са зваранай патоўчанай бульбы, запраўленай скварaным салам ці маслам. *Драная каша* — страва з дранай запечанай бульбы або з буйна змолатай жытняй мукі.

КВАС *м.* Хлебны квас.

КІЛБАСА' *ж.* Каўбаса. *Накръпала кілбас к калядам. Кола кілбасы.*

КІСЕ'ЛЬ *м.* 1. Аўсяны кісель. 2. Фруктовы кісель.

КІСЬЛЯ' *ж.* Кіслата, кіслы смак. *У капусьці кісьлі ўжо хватаіць, нада вынасіць у холат, а то піракісьніць. Сягоння ў сыраваццы прыятная кісьля.*

КЛЁЦКА *ж.* Тое, што і *клёччына.*

КЛЁЦКІ *мн., Р.*-цак. Страва з дранай бульбы або пшанічнай мукі ў форме круглых камкоў цеста. *Клёцкі з малаком. Дранъі клёцкі с салам. Клёцкі з душамі* — вялікія галушкі, начыненыя мясным ці іншым фаршам з рознымі прыправамі. *Кръпанъі клёцкі* — тое, што і *клёцкі з душамі.*

КЛЁЧЧЫНА *ж.* Адна клёцка.

КОФІЯ *ж.* Кофе.

КРАЮ'ШКА *ж.* Акраец, акраюшка.

КРУПЕ'НЯ *ж.* Крупнік. *Бялёная крупеня. Крупеня зь мясам.*

КРЪПА'ЦЬ *незак.* Начыняць фаршам або іншай прыправай. *Кръпаць кілбасы. Кръпаць пірох яблъкамі. Крапаць клёцкі сушонъмі гръбамі.*

КУРА'ЦІНА *ж.* Мяса курыцы як ежа.

КУРЫ'ЦА *ж.* Курыца. *Булён с курыцай смашнъй.*

КУСА'НАК *м.* Кусок хлеба, яблык і пад., які закусілі, пачалі есці.

КУ'ХАН *м.* Здобны піражок, звычайна з начынкай.

КУЦЬЦЯ' *ж.* 1. Салодкая каша, якую ядуць на памінках. 2. Каша з ячменных круп, якую вараць перад калядамі і перад Новым годам.— *Марос, марос, хадзі куцьцю есьці! — Спасіба, еў, на коніка сеў, а ты йдзі вароты зачыняй* [з народнага апавядання].

ЛАПУ'Н *м.* Праснак, ляпёшка з мукі і дранай або тоўчанай бульбы.

ЛІЗНУ'ЦЬ *зак.* З'есці зусім нямнога, толькі паспытаць. *Што гэта за іда, лізнуў адну каплю і ат стала.*

ЛЮБАВІ'ЗНА *ж.* Поснае, любовае мяса.

ЛЯНУ'ХА *ж.* Страва з бульбы і свежай капусты, забеленая малаком.

МАКА'ЛА *н.* Прыправа (звычайна смятана з адтопленым малаком), у якую макаюць бліны, пірагі.

МАКАРО'Н *м.* Макарона, локшына. *Наварыла бялёнага макарону, дък усе добра елі.*

МАКА'ЦЬ *незак.* Мачаць. *Макаць бліны.*

МАЛАКО' *н.* Малако. *Каровя малако. Каша з малаком. Атаграваная малако* — тварог, які атрымліваецца пры паступовым і працяглым награванні кіслага малака. *Аттапліваная малако* — тое, што і *атаграваная малако. Свежая малако* — сырадой. *Кіслая малако* — сыракваша. *Салоткая малако* — пастаялае малако, не паспеўшае закіснуць. *Таплёная малако* — кіпячонае малако.

МАЛО'ЗІВА *н.* Малодзіва. *Малозіва троху аддаіла і зварыла, дък елі рабяты.*

МА'СЛА *н.* Масла. *Біць масла. Хлеп з маслам. Посная масла* — алей.

МАСЬЛЁНКА *ж.* Прыправа: канаплянае семя, стоўчанае з цыбуляй. *Намазаў масьлёнкі на хлеп і есь.*

МАСЬЛЯ'НКА *ж.* Жыдкая кіславатая маса, якая застаецца пры ручным збіванні масла. *Масьлянку і піць добра і с хлебам зьесьці.*

МАЧО'НІКІ, МАЧО'НКІ *мн.* Салёныя грыбы (рыжыкі, ваўнянкі і пад.). *На вячэру была бульба з мачонкамі.*

МО'МЛІЦЬ *незак.* Прагна есці, набіраючы поўны рот; умінаць. *Прагаладаўся, дък момліць напоўніцу.*

МУГА'ЦЬ *незак.* Есці, гучна сёрбаючы. *Вот мугаіць, соннага разбудзіць.*

МУКА′ *ж.* Мука. *Аржаная мука. Белая мука* — лепшыя сарты пшанічнай мукі.

МУРЦО′ЎКА *ж.* Страва з вады або квасу, кусочкаў хлеба, солі, цыбулі і алею. *У нас болі старыі мурцойку ядуць.*

МУЧА′НЫ *прым.* Мучны. *Сягоння мучанъі бліны.*

МЯЖДЖУ′ЛІЦЬ *незак.* Есці марудна, размінаць ежу дзёснамі, не маючы зубоў. *Ня есь, а толькі мяжджуліць.*

МЯ′КАШ *м.* Мякіш. *Мякаш вышчалапаў курам, а скарынка асталася.*

МЯ′СА *н.* Мяса. *Любовая мяса* — поснае мяса без тлушчавых праслоек. *Авячча (авечча) мяса* — бараніна. *Кароўя мяса* — гавядзіна. *Цілячча мяса* — цяляціна.

НАВУРЫ′ЦЦА *зак.* З'есці многа жыдкага, наесціся даадвалу. *Навурыўся капусты, аж жывот трашчыць.*

НАЕ′ДАК *м.* Карысць, пажытак для арганізма ад з'едзенай стравы; сытнасць. *З гэтай зеліні ні наедак. Толькі з'еў і зноў есьці хочацца.*

НАЛІВА′ШКА *ж.* Род кілбасы, прыгатаванай з адвараных круп, свіной крыві і прыправў.

НАЛО′КАЦЦА *зак.* Празмерна напіцца. *Налокаўся квасу, аж жывот трашчыць.*

НАПУ′ГАЦЦА *зак.* Наесціся жыдкага, напіцца.

НАТРУБІ′ЦЦА *зак.* Наесціся даадвалу, да болі ў жываце.

НА′ШЧА *прысл.* На пусты жывот пасля начнога сну. *Выпіў нашча лікарства. Нашча абы-чаго ня еш.*

НА′ШЧЫЦЦА *незак.*, АБНАШЧЫЦЦА, ПАНАШЧЫЦЦА *зак.* Есці або піць што-н. пасля начнога сну. *Будзім нашчыцца чым-небудзь. Малыі ўжо абнашчыліся, яшчэ ў пасьцелі па бліну зьелі.*

НЯЎЕ′ЖНА *прысл.* У выразе: *няўежна, дък улежна* — есці няма чаго, але затое можна спакойна паляжаць.

ПАДВЯЧО′РАК *м.* Перакуска паміж палуднем і вячэрай.

ПАЛУ′ДЗІНЬ *м., Р*-дня. Асноўны прыём ежы ў 2—3 гадзіны дня.

ПАЛЯНДРЫ′ЦА *ж.* Паляндвіца.

ПАЛЯНДРЫ′ЧЪНА *ж.* Тое, што і *паляндрыца.*

ПАСЕ′І *мн.* Высеўкі.

ПАСЬМЕ′ЦІНЫ *мн.* Астаткі смятаны, якія выдзяляюцца пры ператалліванні масла. *Пасьмецінамі заправіла кашу.*

ПАТКАЛО'ТКА *ж.* Мука, якую падмешваюць у жыдкую страву для густаты. *Булён с паткалоткай.*

ПАТСКРЭ'БАК, ПАТСКРЭ'БАШ *м.* Маленькая буханка хлеба з астаткаў цеста.

ПІРАГО'НКА *ж.* Перагон. *Да вайны ў каго ні было каровы, той брау пірагонку ў малочнай і еў.*

ПІРО'Х *м.* 1. Пірог. *Кръпанъй пірох.* 2. Тоўсты блін, праснак. *Падавый пірох. 3.* Белы, пшанічны хлеб; булка.

ПІТАЧКІ, ПІТКІ *незак. ласк.* Піць. *Дзіцятка маё, пітачкі (піткі) захацела.*

ПІЧАНЁЎКА *ж.* Кілбаса, начыненая фаршам з печані, лёгкага, сэрца і селязёнкі забітай жывёліны. *Я пічанёўку лепі люблю, як мясную кілбасу.*

ПО'ЛІЎКА *ж.* Кіслая жыдкая страва з рашчыны. *Поліўка з грыбамі. Поліўка с сухой рыбай.*

ПРАЖО'НКА *ж.* Страва з кусочкаў кілбасы, сала, рабрынак і свіного хваста, звараных у мучной падліўцы з прыправамі (ядуць на каляды з пшанічнымі блінамі).

ПРО'МЗЛЫ *прым.* Чуць закіслы; ні салодкі, ні кіслы (пра малако). *Промзлая малако нісмашная і ўрэдная, жывот ат яго баліць.*

ПРЫКАЛА'ЧЫВАЦЬ *незак.* Дабаўляць паткалотку. *Хацела прыкалачываць булён, алі пірадумала.*

ПРЫСМА'КІ *мн.* Што-н. смачнае, салодкае; ласункі. *Дужа захацелася табе? Такіі прысмакі пражанъй боп.*

ПУ'ТРА *ж.* Густы квас, заквашаная *саладуха.*

РАЎГЕ'НЯ *ж.* Тое, што і *путра.*

РАШЧЫ'НА *ж.* Негустое заквашанае цеста з аржаной мукі. *Юшку на рашчыні варыла, сыраваткі ні бъло.*

СА'ЛА *н.* Сала. *Кармлю парсюка на сала. Нутраноя сьвінноя сала* — здор. *Авяччa сала* — лой. *Гусіная сала* — шмалец.

САЛАДУ'ХА *ж.* Негустое салодкае цеста са змолатага соладу ці іржаной мукі, якое заквашваюць для атрымання хлебнага квасу або ядуць салодкім.

САЛАНІ'НА *ж.* Тоўстае свінное сала, добра пасоленае для працяглага захоўвання. *К лету дзешка саланіны засталася.*

САРАПО'НЯ *ж.* Жыдкае недакіслае малако.

САЧЭ'НЬ *м.* Тоўсты ячменны блін. *Сачнёў напікла, хай макаюць у сьмітану.*

СІ'ТНІК *м.* Сітны хлеб.

СІ'ТНІЦА *ж.* Сітная мука.

СКАЛО'ЦІНЫ *мн.* Тое, што і *маслянка.*

СКАРО'МІНА *ж.* Скаромная ежа; скорам. *Німа ўжо скароміны, пасьціць будзім.*

СКВА'РКА *ж.* 1. Скварка. 2. Сала як прыправа ўвогуле. *За зіму паелі і сала і мяса. Калі ікая скварка засталася, то хай пабудзіць к казьбе.*

СМАКУ'ТКІ *мн.* Тое, што і *прысмакі.*

СПЫ'ТАВАЦЬ *незак.* Прабаваць на смак, каштаваць. *Спытавай страву, ці ні пірасоліна.*

СТРА'ВА *ж.* Жыдкая вараная ежа (булён, капуста, крупнік і пад.). *Ніякай стравы сягоньня ні варыла, толькі бліноў сьпікла.*

СЪРАВА'ТКА *ж.* Сыроватка. *Малако толькі што аттапілася, дък съраватка яшчэ цёплая.*

СЪРАКВА'ША *ж.* Скіслае малако без вяршынак. *Піць хацеў, дък пахлібаў съраквашы.*

СЫР *м.* Сыр дамашняга вырабу. *Тварох нада пакласьці пад гнёт, ацьціснуць — і палучыцца сыр.*

СЫ'РНІЦА *ж.* Дамашні сыр, шчыльна ўкладзены кускамі ў цёрла або збанок і заліты зверху таплёным маслам для працяглага захоўвання. *Зімой с сырніцай бліны добра сьпячы.*

СЫРЫ'ЗНА *ж. зборн.* Недаспелая ці недабраякасная садавіна, агародніна. *Хватаў агуркі, боп, сырызну ўсякую, а цяпер мучайся ж жыватом.*

СЬНІДА'НЬНЯ *н.* Снеданне.

СЬСЕ'СЬЦІСЯ *зак.* Тое, што і *збегчыся. Крупеню забяліла, дък малако сьселася.*

СЬЦЮ'ДЗІНЬ *м.* Халадзец. *Цілячча галёнка была, дък сьцюдзіню наварыла на цэлъй дзень.*

ТАЎЧО'НІКІ *мн.* Аладкі або бліны з тоўчанай бульбы і мукі (ядуць са смятанай).

ТВО'РАХ *м.* Тварог. *Творах сягоньня сьвежъй, дък увесь зьелі.*

ТЛУК *м.* Тлушч, растопленае сала. *Сьвіньніна жырная, тлуку сколькі нацякло.*

ТРУ'НАК *м., Р.*-нку *пагардл.* Піццё, пітво, напітак. *Мама, дай піць.— Ты ж толькі што піў квас. Якога яшчэ табе трунку даць?*

ТРУЦІ'ЗНА *ж. пагардл.* Шкодная для здароўя ежа, выпіўка, лякарства. *Ні хватай усякую труцізну, а то атравісься.*

УВУРЫ'ЦЬ *зак.* Апетытна з'есці. *Увурыў капусты.*

УЧЫНЯ'ЦЬ *незак.*, УЧЫНІ'ЦЬ *зак.* Ставіць рашчыну, цеста для закісання. *Нада ўчыняць хлеп, алі дзешка ня кіслая.*

ХАЛАДЗЁНКА *ж.* Халодная сырая вада ў адрозненне ад грэтай або гатаванай. *Ня пі халадзёнкі — прастудзісься. Распарыўся ў лазьні, а тады абдаўся халадзёнкай — вот косьці і ломіць.*

ХАЛАДНІ'К *м.* Халаднік. *Летам у жару халаднік добра.*

ХАЛО'ДНАЯ *н.* Халадзец. *Ёсць сьвінныя вушы і ногі, дък звару халоднага.*

ХЛЕП *м., мн.* хлябы. 1. Хлеб. *Еш с хлебам. Чарствый хлеп.* 2. Адна выпечка хлеба (5—6 буханак) як мера ўліку. *Мукі засталося, можа, на два хлябы. Як сьпяку хлеп, то на нядзелю хватаіць.*

ЦЫБУ'ЛЯ *ж.* Закуска, салата з зялёнай цыбулі, накрышанай і запраўленай. *Цыбуля ў палудзінь добра, а вечарам — не, атрыгацца ноччу будзіць.*

ЦЫ'МУС *м.* Даўнейшая ежа з морквы або *гражанкі*, дробна накрышанай і стушанай з мясам.

ЦЮ'ПКА *ж.* Ежа з хлеба, пакрышанага кусочкамі ў малако, квас або ў ваду.

ЧАЙ. *м.* 1. Чай. 2. Травяны адвар; зёлкі. *Сягоньня чай ш чомбарам.*

ШАКАЛЫ' *мн.* Тое, што і *ашакі.*

ШІМА'ЛІЦ *м.* Гусінае сала; шмалец.

ШЧАЛАЧА'ЦЬ *незак.*, АШЧАЛАЧАЦЬ *зак.* Пускаць шчолак; ваднець. *Кісель пачаў шчалачаць.*

ШЧА'ВІЛЬ *м.* Шчаўе. *Гарачъй шчавіль варуць са здорам ці зь мясам, а халоднъй запраўляюць сьмітанай, дабаўляюць яйцо й зялёную цыбулю.*

ШЧО'ЛАК *м.* Вада, жыжка ў страве, якая адстаялася.

Ю'ШКА *ж.* 1. Жыдкая кіслая страва на рашчыне або на сыроватцы; *поліўка. Юшка с сушонымі грыбамі.* 2. Булён са свежай рыбы. *Акунёў пажарыла, а з галавамі юшку зварыла.*

ЯДА'К *м.* Ядок. *Які сь цябе ядак, міскі капусты ня зьеў.*

ЯЕ'ШНЯ *ж.* Яечня. *Яешня на малацэ. Яешня с крухмалам.*

Я'КАР *м.* Самая лепшая, адборная частка (у якім-н. прадукце, страве і пад.). *Ну і як вы елі гэты вішні, увесь якар павыбіралі, асталіся адны сухабокіі.*

*Н. Д. Коранъ*

# З ЛЕКСІКІ ТКАЦТВА

Матэрыялы з вёскі Бераснёўка Брагінскага раёна. У падборку ўключаны не толькі мясцовыя словы, але і вядомыя ў літаратурнай мове тэрміны ткацтва, што выклікана цеснай сувяззю і ўзаемаабумоўленасцю слоў, абмежаваных адной тэматычнай групай.

АБРУБІ'ЦЬ *зак.* Загнуўшы, падшыць краі чаго-н., каб не высыпаліся ніткі. *Нада абрубіць палатно.*

АСНО'ВА *ж.* Далявыя ніткі ў тканіне; пража, якую снуюць на сноўлі. *Трэба пражу пакрасіць на аснову.*

АСТА'ЧА *ж.* Лішак асновы, які ўтвараецца пры кіданні ў ніты і бёрда. *Есьлі багата наснуюць, то ў берда не памесьціцца і ідзе адход ад навойкі. Йета і будзе астача.*

БАРАДА' *ж.* Ніжняя частка кудзелі, з якой прадуць. *Падвяжы большую бараду, а то зь яе няможна вускубнуць.*

БЕЛЬ *ж.* Купленыя ніткі. *Купіла белі ткаць посцілку.*

БЕ'РАГ *м.* Край палатна. *У палатне бувае бераг харошый і паганый.*

БЕ'РДА *н.* Бёрда. *Берда новае купіла.*

БЛІЗНА' *ж.* Брак у палатне, калі ніткі асновы ідуць зверху без ператыкання. *Як нітка парвецца да з берда вулезе, тады й блізна.*

БУГРАВА'СТЫ *прым.* Няроўны, з вузламі. *Бугравастая пража, няроўная. Няроўна прадзе, то й бугравастая.*

БЯЛІ'ЦЬ *незак.*, ВУ'БЕЛІЦЬ *зак.* Адбельваць палатно, рассцілаючы яго летам на траве, а зімой на снезе. *Хто не ўправіцца летам вубеліць палатно, той зімой беліць.*

ВЕРХ *м.* Пража, якой затыкаецца ўток. *Купіць нітак на верх.*

ВІ'ЛАЧКІ *мн.* Вілкападобнае прыстасаванне ў калаўроце, куды ўстаўляецца катушка з ніткамі. *Вілачкі ўстанаўляюцца ў станок. У вілачкі ўбіваецца шпень. На шпень надзяваецца кацюшка.*

ВІЛЕ'НКА *ж.* Від узора на тканіне з роўнымі шыракаватымі радамі, вытканымі рознай пражай. *Аснова адна, а пражу утка можна ставіць па плашкам усякую: і красную, і зялёную. Ета і будзе віленка.*

ВІРО'К *м.* Круглая драўляная палачка з надрэзамі і дзіркамі на канцах (для матання нітак). *Вірком матаюць у клубок ніткі.*

ВУБІВА'ЦЬ *незак.* Адбіваць палатно пранікам пры адбельванні. *Палатно вубіваюць пранікам.*

ВУ'ЛЕЖАЦЦА *зак.* Праляжаўшы пэўны час дзе-н., зрабіцца прыгодным для апрацоўкі (пра лён, каноплі). *На балоці ўжэ лён вулежаўся, трэба убіраць.*

ВУЦЯ'ГВАЦЬ *незак.* Выпростваць, выраўноўваць мокрую аснову пасля залення. *Аснову вуцягваюць і сплятаюць, патом на навойку навіваюць.*

ГАЛАВА' *ж.* Патаўшчэнне на канцы навоя з дзіркамі для кійка, які ўдзяваецца, каб навой не круціўся. *Устаўляецца палка ў галаву і украпляецца.*

ГАРЭ'НЬ *м.* Суконныя ніткі; сукно.

ГРЭ'БЕНЬ *м.* Дошка з набітымі на яе жалезнымі зубамі для абдзірання лёну. *На грэбень з зялезнымі зубамі абдзіраюць лён.*

ГУ'БКА *ж.* Адзінка вымярэння асновы ў кроснах, роўная даўжыні хатняй сцяны. *Бувала, па шаснаццаць губак палатна ткалі. Губкі ўсякія йе. Хата вялікая, то і губкі вялікія. Хата маленькая, то і меньшыя губкі.*

ДАТЫКА'ЛЬНІКІ *мн.* Палачкі, на якіх датыкаюць аснову. *Нада падвязаць датыкальнікі, шчоб даткаць аснову. Усе раўно канцы астаюцца.*

ДАТЫКА'ННЕ *н.* Заканчэнне ткання.

ДАТЫКА'ЦЬ *незак.*, ДАТКА'ЦЬ *зак.* Канчаць ткаць. *Даткала кросна.*

ДЗІЦЯ'ТКА *н.* Палачка, якой замацоўваюць аснову ў навою. *Йе ў навойцы такая шкалубінка, туды залажуецца дзіцятка, тады навіваецца аснова на навойку.*

ДЗЯДО'К. *м.* Падстаўка, у якую ўстаўляецца верацяно пры змотванні з яго пражы.

ДО'ШЧАЧКА *ж.* Сядзенне для ткачыхі. *Палож дошчачку да садзісь і ччы. Сядзіць ткачыха на дошчацца. Дошчачка ляжыць на ставах.*

ДО'ШЧАЧКІ *мн.* Дзве звязаныя ніткай лучынкі, якія распрамляюць ніткі асновы. *Дошчачкі ложацца ў сярэдзіну асновы. Як плоха ткуцца кросна, калі аснова зліпаецца, то і трэцюю ўстаўляюць.*

ЗАКЛАДА'ННЕ *н.* Від узорнага ткання, дзе дадатковыя каляровыя ўткі ткуць толькі частку ўзора і не ідуць на ўсю шырыню тканіны.

ЗАРУБІ'ЦЬ *зак.* Тое, што і *абрубіць.*

ЗА'СМУЧКІ *мн.* Няроўнасці на паверхні палатна з-за дрэннай пражы. *То ж вуткала палатно, адны засмучкі. Як у пражы засмучкі, так і ў палатне.*

ЗАТЫКА'ЦЬ *незак.*, ЗАТКА'ЦЬ *зак.* Пачынаць ткаць. *Прыв'язуеш пруточак к навойцы і тады затыкаеш кросна на навойцы-падпалатнянцы.*

ЗАШЧАПІ'ЦЬ *зак.* Накінуць пятлю на верхнюю частку верацяна, каб спрадзеная нітка не разматвалася. *Трэба зашчапіць нітку, а тады прасць.*

ЗНІ'ЦІЦЦА *зак.* Парвацца (пра кабылку ў ніце). *Зніцілась кабулка.*

ЗЯВУ' *м.* Прамежак паміж верхнімі і ніжнімі ніткамі асновы, праз які праходзіць чаўнок. *У вялікі зяву добра кідаць чоўнік. То зяву, шчо чоўнік закідаць.*

КАБУ'ЛКА *ж.* Пятля ў ніце. *Навязаць нада багата кабулак.*

КАЛЯСО' *н.* Кола ў калаўроце. *Нада на калясо надзяваць шнур і кацюшку. Нагою качаеш калясо і прадзеш.*

КАНЦЫ' *мн.* Апошні вытканы кавалак палатна з ніткамі асновы, якія нельга да канца саткаць. *Астаюцца ат навойкі канцы. Тады з іх можна рабіць трапкачыкі.*

КАЦЮ'ШКА *ж.* Катушка для нітак у калаўроце. *На шпень у вілачкі надзяецца кацюшка.*

КАЧА'ЦЬ *незак.* Прасаваць, гладзіць бялізну качалкамі. *Трэба плацце качаць, а то парасохне.*

КІ'ДАЦЬ *незак.*, НАКІ'ДАЦЬ *зак.* Уводзіць аснову ў бёрда. *Еслі накідаеш у ніт і ў берда, то ўжэ і затыкай кросна.*

КІЙ *м.* Палка для замацавання задняга навоя. *У вялікую навойку засаджваюць кіёк, шоб не кацілася навойка. Кій доўгі чараз увесь панарад.*

КРАМ *м.* Фабрычная матэрыя. *Краму купіла на кусьцюм.*

КРО'СНА *мн.* Ткацкі станок з навітай і прыгатаванай для ткання асновай. *Да нядзелі трэба кросна паставіць.*

КУ'ЖАЛЬ *м.* Палатно з ачышчанага льновалакна. *Кужаль — тонкае палатно.*

КУ'КЛА *ж.* Галоўка абчасанага лёну. *Абдзярэш лён і звертуеш у куклы і звязуеш у павесму.*

КУ'ЛЬБАЧКА *ж.* Разнавіднасць *лісічкі.*

ЛАПА'ТКА *ж.* Прыстасаванне ў калаўроце, пры дапамозе якога прыводзіцца ў рух кола. *Пад станком йе дошчачка ўнізу. За етую дошчачку начэплюецца лапатка за шпень.*

ЛІСІ'ЧКА *ж.* Адно з калёсікаў, на якія чапляюцца ніты.

МАТАВІ'ЛА *н.* Крыжападобнае прыстасаванне для намотвання і размотвання нітак. *На матавіла матаеш, як верацён мала, а тады з матавіла на клубок.*

НАБІ'ЛКІ *мн.* Рухомая рама ў ткацкім станку, у якую ўстаўляецца бёрда. *Набілкі, дзе берда паміж імі памяшчаецца.*

НАВО'ЙКА *ж.* Навой. *Мо, дзе йначай завуць, а тут навойка. Вялікая навойка* — пярэдні навой, на які навіваюць ніткі асновы. *Шчо пражу навіваюць, тая і большая навойка. Меншая навойка* — задні навой, на які намотваюць палатно пры тканні. *Шчо навіваюць палатно, то і меншая навойка, навойка-падпалатнянка.*

НАЦЯ'ГІЧ *м.* Выструганая палка, якой падкручваюць задні навой, нацягваючы палатно. *Нацягіч, шоб не адкручвалася навойка-падпалатнянка.*

НЕ'БА *н.* Верхняя частка ткацкага станка, на якую падвешваюць ніты і набіліцы. *У нас дзелаецца на столь, а каторыя дзелаюць неба.*

НЕДО'ПРАДАК *м.* Астатак недапрадзенай кудзелі. *Як кудзелю не дапрадзеш, дак кажуць недопрадак.*

НІТ *м.* Частка ткацкага станка, якая забяспечвае тое ці іншае перапляценне нітак асновы ўточнай пражай. *Без ніта не вуччаш палатна.*

НІ'ЦІЦЬ *незак.*, НАНІ'ЦІЦЬ *зак.* Рабіць кабылкі ў нітах. *На дошчачку наніціла ніт.*

ПАВЕ'СМА *ж.* Звязка лёну з пэўнай колькасці жмень. *Ад 22 і да 26 жмень кладзеш у павесму. Болей ужэ не кладзеш.*

ПАДПАЛАТНЯ'НКА *ж.* Задні навой, на які наматваецца палатно.

ПАКАЦЁЛЫ *мн.* Драўляныя калёсікі ў ткацкім станку. *На пакацёлы навешуецца ніт.*

ПАНАЖЫ' *мн.* Частка ткацкага станка ў выглядзе дошчачак пад кроснамі, пры дапамозе якіх прыводзяцца ў рух нагамі ніты. *Панажы тыя, каторыя пад нагамі. Йе кросна на чатыры панажы, а йе на два панажы. Як ты ткала? На чатыры панажы і на чатыры ніты.*

ПАНАРА'Д *м.* Ткацкі станок. *Панарад ета ўвесь ткацкі станок.*

ПАРАСНО'ВА *ж.* Памылка пры снаванні, калі снуецца большая колькасць пасмаў, чым трэба. *Бувае парасднова, калі аснуеш болей, то тады йдзе атход ат навойкі.*

ПАРЭ'КУЛІ *мн.* Від узора на палатне, які выконваецца пры тканні ў чатыры ніты. *Посцілка вуткала ў парэкулі, калі аснова адна, а ўток другі. Нада толькі дзве пражы.*

ПАЧО'СКІ *мн.* Пачаскі, пачассе. *Лён чэшаш, адкідаеш пачоскі.*

ПЕРАМО'ТА *ж.* Памылка пры снаванні кроснаў. *Ашыбесься—дай перамота. Накладзеш перамоту, а тады нада разводзіць.*

ПЛА'ЦЬЦЕ *н. зборн.* Бялізна. *Пазаліць плацьце ў жлукці.*

ПЛА'ШКА *ж.* Доўгая палоска на посцілцы, вытканая ўзорам у *віленку. Плашкаператыкаецца якою хочаш пражаю.*

ПО'ЛКА *ж.* Адно палотнішча. *Посцілка ў дзве полкі.*

ПРА'ЖА *ж.* Спрадзеныя ніткі. *Уточная пража.*

ПРО'СЕСЬЦЬ *ж.* 1. Частка намотанай на станок асновы, якая адпускаецца для ткання на адзін раз. 2. Частка вытканага палатна, якая навіваецца на задні навой за адзін раз. *Наччэш просесьць, тады ат навойкі атпускаеш і накачуеш на палатнянку.*

ПРУГІ' *мн.* Дзве перакрыжаваныя планкі з цвічкамі на канцах для распінання палатна пры тканні. *Дзве палачкі наўхрыст, шоб распінала палатно, шоб берду лёгка було хадзіць.*

ПРЫНІ'ЦІЦЬ *зак.* Прывязаць кабылку (у ніце). *Еслі прыніціш кабулку, не будзе стрыгаваць нітка.*

РАБУ'ШКА *ж.* Дошчачка з дзірачкай і прывязаным цвіком, якія ўстаўляюцца ў *нацягіч. Нацягіч і рабушка*

*ўкрапляе навойку, шчоб не раскручувалася навойка, у каторай палатно. Рабушка ўстаўляецца ў нацягіч.*

САБА'ЧКІ *мн.* Маленькія драўляныя палачкі для замацоўвання петляў шнуркоў якія трымаюць ніт. *Сабачкі чапляюцца за ніты, а за сабачкі чапляюцца панажы.*

САНАПРА'ДКА *ж.* Прыстасаванне для прадзення ніцак, род калаўрота.

СВОЙ *м.* Сувой. *У скрыні ляжыць многа свояў.*

СКАЦІ'ЦЬ *зак.* Згарнуць палатно ў трубку. *Убеліш палатно і скоціш свой.*

СНАВА'ЦЬ *незак.,* АСНАВА'ЦЬ *зак.* Падрыхтоўваць аснову красён, размотваючы пражу на *сноўлях. Кросна снуюцца, тады абліваюцца крухмалам, сушаць, а тады навіваюць на навойку і ткуць палатно.*

СНО'ЎЛІ *мн.* Доскі з калькамі, якія прыбіваюцца па даўжыні сцяны і на якія снуецца аснова. *Сноўлі тыя, што снуюць кросна.*

СПРА'СЬЦІ *зак.* Прадучы, перарабіць кудзелю на ніткі, прыгатаваць прадзеннем. *Спрала кудзелю, прывяжу другую.*

СТАВУ' *мн.* Кросны.

СТАНО'К *м.* Каркас, у якім трымаецца кола самапрадкі. *У станок закладуецца калясо.*

СТРЫГАВА'ЦЬ *незак.* Не прыбівацца бёрдам (пра нітку ў нітах). *Калі кабулка парвецца ў нітах, тады нітка стрыгуе паверху або спададна. Нітку ў нітах нада прынічуваць, і тады нітка будзе іці як следуе.*

СУКА'ЛА *н.* Прыстасаванне для насуквання нітак на цэўку. *На сукалі цэлачку надзяеш.*

СУКА'ЦЬ *незак.* 1. Намотваць ніткі на цэўку пры дапамозе сукала. 2. Звіць дзве ці больш нітак у адну.

СЫРАВУ'Й *прым.* Неапрацаваны, нявыбелены (пра ніткі, палатно). *Тчэш сыравуе ніткі, а тады ўжэ беліш.*

ТРАПКА'Ч *м.* Сплеценыя канцы нітак, адрэзаныя з палоскай палатна.

ТРАСЦЕ' *н. зборн.* Трысцінкі ў бёрдзе.

УВО'І *мн.* Ніткі, пры дапамозе якіх замацоўваюцца трысцінкі ў бёрдзе.

УВОЙ *м.* Падоўжныя палачкі ў бёрдзе, куды ўстаўляюцца трысцінкі. *У увой укладаецца трысце.*

УПЕРО'ЧКІ *мн.* Планкі, якімі замацоўваюць раму ткацкага станка. *У ставах дзьве уперочкі, шчоб ставу добра дзяржаліся.*

УТО'К *м.* Пража, якой ператыкаецца аснова. *Уток — ета ніткі, каторымі ткуць кросна.*

ХЛУДЗЕ'Ц *м.* Драўляная палачка, на якую насаджваецца цэўка ў чаўнаку. *На хлудзец надзяецца цэлачка і засаджуецца ў чоўнік.*

ЦЭ'ЛКА *ж.* Цэўка. *Насучы штук дзесяць цэлак.*

ЧО'ЎНІК *м.* Ткацкі чаўнок. *У чоўніку хлудзец паламайся.*

ЧЫНЫ' *мн.* Скрыжаванне нітак асновы, якое ўтварае верхні і ніжні рад. *У чынах можа перамота буць. Чыны разбураюцца, красён не будзе. Без чыноў красён ткаць няможна.*

ЧЫ'СЛІНКА *ж.* Адзінка лічэння асновы ў тры ніткі. *Тры ніткі — чыслінка.*

ШКАЛУ'БІНКА *ж.* Выемка ў навою, куды закладваецца *дзіцятка.*

ШНУР *м.* Тонкая вяровачка, якая нацягваецца на кола ў самапрадцы. *Нада на калясо надзяваць шнур і на кацюшку, і на гайку.*

ШЧО'ЛАК *м.* Луг. *Калісь шчолакам залівалі палатно.*

*С. Г. Лобач*

# ТЭРМІНАЛОГІЯ ПАДЗВІНСКІХ ПЛЫТАГОНАЎ

Заходняя Дзвіна з даўніх часоў з'яўлялася воднай артэрыяй, па якой ажыццяўляўся гандаль Расіі з замежнымі краінамі. На суднах і плытах вывозіліся розныя тавары і лесаматэрыялы. Значная частка лесаматэрыялаў сплаўлялася ў выглядзе плытоў. Сплаву лесу папярэднічалі падрыхтоўчыя работы: высечка і дастаўка лесу на рачныя прыстані — румы, нарыхтоўка сплаўных вязальных сродкаў: жэрдзя, кручаных дубцоў, колатых палак і інш. Ранняй вясной бярвенне скочвалі ў ваду і вязалі ў плыты вяршынямі ўперад; кожны плыт (*ганóк*) складаўся з асобных секцый. Людзей, якія займаліся сплавам лесу, называлі *ганкóўшчыкамі*.

На працягу стагоддзяў у асяроддзі *ганкоўшчыкаў* выпрацавалася багатая спецыяльная тэрміналогія. Тут пададзены матэрыялы, запісаныя ў вёсцы Курына Віцебскага раёна ў 1973 г. Некаторыя з тэрмінаў, зафіксаваных намі, сустракаюцца ў дарэвалюцыйных этнаграфічных працах, а таксама ў слоўніках В. У. Дабравольскага і М. І. Каспяровіча.

Лексіка заходнядзвінскіх *ганкóўшчыкаў* адрозніваецца ад лексікі дняпроўска-прыпяцкіх плытагонаў (*лáўнікаў* і *плысакóў*). Гэтыя адрозненні назіраюцца пераважна ў назвах вязальных сродкаў. Такія тэрміны, як *шанцавíна, гнівó, клíба* і некаторыя іншыя, характэрны для заходнядзвінскага арэалу.

За выключэннем асобных слоў іншамоўнага паходжання (*рум, бон* і інш.), лексіка заходнядзвінскіх *ганкоўшчыкаў* мае ўсходнеславянскую аснову: *лéнта, снасьць, басьцí* і інш.

Тэрміналагічная лексіка названага рэгіёна, як і плытніцкая лексіка па ўсёй тэрыторыі Беларусі, вызначаецца

ў значнай ступені архаічнасцю, бо лесасплаў у тым выглядзе, у якім ён існаваў да рэвалюцыі, не захаваўся.

АМЫ'ЦІНА *ж.* Вір. *Амыціны на Дзьвіне напроціў магазіна былі.*

БАГО'Р *м.* Бусак. *Патцягаваюць баграмі лес і вяжуць яго ў лавы.*

БАСЬЦІ' *незак.* Зарываць *саху* ў зямлю. *Саху бадуць у землю, яе за снасьць прывязаваюць і ганок астанаўліваецца.*

БІЧО'ЎКА *ж.* Прывязь, звітая з чатырох дубцоў (*клібін*) для звязвання дроў у пучкі. *Як дровы вяжуць, жэрць — пат ніс, катаюць дровы, зноў жэрць наверх — і звязаваюць бічоўкай.*

БОН *м.* Ланцуг звязаных паміж сабой бярвён, пры дапамозе якога затрымліваецца лес пры молевым лесасплаве. *Цяпер вяжуць боны з чатырох брявён, ходзяць з багром кругом глейні, удобна так.*

БУ'ТКА *ж.* Шалаш на плыце. *Саломенныя буткі на ганках робяць так: дзелаюць дугі высокія, патом прыбіваюць жэрдзінкі, накрываюць саломай перва, а па саломе — яловай карой. Увярху — дзёрка ёсьць.*

ВЯРХУ'ШКА *ж.* Верхавіна. *Вярхушкі ўперадзе, ззаду камлі — так візаўся лес.*

ВЯСЛО' *н.* Прылада для кіравання плытом у выглядзе абчасанага бервяна, якая прымацоўваецца наперадзе і ззаду плыта. *Вясло з тонкага бряўна, ім кіруюць ганкамі.*

ГАЛО'ЎКА *ж.* Града камення ў рацэ, паверсе якой бурліць і пеніцца вада. *Даплываем да Рублянскай галоўкі, ён як закрычыць: «Бей управа! Бей улева!»*

ГАНКО'ЎШЧЫК *м.* Плытагон. *Той, хто ганяў ганкі, — ганкоўшчык.*

ГАНО'К *м.* Плыт, які складаецца з некалькіх звенняў (*глейняў,* або *лаваў*). *Штук шэсьць лаў уместа звязваецца — і ганок.*

ГАРНО' *н.* Месца для вогнішча на плыце.

ГЛЕ'ЙНЯ *ж.* Плыт або звяно плыта на даўжыню аднаго бервяна. *Глейня — ад дваццаці да трыццаці брёўнаў, шырыня глейні пятнаццаць метраў.*

ГЛЕНЬ *ж.* Тое, што і *гнейня. Там, дзе цячэньня сільнае, скала, як вадапады ўсё роўна, местам пад ваду глень ляціць.*

ГНІВО′ *н.* Прывязь, звітая з трох скручаных дубцоў *(клібін)* для звязвання паасобных звенняў плыта. *З трох клібін вілі гніво длінай пяць метраў і зацэплівалі за шанцаўё паследней глейні.*

ГНЯЗДО′ *н.* Высечаная ў бервяне выемка, куды ўкладаецца вясло для кіравання плытом. *Кладзецца наварацень — бряўнушка такая, вырубаем у ім гняздо, штоп не двігалася вясло.*

ДА′МБА, ТА′МБА *ж.* Укапаныя ў зямлю слупы, да якіх прывязваюцца плыты. *Дамба, дзе ставюцца ганкі.*

ДВО′РЫК *м.* Агароджанае *бонамі* месца на рацэ, дзе сартыруюць сплаўны лес.

ДРЫГА′ЛКА *ж.* Тое, што і *вясло. Кладзецца бряўно папярёк ганка, у бряўне высікаюць проймачку, прыкрапляюць дрыгалку доўгую, апцёсаную і рулююць.*

ЖЭСЬ *ж.* Камяністая мель.

ЗАБА′ДВАЦЬ *незак.* Тое, што і *басьці. Чалавек саскокваець с первай лавы і забадваець саху ў зямлю — і ганок паварачваецца і астанаўліваецца, прываліваець к берагу.*

ЗАБО′РА *ж.* Града надводных камянёў. *Сакол—апаснае места, там дзьве заборы ўмесьце.*

ЗАВЁРТКА *ж.* Завостраная палачка даўжынёй 40—60 см для закручвання *клібін. Завёртка патходзіць паг клібіну і закручвае яе.*

ЗА′ДНІ *м.* Плытагон, які стаіць пры заднім вясле. *Задні, што на дрыгалке задняй, кіруіць піредняй дрыгалкай, крычыць: «Управа прывалівай! Улева прывалівай!»*

КАБЫ′ЛА *ж.* Некалькі бярвенняў, рухома звязаных паміж сабой у выглядзе ланцужка, якімі абводзіцца месца на рацэ, дзе звязваецца бярвенне ў плыты. *Катаюць брёўна ў ваду, а ў вадзе заводзіцца кабыла: нескалька бревён звязваюць і апцягваюць крух такі на вадзе.*

КАЛЕ′НА *н.* Круты паварот ракі. *Раньшэ былі мяста камяністыя на Заходняй Дзьвіне і калены, мелі былі.*

КАРАВА′Н *м.* Дзевяць ці болей *ганкоў,* змацаваных паміж сабою і прызначаных для далёкага сплаву. *Раней караваны ганялі ў Рыгу.*

КАРАВА′НШЧЫК *м.* Плытагон, які адказваў за караван плытоў.

КЛІ′БА *ж.* Прывязь са скручаных дубцоў для звязвання бярвенняў у плыты. *Круцілі клібы так: нанашывалі ў дом бяроскі, штоп аттаівалі; столп у хаце быў, удвых*

*круціш: адзін бярецца за камель с кляпнём, а другі за макушку і кругом сталба цягнуць.*

ҚЛІ'БІНА *ж.* Тое, што і *кліба. Прывязвалі паўметра вяроўкі да кляпня і з бярозавых дупцоў круцілі клібіну.*

ҚЛЯПЕ'НЬ *м.* Палка з прывязанай да яе вераўчанай пятлёй для скручвання дубцоў на *клібу. Бярёш кляпень і круціш клібіну для вяскі лесу.*

ҚО'РНІҚ *м.* Старшы плытагон, які стаяў ззаду на плыце. *Той, хто на ганку ззадзі стаяў, старшы быў — корнікам называўся.*

ҚУ'ДРАВІЦЫ *мн.* Апорная частка прыстасавання пад вясло. *Два бряўны, якія кладуцца на шанцаўё, — кудравіцы. На кудравіцы прымацоўваецца навараценъ — берьвяно такое, і ў яго ўрубліваецца дрыгалка.*

ҚУРНІ'СТЫ *прым.* Звілісты, пакручасты. *З Ельшы — пріток Мёжы, там курністая Ельша была, небальшым ганком ганялі.*

ЛА'ВА *ж.* 1. Тое, што і *глейня. На Аўсянцы-речцы вяжуць лавы і пускаюць на Дзьвіну.* 2. Плыт, састаўлены з двухмятровых дроў. *Двухмятровыя дровы вязалі ў лавы талшчыной метр, лавы — у глейні, глейні — у ганок; іх апасна ганяць, адзін метр асаткі, цяжёлыя.*

ЛА'ЙБА *ж.* Баржа.

ЛАЙБО'ЎШЧЫҚ *м.* Шкіпер на *лайбе. Шкіпераў, што на баржах дзіравянных, называлі лайбоўшчыкамі.*

ЛЕ'НТА *ж.* Тое, што і *ганок. Вяжуць глейні, яны ліжаць на лугу заліўным, на ўз'ём вады састаўляюць у ленты ці ганкі.*

МАҚУ'ШҚА *ж.* Тое, што і *вярхушка. Қлаліся брёўна макушкамі ўпярёт, а камлям — назат.*

МЛА'ЧШЫ *м.* Менш вопытны плытагон. *На каждым ганку ёсьць млачшы і старшы.*

НА'ВАРАЦЕНЬ *м.* Бервяно, якое кладзецца на *кудравіцы* і на якім умацоўваецца вясло. *На кудравіцы ложыцца навараценъ, на каторым закрапляецца дрыгалка.*

НАҚА'Т *м.* Рад бярвенняў, якія накладваюцца на ўжо звязаны плыт. *Есьлі ў два накаты, вяжуць бічоўкай.*

ПАДРЯ'ТЧЫҚ *м.* Самы старшы плытнік. *Корнік той, хто атвічаець за адзін, а падрятчык за дваццаць плытоў.*

ПАТПЛА'Ў *м.* Хваёвае бярвенне, якое падвязваецца да лісцевага бярвення, каб апошняе не танула ў вадзе. *Бярёзу вяжуць с патплавам, з ёлкай; бярёза, асіна, дуп— тонець.*

ПАТСА'НКІ *мн.* Маленькія санкі, якія выкарыстоўваліся пры вывазцы бярвення з лесу.

ПІРЯДАВЫ' *м.* Плытагон, які стаяў на пярэднім ганку. *На піряду ганка стаяў пірядавы, яму аплачаваецца меньшэ, а работы большы, нявопытны быў.*

ПЛУЦІ'ЦЬ *незак.* Звязваць бярвенне ў плыты. *У Веліжы і ў Суражы плуцілі ганкі.*

ПРАПУСЬНІ'К *м.* Вопытны плытагон, які праводзіць плыты праз небяспечныя месцы: парогі, *заборы* і інш.

ПРО'ЙМАЧКА *ж.* Тое, што і *гняздо. У бряўне вырубаюць проймачку і прыкрапляюць дрыгалку к бряўну.*

ПРО'ЎШАВАЦЬ *незак.* Прасякаць у бярвеннях дзіркі. *Дзяды проўшавалі бряўно кажнае: прарубалі тапаром дзьве дыркі на канцах, працягвалі клібіны і к шанцавінe прывязвалі кляпнём.*

ПУЧО'К *м.* Спосаб вязкі дроў пры дапамозе чатырох жэрдак (дзве знізу, дзве зверху). *У пучкі вязалі дровы.*

РАЗНАКАМЕ'ЛІЦА *ж.* У выразе: *вязаць у разнакамеліцу* — вязаць камель аднаго дрэва з верхавінай другога дрэва.

РАССА'ДНІЧАК *м.* Прыстасаванне з трох палак, на якое падвешваецца посуд для прыгатавання ежы. *Наносяць зямлі, накладуць на ганок, разводзяць агонь, с палак рассаднічак зробяць і гатовяць яду.*

РО'ССЫП *ж.* Молевы сплаў. *Па мелкіх рэках лес пускалі россыпью.*

РЮМ *м.* Месца на беразе ракі, куды звозяць сплаўны лес. *Да рюму звазілі лес — у Хатолі быў рюм — патом сплаўлялі яго.*

САХА' *ж.* Прыстасаванне для тармажэння плыта ў выглядзе абчэсанага сукаватага калка. *Еслі ў камень ілі ў карень утаркнець нявопытны ганкоўшчык саху, то іна матнець яго на метраў пяць; атваней нада лажыць, а есьлі прямком, то ўбросіць у воду.*

СНАСЬЦЬ, СНАСЬ *ж.* Доўгая пяньковая вяроўка, якая прывязваецца да сахі для тармажэння плыта.

СЬЛІ'ГІ *мн.* Роўныя і доўгія бярвенні, па якіх падрыхтаваны да сплаву лес скідаюць у ваду. *Ат рюма кладуцца сьлігі, па сьлігах катаюць брёўна, а ў вадзе іх зьвязваюць у глейні.*

СТАКА'ДА *ж.* Эстакада. *На стакадах складаваюць хлысты.*

СТА'РШЫ *м.* Больш вопытны плытагон. *На каждым ганку — млачшы і старшы.*

ТАПЛЯ'К *м.* Дрэва, якое ляжала ў вадзе.

ТАРО'К *м.* Тарэц. *Торкі вытыркаліся с-пат шанцаўя.*

ТРЕЛЕВА'ЦЬ *незак.* Выцягваць бярвенне на больш прасторнае месца ў лесе. *Сёння пойдзем трелеваць лес.*

ТРУ'БАЧКА *ж.* Лодка, выдзеўбаная з тоўстай асіны. *На ганках стаялі трубачкі, выдоўбвалі іх з асінавага дзерава.*

УСКУ'ЛІВАЦЬ *незак.* Выцягнуўшы саху, утыкаць яе ў другое месца. *Саху прыдзелывалі на снась; выскаківаеш на берях і поріш у зямлю, кап астанавіць плыт. За рас не астановіш, то ўскуліваеш саху і пірябігаеш на другое места ўпярёт.*

УТО'ПЛЕНІЦА *ж.* Тое, што і *тапляк. Утопленіца — лясіна, якая набрякнець і ляжыць на дне рякі.*

ХЛЫСТ *м.* Абцярэбленае дрэва з верхавінай.

ШАНЦАВІ'НА *ж.* Жэрдка, да якой прымацоўваюцца бярвенні ў плытах.

ШАНЦАЎЁ *н. зборн.* Жардзіны, «шанцавіны». *На брёўны накладывалася шанцаўё, длінныя, тонкія, ад чатырёх да пятнаццаці метраў — і лісьцьвенныя і хвойныя.*

ШОСТ *м.* Шост. *Яловы шост з наканечнікам быў, ім атпіхалі бярвеньні, якія шлі россыпам.*

ШТУРМ *м.* Шторм. *Калі штурм, ганкі прываліваюць к берягу.*

ШТУ'ЧНЫ СПЛАЎ. Тое, што і *россып. На мелкіх рэках быў малявы, штучны сплаў.*

*І. І. Лучыц-Федарэц*

# БУДАЎНІЧАЯ ТЭРМІНАЛОГІЯ БЕЛАРУСКАГА ПРЫПЯЦКАГА ПАЛЕССЯ

Пададзеныя ніжэй дыялектныя матэрыялы з'яўляюцца працягам і дапаўненнем да палескай лексікі, сабранай Н. Д. Корань і М. С. Шушкевічам [1]. Частка матэрыялаў аўтара са 147 населеных пунктаў Брэсцкай і паўднёва-заходняй часткі Гомельскай абласцей, сабраных у 1966—1968 гг., была апісана ім у манаграфіі «Лексіка Палесся ў прасторы і часе» [2]. Лексемы, прыведзеныя ніжэй, — традыцыйныя назвы жылля, гаспадарчых будынкаў (без агульнавядомых у літаратурнай мове), найменні элементаў збудаванняў, двара, частак плоту і калодзежа.

Кожны слоўнікавы артыкул пачынаецца з рэпрэзентатыўнай формы, існуючай у літаратурнай мове або такой, якая магла б існаваць у ёй. Пасля яе ідуць палескія варыянты. Калі палескі варыянт ідэнтычны літаратурнай форме, лексема падаецца толькі адзін раз. Геаграфія пашырэння паасобных палескіх варыянтаў лексем і семем даецца шляхам указання важнейшых арэалаў або адміністрацыйных раёнаў.

Прынятыя скарачэнні: а) арэалаў: аг. — агульнапалескае, зах.— заходнепалескае, усх.— усходнепалескае, цэнтр. — цэнтральнапалескае (тэрыторыя ўздоўж цячэння Ясельды — Прыпяці — Гарыні); б) раёнаў: Брэсцк.— Брэсцкі, Бяроз. — Бярозаўскі, Драг. — Драгічынскі, Ельск. — Ельскі, Жабінк. — Жабінкаўскі, Жытк.—Жыткавіцкі, Іван. — Іванаўскі, Івац. — Івацэвіцкі, Калінк.— Калінкавіцкі, Кам. — Камянецкі, Кобр. — Кобрынскі, Лельч. — Лельчыцкі, Лун. — Лунінецкі, Маз. — Мазыр-

[1] Лексика Полесья. Материалы для полесского диалектного словаря. М., 1968, стар. 131—160.

[2] Лексіка Палесся ў прасторы і часе. Мінск, 1971, стар. 143—195.

скі, Малар. — Маларыцкі, Петр. — Петрыкаўскі, Нар.— Нараўлянскі, Пін.—Пінскі, Пруж.—Пружанскі, Стол.— Столінскі, Хойн. — Хойніцкі.

АБАРО'Г *м.,* а б а р у́ х, о б о р і́ г, о б о р о́ г, о б о р у́ х, о б о р ю́ г, у б у р і́ г, у б у р у́ г *зах.* Прыстасаванне з чатырох слупоў і рухомай стрэшкі для ўкладкі сена, снапоў, саломы.

АБКЛА'ДЗІНЫ *мн. Петр.* Падрубы, першы вянок у збудаванні.

АБЛЯМО'ЎКА *ж.,* о б л я м і́ ў к а, о б л я м ю́ ў к а *Кам.* Шалёўка акна ці дзвярэй.

АБО'РА *ж.,* а б о́ р а *ўсх.;* о б о́ р а, ў б о́ р а *цэнтр., зах.* 1. Агароджаны двор каля гаспадарчых будынкаў *цэнтр.* 2. Вялікі хлеў *аг.*; кароўнік *зах.*; канюшня *цэнтр., Маз.* 3. Павець *Лельч.;* вазоўня *Іван.;* кладоўка для льну, кудзелі, канапель *Лельч.* 4. Стары плот *Лельч. У адну абору* — у адзін рад.

АБРАШО'ЎКА *ж.,* о б р э ш о́ ў к а *Лельч.* Абрашотка.

АБРУ'Б *м.,* а б р у́ б *Лун., Петр.;* о б р у́ б *усх.* 1. Зруб хаты *Лельч.;* зруб склепа *Петр., Калінк., Нар.;* тры вянкі ў будане *Стол.* 2. Месца, дзе высеклі лес *Нар.* 3. Зруб калодзежа *ўсх.*; частка зруба калодзежа, якая знаходзіцца на паверхні *Стол., Лельч., Ельск.*

АБСТРЭ'ШКА *ж.,* о б с т р і́ ш к а *Стол.* Падстрэшша, ніжняя частка страхі, які звісае над сцяной.

АБШЫ'ЎКА *ж.,* о б ш э́ ў к а *Малар.*; о б ш ы́ ў к а *Жытк.* 1. Тое, што і *ветраадбой Малар.* 2. Каробка пад стрэшкай у франтоне *Жытк.*

АБЯРСТА' *ж.,* о б е р с т а́ *Стол.* Тое, што і *абстрэшка.*

АГА'ТА *ж.,* о г а́ т а *Кобр., Бяроз.* Уцяпленне сцен хаты саломай.

АДВО'Д *м.,* о д в і́ д *Драг.* Больш пакаты бок страхі ў хляве над той сцяной, у якой знаходзяцца вароты.

АДКО'С *м. Хойн.* Падстрэшак.

АДЗЁНАК *м. Ельск.* Тое, што і *абарог.*

АДЗЁР *м.,* о д ё р, о д з ё р *цэнтр.* 1. Памост з жэрдак на слупах для сушэння проса. 2. Памост пад вуллі на дрэве з завостранымі калочкамі ўнізе для таго, каб мядзведзі не маглі ўзлезці на яго і выдраць мёд з калод.

АКЛА'ДЫ *мн.,* о к л а́ д ы *Кам.* Апоўзіны на стозе сена.

АКЛА'ДЗІНЫ *мн.,* а к л а́ д з і н ы *Жытк.;* о к л а́ д ы н ы *Кам.* 1. Тое, што і *аклады.* 2. Падрубы *Жытк.*

АКО'ЛЬНІК *м.,* о к у́ л ь н і к *Кам., Пін.* Загарадзь каля свінуха.

АКО'ПЕЦ *м.,* а к о́ п е ц *Хойн.;* о к і́ п ы ц ь, о к ы́ п ы ц ь,, у к і́ п э ц ь *Брэсц.* Капец для бульбы ці іншай гародніны.

АМЛО'ЖЫНА *ж.,* о м л о́ ж ы н а *Кам.* Жэрдка на козлах — збітых накрыж дручках, якая кладзецца на вільчык для таго, каб вецер не ўздзіраў салому.

АРО'ЛКА *ж. Калінк.* Плот з хваёвых жэрдак.

АСТРАВЕ'Ц *м.,* о с т р і в э́ ц *Стол.* Апоўзіны ў выглядзе жэрдкі з суччам.

АСЦЯЖО'РАК *м. Петр.* Тое, што і *астравец.*

АХЛА'ПА *ж.,* о х л а́ п а *Пін.* Суцэльнае бервяно пад вокнамі.

АХЛАПУ'Н *м.,* о х л а п у́ н *Брэсц.* Тое, што і *ачэп 2.*

АХЛЯ'ПА *ж.,* о х л я́ п а *Стол.* Тое, што і *ачэп 2.*

АЧЭ'П *м.*, АЧЭ'ПА *ж.*, а ч э́ п а, а ш ч э́ п, а ш ч э́ п а, о ў ш ч э́ п а, о́ ч а п, о ч а́ п а, о́ ч і п, о ч о́ п, о ч э́ п, о ч о́ п а, о ш ч э́ п а, о́ ш ч ы п, у ч э́ п, у́ ш ч э п а, у́ ч э п а, ш ч ы п, ш ч ы́ п а, ш ч э́ п а. 1. Ачэп *зах.* 2. Бервяно, якое кладзецца над вокнамі і дзвярыма *цэнтр.* 3. Бервяно, якое ляжыць на бэльках і служыць асновай пад кроквы *аг.* 4. Драўляны шып *Драг., Ельск.* 5. *Ключнік* у гумне на сохах *Лельч.* 6. Драніца *Нар.*

АШВА'К *м.,* о ш в а́ к *Малар., Кобр.* 1. Вушак *Малар.* 2. Шула ў сцяне *Кобр.*

БА'БКІ *мн. Пруж., Бяроз.* Снапкі з саломы, з якіх складаецца страха.

БАГРА'К *м. Брэсц.* Кладзь, якая служыла апорай страхі на сохах.

БАЙРА'К *м. цэнтр.* Зімняя зямлянка, будан з загнутых дубцоў.

БАЛЬ *м. Драг., Пін.* Бэлька; тоўстае доўгае бервяно.

БАЛЯ'СКІ *мн.,* б а л я́ с к і *Бяроз., Стол.;* б а л я́ с к ы *зах.;* б а л е́ с к э *Кобр., Драг. 1.* Плот-частакол *зах.* 2. Поручні на мосце. *Кобр.*

БАНТ *м.,* б а́ н т а *ж. Брэсц., Малар.* Пояс, які злучае дзве кроквы паміж сабою.

БАНТО'ЎКА *ж.,* б а н т ю́ ў к а, б а н т і́ ў к а *Кам.* Тое, што і *бант.*

БАРАБА'Н *м. Петр.* Тое, што і *адкос.*

БАР'Е'РКА *ж. Пін.* Плот з адной гарызантальнай жэрдкі.

БАТАРЭ'Я *ж. Іван.* Доўгі, мелкі капец бульбы.

БІ'ЛА *н.*, біла *Калінк.*; біло, біло́ *Нар.*; было *Кам.* 1. Рама ў акне *Кам.* 2. Верхні вушак у дзвярах *Нар.* 3. Жэрдка пад столлю каля печы, на якой вешалі адзенне *Калінк.*

БО'ЎДУР *м.*, бо́вдур *Іван.* Комін.

БРЫК *м. Малар.* Тое, што і *абарог.*

БУ'НДОР *м.*, бо́ндор *Малар.*; бу́ндор *Брэсц.* Тое, што і *боўдур.*

БЯГУ'Н *м.*, багу́н *Лун.*; бягу́н *Ельск.*; богу́н *Пін.*; быгу́н *Драг.* Ствол дрэва з суком, да якога прыбіваліся дошкі варот.

ВАСТРАКО'Л *м.*, острокол *Брэсц., Малар.*; остро́кю́л, гострокю́л *Кам., Брэсц.* 1. Плот з калочкаў, з дошчачак *зах.* 2. Лесвіца ў выглядзе ствала дрэва з сукамі *Малар.*

ВАШУ'ЛДЫК *м.*, вошу́лдык *Драг.* Слуп у сцяне, шула, якое злучае бярвенні; дзякуючы гэтаму можна ўзводзіць сцены любой даўжыні.

ВЕРАНІ'ЦЫ *мн.*, верэні́цы *Петр., Жытк.* Жэрдкі або дошкі, якія выконваюць функцыю прымітыўных варот.

ВЕРАЯ' *ж.*, выры́я́ *Кам., Брэсц.* Шула ў дзвярах у гаспадарчых будынках.

ВЕТРААДБО'Й *м.*, ветроодбо́й *Лун.* Дзве дошкі (або жэрдкі), якія прыбіваюцца да лат з абодвух бакоў франтона.

ВЕТРАВІ'К *м.* Лельч. Тое, што і *адкос.*

ВЕТРАГО'НЫ *мн. усх.* Тое, што і *ветраадбой.*

ВЕ'ТРАНА *ж.*, вітріна *Іван.*; вытре́на *Кобр.* Тое, што і *ветраадбой.*

ВЕ'ТРАНІК *м.*, ве́транік *усх.*; вітраны к *зах.* 1. Тое, што і *ветраадбой аг.* 2. Тое, што і *бант Брэсц., Жабінк., Малар.* 3. Дошкі, якія падтрымліваюць франтон на ачэпах *зах.* 4. Апоўзіны на стозе; козлы на страсе *Малар., Брэсц.*

ВЕ'ТРАНІЦА *ж.*, ве́траніца *цэнтр.*; вітраніца *Кам.*; вітраныця *Кам., Кобр.* 1. Тое, што і *ветраадбой зах., цэнтр.* 2. Плашка, для падтрымлівае крокавы на ачэпе *Лун.*

ВЕ'ТРАНКА *ж.*, вітранка *зах., Жытк.* 1. Тое, што і *ветраадбой.* 2. Тое, што і *ветранік.* 3. Тое, што і *адкос Жытк.*

ВІ'ЛЬЦЫ *мн.* Лельч. Злучаныя парамі накрыж кароткія жэрдкі, якімі прыціскаюць салому ці кастрыцу на вільчыку.

ВІ'ТКА *ж. Брэсц.* Тое, што і *адкос.*

ВІ'ТНІК *м. зборн. Ельск.* Віткі, якімі прывязваюць салому ці чарот да паплёту.

ВОР *м.,* в ю р *Кам.* Плот у дзве ці тры жэрдкі.

ВУ'ЛІЦА *ж.,* г у л і ц а *Брэсц.* Падворак перад хатай.

ВЯЛЬМО'ЖНА *ж.,* в ы л ь м о ж н а *Кобр.* Кавалачак дрэва, які закладваецца ў вугле зруба пры спалучэнні бярвенняў.

ВЯРХНЯ'К *м.,* в ы р х н я к *Малар.* Тое, што і *адкос.*

ВЯРЭ'ЙКІ *мн.,* в а р э́ й к і *Хойн.* Тое, што і *вераніцы.*

ВЯРЭ'ЙЦЫ *мн.,* в э р е́ й ц ы *Лельч.* Падваротня ў гумне.

ВЯТРА'К *м.,* в і т р а́ к *Драг.;* в я т р а́ к *Калінк.* Тое, што і *ветраадбой.*

ГАЛАВА'Ч *м.,* г о л о в а́ ч *зах.* 1. Тое, што і *кулік 2.* 2. Верхні вушак у дзвярах *Пін.*

ГАЛО'ЎНЯ *ж.,* г о л о́ ў н я *Івац., Пін.;* г л о́ ў н я *Іван., Івац., Пін.* Тое, што і *галавач 2.*

ГАЛЬВЕ'ТКА *ж.,* г а л ь в ю́ т к а *Кам.* Вітка з лазы на двух слупах у плоце, на якую кладуцца жэрдкі.

ГАРЛІ'НА *ж.,* г а р л ы́ н а *Кобр., Малар.;* г а р л і́ н а *Пруж.;* г і р л ы́ н к а *Брэсц.* Тое, што і *кулік 1.*

ГАРЛІ'ЦА *ж.,* г а р л ы́ ц я *Кам.* Тое, што і *кулік 1.*

ГРАБЁНКА *ж.,* г р е б ё н к а *Петр., Нар.* Стрыхоўка, пры дапамозе якой раўняюць салому на страсе.

ГРЫ'ВА *ж. Брэсц., Жабінк., Малар.* Вільчык.

ГРЭ'БЕНЬ *м.,* г р э́ б і н ь, г р э́ б ы н ь *Брэсц., Кам., Кобр., Бяроз.* Тое ж.

ГУДУ'Н *м. Лельч.* Тое, што і *баграк.*

ГУ'ЖВА *ж.,* г у́ ж в а *Драг.;* г у ж в а́ *Нар.* Вітка з лазы, тонкіх галін бярозы для замацавання саломы на страсе.

ДАРМАВЕ'С *м.,* д а р м а в е́ с *Петр., Лельч., Маз.;* д а р м о в е́ с цэнтр.; д а р м о в і́ с *Драг.* 1. Навісь страхі, паветка, вазоўня *Драг., Івац., Лельч., Маз., Нар.* 2. Трама, кароткая бэлька *Стол.*; тое, што і *ачэп 3 Драг.* 3. Тое, што і *біла 3.*

ДАЎГА'К *м. Петр.* Тое, што і *ачэп 2.*

ДАХ *м.,* д а х *аг.;* з д а х *Ельск.* 1. Гара *Пін., усх.* 2. Вільчык *цэнтр.* 3. Франтон *Бяроз.* 4. Страха, дах *аг.* 5.

Столь *Пін.* 6. Паветка, прыбудоўка да хлява *Кам., Брэсц., Кобр.*

ДАШО'К *м. Бяроз.* Тое, што і *адкос.*

ДЗЕД *м.,* д з е д *Жытк.;* д е д *Стол.;* д і д *Івац.* 1. Трама *Стол., Жытк.* 2. Бервяно з пазам, якім прыкрываюць вільчык гонтавага даху *Івац.*

ДЗЯДО'К *м. Маз.* Паз у шуле.

ДЗЯДЗІ'НЕЦ *м.,* д з е д з і н е ц *Стол., Нар.;* д з я д з і н е ц *Хойн.;* д я д і н е ц *Стол.* 1. Вялікі двор *Стол., Хойн., Нар.* 2. Скрыня на дне калодзежа *Стол.*

ДРАБЫ' *мн.,* д р а б у́ *Лельч.;* д р а б ы́ *Лун.;* д р я б ы́ *Стол.* 1. Азярод для сушкі проса *Лельч.* 2. Драбіны, лесвіца *Лун., Стол.*

ДРЫБЫ'ЗДЗЕ *н. зборн. Івац.* Тое, што і *вітнік.*

ДЫ'МНІК *м.,* д ы́ м н ы к *Брэсц.* Комін.

ДЫРЛІ'НА *ж.,* д ы р л ы́ н а *Малар.* Тое, што і *кулік 1.*

ЖУРАВЕ'ЛЬ *м.,* ж у р а в э́ л ь *Малар.* Тое, што і *бягун.*

ЖЫЛІ'НА *н.,* ж ы л і н а *Петр., Маз.;* ж ы л і н о *Петр.* 1. Тое, што і *ачэп 2 Петр.* 2. Трама *Петр.* 3. Жэрдкі пад столлю, дзе сохне лён *Маз., Петр.*

ЗА'ВАРАТКА *ж.,* з а́ в о р о т к а *Кобр.* Закрутка.

ЗА'ВЕРТКА *ж.,* з а́ в е р т к а *Стол., Жытк., Лельч.;* з а́ в э р т к а *Бяроз.* Тое, што і *заваратка.*

ЗАВЕ'РЫНЫ *мн.,* з а в э́ р ы н ы *Іван.* Плот з жэрдак; адгародка ў хляве.

ЗАВО'РКІ *мн.,* з а в о́ р к і, з а в у́ р к і *ўсх.* Тое, што і *вераніцы.*

ЗАВО'РНІЦА *ж. Ельск.* Дошка пад варотамі ці веснічкамі ў плоце.

ЗАВЯРЭ'ЙКА *ж. Лельч.* Тое, што і *вярэйцы.*

ЗАВЯРЭ'ЙКІ *мн.,* з а в е р э́ й к і *Лельч.* Тое, што і *вераніцы.*

ЗАГА'РНІЦЫ *мн. Лун.* Тое, што і *ветраадбой.*

ЗАГАРО'ДДЗЕ *н. Пруж.* Загуменне.

ЗАГА'ТА *ж. зах.* Тое, што і *агата.*

ЗА'ГРАДА *ж. Петр.* Кароўнік.

ЗАКАКО'ШКА *ж. Калінк.* Адзін з драўляных крукоў у нізе дашчанай страхі, на якіх ляжала апора для дошак пакрыцця.

ЗАКІ'ДКА *ж. Петр.* 1. Паркан. 2. Цурбалкі, якія закладваюцца пад падрубу.

ЗАКЛА'ДКА *ж. Кам.* Падваротня ў гумне.

ЗАКЛА'ДЗІНЫ *мн. Калінк.* Дошкі, з якіх зроблены зруб калодзежа.

ЗАКУ'ТАЦЬ *зак. Калінк.* Загарадзіць.

ЗАМЁТ *м.*, з а м ё т *Маз.;* з а м ' ё т, з а м ' ю т *усх.;* з а м н ю т *Бяроз.* 1. Паркан *усх.* 2. Прыстаронак, які аддзяляе ток ад стараны *Бяроз., Жытк.* 3. Засек у гумне *Маз.*

ЗАНО'ЗА *ж. Пін., Лун., Стол.* Бакавы вушак у аконнай шуфлядзе.

ЗА'ПАРАЖНЯ *ж.*, з а п о р о ж н я *Лун., Стол.* Тое, што і *закладка.*

ЗАПАРО'ЖНІЦА *ж.*, з а п о р і ж н і ц а *Стол.*; з а п о р о ж н і ц а *Лун.;* з а п о р ю ж н ы ц я *Драг.* 1. Тое, што і *закладка Стол.* 2. Тое, што і *замёт 2.*

ЗАПЕ'РЫНА *ж. Жытк.* Тое, што і *замёт 2.*

ЗА'ПЛІСКА *ж. Лун.* Тое, што і *закладка.*

ЗАПО'ЛІНЫ *мн.*, з а п ó л ы н ы *Брэсц.* Тое, што і *закладка.*

ЗА'СМЫКА, ЗА'СМЫЧКА *ж.*, з á с м ы к а, з á с м і ч к а, з á с м у ч к а, з á с м ы ч к а *цэнтр.* 1. Засаўка ў дзвярах. 2. Тое, што і *вераніцы.*

ЗАСТАВЕ'НЬКА *ж.*, з а с т а в э́ н ь к а *Жабінк.* Тое, што і *закладка.*

ЗА'СТАЎКІ *мн.*, з á с т а ў к ы *Пін.*, з а с т á ў к і *Лун.* 1. Тое, што і *закладка.* 2. Прыстаўныя варотцы ў хляве *Лун.*

ЗАТЫ'ЛАК *м. Калінк.* Франтон.

ЗАХІ'СТ *м.*, з а х ы́ с т *Кобр.* Высокая прызба з саломы, якая ўцяпляе хату.

ЗАЦЁН *м.*, з а т ё н *Пруж.* Паз у слупе, у які закладваецца палец бервяна.

ЗАШАЛЯВА'ННЕ *н. усх.* Франтон.

ЗБО'ЧЫНЫ *мн. Петр.* Тое, што і *ветраадбой.*

ЗВАНІ'ЦА *ж.*, д з в о н э́ ц а *Драг.* Тое, што і *абарог.*

ЗВОД *м.*, д з в і д, з в о д, з в у д, з в ю д *зах.* 1. Саха ў студні *Кобр.* 2. Вага ў студні *Кам., Брэсц., Пруд., Стол.* 3. Вочап у студні *Бяроз., Іван., Івац.* 4. Вугал паміж кроквамі *Драг.*

ЗВО'ДАЧ *м. Малар.* Саха ў студні.

ЗНОЗ *м. Пін.* Тое, што і *заноза.*

ЗЯМЛЯ' *ж.*, з я м л я́, з ы м л я́, з ы м н é, з э м н я́ *зах., Калінк.* Гліняная падлога ў хаце, сенцах.

КАВАРО'ТЧЫК *м.,* к о в о р о́ т ч э к *Кобр.* Фортка ў плоце.

КАВАРО'ЦЕЦ *м.,* к о́ в о р о т ы ц ь, к о в о р о́ т э ц ь *Брэсц.* Тое, што і *каваротчык.*

КАГА'Н *м. Драг.* Вочап у студні з жураўлём.

КАГА'Т *м. Кобр.* Тое, што і *батарэя.*

КА'ДОЎБ *м. Жытк.* Выдзеўбаная скрыня на дне калодзежа.

КАДУ'ШКА *ж. Калінк.* Тое, што і *кадоўб.*

КАЖУХО'ЎКА *ж.,* к о ж у х і ў к а *Кам.* Шаляваная сцяна.

КАКАШЫ'НА *м. Маз.* Тое, што і *ветраадбой.*

КАКО'РА *ж.,* к о к о́ р а *Стол.* 1. Будан з загнутых і звязаных парамі галін вербалозу. 2. Нізкі, разгалісты дуб на балоце, на які клалі стажок сена (вагою да 5 ц). 3. Выгнутае дубовае палена, якое злучае ў лодцы дно з бакавой часткай.

КАЛАСНІ'К *м. Хойн.* Мякіннік, прыбудова да хлява, гумна.

КАЛАСО'ЎНІК *м. Калінк.* Мякіннік, старана ў гумне.

КАЛАСО'ЎНЯ *ж. Петр.* Засек у гумне.

КАЛДУ'ПЦЫ *мн.,* к о л д у п ц і *Малар.* Дзве дошкі, збітыя пад прамым вуглом, якімі прыкрываюць вільчык.

КАЛЕ'ШНЯ *ж.,* к о л э́ ш н я *зах.,* к а л е́ с ь н я, к а л е́ ш н я, к о л е́ с ь н я *ўсх., цэнтр.* 1. Гуменца для сена, саломы *Кам.* 2. Тое, што і *каласнік Кам.* 3. Паветка для калёс, плуга, бараны, саней *Кам., Брэсц., Малар., Пін., Стол.* 4. Прыбудоўка, дзе знаходзілася майстэрня на колы, калёсы *Пруж., Кобр., Драг., усх.* 5. Дрывотня *зах.*

КАЛО'ДЗЕЖ *м.,* к о л о́ д з я з ь *Жытк.* Зруб хаты.

КАМА'РНІК *м.,* к а м а́ р н і к, к о м а́ р н і к *Жытк.* Будан з лазовых галін, абкладзены зямлёю.

КАМУ'Ш *м. Лун.* Веранда.

КАНЁЎКА *ж.,* к а н ю ў к а *Драг.* Тое, што і *ветраадбой.*

КАНЯВА'НКА *ж. Драг.* Сцяна, якая перагароджвае хату на дзве часткі.

КА'ПАР *м. Лельч.* Вага ў студні з жураўлём.

КАПЫНА'З *м. Бяроз.* Паветка без сцен.

КАЎНЕ'РАЦ *м.,* к о ў н е р э ц *Івац.* Тое, што і *абстрэшка.*

КАЮ'ТА *ж. Драг.* Варыўня.

КІ'ТА *ж. Кобр.* Тое, што і *кулік 2.*

КІ'ЦІЦА *ж.*, к э т ы ц я *Іван.* Тое, што і *кіта.*

КЛЁЦ *м. Кам.* Тоўстае бервяно.

КЛЮЧНІ'К *м. Ельск.* Тоўстая жардзіна з калочкам на канцы, якім яна вешалася на кладзь, выконваючы ролю крокв у страсе на сохах.

КЛЮЧО'ЎНІК *м. Нар.* Тое, што і *ключнік.*

КЛЮЧЫ' *мн.*, к л ю ч і *зах.;* к л ю ч е́, к л ю ч ы́ *ўсх.* 1. Тое, што і *вільцы Петр. Калінк.* 2. Тое, што і *ключнік зах., усх.*

КЛЮЧЫ'НЫ *мн. усх.* Тое, што і *ключнік.*

КЛЮЧЫ'ЦЫ *мн. Лун.* Тое, што і *ключнік.*

КЛЮЧЫ'ШЧА *н. Лун., Петр.* Тое, што і *ключнік.*

КО'ВАРАТ *м.*, к о́ в о р о т *зах., цэнтр.;* к о́ в а р а т *Лун., Калінк., Хойн.* 1. Саха ў студні *Бяроз.*; тое, што і *капар,* тое, што і *звод 3 зах., цэнтр.* 2. Вароты ў плоце *зах.*; вясковыя весніцы *Калінк., Хойн.* 3. Тое, што і *бягун.*

КО'ВЕДАР *м.*, к о в э д э р *Пруж.* Тое, што і *звод 3.*

КО'ВЕР *м. Лельч.* Тое, што і *звод 2.*

КОЛ *м. Бяроз., Лун.* Частакол.

КО'НІ *мн. Іван.* Паўкруглая чарапіца, якая прыкрывае вільчык.

КО'НІК *м.*, к о́ н і к *цэнтр., усх.*, к о́ н ы к *зах.* 1. Сярэдняя частка аконнай рамы *зах., цэнтр.* 2. Тое, што і *коні Жытк., Петр., Калінк.* 3. Тое, што і *біла 3 Лун.* 4. Тое, што і *ветраадбой Кобр., Маз.* 5. Тое, што і *ключы 1 Жытк.*

КРУ'ЖЖА *н. зборн.*, к р у́ ж ' я *цэнтр.* Драўляныя кругі ў калодзежы.

КРУКІ' *мн. Петр., Калінк.* Тое, што і *ключнік.*

КРУЦЕ'ЛЬКА *ж.*, к р у т і́ л ь к а *Малар., Іван.* Закрутка ў дзвярах.

КРЫЖАВІ'ЛЫ *мн. Лун.* Тое, што і *вільцы.*

КРЫЖА'ЎКА *ж. Пруж.* Крыжавіна на сохах для ўмацавання кладзі.

КРЫЖАЎНІ'ЦА *ж.*, к р ы ж е в н ы́ ц а *Іван.* Верхні вушак у дзвярах.

КУ'ЛІК *м.*, к у́ л ы к *зах., цэнтр.*, к у́ л і к *усх.*, к у л ё к *Жытк., Ельск.* 1. Адзін з саламяных снапкоў, звязаны з некалькіх (3—5) пучкоў каля гузыра, якімі пакрываецца ўся страха, апрача ніжняга раду *зах., цэнтр.* 2. Пластападобны снапок з некалькіх пучкоў, звязаных ля калосся, які прывязваецца да лат гузыром уніз, ствараючы ніжні рад страхі *ўсх.*

КУТА'СЫ *мн. Драг.* Тое, што і *конік 1.*

ЛАБА́К *м. Петр., Калінк.* 1. Закот. 2. Трохвугольны схіл страхі над папярочнай сцяной.

ЛАБО́К *м. Пруж., Лельч.* Закот.

ЛА́ГА *ж. усх.* Падваліна пад падлогай.

ЛАГУ́Н *м. Кобр.* Тое, што і *лага.*

ЛА́ЗІВА *н.,* л а́ з і в о *Стол.* Драбіны, лесвіца лазіць да коміна.

ЛАПУ́Н *м. Брэсц.* Тое, што і *ачэп 1.*

ЛАТА́К *м. Ельск.* Жэрдка для прыціскання саломы на страсе.

ЛЕ́СА *ж. Лун., Жытк.* 1. Тое, што і *лазіва.* 2. Паліца ці тоўстая жэрдка, напрыклад у хляве пад вышкамі, у каморы, дзе кладуць лён.

ЛЕ́СКА *ж. цэнтр., усх.* 1. Тое, што і *лазіва Лельч.* 2. Плот *цэнтр.*

ЛЕЦЁН *м. цэнтр.* Сенцы, камора.

ЛЁСТКА *ж. Пін.* Тое, што і *лазіва.*

ЛІСІ́ЦЫ *мн. усх.* 1. Тонкія планкі ў дзвярах паміж *дошкамі Петр., Ельск.* 2. Слупы з вінтамі, якімі выпрамляюць скрыўленую сцяну *Жытк.*

ЛІСЦІ́НЫ *мн. Стол.* Латы.

ЛОБ *м. цэнтр., усх.* 1. Франтон *Пруж., Бяроз.* 2. Тое, што і *адкос Лельч., Калінк.* 3. Тое, што і *лабак Пруж.* 4. Старчак у бервяне *Маз.*

ЛУШНЯ́К *м. Калінк.* Вушак у вокнах і дзвярах.

ЛЯМО́ЎКА *ж.,* л я м і́ ў к а, л я м у́ ў к а, л я м ю́ ў к а *зах.* 1. Шалёўка ў акне ці ў дзвярах *зах.* 2. Тое, што і *ветраадбой Кам.*

Л Я М П Е́ Р Ы Я *ж.,* л я м п э́ р ы я *Кам.,* л я м п э р а *Брэсц., Кам.* Шалёўка.

ЛЯПЯ́НКА *ж.,* л і п ' я́ н к а *Лун.,* л ы п л я́ н к а *Іван.* Глінабітная хата.

МАГАЗІ́Н *м.,* м а к а з ы́ н *Калінк.,* м а г а з і́ н *Лельч.* Агульны свіран, куды сяляне адной вёскі ссыпалі збожжа.

МАЙДА́Н *м. аг.* 1. Загарадзь для свінней, цялят перад хлявом *зах.* 2. Пастаўнік ў полі *зах.* 3. Вялікі двор *Кам., Драг., Пін.* 4. Кавалак поля *Іван.,* вялікае поле *ўсх.* 5. Плошча ў вёсцы, дзе сяляне збіраліся на размовы *Пін.* 6. Месца на кірмашы, дзе прадавалі скаціну *Кобр.* 7. Чатыры слупы с перакладзінамі, на якія клалі сена, лён *Брэсц.*

МАЛАФЕ́ЙЧЫК *м. Брэсц.* Павець для дроў.

МАНІ′Р *м. Лун.* Манеж.

МАСНІ′ЦА *ж. Стол., Ельск. Нар.* Маснічына.

МА′ТАНЬКА *ж.,* ма́тынька *Драг.,* матэ́нька *Бяроз.* Тое, што і *кулік 1.*

МА′ТНЯ *ж. Бяроз.* Тое, што і *кулік 1.*

МА′ЦІ *ж. Жытк.* Трама.

МА′ЦІЦА *ж.* ма́тіца *Пін.,* ма́ціца *Лельч.* Тое, што і *маці.*

МА′ЧАХА *ж.,* ма́чоха *Драг.* Тое, што і *маці.*

МЕ′ТА, міта *ж. Петр.* Тое, што і *батарэя.*

МОСТ *м. Нар.* Дно ў калодзежы.

МУРЛА′ТА *ж.* 1. Тое, што і *баграк Кам.* 2. Падруба ў доме *Нар.*

МЫ′ЛЬЧЫК *м. Кам.* Тое, што і *бант.*

МЫ′ЛЯР *м.,* мы́ляр, мы́лёр, мэ́ляр *зах.* Тое, што і *батарэя.*

МЫЧ *м. Бяроз., Драг., Іван.* Тое, што і *бант.*

МЭ′ТКІ *мн. Пруж.* Тое, што і *кулік 1.*

НА′ВАРАТ *м. Жытк.* Тое, што і *галавач 2.*

НА′ВАРАТНЯ *ж.,* на́воротня *цэнтр.* 1. Тое, што і *ачэп 2.* 2. Аполак, які закрывае прамежак паміж дзвюма дошкамі ў столі.

НА′ВАРНЯ *ж.,* наворня *Стол.* Тое, што і *ачэп 2.*

НАКІ′ДКА *ж. Жытк.* Прасла ў паркане.

НАКЛА′Д *м. Івац.* Тое, што і *наваратня 2.*

НАКЛА′ДАЧ *м. цэнтр.* 1. Тое, што і *ачэп 1 Іван.* 2. Жэрдкі, якія замацоўваюць козлы на страсе *Кобр.*

НАКЛА′ДКА *ж. Кам., Драг.* Тое, што і *наваратня 2.*

НАКО′Т *м. Нар.* Тое, што і *ачэп 3.*

НАСА′ДКА *ж. Пруж.* Тое, што і *галавач 2.*

НАСЕ′КА *ж. цэнтр.* Тое, што і *ачэп 1.*

НАСІ′ЛА *ж. Івац.* Тое, што і *біла 3.*

НАСІ′ЛІЦА *ж.,* насылыця, носылыца *Драг., Іван., Пін.* Тое, што і *біла 3.*

НАЦЯ′Г *м. Кам.* Салома з *накладачам 2.*

НАШЛА′П *м.,* нашла́па *ж.* 1. Тое, што і *ачэп 1, 2, 3 усх.* 2. Тое, што і *наваратня 2 цэнтр.* 3. Тое, што і *галавач 2. Жытк.*

НАШЧЭ′ПА *ж. Лун.* Тое, што і *ахлапа.*

О′ШВАНІК *м.,* о́шваныск *Пін.* Шула ў сцяне.

ПАВО′ЗНІЦА *ж.,* повізныца *Стол.* Паветка для калёс.

ПАДБРУ′СНІК *м.* пудбру́снік *Ельск.* Трама.

ПАДВА′ЛА *ж.*, п о д в á л а *зах.* Падруба.

ПАДВО′Д *м.*, п о д в ó д *Кам.* Паветка.

ПАДДА′Х *м.*, п о д д á х *Пруж.*; п у д а х *Малар.* Навісь, утвораная застрэшшам.

ПАДДА′ШАК *м.*, п о д д á ш о к 1. Падстрэшак *Стол.* 2. Паветка *Драг.*

ПАДДА′ШША *н.*, п о д д á ш ш э, п у д д á ш ч э *зах.* 1. Тое, што і *паддашак 1 Кам.* 2. Тое, што і *паддах Кам., Брэсц., Малар.*

ПАДПО′ЛЛЕ *н.*, п о д п ó л ь л е *Нар.* Склеп у хаце пад падлогай.

ПАДСТРЭ′ХА *ж.*, п у д с т р é х а *Бяроз.* Тое, што і *абстрэшка.*

ПАДСТРЭ′ШКІ *мн. Маз.* Прыбудоўка да гумна для сена, саломы, мякіны.

ПАДШУ′РАК *м.*, п о д ш ý р о к, п у т ш ý р о к *Кам., Малар.* Тое, што і *падстрэшкі.*

ПАДШУ′Р'Е *н.*, п о д ш у р ' е *Брэсц.* Тое, што і *падстрэшкі.*

ПА′ЗУХА *ж. Калінк.* Вуха ў ачэпе, якое надзяваецца на палец шула.

ПАЛАВІ′НЧЫК *м.*, п о л о в í н ч ы к, п о л о в ы́ н ч ы к, п о л о в э́ н ч ы к *зах.* Плашка.

ПАЛЕ′ПА *ж.* П о л é п а *Брэсц.* Тое, што і *зямля.*

ПАЛО′ЎНЯ *ж.*, п о л ó ў н я *Пін.* Адрына.

ПАМЕ′ТНІК *м. зборн.*, п о м é т н і к *Жытк.* Тонкія латы ў страсе на сохах.

ПАМЕ′ЦІНА *ж.*, п о м é ц і н а *Ельск.* Тое, што і *латак.*

ПАПЛЕ′ЦІНА *ж. Калінк., Нар.*; п а п л ё ц і н а *Нар.* Тое, што і *вітнік.*

ПАПЯРО′ЧКА *ж.*, п о п а р э́ ч к а *Малар.*; п о п е р э́ ч к а *Лун., Лельч.* Тое, што і *бант.*

ПА′РКА *ж. Кам., Бяроз., Пін.* Тое, што і *кулік 2.*

ПАРУ′БІНЫ *мн.*, п о р ý б ы н ы *Кам.* Зруб калодзежа.

ПАХАДУ′НКА *ж.*, п о х о д ý н к а *Кам., Брэсц., Лельч.* Абкладзены зямлёю склеп для бульбы, якім карыстаюцца штодзённа.

ПАХО′ДНІ *мн. Нар.* Лесвіца-сходы, укапаная ў зямлю каля пярэдняй сцяны хаты.

ПАШЭ′ЎЛЯ *ж.*, п о ш э ў л я *Лун.* Салома на вільчыку пад *вільцамі.*

ПЕРАДКУ'ЧЧА *н.*, пырыку́ччэ *Кам.* Праход між загародкамі ў хляве.

ПЕРАДРЫ'ННЕ *н.*, пэрэдры́ньне, пэрэды́ньe *Лун.* Загарадзь перад хлявом.

ПЕРАДЫЛЛЕ *н.*, пэрэды́лье *Лун.* Тое, што і *перадрынне.*

ПЕРАКЛА'Д *м.*, парэ́клад, перэ́клад, перакла́дзь, пэрэ́кла́д *аг.* 1. Тое, што і *баграк аг.* 2. Тое, што і *пашэўля Кам., Брэсц.* 3. Трама *Стол.* 4. Тое, што і *галавач 2 Лун., Лельч.* 5. Прыстаронак *Кам., Брэсц.*

ПЕРАЛА'З *м.*, перала́з, перела́з, перыла́з, пырыла́з, пырала́з *аг.* 1. Плот з жэрдак *цэнтр.* 2. Лавачка ў плоце ў тым месцы, дзе пералазяць *зах.* 3. Месца ў плоце, дзе пералазяць *усх.*

ПЕРАПЛЁТ *м.*, параплёт, пераплёт, пераплю́т *усх.* 1. Тое, што і *баляскі 1.* 2. Тое, што і *латак.*

ПЕРАСО'ЛЯ *ж.*, пырысо́ля *Івац.*; пырысю́л *Драг.* Тое, што і *біла 3.*

ПЕРАСО'Ў *м.*, перасо́ў, перасу́ў, *пересо́ў,* пэрэсо́ў *цэнтр.* Тое, што і *перасоля.*

ПІ'ЎШВЫ *мн. Пін.* Тое, што і *аклады.*

ПЛЯНІ'ЦА *ж.*, пленіца *Стол.* Прасла.

ПЛЯ'НТРА *ж. Пін.* Падваліна.

ПОД *м.*, под *цэнтр.*; пюд *Лельч.* Стажар'е.

ПО'ЛАБ *м. Кам., Брэсц.* Столь.

ПО'ЯС *м. цэнтр., усх.* 1. Тое, што і *бант цэнтр., усх.* 2. Дзве жардзіны паміж слупамі ў плоце *Пруж., Іван., Жытк.* 3. Папярочка паміж слупамі ў калодзежы *Лельч., Калінк.*

ПРАГО'Н *м.*, прагóн, прогóн, прогю́н *аг.* 1. Тое, што і *ачэп 1.* 2. Тое, што і *баграк Брэсц., Кобр.*

ПРАМ *м. Лун.* Трама.

ПРАЎШНЯ'К *м.*, проўшняк, прушняк *Пін.*, прыўшэнь *Івац.* Вушак.

ПРАЦЯГА'НКА *ж.*, протяга́нка *Кобр.* Тое, што і *батарэя.*

ПРУГ *м. Ельск.* Тое, што і *пояс 3.*

ПРЫВЕ'ТРАНІЦЫ *мн. Жытк.* Тое, што і *ветраадбой.*

ПРЫДА'ШАК *м.*, пріда́шок *Малар.* Тое, што і *адкос.*

ПРЫДА'ШНІК *м. Бяроз.* Тое, што і *адкос.*

ПРЫДО'РАЖНЯ *ж.*, прыдо́рожня *Лун.* Прыгуменне.

ПРЫЖЫ'МКА *д. Петр., Нар.* Тое, што і *латак.*

ПРЫ'ЗБІНА *ж. Бяроз.* Прыстаронак.

ПРЫ'ЙМА *ж. Пін.* Тое, што і *латак.*

ПРЫКЛЮ'П *м. Пін., Лун.* Паветка са сценамі для дроў, мякіны.

ПРЫКО'ЗЕЛКІ *мн.,* прыкозэлкі *Іван., Пін., Стол.* Тое, што і *вільцы.*

ПРЫМІ'ЦА *ж.,* прыніца, прыміца, прімніца, пруніца *цэнтр.* Тое, што і *латак.*

ПРЫСАФІ'ТАК *м.,* прысафіток *Пін.* Тое, што і *адкос.*

ПРЫСЕ'ДАК *м. Калінк.* Застаронак для снапоў, мякіны.

ПРЫСТАРО'НАК *м.,* прысторонок, прыстаронак, прыстуронок *цэнтр.* Нізенькі плот, які аддзяляе ток ад застаронка.

ПРЫТВО'Р *м. Малар., Пін.* Сенцы; ганак.

ПРЫХІ'СЦЕ *н. Стол.* 1. Часовы будан. 2. Паветка.

ПЫЖ *м.,* пыж *Жабінк.*; пыжч *Кам.* Тое, што і *вяльможна.*

ПЯ'ЛА *н.,* п'яло *Лельч.* Кроква ў будане.

ПЯРЫ'ЛА *н.,* піріло, пырыло, пэрыло *Кам., Брэсц., Жабін.* Тое, што і *прыстаронак.*

ПЯРЭ'ПАСКА *ж.,* пырэпаска *Пруж.*; пэрэпаска *Бяроз.* Тое, што і *бант.*

ПЯРЭ'РУБ *м.,* пярэруб *Нар.;* перэруб *Маз.* Загарадка ў хляве або ў гумне для сена.

ПЯ'ТРА *н.* п'ятро, пятро *Малар., усх*; плятро *Лельч.* 1. Гара ў хаце, вышкі *Малар., Петр., Маз.* 2. Старана ў гумне *Лун., Жытк.* 3. Прасла *Малар.*

РАГАВІ'К *м.,* роговік, роговык, роговэк *цэнтр.* Тое, што і *кулік 2.*

РАГУ'ЛЬКІ *мн. Лельч.* Тое, што і *вільцы.*

РАГУ'ШКА *ж.,* рогушка *Стол.* Тое, што і *кулік 2.*

РАСПО'РА *ж.,* роспора Жытк. Тое, што і *пояс 3.*

РАСПО'РКА *ж.,* розпорка *Брэсц.* Тое, што і *бант.*

РАСПО'РЫЧ *м.,* роспорыч *Жытк.* Ачэп на папярочнай сцяне.

РАССО'ХА *ж.,* разсоха, розсоха, россоха, русоха *цэнтр., зах.* 1. Саха ў студні з жураўлём. 2. Саха ў хляве (гумне) і плоце. 3. Разгалістае дрэва.

РАШЭ'ЦІНА *ж. Калінк.* Слуп у азяродзе.

РО'ГЕЛЬ *м. Кам.* Тое, што і *бант.*

РО′ГІ *мн. цэнтр., усх.* Перасячэнне схілаў страхі з бакоў.

РОЎ *м.,* р і ў *Кобр.* Тое, што і *батарэя.*

РЫ′ГАЛЬ *м. Бяроз.* Тое, што і *лага.*

РЫ′ГЕР *м.,* р ы́ г і р *Бяроз.* Кроква.

РЫ′ДЛЯ *ж. Брэсц.* Драўляны каркас (дыяганальна перакрыжаваныя бярвенні) у цаглянай сцяне.

РЫ′НВА *ж. Жытк.* Рына.

РЫ′ШТЫ *мн. Стол.* Вышкі ў хляве.

РЭ′ВЕНЬ *м.,* р э́ в ы н ь *Кобр.* Невялікая студня на балоце.

РЭ′Я *ж. Кам., Драг.* 1. Тое, што і *батарэя.* 2. Тоўстае бервяно *Кам.*

САБА′ЧКА *м.,* с о б а́ ч к а *Кам., Жабінк.* Вільчак.

САМІ′НЕЦ *м.,* с а м і́ н е ц, с о м і́ н е ц *Стол.* Кароткае бервяно ў сцяне.

САРО′КІ *мн.,* с о р о́ к і *Жытк.* Тое, што і *вільцы.*

САШЧЭ′ПА *ж. Нар.* Тое, што і *ачэп 2.*

СВО′ЛАК *м.,* с в о́ л о к, с в о́ л а к *усх.,* с у́ в о л о к, с у́ в о л о к а *цэнтр.* 1. Тое, што і *баграк.* 2. Трама *ўсх.* 3. Адно з тонкіх бярвенняў, з якіх складаецца закот *Калінк.*

СЕ′ЛЬБІШЧА *н.,* с э́ л ь б ы ш ч э *Лун.,* Сядзіба.

СКАПЕ′Ц *м.,* с к о п е́ ц, с к о п ы́ ц, с к о п э́ ц, с к о ў п э́ ц ь, ш к о́ п ы ц ь, ш к о п э́ ц ь *зах., цэнтр.* Мелкі прадаўгаваты або круглы капец для гародніны.

СКІ′РДА *ж. Нар.* Тое, што і *батарэя.*

СЛЕЖ *м.,* с л і ж *Брэсц., Кобр.* Падваліна.

СЛЕ′ЖЫК *м.,* с л э́ ж ы к Іван. Аснова печы.

СЛОН *м. Калінк.* Жэрдка, з якой робіцца ключнік.

СО′ЛАМ′Е *н.,* с о́ л о м ’ я, с о́ л о м ’ е, с о́ л у м ’ е *ўсх.* 1. Тое, што і *баграк Калінк., Лельч.* 2. Чалеснікі ў печы і верхняе спалучэнне іх *усх.* 3. Вялікі агонь у печы *Жытк.*

СО′ЛАМЕННЕ *н. Калінк.* Ямка для жару на прыпеку.

СТАВЕ′Ц *м.,* с т а в э́ ц ь *Кам.* Шула, пастаўленае на падрубах у вуглах.

СТАРАСЕ′ЛІШЧА *н. Нар.* Сядзіба, дзе калісьці жылі.

СТАРЧА′К *м. Пруж.* Плот-штыкетнік.

СТА′ЎКА *ж. Іван.* Рама ў акне.

СТА′Я *ж. Брэсц.* Загародка ў хляве, дзе стаяць коні.

СТАЯ'К *м.*, с т о я к *Кам.* Тое, што і *ставец.*

СТАЯ'Н *м.*, с т о я́ н, с т о е́ н *Брэсц., цэнтр.* 1. Тое, што і *ставец цэнтр.* 2. Вушак *Брэсц.* 3. Тое, што і *старчак Пін.*

СТЛЕЦ *м.*, с т л э ц ь *Кобр.* Тое, што і *масніца.*

СТО'ЯНКА *ж. Пін.* Пастаўнік для адпачынку скаціны апоўдні.

СТРАКА'Ч *м. Пін.* Тое, што і *кулік 2.*

СТРАХАВІКІ' *мн.*, с т р ы х о в ы к ы́ *Пін.* Тое ж.

СТРОЙ *м.*, с т р у й *Лельч.* Будынкі, хорам.

СТРОЎ *м. Лун.* Тое, што і *вастракол 2.*

СТРУБ *м. Стол., Жытк., Хойн.* Зруб.

СТРУ'ЖКА *ж. усх.* Драніца.

СТРЫХА'ЛКА *ж.*, с т р і х а́ л к а *Лун.* Тое, што і *грабёнка.*

СТРЭ'НЦЫ *мн. Лун.* Апоўзіны на стозе.

СТРЭ'ШАНКІ *мн.*, с т р і ш а н к ы *Кам., Пін.* Тое, што і *кулік 2.*

СУ'ТКІ *мн. Іван., Жытк.* Вузкі пралёт паміж дзвюма сядзібамі або будынкамі.

СУФІ'Т *м.*, с у п і т ь *Пін.*; с у ф і т *Кам.*; с у х в і т *Лун.* Столь.

СУ'ШНЯ *ж.* 1. Азярод *Івац., Жытк.* 2. Тое, што і *абарог Нар., Лельч.*

СЦЕ'ЖКА *ж. Лельч.* Двор, надворак.

СЦЁК *м.* 1. Тое, што і *абстрэшка Іван.* 2. Тое, што і *адкос Кам.*

СЦЭП *м. Лельч.* Вільчык на саламянай страсе ў хлявах.

СЦЯЖ *м.* У выразе: *у сцяж* — у адзін рад.

СЭ'ДЭС *м. Стол.* Сядзіба.

СЯДЗІ'МАСЦЬ *ж.*, с ы д ы́ м о с т ь *Брэсц.* Сядзіба.

СЯДЛІ'СКА *н.*, с э д л і с к о *Івац.* Сядзіба.

СЯЛІ'БА *ж. Лельч., Калінк., Хойн.* Тое ж.

СЯЛІ'ДЖБА *ж.*, с э л і т ь б а, с е л і д б а, с е л і д ж б а, с э л і д о б, с е л і ж б а, с э л ы́ д ь б а, с ы л і д о б а, с ы л і т ь б а, с ы л ы́ ж б а, с э л і ж б а, с э л ы́ т ь б а *цэнтр.* Тое ж.

ТА'МБАР *м.*, т а́ м б о р *Брэсц.* Ганак.

ТАЧО'К *м.*, т о ч о́ к *Брэсц.* Катух.

ТРАП *м. Кобр., Драг., Жытк.* Лесвіца на страсе, каб лазіць да коміна.

ТЫЧНІ'К *м. Калінк.* Тое, што і *балягскі 1.*

ТЭ'БЕЛЬ *м.,* т а́ б е л, ты́ б е л, ты́ б э л ь, тэ́ б а л ь, тэ́ б е л, тэ́ б э л ь, тэ́ б ' ё л, тэ́ б е л ь, це́ б е л, це́ б е л ь *цэнтр., усх.* Драўляны шып, які змацоўвае бярвенні ў сцяне.

УЗГАЛО'ВІЧ *м. Хойн.* Тое, што і *кулік 2.*

УХАСЦІ'ЦЬ *зак.,* у х а с ты́ т ы *Малар.* Уцяпліць.

ФУТРЫ'НА *ж.,* ф у т р ы́ н а *зах.*; х у т р ы́ н а *Лун.* Шуфляда ў акне або ў дзвярах цаглянага дома.

ХАВА'ЛКА *ж. Петр.* Будан з загнутага галля.

ХАВІ'РА *ж. Жытк.* Зямлянка; будан.

ХАЛАБУ'ДА *ж. аг.,* г а л а б у́ д а *Калінк.* 1. Спехам зробленая малая або старая трухлявая хатка; прымітыўны будан з галля *зах.* 2. Прыбудоўка да хлява для цяляці, сабакі *Кобр., Стол., Лельч., Калінк.* 3. Калёсы з брэзентавымі буданамі ў цыганоў, анучнікаў *цэнтр., усх.* 4. Будан з посцілкі (у садзе) *Лельч., Ельск., Хойн., Нар.* 5. Крытая машына *Калінк.*

ХАЛАСТА'ЙКА *ж. Нар.* Тое, што і *самінец.*

ХАЛА'Ш *м. усх.* 1. Сенцы, веранда з дошак *Лун.* 2. Будан на возе; цыганскі шацёр *Лельч., Маз., Нар.*

ХВАРТУ'Х *м. Драг.* Тое, што і *адкос.*

ХВАСТА'Ч *м.,* х в о с т а ч *цэнтр.* Тое, што і *кулік 2.*

ХІБ *м.,* х е б, х і б, х э б *цэнтр.* Тое, што і *грыва.*

ХІБІ'НА *ж. Нар.* Старая, трухлявая хаціна.

ХЛУ'ДЗІНА *ж. Петр.* Тое, што і *латак.*

ХРЭ'БЕСТ *м. Нар.* Галлё для абрашоткі страхі на сохах.

ЦАБРЫ'НЫ *мн.,* ц а б р ы́ н ы *Нар.*; ц а́ б р ы н ы *Лун.;* ц ы б р ы н ы́ *Малар.* Дубовыя плашкі, якія закладваліся за слупы ў калодзежы.

ЦЫБА'НТ *м. зах.* Тое, што і *бант.*

ЦЯНЁК *м.,* ц е н ё к *Стол.* Навісь, паветка.

ЧАЛО' *н.,* ч о л о *зах.* 1. Тое, што і *адкос Бяроз.* 2. Вільчак *Драг.* 3. Тое, што і *лабак Іван.*

ЧУБО'К *м. Бяроз.* Верх страхі, вільчык.

ШАЛАБА'НЧЫК *м. Кам.* 1. Тое, што і *абарог.* 2. Тое, што і *халабуда 2.*

ШАЛАБУ'ДА *ж. Кам., Кобр., Драг., Іван.*; ш а л а п у т а *Кам.* 1. Паветка для дроў, прыбудаваная да хлява *Кам.* 2. Дрэнная хата *Кам., Кобр., Драг.* 3. Лёгкі буданчык на сенажаці *Кам.*

ШАР *м. Малар., Стол., усх.* Рад.

ШАРАБА′Н *м.*, ш а р а б а н к а *ж. Кам.* Буданчык у форме страхі.

ШАРО′НАК *м.*, ш а р о́ н о к *Малар., Кобр.*; ш э р э́ н о г *Жаб.;* ш е р э́ н о к *Іван.;* ш а р э́ н а к *Петр.* Рад.

ШПІХЕ′РЫК *м.*, ш п і х е́ р ы к, ш п ы х э́ р о к *Брэсц.* 1. Кладоўка. 2. Свіран для збожжа.

ШТРЫХ *м. Стол.* Стрыхоўка.

ШТРЫХА′ЛКА *ж. Пін.* Тое, што і *штрых.*

ШТРЫХО′ЎКА *ж.*, ш т р а х о́ ў к а *Лун., Жытк.*; ш т р ы х ю́ ў к а *Іван.* Тое, што і *штрых.*

ШТЫМПА′ЛЬ *м.*, ш т і м п а́ л ь, ш т ы н п а́ л ь, ш т ы н ф а́ л ь, ш т э м п а́ л ь *цэнтр.* Укапаныя ў зямлю дубовыя калоды, на якія кладуць падрубы.

ШУР *м.*, ш у́ р ы к *м.*, ш ч у́ р ы к *зах., цэнтр.* 1. Прыбудоўка да хаты ці да хлява са сценамі або ў выглядзе паветкі для дроў, калёс, гаспадарчых прылад. 2. Тое, што і *абарог Кам., Драг.* 3. Накрыццё, дах над ямай з бульбай *Брэсц.*

ШЧАБЛІ′ *мн.*, ш ч а б л і́, ш ч ы б л і́ *Кам., Брэсц.* Плот-штыкетнік.

ШЧАБЯЛЁК *м.*, ш ч ы б ы л ё к *Пін.* Тое, што і *грыва.*

ШЧЫК *м. Петр.* Тое, што і *шчабялёк.*

ШЧЫТ *м.*, ш ч ы т, ш ч ы т ь 1. Тое, што і *шчабялёк Пруж., Драг.* 2. Тое, што і *лабак Кам, Лельч.*

ШЧЭ′БЕТ *м*, ш ч е́ б э т, ш ч ы б ы т о́ к, ш ч э́ б ы т, ш ч э́ б ы к *цэнтр.* Тое, што і *шчабялёк.*

ЯЗЫЧО′К *м.*, я з э́ ч о к *аг.* Частка клямкі, на якую націскаюць пальцам.

Я′РУС *м.*, я́ р у с, е́ р у с *цэнтр.* Тое, што і *батарэя.*

*А. К. Усціновіч*

## *МАНЫНАРКА, ПАЛЯТЫНКА* І РОЗНЫ *ВОБУЙ*

Матэрыялы запісаны ў ваколіцах г. п. Любча Навагрудскага раёна.

АБМЯТА′ЦЬ *зак.* Абкідаць краі швоў. *Перш абмятай швы ў сукенцы, а тады разглажвай іх.*

АГРА′ФКА *ж.* Шпілька. *Бант аграфкай прышпілі.*

АДРУБІ′ЦЦА *зак.* Адпароцца. *У сукенцы весь падол адрубіўсь.*

АКРА′ВАК *м.* Абрэзак тканіны. *Коўдро з акраўкаў пашыла, хорашо паглядзець.*

АПЛЮ′К *м.* Гаплік. *Як прышыю аплюкі ў кажух, тады і адзявай, а цяпер барані цябе божа.*

БАМБО′ШЫ *мн.* Хатнія скураныя туфлі. *У хаця магла п абуць бамбошы, а ня хадзіць у чаравіках па палавіках.*

БАНТО′ЎКА *ж.* Складка, заложаная ў два бакі. *Матэрыі шмат было, то я скамбінавала і залажыла бантоўкі па ўсяму палотнішчу.*

БАРЭ′Т *м.* Берэт. *Купіла чырвоны барэт меншай.*

БРО′ДНІ *мн.* Боты без падэшваў. *Бродні пашыў, а падэшвы пака няма дзе купіць.*

БРЫЛЬ *м.* Мужчынская шляпа. *Хлопяц пабыў у горадзя паўгода і прыехаў дадому ў брылі.*

БУ′ФЫ *мн.* Складкі на верхняй частцы рукава. *Мода вярнулась шыць рука́ва з буфамі.*

ВАЛЬ *м.* Вэлюм. *Маладая ўся ў белым, на галаве валь.*

ВЕ′ЛЬКАЯ ГО′ЛКА. Іголка для тоўстых нітак, шэрсці. *Трэба шкарпэткі цыраваць, а велькай голкі няма.*

ВО′БУЙ *м.* Абутак. *Толькі вобую ў цябе, а ты кажаш, што няма чаго абуваць.*

ВЫ′БРЫНДАЦЬ *зак.* Заляпаць граззю. *Выбрындала штаны, што сорам адзяваць.*

ВЫ'БЫРСЬКАЦЦА *зак.* Высыпацца (пра шво). *Трэба абмятаць швы ў сукенцы, а то зусім выбырськаюцца.*

ВЫКІ'ДВАЦЬ *незак.* Абкідаць пятлю ў адзенні. *Выкідваць выразы ў паліце трэба вошчанымі ніткамі.*

ВЫ'МАДЗІЦЬ *зак.* Пашыць прыгожа і модна, інакш, чым у іншых людзей. *Сваёй дачушцы так вымадзіла паліто, што люба глянуць, а чужым так ня робіць.*

ВЫ'РАС *м.* Пятля для гузіка. *Вырас стаў велькім, таму гузік лёхка пралазіць.*

ВЫ'СТУПКІ *мн.* Адрэзаныя ад галянішчаў галоўкі ботаў. *Устыкні выступкі ды бяжы заганяць сьвіней.*

ВЫ'ЦЯШКІ *мн.* Суцэльныя загатоўкі на боты. *Добрыя выцяшкі на боты ў мяне есьць.*

ВЫ'ШЫЦЬ *зак.* Добра і прыгожа пашыць што-н. *Як вышыла касьцюм, дак любата.*

ВЯ'ЗАНКА *ж.* Шарсцяная вязаная хустка. *Вязанка так звалялась, што ня памагло і расьцягванё на ра́мя.*

ВЯТРО'ЎКІ *мн.* Басаножкі. *Вятроўкі купіла сабе ў горадзя.*

ГАЛЯНІ'ШЧО *н.* Халява. *Тавар купіла на галянішча.*

ГРАПО'ЎКА *ж.* Шарсцяная квяцістая хустка з кутасамі. *Зглуміла грапоўку няўмелым мыцём у Нёмні.*

ДА'МКА *ж.* Верхняя частка шкарпэткі, звязаная ў рызінку. *За вечар зьвяжу да дамкі ступак і шкарпэткі заўтра адзеняш.*

ДАТО'ЧКА *ж.* Падточка да прыполу сукенкі, спадніцы. *Даточку ў сукенцы зрабіла з ленты.*

ДРА'НДЫ *мн.* Старое парванае адзенне. *Куды можна ісьці ў гэтых драндах?*

ДЫ'РКА *ж.* Выраз. *Дыркі ў кофця засталось выразаць і абкідаць.*

ЖАЛЕ'ТКА *ж.* Камізэлька. *Касьцюм стары ўжо, а жалетка як сёдня пашыта.*

ЗА'БАРСЬНІ *мн.* Шнуркі ў бацінках. *Гразі на двары аш па забарсьні.*

ЗА'ВУШНІЦЫ *мн.* Завушніцы. *Згубіла за́вушніцы, як пажар быў.*

ЗАВЯЗА'ЦЦА ПАД КЛІНОК. Завязаць рагі хусткі ззаду, а незавязаны рог закінуць зверху гэтага вузла. *Завязвалась пат клінок усягды, як хадзіла жаць, ня замінала рабіць.*

ЗАКО'ТЫ *мн.* Манжэты ў футры, паліто. *Закоты ў паліце вынасіліс, зьмяніла новымі.*

ЗМА′РШЧЫЦЬ *зак.* Зрабіць зборкі, сцягнуць ніткай матэрыю. *Змаршчыла манкеты ў сукенцы, але на гэтай матэрыі зякратай ня відаць.*

ЗУБЫ′ *мн.* Карункі, вязаныя зубцамі. *Зьвязала зубы да пробсьціны.*

КАЛО′ША *ж.* Частка панчохі, якая аблягае нагу вышэй ступні. *Рызіны ня трымаюць калошу, ападая, з′язджая да костачкі.*

КАЛО′ШКА *ж.* Частка шкарпэткі, якая аблягае нагу вышэй ступні. *Калошкі кароткія зьвязала, трэба падрабіць даўжэй.*

КАЛЮ′ГІ *мн.* Тапачкі для мярцвяка.

КАПТА′Н *м.* Кароткае паліто на кудзелі. *Каптан адзень, а то закалёкш у лёся.*

КАРСЭ′Т *м.* Гарсэт. *Карсэт вышыла пацяркамі, так будзя харашэй.*

КА′РЧЫК *м.* Гестка. *Сукенка з гэтай матэрыі вышла с карчыкам.*

КАСЬМІРЫ′ *мн.* Кутасы ў хустцы, шаліку. *Хустку завяжы так, кап касьміры па кажўся былі.*

КАСЬНІ′К *м.* Матуз, які заплятаюць у касу. *Хто ш у косы заплятае ніткі, а ня касьнікі?*

КА′ТАНКІ *мн.* Валёнкі. *Катанкі такія мяккія, што на нагах ня чуваць іх.*

КАЎМЕ′Р *м.* Каўнер з футра. *Злавіў шашка, добры каўмер да паліта будзя.*

КАЎНЯРЭ′Ц *м.* Вузкі манжэт. *Каўнярцы ў рубашцы парваліс, а саму яшчэ можно насіць.*

КЛЯ′ПА *ж.* Борт (у пінжаку, у паліто). *Кветкі прышываюць да кляпы маладому.*

КОЛЬЧЫ′КІ *мн.* Завушніцы. *Кольчыкі дачушцы аддала, як замуш ішла.*

КРАМДАШЫ′Н *м.* Крэпдашын. *Купіла хустку с крамдашыну.*

КРЫЛО′ *н.* Крысо. *Зашпілі паліто, а то крылы разлятаюцца.*

КРЭ′СЛА *н.* Прарэх у штанах. *Сынок, зашпілі крэсла, бо дзеці сьмяяцца будуць.*

КУ′БА *ж. 1.* Матэрыял бурачковага колеру. 2. Шарсцяная сукенка такога колеру. *Фэст скоро, кубу пашыю са склаткамі.*

ЛА′ПІНА *ж.* 1. Латка. *Лапіну прышый такую, як рубашка.* 2. Ануча. *Вазьмі лапіну ды памый падлогу.*

ЛА′ПІЦЬ *незак.* Латаць. *Лапіць сарочку трэба, дзірка велька ўжо.*

ЛА′ХІ *мн.* Старое адзенне, якое насіць больш нельга. *Лахі трэба сабраць ды крамніку здаць, то хоць ніцей вазьму, а так замінаюць толькі.*

ЛІ′ШТАЎКА *ж.* Устаўка пад пазухай у сарочцы. *Ліштаўка вельмі вуская ў кашулі.*

ЛЯКЕ′РКІ *мн.* Лакіраваныя туфлі. *Нават і мацяры прывезла лякеркі.*

МАНКЕ′Т *м.* Манжэт. *Манкеты і варатнік белыя ў сукенку зрабіла.*

МАНЫНА′РКА *ж.* Кафтан да калена з даматканага сукна. *Манынарка гаматная, новая, цяшкая, аш плечы баляць, пакуль прышла.*

МО′ТУС *м.* Матуз. *Падвяжы кажух мотусам, цяплей.*

НАДЗІМА′НКІ *звыч. мн.* Пацеркі, пустыя ў сярэдзіне. *Надзіманкі далікатныя, трэба асьцярожна насіць, кап ня расьцісніць.*

НАЖУ′ТКА *м.* Летнік з сівага даматканага сукна. *Выткала тры губкі сукна на нажуткі.*

НАПРА′ТКА *ж.* Вопратка. *Напратку бяры, на дварэ холат.*

НАРУ′ЧНІКІ *мн.* Манжэты, звязаныя з шарсцяных нітак. *Наручнікі зьвязала за вечар.*

НО′ЖНА *мн.* Ножны. *Ножна тупыя, кепска кроіць імі.*

НЯДАТО′ПКІ *мн.* Атопкі, апоркі. *Кап чаго добрага, а нядатопкаў колькі хочаш у мяне.*

ПАДБІ′ЦЁ *н.* Падбіўка ў шапцы, вопратцы. *Падбіцё трэба новаё ўшыць у шапку.*

ПА′ЗУХА *ж.* Частка проймы пад пахай. *Трэба зашыць пазуху ў кофця.*

ПАЛО′СЁ *н.* Кара ліпы, вяза і лазы, якая ідзе на лапці. *Палося шмат надраў на лапці.*

ПАЛЯРЫ′НА *ж.* Вышываная ўстаўка на грудзях у жаночай кашулі. *Палярына парвалась саўсем, а кашуля — хоць скачы.*

ПАЛЯРЫ′НКА *ж.* Нашыўка, планка на грудзях у мужчынскай сарочцы. *Палярынку прышыла крамную, а то натта гаматно, як сваёй работы даць.*

ПАЛЯТЫ′НКА *ж.* Летнік з чорнага даматканага сукна. *Палятынка парвалась, трэба шыць новую, а то высьці няма ў чым.*

ПАПО'НА *ж. іран.* Доўгая сукенка. *Я гэтую папону ня адзену, як старой бабя пашыла да пятаў.*

ПАТКЛЕ'ЙКА *ж.* Падкладка ў халяве. *Патклейку у халявы зрабіў с палатна.*

ПАТШТА'НІКІ *мн.* Кальсоны. *Патштанікі гатовыя купіла хлопцу.*

ПЛЮ'СІК *м.* Плюсавы кафтан. *Плюсік новы пашыла да талі.*

ПЛЯЧУ'К *м.* Шво на плячы. *Плячук распароўсь, зашыць конча цяпер, а то пойдзя даляй.*

ПО'ВЯС *м.* Пояс. *Повяс выткала новы да торбы.*

ПО'ТТАЧКА *ж.* Падточка, даточка. *Потгачку да хвартуха прышыла саціnaву.*

ПРАРЭ'Х *м.* Разрэз у спадніцы. *Прарэх пакінула ў спаніцы, кап шырэй было ступаць, бо яна як калоша.*

ПРА'ШКА *ж.* Спражка. *Прашку начысціў, што аддалёк відаць бляск.*

ПРО'ТЫР, ПРО'ТЫРЧ *м.* Іголка без вушка.

РО'ШШЫЎКА *ж.* Карункі ў навалачках. *Рошшыўкі да навалечак зьвязала новыя.*

РЫЗІ'НКА *ж.* Спосаб вязання, пры якім два вочкі вяжуцца налева, а два направа або адно налева, а другое направа.

СВЭ'ДАР *м.* Вязаная кофта, світэр. *Свэдар зьвязала хлопцу на канькі хадзіць.*

СО'ПУХА *ж.* Брудная, заношаная адзежына. *Гэтую сопуху кап дамыцца, то на цэлы дзень трэба ў Нёмні мачыць.*

СПО'НКІ *мн.* Запінкі. *Спонкі купіла дачка ў горадзя.*

СТА'ЛКА *ж.* Рад. *Пацяркаў адну сталку павесіла на шыю.*

СТА'НІК *м.* Ліф сукенкі, кофты. *Пакроіла станік коратка, дак сукенку адзець ня магу.*

СТРЫГАВА'ЦЬ *незак.* Фастрыгаваць. *Стрыгаваць трэба было тонкімі ніцямі, то лёхка было п і выцягваць іх.*

СТУПА'К *м.* Частка панчохі, шкарпэткі, якая аблягае ступню. *Яшчэ цэлыя шкарпэткі, а ступак малы стаў.*

СУ'КНЯ *ж.* Шарсцяная сукенка.

СЬПІ'ЧКА *ж.* Завостраная палачка для пляцення лапцей. *Сьпічку хлопяц зламаў, трэба новую выстругаць.*

ТАЦЯ'НКА *ж.* Сукенка са зборкамі ў таліі. *Тацянка хораша на худой дзяўчыня.*

ТРЭ'МЗЬЛІ *мн.* Махры з нітак.

УСКЛА'СЬЦІ *зак.* Адзець (кашулю, сарочку). *Ускладзі чыстую кашулю, а то куды ты пойдзяш у такой сопуся.*

УСТЫКНУ'ЦЬ *зак.* Абуць на босую ногу. *Устыкні галёшы і бяжы памагаць заганяць парася.*

УСЬЦІ'ЛАК *м.* Сцілка. *Усьцілкі ў боты купіць новыя трэба.*

ХВА'НДЫ *мн.* Фалды ў кажуху. *Кажух пашыла ў хванды, дак ходзіць як гара.*

ХВАСТРО'ТЫ *мн. іран.* Жаночыя бацінкі на высокіх абцасах. *Як вымадзілась, што хвастроты абула нават.*

ЧУ'НІ *мн.* Вялікія гумовыя галёшы на валенкі. *Чуні паклеіў на валянкі.*

ШАЛЯНО'ЎКА *ж.* Невялікая квяцістая шарсцяная хустка. *Шаляноўку пакідаю на свя́то завязаць.*

ШАСТУ'Н *м.* Сяннік. *Добра спалось, шастун новай саломаю напхала.*

ШУ'БЯНКА *ж.* Мужчынская шапка з футра. *Шубянку з бабра пашыў, то марос ніякі ня страх.*

ШЧЫБЛЕ'ТЫ *мн.* Мужчынскія святочныя туфлі. *Хіба ў шчыблетах у бу́дзянь ходзяць.*

ШЫДЭ'ЛАК *м.* Кручок для вязання.

*А. В. Цімашкова*

## З ПЧАЛЯРСКАЙ ТЭРМІНАЛОГІІ

Матэрыялы запісаны ў вёсцы Шаламы Слаўгарадскага раёна.

АБІЗМА'ЧЧЫЦЦА *зак.* Страціць матку.

АБЛЁТ *м.* 1. Першы вылет пчол. 2. Вылет маткі на апладатварэнне. *Бывая, што матка выйдзя на аблёт і страціцца.*

АБЛЁТАЦЦА *зак.* Зрабіць першы вылет. *Як усыпіш рой, пчолы выйдуць аблётацца.*

АБНО'ЖКА *ж.* Ношка, пылок з кветак, які пчала нясе на лапках.

АГРІБА'ЦЬ *незак.* Абіраць рой у раёўню з таго месца, дзе ён звіўся. *Рой у лубку агрібаюць.*

АСАДЗІ'ЦЬ *зак.* Пасадзіць зняты рой у вулей.

АТРАІ'ЦЦА *зак.* Скончыць раіцца (пра выхад першага, другога і іншых раёў).

АТРЕ'ЗАЦЬ *зак.* Знішчыць. *Адны пчолы могуць другіх атрезаць.*

АТСІКА'ЦЬ *незак.* Адгрызаць, адрываць (крылле). *Калі ўзяткі кынчаюцца, пчолы атсікаюць трутнім крылля і выкідаюць з вулля.*

АТСЫПА'ЦЬ *незак.* Аддзяляцца, выходзіць з вулля ў час раення. *Як праесьць матка ячэйку і вылізя, тады другак атсыпая.*

АТХАДЗІ'ЦЬ *незак.* Тое, што і *атсыпаць. Раз матышнікі зыклалі, значыць, скора рой будзя атхадзіць.*

ВАШЧЫ'НА *ж.* Штучныя соты. *Вашчыну ў мыгазіні купляю.*

ВУЛЬ *м.* 1. Калода. 2. Рамачны вулей.

ВЫ'ЖЫМКІ *мн.* Адходы воску пры ператапліванні.

ВЫСІКА'ЦЬ *незак.* Выдзёўбваць (калоду) з камля дрэва. *Пешнімі высікалі калоды.*

ВЫХАДЗІ'ЦЬ *незак.* 1. Тое, што і *атсыпаць. Як выйдзя рой, пакружыцца і мітаіцца.* 2. Выходзіць з ячэйкі, нараджацца. *Зыкладзіныя матышнікі пчолы зыліваюць мылачком, пічатыюць, і дней ціріз высімнаццыць выходзя матка.*

ГНІЛЕ'Ц *м.* Хвароба пчол, пры якой загніваюцца іх лічынкі. *Есьлі завёўся гнілец, то пчылам канец.*

ГНІЛУ'ШКІ *мн.* Высушаныя кавалкі гнілога дрэва для падкурвання пчол. *У дымакур гнілушкі кладуць, яны даюць многа дыму.*

ГНЯЗДО' *н.* Унутраная ніжняя частка рамачнага вулля, куды ўстаўляюцца рамкі. *У гнязьдзе пчолы і зімуюць.*

ГРЯБЁНКА *ж.* Прыстасаванне для сотаў, якое ўмацоўваецца ў верхняй частцы калоды. *Наніжыш наўзу ны грябёнку, а пчолы цягнуць аж у самую пяту.*

ГУДЗЕ'ЦЬ *незак.* Гусці, шумець. *Есьлі рой біз маткі, то пчолы біспакоюцца, гудзяць, аж рявуць.*

ГЫЛАВА' *ж.* Верхняя частка калоды. *Гылаву калоды кладуць на хріставіну, а пыт пяту дзірівянную пласьцінку.*

ДАЙЦІ' ДЫ ПЯТЫ'. Запоўніць усю калоду сотамі. *Пчолы ужо ды пяты дайшлі.*

ДАЦЬ ДЫМКУ'. Падкурыць (пчол). *Я так рой усыпаю: пыстаўлю достычку к лёццы, лубку рызвяжу, рыссцялю абвязку, дам дымку і пашлі ў лётку.*

ДО'МІК *м.* Вулей. *Два домікі стыяць у садку.*

ДОЎЖ *м.* 1. Бакавая адтуліна ў калодзе. 2. Драўляная калодка з лятком, якая ўстаўляецца ў гэту адтуліну і закрывае яе.

ДРУГА'К *м.* Другі рой. *Як праесьць матка ячэйку і вылізя, тады другак атсыпая.*

ДУПЛЯ'НКА *ж.* Дупло ў дрэве, у якім селяцца пчолы. *Дупло выгнія, вот і дуплянка.*

ДЫМАКУ'Р *м.* Дымар. *Нясі дымакур, а то пчолы зыкусалі.*

ДЫМА'РЬ *м.* Тое, што і *дымакур. Ну і зямец с цябе, пакуль дымарь рыспаліш, дык і рой уцячэ.*

ЖА'ЛА *н.* Джала.

ЗАБІ'ЦЬ *зак.* Запоўніць (ячэйкі пяргой). *Як заб'юць пчолы ячэйкі пяргой, засохня, тады рямку выкідай.*

ЗРАІ'ЦЦА *зак.* Зменшыцца, аслабнуць у выніку шматразовага раення (пра пчаліную сям'ю).

ЗЫКЛЮЧА'ЦЬ *незак.* Адсаджваць і закрываць (матку ў матачніку). *Матку зловіш у лубцы і ў матышнік зыключаіш.*

ЗЫПІЧА'ТЫНЫЙ *прым.* Закрыты ў сотах (мёд).

ЗЫСА'ХЫРІЦЦА *зак.* Зацукравацца. *Зрелый мёд зысахыріцца, а нязрелый закісьня.*

ЗЬБІЦЬ *зак.* Прымусіць (рой) сесці. *Каб рой ні пыляцеў, нада зьбіць вадой ці пяском.*

ЗЯМЕ'Ц *м. рэдк.* Пчаляр. *Ён добрый зямец, у яго йшчэ ды вайны пчолы былі.*

ІСК *м.* Пчаліная разведка ў час раення.

КАЛО'ДА *ж.* 1. Вулей, зроблены з камля дуплістага дрэва. 2. Сям'я пчол.

КЛЕ'ШЧЫ *мн.* Ціскі для выціскання воску.

КРЫ'ТЫЙ *прым.* Закрыты ў сотах. *Крытый мёд.*

КРЫЦЬ *незак.* Запячатваць запоўненыя мёдам соты. *Вірясовый мёд пчолы ня крыюць, ён густэй.*

КРЫ'ШКА *ж.* Века рамачнага і калодачнага вулля. *Зьніміш крышку і стряхнеш туды пчол.*

КУ'ЗКА *ж.* Прылада для збору рою, зробленая з кары ў выглядзе ражка. *Раней з бярёсты кузкі дзелылі і рой агрібалі.*

КЫТА'ЦЬ *незак.* Выкачваць, выдаляць мёд з сотаў з дапамогай медагонкі. *Нада мідагонку ўзяць, будзім мёд кытаць.*

ЛЕ'ЖЫНЬ *м.* Тое, што і *ліжак.*

ЛЁТКА *ж.* Ляток. *Каб матка ня вылізла з вульля, на лётку ставіцца ряшотка.*

ЛІЖА'К *м.* Ляжачы вулей, ляжачая калода. *Раней дзелылі і ліжакі, і стыякі.*

ЛО'ЖКА *ж.* Лыжка (выкарыстоўваецца для збору роя). *Палоннікам ці ложкуй бяруць пчол і ў лубку ўкідаюць.*

ЛУ'БКА *ж.* Раеўня. *Зловіш у лубцы матку і ў матышнік зыключаіш.*

ЛЯТО'К *м.* Адтуліна ў вуллі, праз якую вылятаюць пчолы. *Рой можна ціріз ляток упусціць, а можна крышку зьняць і стряхнуць туды пчол.*

МА'ТКА *ж.* Самка ў пчол. *С першым роім старая матка ляціць.*

МА'ТЫШНІК *м.* 1. Невялікая каробачка, у якую адсаджваюць матку пры раенні. *Зловіш у лубцы матку і ў матышнік зыключаіш.* 2. Ячэйка, у якой выводзіцца мат-

ка. *Раз матышнікі зыклалі, значыць, скора будзя рой атхадзіць.*

МЁД *м.* Мёд. *Вірясовый мёд. Высільковый мёд. Грячнёвый мёд. Крушынный мёд. Ліпывый мёд. Майскій мёд. Свірепкывый мёд.*

МІДАВУ′ХА *ж.* Хмельны напітак з мёдам.

МІДАГО′НКА *ж.* Медагонка. *Нада мідагонку ўзяць, будзім мёд кытаць.*

МІДАНО′СНЫЙ *прым.* Багаты на мёд. *Прошлый год быў міданосный.*

МІТАВІ′ШЧА *н.* Месца, дзе сядзеў рой.

МІТА′ЦЦА *незак.,* ЗЬМІТА′ЦЦА *зак.* Высыпаўшы з вулля, садзіцца на што-н. (пра рой). *Як выйдзя рой, пакружыцца і мітаіцца. Рой ны яблынцы зьмітаўся.*

МЫГАЗІ′Н *м.* Скрыня з дадатковымі рамкамі, якая ўстаўляецца ў вулей, калі пчолы запоўняць гнездавыя рамкі. *Калі ўзяткі харошыя, дык пчолы і мыгазін запоўнюць.*

МЫЛАЧКО′ *н.* Пчалінае малачко, падкормка для лічынак у пчол. *Зыкладзіныя матышнікі пчолы зыліваюць мылачком і пічатыюць.*

НАЛІ′ЦЬ *зак.* Запоўніць мёдам. *Пры харошым узятку пчолы і ныстаўкі нальлюць.*

НА′ПЫРСК *м.* Мядовы раствор з прымессю воску і розных пахучых рэчываў, якім абпырскваюць вулей для прываблівання пчол. *Хто нальле напырск у бутылку і ставя ў муравейнік, мурашкі налезуць туды, дык ён станя кісьлінькій.*

НАСІ′ЦЬ *незак.* Дастаўляць у вулей. *Пчолы мёд носюць.*

НА′ВУЗА, НА′ЎЗА *ж., Р.* наўзы́. 1. Соты без мёду. 2. Кавалачак сотаў ці суцэльны ліст, які ўмацоўваецца ў верхняй частцы калоды. *Наніжыш наўзу ны грябёнку, а пчолы цягнуць аж у самую пяту.* 3. Вашчына. *Нада ў мыгазіні наўзы ўзяць.*

НЫНАЎЗІ′ЦЬ *зак.* Прымацаваць *наўзу* ў калодзе.

НЫСТА′ЎКА *ж.* Невялікая рамка, якая ўстаўляецца ў *мыгазін.*

ПАДМО′Р *м.* Пчолы, якія памёрлі за зіму. *Вясной вымітаю з вульля падмор.*

ПАЛО′ННІК *м.* Апалонік (выкарыстоўваецца для збору роя). *Палоннікам ці ложкуй бяруць пчол і ў лубку ўкідаюць.*

ПАСЕ′Д *м.* Пчолы, якія сядзяць на вуллях перад пачаткам раення або ў гарачае надвор'е. *Бывая, і ўзятык харошый, а пасед будзя сядзець.*

ПА′СІКА *ж.* Месца, дзе размешчаны вуллі з пчоламі.

ПАТКО′РМКА *ж.* Раствор цукру ў выглядзе сіропа для падкормлівання пчол.

ПАТСЦЕ′НАК *м.* Кавалак сотаў з мёдам, выразаны з калоды.

ПЕЦЬ *незак.* Ствараць розныя гукі (звінець, «кохаць» і інш.) ў час раення (пра матку).

ПЕ′ШНЯ *ж.* Долата з доўгім чаранком, якім выдзёўбваюць калоду. *Пешнімі калоды высікалі.*

ПІРГА′ *ж.* Пчаліны хлеб. *Як заб'юць пчолы ячэйкі пяргой, тады ўжо рямку выкідай.*

ПІРІГЛІДА′ЦЬ *незак.* Рабіць час ад часу агляд пчол.

ПІРША′К *м.* Першы рой. *С піршаком старая матка вылітáя.*

ПІТА′ *ж.* Дно, ніз калодачнага вулея. *Павесіш навузу, а пчолы аццягнуць аж у самую пяту.*

ПІЧА′ТЫНЫЙ *прым.* Закрыты ў сотах. *Пічатыный мёд.*

ПІЧА′ТЫЦЬ *незак.*, ЗЫПІЧА′ТЫЦЬ *зак.* Закрываць ячэйкі васковымі крышкамі. *Зыкладзіныя матышнікі пчолы зылівающь мылачком і пічатыюць. Вірясовый мёд пчолы ні пічатыюць, ён густэй.*

ПЛЕЦЬ *ж.* Вяроўка, пры дапамозе якой пчаляры лазілі на дрэва.

ПРАЕ′СЬЦЬ *зак.* Прагрызці (васковую крышку матачніка). *Як праесьць матка ячэйку і вылізя, тады другак атсыпая.*

ПРАПО′ЛІС *м.* Пчаліны клей.

ПРІМА′НКА *ж.* Мядовы раствор, розныя пахучыя расліны, якімі націраюць або абпырскваюць вулей для прывабліваиня пчол.

ПРІНА′ДКА *ж.* Невялікі вулей з кары для прываблівання пчол, які ставяць на дрэве.

ПЧЫЛАВО′Д *м.* Пчаляр. *Ён старый пчылавод, у яго йшчэ ды вайны пчолы былі.*

ПЫДГЛІДА′ЦЬ ПЧОЛ. Даставаць мёд. *Нада мідагонку ўзяць, будзім пчол пыдглідаць.*

ПЫЛЬЦА′ *ж.* Пылок. *Пчолы с цьвятоў пыльцу сыбіраюць.*

ПЫТКАРМІ'ЦЬ *зак.* Даць (пчолам) дадатковы корм.

ПЫТКУРІ'ЦЬ *зак.* Падзьмуць на пчол дымам. *Укініш у лубку ложкі дзьве пчол, а тады паткуріш і самі пойдуць.*

ПЯРЕ'ХРІСТНІ *мн.* Яловыя палачкі, якія ўмацоўваюцца накрыж унутры калоды для падтрымання сотаў. *У сяредзіну калоды ставюцца пярехрістні, каб ні абарвалася наўза.*

ПЯРІ'НА *ж.* Частка гусінага крыла, якой ачышчаюць вулей, абмятаюць з рамак пчол і інш.

РАЖО'К *м.* Тое, што і *кузка.*

РАІ'ЦЦА *зак.* Збірацца вакол маткі, утвараючы рой (пра пчол).

РАСПЛО'Д *м.* Лічынкі і кукалкі пчол.

РЫІЎНЯ' *ж.* Раеўня. *Палоньнікам ці ложкуй бяруць пчол і ў рыяўню ўкідаюць.*

РЯ'МКА *ж.* Рама для сотаў у рамачным вуллі. *Як заб'юць пчолы ячэйкі пяргой, тады ўжо рямку выкідай.*

РЯШО'ТКА *ж.* Прыстасаванне для затрымання маткі ў вуллі. *Каб матка ня вылізла з вульля, на лётку ставіцца ряшотка.*

СЕ'ТКА *ж.* Ахоўная пчалярская сетка.

СКЫЛЬЛІВА'ЦЬ *незак.* Выдзяляць *скальлю* ў час раення (пра пчол).

СКЫЛЬЛЯ' *ж.* Тое, што і *іск. Скыльля места для роя шукая.*

СТО'ІНЬ *м.* Тое, што і *стыяк.*

СТРА'ЦІЦЦА *зак.* Прапасці, не вярнуцца ў вулей. *Бывая, матка выйдзя на аблёт і страціцца.*

СТЫЯ'К *м.* Стаячая калода. *Раней дзелылі і ліжакі, і стыякі.*

СУ'МКА *ж.* Палатняная торба, у якой выціскалі воск. *У сумку воск кладуць і выціскаюць.*

СУШ *ж.* Пустыя соты, не запоўненыя мёдам. *Суш сыбіраюць і пірітаплівыюць на воск.*

СЫТА' *ж.* 1. Раствор мёду або цукру для падкормлівання пчол. 2. Засаладжаная мёдам вада, абрадавая страва.

ТРУТНЁЎКА *ж.* 1. Пчала, ад якой выводзяцца трутні. 2. Неаплодненая матка. *Есьлі матка ні абгуляіцца, то ета ўжо будзя трутнёўка.*

ТРУТО'ЎКА *ж.* Тое, што і *трутнёўка.*

ТРУ'ЦІНЬ *м.* Самец у пчол. *Як узяткі кынчаюцца, пчолы выкідаюць трутніў з вульля.*

ТРЫЦЦЯ'К *м.* Трэці рой.

УЗЯ'ТЫК *м.* Узятак. *Німа ўзятку, німа і раення. Пры харошым узятку пчолы і мыгазін запоўнюць.*

УКУСІ'ЦЬ *зак.* Уджаліць. *Ня йдзі блізка к хізону, а то пчыла укуся.*

УСЫПА'ЦЬ *незак.* Перамяшчаць сабраны рой у вулей. *Я так рой усыпаю: пыстаўлю достычку к лёццы, лубку рызвяжу, рыссцялю абвязку, высыплю пчол, дам дымку і пашлі ў лётку.*

УТЫРЯ'К *м.* Тое, што і *другак. У ўтыряку можа быць і дзьве, і трі маткі.*

УЦЕ'Ч *зак.* Паляцець у невядомым напрамку (пра рой). *У етым гаду ў мяне рой уцёк.*

ХІЗО'Н *м.* Род рамачнага вулля. *Пыставіў два новых хізоны, можа, раі будуць.*

ХРІСТАВІ'НА *ж.* Козлы, на якія кладзецца верхняя частка калоды. *Гылаву калоды клалі ны хріставіну, а пыт пяту дзірівянный кружок.*

ЦАДЗІ'ЦЬ *незак.* Прапускаць расплаўлены воск праз палатно, ачышчаючы ад прымесей. *Каб воск быў качыстнінный, яго цэдзюць.*

ЦЯГНУ'ЦЬ *незак.*, АЦЦЯГНУ'ЦЬ *зак.* Ляпіць соты. *Наніжыш наўзу ны грябёнку, а пчолы цягнуць аж у самую пяту.*

ЧА'РЫЧКА *ж.* Тое, што і *ячэйка.*

ЧА'РЫЦЬ *незак.* Адкладваць яечкі. *Матка чарыць.*

ЧЭРЬ *ж. зборн.* Адкладзеныя ў соты яечкі, з якіх выводзяцца лічынкі пчол.

ШЧАМЕ'ЛЬ *м.* Чмель.

ЯЧЭ'ЙКА *ж.* Асобная клетачка ў сотах. *Як праесьць матка ячэйку і вылізя, тады другак атсыпая.*

*А. П. Цыхун, Г. А. Цыхун*

# СА СПЕЦЫЯЛЬНАЙ ЛЕКСІКІ ГРОДЗЕНШЧЫНЫ

Разам з агульнаўжывальнымі і агульнавядомымі словамі лексікон кожнай гаворкі ўключае пэўную колькасць лексем, якія маюць звужаную сферу ўжывання, бо адносяцца да тых бакоў традыцыйнай народнай культуры, якія фарміраваліся пры ўдзеле абмежаваных груп насельніцтва. Гэтыя абмежаванні могуць мець больш або менш акрэслены характар. Адно з найбольш старажытных абмежаванняў адлюстроўвае дыферэнцыяцыю дыялектнай лексікі ў залежнасці ад таго, з якой сферай традыцыйнага побыту — пераважна «мужчынскіх» ці «жаночых» заняткаў — звязан той або іншы тэрмін. Як паказаў А. Крывіцкі, межы такой спецыялізацыі не заўсёды выразныя [1]. Больш ярка выражаны спецыяльны характар мае лексіка, што функцыяніруе ў вузкіх прафесіянальных калектывах, занятых пастаянна або сезонна вытворчасцю рэчаў хатняга ўжытку ці адыходным промыслам. У сувязі з тым, што спецыяльная лексіка знаходзіцца на перыферыі ўсяго народнага слоўніка, яна паказвае большую схільнасць да страты найменш устойлівых элементаў. Таму заўсёды актуальнай задачай застаецца фіксацыя і вывучэнне гэтай часткі народнага лексікона. Ніжэй падаюцца матэрыялы па спецыяльнай тэрміналогіі, сабраныя для складання дыялектнага слоўніка Гродзеншчыны (пераважна Гродзенскага раёна). У іх адлюстраваны некаторыя тэрміны цяслярства, бандарства, сталярнай, шавецкай і кравецкай справы, плытагонства, рымарства, гадоўлі коней, здабычы торфу, вытворчасці пасуды і цэглы, смалакурэння і інш.

---

[1] А. А. Крывіцкі. Тыпы і ўжыванне назваў рыбы ў адной гаворцы Палесся.— Беларускае і славянскае мовазнаўства. Мінск, 1972, стар. 207.

АБІ'РУЧНЫ НОЖ. Бандарскі струг.

АБЛЯ'ДРЫ *мн.* Частка конскай вупражы (драўляныя накладкі на пастронках, каб не націралі бакі каню). *Аблядры робяць з асіны, яна лёхкая.* Кунцаўшчына.

АБРО'ЖАК *м.* Нашыйнік для цяляці.

АДБО'РНІК *м.* Сталярная прылада для выбірання пазоў у аконных рамах.

АКО'ЛЬНІК *м.* Сталярная прылада для надання фігурнай формы аконным рамам.

АНГЕ'РКА *ж.* Верхняе жаночае адзенне з шэрага сукна. *Нéкалі ў ангéрках жанкé хадзілі да касьцёла.* Перстунь.

АПАЧЫ'НА *ж.* Доўгае вясло для кіравання плытом (*апачыны* дзве — спераду і ззаду плыта).

АСА'ШАК *м.* Выязныя сані з фігурным верхам. *Асашкі былі тулько ў багатых гаспадароў, бедныя ні мелі.* Бакуны.

АСЬМІ'НА *ж.* Высокая пасудзіна, сплеценая з саломы і лазы, для ссыпання збожжа. *У асьміну як залезяш, та ні вылязяш; я сам адзін раз залес, га маці лёдво выцягнула.* Дзерачынак.

АТВО'Й *м.* Месца ў рацэ, дзе цячэнне адносіць ад берага на сярэдзіну.

БА'ГЕН *м.* Бакен. *Багены на Нёмні запальваў Капыцкі з Мазанаўцаў.* Жарослаўка.

БА'ГЕР-МАШЫ'НА *ж.* Днопаглыбляльнае судна.

БАКЕ'Ш *м.* Кароткая мужчынская вопратка з сукна. *Бакеш новы Копель на сьвято зрабіў, файно будзя хадзіць.* Пракопавічы.

БАРБА'РА *ж.* Вяроўка з кручаных дубцоў для прывязвання плыта да берага ў час стаянкі.

БАСА'К *м.* Бусак.

БАТ *м.* Вялікая лодка для парома. *Нешта бат пацёк, трэ лáтаць, вадэ́ набірая.* Свіслач.

БЕРАСЬЦЕ'НЬ *м.* Збанок без ручкі. *Берасьцень кіслаго малака за дзень выпіў, смáжыло піць.* Бандары.

БІКЕ'Ш *м.* Доўгая суконная мужчынская вопратка (падагнаная ў таліі і з распоркай ззаду). *Гэта адзежа была, як прыехалі з бежанства, з Расіі, та ўсе шылі бікешы.* Каранявічы.

БІ'ЛО *н.* Адна з чатырох перакладзін у кроснах, якімі змацоўваюць станіны. *Біло ўстаўляецца ў станіны, замацоўваецца клінкамі.* Кунцаўшчына.

БЛЯУ'Ш *м.* Конь, які многа есць, а сілы не мае. *Гэтым бляшшóм да Гóрадна за два дні ні даедзяш.* Кунцаўшчына.

БОМ *м.* Шост, пры дапамозе якога спіхвалі плыт з мелі.

БО'МІЦЬ *незак.* Заганяць спецыяльным шастом рыбу ў сетку.

БРАВА'РКА *ж.* Дарагая мужчынская вопратка з сукна, падбітая футрам. *Некалі ўсё да маго таты прыходзілі хлопцы пазычаць браваркі ехаць да вянца.* Клачкі.

БРЫЖЫ' *мн.* Шырокія карункі, якія замужнія жанчыны насілі на галаве пад хусткай.

БРЫЗГУ'ЛЬ *м.* Самаробны драўляны гузік.

БРЫ'ЛІК *м.* Сявалка, сплеценая з саломы і лазы.

БРЭ'ТЫ *мн.* Асобныя кавалкі матэрыі, з якіх шыюць спадніцы. *Пашыла сабе спадніцу ў чатэры брэты.* Эйсманты.

БРЭ'ЧКІ *мн.* Карункі. *У нас некалі брэчкамі рушнікі апшывалі.* Струбка.

БУДА' *ж.* Шалаш на плыце.

БУ'РКА *ж.* Доўгая мужчынская вопратка з капішонам, пашытая з сукна шэрага або чорнага колеру. *Вазьмі ў дарогу бурку, а то вéцяр, можа, накруціць дажджу.* Занявічы.

БУРНО'С *м.* Суконнае мужчынскае паліто без каўняра, у якім ніз, рукавы і кішэні аблямаваны чорным сукном.

БУ'ЧА *ж.* Рыбалавецкая прылада ў выглядзе цыліндра, сплеценага з лазы (бучы ставяць на ноч пад карчы). *Як дастаў бýчу, так рыба і залапатала.* Кунцаўшчына.

БЫСТРА'К *м.* Месца ў рацэ з хуткім цячэннем.

БЯЛЁЎКА *ж.* Спадніца з нефарбаванага паўсукна. *У бялёўцы кéпско хадзіць, нáтто ж урабляецца.* Мешкенікі.

ВАЛАКЕ' *мн.* Валакуша, спецыяльнае прыстасаванне для перавозкі драўлянага плуга.

ВАНДЗІ'ДЛА *мн.* Цуглі. *Дай каню вандзідла ў зубы, каб ні панёс.* Свіслач.

ВАСАРВА'ГА *ж.* Ватэрпас. *Васарвагу я сам зрабіў, шкельца з вадой дастаў з нямецкага танка.* Дзерачынак.

ВАСКАВА'НЕ *н.* Насычэнне снаванай пражы адварам з ільнянога семя (каб ніткі былі больш гладкімі і мацнейшымі).

ВАСМА'ХТАР *м.* Пасрэднік пры продажы ці куплі каня (да 1939 г.). *Э, браце, даўней без васмахтара каня ні прадасі.* Рацічы.

ВЕ'РХНІК *м.* Верхняя частка церніцы.

ВІЦІ'НА *ж.* Драўлянае судна (даўней цягалі па Нёмане супраць цячэння пры дапамозе канатаў). *Некалі віціны цягнулі восеню, па беразі ішлі і цягнулі, а двох атпіхвалі бомамі, каб ні прыставала да берагу.* Дзерачынак.

ВО'ЖЫК *м.* Наморднік з вострымі цвічкамі, якi надзяваюць адлучанаму цяляці, каб не ссала карову.

ВО'ЛАК *м.* Рыбалоўная снасць у выглядзе трохвугольнага мяшка з сеткі.

ВУ'ЖЫК *м.* Металічная трубка ў смалакурным катле для кандэнсацыі шкіпінару.

ВУЖЫ'ШЧА *н.* Доўгая тоўстая вяроўка для прыціскання рублём сена на возе. *Прывяжы вужышча да драбаў, каб ні выпало.* Верцялішкі.

ВЫ'СЬПІРАЦЬ *зак.* Выбіць прачом (палатно). *На рэчку занясла палатно і пранікам высьпірала, высьпірала...* Свіслач.

ВЭ'НГЯР *м.* Кастратар жарабкоў. *Трэбо паклікаць вэ́нгра, хай жарабца выдажыць.* Лаша.

ГАБЭ'ЛЯК *м.* Рубанак. *Есьць габэляк з адным жалескам і з двума.* Хамікі.

ГАК *м.* Мелкае месца пасярэдзіне ракі, якое чуць прыкметна выступае з вады. *Як сядзяш на гак, то трымай, каб ні закінуло хваста.* Хамікі.

ГАЛАЎНІ'ЧЫ *м.* Плытнік, які стаіць пры першай *апачыне. Галаўнічы закідая апачынай, кіруя.* Дарошавічы.

ГАЛЁНКІ *мн.* Панчохі без ступняў, якія насілі ў час жніва, каб не пакалоць ногі. *Каб ні галёнкі, та ўсе лыткі папарола п пожняй.* Дакалавічы.

ГА'ЛЬКА *ж.* Дзявочая ніжняя спадніца з карункамі. *Надзела гальку і думая, што ўжэ пані.* Пракопавічы.

ГА'МБА *ж.* Недахоп, ганьба. *У ёй ніякай гамбы німа, добра карова.* Індура.

ГАМЯРЭ'ШКА *ж.* Драўляная накладка на чаранок віл, рыдлёўкі і да т. п., каб ямчэй трымаць. *Як мацней націснуў, так гамярэшка і адламаласа ат чаранка.* Кунцаўшчына.

ГАРДЗЕ'ЛЬ *м.* Прывязка з кручаных дубцоў, якой змацоўваюцца бярвенні ў плыце. *Давай набярэм гэтых*

*гардзялёў сухіх, дóбро будзя на хлеп паліць.* Дарошавічы.

ГАРНО′ *н.* Месца для агню на плыце. *Пад гарно клалі дзёрны, кап ні загарэласо дзераво.* Дарошавічы.

ГАРТВО′ЛЬ *м.* Дубовы кол з суком, які выкідаюць на бераг для затрымкі плыта. *Гары гартволем лéпяй, трымай!* Свіслач.

ГЕМЗ *м.* Вышэйшы гатунак шавецкай скуры (чорнага і жоўтага колеру).

ГО′НШЧЫК *м.* Смалакур, чалавек, які паліць смалакурную печ. *Я ўжэ бóльш як трыццаць рок у смалярні гоншчыкам.* Сабаляны.

ГРАЙЗЭ′ГА *ж.* Круглая піла з вялікімі нахіленымі зубамі для падоўжнай і папярэчнай распілоўкі сталярнага матэрыялу. *У яго грайзэга з добрай сталі, файно рэжа.* Дзерачынак.

ГРА′НДЫ *мн.* Развалкі.

ГРУ′ДА *ж.* Хвароба ног у коней. *Груда ў каня, кульгáя.* Табала.

ГРУДЗІ′ЛО *н.* Цуглі. *Дай грудзіло каню, каб ні панёс.* Брузгі.

ГУ′НКА *ж.* Гунька. *Трэба накрыць каня гункай, бо нáтто ш спацеў.* Дарошавічы.

ДАТЫ′КАЧ *м.* Кусок палатна з кіёчкамі, які чаплялі пры тканні, каб не пакідаць занадта доўгіх нітак асновы на канцах палатна.

ДАХВАТО′ВЫ *прым.* Хваравіты (пра каня). *У яго конь вельмі дахватовы, абы-што, так і зноў хварэя.* Луцкаўляны.

ДО′ЎБЯНКА *ж.* Невялікая бочка для захавання гароху і інш.

ДРАК *м.* Драчка, цяслярская прылада. *Нéкалі сьцены лажылі тýлько пад драк.* Дзерачынак.

ДРАКАВА′ЦЬ *незак.* Пры дапамозе драчкі падганяць адно бервяно да другога (каб не было шчылін у сцяне).

ДРАЧ *м.* Тое, што і *драк. Нашу хату ставілі пад драч.* Рацічы.

ДУПЁЛКО *н.* Невялікая бочка для квасу, піва.

ДЫЖУ′РКА *ж.* Верхняе мужчынскае адзенне да кален з дарагога матэрыялу чорнага колеру (ззаду да пояса распорка, зашпілялася на гузікі).

ЖА′БА *ж.* Загана ў палатне, калі ўток слаба прыбіты бёрдам. *Аéй, дзеўка, недасекаў нарабіла, жабаў...* Рагачы.

ЖАНДАРО'ВЫ *прым.* Светла-чырвоны. *У нас жандаровыя андаракé некалі ўсе насілі.* Свіслач.

ЖЫВА'Я ВАДА'. Быстры струмень сярод спакойнай вады ў рацэ.

ЗАКЛА'ДНІК *м.* Сталярная прылада для апрацоўкі аконных рам. *Дзерава да закладніка я сам зрабіў, а жалéско старое.* Свіслач.

ЗАКРУ'ЧВАНКА *ж.* Вялікая суконная хустка фабрычнага вырабу. *Закручванку вазьмі, а то халадно будзя.* Агароднікі.

ЗАЛО'ЖНЫ *прым.* Цягавіты (пра каня). *Але ш і заложны конь, як захроп, так і выпер вос.* Сухая Даліна.

ЗАПРУ'ТА *ж.* Кароткі кіёк, якім вязалі снапы (закручвалі перавяслы). *У нас усе снапэ́ вяжуць пад запруту.* Кунцаўшчына. *Увяжы пад запруту хварóст, каб ні раскідаўса.* Табала.

ЗАЦЁРЫЧ *м.* Бандарская прылада, якой робяць выразы ў клёпках для ўстаўкі дна. *Нагастры зацёрыч, бо ніроўно рэжа ўторы.* Бандары.

ЗБО'ЙНЯ *ж.* Тое, што і *біло. Прынясі збойні, зложым кросны.* Зарубічы.

ЗМЕ'ІК *м.* Тое, што і *вужык.*

КАЛО'ШАНКА *ж.* Прыбудоўка да адрыны, дзе рэжуць сечку, ссыпаюць мякіну і інш.

КАМЭ'ЛЯ *ж.* Фабрычная пража з танкарунннай воўны. *У Юсты былі тканыя андаракé з камэлі.* Свіслач.

КА'НТАР *м.* Спецыяльная аброць, якую надзявалі каню на шыю і галаву, каб не вырываўся з рук. *На жарабца Чушалявага надзявалі гóбруць і кантар, каб ні ўцякаў.* Брузгі.

КАНФЕДАРА'ТКА *ж.* Суконная шапка сіняга колеру, аблямаваная аўчынкай сівога колеру. *Багатая шляхта насіла зімой шапкі канфедараткі з кутáсікамі.* Буракі.

КАПО'ТА *ж.* Верхняе мужчынскае адзенне ў шляхты з шэрага сукна і з металічнымі бліскучымі гузікамі. *У капотах езьдзілі да касьцёла і на кірмаш, а шыю падвязвалі жоўтымі хусьцінкамі.* Занявічы.

КАРАБЕ'Ц *м.* Сплеценая з саломы і лазы пасудзіна для захавання мукі.

КА'СЛАЎКА *ж.* Жменя, пасма ільну.

КАТЛАБА'Н *м.* Вір, яма на дне ракі.

КВА'СКА *ж.* Дзежка для квасу.

КЛЕ'ЦКА *ж.* Скрутак вычасанага льну. *З трох клецак зрабіла добрую кудзелю.* Свіслач.

КЛЁМБЫ *мн.* Абутак на драўлянай падэшве без заднікаў. *Ты што гэта клёмбамі на падворку брохаяш?* Бакуны.

КО'НАЎКА I *ж.* Драўляная кварта. *Конаўка з двума ручкамі рабілася, каб дóбро было трымаць.* Бандары.

КО'НАЎКА II *ж.* Бляшаная пасудзіна для малака, бітончык. *Конаўку шторанiцы ставілі ў зрой* [крыніцу], *пакуль нéхто ні выліў малако.* Гібулічы.

КО'РАБ *м.* Тое, што і *асьміна.*

КРАСЁНКА *ж.* Чатырохвугольная рамка для замацавання *шырыгі. Бес красёнак шырыгу магло скруціць набок, вырваць.* Дзерачынак.

КУ'БЯЛ *м.* Бочка з векам для захавання палатна, адзежы і інш. *Багата дзеўка, у яе поўны кубял дабра, як зачыніць.* Бандары.

КУБРА'К *м.* Мужчынскае суконнае верхняе адзенне (кароткае, вышэй калена).

КУЛЯ'ЦЬ *незак.* Разбіраць плыты і коньмі выцягваць бярвенне на бераг. *Прышлі плытэ́, заўтро будзям куляць дзéраво з Нёмна.* Свіслач.

КУШНЕ'РКА *ж.* Шапка з футра (звычайна такога ж колеру, як і каўнер верхняй адзежыны). *Даўней шляхта насіла шапкі-кушнеркі.* Эйсманты.

ЛА'ЎКА *ж.* Частка плыта, звязаная з 24 бярвенняў (у плыце бывае да 20 і больш лавак). *Лаўкі зьвязваюць шварцýгамі, кап плыт выкручваўса на загібах.* Жараслаўка.

ЛЁЗ *м.* Зазор. *Забівай тэбяль мацней, яшчэ лёз есьць.* Пагараны.

ЛЁНКА *ж.* Жалезная загваздка ў восі. *Прыкруці лёнку дротам, каб ні выскачыла.* Кунцаўшчына.

ЛО'ЦМАН м. Чалавек, які адказвае за стан усіх плытоў. *Вунь лоцман паехаў на чайцы, плытэ́ будуць ісьці.* Дарошавічы.

ЛУБ *м.* Накрыўка для чоўна. *Нацягні луб, бо дошч пачынае крапацець.* Пагараны.

ЛУ'НКА *ж.* Драўляная каробка для вымярэння збожжа. *Лунка — гэта пудовая мерка.* Бакуны.

ЛЯГАРЫ' *мн.* Доўгія падваліны, якія кладуць аднымі канцамі ў ваду пад плыт, а другімі на бераг; па *лягарах*

коньмі выцягваюць бярвенне на бераг. *Па мокрых лягірах лепей куляць дзерава.* Хамікі.

ЛЯ'ДА *ж.* Прылада, пры дапамозе якой адзін чалавек падымаў бярвенне на воз. *Маючы ляду і аднаму можно палажыць штуку на вос.* Свіслач.

ЛЯДАВА'ЦЬ *незак.* Класці бярвенне на воз пры дапамозе *ляды. У цесьця есьць ляда, я і сам лядавай, але ўдвох спраўней лядаваць.* Рыбніца.

ЛЯЗАВА'ЦЬ *незак.* 1. Мясіць і пераціраць гліну для фармоўкі цэглы або кафлі. *Добро лязуй гліну, бо будзя пэнкаць цэгла.* Дакалавічы. 2. Перамешваць вапну, паліваючы вадой. *Лязавала вапну, то чысто паразьядала рукі, прышчаць — ні дакрануцца.* Балічы.

ЛЯНДЭ'РАК *м.* 1. Невялікая каструля. *Вазьмі ляндэрак ды звары кашкі дзіцяці.* Балічы. 2. Чыгунная скаварада на трох ножках. *Паставіў ляндэрак на прыпячак.* Магіляны.

МАКАЦЁРТ *м.* Макацёр.

МАНКЕ'Т *м.* Манжэт. *Манкетаў шляхцянкі ніколі не вышывалі, вышывалі манкеты і грудзі ў рубашках толькі мужыке́.* Эйсманты.

МО'ТАР *м.* Спецыяльная палка, якой заганялі рыбу ў сетку і кіравалі чоўнам. *Мотарам пляжый па вадзе і крычай.* Пагараны.

МЭ'ЙСАР *м.* Спецыяльны шавецкі нож. *Вазьмі другі мэйсар, а гэты дай нагастру.* Індура.

НАБО'ЙКА *ж.* Бандарская прылада для набівання абручоў. *Габруч ні сеў, трэбо набойкай пасадзіць на месца.* Бандары.

НАСТРУ'Г *м.* Тое, што і *абіручны нож.*

НАЦЯ'ВІЧ, НАЦЯ'ГІЧ *м.* Бандарская прылада для нацягвання жалезных абручоў. *Падай нацявіч, будзямо нацягваць на цабэрак абручэ́.* Бандары.

НЕДАБО'Й *м.* Тое, што і *жаба.*

НЕДАСЕ'К *м.* Тое, што і *жаба. Высьцяляш на балоці палатно, то кожная баба ўбачыць недасекі, жабы.* Рагачы.

ПАДБО'Й *м.* Падшыўка іншым матэрыялам нізу адзення. *Які ў яе андарак быў, весь падбой ацёпканы.* Пагараны.

ПАЛЯРЫ'НКА *ж.* Нашыўка на рукавах. *Палярынкі — гэта стонжачкі такія нашывалі на рукавэ́.* Эйсманты.

ПАНЦІ'НА *ж.* Выступ з доўгай шэрсцю на назе каня ззаду над капытом. *Узяў за панціну, кап прымерацъ падкову.* Лаша.

ПАХАДНЯ' *ж.* Понаж у калаўроце. *Пахадня адарваласа, рамушчыкі перацерліса.* Бакуны.

ПАЯНЦІ'НА *ж.* Тое, што і *панціна.*

ПЕРАВА'ЛЬНЫ СТОЎП. Указальны слуп для арыентацыі на рацэ.

ПЕРАМО'ТА *ж.* Памылка пры снаванні кроснаў. *Як зробіш перамоту, та кепско, трэбо разводзіць.* Свіслач.

ПЕ'СІКІ *мн.* Драўляныя клінкі, якімі плытагоны замацоўвалі бярвенні ў плыце. *Трэбо забіваць песікі мацней, кап калаткé ні мелі люзу.* Свіслач.

ПЕ'СТА *ж.* Сту́па.

ПІТУ'ШКА *ж.* Маленькі гліняны гаршчок. *Дзіцяці варылі ў пітушцы манную кашу.* Кунцаўшчына.

ПЛАСКАКІ'ЖЫ *мн.* Вялікія бляхарскія пласкагубцы.

ПЛАТ *м.* Другі ці трэці гатунак шавецкай скуры.

ПЛО'ХІ *прым.* Мірны, рахманы (пра каня). *Ідзі каля каня, ні бойса, ён зусім плохі.* Сухая Даліна.

ПЛО'ШЧЫКІ *мн.* Кіёчкі для раздзялення асновы ў кроснах. *Плошчыкаў два, яны каля навоя, іх падсоўваюць.* Свіслач.

ПРАНЭ'ЛЬКА *ж.* Парадная сукенка ў шляхцянак. *Пранэлькі насілі дзяўчата з рыпсу, чорныя, тылько да танцаў.* Эйсманты.

ПРЫ'ЗМА *ж.* Дэталь сахі. *У нас прызмы вілі з ракіты.* Азёры.

ПРЫС *м.* Доўгі шост з гамярэшкай у плытагонаў для адпіхвання ад берага і зняцця з мелі плыта.

ПУГА'РЧЫК *м.* Чарка.

ПУСТЫ'ЦВАН *м.* Шавецкія абцугі. *Пыстыцванам цвікé выцягвалі з апцасаў.* Індура.

ПУЦЭ'ЛЦАЛ *м.* Шавецкая прылада для навядзення глянцу на рантах і абцасах абутку.

РАЖКЕ' I *мн.* Прылада для разматвання маткоў. *На ражках гэтых файно разматваць маткé.* Свіслач.

РАЖКЕ' II *мн.* Тое, што і *вожык. Ражке надзелі цяляці, кап калоло ў лыме, каб ні ссало каровы.* Караня-вічы.

РАЗА'К *м.* Рыдлёўка для наразання торфу.

РАЗВІ'ТКІ *мн.* Тое, што і *вожык.*

РАЗМАТА'ЧКА *ж.* Прылада, на якую намотваюць ніткі з маткоў.

РАЗЬМЕ'Р *м.* Бандарскі цыркуль для разметкі дна. *Некалі разьмеры бандарэ́ рабілі самы́, нікаторыя заказвалі ў кавалёў.* Бандары.

РА'ПА *ж.* Каменная града на дне ракі, парог. *Як рапа, то закідаеш апачы́най і трымаеш, каб ні закруціло.* Свіслач.

РО'ТМАН *м.* Старшы над плытнікамі, які падае каманды *тарнавым.*

РУКА'ЎНІНА *ж.* Вузкае самаробнае палатно для рукавоў сарочак. *Гэта яшчэ мама ткала рукаўніну, я яшчэ малой была.* Кавалічы.

РЭ'ЖЧЫК *м.* Тое, што і *зацёрыч.*

РЭ'ЧМАН *м.* Старшы *ротман* у плытагонаў. *У нас, ба́ла, начаваў рэчман, як плытэ гналі.* Дарошавічы.

САВАКІ' *мн.* Тое, што і *валаке. Савакі рабілі з моцнаго дзерава.* Азёры.

САРДА'К *м.* Жаночае верхняе адзенне без рукавоў. *Сардак надзявалі сьвятам, як ішлі да касьцёла.* Пракопавічы. *У шляхцянак былі кракаўскія сардакі — вішнёвыя, бурдовыя, нябескія.* Занявічы.

САРПІ'НКА *ж.* Паркаль, танны матэрыял на дзіцячыя сукенкі.

СА'ЧАК *м.* Святочны жаночы жакет.

СІНЁ'ЎКА *ж.* Спадніца з саматканага сіняга паўсукна.

СІНЯ'К *м.* Горшы гатунак драўніны, не прыгодны для вырабу мэблі. *Сіняк нават на дровы не гадзіцца, гарыць, як салома.* Путрышкі.

СІ'РЫ *мн.* Вілападобная дэталь з металічнымі кручкамі ў калаўроце (для намотвання нітак на шпульку). *Не садзі ру́кі ў сіры, абдзярэ пальцы.* Лойкі.

СНО'ЙНІЦА *ж.* Прылада для снавання кроснаў. *Былі некалі снойніцы хадзячыя і круцячыя.* Каленікі.

СНУ'ЙКА *ж.* Тое, што і *снойніца. Дай снуйкі, буду на каптанэ снаваць.* Рацічы.

СПУСКА'ЦЬ I *зак.* Габляваць, выгладжваць дошкі пры дапамозе спуска. *Дошкі ніроўныя, трэбо спусьціць, каб добро прыставалі адна да другой.* Агароднікі.

СПУСКА'ЦЬ II *зак.* Звіваць вяроўкі, лейцы пры дапамозе спецыяльнай прылады ў выглядзе кручкоў і дошкі з адтулінамі.

СТАНО′К *м.* Станіна ў кроснах. *Станке́ змацоўвалі збойнямі.* Зарубічы.

СТАЎБУНО′ЎКА *ж.* Высокая шапка з казырком чорнага колеру, якую насілі вясной.

СТА′ЎНІЦА *ж.* Вялікая бочка для ссыпання збожжа. *Ужэ ле́то, а ў яго яшчэ ніпачатая стаўніца жыта.* Бандары.

СТАЦІ′ВА *ж.* Тое, што і *станок.*

СТРАМА′К *м.* Чатырохгранны шуфлік на доўгай ручцы для выкідвання торфу з кар'ера.

СТРЫ′ХАР *м.* Фармоўшчык цэглы на цагельні. *Некалі стрыхар выганяў много грошай.* Дакалавічы.

СТРЫ′ХМУС *м.* Сталярная прылада для правядзення лініі, паралельнай краю дошкі. *Гэты стрыхмус я як маладым быў зрабіў, а гэты яшчэ дзедаў.* Дзерачынак.

СТРЫ′ЦА *ж.* Калёсіка ў калаўроце з выемкай, на якую накладваецца шнур. *Падкруці стрыцу, кап шнур не спадаў.* Свіслач.

СТУСІ′НА *ж.* Гібкае дрэўца для пугі, звычайна прывазное. *А я думала, што стусіны ў Празароках растуць, азноў іх куплялі.* Свіслач.

СТУ′СЛА *ж.* Сталярная прылада, скрыня, пры дапамозе якой распілоўваюць дошкі пад вуглом 90° і 45°. *Бес стуслы правідло́ва вугла ні зарэжаш.* Свіслач.

СТЫ′РНІК *м.* Старшы ў плытагонаў, асоба, адказная за праводку плытоў.

СУРО′ВЫ КУ′ЖАЛЬ. Нябеленае саматканае палатно. *Некалі шылі сарачке́ з суроваго кужалю.* Бакуны.

СУХАПАСТО′Й *м.* Сухастой. *Стражнік дазволіў рубаць сухапастой.* Рагачы.

СУ′ЧКІ *мн.* Невялікія дапаможныя санкі для перавозкі бярвення. *Прычапі сучкі да саней, паедзям у лес.* Кавалічы.

СЬЦЯКО′ЛЬНІК *м.* Сталярная прылада для выразання пазоў у аконных рамах, куды ўстаўляюцца шыбы. *Сьцякольнік нешта не бярэ, забіўса.* Дзерачынак.

СЯЛЕ′ДЗЯЎКА *ж.* Бочка з-пад селядцоў. *Купіў сяледзяўку, добро будзя капусту квасіць.* Сухая Даліна.

ТАКА′РНЯ *ж.* Прымітыўны такарны станок для вырабу калаўротаў.

ТАМАВА′НЕ *н.* Месца ў рацэ, дзе накідана каменне, каб вада не размывала бераг. *Плытэ як на тамаване ўзыйдуць, могуць разьбіцца.* Дарошавічы.

ТАРНАВЫ′ *м.* Чалавек, які кіруе плытом пры дапамозе *апачыны.*

ТАРПАНТЫ′НА *ж.* Прадукт смалакурэння, шкіпінар. *Некалі тарпантыну цэлымі бу́тлямі ладавалі ў вагоны і атпраўлялі за граніцу.* Рыбніца.

ТАПТА′К *м.* Тапчак.

ТРАЦІ′НЫ *мн.* Пілавінне. *Трэ пат паршука прынясьці трацінаў, бо мо́кро.* Рагачы.

ТРЫ′ЦА *ж.* Тое, што і *стрыца. Трыцу закруці мацней, а то ні цягня.* Бакуны.

ТЭ′БЯЛЬ *м.* Драўляны шып, пры дапамозе якога злучаюць бярвенне ў сцяне. *Сьцены садзілі на тэблі, каб ні выкруціліса.* Дакалавічы.

УБО′ЙЧЫВЫ *прым.* Павольны (пра каня). *Убойчываго каня ад цыганоў купіў, ашукалі.* Бакуны.

УТО′ЧКІ *мн.* Надточкі ў халявах. *Бывало, заказвалі ў Алтара ні тулько прышвы, але і ўточкі.* Індура.

УША′ТЫ *м.* Цэбар з вушамі. *Трэ вынясці ўшаты ў крымен, хай астыня, каб ні запарыць кішке́ сьвіням.* Бандары.

ФА′КТАР *м.* Тое, што і *васмахтар. Добраго каня купіў, хібо фактару барыш даў.* Індура.

ФАРБЛЁНКА *ж.* Спадніца з фарбаванага паўсукна. *Надзела фарблёнку і фарсіць сабе.* Струбка.

ФАРМАВА′ЦЬ *незак.* Лажыць гліну ў спецыяльную форму. *Стры́хар фармуе цэглу.* Дакалавічы.

ФІ′ГА *ж.* Скрутак ільну. *У фідзы дзесяць жменяў лёну.* Забагонікі.

ФЭ′ЛЯР *м.* Тое, што і *гамба.*

ФУЛЬТО′Н *м.* Сталярная пілка з дробнымі зубамі для адпільвання або запільвання тонкіх дэталяў. *Гэта фультон яшчэ дзедаў, дзед мне пакінуў.* Дзерачынак.

ХАЛА′Т *м.* Доўгае мужчынска верхняе адзенне з сукна шэрага або чорнага колеру, надзявалася на кажух у непагоду ці зімой. *На начлег некалі бралі з сабой хала́ты, каб ні зьмерзнуць.* Каранявічы.

ХВАЛЯВА′ЦЬ *незак.* Валіць (сукно). *У Гродні некалі на фолюшы хвалявалі сукно.* Лойкі.

ЦАГА′Н *м.* Вялікі чыгун, у якім варылі бульбу свінням. *Вазьмі цаган, насып сьвіной бульбы і пастаў у печ.* Казіміроўка.

ЦАЛЬ *м.* Канец плыта. *Тарнуй улево, трымай, кап цаль ні закінуло!* Дакалавічы.

ЦЫГАНО'К *м.* Дэталь у калаўроце, лапка, якая круціць кола. *Прывяжы цыганок, а то боўтаецца.* Бакуны.

ЦЮ'НЬКІ *мн.* Абутак (лапці), вязаныя з кручаных нітак. *Некалі пры Польшчы ўсе вязалі сабе цюнькі і хадзілі ў іх.* Шэмбелеўцы.

ЧАП *м.* Правушына ў сталярных дэталях. *Чапэ́ добро ні запілованы, трэбо штама́йзай пачысьціць.* Дзерачынак.

ЧВЭ'КЛЫ *мн.* Шавецкія драўляныя гвазды. *Чвэклы затоўстыя, ні ідуць.* Індура.

ЧУ'ЙКА *ж.* Тое, што і *бурка. Зрабіў сабе доўгую чуйку, добро ў дарогу паехаць.* Васілевічы.

ШАЛЯНО'ЎКА *ж.* Каляровая хустка. *Некалі шаляноўкі былі дарагія, ні ўсякі мох купіць.* Эйсманты.

ШАРА'ЧАК *м.* Самаробнае льняное палатно, з якога шылі штаны.

ШАРА'ЧКА *ж.* Спадніца з сівага дамашняга паўсукна.

ШАРШЭ'БАЛЬ *м.* Шархебель. *Жаляско ў гэтаго шаршэ́баля яшчэ царская, з німецкай сталі.* Дзерачынак.

ШАСЬЦІРУ'ЧКА *ж.* Каса даўжынёй у шэсць далоней.

ШВАРЦАВА'ЦЬ *незак.* Накіроўваць (плыт). *Шварцуй да берага!* Дарошавічы.

ШВАРЦУ'ГА *м.* Тое, што і *гардзель.*

ШВЭ'ДА *м.* Світар з суконных нітак. *Швэда натта ш удалы, мяхкі і цёплы.* Рагачы.

ШНА'ЙДА *ж.* Барабан, прыстасаванне для размешвання гліны ў цагельнях. *Шнайду некалі круцілі рукамі, а пазней сталі круціць коньмі.* Дакалавічы.

ШО'ПЛІК *м.* Сявалка. *Ні хапіло шопліка дасеяць гоны.* Бандары.

ШПІ'ЛЬКА *ж.* Кіёчак для замацавання верхніка ў церніцы. *Верхнік выскачыў, мусі, шпілька выпала.* Бакуны.

ШПІ'ЛЯР *м.* Плоскае шыла, якім наколвалі дзіркі ў падэшве для драўляных цвікоў.

ШПУК *м.* Паз, шпунт. *Падлога будзе шчыльная, бо зробленая ў шпук.* Бакуны.

ШТАМА'ЙЗА *ж.* Стамеска. *Штамайзы бываюць шырокія, вузкія і нават круглыя.* Свіслач.

ШУ'ЛЬМАН *м.* Старшы над плытнікамі. *Шульман на чайцы ёдзя, а часам і на плыцэ́.* Дарошавічы.

ШЧАЦІ'НА *ж.* Шавецкі матэрыял з шэрсці дзікоў. *Некалі адна шчаціна каштавала цэлы грош.* Індура.

ШЫБО'ВАЧНЫ МО'ТАР Тое, што і *мотар.*

ШЫРЫ'ГА *ж.* Тоўсты і доўгі бярозавы кол, замацаваны паміж бярвеннямі, які служыць для тармажэння ці затрымання плыта. *Шырыгі рабілі з моцнаго дзерава, з бярозы або дуба, каб пад напорам ні зламаліса.* Свіслач.

ЯЗЫ' *мн.* Пляцень з лазы, якім загароджвалі рэчку для лоўлі рыбы. *На язах бабрэ́ вядуцца.* Хваты.

*Г. Ф. Юрчанка*

# ПРЫСЛОЎНЫЯ РАЗДЗЕЛЬНААФОРМЛЕНЫЯ ЎТВАРЭННІ Ў ГАВОРЦЫ МСЦІСЛАЎШЧЫНЫ

У гаворцы Мсціслаўшчыны зафіксаван рад прыслоўных злучэнняў, якія вызначаюцца пэўнай сэнсавай і структурнай устойлівасцю. Яны знаходзяцца на мяжы паміж фразеалагізмамі і звычайнымі спалучэннямі ўскоснага склону назоўніка з прыназоўнікам. Іх нельга аднесці да фразеалогіі, паколькі яны не набылі адной з асноўных фразеалагічных прыкмет — пераноснасці і вобразнасці. У прыведзеных кантэкстах іх нельга лічыць і ўскоснымі формамі назоўніка з прыназоўнікам, бо, ужываючыся ў ролі акалічнасцей, яны страцілі выразнае прадметнае значэнне і набылі значэнне прыслоўяў. Гэта пацвярджаецца і тым, што асобныя назоўнікі з такіх утварэнняў не ўжываюцца самастойна без прыназоўнікаў: *без вылазу, на міржкі, пад уздухі, без уціху, на абсміх, на прасміх* і інш.

АБ [АДНОЙ] ВАДЗЕ. Ужываючы толькі ваду. *Аб вадзе доўга ні накырхыіш, раз арганізма нічога ні прінімаіць. Ай, жыцілка зь яе тыкая, жывець аб адной вадзе.*

АБ [АДНОМ (АДНЫМ)] ХЛЕБЕ. Ужываючы толькі хлеб. *Сядзелі тады ў кустах ап хлебі, ета ладна, што булку пасьпелі схваціць, кругом немцы, у дзярэўню ні паткнесься. Як жа так аб адном хлебі сядзець, нада чаго і ва́рінига хлібану́ць. Аб адным хлебі сілы ня будзіць, ні нышработыіш.*

АБ СУХОМ (СУХІМ). Не ўжываючы варанага. *Што ж ты ўсё ап сухом, прыкла́ла б печ ды пріставіла гаршчонычык. Ап сухім і ўнутрінныісьці зыбыляць, ну яго, біз варёныга доўга ні ныця́гніш.*

АД КАРОВЫ. Падаіўшы карову. *Нешта сіла тая айдзе дзіва́лыся, ат каровы зь вядзерцым чуць дыйшла.*

АД КАРОЎ. Пасучы кароў. *Ня дужа ат кароў атлучысься, за імі глядзі ды глядзі, уміг пы ірях кытануць.*

АД КОНІ. З пасьбы коней. *Прібег ат коні, крупені піріхвацій і пабег скарей нызад. Ета ўсё пычалося, як начнэя пустухі ат коні прішлі.*

БЕЗ УРЭМЯ. Не ў час, дачасна. *Раз біз уремя пасеіна, якога ж ты хочыш урыжаю. Біз уремя ўсё ета дзела, нада було пры пірястройку ішчэ ў прошлым гаду падумыць.*

БЕЗ УЦІХУ. Бесперапынна, несціхана. *Носюцца біз уціху па вуліцы, гылыгыляць. Біз уціху лётылі цэлыя лета, чаго зь іх толька ні тварілыся.*

ДА ДНЯ. Вельмі рана, перад світаннем. *Нашы ды дня выіхылі, хацелі на первый бызар пупасьць. Кылі ў ягыды сыбіраіціся, дык ды дня пыднімацца нада, дарога ні маліénькыя.*

ДА ПАЦЁМКІ (ПАЦЁМАК). Да таго часу, пакуль сцямнее. *Ды пацёмкі убіраліся з бульбыю, а тады й вечыра пріхвацілі. Ці ні зьбіраісься ты тут ды пацёмык кыпашыцца?*

ДА ПНЯ. Усё начыста (высячы). *Зы адзін год тады Сапрыныўскій лес пылажылі ды пня. Такея лясы ды пня высіклі, сосны стыялі, што зыпрігалі парку, і то чуць вязьлі.*

ЗА БАБАЮ. На сродкі бабулі, пры яе доглядзе. *Цяперя зы бабыю яму цёплінька, ну зы бабіными плічамі доўга ні прысядзіш.*

ЗА БАРАНАМІ. У ахвоце (пра авечку).

ЗА БАЦЬКАМІ. На сродкі бацькоў, пры іх доглядзе. *Ды двыццаці пяці гадоў зы быцькамі жыў, што яму атхадзіла, ні знаў дайжа палкі дроў рыськяпіць.*

ЗА БАЦЬКАЮ. На сродкі бацькі, пры яго абароне, заступніцтве. *Зы бацькыю сядзець можна, чаго там. Зы бацькыю і дзеці хырашы.*

ЗА БЫКАМІ. У ахвоце (пра карову).

ЗА ДЗЕЛА. Заслужана. *За дзела пулучыў, стоіла. Кылі пыплачыш, дык за дзела.*

ЗА ЖАРАБКАМІ. У ахвоце (пра кабылу).

ЗА МАТКАЮ. Пры доглядзе маці, пры спадзяванні на маці. *Зы маткыю дзеці горя ні знаюць. Зы маткыю дачке ня чорт бяды, і дагледжына, і прібраджына.*

ЗА ХЛЯКАМІ. У ахвоце (пра свінню).

ЗА ЦАРОМ. Пры царскай уладзе, да 1917 года. *Зы царём жылі так: адзін пунувáў, а сто гурювáла. Ты скажы, хто ў нас зы царём вы́біўся ў людзі.*

З ВЕРХАМ. Вышэй краёў пасудзіны, з коптурам. *Капусту усігда кладу зь верьхым, іна уляжыцца. Ты хуць крупені зь верьхым ні налі.*

З ГОРА. Вымушана. *Ну што зьдзелыіш, з горя і крупені пыд'ясі, кылі ты сала жалеіш дывáць. З горя і асіньнікым прыкладзеш печ.*

З ЗАПАСАМ. Маючы пэўныя сродкі звыш патрэбы. *Сярьгей з зыпáсым жывець, ны абы-што ён ні надзеіцца. Яны ні такея рызівоны, як ты, усігда з зыпáсым.*

З ЗЯЦЁЎ. З сям'і жонкі. *Ну як, мыладэй, ці ні зь зяцёў ты ўжо чэшыш? Ідзі схадзі, пабудзь, пылядзім, як ты зь зяцёў цірізь нядзелю будзіш каціць.*

З КРАСЫ. На знешні выгляд. *С красы́ загу́ны ні дасі, ну хрáкцірым — сечка. Дзяўчонкі яны нічога, ну с красы ня дужа.*

З-ПАД КАРОВЫ. 1. Тое, што і *ад каровы. Толька я прішла с-пыт каровы, чую: крік.* 2. Такі, які ссе (пра цяля). *Цялёнка с-пыт каровы ўсігда пызнáіш, ён глáдзінькій.*

З-ПАД ЛЁДУ. Скончыўшы вазіць лёд. *Мы ехылі с-пад лёду, бацька пачуў, што нехта вя́кнуў, крікнуў Грішку: «Кум, нехта крічыць!» — а Хынчанок ні пачуў і паехый.*

З-ПАД МАЛАКА. Адвёзшы і здаўшы малако. *Як с-пыд мылыка пріедзіш, уремя буваіць, можна куды атвярнуцца. Пріехый с-пыд мылыка і сьпіць.*

З-ПАД НАЖА. Перанёсшы аперацыю. *Усыплялі, ня помню, калі мяне с-пыд ныжа пынясьлі.*

З-ПАД ХРОСТУ (ХРАСТА) *уст.* Пасля хрышчэння дзіцяці. *С-пат хрёсту ехылі, дык чуць ні памёрзьлі. Вярнуліся с-пыт хрістá, выпілі пы чаркі.*

З ПАЛУЧКІ. Атрымаўшы зарплату. *Яны прівыклі ўжо, каб с палучкі тряпіну якую купіць, етыга бырыхла ў іх многа.*

З ПЕРВАГА РАЗУ. Адразу. *Сь первыга разу ў яго ўсё пулучаіцца, на што ні гляніць. Сь первыга разу і бліноў ні сьпякеш.*

З РАБОТЫ (РУПАТЫ). У адносінах працавітасці. *З работы ён ня дужа пытхвáтный, пыспаць любіць. Яго з рупыты хваліць ніхто ні станіць, ні тая рупыта.*

З РОДУ. Ад нараджэння. *Ён з роду трошку кыртáвіць, і матка тыкая была.*

З РУКОЮ. З намерам вітацца. *Увідзіў мяне і бягіць з рукою: «Здрастуйця, Якыўлівіч!»*

З ТАКАМ *жарт.* Без прыправы. *Ну калі ты й с тáкым хлеба зьясі, ні памреш. Пі чай, с такым дужа смашна.*

З ЦВЕТУ. Адразу пасля цвіцення. *Нічога там даўно німа, ні яблычка, сь цьвету абырвáлі.*

К БЫКАМ. Для пакрыцця (пра карову).

К ЖАРАБКАМ. Для пакрыцця (пра кабылу).

К УРЭМЮ. У вызначаны час. *Глядзі, штоб к уремю быў тут. Есьлі ня прідзіш к уремю, ны сябе абіжайся.*

К ХЛЯКАМ. Для пакрыцця (пра свінню).

МІЖ (МЕЖДУ, ПАМІЖ) ВАЧЭЙ. Па лбу, наогул па галаве. *Трошку стукнулі між вачэй, з ног як сноп пыляцеў. Палýчыць между вачэй і атвяжыцца. Паміж вачэй пулучыў, зь левыга боку дык вун і сіняк сядзіць.*

МІЖ (МЕЖДУ, ПАМІЖ) ВУШЭЙ. Па галаве, звычайна ззаду. *Злавіў між вушэй, ніхай прыспалітым такім ня будзіць. Ніхай палезіць, мала було — то яшчэ палучыць между вушэй. Даўно ета було, дзяліліся, зывізаліся зы пацьцёлка, баба і цюкнула яго долытым ззаду паміж вушэй — ніхто ні замецiў.*

НА АБСМІХ (АБСМЯЯНІЕ, АБСМЯЯННЕ, ПРАСМІХ, ПРАСМЯЯНІЕ, ПРАСМЯЯННЕ). Каб пасмяяцца, высмеяць. *Ны апсьміх нечыга пысылáць, ён ужо ні такей маліңкій і ўсё пынімаіць. Ны псьміянія саветыіць: ты пыбягіш, думыіць, дык хохыту будзіць. Нечыга туды йціць ны апсьміяньня. Толька дураку ня дойдзіць, што ета ны прасьміх гыварілыся, а ты сам ныц сабою пасьмейся. Так і цыляіць, каб куды пыдаткнуць ны прысьміянія. Ніхай яны самі ны прысьміяньня едуць, а мне тама дзелыць німа чаго.*

НА БЯДУ (ГОРА). Каб гараваць, жыць у няшчасці. *Ныкідáла мальгвы ны бяду, што зь імі цяперя дзелыць. Як ні пывязець ны бяду, дык і чыпляіцца адно зу другоя. На горя ўстреціліся, сыйшліся, ня выйшла ў іх жызьні. Пріехыла сюда на горя, прасьвету ня відзіць.*

НА БЯРЭМА *жарт.* На плячо (браць). *На месьці за хобыт яго, ны бярема і тырачыць. Узяў ны бярема і тырачыць. Узяў ны бярема і лёхка панёс.*

НА БЯРЭМЕ *жарт.* На плячы (несці, насіць). *Цігаюць яго ны бяремі цэлый дзень, а ён як цяльпук якей. Вун ны бяремі вылакуць, а іна пішчыць, малютычка.*

НА ВІД (ВЫГЛЯД). Па знешняму вобліку. *На від большы тріццаці гадоў нізашто ні дасі. Дайжа на від скажыш, што ета Максімыў сын. Не, на выглід я ўжо ні апрідзіляю, хто ета.*

НА ВОДШЫБЕ. Убаку ад іншых. *Яго хата стаіць неік адна, на вочшыбі. На вочшыбі жыць нязрўшна, ўсё адзін і адзін. Усігда дзяржыцца на вочшыбі.*

НА ВОЗДУХ. На свежае паветра, з памяшкання. *Ідзіця на воздух, пысідзіцё, пыталкўіця, а ў етый духаціішчы патоміціся. На воздух вынісьлі і ў сябе пріішоў.*

НА ВОЗДУХЕ. На свежым паветры, не ў памяшканні. *Сядзець запёртым у духаце, у жарішчы дренна, на воздухі куды здыравей.*

НА ВУЛІЦУ. На агульнае абмеркаванне, абгавор. *Ні нада ўсякыю мелыч пускаць на вуліцу. Раз выйшла на вуліцу, то былбатні хваціць надоўга.*

НА ВУЛІЦЫ. Без жылля, без прытулку. *Хто яго дзіржаць станіць у сям'е ці ны кварцірі п'яніцу такога, узноў на вуліцы. Ачынуліся на вуліцы с тряпкымі, што зацэліла, кругом гылавешкі, і ні знаіш, у якей бок пыдацца, куды кінуцца.*

НА ВУМЕ. У думках. *Аткўліцька ён знаіць, што ў таго ну вуме. Гаворіць адно, а ну вуме ў яго саўсім другоя, ці ты раскўсіш яго, ці ў мысьлі улезіш.*

НА' ДЗЕ'НЬ. Для спажывання днём. *І летым, і зімою на дзень стаўлю варіць. Нада б на дзень якей гаршчонычык пріставіць, нада ж пыабедыць. Редка я на дзінь стаўлю, сколька мне адною душою нада.*

НА ДОЛЮ. На ўсё жыццё. *На долю што як выпыдзіць, усім роўна ні було й ня будзіць. Ны нашу долю ўсяго прішлося.*

НА ЗНОСЕ (ЗНОСЯХ). У апошнія дні цяжарнасці. *Жонка на зносі, пасьледнія дні дыхаджыіць, ён ужо трецьцію ноч у дваре дзяржыць кыня, каб быў пуд рукамі. Відзілі тваю Ганну, каторый ета раз іна ходзіць на зносіх?*

НА ІСХОДЗЕ. У стане знікнення, выдаткавання. *Бульба ны ісходзі, нада як думыць да погріба дыбірацца. Бягі-ка ты ў горыд, хлеб ны ісходзі, заўтря разу нечыга будзіць укусіць.*

НА КАРАЧКАХ (ЧАЦВЯРОНКАХ). На руках і нагах адначасова. *Мы пыглідаім і дзелыім від, што ні зымічáім, а ён ны кырáчкых, ны кырáчках і зу кусты. Ны кырачкых тут ня будзіш поўзыць, дзелый праход. Ны чыцьвярёнкых выбірайся з грязі. Думыю, чаго йта ён ідзець ны чыцьвярёнкых.*

НА КАРАЧКІ (ЧАЦВЯРОНКІ). На рукі і ногі адначасова. *Стынавіся ны кырáчкі ды лезь, што тут глядзець. Хуць ны кырачкі стань, каб лазіць пад етымі кустамі. Ны чыцьвярёнкі апускайся і пашоў. Айдзе там було прайціць, ны чыцьвярёнкі стынавіліся і лазілі, во як нам було.*

НА КОРТАЧКАХ. Прысеўшы на сагнутых нагах. *Прітуліўся на кортычкых лі агня́, трошку пагреўся. Хуць на кортычкых прігрецца, і то ладна. Ноч на кортычкых ні прысядзіш.*

НА КОРТАЧКІ. Прысеўшы на сагнутыя ногі. *Садзіся во на кортычкі, я трошку плашчом прікрыю. Айдзе там було да ўдобствыў, на кортычкі апусьціліся.*

НА КРАСУ. Тое, што і *з красы*. *Ішчэ ны красу ты будзіш выбірацъ, глядзі во, каб есьць зваріла ды рубашку пірісьцірну́ла.*

НА ЛУЧАХ (ПРАСВЯТЛЕНІІ, ПРАСВЯТЛЕННІ, ПРАСВЯШЧЭНІІ, ПРАСВЯШЧЭННІ). На рэнтгенаўскім аглядзе. *Я ўчора ну лучáх быў. Нешта баліць і баліць, можа, ны прысьвятленіі што ўвідзюць. Нічога ў мяне ны прысьвятленьні ні найшлі, скызалі, здароў. Асколык у лёххіх ны прысьвяшчэніі відзін. Я ні разу ны прысьвяшчэньні ня быў.*

НА ЛУЧЫ (ПРАСВЯТЛЕНІЕ, ПРАСВЯТЛЕННЕ, ПРАСВЯШЧЭНІЕ, ПРАСВЯШЧЭННЕ). На рэнтгенаўскі агляд. *І слухылі, і ну лучы ставілі — нічога німа. Зайтря стынавіцца ны прысьвятленія і нада ранінька бежч. Пысылаюць ны прысьвятленьня, ды ні знаю, ці йціць, гаворюць, ета ня дужа здарова, уліяіць неік. А ты схадзі ны прысьвяшчэнія, ніхай пыглідзяць, можа, што й нáйдуць. Гыварі́ў, ны прысьвяшчэньня як пыставюць, дык відзін пірялом.*

НА МАНЕР. Падобна да. *Рызгывáрііць ны манер Аўдоткі. Я хачу зьдзелыць хату ны манер тваёй. Ны манер маёй пасьцілка ў Ганны ні палучыцца, іна ні мысьцяріца.*

НА МЕСТА. Туды, куды трэба. *Я пріехыў на места раншы ўсіх. Пылажы на места, айдзе браў.*

НА МІРЖКІ. Пераміргваючыся. *Нешта пыкызалі адзін другому ны мірьжкі і пыдаліся.*

НА НАРУГУ. На здзек. *У тую сям'ю ны нарўгу пойдзіш, нырмальныя жызьні тама ня будзіць. Аддасьцё ны наругу, ніхай у дваре сядзіць.*

НА (ПАД) ЗНОС. Для пераносу на іншае месца. *Прыдалі хату на знос, у горыд нейкія ўзялі. Ніхто сюды жыць ня пойдзіць, падз знос, можа, возьмуць. Падз знос яго хата ні гадзіцца, на месьці б ішчэ трошку ліпела.*

НА РАБОТУ (РУПАТУ, СТАРАННЕ). Тое, што і з работы. *Ны работу яго ніхто ні станіць гуніць. Яны ўсе на рўпыту ня дужа, рўпытнікі зь іх ізьвесныя. Мы даўно знаім, якей ты ны стырянньня.*

НА РАБРАК. Вузкай гранню ўніз. *Ны рібрак доска ня будзіць стыяць, дзіржаць нада.*

НА СЛУХ. Толькі слухаючы. *Як табе на слух іхныя песьні? На слух прілумаўся іграць, ніхто ня ўчыў. На слух я ня ўмею, мне каб сымаму прычытаць.*

НА СЛУЧАЙ. У выпадку, на выпадак. *На случый, есьлі б яны ні зналі, куды кінуцца, я ім дыла твой адріс. На случый дождж, пылатка ні пымішаіць.*

НА СМЕРЦЬ. Для пахавання. *У мяне ўсё на сьмерць гатова: і камлёт, і кохта, і платочык, ряд за сьмерцю астаўся.*

НА СМЕХ. Жартам, дзеля жарту. *Табе на сьмех скызалі, а ты й паверіў. Мы пынялі, што яны на сьмех тріпанўлі.*

НА ТЫМ (ТОМ) СВЕЦЕ. Пасля смерці. *А аткуля ты знаіш, як на тым сьвеці дзелыіцца, ці ты там быў, ці што. Я знаю, рышичытаіцца на тым сьвеці. Ладна, ні гарюй, на том сьвеці ўстрецімся.*

НА УБОЙ. На гібель (гнаць, ісці і г. д.). *У Мазурскіх балотых у тую вайну нас ну убой гналі зь вінтовычкымі, а немцы касілі с пулямёта.*

НА ЦУПЫШАЧКАХ (ЦУПЫШКАХ, ЧУПЫШАЧКАХ, ЧУПЫШКАХ). Лёгка прысеўшы на сагнутых нагах. *Ну цупышычкых мінутку кыла іх пысядзела і зразу пабегла: цімныта ныхадзіла і дождж мог найціць. Ну цупышкых прісеў, ды ні сядзіцца. Усё кругом мокра, агонь чуць рысклалі, ну чупышычкых пысядзелі трошку.*

*Ну чупышкых абычайный вдддых, толька ногі балець будуць.*

НА ЦУПЫШАЧКІ (ЦУПЫШКІ, ЧУПЫШАЧКІ, ЧУПЫШКІ). Лёгка прысеўшы на сагнутыя ногі. *Села ну цупышычкі, хўдзінькыя, дробнінькыя, чуць надзета, уся дрыжыць, уся трясецца, уся калоціцца, ажно глядзець шкода. Тут дажа ну цупышкі ні прімасьцісься. Ну чупышычкі пат куст прісядзь, ні так зысікáць будзіць, меншы зьмякніш. Ну чупышкі сеў, каб ні зыдрімаў, а то ў вагонь кульнецца.*

НА ЦЫПАЧКАХ (ДЫБАЧКАХ). На пальцах ног. *Мне ўсё було відна: на цыпычкых ідуць, ідуць кылы сьцяны, а тады за дзьверi шмыг, шмыг адзін зу другім. На цыпычкых чуць дыстаў. На дыбычкых пыдыйшлі, што ніхто ні пачуў.*

НА ЦЫПАЧКІ (ДЫБАЧКІ). На пальцы ног. *Дзьве кірьпічыны пылажыў, на іх ускаціў калодку, стаў на цыпычкі і тады толька дыстаў. На дыбычкі стынавіўся і ўсё нешта з-зы плітня пріглідáўся.*

НА ЧАЛАВЕКА. У сярэднім. *Наверна, выйдзіць пы пяцёркі ны чалавека. Кідыйця пы кыцялку ны чалавека, далжно пулучыцца.*

НА ЧУЖБІНУ (ЧУЖБІНКУ). За кошт іншых. *Так, збáлывыўся, прівык жыць ну чужбіну. Ну чужбіну ён ня промых. Рáды, што хуць пабедылі ну чужбінку.*

НА ШТЫК. На даўжыню металічнай часткі лапаткі. *На штык узялі с правыга боку — нічога, а глыбжы капнўлі — выда. Нада яшчэ кыпаць на штык, мілкувáта будзіць.*

ПА АБЕДЗЕ (АБЕДАХ). У перадабедзенны або абедзенны час. *Сяньня я пыстыряюся пы абедзі атвярнуцца. Пы абéдых мне й дыхнўць некылі будзіць.*

ПА (АБ) МАЛАКУ. Харчуючыся толькі малаком. *Пы мылакў трошку цягну, адж жырныга пуд грудзямі зырізáіць. Пы мылаку ног ні пывылакў. Як жа збўду карову, кылі я толька і дзяржуся аб мылаку.*

ПА БУЛЬБЕ. Харчуючыся толькі бульбай. *Па бўльбі доўга ні ныцягніш, г бульбі скварка нада.*

ПА ВАДЗЕ. Тое, што і *аб вадзе. Прыглыціць нічога ня можыць, цягніць пы вадзе, рыссалодзіць калі.*

ПА ГРАШАХ *жарт.* Няма грошай. *Што, у цябе ўзноў пы грышáх? У яго каторый дзень пы грышах, глядзіць, айдзе пазычыць.*

ПАД АЎЦОЮ. Сысучы аўцу. *Ігняты ўсігда пыд аўцою, ніхто іх ні атнімаіць. Хто ігнят будзіць атнімаць, яны да восіні пыд аўцою, пакуль сыма ні атаб'ець.*

ПАД ГОД. У залежнасці ад прыродных умоў года. *Грячыха як пад год: буваіць, уродзіць, буваіць, прыпадзець саўсім.*

ПАД ДЫХАВІЦУ (ДЫХ, ДЫХАЛА). Пад грудную клетку. *Ён с табою доўга ня будзіць вазіцца, дасьць пад дыхывіцу і ўсё. Так і глядзіць, каб пад дых пупасць. Луплянуў пад дыхыла, тэй і ні прадышыць.*

ПАД КАБЫЛАЮ. Сысучы кабылу. *Жырябёнка пыт кабылыю дзіржаць большы, чым паўгода.*

ПАД КАРОВАЮ. 1. Сысучы карову. *Мы пыт каровыю цялёнка саўсім ні дзяржым.* 2. Доячы карову. *Анька пыт каровыю, січас дадоіць і прідзіць.*

ПАД КАРОВУ. Даіць. *Пыдажджы, мне некылі, яшчэ я пыт карову ні хадзіла. Ты як пойдзіш пыт карову, дык ці ня сьпіш там.*

ПАД КІРКУ (ЛАПАТКУ). Ускопваючы зямлю лапаткаю. *Тая бульба, што пат кірку садзілі, ужо ладныя. Нада пуд лупатку троху пысадзіць, ніхай будзіць раньнія бульбіна.*

ПАД ЛЁД. Вазіць лёд. *Мы многа гадоў пыдряд езьдзілі пад лёд, бувала, па дзьвесьця пудоў хлеба зырыбатывылі за зіму.*

ПАД МАТЫКУ. Робячы барозны або ямкі для насення, расады матыкай. *Капусту ўсігда пыд матыку содзюць. Пыд матыку грядку бульбы пысадзіла.*

ПАД НАЖОМ. На аперацыі; у час аперацыі. *Страшна ліжаць пыд нажом, ну ета пакуль зымарозюць. Ні пірянёс апірацыі, пад нажом памёр.*

ПАД НАСТРАЕНІЕ. У добрым настроі. *Пыд ныстраенія зьдзелыіць, а другей раз ня ўпросіш і ня ўмоліш. Ета вы пупалі яму пыд ныстраенія.*

ПАД НОЖ. На аперацыю. *Як зыбярець, што цярьпеньня ня будзіць, дык і пад нож пойдзіш. Ён сам лёг пад нож, чуствывыў, што нешта дренна ж жалудкым.*

ПАД ПАХІ (ПАШКІ). Крыж-накрыж. *Пыт пахі як возьмуцца, сьмех глядзець. Пыт пашкі схваціліся, валтузіліся, валтузіліся і ніхто ні пірямог.*

ПАД СВІННЁЮ. Сысучы свінню. *У мяне сёліта доўга былі пыць сьвіньнёю, аттаго і гладзінькія пырысяткі.*

ПАД СІЛУ. Упол. *Пацьсілу як возьміць, любога паложыць. Схваціў Пітрычка пацьсілу.*

ПАД СТРАЖАЮ. Арыштаваны. *Дыскыкаўся, найшоў сабе места: пыц стражыю сядзіць.*

ПАД УЗДУХІ (УЗДУШЫНУ, УЗДУХАВІНУ, УЗДУХВІНУ). Тое, што і *пад дыхавіцу. Сыданець пуд уздухі, дык з ног далоў пыляціш. Схваціў пуд уздушыну і ўціхамірыўся. Знаіць, куды цэліць — пуд уздухывіну. Як дасць пуд уздухвіну, тэй і сеў.*

ПАД ХРОСТ *уст.* Хрысціць. *Я саўсім дзяўчонкыю Насту пат хрёст вазіла, гадоў сімнаццыць мне було.*

ПАД ХРОСТАМ *уст.* У час хрышчэння. *Пат хрёстым, бувала, глядзіш ужо ды глядзіш мулюпахтычку.*

ПА ЗАБАРСНІ (*рэдка* ПА ЗАБАРСЕНЬ). Досыць многа (вады). *Дождж ліў усю ноч, дайжа ну Лугуваткі вады пы забырсьні, ні прайціць. Усюдых пы забырсінь, ні вупруўляліся нікуды.*

ПА ЗАСЛУГАХ. У адпаведнасці з тым, што належыць. *Я доўга цярьпець ні стану, у мяне жыва палучыш пы заслугых. Ну гаворюць жа ўсе, што далі вам пы заслугых.*

ПА ЗІМЕ. 1. Зімою. *Пы зіме брат зыіжджаў нешта раз.* 2. Канец зіме. *Фіўраль к канцу — ета пы зіме ўжо, дні віда-віда большыюць.*

ПА ЗЛАБЕ (ЗЛОБЕ). Зацята злуючыся. *Етыя пы злабе ныгаворюць усяго, дужа злаўредныя людзі. Яны, ты знаіш, па злобі могуць атпаліць, што й ні дадумыісься дайжа.*

ПА КАЛЕНА. 1. Мелка. *Ікая тут речка, у самым глыбокім месьці пы калена, пукупацца як нада ні пукупаісься.* 2. Глыбока, многа. *Ня йдзі, тута будзіць вады пы калена. Грязі ўсюдых пы калена, ні пралезьць.*

ПА ЛЕВУЮ РУКУ. Злева. *Як жа ты ня відзіла, ён жа сядзеў лі цябе па левую руку.*

ПА НАГЕ. Якраз, падыходзіць (пра абутак). *Есьлі пы наге, то бярі, боты яны, відна, крепкія. Вобуў усігда нада пы наге выбіраць.*

ПА НОВАЙ (ПАСЛЕДНЯЙ) МОДЗЕ. На іншы лад, манеру, у адпаведнасці з апошнімі правіламі. *У вас, я віджу, усё па новый модзі заведзіна. Рызадзеўся пы пасьледній модзі. Пы пасьледній модзі сталі жыць.*

ПА ПРАВУЮ РУКУ. Справа. *Стынавіся пы правую руку, удобній будзіць. Пы правыю руку сядзела ат яго.*

ПА ПРАСТАЦЕ ДУШЭЎНАЙ *кніжн.* З прычыны бясхітраснасці. *Пы прыстаце душэўный усё ім і вылыжыў. Нада толька ўмець пыдыйціць, ён пы прыстаце душэўный рыскажыць.*

ПА РАТАЗЕЙСТВУ. З-за нявопытнасці і няўважлівасці. *Пы рытазейству астаўся бісь пінжычка, а еткій пінжачок быў.*

ПА РУКЕ. Якраз, падыходзяць (пра рукавіцы). *Ня меріўшы пірша́ткі пу руке зьвізала. Каб жа пу руке, а то ж зва́ліюцца.*

ПА СУХОМУ (СУХОМ, СУХІМ). Тое, што і *аб сухом. Чаго ж ня будзіць дренна — нядзелю жылі пу сухому. Толька пу сухом жыць уредна, нада чаго варіныга сірбануць. Худзь ба кружка ікая мылыка, а то пу сухім і пу сухім.*

ПА ТЭЙ ДЗЕНЬ. Да пэўнага часу. *Па тэй дзень яго і відзілі, цяперь німа.*

ПА ХЛЕБЕ. Тое, што і *аб хлебе. Па хлебі цэлы будуць, выжывуць. Як хуваліся ат немцыў у кусьці, па хлебі сядзелі.*

ПРА ГОРАД. Для адзявання, апранання ў горад. *Куртка лі хызяйства топыць, а пінжак будзіць пра горыд.*

ПРА ЛЮДЗІ. Для свята (пра адзенне). *Пра людзі ў мяне адзежы ёсьць, ны кажный дзень нада купіць.*

ПРА ЛЯКАРСТВА. У якасці лякарства. *Бірягу бутылычку рускія горькія пры ліка́рства: зуб як хваціць — успушчў каплю, ён замрець.*

ПРА ПРАЗНІК (СВЯТА). Для выкарыстання ў час свята. *Я пры пра́зьнік блюду кылбаску. Пудблюда́й-ка адзежыну пры празьнік. Калі пры сьвя́та што ёсьць, тады ні нада пу людзях бегыць.*

ПРА СВАДЗЬБУ. Для выкарыстання на вяселлі. *Ніхай ета плацьця вісіць пры свадзьбу. Кыбанчыка пры свадзьбу бірягець.*

ПРА СМЕРЦЬ. На выпадак смерці. *Пра сьмерць у мяне ўся адзежа ёсьць. У стырікоў так заведзіна: пра сьмерць загыдзя купляюць.* Гл. *на смерць.*

ПРА СТАРАСЦЬ. Для выкарыстання ў старасці. *Калі пры ста́рысьць лішнія капейка астаніцца, іна ні пымішаіць.*

ПРА ЧАЛАВЕКА (ЛЮДЗЕЙ). На выпадак раптоўнага наведвання. *Куплю буты́лычку і пыстаўлю пры чы-*

*лавека, ніхай будзіць пуд рукамі. Раз пру людзей што ёсьць, дык ня будзіш вычамі сьвяціць.*

СА СМАКАМ. Апетытна. *Поўнью міску ныліла капусты, сы смакым зьеў.*

СА СТАРАННЯ. Тое, што і з *работы. Якей ты сы стыря́ньня, усе відзюць і знаюць.*

У ДЗЯВОЦТВЕ. Будучы дзяўчынай. *У дзявоцтві пыкрасу́ісься, а за́мужым ужо ня тоя, ніхай ён хуць расхарошый мужык.*

У ЗЯЦІ. У сям'ю жонкі. *Не, я б ужо ў зяці ні пашоў. Яй-богу, другей раз у зяці сыбіраіцца.*

У ЗЯЦЯХ. У сям'і жонкі. *Ну як табе ў зіця́х вядзецца? Пабыў у зіцях — хваціць, буду строіцца.*

У ІЗВОЗ. Для первозкі цяжару па найму. *З нашыя дзярэўні у ізвоз кажныю зіму езьдзілі.*

У ЛЁТ. Ляцець. *Я запёрла курей, а яны ціряс крышу і ў лёт у ячмень.*

У ПРАВАХ (ПРАВЕ). Маючы права. *А чаго йта ён у прыва́х пріказывыць мне? Ці ён у пра́ві так рызгыварівыць?*

У РАЗОРУ (АТВАЛ, БАРАЗНУ). Кладучы зямлю пры ворыве ў розныя бакі. *У разору пыха́ць — ета калі туды у адзін бок кладзеш быразну, а нызад — у другей. Поля раз пашуць у склад, раз — у атвал. Хто пашыць у склад, хто ў быразну. У быразну́ гаворюць редка, у раськідку пашуць.*

У ПРЫГЛЯДЗЕ. Дагледжаны. *У мяне і сьвёкыр, і дзевірь усігда былі у пріглядзі, абоя ны маіх руках і памёрлі. Я люблю, каб хата была ў пріглядзі, роіла я ні любіла і ні люблю.*

У СТАРАСЦЬ. У пажылы ўзрост. *Ні хачу я ў старысьць дужа зыжывацца.*

У СТРЭЛКІ. У насенны ствол (пра цыбулю). *Гаворюць, пыдмарожыныя цубуля дужа ідзець у стрелкі. Сёліта пасьці ўся мыя цубуля у стрелкі пыгнала.*

У СУСЕДЗІ (ПАДСУСЕДЗІ). У хату іншых часова (пайсці жыць). *Хочыш ці не, а прідзіцца іціць у суседзі. Тады, у сорык трецьцім, уся дзярэўня рызыйшла́ся у пуцсуседзі хто куды.*

У СУСЕДЗЯХ (ПАДСУСЕДЗЯХ). У хаце іншых часова (жыць). *У суседзіх нікому ні салодка, і табе горя, і с табою. А што ты зьдзелыіш, прідзіцца — і ў пуцсуседзіх пыжывеш.*

У СУСЕДСТВЕ. Па-суседску. *У суседстві нада зьмірна жыць. Калі ў суседстві ні ладзюць — ета пасьледнія дзела.*

У ТРАВУ. У час самага шпаркага прыросту травы. *У траву наша карова зыліваіць мылаком. Ат етыя кыравёнкі і ў траву мылыка ні ныясі.*

У ШКОДУ. Прыносячы шкоду, патраву. *Глядзі, етый пацьцёлык любіць шмыгнуць у шкоду. Увесь табун як уваліцца ў шкоду, тады ты насьпіш.*

ЦЕРАЗ БЕРАГ. Вельмі поўна. *Глядзі ж, ні нылівай цірязь беріг. Бухторіць цірязь беріг, тады хадзі ўсьлед за ім, выцірай.*

# З ДЫЯЛЕКТНАЙ ЛЕКСІКАГРАФІІ

*М. Ф. Гуліцкі*

## «СМАЛЕНСКІ АБЛАСНЫ СЛОЎНІК» У. ДАБРАВОЛЬСКАГА

Навуковая спадчына Уладзіміра Мікалаевіча Дабравольскага, вядомага даследчыка Смаленшчыны, даволі вялікая і разнастайная. Яго этнаграфічнымі і фальклорнымі запісамі шырока карыстаюцца літаратары, фалькларысты, гісторыкі, этнографы. Лексікаграфічная практыка У. Дабравольскага да гэтага часу даследавалася мала, хоць яна заслугоўвае пільнай увагі беларускіх мовазнаўцаў, найперш — лексікографаў.

Выдаўшы чатырохтомны «Смаленскі этнаграфічны зборнік» (1891—1903), У. Дабравольскі ўсю энергію сканцэнтраваў на вывучэнні народнай лексікі Смаленшчыны, своеасаблівага і цікавага для лінгвістаў рэгіёна. Вынікам яго шматгадовай працы стаў «Смаленскі абласны слоўнік» (1914). Смаленскія гаворкі былі для Дабравольскага добра знаёмыя: у гэтай мясцовасці ён нарадзіўся, тут доўгія гады вёў фальклорныя, этнаграфічныя запісы. Зразумела, што многія словы і выразы спецыяльна для слоўніка ён занатаваў сам; вялікая колькасць слоў выбрана з яго папярэдніх прац — «Смаленскага этнаграфічнага зборніка» і асобных брашур і артыкулаў. Як матэрыял для слоўніка выкарыстаны «Лісты з вёскі» А. Энгельгарта, «Смаленская губерня» М. Цэбрыкава і іншыя рукапісныя і друкаваныя матэрыялы. Я. Карскі ў рэцэнзіі піша, што «Смаленскі абласны слоўнік» вызначаецца дастатковай паўнатой, багаццем зместу, хоць і папракае У. Дабравольскага, што ён не выкарыстаў пры складанні слоўніка «Энеіду навыварат» В. Равінскага і «Беларускія песні» П. Бяссонава [1].

[1] Е. Ф. Карский. Труды по белорусскому и другим славянским языкам. М., 1962, стар. 442.

У «Смаленскім абласным слоўніку» У. Дабравольскі распрацаваў 16 560 слоўнікавых артыкулаў. Асноўнымі дапаможнікамі пры адборы лексікі для «Смаленскага абласнога слоўніка» былі «Вопыт абласнога велікарускага слоўніка» і «Дадатак» да яго. Арыентуючыся на гэтыя працы, Дабравольскі складаў рэестр свайго слоўніка за кошт незарэгістраваных слоў. Так, «Вопыт» падае з паметай *смал.* дзеяслоў *кавирзать* '1) городить, путать, дурно писать; 2) бить, колотить'; Дабравольскі прапускае яго, але ўключае два аднакаранёвыя назоўнікі: *каверза* 'сплетня, клевета' і *каверзень* '1) неважный, неуклюжий работник, 2) лапоть из лык'. Падае Дабравольскі словы з іншым граматычным афармленнем: *катачих* («Вопыт») і *катачишка* («Смаленскі абласны слоўнік») 'шило, которым плетут лапти'. У «Смаленскім абласным слоўніку» аўтар прапускае словы *карюзлик, хватерка, пали, паросник, патяпник, тавлинка, толока, цагельня, цурка* і інш., занатаваныя ў «Вопыце» з паметай *смал.*

Рэестравая частка слоўніка Дабравольскага своеасаблівая: яна ахоплівае самыя розныя тэматычныя групы. Апрача таго, вялікае месца адводзіцца ўласным імёнам, іх павелічальным, памяншальным, ласкальным і зневажальным формам: *Аксиння, Аксюта, Аксютка; Лекса, Лексашка, Алексаха; Высяпок* 'уменшит. от Осип'; *Дунюшутка, Дуня; Хадоня, Хадоска.* Асобнымі слоўнікавымі артыкуламі падаюцца геаграфічныя назвы: *Витебск, Вишня* (рака), *Дунай, Ирдань (Иордан).* Некаторыя артыкулы прысвячаюцца ўстойлівым і вобразным словазлучэнням, якія разглядаюцца як адно цэлае і растлумачваюцца літаратурнымі адпаведнікамі: *дрыжики продаець* 'дрожит от холода'; *гнётами пачаў бить* 'пяткамі ног стал бить'; *марафеты падпускать* 'туманить глаза, дурачить'; *чирк у чирк* 'говорить о деле, сделанном с величайшей точностью'.

У. Дабравольскі даволі поўна занатаваў цэлыя гнёзды аднакаранёвых слоў. Так, з коранем *мул-* зафіксавана 6 слоў: *мулкий, мулить, мулко, мульё (мульлё), мульчеть.* «Беларуска-рускі слоўнік» (1962) падае толькі 4: *мулка, мулкі, муляцца, муляць.* У «Беларуска-рускім слоўніку» толькі 4 словы з коранем *тлум-: тлум, тлуміць, тлума, тлумны.* У «Смаленскім абласным слоўніку» занатаваны і вытворныя *тлумасть, тлумата, тлуматня,*

*тлумиться.* Вялікая група слоў зарэгістравана з коранем *зел-: зельлика, зелья, озеления* 'ошибка, заблуждение', *озелило* 'омрачило, ввело в заблуждение', *озелить* 'обмануть', *озелиться, озёлки* 'зелье чарующее', *озелок* 'обман', *озел* 'колдовство, очарование', *озелять* 'очаровывать зельем'.

У словах рэестравай часткі націск ставіцца, але здараецца, што націскны склад вызначаны няправільна. Так, у слове *волго́ватый* націск стаіць на складзе *го*, а ў прыкладзе — на складзе *ва (Сено троху волгова́та)*. У слове *поли́вка* пад націскам *ли,* а ў прыкладзе — *по (по́ливка)*.

Граматычны кваліфікатар у лексікаграфічных працах меў і мае істотнае значэнне. Ён дапамагае ўбачыць слова не адасоблена, а ва ўсіх яго ўзаемаадносінах і сувязях. Наяўнасць граматычнага кваліфікатара асабліва неабходна ў абласных слоўніках, дзе сабрана лексіка, пераважна невядомая для шырокага кола чытачоў. Разумеючы гэта, І. Грыгаровіч, С. Мікуцкі, І. Насовіч, М. Нікіфароўскі і нават аўтары невялікіх падборак імкнуліся даваць словам граматычныя характарыстыкі. У. Дабравольскі не скарыстаў традыцыйнага вопыту папярэднiх складальнікаў, у тым ліку і «Вопыта абласнога слоўніка», не выпрацаваў сістэмы граматычных памет. Усе словы, незалежна ад таго якой часцінай мовы яны з'яўляюцца, не маюць граматычных памет, хоць падаюцца часам не ў пачатковай форме.

Падрабязнага стылёвага размежавання слоў У. Дабравольскі таксама не даваў. Больш-менш паслядоўна выкарыстоўваліся паметы *уменьшительное, ругательное, бранное: буркалы* 'глаза, ругат. слово'; *бусуха* 'бранное слово: бранчливая, сварливая'; *кастривица* 'ругательн. слово, вздорный, сварливый'; *месик* 'ум. от месяц'.

Некаторыя словы маюць пэўныя стылявыя адценні, але падаюцца ў слоўніку без адпаведных памет і ўспрымаюцца як нейтральныя. Напрыклад, у словах *зюкаць* 'разговаривать', *ирзун* 'весёлый парень, любящий смеяться, зубоскалить', *расквасить* 'разбить кому что, ударить кого сильно', *сынулька* 'сын, сыночек', *ускапиться* 'влюбиться' і іншых адчуваецца эмацыянальная напоўненасць, аднак стылявых якасцей гэтых слоў аўтар не вызначае.

Асноўнай задачай кожнага слоўніка з'яўляецца семантычная характарыстыка слоў. У слоўніку Дабравольскага пераважае апісальнае тлумачэнне: яно коратка фармулюе значэнне слова і змяшчае мінімум звестак, неабходных для разумення сэнсу. У канкрэтных назоўніках спачатку вызначаецца іх родавая прыналежнасць, а пасля падкрэсліваецца відавая, дадатковая прыкмета, якой прадмет адрозніваецца ад іншых: *вехтик* 'мочалка для мытья посуды'; *кайло* 'лом, которым бьют камень и мерзлую землю'; *липец* 'мёд, собранный пчёламі с цветов липы'. Тлумачэнні, у якіх аўтар абмяжоўваецца толькі родавай прыкметай, не характарызуюць спецыфікі прадмета, не выдзяляюць яго з ліку іншых і не могуць быць здавальняючымі: *валасник* 'растение'; *верьхоўка* 'прихомоть, суеверная примета'; *жароня* 'цветок вроде герани'; *чернухи* 'грибы'.

Нярэдка У. Дабравольскі не задавальняецца філалагічным апісаннем, пераступае яго межы і вельмі падрабязна характарызуе прадмет, з'яву, звычай, даючы ім энцыклапедычнае тлумачэнне. Слоўнікавыя артыкулы ў такіх выпадках перагружаюцца другараднымі, часам непатрэбнымі фактамі і разрастаюцца да вялікіх памераў, набываюць рысы артыкулаў са спецыяльных даведнікаў: ВЕКША. Белка. Берёзовка водится в березовых лесах: пушистая, серенькая; хвостик тёмно-коричневого цвета; березовка крупнее ростом, пушистее рыженькой белочки-ольшанки. Белочка-ольшанка водится в ольховых лесах.

Такія вялікія артыкулы з энцыклапедычным ухілам аўтар распрацаваў і да слоў *яз, шальник, цыганки, холодец, уместье, седанец, раданица* і інш.

У нешматлікіх выпадках аўтар дамагаецца дакладнасці тлумачэння, падкрэсліваючы паходжанне назвы: *леховитый* 'засеянный небезупречно, с лехами'; *обтынить* 'окружить тыном, забором'.

Значная колькасць рэестравых слоў растлумачана літаратурнымі адпаведнікамі. Такі спосаб тлумачэння выкарыстоўваецца пры словах, якімі ў дыялекце і ў літаратурнай мове абазначаюцца адны і тыя ж паняцці. Звычайна гэта стылістычна нейтральныя словы, значэнні якіх дакладна супадаюць: *веселуха* 'радуга'; *жачка* 'жнея'; *затяться* 'заупрямиться'; *кандёр* 'крупнік'; *перелёк* 'испуг'; *скрыль* 'ломоть'; *слетить* 'подтеплить'; *товаришка* 'подруга'.

Не заўсёды адным літаратурным адпаведнікам можна раскрыць сэнс дыялектнага слова. Адпаведнік часам то не ахоплівае ўсіх адценняў слова, то недакладна перадае значэнне. Тады даецца адразу некалькі літаратурных адпаведнікаў, якія дапамагаюць найбліжэй падысці да патрэбнага значэння: *тлуматня* 'беспокойство, хлопоты'; *рудянеть* 'краснеть, багроветь'; *уколупить* 'отщипнуть, отковырнуть'; *перетнуть* 'пересечь, перерубить'; *радца* 'советник, советчик'.

Вельмі часта апісальнае тлумачэнне і літаратурны адпаведнік, узятыя паасобку, не поўнасцю характарызуюць семантыку слова. Тады аўтар аб'ядноўвае іх, выкарыстоўвае ў спалучэнні, дамагаючыся найбольш дакладнага тлумачэння. Так, слова *початка* перакладаецца больш агульным рускім 'перевязь'. Відаць, што між імі няма поўнай семантычнай адпаведнасці, і, каб дасягнуць яе, аўтар дадае апісальнае тлумачэнне 'дужка ведра'. Да слова *наконовано* падабраны недастатковы адпаведнік 'назначено', які аўтар удакладніў спалучэннем 'определено судьбою'.

У слоўніку У. Дабравольскага вылучаецца яшчэ адзін спосаб семантычнай характарыстыкі слова — граматычнае тлумачэнне-адсылка. Вытворныя словы, якія адрозніваюцца ад асноўнага, невытворнага, толькі граматычнымі прыкметамі, разгорнутых тлумачэнняў не маюць, а забяспечваюцца адсылкамі да асноўнага слова. Такім спосабам аўтар дае тлумачэнні да назоўнікаў і прыметнікаў з суфіксамі эмацыянальнай ацэнкі, да параўнальных ступеняў прыметнікаў: *починальничек* 'уменьш. от починальник'; *боронка* 'уменьш. от борона'; *жидей, жидее* 'сравнит. ст. от жидкий'; *лиска* 'уменьш. от лиса'; *сивенький* 'ум. сивый'. Такі прыём выкарыстоўваецца непаслядоўна, сустракаюцца недакладнасці. Так, слова *рача* ў клічным склоне (*Ох, рача, што ў нас заўтри за свята?*) аўтар забяспечвае граматычным тлумачэннем 'уменьш. от рак'.

Назвы раслін, жывёл, анатамічныя тэрміны маюць лацінскія адпаведнікі: *береза* 'Betula alba'; *буковица* 'Betnica officinalis'; *пижма* 'Tanacetum vulgare'.

У слоўніку можна знайсці шэраг слоў, якія атрымалі вельмі агульнае і прыблізнае тлумачэнне, не апісанне, а спасылку на тое, калі і ў якім выразе слова скарыстоўваецца: *жигучка* 'палящая, эпитет крапивы с мелкими

листьями'; *неткаха* 'отрицательное качество женщины'; *подкутный* 'эпитет домовой змеи, водящейся под кутом'.

Без тлумачэння засталіся агульнавядомыя словы' *балота, баравік, блудзіць, воўк, вянок, галава, гара, груша, дым, зямля, камень, камар, неба* і іншыя, а таксама словы, якія трапляюцца ў фальклорных творах, але сэнс іх у кантэксце невыразны: ТАЛЕР. *Брязнули талеры на стале*; ЛИПЕТА. Слово встречается в песне. *Спишу твоё личко на белу липету.*

Слоўнік павінен зарэгістраваць усе асноўныя значэнні слоў, іх сэнсавыя адценні. У. Дабравольскі ўлічваў гэта патрабаванне, імкнуўся ў слоўнікавым артыкуле паказаць слова так, як яно захавалася ў народнай мове: БИЧУК. 1. Часть цепа, которою бьют по снопам. 2. Неловкий, неповоротливый; ПОДКУЛУПНУТЬ. 1. Отделить или взять незначительный кусочек какого-либо вещества. 2. Задеть *кого* за живую струнку.

У слоўніку У. Дабравольскага сустракаецца нямала выпадкаў, калі семантыка слова характарызуецца няпоўна, недастаткова. Недахопам у будове слоўнікавых артыкулаў з'яўляецца парушэнне храналагічнага парадку ў падачы значэнняў слова. На першае месца прынята ставіць асноўныя, самыя старажытныя і найбольш пашыраныя значэнні, пасля пераносныя, вузкадыялектныя. Будова слоўнікавага артыкула павінна ў храналагічным плане (у межах магчымага) адлюстроўваць працэс развіцця значэнняў слова, яго адценняў. Так, слова *ка́тух* са значэннем 'отгороженное небольшое местечко, куда засаживают кур' выступае ў мове як асноўнае, ад якога ўтварылася пераноснае 'тесный дом или тесная изба'. У такой паслядоўнасці трэба было падаваць гэтыя значэнні, але ў слоўніку зроблена наадварот. Аналагічна будуецца артыкул пры слове *коник* '1. Слониц, лавка к двери; 2. уменьш. от конь'. Ад памяншальнага слова *конік* у выніку метафарычнага ўжывання (пераход значэння паводле функцыі) лаўку сталі называць *конік*. Непаслядоўнасць у падачы значэнняў выяўляецца і ў наступных слоўнікавых артыкулах: КОСТЫЛЬ. 1. Плохой работник. 2. Большой гвоздь для прибития толстых досок. ПИХТЕРЬ. 1. Лентяй. 2. Мешок из редкого холста.

Выяўляючы значэнні слова, У. Дабравольскі часта прапускаў асноўнае, агульнавядомае і падаваў толькі пераноснае, другаснае. Напрыклад, *закуковать* тлума-

чыцца 'загоревать', у той час як асноўнае значэнне 'пачаць кукаваць' не падаецца. Не хапае асноўных значэнняў у артыкулах *шкарпетка* 'не пользующаяся особенным авторитетом, а зазнающаяся баба', *греть* 'бить больно' і інш.

Некаторыя словы атрымалі звужанае тлумачэнне, пры характарыстыцы іх семантыкі аўтар выдзяляў якуюнебудзь асобную дэталь, рысу і тым самым збядняў значэнне слова. Слова *гнёт* мае апісальнае тлумачэнне 'очень толстое бревно, которое удерживает своею тяжестью стебли конопли в воде'. Увогуле, *гнёт* — гэта груз, якім што-небудзь прыціскаюць і неабавязкова толькі каноплі, толькі ў вадзе. Тлумачэннем 'рысь, самец, живущий одиноко' звужаецца, збядняецца семантыка *одинец*. Слова *плойма* аўтар тлумачыць 'большое количество' і ўдакладняе 'о детях'. З прыкладаў-ілюстрацый (*У яе дятей большая плойма. Икая плойма чарьвей на капусьти*) відаць, што значэнне слова *плойма* больш шырокае.

У слоўніку У. Дабравольскага няма паслядоўнага размежавання мнагазначных слоў і слоў-амонімаў. Словы-амонімы беспадстаўна падаюцца ў адным слоўнікавым артыкуле, а значэнні мнагазначнага слова часам разбіты на асобныя слоўнікавыя артыкулы. У адным артыкуле *красъ* апынуліся назоўнік *карась* (*Налавил рыбки — усе краси*) і неазначальная форма дзеяслова *красці — красъ* (*Ни заракайся красъ, бог беднысь дась*). Самастойныя словы *ласка* 'милость, расположение' і *ласка* 'зверёк' аб'яднаны ў адным слоўнікавым артыкуле, у другім згрупаваны *летник* 'верхняя одежда' і *летник* 'летняя дорога'. Двума асобнымі артыкуламі падаецца слова *пригонятый,* хоць для гэтага няма ніякага абгрунтавання: ПРИГОНЯТЫЙ. Наблюдающий за работниками и работницами. *А наш пригонятый — шельма кудриватый;* ПРИГОНЯТЫЙ. Пригонщик, сгоняющий крепостных на пригон, т. е. на работу.

У некаторых выпадках ролю тлумачэнняў выконваюць параўнанні асобных слоў са словамі, растлумачанымі ў слоўніку І. Насовіча, ці адсылкі да яго працы.

Некаторыя значэнні слоў падаюцца няправільна. Пра гэта сведчаць параўнанні тлумачэнняў Дабравольскага з тымі значэннямі, якія зафіксаваны іншымі слоўнікамі; неадпаведнасць аўтарскага тлумачэння і сапраўднага

значэння відаць з прыклада-ілюстрацыі, з супастаўленняў асобных слоўнікавых артыкулаў. Слова *мизерный* растлумачана 'несчастный, бедный', *а мизерненький* — 'тоненький, худенький, с тоненькой талией'. Адчуваецца недакладнасць аўтарскіх тлумачэнняў у наступным артыкуле: НЯБОЖА. Ругат. слово. *Уставай, дачушка, уставай, нябожа; на улки девки гуляють и тябе гукають.* Слова *ласун* Дабравольскі растлумачыў 'большой лакомка', а перад ім падаў памяншальную форму *ласунчик* са значэннем 'баловник'. Аднак калі перабраць шэраг аднакаранёвых слоў, то пераканаемся, што *ласун* са значэннем 'лакомка' вытлумачана правільна, а ў слове *ласунчик* значэнне выяўлена недакладна.

Адсылкі ў філалагічным слоўніку выконваюць некалькі функцый: дапамагаюць пазбегнуць дубліраваных тлумачэнняў, у значнай ступені змяншаюць памер слоўніка, даюць магчымасць убачыць сінанімічныя сувязі паміж словамі, глыбей пранікнуць у іх семантыку. Дабравольскі адсылкамі карыстаецца пры падачы фанетычных варыянтаў слова (ад слова *аторва* даецца адсылка да *аторя;* ад *ничимница да нисчимница*), пры словах-сінонімах (*тюря* 'см. мура'; *дербулызнуть* 'см. дрыззнуть'). Аднак адсылкамі аўтар карыстаецца непаслядоўна. Не было, напрыклад, патрэбы двойчы даваць аднолькавыя тлумачэнні, паўтараць тыя самыя прыклады пры словах *галубить* і *голубить, галуба, галубушка, галубынька* і *голуба, голубушка, голубынька, гарниянка* і *горниянка, галень* і *голень.*

Аўтар не заўсёды паказаў адсылкамі сувязі паміж блізказначнымі словамі, паміж фанетычнымі і марфалагічнымі варыянтамі слова. Са значэннем 'светоч' у розных паветах Смаленшчыны ўжываюцца *гаўрик і гаўрила,* але сувязей паміж імі слоўнік не ўстанаўлівае. Сірату на Смаленшчыне называюць *гаркач* і *гаркуша,* абодва словы падаюцца ў слоўніку без адсылак. Няма іх паміж словамі *гразётба* і *грозьба, грачанишча* і *гряцкоўя, пролысить* і *проплешить* і інш. Праўда, у асобных слоўнікавых артыкулах аб'яднаны сінанімічныя словы, хоць яны займаюць самастойнае месца ў рэестры. Пад загаловачным словам *барабули* са значэннем 'бульба, картофлі' змешчаны сінонім *турки;* у артыкуле *палета* стаіць слова *пекота;* у артыкуле *лихорадка* падаюцца словы *трясца, ворагуша, ирадава дочь.*

Якія б лексічныя і стылістычныя адценні ні мела слова, яно набывае зусім пэўны сэнс у кантэксце. Складальнік слоўніка, даючы ўсебаковую характарыстыку слова, прыцягвае шырокі ілюстрацыйны матэрыял і гэтым самым паглыбляе тлумачэнне, наглядна паказвае багацце стылістычных рэсурсаў мовы. У. Дабравольскі назапасіў для слоўніка багаты ілюстрацыйны матэрыял, і амаль у кожным распрацаваным артыкуле ёсць адзін-два і нават больш прыкладаў; імі падмацоўваецца кожнае значэнне ў мнагазначным слове, перадаюцца стылёвыя асаблівасці ўжывання слова. Багаццем ілюстрацыйнага матэрыялу «Смаленскі абласны слоўнік» значна пераўзыходзіць «Вопыт абласнога велікарускага слоўніка».

Ролю ілюстрацый у «Смаленскім абласным слоўніку» выконваюць пераважна запісы гутарковай мовы; з гэтай мэтай аўтар падае таксама разнастайныя фальклорныя творы: прыказкі і прымаўкі, урыўкі з народных песень, замовы, заклінанні і да т. п. Праца ствараласе на аснове матэрыялаў, сабраных для «Смаленскага этнаграфічнага зборніка», таму ілюстрацыямі ў ёй служаць таксама ўрыўкі з апісання абрадаў, звычаяў, побыту: БЛОНЬЕ. Низкое место, где луг залитый водою. *По блонню вада разливаитца, Лаўрен дачкой набиваитца;* РАСПАЛЗТИСЬ. Разойтись в разные стороны. *Як бы ни йна, распаўзлись бы вы, як мыши, стог зъеўши;* РАСТИГАЙ. Вышпорка, проборка. *Пагадзи, малый, пагадзи: было табе скульлё, будзиць и мульлё, будзиць табе слаўный расцигай;* ХАПАНАЯ. Краденае. *Луччи латаная, чимся хапаная — прашней будить.*

У рэестры знойдзем шмат агульнавядомых слоў, якія не маюць і не патрабуюць тлумачэнняў. Відаць, аўтар іх падаваў толькі дзеля таго, каб пры іх паведаміць цікавы выраз, прыказку, прымаўку ці апісаць абрад, звычай: НИТКА. Когда промочит кого-нибудь дождь, говорят: *Живой нитки на ём нетути; дожь обмачиў;* ЯЙЦО. *От ийца атальлеть* (о воре, не расстающемся ни с чем); ШПАК. Скворец. *Шпаки прилятели на сораки — весна ранняя. Шпака зъел — прозевал.*

Нязначная колькасць слоў засталася без ілюстрацый. У слоўніку сустракаецца некалькі артыкулаў, у якіх прыклады не адпавядаюць рэестраваму слову. Напрыклад, загаловачнае слова *дзюбка* са значэннем 'кончик человеческого носа, клюв' падмацоўваецца прыкладам:

*клюў у арла здаровый; как схватить им курицу, так ат няе пух лятить.* У артыкуле да слова *стулувать* са значэннем 'избить, притоптать' два прыклады. Першы — *три дубины паламал, бярезину стулувал* — адпавядае, а вось у другім — *паповы кони усё чиста жита скраю путупцовали* — патрэбнага слова няма.

Самай складанай праблемай, з якой сутыкнуўся аўтар «Смаленскага абласнога слоўніка», была праблема напісання слоў, праблема адлюстравання фанетычных асаблівасцей мясцовых гаворак. У. Дабравольскі адчуваў, што арфаграфічнае напісанне для абласнога слоўніка не падыходзіць, ведаў, што чыста фанетычны запіс рэестравых слоў таксама не зусім прымальны і не задаволіць чытача. Сярод яго матэрыялаў было па некалькі фанетычных варыянтаў амаль кожнага слова, уласцівых для розных мясцовасцей. У Дабравольскага было імкненне падаць рэестравыя словы паводле рускай арфаграфіі, але ад гэтага большасць слоў мяняла сваю дыялектную спецыфіку. Яны не паддаваліся арфаграфічнай апрацоўцы. Так, слова *мерлога*, зафіксаванае ў вёсцы Барада Парэцкага павета, у рэестры аформлена *берлога.* Слова *блискайка* ў рэестры стала *блискалка.* Са значэннем 'куча дроў' у рэестры падаецца слова *бревенья,* а ў прыкладзе *бервення: Поглядика, сколько бервення навозила — на целый год хватить печку топить.* Народнае слова *ўзвальле* (*Дым идеть за узвалья*) у рэестры стала *взвалья* 'холм, возвышение'. Як бачым, праблема напісання рэестравых слоў, па сутнасці, засталася нявырашанай і пацягнула за сабой шмат іншых няўвязак: паўтарэнне фанетычных варыянтаў слова ў рэестравай частцы слоўніка, змяшчэнне слоў-сінонімаў у адным слоўнікавым артыкуле, фанетычную неадпаведнасць у запісе слова ў рэестры і ў прыкладзе-ілюстрацыі і інш.

Некаторыя словы так змянілі ў рэестры свой выгляд, што цяжка ўбачыць сапраўдную народную назву. Рэшткі саломы пасля таго, як што-небудзь змалацілі і звязалі снапы, у гаворках называюць словам *клычанка (Харошая салома вышла — даюць скоту клыченку);* пасля апрацоўкі для рэестру стала *клачёнка. Плашка* (дроў) ператварылася ў *плошку,* а дзеяслоў *падкайзнуць (пыдкайзни мине троху на релих*) зусім непазнавальна змяніўся ў *подкачнуть.* Слова *распэцкаць (Распэцкал чарнилы пу бумази*) ператварылася ў *распачкать;* замест *рогаццё*

'сучья, суковатые дрова' аўтар піша *рагачьё;* замест *змагатца — смогаться.* Такое напісанне рэестравых слоў ускладняе карыстанне слоўнікам, і ствараецца ўражанне, быццам *берлога, бревенья, взвалья, клачёнка, пловец, плошка, помойня, пряничек, распачкать, рогачьё, смогаться* і іншыя — народныя словы. Пра напісанне рэестравых слоў у «Смаленскім абласным слоўніку» Я. Карскі зазначаў, што Дабравольскі не ўсвядоміў, як пісаць загалоўныя словы: ці захоўваць рускую арфаграфію, ці даваць фанетычны запіс. Як вынік у слоўніку ў рэестры сустракаецца і тое і другое напісанне [2].

Адсутнасць адзінай сістэмы напісання выклікала паўтарэнне ў рэестры фанетычных варыянтаў слоў, якія мэтазгодна было падаць у адным слоўнікавым артыкуле. Так, двума артыкуламі даюцца словы *гребенец* і *грибенец, обмешениться* і *обмишениться, пиловать* і *пилувать. гукаться* і *гукацца* (два апошнія артыкулы паўтараюцца поўнасцю). У той жа час фанетычныя варыянты *вельма* і *вельмі, выспетак, выспитак* і *выспётык, жаменька* і *жменька, покалля, пакулля* і *пыкылля, састрикал* і *сустрикал* правамерна аб'яднаны пад адным загалоўным словам.

Працуючы над «Смаленскім абласным слоўнікам», У. Дабравольскі карыстаўся «Слоўнікам беларускай мовы» І. Насовіча. Праца яго скарыстоўвалася не толькі, каб звярнуць увагу на розніцу ў значэннях ці паглыбіць пэўнае тлумачэнне. Гэты слоўнік, можна меркаваць, пастаянна быў пад рукой у Дабравольскага. З дапамогай слоўніка Насовіча выяўляліся дадатковыя значэнні слоў, давалася словам семантычная характарыстыка; зрэдку У. Дабравольскі карыстаўся і ілюстрацыямі Насовіча. У слове *альлянище* Дабравольскі занатаваў два значэнні '1. месца, дзе быў пасланы лён; 2. месца, дзе быў пасеяны лён'. Фармулёўка другога значэння поўнасцю супадае ў абедзвюх працах. У артыкулах да слова *амшенник* адно са значэнняў характарызуецца так: у Насовіча 'хлевок, оконопаченный мхом, для животных'; у Дабравольскага 'хлевок, оконопаченный мхом'. У слове *гуменце* Насовіч занатаваў два значэнні, Дабравольскі — тры; адно з іх ('кружок на темени, пробриваемый у католиче-

---

[2] Гл.: Е. Ф. Карский. Труды по белорусскому и другим славянским языкам, стар. 442.

ских священников') агульнае для абедзвюх прац і аднолькава фармулюецца. Верагодна, што тлумачэнні і прыклады, якія поўнасцю супадаюць у абодвух слоўніках, узяты У. Дабравольскім са «Слоўніка беларускай мовы» І. Насовіча. Для падмацавання гэтай думкі супаставім слоўнікавыя артыкулы і вытрымкі з іх.

| **У Насовіча** | **У Дабравольскага** |
| --- | --- |
| ЗАБАРСНИ. Верхние дырочки в лапте, сквозь которые продевают обору. | ЗАБАРСНИ. Верхние дырочки в лапте, сквозь которые продевают оборы. |
| ҚАБАТ. Қорсет простолюдинов, к которому пришивается юбка. | ҚАБАТА. Қорсет простолюдинов, к которому прикрепляется юбка. |
| ҚАЧАЛҚА. Валек, которым катают бельё. | ҚАЧАЛҚА. Валек, которым катают бельё. |
| ҚОЛОНИЦА. Выгоревший в колесе дёготь. | ҚОЛОНИЦА. Выгоревший в колесе дёготь. |

У. Дабравольскі да вопыту рускіх лексікографаў, да спадчыны І. Насовіча падыходзіў творча: настойліва выяўляў значэнні слова і яго адценні, пераймаў спосабы тлумачэння слоў, патрабавальна ставіўся да ілюстрацыйнага матэрыялу. Ён праўда, беспадстаўна адмовіўся ад граматычнай характарыстыкі слова, не распрацаваў сістэмы граматычных памет.

«Смаленскі абласны слоўнік» У. Дабравольскага — грунтоўная праца ў галіне дыялектнай лексікаграфіі. Гэта самая буйная лексікаграфічная крыніца пасля слоўніка І. Насовіча, у якой зберагаецца народная лексіка Смаленшчыны і ўсходняй Беларусі. Вартасць працы яшчэ ў тым, што яна дае каштоўны матэрыял для гісторыкалексікалагічных даследаванняў.

*А. А. Крывіцкі, Г. А. Цыхун, І. Я. Яшкін*

# ПРА СЛОЎНІК ТУРАЎШЧЫНЫ

У 1980 годзе споўніцца 1000 гадоў Тураву. Зараз гэта гарадскі пасёлак на Прыпяці, які з'яўляецца цэнтрам калгаса «Новае жыццё» Жыткавіцкага раёна Гомельскай вобласці. У старажытнасці ж ён быў сталіцай вядомага раннеўсходнеславянскага княства на Палессі. Вылучыўся Тураў сярод родаплемянных дрыгавічоўскіх тэрытарыяльна-гаспадарчых аазісаў перш за ўсё дзякуючы свайму вельмі выгаднаму ў тыя часы становішчу ў вузле палескіх рачных шляхоў зносін і дзякуючы сваім вялікім прыродным багаццям. Важным рэгіянальным палескім палітычным, эканамічным і культурным цэнтрам Тураў з'яўляўся досыць працяглы гістарычны час, аж да XIV ст.[1].

У гэтым цікавым кутку Беларусі праводзіцца зараз рэгістрацыя лексікі для складання асобнага дыялектнага (рэгіянальнага) слоўніка. Абследуецца мікрарэгіён, які з'яўляецца бліжэйшым наваколлем Турава. Вылучаецца ён геаграфічна, а таксама і паводле традыцыйных мясцовых уяўленняў аб яго этнадыялектным адзінстве з Туравам. Умоўна гэты этнадыялектны мікрарэгіён названы

---

[1] П. Ф. Лысенко. Города Туровской земли. Минск, 1974.

Дарэчы, у назвах многіх вёсак каля Турава (і ў легендах аб іх паходжанні) «праглядваюць» старажытныя функцыянальныя аб'екты гэтага цэнтра і яго тапаграфічныя абрысы. Так, Дварэц — гэта, безумоўна, назва гаспадарчага двара князя ў мінулым і, напэўна, указанне на яго месца; Пагост ля вусця Сцвігі і Сямігосцічы на Прыпяці (мясцовае і Сямугóшчы) былі, відаць, некалі «гасціннымі» (гандлёвымі) пунктамі Турава; Чэрнічы — гэта, магчыма, пазнейшая трансфармацыя старога наймення нейкай тураўскай манастырскай гаспадаркі, якая была тут калісь пры паромнай пераправе праз Прыпяць; Старажоўцы на Сцвізе напамінаюць аб «старожах» на дальніх подступах да Турава і г. д. Гл.: М. Е. Бруй. Тураў і наваколле.— «Беларуская лінгвістыка», вып. 5. Мінск, 1974.

Тураўшчынай. Паўночнай, усходняй і паўднёвай мяжой Тураўшчыны з'яўляюцца рэкі Прыпяць і Сцвіга з прытокам Моўствай. Аднак дыялектнай мяжы тут не існуе. Гаворка Тураўшчыны знаходзіцца ў самай блізкай роднасці з сумежнымі гаворкамі ўсходняга (Мазырскага) Палесся. Адрозніваецца яна ад іх толькі асобнымі лакальнымі інавацыямі, а таксама дэфармаванасцю і згладжанасцю некаторых спецыфічных фанетычных і граматычных асаблівасцей усходнепалескай дыялектнай прыналежнасці. Мяжой Тураўшчыны на захадзе з'яўляюцца пагарыньскія гаворкі заходнепалескай дыялектнай зоны, якія прыкметна адрозніваюцца ад усходнепалескіх, у тым ліку і ад тураўскай гаворкі.

Адзначаны этнадыялектны мікрарэгіён невялікі па тэрыторыі. Але заселен ён зараз вельмі шчыльна. Акрамя Турава ён уключае 32 досыць буйныя вёскі. Ёсць сярод іх і унікальныя для Беларусі вёскі-гіганты з насельніцтвам больш за 5 тыс. чалавек (напрыклад, Альшаны).

Такім чынам, рэгіянальны слоўнік Тураўшчыны будзе адлюстроўваць лексіку адной усходнепалескай гаворкі, вельмі цікавай сваім гістарычным паходжаннем (сувязь са старым рэгіянальным палескім цэнтрам), а таксама становішчам на стыку ўсходнепалескай дыялектнай зоны з заходнепалескай.

Выезды на Тураўшчыну для збірання матэрыялаў у слоўнік праводзяцца з 1968 г. У палявой лексікаграфічнай працы разам з невялікай ініцыятыўнай групай удзельнічалі многія супрацоўнікі Інстытута мовазнаўства імя Якуба Коласа АН БССР: Л. А. Антанюк (1971), Г. Ф. Вештарт (1969), Л. Ц. Выгонная (1970), В. Л. Вярэніч (1970, 1971), І. П. Кавальчук (1968), Н. Ц. Кажура (1971), Р. М. Малько (1971, 1972), П. В. Садоўскі (1973), Э. Г. Якушаў (1968). Працавалі таксама разам са слоўнікавай групай на Тураўшчыне дацэнт Варшаўскага універсітэта Э. Смулкова (1970), прафесар Ленінградскага універсітэта У. В. Колесаў (1972), студэнт Брэсцкага педінстытута П. А. Міхайлаў (1973) і інш. Некаторыя каштоўныя звесткі па лексіцы атрыманы ад мясцовых настаўнікаў М. Е. Бруя (Тураў) і М. Л. Кацэвіч (Хільчычы).

У картатэцы слоўніка Тураўшчыны налічваецца зараз каля 50 тыс. картак рэгістрацыі словаўжыванняў. Зарэгістравана, паводле папярэдніх падлікаў, больш 10 тыс.

асобных слоў. Запісана таксама шмат іншых звестак і назіранняў. Рэгістрацыя слоў яшчэ будзе працягвацца, хоць незапісаныя яшчэ словы робяцца ўжо, безумоўна, усё больш рэдкай з'явай.

Адначасова з выяўленнем такой рэдкаўжывальнай (і прапушчанай) лексікі пачнуцца больш глыбокія спецыяльныя назіранні над семантыкай і ўжываннем зарэгістраваных слоў, паступовае абагульненне сабранага матэрыялу ў «лабараторных» умовах з наступнай праверкай і ўдакладненнем сабраных звестак у час паездак на Тураўшчыну.

Паводле папярэдніх задум, слоўнік Тураўшчыны будзе вызначацца некаторымі спецыфічнымі асаблівасцямі.

Гэта будзе слоўнік традыцыйнай лексікі адной мясцовай гаворкі. Інакш кажучы, ён не будзе дыферэнцыяльным у адносінах да слоўніка беларускай літаратурнай мовы. Але ён не будзе таксама і поўным у літаральным сэнсе гэтага слова.

Крытэрый традыцыйнасці арыентуе на дыферэнцыяцыю лексікі, якая адзначаецца ў гаворцы зараз, і адбор з усёй сукупнасці вядомых і ўжываемых тут слоў толькі іх пэўнай часткі. Але гэты адбор грунтуецца не на аналізе суадносін паміж лексічнай сістэмай гаворкі і лексічнай сістэмай беларускай літаратурнай мовы, а на ацэнцы наяўных слоў з пункту погляду складвання і развіцця гаворкі, а таксама сувязі кожнага слова з мясцовай народнай матэрыяльнай і духоўнай культурай. Выходзячы з такіх прынцыпаў адбору, у рэгіянальны слоўнік Тураўшчыны мяркуецца ўключыць не толькі разнастайныя палескія дыялектызмы і вузкія рэгіяналізмы, а наогул усе словы, якія характэрны для лексічнай сістэмы мясцовай гаворкі, незалежна ад іх наяўнасці ў беларускай літаратурнай мове або ў іншых беларускіх гаворках. Выразныя ж мясцовыя лексічныя запазычанні з наддыялектных і інтэрдыялектных моўных сістэм, якія пашыраны на Тураўшчыне зараз або былі пашыраны ў недалёкім мінулым, уключацца ў слоўнік не будуць. Па-за межамі слоўніка застануцца таксама і розныя аказіянальныя, цытатныя і падобныя да іх іншасістэмныя лексічныя сродкі, якія адзначаюцца ў сучаснай мове на Тураўшчыне.

Такі падыход да рэгістрацыі і адлюстравання ў слоўніку Тураўшчыны лексікі сучаснай мясцовай мовы абумоўлен не толькі асаблівай культурна-гістарычнай знач-

насцю гэтага кутка Палесся, але і перыферыйным становішчам яго (як і палескай дыялектнай зоны ў цэлым) у сістэме сучаснай беларускай дыялектнай мовы. Дыферэнцыяльны ў адносінах да літаратурнай мовы адбор слоў ненатуральна скажаў бы слоўнікавую сістэму гэтай перыферыйнай гаворкі.

Для падачы ў слоўніку Тураўшчыны мясцовых слоў і ілюстрацый да іх прынята так званая спрошчаная транскрыпцыя, або транслітарацыя. Яна грунтуецца на алфавіце і прынцыпах сучаснага беларускага пісьма. Гэта азначае, што рэальная фанетычная структура мясцовых слоў, выразаў і сказаў будзе адлюстравана ў слоўніку пры дапамозе літар і спалучэнняў літар сучаснага беларускага алфавіта ў адпаведнасці з іх прынятым гукавым значэннем. Так, мяккія і цвёрдыя зычныя перад галоснымі гукамі будуць абазначацца двума адпаведнымі радамі літар для галосных, мяккасць зычных у канцы слоў і перад цвёрдымі зычнымі — мяккім знакам, рэгулярная асіміляцыйная мяккасць зычных перад мяккімі будзе падразумявацца без абазначэння і г. д. Аднак іншыя пазіцыйныя якасныя асаблівасці гукаў (глухасць або звонкасць, своеасаблівасць па спосабе або месцы ўтварэння і г. д.) будуць перадавацца літарамі па магчымасці дакладна.

Пры падачы рэестравых слоў у слоўніку літары і спалучэнні літар у запісах будуць адлюстроўваць у некаторых выпадках не толькі фанетычную структуру слоў, але і сігналізаваць аб яе варыянтнасці ў гаворках. Такія літары і спалучэнні літар будуць адрознівацца ў падобным запісе рэестравага слова ад іншых літар зрокава (у змешчаных тут слоўнікавых артыкулах яны вылучаны шрыфтам, гл. бе**рэ́**сціц**ь**, б**о**гу́к, боров**ы́**, валя́**ць** і інш.). Канкрэтная ж гукавая варыянтнасць пазначаных такім спосабам фанетычных элементаў і частак слоў будзе раскрыта ў фанетычным каментарыі да слоўніка, а таксама часткова і ў ілюстрацыях да слоў. Пры гэтым за рэестравы прымаецца ў падобных выпадках такі гукавы варыянт слова, які адпавядае пашыранаму на Тураўшчыне мясцоваму маўленчаму узусу.

Гэтакім парадкам будуць аб'ядноўвацца ў адным слоўнікавым артыкуле толькі фанетычныя варыянты слоў з рэгулярнымі або спарадычнымі гукавымі адрозненнямі. На іншую варыянтнасць слоў (напрыклад, на фанемную

або словаўтваральную) гэты прынцып упарадкавання варыянтаў пашырацца не будзе. Гэтыя варыянты будуць выступаць у якасці самастойных рэестравых слоў або як дадатковыя лексічныя формы пэўных рэестравых слоў у канцы слоўнікавых артыкулаў.

У змешчаных ніжэй слоўнікавых артыкулах вылучаныя шрыфтам літары і спалучэнні літар у некаторых загалоўных словах указваюць на існаванне наступнай гукавой варыянтнасці адпаведных мясцовых слоў: 1. **ы** — *ы, у* або *і* (напрыклад, *боровы́, борову́, борові́*); 2. **б, п, м, в** перад *е, і* — мяккае і цвёрдае вымаўленне перад *е, і* губных зычных (*ве́длуг, вэ́длуг*); 3. **р** — мяккае і цвёрдае вымаўленне зычнага *р* (*берэ́сціць, бере́сціць*); 4. **о** не пад націскам — *о, а* (*богу́к, багу́к*); 5. **а** не пад націскам — *а, о, е,* (*баку́ла, боку́ла, варэ́нік, верэнік*); 6. **ць** у суфіксе інфінітываў — *ць, ці, ц* (*ва́рыць, варыці, варыц*). Гэта гукавая варыянтнасць слоў з'яўляецца пераважна лакальна супрацьпастаўленай у гаворках Тураўшчыны.

Адзначым таксама, што ў змешчаных слоўнікавых артыкулах лічбамі нумаруюцца, як звычайна, розныя значэнні многазначных рэестравых слоў. Пералічэнне пасобных значэнняў таго ці іншага слова без нумарацыі азначае адсутнасць у аўтараў упэўненасці як у адносінах правільнасці такога члянення яго семантыкі, так і ў адносінах пашыранасці кожнага з падобных праблематычных значэнняў у межах Тураўшчыны.

Слоўнік Тураўшчыны плануецца забяспечыць не толькі неабходным ілюстрацыйным матэрыялам да слоў (прыкладамі іх ужывання), але і падборкай тэкстаў з магнітафонных запісаў вусных гутарак, апавяданняў, размоў, песень і г. д. Гэта і дадатак да слоўніка і адначасова яго досыць важная частка. З тэкстаў можна будзе атрымаць уяўленне аб значэнні і ўжыванні слоў з базавай часткі слоўніка, якія з дастатковай паўнатой і аб'ектыўнасцю немагчыма ахарактарызаваць у невялікіх слоўнікавых артыкулах (напрыклад, займеннікі, злучнікі, некаторыя «хадавыя» назоўнікі, дзеясловы і інш.). Задуман таксама лінгвістычны мікраатлас Тураўшчыны і наваколля, анамастычны слоўнік (складальнік В. Л. Вярэніч; дарэчы, анамастыка тут надзвычай цікавая, багатая і своеасаблівая), а таксама рознага роду моўныя і этнаграфічныя дадаткі да слоўніка,

Усё гэта, з аднаго боку, дасць магчымасць выбраць з асноўнай картатэкі, чарнавікоў, фанатэкі і іншых крыніц і падаць цікавыя моўныя і розныя іншыя звесткі, якія немагчыма было б уключаць у алфавітны слоўнік, і, з другога боку, дапаможа стварыць больш выразны і яркі абрыс мясцовай тураўскай гаворкі і абагульнены «моўны партрэт» яе найбольш прыхільнага хавальніка і носьбіта.

Першая стадыя палявых работ над слоўнікам Тураўшчыны — стварэнне апорнай картатэкі па мясцовай лексіцы і словаўжыванню — завяршаецца ў бліжэйшыя гады. Пачаўся ўжо і другі адказны этап палявой працы на Тураўшчыне і ў наваколлі — праверка і ўдакладненне звестак па лексіцы і ўстанаўленне геаграфіі слоў. На гэтым этапе будзе выканана таксама асноўная праца па ўкладанню слоўніка. Хацелася б, каб слоўнік Тураўшчыны як мага больш поўна і дакладна адлюстраваў наяўныя лексічныя багацці старой тураўскай гаворкі напярэдадні тысячагадовага юбілею Турава.

БАБА'ЙКА *ж.* Пярэдняе рулявое вясло на плыце. *Як стоіш на плыце, на голове, одгребаеш бабайкою.* Хотамель. *Одбіва́ць баба́йкою* — адварочваць.

БАБЗНО'*н.* Бабішча. *Угé éтэ бабзно поцяглóсо.* Сямігосцічы.

БАБУШКЕ'РА *ж.* Старая (пагардліва). *Пойду погледжу, куды пошла гэта бабушкера.* Цераблічы.

БАБУШКЕ'РЫЦА *ж.* Старая (пагардліва).

БАЖА'ЦЬ *незак.* Жадаць. *Хто кого любіць, той того́ чубіць; хто кого ўважае, той того бажае* (прыказка). Пагост.

БАЙРА'Н *м.* Бур'ян. *Байран росце на хатах колісніх.* Пагост.

БАКУ'ЛА *ж.* 1. Нарасць на ствале дрэва. *Мах бакулу нажэнé на той бэрозі і не разоб'еш.* Мачуль. *Коўш з бакулы ў курэне быў.* Там жа. 2. Гуз, жаўлак. *Бакула на лобе седзіць.* Аздамічы. *Як даў, то й бокула зробілаcа, выперло бокулу.* Там жа.

Паводле павер'я, бакула на дрэве з'явілася ў выніку кляцьбы, якая пала на яго.

БАРАНІ'ЦА *ж.* Пакрытая сукном аўчына, якой ахіналі ногі зімой у дарозе. *Паны бараніцэю ногі ўкручвалі.* Сямігосцічы.

БАХТА′ЦЬ *незак.* Буяць, інтэнсіўна расці. *Бахтае ўсе, росце хорошэ.* Сямігосцічы.

БЕЗУГА′ВУ *прысл.* Бесперастанку, бесперапынна. *Безугаву робіць і робіць.* Кароцічы. *Ляскало безугаву, бесперэстанку ўсю ноч. Безугаву грыміць.* Там жа.

БЕЛА′БУХА *ж.* Булачка. *Беры белабуху і мочай у мед.* Цераблічы.

БЕЛА′Й *м.* Бялявы (пра чалавека). *Белай, колі белые косы і від у хлопца.* Цераблічы.

БЕ′ЛЬКА *ж.* Балотца сярод лесу. *На той бельцы я накосіў сена.* Пагост.

БЕ′РДНІК *м.* Чалавек, які рабіў бёрды.

БЕ′РДО *н.* Бёрда ў кроснах. *Бердо дзесятка перэсыпано, і досточкі новые, і тросьціна́ но́ва, і пругі чорные.* Аздамічы. *Ты будзеш накідаць кросна ў ніт, а я лепш бачу,— то ў бердо.* Кароцічы.

Паводле павер'я, бёрда спальвалі некалі, каб спыніць памор жывёлы. На гэтым кастры трэба было адначасова спаліць палатно, вытканае за адну ноч, ад заходу да ўсходу сонца, з усім выкарыстаным ткацкім начыннем. Усе матэрыялы і прылады для вырабу палатна трэба было таксама падрыхтаваць і зрабіць за гэту ноч. Пасля спальвання цераз вогнішча пераганялі ўсю жывёлу.

БЕРЭСЦІ′ЦЬ *незак.* Пакрываць бяростай. *Верэньку робляць з лозы і бе́рэстом берэсця́ць.* Кароцічы.

БЕСЕ′ДКА *ж.* Сядзенне ў лодцы.

БІНДЖОНО′ГІ *прым.* Клышаногі. *У бінджоногого колено об колено трэцца.* Сямігосцічы.

БІ′НДЗІКІ *мн.* У выразе: *біць біндзікі* — біць бібікі, бадзяцца без справы. *Годзі тобе біндзікі біць — ідзі хоць на цэгельню робіць.* Тураў.

БІ′НДРА *ж.* Загатоўкі на паркет, клёпкі. *Біндру робілі для подлогі ў го́род з дубового дзерэва.* Аздамічы. *Біндра по два метра, по тры готовіцца на бочкі.* Сямігосцічы. *Біндра ўжэ сама мелка клепка, на бочкі ішла на піво.* Пагост.

БІТКУ′ЧЫ *прым.* Бадлівы. *Біткуча корова.* Аздамічы.

БЛАГА′ЦЬ *незак.* Гаварыць глупствы, блазнаваць. *Седзіць цэлы дзень і благае з гэтымі дзе́цьмі.* Пагост.

БЛІЗНЮ′К *м., мн. блізнюкі, блізня́та.* 1. Блізня. *Схожые точка ў точку блізнюкі.* Запясочча. *Родзілосо два блізнюкі хлопцы.* Цераблічы. 2. *мн.* Двое цялят аднаго прыплоду. *Оцеліць корова двое целят, то й блізнюкі.* Це-

раблічы. 3. *мн.* Спарышы. *О! Мое жыто доброе, з блізюкамі.* Аздамічы. *Назнохóдзілі блізюкоў* [арэхаў] *й клалі ў куфор, штоб грошы блюзніліса.* Кароцічы.

БОГА'ЗНО *прысл.* Вельмі багата, шмат. *Рогоў богазно на лóсі.* Дварэц. *Одзін чоловек за Туровом на Козáргаці ораў да вýораў богазно золота.* Пагост.

БОГУ'К *м.* Свіны страўнік. *Лепшэ м'ясо пхаюць у багук.* Альпень.

БО'ЙЛО *н.* 1. Бойка. *Зá грудкі ўзеліса — бойло стало.* Аздамічы. *Бойло поднялосо, така драка на вуліцы.* Цераблічы. 2. Нераст; нерастовішча. *Увечэры цепэр будзе бойло, лінь будзе біцца.* Сямігосцічы. *На бойло ідзе рыба.* Там жа.

БОКЛА'ТЫ *прым.* Пукаты. *От така буклата бутэлька гліняна.* Запясочча. *Товар такі некі вон боклаты.* Дварэц.

БОЛВАНЕ'ЦЬ *незак.* 1. Днець, світаць. *Ужэ занімаецца на свет, ужэ болванее.* Аздамічы. *Ужэ болванело, як я устала.* Хотамель. 2. Няясна віднецца. *От, далéко конь ходзіць, токо шчо болванее.* Цераблічы. *Кáуць болванее, то відно, але не разобраць, ці гэто чоловек, ці то баба, ці то пень.* Альшаны. *Я ўжэ, чуць акно болванее, пошла.* Запясочча. 3. Недабачыць, не адрозніваць. *Вон болвáнее гусей своіх на поплове.* Мачуль.

БОЛО'ЗЬ *злучн.* Балазе. *По-твойму виходзіць так: цегні, волочы, болозь ніхто не бачыць.* Тураў.

БОМ *м.* Будка на плыце.

БОМКА *ж.* Будка ў лодцы. *Залезе у ту бомку да спіць.* Альшаны.

БОНТ *м.* Невялікі плыт (на якім ездзяць у час паводкі).

БОРОВІ'К *м.* 1. Перасяленец з лясных вёсак і хутароў (з бору). 2. Польскі грыб. *Боровік е сіні поды́сподом, рыхтык ек грыб.* Цераблічы.

БОРОВЫ' *прым.* Баравы. *Боровуе пчолы.* Дварэц. *Боровое поле* — высокае поле. *Боровá земля* — пясчаны палетак сярод лесу. *Борова трава* — сівец. *Борова трава бы шчотка.* Альшаны. *Борова вода* — вада, якая прыходзіць з лясоў. *Борова вода пришла, подперла Прыпець, угэ нас потóпіць.* Сямігосцічы. *Борова вода уродзі болотна, а рыба любіць ее.* Запясочча. *Борова сорока* — сойка. *Боровая хата* — хата ў бары, дзе жылі ўлетку пры выпасе жывёлы, у касавіцу, жніво.

БО'РУШНО *н.* Усё, што бяруць з сабой у поле (вопратка, кашэль з ядой і інш.). *Моцё, ідзі заберы борушно на межы.* Запясочча.

БО'ЎКАЦЦА *незак.* Марудзіць, поркацца. *Чого ты так боўкаесса, скорэй робі!* Цераблічы.

БО'ЎНАЦЦА *незак.* Поркацца. *Эт, боўнацца дзень будзе.* Альшаны.

БОЎЦЮ'К *м.* Баўтун (яйцо). *Двананцаць боўцюкоў знайшлі ў броківе.* Кароцічы.

БОЧА'ЛОЧКА *ж.* Бочачка. *Невелічку таку бочалочку ўзела ў мене Лекса.* Цераблічы.

БРАЗКОНЕ'ЦЬ *незак.* Бразгатаць. *Да бразконяць тые шпоры* (на ботах). Запясочча. *Коні лецяць, а джынджакі бразконяць* (на збруі). Мачуль.

БРА'НКА *ж.* Вязаная кофта, світэр. *У цебе кос богато на бранцы.* Хотамель.

БРАНО'К *м.* Світэр.

БРАТА'НІЧ *м.* Дваюрадны брат. *Твой братаніч поехаў у город до могó свёкра.* Мачуль.

БРАТА'НКА *ж.* Дваюрадная сястра.

БРО'ДЗЬКОМ *прысл.* Уброд. *Бродзьком броў по болоту.* Сямігосцічы. *Бродзьком рыбу ловіў.* Аздамічы. *Бродзьком перэбрысці вóду.* Там жа.

БРО'ЗКІ *прым.* Азызлы. *У цебе від брозкі от сну.* Цераблічы.

БРОКІ'ВА *ж.* Крапіва. *У нас у городзі і под плотом стольке броківу нарасло.* Кароцічы.

БРУСЛЕНІ'НА *ж.* Брызгаліна. *Брусленіна — дзерэво таке е слізкé, берца робілі.* Цераблічы.

БРУСЛЕНІ'ЦА *ж.* Брусніца. *Брусленіцы тожэ кіслые.* Запясочча.

БРУХА'Ч *м.* Пузан. *От, ты, кажэ, брухач, брухо наеў.* Сямігосцічы.

БРУХЛЕ'Й *м.* Пузан. *Брухлей ты, от брухо наеў.* Сямігосцічы.

БРУ'ЧКА *ж.* Пярсцёнак. *Бручку робяць є старых копеёк.* Цераблічы. *Як венчаласа, хороша бручка ў ее була.* Кароцічы.

БРЫ'ДНО *прысл.* Дрэнна, непрыемна. *Брыдно пахне той буз.* Аздамічы.

БРЫ'ЖКІ *прым.* Жвавы, рухавы. *От, брыжкі конь, не постоіць.* Сямігосцічы.

БРЫЖКОВА'ЦЬ *незак.* Балавацца, дурэць, гарэзаваць; бегаць. *Не слухаюць дзеці, брыжкуюць.* Дварэц. *Годзі брыжковалі, дзеці, не можно ціхо поседзець.* Там жа. *Вон ужэ за дзеўкамі брыжкуе.* Пагост.

БУВА'ЛЕЦ *м.* Бывалы чалавек. *Ты шчэ не бувау у бувальцах, то гэтак кажэш.* Запясочча.

БУЗОВА'ЦЬ *незак.* Хваляваць, непакоіць. *От бузуе мене, што ёго нема.* Аздамічы.

БУ'КВІЦА *ж.* Крываўнік (расліна). *Буквіца росце на сеножаці.* Цераблічы.

БУ'ЛЕЧКА *ж.* Бурбалка. *Лінок ложыцца боком і булечкі з воды зо дна подымае.* Цераблічы.

БУ'ЛЬБА *ж.* Бручка. *Бульбу саджаем як росаду.* Дварэц. *І на брукву кажуць бульба, і на картоплі некоторые кажуць бульба.* Запясочча.

БЭ'ЙЛЫ *мн.* Кудлы. *Возьме свокроў да за бэйлы, да на двор, кажэ, буду я цебе своім хлебом корміць.* Цераблічы. *Ой, бэйлы попледіса.* Мачуль.

БЭ'ЙЦУХІ *мн.* Дурніцы. Хотамель.

ВАБ *м.* Ваба, прыманьванне дзічыны гукамі. *Покойны дзед вабіў лосей, на ваб езьдзіў і ў Балавежскую пушчу.* Мачуль.

ВА'БІК *м.* Манок для прыманьвання дзічыны (звычайна дзікіх качак).

ВА'БІЦЬ *незак.* Клікаць, прыцягваць увагу. *Крыкýха вабіць селезьнёў.* Аздамічы. Прываблівадь, прыманьваць (дзічыну). *У трубку вабяць вóўка.* Альшаны. *Вóўка можны вабіць у горшчок.* Аздамічы.

ВА'ВА *ж.* Болька, ранка; ужываецца таксама ў значэнні боль, балець, балюча. *Дзе, мамонько, вава, покажы.* Бярэжцы.

ВАВЁРКА *ж.* Вавёрка, белка.

ВАГ *м.* 1. Рычаг, вага. *Вагóм засільваюць колоду намёртво на столюзе.* Цераблічы. *Е ступа ножнáя з вагом.* Хотамель. 2. Груз на канцы коварата ў калодзежы з жураўлём.

ВАГА' *ж.* 1. Вага (мера). *А як плацяць? — От вагі. важаць* [аб прыёмцы ягад на нарыхтоўчым пункце]. Кароцічы. 2. Гіра 3. Груз на канцы коварата ў калодзежы з жураўлём.

ВАГА'Н *м.* Начовачкі для пяску ў касароў (у пясок «макалі» мокрую мянташку).

ВАГАНО'К *м.* Коўшык.

ВАГКУ'ША *ж.* Печань (у адрозненне ад лёгкіх).

ВА'ДЗІЦЬ *незак.* Шкодзіць, быць шкодным; перашкаджаць. *Чорнушка добра і ў хлеб, вона не вадзіць.* Запясочча. *Клімат вадзіць.* Бярэжцы. Выклікаць дрэннае адчуванне. *Шчо ні зьем, то усё вадзіць.* Запясочча.

ВА'ДНО *прысл.* Непрыемна, дрэнна (пра стан, калі нешта турбуе). *От нешчо ёму вадно, капрызіць* [пра дзіця]. Кароцічы.

ВА'ЖКІ' *прым.* Цяжкі. *Важке сем'е, ек камень. Нашэ поле важке. І больша, і важэйша, і вушэйша за нашу корову.* Дварэц.

ВА'ЖКО *прысл.* Цяжка. *І мого* [хлопчыка] *ей важко носіць. Нагле важко ў тых боцінках. Крутэ дзерэво важко колоць.* Дварэц. *Важко дзержаць корову і без корову важко.* Бярэжцы. *Товарэчэ м'ясо важко ўварыць, не ўпрэвае.* Аздамічы. *Мне важко ходзіць по снегу.* Альшаны. *Гэ важэй молоціць жыто.* Мачуль.

ВА'ЖКОЕ *н.* Печань (у адрозненне ад лёгкіх). *У кобана печэнь — важкое.* Запясочча.

ВАЖО'К *м.* Правес для адбіўкі ліній на калодцы пры падоўжнай распілоўцы.

ВА'ЖЫЦЬ *незак.* 1. Важыць. *Важылі бабы лён, печэны хлеб на расьцежные безьменчыкі.* Дварэц. 2. Вагацца. *От, важыла, важыла да не пошла, да не зробіла.* Аздамічы.

ВАЛ *м., мн.* *валы.* 1. Хваля. *Ек розольецца, то здоровые валы ходзяць по водзе.* Пагост. 2. Валок (скошанай травы). *Дождж намочыў сено ў валох.* Тураў.

ВАЛЕ'Ж *м.* Павал. *Валеж гнілы лежыць.* Мачуль.

ВАЛЕР'Я'НКА *ж.* Валяр'ян (расліна).

ВА'ЛЁН *м.* Вэлюм.

ВА'ЛІВО *прысл.* Шмат, многа. *У етым годзе валіво ягод. Пісаніны валіво вам.* Аздамічы.

ВАЛІ'ЗА *м.* і *ж.* Таўстун; маруда. *Як гладкі, непроворны, то ў нас зовуць валіза.* Запясочча.

ВАЛІ'ЦЬ *незак.* 1. Валіць, ісці вялікай масай. *Болото жалее, нехто заполіў, дым валіць.* Запясочча. *Валіць дым на город з хаты.* Дварэц. *Стоўпом пара з головы ідзе, валіць.* Бярэжцы. 2. Валіць, збіваць сукно. *Суконные штаны валілі навек у нас.* Цераблічы.

ВА'ЛНА, радзей *вална ж., мн.* *валны.* Хваля. *У Розьдзёрах меншые валны, чым на рэццэ.* Тураў. *Валны*

*б'юць у край, то едзь посерэ́дзіне. На серэдзіне валнуў нема.* Дварэц.

ВАЛО'К *м.* Валок, радок згрэбенага сена.

ВА'ЛЬНЯ *ж.* Паравая ванна (для лячэння). *Ек хворы, то наберуць сена, той по́тры, да робяць вальню.* Цераблічы. *Богато вальню робяць з потры, ка́меня грэюць, і седзіць чоловек, лечыцца на цэбры.* Там жа. *Вальню ў печэ́ робілі.* Хотамель.

ВАЛЮ'ША *ж.* Валюш, сукнавальная майстэрня; станок. *У водзяных млінох булі і валюшы, дзе звальвалі сукно свого вуробу.* Тураў. *У валюшы б'юць сукно.* Альпень.

ВАЛЯ'ЦЦА *незак.* Валяцца. *Валяецца, ек шчо не на месцы лежыць, надо ж подобраць ёго́.* Бярэжцы. Цягацца. *Вона валялась по свеце ўсю жытку.* Аздамічы.

ВАЛЯ'**ЦЬ** *незак.* Валіць (пра лес). *Валялі лес тые годы.* Запясочча. *С пня валяюць дзерэво.* Хотамель.

ВА'ННАЦЦА *незак.* Прымаць ванну.

ВАНТРОБ'Я'НКА *ж.* Вантрабянка.

ВА'НЧОС *м.* Лесаматэрыял (загатоўкі). *З дубоў ванчос робілі, удоль роспілуюць, трохі обчэшуць, шчоб жоўта кора была.* Пагост.

ВА'НЬКА *ж.* У выразе: *узяць ваньку* — узяць звычку, узяць моду, прызвычаіцца.

ВАР *м.* Вар, шавецкая смала.

ВАРВА'РШЧЫНА *ж.* Харчовыя прадукты, сабраныя пастухом ад гаспадароў жывёлы на свята Варвары. *Пастух не пасе ужэ коні, а по договору зьбірае шчэ варваршчыну.* Цераблічы.

ВА'РКА *ж.* Варка, гатаванне. *Шо тут варыць? Хто ёго́ ведае з етой варкою.* Запясочча.

ВАРОВА'**ЦЬ** *незак.* Тармазіць плыт пры дапамозе якара. Падсоўваць бервяно на сталюзе пры дапамозе тапара (пры падоўжнай распілоўцы).

ВАРТ *прым.* Варты. *Зразу бачу, чого вон варт.* Мачуль. Здаровы; у стане (пра чалавека, каня). *Коб я варт, то накосіў бы собе сена.* Альшаны.

ВА'РТА *ж.* 1. Варта, ахова. *Я пошоў на варту, поселі на ганок і седзімо...* Кароцічы. *От варта заспала, не чула, што горыць.* Мачуль. 2. Спецыяльны знак (у выглядзе кія з дошчачкай), які знаходзіўся ў таго, хто нёс ахову вёскі. *Эй, варта ў цебе?* Аздамічы.

ВАРТОВА'ЦЬ *незак.* Вартаваць, пільнаваць. *Мо, Федзька пчолы вартуе?* Запясочча. *Ее вартовалі тые нем-*

*цы, карасіну.* Дварэц. *Мой стары вартоваў горох, ек хто подлезе, то крычыць.* Пагост. *Трэба іці вартоваць.* Аздамічы.

ВАРУ′ХА *ж.* Апалонік. *Варуху вырэзвалі з дзерэва.* Сямігосцічы.

ВАРША′ЎКА *ж.* Гатунак бульбы. *Варшаўкі—беленькіе картоплі, толькі емочо́к богато.* Дварэц.

ВА′РЫВО *н.* Варыва. *От бо́гато ў пе́чы варыва, чыгунам цесно.* Альпень.

ВАРЫЎНЫ′ *прым.* У выразе: *варыўна́*[*я*] *бочка* — бочка для засолу гуркоў, капусты і інш. *Варыўна бочка ні чэчэ.* Бярэжцы.

ВАРЫЎНЯ′ *ж.* Варыўня, кладоўка для захавання агародніны. *Варыўня кое у кого бувае оддзельно на дворэ, а чашчэй у сенях.* Тураў. *Сьцёпка ў хоромах, а варыўня окром на дворэ.* Сямігосцічы.

ВАРЫ′**ЦЬ** *незак.* 1. Варыць. *Вона богато варыць горшкоў.* Дварэц. *Ва́рым пшэно і ўюноў вараць.* Бярэжцы. *Варыць вечэру трэбо.* Альпень. 2. *перан.* Парыць (пра гарачае і вільготнае надвор'е). *Ва́рыць, будзе дождж.* Запясочча. *Вельмі ж варыло, пекло ў обед.* Там жа. *Варыло цепер, цяжко было дыхаць.* Сямігосцічы. *Ва́рыць, бі ў котле.* Хотамель.

ВАРЭ′ЙКА *ж.* Невялікі гаршчок. *Долі водою, шоб не була вэрэйка порожня.* Велямічы.

ВАРЭ′НІК *м.* Спецыяльны пірог з начынкай, які на свята Варвары давалі пастуху. *Вэрэніка спекуць на Варвары і дараць пастуха.* Сямігосцічы.

ВАСІЛЕЙ *м.* Рэлігійнае свята 1 студзеня (па старому стылю).

ВАСІЛЬКІ′ *мн.* Бурачкі (расліна).

ВАТОВІ′НА *ж.* Ватоўка, фуфайка.

ВАТРОБ'Я′НКА *ж.* Вантрабянка. *Ватроб'янку робяць з серца, лёхкіх, печонкі.* Альпень.

ВА′ЎКА *ж.* Болька, ранка. *Нейкі ваўкі появілісь на ногах. Зьдзерла ваўку, то кроў цечэ.* Бярэжцы. *Була ваўка, то гоіць чысто подорожна трава.* Цераблічы. *Ваўка у мэне, бо на гвозда ногу́ пробіў.* Мачуль. *Зубы — ваўка ліха.* Альшаны.

ВАЯ′НГЕЛЬЕ *н.* Евангелье. *Бацюшко чытае тое ваянгелье, а бабы́ невесток своіх перэговорваюць.* Запясочча.

ВЕ′ДАЦЬ *незак.* Ведаць. *Будзеш ведаць, почом сыры ў Мозыры* [прымаўка]. Запясочча. *Не ведаю і не знаю*

*нічого.* Бярэжцы. *Чорт вед* [скарочаная форма], *што тут робіцца.* Там жа. *Хто его ведае, шчо то.* Кароцічы. *Дох его ведае, шо вуж не кусаецца.* Мачуль.

ВЕДЗЕ′РЦО *н.* Вядзерца. *Вона ж мне ведзерцоў чотыры* [дала]. Бярэжцы.

ВЕ′ДЗЬМА *ж.* Ведзьма. *Як сонцэ сьвеціць і дождж ідзе, то ка́жэмо: ведзьма масло колоціць.* Бярэжцы. [У ночы на Купалу] *за за́валку брokіву затыкалі, шчоб ведзьма не доіла короў.* Сямігосцічы.

ВЕДЗЬМА′Р *м.* Вядзьмар, чараўнік. *Ведзьмары елі коньські пам'ёт* [каб набрацца цудадзейнай сілы]. Бярэжцы. *Ведзьмар, што порч робіць.* Там жа. Аздамічы. *Ведзьмар або ведзьмарка можэ молоко зобраць у короў.* Сямігосцічы.

ВЕДЗЬМА′РКА *ж.* Ведзьма, чараўніца. *Ведзьмаркі чаруюць.* Альпень.

ВЕ′ДЛУГ *прыназ.* Паводле. *Ведлуг ёго́.* Тураў. Па, згодна. *Ведлуг моіх год.* Мачуль.

ВЕ′ДОМА *прысл.* Вядома. *Ведома, сова заб'е сокола́.* Хільчыцы.

ВЕДРО′ *н.* Вядро. *Хто з ве́драмі, хто с сокерою* [бягуць на пажар]. Запясочча. *У мене е ведро ягод вусушыць.* Дварэц. *Дзьве ведре.* Бярэжцы. *У посьледнее ведро добрала сьцеклянку ягод.* Там жа. *Перэйшла дорогу з нішчымнымі ве́драмі.* Цераблічы. *Тые ягоды ве́дра несом* [з лесу]. Там жа. *Ведро дзерэв'янэ з кле́пкі коло колодзежа вісіць.* Хотамель.

ВЕ′ЕЛКА *ж.* Веялка, шуфлік. *Веелкою веелі жыто на току.* Цераблічы.

ВЕ′ЁЛОЧКА *ж.* Веялачка, шуфлік. *Веёлочка кідаць жыто.* Кароцічы.

ВЕЗА′ЦЬ *незак.* Вязаць. *Везаць лес. Везаць гонкі.* Запясочча. *З отавы робілі перэвесло везаць лён.* Дварэц. *Вя́жэм снопочкі на стрэ́ху.* Хотамель.

ВОРВО′ЛЯ *ж.* Каламазь. *Пі, шчоб ты ворволі напіўса!* Запясочча. *Ворволю прыво́зілі купцэ.* Аздамічы.

ГАД *м.* Вуж. *Гад з ейца, а годзюка еедзе дзеці.* Бярэжцы. *Гады е, етые вужы.* Запясочча. *Еслі комар укусіць да пухне, кажуць, вон на гадзі седзеў.* Цераблічы.

ГА′ДЗІНА *ж.* Гадзюка. *На Вострові як вукосілі одну гадзіну — як оглобля тоўшчыны!* Запясочча. *О, гадзіна ты!* Бярэжцы.

ГА'ІЦЦА *незак.* Затрымліваццa, заседжвацца, бавіцца. *Не гайса, доўго не будзь там.* Цераблічы.

ГАЙ *м.* 1. Зараснік, драбналессе па нізкіх месцах. *У гаю крушнік, лоза, мелкое дзерево, уже тые гае звелі.* Цераблічы. *Як пройдуць дождзыкі у мае, постануць стожкі у гае* [прымаўка]. Там жа. 2. Густое пустазелле. *Доўго не полола картоплі, во дзе гай шуміць!* Мочуль.

ГАЙДА'Й *м.* Табуншчык. *Гайдай товар гоняў у Городок, наймалі.* Цераблічы. *Наймаўся і я ў гайдаé.* Сямігосцічы.

ГАЙДА'Ш *м.* Табуншчык.

ГАЙДУ'К *м.* Танец, падобны на казачок.

ГАЙТА'ЦЬ *незак.* Гойдаць, калыхаць.

ГАЛАГО'Н *м.* Балабон на шыі ў скаціны (каровы, каня) у час паствы. *Галагон плоскі, доўговаты, з бляхі.* Сямігосцічы.

ГАЛА'ЙДА *м* і *ж.* Непаседа. *От уже галайда, бежыць, як конь!* Дварэц. *Ганьба на чоловека була галайда, шчо проворны вельмі.* Цераблічы. Гарлапан.

ГАЛА'ЙКА *ж.* Балбатуха. *Тая Аўдзюшка меле, як галайка.* Пагост.

ГАЛА'КАЦЬ *незак.* Крычаць, гучна гаварыць. *Годзі галакаў, надодзéў, дай спаць.* Кароцічы.

ГА'ЛАС *м.* Вялікі шум, крык. Невялікі шчупачок.

ГАЛЁН *м.* Стужка, нашытая на спадніцу кругом. *Галёны сініе, красные, белые.* Бярэжцы.

ГАЛІНА' *ж.* 1. Вялікая прагаліна; запусцелае месца. 2. Ужываецца, калі гавораць аб адсутнасці блізкіх, родных. *Така галіна у мене, шо нема ні ў кóго!* Аздамічы.

ГА'ЛІЦА *ж.* Галка (птушка). *Галіцы — то тые чорные пташкі, шчо коміны закладаюць.* Цераблічы.

ГА'ЛНО *прысл.* Прасторна, чыста, адкрыта. *Там заедзі будзе мало, бо гално, людзі лес звелі.* Цераблічы.

ГА'ЛНЫ *прым.* Адкрыты, чысты, бязлесы. *Галнэ болото.* Бярэжцы.

ГА'ЛО' *н. Р. галá.* Гала. *Мне далі сенокóсу у гушчы, а ей у галі.* Бярэжцы. *Вубраўса на гáло і зразу посвежэло.* Аздамічы.

ГАЛЯ'ЦЬ *незак.* Гойсаць. *Бугай галяў по картоплях.* Цераблічы. *Вон* [сабака] *бы так за коровáмі і галяў!* Мачуль.

ГАМО'ЛКА *ж.* Самаробная соска з хлеба. *Нажуй хлеба і дай гамолку дзіцяці, нехай ссе.* Бярэжцы.

ГА'МОНОМ *прысл.* Гуртам, усе разам. *У мене нідзе нікого нема, то нападаюць гамоном* [дзеці на сад]. Сямігосцічы.

ГА'НІЦЦА *незак.* Абражаць адзін аднаго, ганьбіць.

ГА'НІЦЬ *незак.* Называць зняважліва, абразліва. *Его драпеня ганяць.* Цераблічы. *Ганю, ганю: о, колеко, о, неўмеко, о, дурны, а вон...* [не звяртае ўвагі]. Аздамічы.

ГА'НЬБА *ж.* 1. Мянушка, абразлівая назва. *Тая шляхта на нас мужыкі казала, бы то нам ганьба.* Мочуль. 2. Знявага, ганьба. *Што, хлопцы, вам за ганьба лапці? На болото лапці добро.* Кароцічы. У выразе: *даваць ганьбу* — ганьбіць, называць загану. *У мене і цепер стоіць твоя печ, і ганьбы не даю.* Цераблічы.

ГАНЬБОВА'ЦЬ *незак.* Пагарджаць, лічыць за ганьбу. *Раз ву намі не ганьбуеце, то добре.* Пагост. *Шо, ты з намі ганьбуеш есці?* Аздамічы.

ГА'ПА *ж.* Зяпа, рот.

ГА'ПКА *ж.* Рыбацкі човен. *Колісь стары ехоў у гапцы да ўтопіўса, вецёр велікі буў. У той гапцы седзіш, бы ў тарэлцы.* Запясочча.

ГАР *м.* Апёк, апечанае месца. *Гар ім помазаць добре, як опечэсса* [гусіным тлушчам]. Дварэц.

ГАРБУЗА' *ж.* 1. Гарбуз. *Наварыла гарбузы.* Мачуль. *Малы ек гарбуза.* Кароцічы. 2. Пра малую тоўсценькую дзяўчынку. 3. Дзіцячая гульня; той з удзельнікаў яе, які стаіць у цэнтральным крузе.

ГАРБУ'ЗІКІ *мн.* Гарбузікі, гарбузовые семечкі. *Гарбузікі усім даюць на зборынах, после тарэлку стаўляць на стол і кладуць грошы, хто сколько покладзе.* Сямігосцічы.

ГАРБУ'ЗЬЕ *н.* Гарбузнік.

ГАРБУЗЯ'НКА *ж.* Гарбузовая каша.

ГАРБУЗЯ'НЫ *прым.* Гарбузовы. *Гарбузяные зернета. Гарбузяны суп.* Дварэц.

ГАРКА'ВЫ *прым.* Картавы.

ГА'РКАЦЬ *незак.* Крычаць, гыркаць. *Да не гаркай ты бабо!* Сямігосцічы. *Дзеці, паседзець, не крычэць, не гаркайце!* Аздамічы.

ГАРКА'ЦЬ *незак.* Картавіць.

ГАРКОТНЯ' *ж.* Крык, гвалт. *Шо там за гаркотня?* Аздамічы.

ГАРНА'ТКІ *мн.* Каралі з каменьчыкаў.

ГАРНЕ'Ц *м.* Прыгажун.

ГАРТО'ЎКА *ж.* Паленая цэгла.

ГАРЦА'ЦЬ *незак.* Скакаць, падскокваць. *От, рыба гарцае, кідай скорей* [вуду]. Пагост.

ГА'РЫ *мн.* Разваліі. *На сані з гарамі екі хоч воз можно накласці.* Сямігосцічы.

ГАРЫ'КАЦЬ *незак.* Гыркаць, вурчаць (пра сабаку). *Ву сюдою ішлі, да собака гарыкаў.* Запясочча. *Гарыче собака на дворэ.* Бярэжцы.

ГА'РЭЧ *ж.* Гарката.

ГАСА'ЦЬ *незак.* Гойсаць, бегаць. *Досвета стане да гасае.* Запясочча.

ГА'СЦЕР *м.* Чорны бусел. *У гасцера пудо дном крыла беленько.* Аздамічы.

ГА'ТАЛО *м.* і *ж.* Балбатун, пустабрэх. *Ты сам такі гатало, шо ты людзям чворыш!* Мачуль.

ГВА'ЗНУЦЦА *зак.* Моцна ўдарыцца (пры падзенні). *Ходзіла, ходзіла по лаві да ек гвазнуласа!* Цераблічы.

ГВА'КАЦЬ *незак.* Грукаць, ляскаць. *До гвакаць у сцёну!* Аздамічы.

ГВА'КНУЦЦА *зак.* Грукнуцца, ляснуцца. *Махнуло его — як гвакнуўса, да ўжэ нежывы́.* Цераблічы.

ГВАКНУЦЬ *зак.* Грукнуць, ляснуць. *Прылецеў самолёт да гвак-гвак по том лесі, і ўсе згорело.* Цераблічы *От гвакнуў, аж глузды ему одбіў.* Аздамічы.

ГВАЛТ *м.* 1. Гвалт, лямант аб паратунку. *Вон хоче робіць гвалт.* Бярэжцы. *Ой, гвалт, сорома тобе нема!* 2. прысл. Вельмі, страшэнна, да роспачы. *Вона ж гвалт хоче за ёго́.* Запясочча. *Гвалт хоче хату ту разорыць.* Мачуль. *Гвалт я не могу церпець, як вон так кажэ.* Сямігосцічы.

ГВАЛТОВА'ЦЬ *незак.* Лемантаваць, крычаць аб паратунку. *Вона гвалту́е — родзіцьме.* Аздамічы.

ГВА'ЛТУ *прысл.* Вельмі, страшэнна, да роспачы. *Я гвалту хоцела дзевочку.* Бярэжцы.

ГЕ'ЎЛЯ *м.* і *ж.* Дылда.

ГІДА' *ж.* Агіда, брыдота. *Ето гіда така́ жукі* [каларадскія]. Альшаны.

ГІ'ДКІ *прым.* Агідны. *Ідзі строіцца, бо ты ж гідка́я.* Цераблічы. *Молоко са́мо гідчэйшэ, як нечысто.* Бярэжцы.

ГІ'ДКО *прысл.* Агідна. *Гідко глядзець.* Дварэц. *Гідко слухаць.* Запясочча.

ГІДОВА'ЦЦА *незак.* Адчуваць агіду. *Я гідуюса іх* [лічынак каларадскіх жукоў], *м'яккіе воны.* Запясочча. *Гідуюса жабы.* Аздамічы.

ГІДО'ТА *ж.* Агіда, брыдота. *Там* [у сале] *шэрсць да ўсе — гідота!* Бярэжцы.

ГІЛЕВА'ЦЬ *незак.* Гізаваць. *Гілюе корова, хвост уверх і побегла.* Хотамель.

ГІЛЯ'РКА *ж.* Невялікая лёгкая лодка ў плытнікаў. *Гілярка стоіць на плоту; як оторваласа колода ці шо, тэ едуць.* Запясочча.

ГІ'РА *ж.* 1. Грыўка валасоў над лобам. *Пудрэж собе гіру.* Запясочча. Чупрына. *Гіру загодовай, ек зарэ носяць молодые.* Цераблічы. 2. Разнавага, гіра.

ГІРЗА' *ж.* Гірса, аўсюк. *Гірза крэпко ра́сна, много колоской.* Цераблічы.

ГІ'РКА *ж.* Невялікая гліняная пасудзіна; збанок з адбітым верхам. *Соль у гірцы стояла.* Тураў. *Як поб'ецца гладышка, то ўжэ гірка.* Запясочча.

ГІ'РКАЦЬ *незак.* Гыркаць. *Прышой п'яны да гіркаг на ее.* Дварэц.

ГЛАДЗЕ'ЗНЫ *прым.* Вельмі сыты, укормлены, тоўсты, поўны. *Вон буў нічогенькі, а вона гладзезна.* Цераблічы.

ГЛАДЗЕ'ЛНЫ *прым.* Вельмі сыты, укормлены, тоўсты, поўны. *Гладзелны бу колода.* Цераблічы.

ГЛАДЗЬ *ж.* Вельмі поўная, укормленая. *Гладзь така его молодзіца!* Аздамічы. *Вона баба гладзь, ек бочка!* Цераблічы.

ГЛАДКІ' *прым.* Поўны, укормлены, тоўсты. *Гладка́ корова, бо есць сечку, сено з мукою — хорошу харч.* Дварэц. *Хоро́ша — ні худая і ні гладкая.* Бярэжцы.

ГЛІ'ЗОВЫ *прым.* Ацеслівы. *Глізовы хлеб, неўдатны, погнюсіла муку.* Запясочча. *Глізовы хлеб ек обрус, шчо косу менцяць.* Мачуль.

ГЛОД *м.* Глог. *Дзе Попоўске поле, мо, сад колісь буў, там дзёрон рос і глод.* Запясочча. *Дзерево того́ глоду таке колючэ!* Дварэц.

ГЛУЗД *м.* 1. Розум, здольнасць разумець. *Нема глузду доброго у твоей невесткі.* Альшаны. *Зысці з глузду — здурнець. Шчо ты з глузду зышой, шчо ты робіш?!* Сямігосцічы. *Выйсці, зваліцца з глузду* — страціць самавалоданне, здольнасць разумець. *Ні пры сваём глу́здзі* — не ў стане развважаць. *Глузды́ одбіць* — адбіць розум. *Глузды одбіў ему, от гвакнуў!* Аздамічы. 2. Смаржок. *Невестка двое дзецей згубіла тымі глузда́мі. Воны на весне ростуць.* Дварэц.

ГЛУМЕ′ЧАЦЬ *незак.* Грэбаваць. *Вы намі глумечаеце, мо?* Мачуль.

ГЛУ′ПОСЦЬ *ж.* Поўнач, сярэдзіна ночы. *У сáму глупосць, як усе заціхне, можно почуць* [саву]. Мачуль.

ГЛУ′ПЫ *прым.* Глухі. *Там глупэ поле серэд лесу.* Сямігосцічы. *Там самые глупые сёла, сама глуш.* Дварэц. *Глýпа ноч* — поўнач, сярэдзіна ночы. *У саму глупу ноч сумно, боязно.* Пагост.

ГНЕНУ′ЦЬ *зак.* Ударыць цяжкім. *Як гнену, так не ўстанеш!* Аздамічы.

ГНЕЧ *ж.* Непралазны зараснік. *Гэто ж гнеч така була, пушча, шчо не пройці не проехаць.* Сямігосцічы.

ГНЕ′ЧА *ж.* Непралазны зараснік. *Гнеча, пушча — не можно пройці.* Сямігосцічы.

ГНЫ′ПЕЛЬ *м.* Малы ростам. *Екій у ее там чоловек, от гныпель нейкій.* Тураў.

ГО′ДЗЕ, ГО′ДЗІ *прысл.* Досыць, даволі. *Годзе даваць ему.* Тураў. *Годзе ты тут ходзіла.* Запясочча. *Мелю да й годзе.* Дварэц. *Некая ўжэ загібель да й годзе.* Кароцічы. *Прыдзе посвáрыцца да й годзе.* Аздамічы. *Годзе ты ўжэ на складзі пыліўса.* Альшаны. *Дурна да й годзе.* Сямігосцічы. *Нас ждалі, ждалі да й годзі сказалі.* Цераблічы. *Годі копацца там.* Альпень.

ГОДЗІ′НА *ж.* Непагадзь *Еслі зашумела хвоя, то ожыдай годзіну* [прыкмета]. Пагост. *Раз куры церэбяцца, то рано, позно будзе годзіна* [прыкмета]. Там жа. *Ліхá годзіна* — непагадзь. *Ліха годзіна, круціць вéцёр да снег ідзе.* Запясочча. *Ні смерць, ні родзіны не гледзяць ліхое годзіны* [прымаўка]. Цераблічы. Тыдзень (?). *Дзесята годзіна ужэ* [пасля Вялікадня] *і ягоды е чорные.* Дварэц. *Чóрна годзіна* — вялікая бяда, гора. *Хай на цебе чорна годзіна, мушчыно!* Мочуль.

ГОДЗЯ′ШЧЫ *прым.* Здольны. *Я ж не годзяшча тоўстого дрэва отрэзаць.* Бярэжцы. *Хто годзяшчы, той пойдзе хлеб зарабляць.* Аздамічы.

ГОДО′ВАНЕЦ *м.* Выхаванец, прыёмны сын.

ГОДО′ВАНКА *ж.* Выхаванка, прыёмная дачка. *Годованку выгодовала да замуж оддала.* Аздамічы.

ГОДОВА′ЦЦА *незак.* Выхоўвацца, выкормлівацца, вырошчвацца. *Дзе вон годоваўса такі, хто его ведае.* Цераблічы. *Бес цыцкі годуецца.* Дварэц. *Дзіч, вуценята такіе, як свойскіе, але усе онно воно не годуецца.* Цераблічы. *Не годуюцца коты да й годзе.* Хотамель.

ГОДОВА'ЦЬ *незак.* Выхоўваць, вырошчваць, выкормліваць. *Боро́ды годуюць, косы годуюць, ногці годуюць.* Запясочча. *Што шчэ маці годовала, то вырвало* [жарт]. Аздамічы.

ГОДО'К *м.* 1. Равеснік, аднагодак. *Мой годок вон, з одного году.* Дварэц. 2. Годзік. *Малы судок, да хлеба на годок* [прымаўка пра судовыя выдаткі ў мінулым]. Цераблічы.

ГОДО'ЎЛЯ *ж.* Выхаванне, уход. *А ека була годоўля? Цепер тым дзецям годоўля, то любота!* Дварэц. *Свое годоўлі вороб'і* [жарт]. Сямігосцічы.

# ІНДЭКС


**А** 101
ababушыць 83
абабэніць 24
абабэнчыць 83
аб адной вадзе 263
аб адном хлебе 263
аб адным хлебе 263
абадня 6
абаі 157
абарог 219
абарсаць 65
абаслаць 188
абачхнуцца 101
аб вадзе 263
абвадня 6
абваліцца 24
абдзёрка 194
абдзёръшнъй 167
абдзірантус 136
аб'еддзя 194
абет 194
абечко 148
абёрдніцы 6
абжъргаць 101
абжъргнуць 101
абжынкі 98
абжыргъвъць 101
абзурыцца 24
абі 77
абізмаччыцца 242
абіньдзёжыць 83
абіранка 101
абіручны нож 250
абірычыць 83
абітыляц 136
абічоўка 101
абкладзіны 219
аблавуха 6
аблаташыць 136, 148
аблегнуць 157
аблеіць 6, 83
аблетъвъць 101
аблёт 242
аблётацца 242
аблівень 98
абложніцы 101
аблой 144
аблябёдъць 101
аблядры 250
аблямоўка 219
аб малаку 270
абмалоткі 98
абмылък 102
абмяліньня 102
абмялкі 102
абмятаць 236
абнашчыцца 201
абнікъць 102
абнодъць 102
абножка 242
абнъчъваць 102
абора 219
абрабіцца 83
абрабіць 84
абразаць 58
абрашоўка 219
аброжак 250
аброк 102
абруб 219
абрубіць 205
абрынуцца 92
абрысь 175
абрыцца 92
абстрэшка 219
аб сухім 263
аб сухом 263
абурыны 158
абух 136

абух бізь ляза 136
аб хлебе 263
абчарадзіць 188
абшарыць 148
абшыўка 219
абы 77
абыймы 131
абыль 102
абыля 102
абыцца 102
абюдзьві 102
аб'ядзеньня 194
абяёдаваць 195
абярста 219
абярцень 102
авад 16
ават 102
авуль-вуль-вуль 102
авулька 102
авулькі 58
авуць 102
авыц 102
авэк 84
авячча 102
авячча мяса 201
авячча сала 202
авячына 195
агаладаць 16
агалцелы 131
агамёлак 195
агата 219
агату 102
агатукаць 175
аглашоны 65
аглашоны[й] 102
агледзіцца 24
аглодак 195
аглядацца 24
аграфка 236
агрібаць 242
агураць 24
агуркі 195
агурыцца 24
агусак 51
агусык 51
агълавець 102
агыль 102
агыля 58, 102
адаропка 102
адбойка 103
адборнік 250
адбръдаць 103
адбръсьці 103
адбуксіць 103
адбуксуваць 103
адвеціць 136
адвод 219
адводны 188
адвячаць 136
адгнецены 158
адгрэць 103
адджгаць 103
адзержынавы 16
адзержыны 16
адзёнак 219
адзёр 219
ад каровы 263
ад кароў 264
ад коні 264
адкос 219
адкраснуцца 148
адкутаць 158
аднакі 24
аднатросны 175
адпісываць 188
адрубіцца 58, 236
адсюляка 158
адчубучыць 148
адымач 6
ажавіны 103
ажамеркі 2, 103, 144
ажамеры 195
азадзьдзя 103, 167
азгрывы 65
азілязець 103
азызнуць 131
азыраць 24
азюль 103
азюля 103
азяць 136
аказіцца 60
акалпачыць 148
акамёлък 103
акапацца 98
акінъць 103
акладзіны 219
аклады 219
акольнік 220, 250
акоп 98
акопец 220
акопкі 98
акоскі 98
акравак 236
акравень 98
акраліцца 60
акраюшка 195
акромачак 144
акрутні 104

акрэйбіць 104
аксыль 104
аксыля 104
аксюль 104
аксюля 104
акурат 24
акъліваць 104
аладак 195
алёс 158
альвас 104
алэбър 104
алярма 104
амалець 104
амложына 220
амыціна 213
анадоінь 104
ангерка 250
андарак 58
андуляцыя 136
анігадкі 148
анъдась 104
анэгдъсь 104
анямерая 65
ападонкі 195
ападъш 167
апаліны 16
апароць 24
апастыліць 131
апатнець 6
апатрэпкі 158
апахаць 92
апачына 250
апівош 24
апінатка 175
апінаць 175
апіхаць 51
аплітанік 167
аплюк 236
апоўзлы 24, 65
аппіцца 195
аппотъръць 104
апрадачак 175
апрогліца 24
апрыч 144
апрэхчыся 25
апсада 167
апсадзіць 175
апскумаціць 104
апсмыкацца 84
апструшкъць 104
апстръкаць 104
апстрыкъць 104
апсьмішлівы[й] 104
апсьмішны[й] 104
апуха 25
апушчонік 136
апушчоніца 136
апушчоны 136
апхаіць 104
апхахуліць 104
апхухтъвъцца 104
апхухтъвъць 105
апхухтъцца 104
апхухцъць 105
апцоп 105
апчарствець 105
апшастъць 105
апшасьціцца 167
апшатацца 58
апшустаць 84
апшушкъвъцца 105
апшушкъвъць 105
апшушкъцца 105
апшушкъць 105
апшчапіцца 105
апшчапіць 105
апшчъкятуръць 105
апшчэплівъцца 105
апшчэплівъць 105
апшълюваць 167
апялюха 25
аралейный 92
аральбіт 98
араць 144
арба 92
аролка 220
арцабніца 25
арцабовы 25
асадзіць 242
асашак 250
асва 136
асколък 97
асмакавацца 195
аснаваць 210
аснова 205
асот 144
астадоліцца 16
астача 205
асташ 105
асташоны[й] 105
астравец 220
астраўё 144
астроў 16
астываць 65
астыць 65
асукъваты 175
асца 25

асцяжорак 220
асъкъватъй 167
асыкацца 25, 84
асыкнуцца 25
асьміна 250
асьпіцаваць 16
асьцён 16
асэсър 167
асяніна 16
асянчына 58, 167
атаграваная малако 200
атагрэць 103
атарэшчыць 58
атваднелы[й] 105
атваднець 105, 196
атваротнік 93
атветкі 106
атвечърка 106
атвечърък 106
атвой 250
атвурыць 106
аткавяліць 25
аткархнуць 25
аткръпаць 106
атксьціць 106
аткъмячъць 106
атлеціцца 84
атліў 106
атмалі 144
атнімка 175
аторак 16
атпірацца 84
атпрасіцца 137
атпу́хлі́ць 106
атпуцъвъць 106
атпуцъць 106
атразьні 93
атраіцца 242
атрезаць 242
атродзьдзя 106
атрусіцца 63
атрусіць 63
атръзанікі 167
атрэчны[й] 106
атсікаць 242
атсыпаць 242
атсычэць 195
аттапліваная малако 200
аттатурыць 65
атхадзіць 242
атхаяць 25
атхлань 148
атхлудзіць 175
атхляшчыць 84
атчыбучыць 84
атшвабіць 25
атымалка 137
атымаха 137
атыходы 175
ахаладаць 137
ахамолък 106
ахаяць 25
ахварастацца 144
ахваціцца 144
ахлапа 220
ахлапун 220
ахляпа 220
ахмурэць 167
ахоціцца 93
ацапянець 84
ацестлівы 195
ацтацца 99
аццягнуць 248
ацягацца 84
ацямнець 137
ацяшкі 58
ачахліць 158
ачвурък 106
ачучыцца 93
ачэп 220
ашакі 195
ашвак 220
ашкір 106
ашкіра 106
ашкыра 175
ашмётык 131
ашурак 6
ашушкацца 84
ашчалачаць 204
ашчалёпы 51
ашчодны 137
ашыбнуць 188
аюсь 176
аяй 176

Бабайка 293
бабак 25
бабзно 293
бабіць 84
бабкі 220
бабушкера 293
бабушкерыца 293
баген 250
багер-машына 250
багор 213
баграк 220
багън 99
бадзюліць 93

бадзюлька 25, 167
бажаць 293
базарыць 26
байдало 6
байрак 220
байран 293
байсіць 77
бакеш 250
баклашка 65
бакула 293
балабашка 144
балабост 26
балабушка 65
балана 93
балмъччу 106
балона 188
балотніна 167
баль 220
балька 93
бальна 176
балюка 65
баляскі 220
бамбошы 236
банка 137
бант 220
бантоўка 220, 236
банька 65
бапка 195
барабан 220
барада 51, 205
бараначчкі 51
бараніца 293
барбара 250
бар'ерка 220
барляцца 195
барма 58
бару-бару-бару 58
баруські 58
барэлко 6
барэт 236
басак 250
басьці 213
бат 250
батарэя 221
батрасаванка 137
баўдыр 26
бахтаць 294
бацьвіньня 195
бежкі 148
беззаботніца 7
безугаву 294
без урэмя 264
без уціху 264
бела 106
белабуха 294
белай 294
белая мука 201
белъя дарога 106
бель 205
белька 294
беляке 7
бераг 205
беражанка 7
берасьцень 250
берда 205
берднік 294
бердо 294
берэсціць 294
беседка 294
бзумкаць 148
бзыкаваць 66
бізбацькъвіч 107, 167
бікеш 250
бікешка 58
біла 221
білашывы[й] 107
білка 26
біло 250
білы 158
бінджоногі 294
біндзікі 294
біндра 294
бірасцень 98
бірнушко 107
бірулька 7, 167
біръво 107
біткучы 294
бітуха 93
біцук 176
біць 58, 93
бічава 144
бічкавацца 158
бічоўка 59, 213
бішчанка 176
благата 26
благаць 294
блізна 176, 205
блізнюк 294
блікътаць 107
бліны 195
бліс 107
блішчавы 77
блот 107
блоціць 107
блузьніць 16, 107
блютка 107
блэндъць 167
бляуш 251

бляшанка 137
богазно 295
богук 295
богъўка 107
божкаць 83
бойло 294
бойны 158
боклаты 295
болванець 295
болдаўка 144
болозь 295
болон 158
болхва 82
бом 251, 295
боміць 251
бомка 295
бон 213
бонда 107, 145
бондарык 188
бонт 295
боровік 295
боровы 295
борушно 296
боўдур 221
боўкацца 296
боўнацца 296
боўтка 145
боўцюк 296
бочалочка 296
браварка 251
брадзень 98
бражджэль 145
бразконець 296
брамка 137
бранка 296
бранок 296
браскушкі 176
братава 148
братаніч 26, 296
братанка 296
браць 99
бродзьком 296
бродні 236
брозкі 296
броіць 7
броківа 296
брусленіна 296
брусленіца 296
брусьнець 107
брусянка 145
брухач 296
брухлей 296
бручка 296
бручкоўнік 176
брушка 148
брушкавеньё 148
бръзгаволіць 93
брътаць 107
брыгаць 93
брыгва 93
брыдзіць 158
брыдно 296
брыж 16
брыжкі 296
брыжковаць 297
брыжы 251
брызголь 16
брызгуль 251
брызы 137
брык 221
брылік 251
брыль 51, 66, 236
брында 7, 149
брэнгаць 84
брэткі 176
брэты 251
брэчкі 251
бубнач 7
бубны 145
бувалец 297
бугравасты 205
буда 251
буза 107, 158
бузовацъ 297
бузя́ны́[й] 107
буквіца 297
букса 158
булабушка 65
булдаўка 176
булечка 297
булён 196
булка 196
бульба 196, 297
бульба с сольлю 196
бульба ў мундзірах 196
бульба юшкаю 158
бульбіная каша 199
бунаваць 26
бундор 221
буноваць 77
буракі 196
бурвалък 167
бурка 59, 251
бурмаке 7
бурнос 251
буртуль 107
бутальковы 7
бутка 7, 213

